

# ПРЫСВЯЧЭННЕ

1 Боб Саўці! Вершатворац-лаўрэат,
Які зрабіўся нечакана торы!
Дзе зараз ты, эпічны рэнегат?
Усё яшчэ з лэйкістамі — у хоры,
Што не шкадуе трэляў і рулад
Для ўласнай славы і ўжо год каторы
Спявае, як «два тузіны драздоў,
Схаваных у смачнейшым з пірагоў,

2 Што каралю і рэгенту падносяць
На самым лепшым і шыкоўным з блюд»,
Бо і манархі асалоды просяць?
О песенька старэнькая, ты — цуд!
Як сокал, з імі Колрыдж, смелы досыць,
Сарваць не здолеў каўпаковых пут.
Тлумачыў метафізікі значэнне
Ён, ды загадкай стала тлумачэнне.

3 Ты, Боб, сабе сказаў: «Я не магу
Усіх перагарланіць і застацца
Адзіным спеваком у пірагу —
І ўвысь спрабуеш найвышэй падняцца.
Дазволь цябе расчараваць крыху.
Табе не варта так ужо старацца:
Лятучай рыбай ты ўзляціш, але ж
Усё адно на палубу ўпадзеш.

4 Хоць Вордсварт выдае свой «Мацыён» —
Старонак гэтак на пяцьсот in-quarto —
За новы паэтычны эталон,
Яго чытаць і мудрацам не варта,
Каб не здурнець. Як вежу — Вавілон,
Паэт свой опус будаваў упарта.
Лягчэй узвесці высачэзны гмах,
Чым сэнс убачыць у яго радках.

5 Вы ў Кесвіку, панове, гурт стварылі,
Адметны ад саюзаў і гурткоў
Прыстойных тым, што вы заўжды лічылі
Сябе такой супольнасцю мазгоў,
Чые паэты болей заслужылі,
Чым іншыя, і прэмій, і вянкоў.
Вам кругагляд пашырыць пажадана
Ад возера свайго да акіяна.

6 За ваша золата і вашу славу
Да гэткіх мэт ■ не скачуся ўніз —
І ад жыцця, каб перайначыць яву,
Павек не стану дамагацца віз.
Ты ж, Боб, на лаўрах спачывай па праву,
Наведвай, Вордсварт, спраўна свой акцыз.
Хоць і ўзышлі на ўзгорак бессмяротны,
Вы ўсе — народ бяскрылы і гаротны.

7 Схавалі бессаромнасць вашых лбоў
І, можа, рэшткі вашага сумлення
Вянкі, чыёй лістоты і пладоў
Я не хачу, бо варты, без сумнення,
Вянкоў і іншыя з прадстаўнікоў
Майго і больш старога пакалення.
Скот, Роджэрс, Кэмпбэл, Мур і Краб у вас
Іх адбяруць праз некаторы час.

8 Не можа муза пешая мая
Спрачацца з вашым рысаком крылатым,
І без падвоху, шчыра зычу я:
Няхай з вас кожны стане лаўрэатам,
Але не сыкае, нібы змяя,
І лічыць барда кожнага сабратам.
Хто на сучаснікаў занадта злы,
Ў нашчадкаў не заслужыць пахвалы.

9 Хто ўзважвае наперад ураджай
І славу ўласную занадта рана
Сваім нашчадкам завяшчае, хай
Не вельмі ганарыцца, бо тытана
Не змогуць толькі праглынуць, бадай,
Стагоддзі, быццам хвалі акіяна.
Усіх астатніх праглынуць гады,
І толькі неба ведае — куды.

10 Як Мільтана знішчалі языкі!
А ён прасіў, каб Час — вялікі мсцівец —
Адпомсціў ворагам, і Час, які
Не зносіць слоў *злачынец, хлус* і *хцівец*,
Раструшчыў выскачак — і на вякі
Праславіўся зняслаўлены руплівец
За тое, што зламыснікам не быў
І ўсё жыццё тыранаў не любіў.

11 Каб старца-слепака, як Самуіла,
Ссівелага і хворага, дамоў
Халодная магіла адпусціла
Прароцтвамі псаваць тыранам кроў,—
Дачок, што касавурацца няміла
Вачамі злоснымі, сустрэўшы зноў,
Прад Каслры і прад дэспатам-султанам
Не ўкленчыў бы ён блазнюком спужаным.

12 О Каслры! Разумовы хлус-кастрат!
Збарвяніўшы ў крыві ірландскай рукі
І ў рэшце рэшт вярнуўшыся назад,
Ён Англіі прынёс такія ж мукі,
Бо катаваць людзей надзвычай рад
І робіць гэту справу без прынукі,
Хаця атруту, як і ланцугі,
Такім, як ён, рыхтуе хтось другі.

13 Язык ягоны — жорны Іксіона.
Няўклюдным, неачэсаным, цяжкім —
Ён меле ім бязладна, хоць натхнёна,
На смех і радасць ворагам сваім
І нам на сорам, бо з яго жарона
Злятаць не хочуць іскаркі зусім.
Яго бясконцыя пустыя гукі —
Нібыта ўвасабленне вечнай мукі.

14 Злы пэцкаль, ён цыруе лахманы,
Але заўсёды пакідае дзіры,
Каб трэсліся яго апекуны,
Ідзе на змовы, подлы і няшчыры,
Каб закаваць народы ў кайданы,
Скуць мары аб свабодзе і аб міры.
Яго не любяць людзі і багі,
Бо ён старыя правіць ланцугі.

15 Які наш дух — такое наша цела!
Нямоглы мозгам і душою раб,
Як той Еўтропій,— хоча, зразумела,
І іншых ён пазбавіць волі, каб
Іх рабаваць. І робіць гэта смела,
Як бессардэчны і тупы сатрап.
На смеласць гэтую глядзець пагана,
Яна не вартасць, а яго загана.

16 Ці не ўцячы мне са сваёй зямлі
У Італію, бо сэрца волі просіць?
Ды рымскі дух матляецца ў пятлі —
І гэтая пятля ва мне галосіць,
Як раны Эрына. Хто і калі
Мог абыякава такое зносіць?
Шмат у Еўропе дэспатаў, аднак
І Саўці ёсць — прыватны іх спявак.

17 О Саўці! Вершатворац увянчаны!
Табе я гэтую паэму шлю.
Прабач, што ў творы мала слоў пашаны.
Блакітна-жоўты колер я люблю —
І мне не даспадобы юліяны.
Я подласці ніколі не ўхвалю
І верны буду вігам і свабодзе,
Хаця і рэнегацтва сёння ў модзе.



## ПЕСНЯ ПЕРШАЯ

1 Дзе мне знайсці героя? Клопат гэты
Даволі дзіўны, бо штодзень амаль
З героямі знаёмяць нас газеты,
Ды слава іх падманная, на жаль.
Мной будзе юны Дон-Жуан апеты,
Бо гэта лепей, чым чытаць мараль.
Сказаць па праўдзе, чэрці ў пекла рана
Ў тэатры зацягнулі Дон-Жуана.

2 Вольф, Гаук, Камберленд-мяснік, Вернон,
Прынц Фердынанд і іншыя героі
Прымусілі, як зараз — Велінгтон,
Людзей адзецца ў радасныя строі,
Ды прывідамі тых, што зоймуць трон
Свінні забітай, зніклі тыя вoi.
І Францыя свой праявіла гарт:
Ёсць Дзюмур'е ў яе і Банапарт.

3 Ёсць Мірабо, Барнаў і Кандарсе,
Ёсць Пецiён з Брысо і Лафайетам,
Дантон, Марат. Яны быць варты ўсе
Апетымі хаця б адным паэтам,
Як і Жубер, Марсо, Маро, Дэзе
І з Ланам Гош, але займацца гэтым
Не буду я, бо да імён ваяк
Дакладных рыфм не падбяру ніяк.

4 У Англіі быў Нельсан — бог вайны,
Але яго спасцігла часу кара.
Ніколі не падымуцца з труны
Ні сам герой, ні слава Трафальгара,
Бо войскі сухапутныя адны
Ўсю славу ў бітвах пажынаюць зараз.
Кароль і рэгент любяць іх. Дункан
І Джэрвіс адышлі на задні план.

5 Шмат і да Агамемнана герояў
На гэтым свеце і пасля жыло,
Ды іх не ведаюць, бо не ўдастоіў
Увагай іх паэт, чыё сціло
Ўсіх робіць вечнымі. А я прымроіў
І вырашыў, каб цікавей было,
Зрабіць героем гэтага рамана
Свайго былога сябра Дон-Жуана.

6 Каб выклікаць чытацкі інтарэс,
Як многія паэты, эпапеі
Распачынаў Гарацый з medias res,
А згадваў папярэднія падзеі
Герой, калі цяністых дрэў навес
Быў дахам для яго і мілай феі
Або калі прыводзіў іх Эрот,
Бы ў рэстаран, у экзатычны грот.

7 А я люблю ўсё пачынаць спачатку
(Мой метад, на няшчасце, не такі)
І пра свайго героя па парадку
Ўсё раскажу — і хто яго бацькі,
І што яны далі свайму нашчадку,
Хаця знайсці патрэбныя радкі
Мне часам не ўдаецца з першай спробы.
Хай метад мой вам будзе даспадобы.

8 З Севільі Дон-Жуан. Там апельсіны
І мандарыны лепшыя на смак
І самыя прыгожыя жанчыны.
Хто ў гэтым горадзе не быў — жабрак.
Апроч яго і Кадыса, мясціны
Няма ў Іспаніі, што вабіць так.
Бацькі Жуана над Гвадалквівірам
У ім жылі — спачатку нават з мірам.

9 Жуана бацька меў імя Хасэ.
Ідальга, дон — крывёй сваёй дваранскай
Ён ганарыўся, як і продкі ўсе.
Без прымесі яўрэйска-маўрытанскай
Яна была. Ва ўсёй сваёй красе
Ў сядле сядзеў ён з выпраўкай іспанскай.
Хасэ Жуана нарадзіў, а той...
Ды пра яго ж увесь аповед мой.

10 Сур'ёзнай надта і адукаванай
Была Жуана маці і ва ўсіх
Навуках лепш за іншых падкаванай.
Пераўзыходзіла Інеса іх
Душой, нябёсамі падараванай,
І глыбінёю вывадаў сваіх.
І многія павагі не хавалі,
Калі на эрудытку пазіралі.

11 Была ў Інесы памяць, ёй на гора,
Невычарпальная, нібы руднік.
На памяць Лопэ ведала сеньёра
І Кальдэрона і магла б уміг
Стаць сшыткам тэатральнага суфлёра.
Фінэгл пры ёй бы прыкусіў язык,
Бо з мнеманічнай лекцыяй сваёю
Ён быў бы проста высмеяны ёю.

12 Велікадушная, яна слыла
Аматаркай задач матэматычных,
Выказвалася цьмяна, хоць была
Увасабленнем прынцыпаў атычных
І восьмым цудам свету стаць магла.
Яна не прызнавала мод прывычных:
Муслін насіла летам, каніфас —
Ад раніцы, шоўк — у вячэрні час.

13 Латынь прыстойна ведала яна
(Ўвесь «Pater noster»), назвы літар грэцкіх,
Чытала на французскай мове, сна
Не ведаючы, шмат раманаў свецкіх.
Была затое сутнасць не відна
Ў яе іспанскіх сказах непрасцецкіх.
Любое з вымаўленых ёю слоў
Загадкаю было для слухачоў.

14 Майго героя маці з году ў год
Сцвярджала: English і Hebrew — блізняты.
І каб сцвярджэнню даць належны ход,
З кніг Бібліі прыводзіла цытаты.
Так гэта ці не так — хай паліглот
Дасць заключэнне больш, чым я, заўзяты.
Яна ж казала: «Дзіўна, ды Эдэм
Гучыць, нібы англійскае God damn».

15 Яна не злоўжывала балбатнёю
І лектараў бянтэжыла, калі
Знаходзіўся адказ праблемны ёю
Ў сабе, як Сэмуэлам Рамілі,
Што сам сябе забіў, бо мітуснёю
Лічыў жыццё ўсіх існых на зямлі,
Хоць суд не пагадзіўся з адвакатам
І самагубца аб'явіў вар'ятам.

16 Хадзячай арыфметыкай, жывым
Раманам міс Эджворт без пераплёту,
Пасланнем містрыс Трымер маладым
І жонкай Цэлеба, што ні на ёту,
Хоць здрадзіць мужу прагла не з адным,
Не зганьбавала гонар свой і цноту,
Была яна, ды гэта ўсё было
Не меншае, чым здрада іншых, зло.

17 Святцей сваіх сучаснікаў свяшчэнных
Была яна, вышэй усіх спакус,
Дакладней ад гадзіннікаў кішэнных
Работы Гарысона — і хаўрус
З ёй разарваў анёл, што ад страшэнных
Падзей ахоўвае і ад абуз.
Як макасарскае густое масла,
Інесы ўсмешка і ўначы не гасла.

18 Спрадвеку дасканаласць не любілі
Там, дзе за пацалунак (без прычын!)
Ад раю нашых продкаў адлучылі.
(І што каля дванаццаці гадзін
Яны, цікава, да *таго* рабілі?)
І дон Хасэ, як Евы кроўны сын
(Хай гэта застанецца ўсё між намі),
Мог ласавацца іншымі пладамі.

19 Ён не любіў навук, як і вучоных,
Быў самы бесклапотнейшы з гуляк,
Што ходзяць, не зважаючы на жонак,
Дзе ўздумаецца. Свет, які ніяк
Жыць не пачне па праведных законах
І пяўся разлучыць іх усяляк,
Альфонсу прыпісаў дзвюх палюбоўніц,
Што жонку можа злосцю перапоўніць.

20 Пры незвычайнай вытрымцы сваёй
Інеса ўсё ж, пачуўшы пра здарэнне,
Быць не змагла цярплівукаю святой,
Адчула крыўду, злосць і абурэнне,
І ў рэшце рэшт здавацца стала ёй
Рэальнасцю любое падазрэнне.
Калі Хасэ ўсё ўтойвае, чаму ж
Не даказаць, што ён няверны муж?

21 Інеса хутка ведала дакладна,
Што муж пачаў ёй здраджваць часцяком,
Бо ён грашыў заўсёды неаглядна.
А мужа, што ўявіў халасцяком
Сябе, каб здраджваць стала непанадна,
Трымае жонка пад чаравіком.
А не ўтрымае — страціць раўнавагу
Іператворыць чаравік у шпагу.

22 Шкада, калі заручаны каханнем
З жанчынаю вучонай цемрашал,
Што ў час размоў разумных пазяханнем
Прысутных забівае напавал.
Мужы жанчын вучоных! Я з пытаннем,
Хаця і не сям'я — мой ідэал,
Звяртаюся да вас: не ўсе вы часам
Знаходзіцеся ў жонак пад абцасам?

23 Хасэ сварыўся з жонкаю нярэдка.
Чаму? Пра гэта ведаць не магла
І надта ўжо цікаўная суседка,
А сам лічу я праяўленнем зла,
Калі займаецца пляткарствам сведка.
Прырода іншы талент мне дала.
Не плётак усялякіх я збіральнік —
Неўладкаваных спраў уладкавальнік.

24 Калі ж я ў іхнюю ўмяшаўся сварку
І памірыць спрачальнікаў хацеў,
То зразумеў, што не ўтрымаю марку.
Здавалася, з іх кожны звар'яцеў.
Прымусілі швейцара і кухарку
Яны ілгаць — і дом іх апусцеў
Адразу для мяне. Памыі з чана
Мне лінуў хтосьці ў твар з акна Жуана.

25 Малое, з кудзерамі дзіцяня
(І здатнае адно прыносіць — шкоду)
Было ад нараджэння чарцяня:
Змятаў Жуан любую перашкоду!
Бацькі ж замест таго, каб рамяня
Усыпаць неслуху свайму ці ў школу
У рэшце рэшт сыночка ўладкаваць,
Працягвалі ўдваіх яго псаваць.

26 З цяжкою цягамотнаю сумотай
Яны вялі жыццё ў апошні час,
Сабе жадалі аўдавець употай,
Развесціся збіраліся не раз
І ўсё адно ўзаемнай пашанотай,
Сваёй тактоўнасцю здзіўлялі нас.
Але агонь, не бачны анікому,
Усё-ткі вырваўся нарэшце з дому.

27 Сцвярджаючы, што муж яе вар'ят,
Інеса эскулапаў запрасіла,
Ды ў мужа прасвятленне акурат
Было ў той час, таму і абвясціла
Жуана маці, што Хасэ не свят,
А доказаў, на жаль, не прад'явіла,
Сказаўшы невыразна, што памог
У гэтым ёй пераканацца Бог.

28 Пасля запіскі, пісьмы са стала
Інеса выцягнула мужу ў піку
І дзённік той, які яна вяла;
Севільцаў прыцягнула — у тым ліку
Людзей, што ўсім жадалі толькі зла,
Сваю бабулю — драхлую заіку.
Падтрымліваў сутадны гэты хор
Хто як суддзя, а хто — як пракурор.

29 Найлепшая жанчына, як усе
Сцвярджалі, успрымала злыя жарты
І кпіны, што звяргалі на Хасэ,
Як смерць сваіх мужоў — жанчыны Спарты.
Яна паспакайнела пакрысе,
І быў яе спакой павагі варты.
Лічылі ўсе: яна велікадушная!
І думалі, што думка гэта слушная.

30 Знаёмых філасофскае маўчанне,
Калі вам цяжка, як змяіны ўкус.
І ўсё-ткі можна зразумець жаданне
На іншых перакласці помсты груз
І каб ніхто вам не задаў пытанне:
«Мо гэта ўсё ж ваш malus animus?»
Аднак чым вашы дзеянні благія,
Калі за вас адплачваюць другія?

31 Калі вакол вас буру плётак злых
Паднімуць вашы ўчынкі, то, вядома,
У гэтым нельга вінаваціць тых,
Што іх разносяць. Гэта — аксіёма.
Хто пераверне хлам грахоў былых,
Магчыма, жыць захоча больш свядома.
Не забывайце, што любою плёткаю
Усцешаны юрысты, як знаходкаю.

32 Сябры і родныя рабілі спробы
Не раз Хасэ з Інесай памірыць,
Ды толькі заганялі ўглыб хваробы.
Наогул, ці магчыма навучыць,
Калі як жонка, так і муж — асобы,
Іх, як на гэтым свеце трэба жыць?
Калі суддзя ўжо хабар атрымае
За іх развод, гаротнік муж сканае.

33 Памрэ, дабіты звадамі Інесы.
Заўчасны быў ягоны адыход,
Бо ўсе шлюбаразводныя працэсы
Пераўзысці мог шумам іх развод.
Служыцелі юстыцыі і прэсы
Пра гэта гаварылі цэлы год,
Хоць людзі і сцвярджалі над труною,
Што даражыў дон жонкаю адною.

34 Сканаў Хасэ — і разам з ім спачылі
Юрыстаў хабар, шэпты злых людзей.
Ягоных палюбоўніц прыручылі:
Адну — манах, другую — іудзей.
Дом прадалі, а дворню разлічылі.
Ад нейкай ліхаманкі, карацей,
Памёр Хасэ — і жонку без сумнення
Аддаў на суд уласнага сумлення.

35 «І ўсё-ткі варты дон Хасэ пашаны»,—
Я гавару, бо добра знаў яго,
І не згадаю пра яго заганы:
Шмат сказана пра гэта без таго.
Ён выхаваннем быў падрыхтаваны
Злаславасцю характару свайго
Пераўзысці Пампіліуса Нуму,
Стаць грэшнікам і нарабіць шмат шуму.

36 Якія б вартасці і недахопы
Ні меў Хасэ — ён згінуў ад пакут,
Калі рабілі пад яго падкопы,
Змушаючы пакінуць родны кут
Сябры Інесы і яе халопы.
Ён зведаў шмат нярадасных мінут
І вырашыў, што лепей адыходам
Здзівіць усіх, чым ганьбай і разводам.

37 Ён знік без завяшчання. Перайшлі
Ва ўласнасць да Жуана ўвесь нажытак,
Усе дамы і землі, што маглі
Прынесці больш умеламу прыбытак.
Законы мацеры дазвол далі
Быць апякункай сына, што адбітак
Благі наклала на душу хлапца —
Нудоту адчуваў ён без канца.

38 Быў дон Хасэ з Кастыліі, а жонка
(Дакладней — разумнейшая з удоў)
Была па радаводу арагонка.
Яна хацела, каб Жуан гатоў
Быў да вайны і разбіраўся тонка
Ў ваенных справах з маладых гадоў.
Іх родзічы стралялі, фехтавалі
І крэпасць, і жаночы кляштар бралі!

39 Каб сынам быў здаволены кароль,
Яна яго выхоўвала духоўным
І паслухмяным, лічачы кантроль
Педагагічным метадам галоўным.
Ты толькі сыну паспытаць дазволь
Смак волі за штыкетнікам ахоўным —
І ён вучыць не будзе астраномію,
А стане зазіраць у анатомію.

40 Ён вывучаў больш нежывыя мовы,
Найбольш абстрактныя з навук усіх,
Мастацтвы штучныя, чые асновы
Грунтуюцца не на страсцях людскіх.
А ўсё, чые два-тры-чатыры словы,
Прафесарам прамоўленыя ўслых,
Маглі сказаць фантазіі ягонай,
Скуль род людскі, было пад забаронай.

41 Класічны накірунак выхавання
Прынёс шмат клопатаў, калі дайшоў
Настаўнік вопытны да выкладання
Прыгод багінь распусных і багоў.
Са скуры лез ён дзеля апраўдання
Усіх учынкаў іхніх і грахоў,
Але не змог прадухіліць нападу
На «Энеіду» і на «Іліяду».

42 Надзіва грэшныя пісалі творы
Ў свой час Авідзій і Анакрэон.
Пралюбадзейства і распусты ўзоры —
Катул, Сафо (хаця апошняй Лон-
гін оды псў) і геній той, каторы
Стварыў «Formosum Pastor Corydon».
На жаль, пачварней гэтая эклога
Ў Вергілія за іншыя намнога.

43 Лукрэцыя бязбожнасць уяўляла
Для страўнікаў найгоршую з атрут.
Я не магу хваліць і Ювенала:
Яго вульгарнасць вартая асуд.
Ці можа эпіграмы Марцыяла
Хтось палюбіць за грубасць іх і бруд,
Тым болей — чалавек высакародны?
Уплыў іх на людскія душы шкодны.

44 Вучыў Жуан іх па выданнях школьных,
Што цэнзарамі пільнымі былі
Пазбаўлены мясцін сваіх фрывольных,
Дзе ў тлумачэннях месца адвялі
Для вынятак, разбэсціць вучня здольных,
Бо цэнзары, напэўна, не маглі
Сказіць нахабна сціплага паэта
І згладзілі крыху злачынства гэта.

45 Лічу, пашанцавала тым мясцінам,
Бо, размясціўшы выняткі ў канцы,
Ад пошуку тых месцаў гэткім чынам
Падлеткаў вызвалілі выдаўцы,
Ды зробяць гэта прыкрым успамінам
Праз нейкі час духоўныя айцы —
З выстаў, як мармуровыя амуры,
Ізноў на месцы вернуцца купюры.

46 Былі ў маленькім трэбніку Інесы
Блюзнерскія малюнкі — і калі
Яна ў яго заглядвала ў час месы,
То часта пазірала на палі,
Дзе ўсе апосталы, бы геркулесы,
Намаляваны голымі былі.
Інеса гэты трэбнік шанавала,
Ды ад вачэй Жуанавых хавала.

47 Ён пропаведзі вывучаў, вядома,
Каб добра ведаць жыцці ўсіх святых,
Чытаў Іераніма, Хрызастома,
Ды не запоем — і пры чытцы іх
Не ведаў нават, што такое стома.
Найлепшы з прапаведнікаў усіх —
Блажэнны Аўгусцін. Яго грахамі
Употай захапляемся мы самі.

48 Была яго «Спакуса» ад Жуана
Інесаю (о бедны Аўгусцін!)
Пад дзесяццю пячаткамі схавана.
Як і пры мужу, бабак і жанчын,
Якіх зрабіла пудзілам загана
І кім не можа спакусіцца сын,
Хітруха пакаёўкамі наймала.
І ў гэтым ёсць карыснага нямала!

49 Сярод набожнасці і ўвагі рос
Жуан маленькі непрыкметна гэтак:
У шэсць — ягнятка з воўнаю валос,
А ў адзінаццаць — прыгажун падлетак.
Здавалася, што з кожным годам лёс
Жуана набліжаў да райскіх кветак.
Ён то вучыўся, то наведваў храм,
То аддаваў сябе духоўнікам.

50 У шэсць ён, значыць, выглядаў ягняткам,
А ў адзінаццаць — мілым хлапчуком,
Хоць мог, незадаволены парадкам
Ці іншым нечым, грукнуць кулаком,
Ды дзякуючы маці і заняткам,
Нарэшце, стаў спакойным юнаком,
Хоць болей за вучоных безвалосых
Засвоіў ісцін малады філосаф.

51 Так думала Інеса, хоць дачасна
Прадугадаць нялёгка ход падзей.
Я ж ведаў, як Хасэ ўлюбляўся страсна,
І ўжо нядрэнна разумеў людзей —
І мне было, як і цяпер, няясна:
Жуан — святоша ці пралюбадзей?
Здагадкі публікацыі не варты,
Тым болей — злыя, з'едлівыя жарты.

52 І я маўчу, маўчу належным чынам!
Зазначу толькі, каб я бацькам стаў
І абзавёўся не дачкой, а сынам,
Яго б ні ў якім разе не аддаў
На выхаванне праведным жанчынам
(Такім вось, як Інеса), а паслаў
Яго б у школу я абавязкова:
Там вучаць больш грунтоўна і талкова!

53 Я помню шмат гамераўскіх цытат
(Прызнацца, з кожнай — усяго па слову),
Нягледзячы, што шмат гадоў назад
Вучыў у школе грэчаскую мову,
Але, як мне здаецца, verbum sat.
Пара зрабіць наступную выснову:
Упэўнены, хоць сам я халасцяк,
Выхоўваць трэба хлопчыкаў не так!

54 І вось былы падлетак малады
Ужо юнак шаснаццацігадовы.
Высокі, гожы, хоць крыху худы,
Як паж, рухавы,— хітрыкі і змовы
Жуан рашуча адвяргаў тады.
Кідала позірк добры і суровы
Інеса на любога, хто казаў,
Што сын яе нарэшце мужам стаў.

55 Інеса сябравала з доннай Джуляй.
Святую, чыстую — яе назваць
Было недастаткова прыгажуняй.
Краса прывыкла з ёй суіснаваць,
Як з кветкай — пах, салёны вал — са шхунай,
З Венерай — пояс. Хочацца дадаць:
Без чар яна — як Купідон без лука.
Любіць такую — цяжкая навука.

56 Прыгожай донны вочы адлівалі
Усходняй чарнатой і маўрытанскае
Паходжанне красуні выдавалі,
Хоць іншае было ў яе іспанскае.
Калі гранадцы з Баабдзілам палі,
На цёплае ўзбярэжжа афрыканскае
Прабабка Джуліна не падалася,
А назаўжды іспанкай засталася.

57 Яе адзін ідальга палюбіў
І абвянчаўся з ёю. Гэткім чынам
Кроў маўрытанскую ён прышчапіў
Да роду, што забараняў мужчынам
Бязродных браць і сам сябе губіў,
Бо перавагу аддаваў кузінам,
Пляменніцам і цёткам, што на звод
Пусціць магло высакародны род.

58 Той шлюб няроўны кволую пароду
Умацаваў і разняволіў, хоць
Прынёс крыві высакароднай шкоду.
Род сапсаваны пасвяжэў стокроць
І, кажуць, паляпшаўся год ад году.
Не навучылася ўтаймоўваць плоць
Прабабка Джулі ў клопатах штодзённых
І шмат дзяцей прыдбала незаконных.

59 Парода з пакалення ў пакаленне
Ўсё паляпшалася — і вось яна
Знайшла найлепшых рыс увасабленне
Ў адзіным сыне, а ў яго адна
Дачка была — усім на захапленне!
Я ля яе хмялеў, як ад віна.
Але замужняя, з душой чуллівай —
І ў дваццаць тры яна была цнатлівай.

60 Красуня ўтойвала агонь спакусны
Вялізных чорных маладых вачэй,
Пакуль свае спякотлівыя вусны
Не раскрывала — і тады хутчэй
Любоў, чым гнеў на нечы ўчынак гнусны,
З іх вырывалася. Было лягчэй
У іх заўважыць страсць, але ніколі
Красуня страсці не давала волі.

61 Яе бліскучым валасам заколкі
Не заміналі абрамляць чало —
Разумнае і светлае. Пяколкі
Ружовых шчок струменілі цяпло
З-пад броваў, што нагадвалі вясёлкі,—
І ўсё аблічча радасцю цвіло.
Апроч таго, красуня чарнавокая
Была (што даспадобы мне!) высокая.

62 За пяцьдзесят было ўжо старычыне,
Які асмеліўся прапанаваць
Руку і сэрца маладой жанчыне.
Яго параіў бы я прамяняць
(Іначай нельга ў сонечнай краіне!)
На двух мужоў, якім па дваццаць пяць.
Жанчынам хочацца знайсці партнёра,
Якому трыццаць споўніцца не скора.

63 Хоць гэта сумна (трэба ўсё ж прызнацца!),
Судзіць я не збіраюся жанчын.
На поўдні немагчыма не ўзбуджацца —
І плоць, не вінаватая ні ў чым,
Бездапаможнай можа аказацца.
Спякота — вось галоўная з прычын,
Што як малітвамі, так і пастамі
Не можам плоць утаймаваць мы самі.

64 Як і Антонію, дапамагае
Не спакусіцца і не ўпасці ў грэх,
Што душы збэшчвае і разлагае,
Народам Поўначы халодны снег.
Там суд прысяжных штрафу падвяргае
Таго, хто прагне плоцевых уцех.
Там за жанчыну згвалчаную франту
Даводзіцца плаціць па прэйскуранту.

65 Альфонса (мужа Джулі звалі так),
З якім красуня, скажам, пражывала,
Быў для гадоў сваіх яшчэ мацак.
Яна яго не надта шанавала,
Для рэўнасці ж падстаў яшчэ, аднак,
Свайму старому мужу не давала,
А ён яе ўсё роўна раўнаваў,
Хоць рэўнасці сваёй не выдаваў.

66 Яна была сяброўкаю Інесы,
Хаця не напісала ні радка.
Супалі, думаю, іх інтарэсы
У тым, што, паводле злога языка,
З якога пачынаюцца эксцэсы,
Інеса ведала халасцяка,
Што ў рэшце рэшт зрабіўся мужам Джулі.
Іх словы страсныя суседзі чулі.

67 Працягваўся і потым іх інтым.
Але — яшчэ не з'ехаўшая з глузду —
Інеса Джулю палюбіла, чым
Прыкрыла хітра ўласную распусту,
Якая стала стрыманай між тым,
І што Альфонса выбар ёй па густу
Пераканаўча паказала нам,
Хоць рот і не заткнула плеткарам.

68 Не знаю, ці раскрыў хто вочы Джулі,
Ці здагадалася аб тым сама,
Ды рэўнасцю бяздумнай не дыхнулі
Ні разу вусны Джулі — і дарма
Старую песню плеткары цягнулі.
А можа, да ганебнага ярма
Красуня абыякаваю стала?
Яна аб тым нікому не сказала.

69 Яна любіла (хочацца прызнацца)
Гуляць з Жуанам, мілым хлапчуком.
Было б ёй дваццаць, а яму — трынаццаць,
Я, пэўна, гэта б не лічыў грахом.
Калі ж ёй дваццаць тры, яму — шаснаццаць,
Як не ўсміхнуцца з гэтага тайком?
Дзе сонца поўдня долы сагравае,
Плоць, як і плод, імгненна выспявае.

70 Іх зносіны змяніліся з гадамі.
Жуан пачаў бянтэжыцца пры ёй,
А ласкі Джулі стрыманымі сталі,
Хаця яны і з большай цеплынёй
Употай друг на друга пазіралі.
Бяздонны акіян душой сваёй
Было спасцігнуць цяжка для Жуана,
Бо ён яшчэ не бачыў акіяна.

71 Халоднасць Джулі ўсё ж была пяшчотнай.
З якою лёгкасцю з ягоных рук
Красуні ручка птушкай бесклапотнай
Выпырхвала, каб стаць прычынай мук
Душы ягонай — трапяткой і цнотнай!
Напэўна, толькі Купідона лук
Усё рабіць умее так прыгожа.
Жазло Арміды так рабіць не можа.

72 Красуня пахмурнела пры сустрэчы,
Хоць вочы выпраменьвалі цяпло,
І адхіляла ад Жуана плечы.
Прызнацца сэрца донны не магло
Яшчэ ў сваіх пачуццях, што, дарэчы,
Для юнака тым даражэй было.
Каханне хітрасці навучыць скора:
Яно само, па сутнасці, прытвора.

73 Ды страсць, як вочы б ні глядзелі хмура,
У змроку невядомасці гарыць.
Такая чалавечая натура —
І нам яе ўжо не перастварыць.
Бывае болей жудасная бура,
Калі захочуць хмары неба скрыць.
Халоднасць, спрэчкі, кпіны і няласка —
Усе яны спрадвечнай страсці маска.

74 Уздых ці позірк больш праўдзівы той,
Які мы сілай волі пабаролі.
Пачуй уздых самотны за сабой,
Зірні на твар, што ўспыхнуў мімаволі.
Яны — прадвесце страсці маладой,
Бязмежнай асалоды і патолі.
Каб гэтым авалодаў навічок,
Патрэбен выпадак або штуршок.

75 О Джуля! О пакутніца-нябога,
Якую хочацца пашкадаваць!
Адчуўшы, што разгневаць можа Бога,
Каб гонар мужа, веру ўратаваць,
Яна (што і Тарквінія самога
Прымусіла б, напэўна, спасаваць)
У прасвятой Марыі папрасіла,
Каб ад спакус яе абараніла.

76 А ноч прайшла — зноў да Інесы ў госці
Прыехала сяброўка раніцой.
Вось дзверы ціха адчыняе хтосьці.
Не ён. О дзякуй Дзеве Прасвятой.
Пасля — яшчэ. І, па Яе мілосці,
Не ён ізноў. Відаць, у вечар той
Ужо, як напярэдадні, паклоны
Не біла донна ля святой іконы.

77 Яна з узнятай горда галавою
Спакусы ўсе пачне перамагаць,
А не ўцякаць ад іх. Яна сабою
Ніколі не дазволіць заўладаць
Яму далей той рысы, за якою
Канчаецца ўсё тое, што назваць
Яшчэ магчыма брацкім спачуваннем,
Павагай шчыраю ці шанаваннем.

78 Каб нечай палюбоўніцай зрабіцца,
Красуню прымушаў сам сатана,
Ад грэшных думак здолела б адбіцца,
Калі б і вольнаю была, яна
І стала б нават лепшай, бо ўлюбіцца
У некага — не грэх і не віна.
Такую тактыку прыстойным дамам
Я раю: «Не!» кажыце донжуанам.

79 Няўжо каханне — ганьба і крамола?
Няўжо на свеце сапраўды няма
Кахання чыстага, як у анёла
Ці ў верніцы старой, якім сама
Жыву я. Думка гэтая калола
Ёй сэрца — і, паверце, нездарма.
Прыемна мне, усім кажу адкрыта,
Што думала яна так менавіта.

80 Мне гэтага кахання ўстоі любы.
Яно такое светлае! Яно —
Калі руку цалуюць, потым — губы.
Хоць я кахаў не так, усё адно
З каханкаю не быў ніколі грубы,
Бо чысціню ва ўсім люблю даўно.
Скажу адно: сабе не варта шкодзіць!
Злачынец той, хто межы пераходзіць.

81 Каханне ў межах доўгу, да парога,
Дзе святасці канчаецца алтар! —
Прыйшла яна да вываду такога.
Я шмат магу яму прынесці ў дар!
Я прамянямі пачуцця святога
Навекі азару Жуана твар!
А што прынесці можа ў дар Жуану —
Не знала Джуля. Я ж гадаць не стану.

82 Здаволеная мужнасцю рашэння
І абароненая чысцінёй,
Не маючы ніякага сумнення,
Што ўсё задуманае ўдасца ёй,
Гаротніца прыйшла да заключэння
Расстацца з ненавіснаю бранёй
Больш непатрэбнай ёй перасцярогі.
Не асуджай яе, чытач мой строгі.

83 Бязвінным, лёгкім ёй здаваўся план.
Не можа быць прычынай бруднай плёткі
Шаснаццацігадовы Дон-Жуан.
Калі ж узнікнуць крыватолкі ўсё-ткі,
Зважаць на іх не варта: хрысціян
(Які бывае розум наш кароткі!)
Паліла ж чэрнь, упэўненая ў тым,
Што гэта падабаецца святым.

84 А што, калі б змяніўся крута лёс —
І муж памёр? О Джуля, як магла ты
Падумаць так. О барані, Хрыстос!
Ты ж перажыць не зможаш гэтай страты.
Дапусцім толькі гэта, inter nos.
(Апошняе — для рыфмы. Вінаваты.
Яна сказала entre nous тады,
Бо па-французску думала заўжды.)

85 Дапусцім, муж праз сем гадоў памёр,
А Дон-Жуан падрос і стаў мужчынам.
Няўжо ён, адкажыце, не партнёр
Такім удовым, як яна, жанчынам?
Пакуль жа гэты малады сеньёр
Хай вучыцца любві належным чынам —
Любві, якою любіць серафім.
І мне прыемна будзе побач з ім.

86 Пра Джулю ўсё. Пяройдзем да Жуана.
Хлапчук наіўны не падазраваў,
Што адбылося з ім неспадзявана.
Ён — страсны, як Медэя,— адкрываў
Штосьці новае, што ад другіх схавана
Было дасюль, як сам ён меркаваў,
Хоць бессмяротных серэнад матывы
Ў сабе ён чуў — трывожны і маўклівы.

87 У задуменні млосным, у маркоце
Блукаў па лесе часам Дон-Жуан,
Не могучы даць рады адзіноце
І не ўсвядоміўшы сур'ёзнасць ран.
Я б адасобіўся, але не ў гроце,
Як валачобнік той, а як султан,
Які прыдбаў, каб не гняла маркота,
Гарэм замест пустэльніцкага грота.

88 «Кахання царства — у адасабленні,
У тым прытулку ціхім, дзе знайшлі
Супакаенне нашы захапленні.
Яно там ходзіць богам па зямлі!»
Я рад, што месца ў гэтым адступленні
Радкі паэта добрага знайшлі.
Адно няўцям: як можа захапленне
Суіснаваць з табой, супакаенне?

89 У вершатворца гэтага, відаць,
Былі высакародныя намеры —
Старую ісціну нам нагадаць,
Што ў час кахання або ў час вячэры
Ніхто не хоча з нас, каб грукатаць
Пачаў хто-небудзь нечакана ў дзверы,
Якія, зрэшты б, я не адчыніў
І ў верш *супакаенне* не пусціў.

90 Задумлівы, разгублены — блукаў
Юнак Жуан ля раўчукоў празрыстых
І для душы прыстанішча шукаў
Пад шатамі дрэў коркавых цяністых,
Сярод зялёных і духмяных траў,
Дзе твораў самых мудрых, самых чыстых
Напісана і прачытана шмат,
А не такіх, як вордсвартскі трактат.

91 Так Дон-Жуан (не Вордсварт) аддаваўся
Сваёй самоце гэтаю парой,
Што больш на твары боль не адбіваўся
І не псаваў гаротніку настрой.
Ён мудраю прыродай любаваўся!
І неўзабаве малады герой,
Не ведаючы нават, што ўлюбіўся,
Як Колрыдж, метафізікам зрабіўся.

92 Ён думаў пра сябе, пра веліч свету,
Чаму дарога наша з праху ў прах
І хто прыдумаў недарэчнасць гэту.
Ён думаў аб паветраных шарах,
Пра войны, землятрусы, што планету
Хістаюць, і чаму мы толькі ў снах
І ў думках да высокіх зор сягнулі.
І ў рэшце рэшт — пра вочы мілай Джулі.

93 Хто думкамі такімі апантаны,
Хто прагне вышыні і глыбіні —
Любоўю мудрай запатрабаваны,
А той, хто гэта дзеля балбатні
Завучвае,— жыццём абрабаваны.
Сказаць, хто філасофскія агні
Ў ім запаліў, не набяруся смеласці.
Мо гэта плод звычайнай узмужнеласці?

94 Кранаўся вецер кудзераў лістотных —
I галасы лавіў ягоны слых,
А зрок яго паўсюдна бачыў цнотных,
Спагадлівых багінь і німф лясных,
Якія часам да слабых смяротных
Сыходзілі і суцяшалі іх.
Ішоў ён па сатурнаваму следу
I іншы раз не паспяваў к абеду.

95 Сядзеў ён часам у альтанцы, схілены
Над кнігай Гарсіласа ці Баскана.
Уласнаю паэзіяй акрылены —
Сярод лістоты пырхаў дух Жуана,
Як пырхае лісцё, калі, знясілены,
Яго паверне вецер нечакана.
Бы магам казачным зачараваная
Была яго душа несапсаваная.

96 Хоць днямі мог ён марыць і чытаць,
Яму заўжды чагосьці не хапала,
Бо гэта не магло Жуану даць
Таго, чаго душа яго жадала:
Плеч, да якіх прыемна прыпадаць,
I сэрца, што каханнем біцца стала.
I, пэўна, нечага яшчэ, аб чым
Не будзем згадваць. Лепей прамаўчым.

97 Хадзіў ён з вечным одумам на лбе
I не ўтаіў ад прыгажуні Джулі,
Што ў гэты час яму не па сабе.
I дзіўна, што Інесу не кранулі
Прагулкі сына і яго журбе
Даць рады неадкладна не памкнулі.
А мо, хоць празарліўкаю была,
Яна заўважыць гэта не змагла?

98 Такое чуць усім, відаць, нязвыкла,
Але не раз на практыцы было
З раўнівымі мужамі так, напрыклад.
Святую запаведзь мужам назло
(Не помню нумар) скрытна, каб не ўзнікла
Звад розных і не трапіць у сіло,
Іх жонкі вельмі часта парушалі
I сказанае мною пацвярджалі.

99 Хоць жонкам ветраным не давяраюць
Сапраўдныя мужы, што ні кажы,
Іх жонкі пастаянна пападаюць
На бок другі дазволенай мяжы
З сябрамі іх, якім звычайна дбаюць
Пацiснуць рукі строгія мужы.
А грымне гром — прычыну ў іх залётах
Раўніўцы знойдуць не ў сваіх дурнотах.

100 Бацькі цікуюць позіркам рысіным
Дзяцей, але іх блізарукі зрок
Не бачыць, што валодае іх сынам
Міс Фані, хоць зламыснікі штокрок
Пляткараць аб нашчадку іх адзіным.
Калі ж даведаюцца незнарок
Усё ж яны пра сынавы прыгоды —
Клянуць усіх і плачуць, як заўсёды.

101 Была Інеса хітрая жанчына.
І, думаю, паводзіны яе
Другая абумовіла прычына.
Магчыма, акалічнасць, што ў свае
Шаснаццаць сын Інесы — не мужчына,
Чаго для выхавання нестае,
А мо намер каварна (па-жаночы!)
Адкрыць наіўнаму Альфонса вочы.

102 І неяк летнім днём... Наогул, летам,
Як і вясною, многа небяспек —
І вінавата толькі сонца ў гэтым.
Ёсць дні, калі ні звер, ні чалавек
Суняць прыроду ў целе разагрэтым
Не могуць. Так вядзецца з веку ў век.
І сакавік стаў месяцам зайчыным,
А светлы май кроў саграе жанчынам.

103 Дзень шосты чэрвеня быў, гэткім чынам.
Люблю з маленства я дакладнасць дат.
На іх мяняюць коней, каб ляйчынам
І каляснiцы лёсу волю даць
І аплаціць удзячнасцю краінам,
Што памагалі коней закладаць,
Сумненням падвяргаючы высновы,
Якімі стрымліваюць багасловы.

104 У шэсць з паловай вечара ў альтанцы,
Як гурыя, сядзела Джуля. Рай,
Які сабе прыдумалі паганцы
(Анакрэона-Мура пачытай —
І будзеш мець ты неблагія шанцы
Яго ўявіць), квітнеў навокал. Хай
Вянчаюць лаўры Мура як паэта,
Хоць рай паганскі ёсць і ў Магамета.

105 Была яна ў альтанцы не адна.
Не ведаю, хто гэтае спатканне
Тады прызначыў — ён альбо яна.
Калі б і знаў — я б захаваў маўчанне.
Жуан быў з ёю. І не іх віна,
Што іх п'яніла, як віно, каханне,
Што ім было так хораша сядзець
І аднаму на аднаго глядзець.

106 Якім румянцам на яе шчаках
Адбіліся ўтрапенне, і трывога,
І хваляванне шчырае, і страх!
Каханне! Ты ўмацоўваеш слабога,
А дужых здужваеш. Ты ад разваг
Не пакідаеш часам нічога.
Чым прорва перад ёй была глыбей,
Тым донна мілая была смялей.

107 «Я ж цвёрдая, а ён юнак зялёны.
Нашто манернічаць усім на смех
(Так Джуля думала), бо недаткнёны
Характар — ганьба? Ды навошта грэх
Браць на душу і парушаць каноны?
Але ж Альфонса пазбягае ўцех!
Хто будзе ў пяцьдзесят спяваць рамансы,
Калі наўме даўно адны фінансы».

108 «Я вам *пяцідзесяты* раз кажу» —
Прэлюдыя разносу ці вымовы.
«Я *пяцьдзесят* вам вершаў пакажу» —
Сігнал, каб ты быў уцякаць гатовы.
Плывуць карсары, верныя нажу,
*Паўсоценнымі* шайкамі на ловы
Удач і здабыч. Каханне ў пяцьдзесят —
Пяцідзесяціцэнтны сурагат.

109 Як чалавек праўдзівы і крыштальны,
Яна клялася сіламі нябёс,
Што залаты пярсцёнак заручальны
Не зганіць, як ні прымушае лёс.
Яна заглушыць верад амаральны,
Што шкоду б чысціні яе нанёс.
Але сваю руку неспадзявана
Яна паклала на руку Жуана.

110 Затым шчакой (таксама выпадкова)
Яна прыпала да яго рукі,
Што гладзіла пяшчотна і нервова
Бліскучы локан ля яе шчакі.
Няўжо ты не магла своечасова,
Інеса, папярэдзіць шал такі?
Жуана ж ты, як маці ўсе, расціла.
Мая да гэтага б не дапусціла.

111 Рука, трымаўшая руку Жуана,
Адказвала так поціску яго,
Нібы сказаць было ёй пажадана:
«Трымай мяне!» Але не больш таго!
Было б яго нахабства пакарана:
Адразу ад крыўдзіцеля свайго
Адскочыла б яна, як ад гадзюкі,
І болей не сустрэліся б іх рукі!

112 Не ведаю, што думаў Дон-Жуан,
Ды што зрабіў ён, вы зрабілі б самі.
Юнак, хоць вочы засцілаў туман,
Яе руку пацалаваў губамі,
Але, адчуўшы ў галаве дурман,
Хіснуўся ўбок з чырвонымі вушамі.
І Джуля ўсхваляваная была —
Хацела штось сказаць, ды не змагла.

113 Ледзь сонца села — над зямлёй дрымотнай
Зноў поўня велізарная ўзышла.
Яе дарэмна ўсе завуць пяшчотнай:
І ў чэрвені не знойдзецца чысла,
Калі б не нарабіла з мінай цнотнай
Яна за тры гадзіны болей зла,
Чым доўгі дзень, хоць мы сказаць павінны,
Што выгляд у яе заўжды бязвінны.

114 Час гэты раскрывае душы ўсе.
Святла сярэбранага пералівы,
Што зіхацяць на вежах, на расе
І на лістоце сцішанай алівы,
Так узбуджаюць сэрцы пакрысе,
Што сум салодкі, светлы і шчымлівы
Ў іх нараджаецца, але з такой
Журбой не можа сябраваць спакой.

115 Дрыготкаю рукою Дон-Жуан
Праз момант рухам хуткім і нязграбным
Абняў яе такі ж дрыготкі стан.
Яна яшчэ са страхам неаслабным
Яму працівілася, ды аркан
Рук Дон-Жуана здаўся ёй прывабным.
А потым што было? Нябесны цар
Пра гэта ведае. Я ж не пляткар.

116 Платон, Платон! Фантазіяй пустой,
Нібыта воля можа мець уладу
Над сэрцам, ты праклаў гасцінец той,
Які прывёў Мараль да заняпаду.
Празаікі і барды талакой
Не выклікалі гэткага разладу.
На крэслах двух сядзець хацеў ты, фат,
Нахабны зводнік, шарлатан, вар'ят.

117 Стаміла Джулю доўгае змаганне.
Растаў ва ўздыхах голас і назад
Вярнуўся позна. І яго вяртанне
Слёз безвыходных выклікала град.
Як спалучыць каханне і ўстрыманне?
Зрабіць такое можа хто наўрад.
І ў прыгажуні не хапіла волі,
Яна здалася з шэптам: «Не! Ніколі!»

118 Цар Ксеркс за дарагія ўзнагароды
(Было ў тырана з лішкам усяго)
Прыдумаць новы спосаб асалоды
Прасіў сваіх падданых для яго.
Што да мяне — я стрыманы заўсёды,
Але ў каханні не ўпушчу свайго,
Хоць я аматар спосабу старога
І асалод не патрабую многа.

119 О асалода! З-за цябе мы гінем.
І ўсё адно ты неблагая рэч.
Мы абяцаем кожны раз, што кінем
Распуснічаць і крыж грахоўны з плеч
Рашуча (у смурод пякельны!) зрынем,
А потым прагнем зноў з табой сустрэч.
Такое адбылося і са мною.
Я выпраўлюся будучай вясною.

120 Хачу дазволіць тут сабе, чытач,
Я вольнасць невялікую, якая
Ў тым заключаецца, што я наўскач
Пушчуся зноў, хоць мне і дарагая
Няспешнасць Арыстоцеля. Прабач.
Не напішу пра тое ні радка я,
Як маладыя лета правялі,
Бо ўсё апісваць мне няма калі.

121 Калі ў цябе ёсць да мяне спагада,
Чытач высакародны, уяві
Ты сам, як з чэрвеня да лістапада
Яны гарэлі ў полымі любві,
Як велічна грахоўнасці расада
Буяла ў іхняй маладой крыві!
А зараз лістапад халаднаваты...
На жаль, дакладнай я не помню даты.

122 Калі ўзыходзіць поўня ці Венера —
І мора адлюстроўвае іх бляск,
Прыемна слухаць песню гандальера
І вёслаў ціхі, гарманічны пляск.
Прыемна чуць гекзаметры Гамера,
Убачыць Рым, Афіны і Дамаск,
А над бязмежнай роўняддзю марскою —
Сінечу з сямікалернай дугою.

123 Прыемна ўбачыць на падворку ўночы,
Як твой сабака завіляў хвастом,
А ў доме родным зазірнуць у вочы,
Што свецяцца, бо ты вярнуўся ў дом.
Як добра засынаць пад спеў дзявочы,
А прачынацца з першым жаўруком.
Гудзенне пчолак, мілы лепет дзетак,
Звон раўчука пачуць прыемна гэтак.

124 Уцеха — час, што збор пладоў вядзе
І поіць долы сокам вінаградным.
Уцеха — перліна ў марской вадзе
І ўцёкі з горада да сёл прынадных.
Чырвонцаў звон — уцеха скупяндзе,
А помста — крывадушніцам зларадным.
Люляць прыемна першынца бацькам,
Салдатам — грабіць, плаваць — маракам.

125 Уцеха — спадчына, што вашай стала
Са смерцю сквапнай цётухны старой,
Якая жыць так доўга прымушала
Вас, маладых, з працягнутай рукой.
О як яна марудна памірала,
Бязмежна раздражняючы сабой
Вас і яўрэяў, што патрабавалі
Плаціць за вэксалі, што вы давалі.

126 Уцеха — лаўры, хоць крывёй, хоць потам
Заслужаныя. Добра з дружбаком
Палаяцца і памірыцца потым,
Калі дружбак не водзіцца са злом.
Уцеха — памагчы малым сіротам,
Пачаставацца элем ці віном.
Уцеха — настальгічныя ўспаміны
Пра дарагія для цябе мясціны.

127 Ды страсці маладой задавальненне
У першы раз намнога саладзей.
Удзячна ўспамінаў грэхападзенне
Сваё Адам — прабацька ўсіх людзей.
Украў ён асалоду і ўзрушэнне
Так, як агонь нябесны — Праметэй.
І мы павек таксама ўдзячны дрэву,
Што спакусіла яблыкамі Еву.

128 Стварэнняў неразумных антыподы —
Найлепшым чынам змалку мы бяром
Усё што можам ад сваёй прыроды
І асабліва зараз, бо жывём
У век адкрыццяў, хоць і не заўсёды
Мы ісціну адразу пазнаём,
Ды часам непадатлівасць задачы
Карысці больш прыносіць, чым удачы.

129 Здабыткі геніяльнасці ці злосці
На беднасць — гільяціна, паравоз,
Прыстасаванне, што ламае косці,
Кангрэвавы ракеты, штучны нос
(Чаго не зробіш дзеля прыгажосці!),
Вакцына, антыдоты і гіпноз.
Відаць, даўно мы ўсе былі б здаровы,
Калі б не заражалі нас каровы.

130 Сцвярджаюць, быццам з бульбы робяць крупы
І выпякаюць хлеб, а гальванізм
Грымаснічаць прымусіць можа трупы.
А каб не зношваўся наш арганізм,
Замест цапоў і састарэлай ступы
Прыдуманы надзейны механізм.
Расправіліся з воспай мы заўзята
І здужаем яе старога брата.

131 Раней ён быў амерыканцам. Вось бы
Вярнуць (і як мага хутчэй!) тудой
Зноў язвавага брата чорнай воспы,
Бо голадам, чумой або вайной
Адвесці перанасялення грозьбы
Пара ўжо ад Амерыкі чумной.
Стаў сіфіліс для еўрапейцаў горам,
Што горш ад жахаў, выкліканых морам.

132 Мы робім страшныя эксперыменты
Па расчляненні цел і гвалце мар
І выдаём іх аўтарам патэнты.
Сэр Хамфры Дэві вынайшаў ліхтар
Бяспечны для шахцёраў. Кантыненты
Стараемся асвоіць мы. Тавар
Прывозім з Тамбукту (не дзеля славы),
Што лепей, чым Ватэрлоо крывавы.

133 Загадкава мы створаны прыродай.
Шкада, што большасць асалод і ўцех
З'яўляецца грахом, а асалодай
І ўцехаю — амаль што кожны грэх.
Уладай, золатам, узнагародай
Мы цешымся, хоць ля апошняй з вех
Усе сустрэнемся на той дарозе,
Дзе нам упасці суджана ў знямозе.

134 Ад той вяхі не вернешся назад...
Лепш да канкрэтных вернемся гісторый!
Быў, значыць, змрачнаваты лістапад.
Плашч снегавы ізноў надзелі горы
На свой блакітны восеньскі халат.
І хвалі разгуляліся на моры.
А дзённае свяціла ў пяць гадзін
Зноў стала адыходзіць на спачын.

135 Як сведчыў вартаўнік, былі даліны
Смугой спавіты. Вецер з ног валіў.
Ва ўсіх дамах запальвалі каміны,
Каб жыхароў агонь іх весяліў.
Пад шум і гоман маладой сябрыны
Я ля каміна пасядзець любіў,
Як любіце вы ўсе, магчыма, самі,—
З амарамі, з шампанскім, з цвыркунамі.

136 Прабіла поўнач. Джуля ўжо, магчыма,
Дзесяты сон глядзела, ды такі
Страшэнны шум падняўся за дзвярыма,
Што ад яго, напэўна, мерцвякі
Спалохана залыпалі б вачыма,—
І ў дзверы сталі грукаць кулакі:
«О пані даражэнькая! Не спіце.
Хутчэй, прашу вас Богам, адчыніце.

137 О пані! Гэта гаспадар з сябрамі!
Паслухайце — усё грамчэй, грамчэй
Яны на сходках тупаюць нагамі.
Ні ў чым не вінавата я. Хутчэй
Адкрыйце засаўку, прашу я, самі.
Якая ганьба! Мо *яму* лягчэй
У агародчык скокнуць праз акно.
Не надта ўжо высокае яно».

138 З'явіўся дон Альфонса сапраўды
З паходнямі, з сябрамі — злы і строгі.
Ніхто не цырымоніўся тады
З жанчынаю, што настаўляла рогі.
Прабач ёй — палюбоўнік малады
І іхніх жонак з праведнай дарогі
Саб'е на шлях распусты і маны.
Ці ж могуць гэта дапусціць яны?

139 Не ведаю, калі яны заселі —
Сумненні — у ягонай галаве,
Але сабраць ля жончынай пасцелі
Сяброў і дворню, каб зрабіць levee,
Як ён, наўрад ці іншыя пасмелі.
Ганебным гэты ўчынак назаве
З вас, чытачы мае, напэўна, кожны,
Хто і прыстойны больш і асцярожны.

140 О Джуля! Так яна хацела спаць
(Я не кажу, што гэта маскіроўка),
Што пачала рыдаць і пазяхаць.
Як верная, надзейная сяброўка
Прасціну спрытна стала распраўляць
На ложку Антаніна-пакаёўка,
Чым паказаць старалася яна,
Што гаспадыня спала не адна.

141 Ля Джулі ў ложак легла Антаніна,
Гаворачы вачамі, што была
Памята ёю гэтая прасціна.
Як спаць адной жанчыне без святла,
Калі не можа адпусціць гасціна
Зноў мужа з-за бяседнага стала?
Калі яшчэ ён прыйдзе, невядома,
Каб ледзьве вымавіць: «Вось я... ік... дома».

142 Нарэшце Джуля ўскочыла з пасцелі
І крыкнула, махаючы рукой:
«Вы, дон Альфонса, пэўна, звар'яцелі!
Як я жыла з пачвараю такой?
Што даказаць, скажыце, вы хацелі
Сваёю п'янай выхадкай начной?
Шукаеце? Шукайце! Я чакаю».
І адказаў Альфонса: «Пашукаю».

143 Шукалі некага *ён* і *яны*.
Раскідалі аксесуары моды —
Панчохі, туфлі, шчоткі, грабяні.
Агледзелі ўсе нішы і праходы,
Праём аконны і праём дзвярны.
Парасчынялі шафы і камоды.
Праткнулі вострымі клінкамі шпаг
Шмат мэблі, і гардзін, і апранах.

144 Сукенкі парастрэслі і спадніцы.
Пад ложак зазірнулі і знайшлі...
Не тое, што шукалі! Аканіцы
Раскрылі, каб убачыць на зямлі
Сляды, але іх не было. Тупіцы!
Яны даўмецца нават не маглі,
Што трэба пашукаць было ў пасцелі.
Разгублена наўкол яны глядзелі.

145 А прыгажуня ў гэты час між тым
Крычала, не змаўкаючы: «Шукайце!
Сваім ганебным вобыскам начным
Мяне ўсё болей, болей абражайце!
Жыць з чалавекам подлым і дурным
Я не магу і ў гэтым доме, знайце,
Губіць сваю не буду маладосць,
Калі ў Іспаніі законы ёсць!

146 Ах, дон Альфонса! Злыдзень, варвар, кат!
Не сорамна сябе вось так паводзіць,
Калі табе даўно за пяцьдзесят,
І гонару святой жанчыны шкодзіць?
Мне больш не муж вы — інтрыган, вар'ят!
Я не збіраюся больш валаводзіць.
Скажыце, як падумаць смелі вы
Пра жонку дрэнна, цэрбер вартавы?

147 Адмовілася я не для таго
Ад прывілей свайго слабога полу,
Каб драхлага духоўніка свайго,
Каго ўспрымаюць донны як назолу,
Аслухацца і здраджваць без яго
Саноўнага і мудрага дазволу.
Што я замужняя, не верыў ён.
О Божа мой! За што такі праклён?

148 Ці для таго севільскіх юнакоў
Як кавалераў я ігнаравала
І толькі рауты, баі быкоў,
Тэатры і саборы шанавала?
Ці для таго настырных жаніхоў
Рашуча я заўсёды адшывала?
О'Рэллі — граф, які скарыў Алжыр,—
Злаваў, што з ім не заключыла мір!

149 Ці недарэмна мне спявак Кацані
Паўгода серэнады напяваў?
Ці не яго таварыш Карніяні
Мяне красой Іспаніі назваў?
Паляк мне гаварыў з пашанай: «Пані».
Стронгстроганаў мяне прыраўнаваў
Да О'Шынка, што быў ірландскім пэрам,
Але памёр ад віскі кавалерам.

150 Агонь кахання ў кардынальскіх сэрцах
Запальвала я чысцінёй святой.
Сам дон Фернанда, сам айшэрскі герцаг
Былі зачараваны проста мной.
Пры састарэлых месяцавых чвэрцях
Мо вы звярэеце, о слаўны вой?
Мерсі, што вы не скарысталі шпагу,
Не паказалі нам сваю адвагу.

151 Вы ж раніцаю з шэльмам пракурорам
Кудысьці з'ехалі на пару дзён.
Няўжо вас не гняце абодвух сорам?
Як бачу я, збянтэжаны і ён.
З не меншым, чым на вас, гляджу дакорам
Я на яго, бо ён — хамелеон!
Яго мы не хвалюем аніколькі,
З-за выгады ён дзейнічае толькі.

152 Калі з'явіўся ён засведчыць факт
Майго падзення — вось вам стос паперы,
Пяро, чарніла. Сачыняйце акт.
Навошта так нахабнічаць без меры?
Да нас, раздзетых, праявіце такт
І ўсіх шпіёнаў выстаўце за дзверы.
(А Антаніна, плачучы, між тым
Сказала злосна: «Вочы б выдраць ім!»)

153 Вось туалет, прыхожая, камін!
Перавярніце ўсё, бо ў іх схавацца,
Калі прыспічыць, можа не адзін.
І ў шафах зноўку раю пакапацца
Сярод панчох, шкарпэтак і хусцін.
Але цішэй шукайце, бо, прызнацца,
Мы любім спаць у гэты позні час.
Калі што знойдзеце — будзіце нас.

154 Ідальга! Атрымалася асечка?
Але цікава вельмі ўсё ж, каго
Шукалі вы? Ён божая авечка,
Ці злы гігант, ці карлік усяго?
Выслоўе, думаю, «Ні Богу свечка
Ні чорту качарга» — не пра яго?
Мо сапраўды мне будзе з ім прыемна
Адпомсціць вам як-небудзь патаемна?

155 Яму не больш як дваццаць тры гады?
Інакш навошта рэўнасць і пагрозы,
Бо муж таксама надта малады
І кожны дзень пяшчотны і цвярозы?
(Дай, Антаніна, шклянку мне вады!)
Як я ганебна праліваю слёзы!
Ці думалі калі мае бацькі,
Што дастанецца мне вампір такі?

156 Мо вы раўнуеце да Антаніны,
Бо сплю я з ёю часам як-ніяк —
І вы на рэўнасць маеце прычыны?
Але калі яшчэ раз кавардак
Такі ўчыніць захочаце (пачыны
Не забываюцца), прашу, аднак,
Адно жаданне наша задаволіць —
Спачатку апрануцца нам дазволіць.

157 Я скончыла. Адказам на глумленне,
Што моўчкі зношу, быў мой маналог.
Хай вас катуе ўласнае сумленне
За ноч маёй няслава і трывог,
А я да неба шлю сваё маленне —
Хай вам адпомсціць справядлівы Бог!
Больш не скажу ні слова. Антаніна!
Ты не падкажаш, дзе мая хусціна?»

158 На твар, які прыгожа абрамлялі
Густыя локаны яе валос,
З вачэй чарнюткіх, што ад крыўды ззялі
Штораз маланкамі, струмені слёз
Ліліся спорна і напаміналі
Халодны дождж з захмараных нябёс.
Бялелі плечы ў цемнаце чароўна,
У скроні сэрца грукала няроўна.

159 Прыціхлы дон панурыў свой пагляд.
Узрушана хадзіла Антаніна
І ўсім вачыма гаварыла: «Гад!»
І толькі шэльмы пракурора міна
Не стала змрочнай. Мудра, як Ахат,
Глядзець на ўсё была ў яго прычына.
Ён разумеў, хоць ні ва што не лез:
Калі ёсць сварка, будзе і працэс!

160 Прышчур вачэй, падняты нос, ашчэр,
Спакой і запаволеныя рухі
Выказвалі паўнюткі недавер
Да Джулінай — такой глыбокай — скрухі.
Ёсць шанцы выйграць! Што яму цяпер
Да прыгажосці маладой хітрухі?
Пакажуць сведкі ўсё! А хто яны —
Ўсё роўна. Сыдзе нават падстаўны.

161 А дон, зрабіўшы выхадку дурную,
Стаяў з унураною галавой.
Расхваляваўшы жонку маладую
І скампраметаваўшы гонар свой,
Ён выйграў не адну насмешку злую,
Што сыпаліся градам ноччу той
Працяглы час на рагача старога,
Які ў адказ не мог сказаць нічога.

162 «Прабач»,— паспеў сказаць ён шэптам ціхім.
Але жанчыны ледзь не ўсе — халерыкі.
І Джуля адказала злым уздыхам,
А ўздыхі — папярэднікі істэрыкі,
Як стогны, торганне, як слёзы з рыкам.
Яны жанчын Еўропы і Амерыкі
Яднаюць. І, згадаўшы лёс Іова,
Альфонса болей не сказаў ні слова.

163 Праз момант зноўку слоў яго кувалда,
Каб хоць які нанесці ўрэшце ўдар,
Хацела апусціцца на кавадла.
«Пабойцеся хоць Бога, гаспадар!
Маўчыце і ступайце прэч,— заядла
Сказала Антаніна,— каб трунар
Нам не спатрэбіўся». Ён нечакана
За дзверы моўчкі выйшаў паслухмяна.

164 За ім ягоны posse comitatus
За дзверы выйшаў, потым — пракурор,
Якога прымушаў уласны статус
І ўпэўненасць, што зможа нагавор
Ліквідаваць у доказах hiatus,
Няспешна адступаць у калідор.
Зачынены — і з трэскам! — Антанінай
Былі ўсе дзверы за ягонай спінай.

165 Яшчэ закрыцца не паспелі дзверы...
О жах! О ганьба! О сарамата!
Вось і давай жанчынам хітрым веры!
Прытворства, напускная дабрата
Хаваюць іх каварныя намеры.
Мяне бянтэжыць свету слепата!
Яшчэ закрыцца дзверы не паспелі,
Як Дон-Жуан наш выскачыў з пасцелі.

166 Апісваць не бяруся, дзе і як
Хаваўся ён. Схаваць хлапца худога,
Што згорнецца ў маленечкі камяк,
Сярод пярын не трэба ўмення многа.
Каб задыхнуўся ў схованцы юнак,
Я б не аплакваў франта маладога.
Лепш між красунь памерці юнаку,
Чым Кларэнсу — у бочцы каньяку.

167 Яго б я не аплакваў і таму,
Што ён парушыў Божыя законы,
Хоць і было шаснаццаць год яму.
Не беражэ сумленне ўзрост ягоны!
Яго няцяжка зберагаць таму,
Каго не спакушаюць больш драконы,
Бо на фальшывых шалях сёння ён
Узважвае грахі мінулых дзён.

168 Апісана становішча, якое
Займаў у ложку юны мой герой,
У Біблії, дзе згадана пра тое,
Як цар Давід красуняй маладой
Аднойчы цела вылечыў старое
І ўмомант зноў памаладзеў душой.
У нас інакш — ад маладога цела
Душа навекі ледзь не адляцела.

169 Што маладым далей рабіць, аднак?
Адправіўшы сваю дурную світу,
Зняслаўлены Альфонса мог няўзнак
Вярнуцца і зрабіць працяг візіту.
Няўцям было і Антаніне, як
Зноў нос уцерці злому паразіту.
А Джуля губ збялелых ледзякі
Паднесла да Жуанавай шчакі.

170 Сышліся губы Джулі і Жуана.
Ён гладзіў пасмы чорных валасоў.
Страсць, што была так груба перарвана,
Вось-вось, здавалася, успыхне зноў,
Але іх Антаніна нечакана
Ахаладзіла вадаспадам слоў:
«Апомніцеся! Хопіць цалавацца!
У шафе трэба малайцу схавацца!

171 Перапыніце хоць на ноч любошчы,
Бо гэта можа скончыцца крывёй.
Паберажы свае жывыя мошчы,
Малы свавольнік! Развітайся з ёй.
Інакш ты, лічы, ужо нябожчык.
Не псуй жыцця наложніцы сваёй.
Павер, што і ў мяне няма ахвоты
Раптоўна аказацца без работы.

172 Каб гэта адбылося з-за мужчыны,
Якому, скажам, дваццаць пяць гадоў,
А то ўсе нашы беды з-за хлапчыны,
З-за мордачкі прыгожай без вусоў.
Ану ўставайце, бо праз дзве хвіліны
Зноў прыйдзе муж, які на ўсё гатоў.
Каб толькі не пачуўся нечакана
З замкнутай шафы гучны храп Жуана».

173 І сапраўды праз некалькі хвілін
Альфонса зноў зайшоў у спальню з хола
(На гэты раз — без шуму і адзін)
І, абарваўшы пакаёўкі сола,
Ёй выйсці загадаў. Бы крыналін,
Спадніцу прыпадняўшы і наўкола
Шматзначна глянуўшы ў чарговы раз,
Яна пайшла, зрабіўшы рэверанс.

174 Альфонса памаўчаў, ніякавата
Прасіць у жонкі прабачэння стаў:
«Маё сумленне ўсё ж не вінавата,
Я гэта ўсё зрабіў не без падстаў».
Ён цьмяна гаварыў і даўгавата
І ёй сваёй прамовай нагадаў
Дурнога рытара ў імгненне тое,
Што лье ваду з парожняга ў пустое.

175 Маўчала Джуля, хоць і быў гатовы
Ў яе на гэты выпадак адказ.
Выкарыстоўвалі такія словы
Жанчыны хітрамудрыя не раз.
Іх логіка: калі наладзіў ловы
Ваш муж і ў здрадзе вінаваціць вас,
У здрадах трох абвінавацьце мужа —
І проста гэта, і праўдзіва дужа.

176 Не ведаю чаму, але не стала
Хітруха мужу згадваць пра раман
З Інесай. Можа, проста не жадала,
Каб гэта ведаў юны Дон-Жуан,
А мо памылку ўласную прызнала,
Хоць апраўданне для сваіх заган
Заўсёды знойдзе мудрая жанчына?
А мо была больш важкая прычына?

177 Магло прычынаю такога кроку
Быць тое, што Альфонса не назваў
Імя *яго* і не зрабіў намёку,
Каго канкрэтна ён падазраваў.
Раўнівы муж пасля яе папроку,
Што ён з Жуана маці сябраваў,
Мог зразумець, хто ў гэтым вінаваты,
Што ён ужо паўгода як рагаты.

178 Паўслова, сказанае выпадкова,
Пашкодзіць можа нам. Жаночы такт
(Для рыфмы мне патрэбна гэта слова:
Я заключыў з актаваю кантракт!),
Калі захоча, зробіць, каб размова
Упарта пазбягала слова *факт*.
Ілгуць жанчыны грацыёзна, чынна,
Прыстойна і галоўнае — бязвінна!

179 Так шчыра чырванеюць, так прыгожа
Яны гавораць, што ніводзін з нас
Не верыць і пярэчыць ім не можа,
Бо гэткім красамоўствам у адказ
Стамляць пачнуць яны, што не дай Божа.
А як яны рыдаюць іншы раз
І хіляць голаў, поўныя даверу!
І мы садзімся з імі за вячэру.

180 Ён прабачэння (у канцы размовы)
У Джулі папрасіў, на што яна
Паставіла яму цяжкія ўмовы:
Расстацца з *дробяззю*, чыя цана
*Мізэрная*. Нібы Адам, гатовы
Пакаяцца, што згвалціў сатана,
Стаяў ён, з раю выгнаны, паныла...
Пакуль нага на бот не наступіла.

181 Якая дробязь — наступіў на бот!
Ды гэта быў, на жаль, не бот, а боты
Мужчынскія, што знішчылі аплот
Ягонай веры і жаночай цноты.
Сам па сабе яго раскрыўся рот
Ад злосці, абурэння і самоты.
І я б зубамі ляснуў, спахмурнеў
І на распусніцу спусціў бы гнеў.

182 Са спальні жонкі выбег ён па шпагу.
І з крыкам: «Уцякайце, любы мой,
Прашу вас! — Джуля адчыніла шафу.—
Ляціце праз прыхожую стралой
І не згубіце розуму ад жаху.
Вось ключ ад брамкі нашай патайной.
Яшчэ ўсе спяць. Хутчэй, Жуан, я чую
Яго хаду — рашучую і злую».

183 Была яе парада недурною,
Але запозненай. Так мы жывём!
Купляем вопыт дарагой цаною
І лёсу, як падаткі, аддаём.
Са шпагай і са свечкай прад сабою
Жуан, адолеўшы дзвярны праём,
Альфонса ўбачыў — і яму па твары
З разгону моцна кулаком ударыў.

184 Быў нечаканым для Альфонса ўдар.
Запаленая свечка з рук упала.
Ў адчаі Джуля крыкнула: «Пажар!»
«Ратуйце!» — Антаніна закрычала.
Забіць Жуана кляўся гаспадар,
Ды лаянка Жуанава гучала
Вышэй на цэлую актаву. Як
Татарын злосны, выглядаў юнак.

185 Забыўшыся на гонар і развагу,
Паказвалі ў баі на кулаках
Альфонса і Жуан сваю адвагу.
Ляцела шмоцце іхніх апранах.
Каб з рук Альфонса выбітую шпагу
Схапіў Жуан — бой скончыўся б. О жах!
Жанчыны! Вы падумайце аднойчы,
Як удавою не зрабіцца двойчы.

186 Альфонса Дон-Жуана ашчаперыў,
А той яго душыў. Лілася кроў.
(Калі з вас нехта ў горшае паверыў,
Не бойцеся: яна цякла з насоў.)
Натужна зубы Дон-Жуан ашчэрыў
І вырваўся з Альфонсавых ціскоў,
Ды, як Іосіф, дагала раздзетым.
Былі яны падобны толькі гэтым.

187 Прынеслі свечкі ўрэшце — і тады
Ўсе ўбачылі — мужчыны і жанчыны —
Самлелай донны Джулі твар бляды,
Істэрыку гарачай Антаніны,
А ля Альфонса змоглага — сляды
Крыві і ног і рваныя тканіны.
Жуан за брамку выбег галяком
І шчоўкнуў, ключ уставіўшы, замком.

188 На тым канчаю я аповед гэты.
Ці варта мне апавядаць аб тым,
Як бег дадому дагала раздзеты
Жуан бязлюдным горадам начным
І што аб гэтым выпадку газеты
Пісалі ў свецкіх хроніках затым?
Скажу, калі знаць гэта вам цікава:
Разводам гучным скончылася справа.

189 Адразу зацікавіў іх развод
Ахвочую да ўсіх сенсацый прэсу.
Калі і вас цікавіць поўны ход
Скандальнага і гучнага працэсу,
Па публікацыях зрабіце звод
Усіх нюансаў гэтага эксцэсу.
Але аб ім праўдзівей і паўней
Пісаў, Мадрыд наведаўшы, Герней.

190 Інеса, каб замяць крыху скандал,
Грамчэй якога не было, напэўна,
У Іспаніі з часоў, калі вандал
Яе пакінуў, не крычала гнеўна,
Дазнаўшыся, што сын — не ідэал,
Прасіла ў Панны міласці душэўна.
І ёй сказалі: «З Кадыса пашлі
Ты вандраваць яго на караблі».

191 І вырашыла маці, што нядрэмна
Прывыкла сына змалку пільнаваць:
Мо для яго і сапраўды нядрэнна
У Рыме і ў Парыжы пабываць?
Карысці шмат у гэтым, несумненна.
Адпраўленай у кляштар, сумаваць
У келлі змрочнай давялося Джулі.
Мяне радкі пісьма яе кранулі:

192 «Вы, пэўна, паступаеце разумна,
Што пакідаеце свой родны дом.
Сягоння мне адначасова сумна
І радасна, бо я лічу грахом
Сваім адзіным, што была бяздумна
Захоплена бязгрэшным юнаком.
Без слёз пішу пісьма свайго радкі я,
І вочы цёмныя мае — сухія.

193 Я вас кахала і цяпер кахаю.
Згубіла шчасце, неба, гонар свой
З-за вас я, ды на лёс не наракаю,
Бо будуць нараканні ўсе маной.
Я суддзяў строгіх шчыра заклікаю
Дазволіць мне судзіць сябе самой!
Я дзіўны сон асэнсаваць спрабую
І вернасці ад вас не патрабую.

194 Каханне — толькі частачка мужчыны,
А для жанчын яно — само жыццё.
Вас вабяць невядомыя краіны,
Баі, турніры, самазабыццё,
Хоць прамяняць гатовы ў міг адзіны
Іх на чыны і скарбаў набыццё.
А мы адно заўсёды робім — любім
І любім зноў, пакуль сябе не згубім.

195 Вам будзе па жыцці ісці прыемна.
Вы пахваліцца зможаце не раз,
Што закахаліся і што ўзаемна
Каханка ваша пакахала вас.
Я ведаю, што вас кахаць дарэмна,
Хоць ува мне шал малады не згас,
Ды ўсё адно, прашу, мяне *кахайце*,
Хоць гэта немагчыма, і — бывайце.

196 Знямога ў сэрцы, хоць і можа быць,
Што авалодаць я змагу сабою.
Яшчэ дагэтуль кроў мая кіпіць,
А думкі аддаліся супакою.
Працягваюць так хвалі ў бераг біць,
Хоць вецер больш не трэпле грыў прыбою.
Імкнецца да напрамку аднаго
Заўсёды стрэлка компаса майго.

197 Я ўсё сказала, ды не маю сілы
Паставіць кропку, падпісаць імя.
Без страху я зрабіла б гэта, мілы,
Бо ўжо нічога не баюся я.
Каб гора набліжала да магілы,
Не дажыла б да гэтага я дня.
Змагу і выжыць я і адрадзіцца,
Бо жыць павінна і за вас маліцца».

198 Пастаўлена на гэтай billet doux,
Напісанай на аркушы з каймою,
Была пячаць «Elle vous suit partout!»
Мініяцюрнай белаю рукою,
Якая ледзьве воску мерзлату
Расплавіла над свечкай трапяткою,
Пісаўся ліст вароніным пяром.
І я канчаю песню тым лістом.

199 Ці будзе гэта песня па душы
Таму, хто песню гэту прачытае?
Хаця вядома ўсім: як ні пішы —
Людскую думку погалас хістае,
Бы вецер — пёрка на капелюшы.
Паэт на пёрка ўвагі не звяртае.
І ўсё ж залежыць, чытачы, ад вас,
Ці стану я працягваць свой расказ.

200 Мая паэма — гэта эпапея
З дванаццаці такіх, як гэта, кніг.
Хачу (але ці здзейсніцца надзея?)
Аб палкаводцах, аб манархах злых,
Аб караблекрушэнні, аб вайне я
І аб каханні напісаць у іх.
А мо і пекла апішу ў манеры
Вергілія, Гамера, Аліг'еры.

201 Мяне сам Арыстоцель — vade-mecum,
Што вабіць недасяжнай вышынёй
Больш дурняў і паэтаў з кожным векам,—
Пераканаў шматграннасцю сваёй,
Што для паэмы гэтай будзе здзекам
Стыль празаічны. Рыфмы трэба ёй!
Тым болей што ў маім распараджэнні
Сваіх разваг і міфаў параджэнні.

202 Ёсць у мяне з эпічнымі братамі
І розніца. Заблытваюць сюжэт
Яны так лабірынтнымі хадамі,
Што іхняй геніяльнай думкі след
Знаходзіцца няпроста чытачамі.
Праўдзівы, зразумелы я паэт
І ўпэўніўся даўно, што якасць гэта
Ўпрыгожвае сапраўднага паэта.

203 Чытач, што сумняваецца ў падзеях
Апісаных! Звярнуцца раю вам
Я да газет, да опер у трох дзеях
І, ўрэшце, да пяціактовых драм.
Ніхто з вас не падманецца ў надзеях:
Што апісаў я — знойдзеце вы там.
Пацвердзяць факт і жыхары Севільі,
Што бачылі Жуана ў замагіллі.

204 Калі займацца стану раптам прозай,
Паэтам напішу я запавет
І ўсіх здзіўлю не ментарскаю позай
(На жаль, звычайна ментар — не паэт) —
Шматлікіх правіл логікай цвярозай.
А назаву я шчыры свой памфлет
«Як барду Арыстоцелем зрабіцца?»
Ці «Як з бутэлькі Лонгіна напіцца?»

205 «Поп, Мільтан, Драйдэн — Апалона дзеці,
А Вордсварт, Колрыдж, Саўці — пасынкі.
Адзін — вар'ят, другі — п'янюга, трэці —
Чапура нудны. Кэмпбэла радкі
Сухія надта. Не трапляй у сеці
Да Мура і да Роджэрса, які
Выдатнейшы паэт, калі прызнацца.
А з Джорджам Крабам лепей не цягацца.

206 Не захапляйся сотбіеўскай музай —
Лятае ля зямлі яго Пегас.
Нікога нагаворамі не тузай,
Як «сінія панчохі» іншы раз.
Пішы, што я ўхваляю, і абузай
Не палічы бяздумна мой наказ.
Калі яго ты ўсё ж праігнаруеш —
Маю незадаволенасць адчуеш».

207 Так я пачаў бы запавет. Калі ты
Распусным лічыш мой раман, чытач,
Не пераходзь, прашу, на крык сярдзіты,
А лепей лёгкасць лексікі адзнач,
Каб нечакана твор мой, з праўды звіты,
Цябе не змусіў перайсці на плач:
Малюнкамі Аіда (не Эдэма),
Дзе злых катуюць, скончыцца паэма.

208 А тым, каго ўсё ж не пераканалі
Мае радкі так, як і ўласны зрок,
І ад каго зноў чую, што маралі
Ім не нясе ніводзін мой радок,
Скажу: «Вы б лепей, сэры, не ілгалі,
Бо надта ўжо няшчыры ваш папрок».
Мне ўсё адно, хто гэты мараліст —
Святар, ці генерал, ці журналіст.

209 Аднак, неабыякавы да славы,
Я веру, што мараль, якую ім
Хачу паднесці ў выглядзе забавы
(Каб зубы праразаліся, малым
Даюць смактаць карэньчык саладжавы),
Адкрыецца ўсё ж маралістам злым.
А навядзе на эпапеі глянец
Часопіс, мной падкуплены,— «Брытанец».

210 Паслаў банкноты заказным пісьмом
Я выдаўцу, бо мець хацеў заруку,
Што мой вясёлы эпас выдаўцом
Ухвалены праз месяц будзе ў друку.
Калі ж акажацца ён ілгуном
І жоўцю абалье мяне,— ні гуку
Не выдам я. Я проста буду знаць,
Што грошы нельга выдаўцам даваць.

211 У выніку свяшчэннага саюза,
Заключанага намі, пахвалы
Ўдастоіцца гарэзлівая муза —
І іншых альманахаў гоман злы
Мне не наб'е ні сіняка, ні гуза.
Я атрымаю выйгрыш немалы,
Хаця і не змагу прыйсці да ладу
Са зграяй «Эдзінбургскага агляду».

212 «Non ego hoc ferrem calida juventa»,—
Зноў цытаваць мне хочацца Гарацыя,
Як і тады, калі мне рыфмы Брэнта
Падказвала — і быў такі гарачы я,
Што знішчыць мог любога рэцэнзента,
І думаю — была ў той помсце рацыя.
Сем год прайшло — і я прывык да торгу.
Вялікі дзякуй Трэцяму Георгу!

213 Хоць трыццаць мне, а галава сівая.
(Якой у сорак зробіцца яна?
Ужо прыглядваўся да парыка я,
Бо з кожным днём радзее сівізна.)
Мая душа даўно не маладая:
Пражыў я лета, як прыйшла вясна.
А як займацца можна барацьбою
З душой спакутаванай і слабою?

214 Якую адчуваў я асалоду
Ад свежасці, што здабываць магла
Уражанні, нібы расінкі мёду
З духмяных кветак — рупная пчала!
Мо ў кветках мёду меней год ад году?
Не! Гэта проста ўрэшце адцвіла
Душа мая і дар згубіла рэдкі —
Удвойваць колькасць мёду кожнай кветкі.

215 Сусвет мне больш ты не заменіш, сэрца!
Раней ты дыхала жыццём адным
З усім, што бачыў, а цяпер, здаецца,
Ты стала назаўжды ўсяму чужым.
Табе цяпер быць чуйным не ўдаецца,
Хоць ты і не зрабілася сляпым.
Замест цябе прыдбаў жыццёвы вопыт.
З гадамі вопыт мае большы попыт.

216 Мяне ўжо не наведае любоў.
Не звар'яцею я ад прыгажосці
Жанчын, дзяўчат і асабліва ўдоў,
Як у гады далёкай маладосці.
Я кінуць смакаваць бардо гатоў.
А каб у несур'ёзнасці з вас хтосьці
Не папракнуў — хварэць, як жмінда той,
Я згодны ліхаманкай залатой.

217 Спаліў, як ідала, я ўласны гонар
На алтарах пакут і асалод.
Сягоння іншая ў мяне ікона,
Як і да славы іншы падыход.
І Бэкану б сказаў я пранікнёна:
«Час быў, час ёсць, і час пайшоў на звод».
На рыфмы я растраціў розум ясны,
На флірт і барацьбу — свой нораў страсны.

218 Што значыць слава? Розгалас шырокі
Ці з іменем тваім слупкі газет?
А мо карасканне на пік высокі,
Што веліччу сваёй здзіўляе свет,
Хаця яго ахутваюць аблокі?
А можа, гэта права на партрэт
Ці манумент, калі арыгінала
Апошняя фаланга прахам стала?

219 Як многа жвіру на труну ні сыпце —
Усё адно мы не пазбегнем тла,
Як мумія Хеопса, што ў Егіпце
Схавана ў першай з пірамід была,
І ўсім здавалася, што часу кіпці
Павек не ўчыняць фараону зла.
Здзяйсняць свае задумы трэба ўпарта,
Жыць дзеля помнікаў сваіх не варта.

220 Як сябар філасофіі няспынна
Сабе я паўтараю самахоць:
«Усё, што нарадзілася, павінна
Памерці некалі, бо наша плоць —
Трава, якую лёс у сена чынна
Ператварае. І ўсё роўна, хоць
Жыццё праходзіць, не крыўдуй на зоры,
Шануй і Біблію, і луідоры».

221 Бывайце, чытачы-пакупнікі!
Дазвольце ўдзячна вам паціснуць рукі.
Калі кранулі вас мае радкі,
У нас не можа доўгай быць разлукі.
Сябе я грэю верай такі,
Што вы чыталі песню без дакукі.
Ну а цяпер я мушу замаўчаць,
Бо не люблю нікому дакучаць.

222 «Ідзі, маленькі том майго натхнення!
Цябе па хвалях я пускаю плыць.
І спадзяюся — словамі ўхвалення
Ты пра сябе свет змусіш гаварыць».
Раз Вордсварт дачакаўся адабрэння,
І я яго павінен заслужыць.
Радкамі Саўці я пачаў актаву.
Не прыпішыце мне чужую славу.

## ПЕСНЯ ДРУГАЯ

1 О выхавальнікі дзяцей іспанскіх
Так, як і выхавальнікі дзяцей
Французскіх, італьянскіх і брытанскіх!
Лупцуйце вучняў як мага мацней,
Выхоўвайце па прынцыпах спартанскіх.
Так будзе для маральнасці лацвей.
Жуана маці «пасвіла» нядрэмна,
А аказалася, што ўсё дарэмна.

2 Каб аддала яна Жуана ў школу
Хаця б у трэці ці чацвёрты клас,
Штодзённыя заняткі ў ім крамолу
Забілі б — і імпэт ягоны б згас.
Ніколі цяга да другога полу
(Ну, скажам, не ў Іспаніі, а ў нас —
На Поўначы) так горача і рана
Не ўспыхнула б у сэрцы Дон-Жуана.

3 І стаць бы ён прычынаю разводу
Ў шаснаццаць год (які канфуз!) не мог.
У нашым выпадку зрабілі шкоду
Мамуля, маразматык-педагог,
Жанчына са спакуслівага роду,
Якую надзяліў красою Бог,
І муж стары, што быў так рэдка дома,
І ў рэшце рэшт сам выпадак, вядома.

4 А што паробіш? Круціцца штосілы
Вакол уласнай восі шар зямны!
Мы з ім жывём, сыходзім у магілы,
Маркоцімся, разгадваючы сны,
Пад вецер прыстасоўваем вятрылы,
Каб урачы, цары, папы, паны
Далі крыху жыцця, віна, кахання,
Вайны, удачы, славы, пакаяння.

5 Жуана ў Кадыс адаслалі, словам.
Пра Кадыс я з пашанай гавару.
Ён быў галоўным горадам гандлёвым
Іспаніі, пакуль маўчаў Перу.
Якія кралі часам вечаровым,
Непадуладныя майму пяру,

Прагульваюцца там па тратуары,
Каб некага знайсці сабе да пары.

6 Жыраф, газель, казуля, аргамак!
Вас грацыяй пераўзыходзяць кралі.
А апранаюцца красуні як!
О гэтыя спаднічкі і вуалі...
А валасы! А ножкі! Словам, смак...
І песні б не хапіла б нам, каб сталі
Мы вартасці ўсе іх пералічаць.
Лепш, Муза сціплая мая, змаўчаць.

7 Ты ж просіш апісаць, як грацыёзна
Яны рукой адкідваюць вуаль,
Каб глянуць пранікнёна і сур'ёзна.
У час пагляд не адвядзеш ад краль —
І сэрца выратоўваць будзе позна.
Я ўжо даўно не бачыў іх, на жаль.
О край любві і сонца! Я ніколі
Забыць не здолею іх фацыолі.

8 Пара вярнуцца да сюжэта нам.
Адправіла Інеса сына, значыць,
У Кадыс, каб ён сеў на судна там,
Не змогшы ні гадзіны палайдачыць.
Чаму? Вядома, пэўна, чытачам.
Хацела (гэта варта патлумачыць)
Яна, каб карабель для сына стаў
Каўчэгам тым, што Ноя ўратаваў.

9 Былі ўжо рэчы ўкладзены слугой.
І хоць Інесы сэрца неспакоем
Напоўнілася, верылася ёй,
Што мужным, чыстым (хай і не героем)
У дваццаць год ён вернецца, як той
Бялюткі голуб, выпушчаны Ноем.
Шмат атрымаўшы грошай і парад,
Жуан чамусь быў толькі першым рад.

10 Яна ж адкрыла школу ў гэты дзень
Для беспрытульнікаў пяцігадовых,
Каб у галовы іх не лезла дрэнь.
І многія з гарэзнікаў дваровых
Устаць падоўгу не маглі з калень

Або адведвалі дубцоў лазовых.
Жуана поспех не ўнушыць не мог
Ёй, што яна — выдатны педагог.

11 І вось Жуан ужо на караблі.
Падняты якар. Пену з хваль зрывалі
Парывы ветру. Кадыскі заліў —
Найгоршы ў свеце. Абдавалі хвалі
І вас бы з ног да галавы, калі
З Жуанам вы б на палубе стаялі.
Іспанскі бераг сплыў за небакрай —
І Дон-Жуан сказаў яму: «Бывай!»

12 Палоска вузенькая сушы роднай,
Што тоне ў хвалях, сэрцы маладых
Заўсёды поўніць скрухай безвыходнай.
Ззяў белатой абрываў мелавых
Брытанскі бераг над раўнінай воднай
Калісьці мне, хоць у берагавых
Дзюн і раўнін любой другой краіны —
Блакітны колер, бы ў смугі ці шкліны.

13 Жуан стаяў на палубе. Сіпеў
Вятрыска злы. Макрэлі хутка робы.
Ад качкі страшнай карабель рыпеў.
Такая траска выверне вантробы.
На жаль, я вам параіць не паспеў:
Найлепшы сродак ад марской хваробы —
Біфштэкс. Асмельцеся пакаштаваць —
І вы не будзеце ванітаваць.

14 Стаяў мой Дон-Жуан каля руля,
Глядзеў, як аддаляецца імкліва
Іспанскі бераг, родная зямля.
Бліскочуць вочы сумна і слязліва
У кожнага, хто бачыць з карабля
Упершыню, расчулены надзіва,
Званіцы залатое вастрыё,
Як нешта незваротнае сваё.

15 Жуан пакінуў у Севільі шмат —
Матулю, палюбоўніцу (не жонку!).
З прычыны гэтай быў не надта рад
Ён пакідаць любімую старонку.

Калі заплакаць можа і салдат,
Хоць хоча выглядаць спакойным звонку,
Пры расставанні з мілым краем, як —
Скажыце мне — стрымацца мог юнак?

16 Ён плакаў, як яўрэі ў Вавілоне.
Адно адрознівала іх, відаць:
Успамінаў Жуан не аб Сіоне!
Я разам з ім не захацеў рыдаць,
Бо поўны сіл (не з думкаю аб сконе)
Ён пачынаў па свеце вандраваць.
І мо ў яго дарожным чамадане
Убачу я раман аб Дон-Жуане.

17 А з судна, паслухмянага рулю,
Салёныя — ў падсоленыя хвалі,
«Прыгожае — прыгожаму» (люблю
Я цытаваць), слёз кропелькі сцякалі.
Так вусны, здрадзіўшыя каралю,
Над свежаю магілаю шапталі,
Калі кідала да труны Афеліі
Іх уладарка ружы і камеліі.

18 «Бывай, мая Іспанія! Бывай!
Магчыма, болей я цябе не ўбачу.
Я счахну без цябе, мой любы край.
І ты прабач, што я сягоння плачу.
Гвадалквівір, таксама выбачай
І пажадай, каб я злавіў удачу.
Бывайце, маці, Джуля»,— ён сказаў
І зноў з кішэні ліст яе дастаў.

19 «О Джуля! Ты мая! Мая навекі!
Калі забуду я цябе, калі...
О не! Хутчэй паветрам стануць рэкі,
Хутчэй утворыцца вада з зямлі,
Чым я знайсці змагу такія лекі,
Што мне б цябе забыць дапамаглі.
(Тут хвалі захадзілі болей злосна —
І Дон-Жуану раптам стала млосна.)

20 Хутчэй з нябёсамі зямля сальецца...
Батыста, Педра! Прынясіце эль...
Чаму так мора на мяне злуецца?..

Ах, як хістае чортаў карабель...
О Джуля! Зараз я памру, здаецца...
Не сеў бы толькі карабель на мель...
О Джуля! Мне сказаць табе ахвота...»
Але яго перапыніла рвота.

21 Юнак на сэрцы адчуваў цяжар
(На страўніку, напэўна, больш дакладна),
Які ўзнікае пры крушэнні мар,
Калі сябры вам здрадзілі зларадна
Або калі нанесла цяжкі ўдар
Вам страта палюбоўніцы і ўладна
Стараецца прывесці вас у шок...
Гайданка — гэта рвотны парашок!

22 Хаця само каханне — ліхаманка,
Хвароб высакароднейшых напор
Яно вытрымлівае, а вятранка,
Ангіна, кашаль, насмарк і адзёр
Яго палохаюць, як тыф ці ранка,
І чуюцца не ўздыхі, а дакор,
Бо чханню, пазяханню і смарканню
Удаецца лёгка зрок вярнуць каханню.

23 Каханне больш за ўсё баіцца рвоты
І засарэння страўніка. Яно
Прыкладвання сурвэтак, як гідоты,
Цураецца, а больш усё адно —
Марской хваробы. Мой чытач, няўжо ты
Не здолеў зразумець ужо даўно,
Якім было Жуанава каханне,
Калі ён з ёю доўга вёў змаганне?

24 Плыло ў Ліворна судна «Трынідада».
Там родзічы Жуанавы жылі,
Якія мелі прозвішча Манкада.
Ліст рэкамендацыйны, што далі
Сябры, каб не перашкаджала звада
Ніякая жыць на чужой зямлі
Майму непаўналетняму герою,
З Севільі роднай вёз Жуан з сабою.

25 З ім тры слугі, ліцэнцыят Педрыла
Плылі ў Італію. Шмат розных моў
Педрыла ведаў, а цяпер паныла

Ляжаў і не казаў ніякіх слоў.
Яго аблічча толькі гаварыла,
Як на зямлі ён хоча быць ізноў.
Вада ў каюту праз пазы лілася
І ўжо амаль да ложка паднялася.

26 Дрыжаў небеспадстаўна паліглот:
Парывы ветру ўсё яшчэ мацнелі,
І так злавесна палымнеў заход,
Што твары пасажыраў спалатнелі,
А маракі (больш стрыманы народ)
Так, як на ўсходзе — неба, спахмурнелі
І сталі дружна ветразі спускаць,
Каб мачты бура не магла зламаць.

27 Змяніў напрамак вецер на зюйд-ост —
І брыг вялізны нахілілі хвалі,
Разбілі ахтэрштэвень і старн-пост
І ўсе асновы судна расхісталі.
Затым ударылі ў карму наўпрост
І ўдарам карабельны руль сарвалі.
Пяць футаў налілося ў трум вады.
І ўсе пра помпы ўспомнілі тады.

28 Разбіўся на дзве часткі экіпаж.
Адна — ваду з адсекаў пампавала.
(А ў карабля быў немалы танаж.)
Другая — ў труме з цечай ваявала
Пасля таго, як разграбла багаж,
І кіпамі мусліну спрабавала
Заткнуць прабоіну, ды не змагла —
Вада ўсё роўна праз яе цякла.

29 Знясіленыя людзі не змаглі б
У тую ноч пазбегнуць гекатомбы —
І кормам сталі б для галодных рыб
Або на дне заснулі вечным сном бы
У затанулым караблі, калі б
Не лонданскія манаўскія помпы,
Бо выпампоўвае тон пяцьдзесят
Вады ў гадзіну гэты агрэгат.

30 Прадрала вочы раніца чарговая —
І стала бура не такою злою.
Ручныя помпы дзве і ланцуговая
Спраўляліся без цяжкасцей з вадою.
Але знайшлася ў буры сіла новая,
Ізноў завылі шквалы над кармою,
Сарвалі з месц гарматы — і пакладзена
Была на бок плывучая грамадзіна.

31 Ляжала судна ў моры на баку,
Вада праз люкі выцякала з трума.
Запомніцца ўсё гэта бедаку,
Які дасюль не зведаў столькі глуму
І столькі гора на сваім вяку,
Які не чуў ніколі столькі шуму.
Згадае і плывец і вадалаз
Відовішча жахлівае не раз.

32 Грот-мачту і бізань спачатку збілі
Матросы, паказаўшы гарт і спрыт,
А потым дружна талакой звалілі
За борт яшчэ фок-мачту і бушпрыт,
Якія небяспечна нахілілі
Адно з марскіх праслаўленых карыт.
Як дзед старэнькі, крэкчучы, марудна
(Але не надта) паднялося судна.

33 О людзі! Уявіце, страх які
На сэрцы адчувалі гэтым часам
Як пасажыры, так і маракі,
Застаючыся з бураю сам-насам!
І, зразумела, ром і каньякі
Яны цягнулі з бочак самапасам,
Упэўненыя, што каньяк і ром
Памогуць ім адчаю зняць сіндром.

34 Наогул верай і глыткамі рому
Сябе імкнёмся супакоіць мы,
Перамагаем страх і нават стому.
Адны пілі. Як злодзеі з турмы,
Другія прыступілі да пагрому,
А трэція пець пачалі псалмы.
І галасы іх разам з бурным морам
Гучалі дружным і магутным хорам.

35 Жуан спыніў нарэшце бучу гэту.
Рашучы, цвёрды, хоць і малады,
Трымаючы ў руках па пісталету,
Нікога ён больш не пусціў туды,
Дзе везлі ром, і сесці на дыету
Ўсім давялося з-за яго тады.
Ніхто не стаў сварыцца з Дон-Жуанам,
Хоць і лічыў, што лепш памерці п'яным.

36 «Давай нам грогу! — маракі раўлі.—
З табой мы ўсе сканаем праз гадзіну».
«Не! — адказаў рашуча ён.— Калі
Нам акіян заменіць дамавіну,
Памром як людзі», хоць яны маглі
За борт шпурнуць настырнага хлапчыну.
Педрыла, што любіў бязмерна грог,
Яго ў Жуана выпрасіць не змог.

37 Нібыта звар'яцеў стары нябога.
Педрыла каяўся ў сваіх грахах,
Ліў слёзы і маліў прачула Бога,
Каб дапамог яму адолець страх,
І пагражаў: «Больш не прасі нічога!
Не выпраўлюся з Саламанкі ў шлях
Я ўжо з табой пасля такога трансу.
Навошта мне нагадваць Санча Пансу?»

38 У рэшце рэшт настаў чаканы дзень.
Сціх вецер ураганны — і надзеі,
Даўно ўжо згубленай, заззяў прамень.
Ніводнай мачты і ніводнай рэі
Не маючы, плыў карабель, як пень.
Забыўшыся на страшныя падзеі,
Больш моцныя зноў сталі пампаваць,
А больш слабыя — ветразі сшываць.

39 Была вялізнейшая лата сшыта.
Яе пад кіль прабіты падвялі —
І цеча прыпынілася нібыта.
І хоць надзей вялікіх не маглі
Ускласці на разбітае карыта,
Ўсе за жыццё змагацца пачалі.
Не меў ніхто з гаротнікаў жадання,
Каб раптам стаў іх месцам пахавання

40 Заліў Ліёнскі. Вецер злы і хвалі,
Што ў борт хвасталі, у яго якраз
Разбіты іхні карабель прыгналі.
У мараплаўцаў не знайшоўся час
Навесіць руль, які валы сарвалі,
Паставіць мачту, замяніць кампас.
Хоць скончылася страшная гарачка,
Плыў карабель намнога горш, чым качка.

41 Хоць ведаў кожны з іх ужо тады,
Што ў рэшце рэшт патоне бедалага,
Цяжэй было ім ад другой бяды:
Цяпер усіх іх катавала смага,
Бо скончыўся запас пітной вады.
Ні берага, ні ветразя, ні сцяга
Не ўбачылі матросы ў тэлескоп,
А толькі — хмар нястрыманы галоп.

42 Здзіўляюся я вытрымцы марацкай!
Хоць рэшатам стаў неўзабаве брыг,
Як жартамі, так і работай хвацкай
Яны бадзёрылі сяброў сваіх.
Ды помпы сапсаваліся — і цацкай
Зрабіўся карабель для хваль марскіх,
Што заняліся зноў гульнёй, падобнай
Суровасцю да бойкі міжусобнай.

43 Стары цясляр з вільготнымі вачыма
Прыйшоў да капітана і сказаў:
«Далей тут заставацца немагчыма».
Спакойны, неплаксівы — плакаць стаў
Ён раптам не ад страху, як жанчына,
А ад таго, напэўна, што згадаў
Дзяцей і жонку, што яго чакаюць
І позіркаў з дарогі не спускаюць.

44 У хвалі судна апускала нос.
І гэта ўсіх палохала, вядома,
Адны прасілі міласці ў нябёс,
А іншыя стаялі нерухома
І не звярталі ўвагі на хаос.
Больш дужыя, хоць з ног валіла стома,
Насілі бочкі. Нехта пажадаў,
Каб паліглот яго паспавядаў.

45 Хтось апранаў найлепшае з адзення,
Зацягваў залатыя паясы,
А хтосьці праклінаў дзень нараджэння
І з воем рваў ад крыўды валасы.
А тыя, што ад караблекрушэння
Ў адчаі не павесілі насы
І стоена зубамі скрыгаталі,
Баркас і катэр на ваду спускалі.

46 Пасля няўдалага выратавання
Старога судна ў бедных маракоў
Амаль не засталося харчавання,
Бо той, хто хутка зграю мерцвякоў
Папоўніць, не выносіць галадання.
Кадзь масла і дзве бочкі сухароў
У катэр пагрузілі небаракі,
Пакуль не з'елі іх марскія ракі.

47 Змаглі ў баркас больш пагрузіць прыпасаў:
Пяць фунтаў хлеба, бак вады пітной,
Бутэлек некалькі віна і мяса
Салёнага дзве шынкі — па адной
(Як гэта мала для ўсяго баркаса!)
Цялячай шынцы, па адной свіной —
І рому бочачку на два вядзерцы,
Каб весялей было ва ўсіх на сэрцы.

48 Дзве лодкі, як і шлюпка, што магла
Ўзяць шмат каго, даўно былі разбіты,
А ў катэр з мачтай, зробленай з весла,
І з ветразем, што з коўдраў быў пашыты,
Вада таксама з-пад кармы цякла.
Яго чакалі страшныя іспыты.
Палову экіпажа ўзяць баркас
І катэр не маглі, на жаль, зараз.

49 Было сутонне. Чорнаю заслонай
На пустку водную спускаўся змрок.
Нянавісць пад накідкаю ягонай,
Здавалася, хавалася знарок,
Каб цікаваць у цемрадзі замглёнай
Ахвяр, якім не дапаможа зрок.
Дванаццаць сутак бура іх пужала,
Цяпер у цемрадзі іх смерць чакала.

50 На задняй палубе рабілі плыт
З рэй і бачурак нейкія вар'яты,
Што неўзабаве кануць у нябыт.
У ход ішлі вяроўкі і канаты.
Другіх вар'ятаў рагатаць наўзрыд
Прымусіў бы занятак дзіўнаваты,
Бо толькі цуд у гэты дзень, відаць,
Гаротнікаў тых мог уратаваць.

51 У восем вечара перагародкі,
Куратнікі ўзвалілі на яго,
Хаця надзейней і лягчэй усё-ткі
Гаротнікам не стала ад таго.
Народам перапоўненыя лодкі
Ужо плылі ад карабля свайго,
Калі пайшоў на дно — у вечны морак —
Ён пры святле трох невялікіх зорак.

52 Да неба змрочнага ўзняліся крыкі
Людзей, застаўшыхся на караблі.
А некаторыя пад лямант дзікі
Нырца ў адчаі з карабля далі,
Калі яго ў водаварот вялікі
Штурхаць, бы ў пекла, хвалі пачалі.
Так барацьбіт павалены звычайна
Пад пераможцам круціцца адчайна.

53 Быў болей гучны, чым раскаты грому,
Крык мараплаўцаў, што ішлі на дно,
Але яго валам і ветру злому
Ўдалося заглушыць усё адно.
З апошніх сіл перамагалі ўтому
Плыўцы — і на вадзе было відно
Цел некалькі, што ўздрыгвалі ў агоніі
Пад гукі той жахлівай какафоніі.

54 Адчалілі ад карабля дзве лодкі,
Як нам вядома, поўныя людзей,
Але да берага даплыць усё-ткі
У іх ніякіх не было надзей,
Хоць людзі і не надрывалі глоткі:
Сустрэчны вецер дзьмуў усё мацней!
У катэр села дзевяць душ, а трыццаць
Тады ў баркас паспела забурыцца.

55 Астатнія загінулі. Душ дзвесце
Да цел сваіх ужо не прыляцяць.
Калі каталік згіне ў моры дзесьці,
Яго не скора стануць адпяваць —
І зробіць ён не хутка ў рай ушэсце,
Таму што родзічы не будуць знаць,
Дзе пахаваны тленныя астанкі,
А паніхіды кошт — ажно тры франкі.

56 Жуан не ў катэр трапіў, а ў баркас.
І заштурхнуць паспеў туды Педрыла —
Свайго настаўніка. У гэты час
Так голасам Жуана гаварыла
Ажыўленая мужнасць, што ў адказ
Педрыла толькі скавытаў паныла.
Ну а Батыста (ці іначай — Ціт)
Ад aqua vita кануў у нябыт.

57 На жаль, Жуан тады не ўратаваў,
Як ні стараўся, і слугу другога.
Сваю магілу Педра адшукаў
У роме і вадзе. За борт нябога,
Калі ў баркас яго Жуан спускаў,
Упаў, бо рому выпіў надта многа.
Ніхто і ўвагі нават не звярнуў,
Што Педра ў мора бурнае нырнуў.

58 У Дон-Жуана быў малы сабака,
Які раней належаў дон Хасэ.
На палубе круціўся небарака,
Бы адчуваў, *што* гэты шторм нясе.
Жуан схапіў яго і кінуў з бака
Ў баркас вялізны, у якім усе
Чакалі адплыцця ўжо нецярпліва,
І ўніз нарэшце сам саскочыў жыва.

59 Прымаў імгненна Дон-Жуан рашэнні
І ўпэўнены ў зыходзе лепшым быў.
Ён не згубіў пры караблекрушэнні
Развагі і ўсе грошы прыхапіў.
Ліцэнцыята і свае кішэні
Каштоўнымі паперамі набіў,
Бо для настаўніка было ўсё роўна,
Што вытвараў з ім вучань, безумоўна.

60 Нагадвала начная цемра смаль.
Парывы ветру ветразь разрывалі,
Калі ўзнімалі лодку мышцы хваль.
Калі ж яна зноў звальвалася з хвалі,
Звісаў ён і не дзейнічаў амаль.
Вадой халоднай хвалі аблівалі
Людзей, што ратаваліся, карму —
І катэр кануў у марскую цьму.

61 Забрала смерць яшчэ дзевяцярых.
Баркас пакуль што на вадзе трымаўся,
А над баркасам ветрам, што не ціх,
Пашыты з коўдраў ветразь надзімаўся.
І хоць баяліся, каб і для іх
Не стаў апошнім ранак, што займаўся,
Жывыя ўсё ж аплакалі сяброў,
Кадзь масла і дзве бочкі сухароў.

62 Над морам вогненнае сонца ўстала.
Што будзе бура зноў і што яна
Не сціхне скора, гэта азначала.
Па крошцы хлеба, па глытку віна
Гаротная каманда атрымала.
Была магчымасць у яе адна —
У лахманах насіцца ўсцяж па моры,
Але не праяўляючы пакоры.

63 Былі абмежаваны цеснатой
Гаротнікі. Таму адны стаялі,
Пакуль другія спалі, хоць вадой
У гэты час іх залівалі хвалі,
І зрошаную спіну да другой —
Такой жа мокрай — спіны прыцiскалі.
Ім замяняла шмоцце апранах
Плашчы, а неба — парасон і дах.

64 Жаданне жыць нам замяняе лекі.
Вылечваюцца, сведчаць дактары,
Нярэдка безнадзейныя калекі,
Калі жанчыны, ворагі, сябры
Навекі не закрыюць ім павекі.
Нажніцамі іх нітку да пары
Не пераржа Атрапос ніколі.
Адчай дачасна абрывае болі.

65 Жывуць даўжэй за іншых крэдыторы.
Чаму? Бог толькі можа гэта знаць.
Хутчэй за ўсё, што ім на нашым горы
Прыемна капіталы нажываць.
Найгоршыя — яўрэйскія канторы.
Яны любога могуць раззлаваць.
Калісь я карыстаўся іх пазыкай
І разлічыўся з цяжкасцю вялікай.

66 Адною прагаю жыцця жылі
Ў бяспалубным баркасе бедалагі.
Хаця гаротнікі і знемаглі
Ад холаду, ад голаду, ад смагі,
Яны як скалы цвёрдыя былі
Для хваль бязлітасных ад гэтай прагі.
Ўратаваліся калісьці Ной
І арганаўты дзякуючы ёй.

67 Ды чалавек — драпежная істота.
Не да травы балотнай, як кулік,
Што хваліць узахлёб сваё балота,
Да мяса з малалецтва ён прывык,
Як тыгр або акула. Антрыкоту
Нікому не заменіць халаднік.
Народ (у першую чаргу — рабочы)
Да вегетарыянства не ахвочы.

68 Без мяса цяжка абысціся нам.
На трэці дзень аселі хвалі-гмахі —
І штыль праліў на члены ўсе бальзам.
Заснулі, як марскія чарапахі,
Гаротнікі і аддаліся снам
На воднай гладзі, покуль ежы пахі
Не разбудзілі іх. Бы крумкачы,
Накінуліся людзі на харчы.

69 І хоць плыўцы выдатна разумелі —
Так нельга паструпаць, усё адно
Гаротнікі прыпасы ўмомант з'елі
І выпілі адразу ўсё віно.
Вар'яты круглыя надзею мелі,
Што іх прыб'е да берага — і дно
Баркаса шкрабане па гальцы ўрэшце.
Дарма крычаў Жуан: «Усё не ешце».

70 Настаў чацвёрты дзень. Драмала мора,
Як немаўля ля матчыных грудзей.
І ў пяты дзень на месцы, як на гора,
Стаяў баркас і не ўсяляў надзей.
Адчаем напаўнялі голад, змора
З адным вяслом застаўшыхся людзей.
Жуан расстаўся з бацькавым сабакам,
Якога з'елі весляры са смакам.

71 На шосты дзень Жуан, які адведаць
Так не хацеў сабачага рагу,
Што напярэдадні не стаў абедаць,
Бо адчуваў самоту і тугу,
Быў голадам прымушаны паснедаць
І тонкую пярэднюю нагу
Свайго сабачкі раздзяліў з Педрыла,
Якому б і ўсіх лапак не хапіла.

72 Дзень сёмы, а надзей на вецер свежы
Світанне мараплаўцам не дало —
Іх целы, быццам трупы без адзежы,
Зноў вогненнае сонца апякло,
А ў маракоў вады, віна і ежы
Зусім ужо ў запасе не было.
Драпежнасць, неашчаднасць і нядбальства
Людзей наблізілі да канібальства.

73 Шапнуў адзін суседу штось на вуха,
А той — суседу, што за ім сядзеў...
Злавесны гоман пакаціўся глуха
Па дзікай азвярэлай грамадзе,
Бо кожны з бедакоў суседа слухаў
Так, быццам даў ужо адпор бядзе.
І жэрабя ўсе вырашылі кінуць,
Хто ў гэты дзень павінен з іх загінуць.

74 Але зазначыць трэба, што спачатку
Усё скуранае з'елі бедакі —
Шмат чаравікаў, не адну пальчатку,
Усе папругі, боты, кашалькі.
І толькі потым сталі па парадку
Цягнуць з фуражкі мокрай нумаркі.
Прычым яны білецікі згарнулі
З парванага пісьма гаротнай Джулі.

75 Прапанаваў жа гэту панацэю
Не хтось з гаротнікаў. Як да арла,
Што быў наканаваны Праметэю,
Яна да іх, знясіленых, прыйшла
Патрабаваннем плоці. Даць надзею
Гаротнікам адна яна магла.
Дастаўся першы нумар нечакана
Няшчаснаму настаўніку Жуана.

76 Памерці толькі ад кровапускання
Ён пажадаў. І так цырульнік кроў
Пусціў яму, што моманту скanання
Не вызначыў ніводзін з бедакоў.
Католік — рытуал ахвяравання
Педрыла здзейсніў з вераю бацькоў:
Пацалаваўшы абразок Марыі,
Ён даў надрэзаць жылы рук і шыі.

77 Хірург ад права першага куска
Адмовіўся і сілкавацца мясам
Не стаў, бо думаў: лепей ад глытка
Крыві жывой няма нічога часам.
На часткі падзялілі бедака,
А дзвюм акулам злым, што за баркасам
Плылі, вантробы кінулі за борт
І падкармілі жудасны эскорт.

78 Для ўсіх (за выключэннем чатырох
Ці трох, не надта прагных да мяснога)
Стаў ежаю Жуанаў педагог —
І ў міг адзін быў з'едзены нябога.
Як і сабачкам, Дон-Жуан не змог
Паласавацца плоццю педагога.
Наогул, цяжка нават уявіць,
Як мог ён голад сябрам наталіць.

79 Ён добра паступіў, бо людаедства
Больш сквапных да вар'яцтва давяло.
О Госпадзі! Якое гэта бедства
Жахлівае і страшнае было!
Якое зла і роспачы суседства!
Уратаваць нішто іх не магло.
Раўлі вар'яты, раздзіралі вены
І паміралі з рогатам гіены.

80 Лік бедакоў паменшыўся намнога,
Але шчаслівымі былі, відаць,
Гаротнікі, якія ўжо на Бога
Надзей ніякіх не маглі ўскладаць,
Бо страцілі прытомнасць. На другога
Асуджанага сталі паглядаць
Больш дужыя з парушанага брацтва,
Каго не напалохала вар'яцтва.

81 Павінен быў памочнік капітана
Стаць ежаю для ўсіх на гэты раз,
Ды з доляю ахвярнага барана
Той не згадзіўся, буркнуў у адказ:
«На жаль, я хворы. Пэўна, tertiana».
Але галоўнае, што ў гэты час
Ён падарунак паказаў — той самы,
Які паднеслі кадыскія дамы.

82 Між тым яшчэ не справіліся з прахам
І паліглота нашы едакі.
Адны з іх адварочваліся з жахам
Ад праху, а другія бедакі
Хоць ім закусвалі, але са страхам.
Жуан свінцовай соскі з-за шчакі
Не даставаў. Пра мерцвяка забылі,
Калі дзвюх чаек у сіло злавілі.

83 Каб не бянтэжыў лёс Педрыла вас,
Згадайце Угаліна, што зубамі
Грыз ворага, закончыўшы расказ.
У пекле — ворагамі, а сябрамі
Ў бядзе падсілкавацца самы раз.
Цікава, што рабіць вы сталі б самі,
Калі б закончыўся ў вас правіянт?
Ці стаў бы вас тады палохаць Дант?

84 Дождж уначы пайшоў — і пачалі
Лавіць ратамі ўсе дажджынкі. Гэта
Нагадвала, як трэшчыны зямлі
Струмені жлукцяць у сухое лета.
Калі ў пустыні вы хоць раз былі —
І вас гняла бязводная дыета,
Сябе хацелі вы ахаладзіць
У студні той, дзе ісціна сядзіць.

85 Лілася вадкасць з неба, як з вядра.
Нябогі палатном яе лавілі,
А потым выціскалі. І шкада,
Што не адразу так яны рабілі.
Была б нясмачнай гэтая вада
Для рудакопаў, а плыўцы хвалілі
Напой нябесны. Быў ён саладзей
За портэр для знясіленых людзей.

86 Быў той напой смачнейшы ад сыты.
Парэпанымі да крыві губамі
Пілі яго іх прагныя раты
З распухлымі ад смагі языкамі,
Бы ў пекле ў багачоў, да чарнаты.
Калі так абысціся з багачамі
Хоць зрэдку можа Ўсёмагутны Пан,
Павагі варта вера хрысціян.

87 Плылі з сынамі двое небаракаў.
Дык вось, калі з хлапцоў памёр адзін,
Ягоны бацька не ўздыхаў, не плакаў.
Глядзеў на сына некалькі хвілін
Ён, не падаючы ніякіх знакаў,
І раўнадушна сузіраў, як сын
Ад іх удалеч адплываў паволі,
І гаварыў: «Мы ўсе ў Гасподняй волі».

88 Быў сын другога старца болей хілы,
Але і больш трывалы маладзён.
Пяшчотны, недакучлівы і мілы —
Спакойна лёсу пакарыўся ён
І ўсё адно яшчэ знаходзіў сілы
Ўсміхацца бацьку цэлых восем дзён,
Бо той баяўся жудаснай разлукі
І з тварам спахмурнелым зносіў мукі.

89 Сядзеў у задуменнасці глыбокай
Ля сына ён і пену выціраў
З ягоных губ паслужліва, як лёкай.
Калі нарэшце лівень зацурчаў
І вочы са смяротнай павалокай
Юнак расплюшчыў, бацька сыну даў
Паласавацца падарункам неба,
Ды сыну гэта ўжо было не трэба.

90 Юнак памёр. Са смуткам у вачах
Ягоны бацька, стынучае цела
Трымаючы ў знясіленых руках,
Глядзеў на сына тупа, звар'яцела.
Калі аднесці нерухомы прах
Марская плынь на футаў сто паспела,
Чамусьці раптам задрыжаў стары
І сам упаў вачамі дагары.

91 І ў гэты момант, адшукаўшы ў моры
Для аркі сямікалернай сваёй
Нарэшце дзве надзейныя апоры,
Успыхнула вясёлка над вадой.
Лунаў, як сцяг свабоды, у прасторы
Нябесны знак над роўняддзю марской.
Ды круг бліскучы знік у хуткім часе
З вачэй няшчасных, што плылі ў баркасе.

92 Знік сын вады і сонца — радавіты
Хамелеон, што быў у сінізне
Народжаны, у пурпуры абмыты,
Хрышчоны ў залацістай жаўцізне
І ў фіялетавай імгле спавіты.
Як месяцам на мінарэце мне
Здаецца ён, так і крывападцёкам
Шматкаляровым пад падбітым вокам.

93 Ён бліснуў угары як добры знак,
Як сімвал абнадзейваючы некі.
Карысна іншым часам думаць так.
Так думалі і рымляне, і грэкі.
І ажывіўся кожны небарак,
Нібыта выпіў ад адчаю лекі.
Нябесны велічны калейдаскоп
Надзеяй азарыў ягоны лоб.

94 У гэты час прыгожы белы птах,
Што голуба нагадваў і якога,
Напэўна, прытаміў далёкі шлях,
Над мачтай праляцеў, нібы нябога
Хацеў на мачту сесці на вачах
Ва ўсіх плыўцоў, хаця было іх многа.
Да вечара над імі ён лятаў —
І гэтаксама добрым знакам стаў.

95 Але прадвеснік-птах тады не сеў
Усё ж на мачту, як на шпіц сабора,
Бо ў рэшце рэшт, напэўна, зразумеў,
Што зробіць гэта ён сабе на гора.
Калі б ён сеў, то гурт галодны б з'еў
Яго з вантробамі ў той вечар скора.
Каб нават голуб Ноя завітаў,
Ніхто б з ім цырымоніцца не стаў.

96 Ноч крылы распасцерла, бы груган.
Заззялі зоры. Вецер узмацніўся.
Паплыў баркас імкліва — і туман
Людзей, якім жаданы бераг сніўся,
Уводзіў, быццам фокуснік, у зман.
Пачулі, як прыбой у бераг біўся,
Нябогі некаторыя, а шмат
Плыўцоў пачула выстралы гармат.

97 На досвітку раптоўна вецер сціх,
Патух над галавою полаг зорны —
І нечакана для бадзяг марскіх
«Зямля! Зірніце!» — закрычаў дазорны.
Прачнуліся плыўцы — і кожны з іх
Убачыў бераг. І не ілюзорны!
Высокі, ясны! Да яго якраз
Яны накіравалі свой баркас.

98 Шмат хто ад шчасця раптам зарыдаў,
А хтосьці з бессэнсоўнымі вачыма
Страх ад надзеі адрываць пачаў.
А той, хто выяваў непрымірыма
Дагэтуль з вераю, маліцца стаў,
Хоць думаў, што такое немагчыма.
На дне баркаса непрабудным сном
Нядрэнна спалася бадзягам тром.

99 А потым небаракам чарапаху
Пароды рэдкай «сакаліны нос»,
Якую хвалі гойдалі, як плаху,
Падараваў неспадзявана лёс.
Адзін — Ісусу, а другі — Алаху
За гэта ўдзячнасць шчырую прынёс,
Бо кожны з іх паверыць быў гатовы,
Што гэты выпадак невыпадковы.

100 А бераг набліжаўся непрыкметна —
І краж гарысты паступова рос.
Ніхто з бадзяг не мог сказаць канкрэтна,
Куды іх вецер зменлівы занёс.
Адны сцвярджалі, быццам гэта Этна,
Другія ўпэўнівалі, што — Радос.
І Кандыяй, і Кіпрам называлі
Той востраў, да якога падплывалі.

101 Ён бліскаў, як вялізная карона.
Чатыры здані несла да яго
Ў баркасе плынь, бы ў чоўніку Харона.
Былі тры трупы, акрамя таго,
У ім, ды сіл, каб у марское лона
Іх кінуць, не хапіла ні ў каго.
Акулы дзве плылі за бедакамі,
Б'ючы па хвалях жвава плаўнікамі.

102 Знямоглыя, худыя бедакі
Жахліва выглядалі ў момант гэты.
Страх, смага, голад, спёка, свежакі
Ператварылі бедных у шкілеты.
З іх ледзь не ўсе былі ўжо мерцвякі,
Таму што не выконвалі дыеты —
І паліглота тлушч з крыві сваёй
Выводзілі салёнаю вадой.

103 Яны ўжо ясна бачылі абрысы
Дрэў, што раслі на дзіўных берагах.
Іх вабілі платаны, кіпарысы,
Кустоўе і падлесак на гарах —
І дэкарацыямі відарысы
Пагойдваліся ў стомленых вачах
На фоне неба бледнага, пустога
І зацянялі бездань мора злога.

104 Хоць следу чалавечага жытла
Не бачылі на беразе бадзягі,
Які ад іх падводная скала
Ў той момант аддзяляла, бедалагі
(І небяспека не дапамагла
Утаймаваць ім невыноснай прагі
Адчуць зямлю нарэшце пад нагой)
На рыф баркас накіравалі свой.

105 У хвалі роднага Гвадалквівіра
Даваў з маленства мой герой нырца —
І ўменне плаваць, прызнаюся шчыра,
Ён прымяняў на справе без канца.
Яшчэ ніколі не ўхваляла ліра
Такога смелага, як ён, плыўца.
І Гелеспонт ён пераплыў бы следам
За мной, Леандрам і за Экенгедам.

106 У бойку з хвалямі ўступіў ён смела,
Не баючыся цяжкай барацьбы,
І, як заўсёды, верыў, зразумела,
Што пераможа, хоць і быў слабы.
Другога бедака акула з'ела,
А трэці і чацвёрты (з іх любы
Гвадалквівір не пераплыў бы) сталі
Тады здабычаю высокай хвалі.

107 Няпроста выбрацца на бераг з мора
Знясіленаму юнаку было,
Хоць рухаўся ў вадзе ён больш бадзёра.
Каб хлопец не схапіўся за вясло,
Яго, відаць, угамавала б змора —
І ўратавацца мора б не дало.
Уплаў і ўброд ён да зямлі памкнуўся
І ўрэшце тварам у пясок уткнуўся.

108 Каб зноў у мора грознымі валамі
Яго не змыла з молатай жарствы,
З апошніх сіл знямелымі рукамі
Жуан — спакутаваны, ледзь жывы,
З патухлымі, запалымі вачамі —
Схапіўся за пясок берагавы.
Наперадзе яго была пячора,
Якую ў скалах выдзеўбала мора.

109 Паспрабаваў праз дзве ці тры мінуты
Жуан устаць, ды на калені ўпаў.
Затым, не тоячы душэўнай смуты,
Вакол сябе ён углядацца стаў,
Але ніхто з ім раздзяліць пакуты
Ужо не мог. Вачамі напаткаў
Ён толькі цела марака старога,
А са сваіх таварышаў нікога.

110 Памерламу ад смагі мерцвяку
Зайздросцячы, напэўна, падсвядома,
Ён лёг ізноў і доўга на пяску
Разгушканым валяўся нерухома,
А гэтым часам розум юнаку
Уладна затуманьвала ўжо стома.
Слабы і бледны Дон-Жуан ляжаў
І ў неба шкадаванне выклікаў.

111 Жуана страхі больш не турбавалі,
Бо праваліўся ён у небыццё.
Дзень з ноччу для яго не існавалі.
Ды ўрэшце пульсу ціхае біццё
І членаў рухі вялыя сказалі,
Што да яго вяртаецца жыццё.
Смерць ад сябе, нібыта кошка — мышку,
Сваю ахвяру адпусціла крышку.

112 Расплюшчыў вочы, каб у хуткім часе
Ізноў заплюшчыць, асцярожна ён.
Яму здалося, быццам у баркасе
Яшчэ плыве, а ўсё, што бачыць,— сон.
На беразе ляжаў ён, як на пласе,
І марыў, каб хутчэй прыходзіў скон.
Калі другі раз ён расплюшчыў вочы,
То ўбачыў ясна мілы твар дзявочы.

113 Дзяўчына юная, рукой пяшчотнай
Ласкаючы хлапца, які аслаб,
І скроні схаладнелыя вільготнай
Насоўкай часам змочваючы, каб
Хутчэй сістэмаю кровазваротнай
Кроў прапускалася, з драпежных лап
Няўмольнай смерці вырвала хлапчыну;
Уздыхамі аддзячыў ён дзяўчыну.

114 Затым, дазволіўшы глыток віна
Жуану выпіць, плашчыкам накрыла
Гаротніка знямоглага яна
І да сябе на грудзі палажыла
Ласкава галаву прыгажуна.
Напружана за ім яна сачыла
І выціскала з валасоў рукой
Трывожна кроплі вільгаці марской.

115 А потым клапатліва, з асцярогай
Дзяўчына перанесла ў цёмны грот
Знямоглага Жуана з дапамогай
Служанкі станістай і пасярод
Каморы з каменістаю падлогай
Агонь расклала. Блікаў карагод
У хуткім часе выхапіў з цямрэчы
І стройны стан, і мілы твар, і плечы.

116 Чало яе ўпрыгожана было
Бліскучай дыядэмай дарагою.
І абцякалі гэтае чало
Каштанавыя локаны ракою.
Амаль да пят іх рэчышча вяло,
Хоць і была дзяўчына немалою.
Казала постаць прыгажуні той,
Што ўсіх яна ўтрымае пад пятой.

117 Былі ў астравіцянкі маладой
Каштанавыя валасы, а вочы
І вейкі, што хавалі пад сабой
Загадкавае штосьці,— чарней ад ночы.
Здаваўся растрывожанай змяёй
Дапытлівы пагляд яе дзявочы.
Ён працінаў, як вострая страла,
Якая з лука пушчана была.

118 Такую ўспомніш — ахіне журба!
Хоць лоб яе быў не такі высокі,
Пад асляпляльнай белатой ілба
Зарой вячэрняй палымнелі шчокі,
А верхняя маленькая губа
Нібыта млела ад уласнай спёкі.
Яшчэ ніколі скульптары-хлусы
Не ўвасаблялі гэтакай красы.

119 А зараз трэба растлумачыць вам,
Чаму назваў я скульптараў хлусамі.
Не так даўно я захапляўся сам
Ірландскай лэдзі з гэткімі плячамі,
Што не ўдалося скульптарам-хлусам
У мармуры ўвасобіць іх разцамі.
Ніводзін імі высечаны бюст
Не здавальняў патрабавальны густ.

120 Так выглядала і дачка пячоры.
Былі прасцей намнога і ярчэй,
Чым у іспанак, прыгажуні ўборы.
Не бачыў ні адной з іспанскіх фей
Я ў сукні, на якой цвітуць узоры.
Каб стаць загадкавей і прыгажэй,
Гарэзніцы Мадрыда і Севільі
Баскіны апранаюць і мантыльі.

121 Прывабна бліскалі праз валасы
У цемры золата і самацветы.
Падвескі гэткія і паясы,
Такія дарагія бранзалеты
І пакрывалы гэтакай красы
Не носяць у Іспаніі кабеты.
На ступні дзіўных беласнежных ног
Былі абуты туфлі... без панчох.

122 Сяброўка болей сціпла выглядала.
Ў яе густых кароткіх валасах
Не дарагое золата блішчала,
А серабро (відаць, яе пасаг),
І не карункавае пакрывала
На ёй было. Няўпэўненасць і страх,
Хаця яны дзяўчынаю хаваліся,
Ў яе вачах маленькіх адбіваліся.

123 Майму Жуану вопратку яны
З увагай вытанчанай падавалі,
На што жанчыны здатныя адны,
І звараным булёнам частавалі.
На жаль, дагэтуль барды-пеюны
Такі булён яшчэ не апявалі.
Гамераўскі Ахіл не падаваў
Сваім гасцям такіх цудоўных страў.

124 Каб за прынцэс не прынялі, аднак,
Вы ўсё ж загадкавую пару гэту,
Тым больш што я стараюся ўсяляк
Тайн пазбягаць і кожнаму паэту
Рабіць пераканаўча раю так,
Паведамлю (ну, скажам, па сакрэту):
Былі служанка гэта і дачка
Заўзятага старога рыбака.

125 Па сутнасці, і зараз рыбаком
Ён быў, хоць спалучаў стары занятак
З найболей прыбытковым рамяством,
Якое забяспечвае дастатак.
Аздобіў золатам і серабром
Сваю дачку ён з галавы да пятак.
І кантрабандай, і пірацтвам ён
Здабыў піястраў ледзьве не мільён.

126 Прыпадабніўся ён Пятру Святому —
Лавіў людзей, а потым на базар
Вёз іх у Турцыю, як бочкі рому,
І прадаваў, бо немалы навар
Прыносіў спрытнаму ваўку марскому,
Што судны рабаваў, жывы тавар.
А рабаваў ён і малыя судны,
А іншы раз і карабель аблудны.

127 Ён грэк ад нараджэння быў і вёў
Свой незвычайны гандаль паспяхова,
Бо на адным з Цыкладскіх астравоў
Дом збудаваў — шыкоўны дастаткова.
Было ў ім шмат карцін і дываноў.
Стаялі статуі каля алькова.
Хоць іх зрабілі і не партачы,
Ды ў гусце ўсходнім. Варварскім, лічы.

128 Гайдэ — адзіная дачка пірата —
Са спадчынніц усіх на астравах
Была такой прыгожай і багатай,
Але і самы дарагі пасаг
Не варты быў усмешкі зухаватай,
Што ззяла весела ў яе вачах.
Яна расла, як дрэўца на свабодзе,
І жаніхі былі ў яе не ў модзе.

129 Калі свяціўся захад палымяна,
Каля падножжа скал берагавых
Галоднага і голага Жуана
Красуня ўбачыла і ў першы міг
Збянтэжылася нават нечакана,
Ды бледнасць шчок (амаль што нежывых)
І слабасць, ахапіўшая нябогу,
Прымусілі прыйсці на дапамогу.

130 Красуня не магла ў бацькоўскі церам
Яго прывесці, бо, як мыш — катом,
Быў злоўлены б іспанец флібусцьерам.
Прыняў бы іншаземца той у дом
І вылечыў бы, ды з адным намерам,
Каб юнака зрабіць сваім рабом
І выгадна прадаць на рынку потым,
Наканаваўшы быць яму ілотам.

131 Занеслі ў грот Жуана па парадзе
Разважлівай служанкі, і калі
Жыцця прыкметы ў стомленым паглядзе
У рэшце рэшт з'яўляцца пачалі,
Красуні сэрцы добрыя спагадзе
Адразу безаглядна аддалі.
Спагада ж (я за Паўлам паўтараю)
Прыадчыняе нам вароты раю.

132 Расклалі вогнішча яны. У ход
Ішлі ашчэпкі караблёў і лодак,
Што побліз разбіваліся штогод.
Ад суму полымя найлепшы сродак —
Павесялеў адразу цёмны грот.
Гарэзніцам хапіла б тых знаходак
(Кажу — знаходак, разумею — дроў)
Не меней чым на дваццаць пяць кастроў.

133 Гайдэ Жуана, што ляжаў без руху,
У футра загарнула, а ля ног
Паклала сабаліную апуху.
А каб у штосьці апрануцца мог
Гаротнік наш, як набярэцца духу,
Паабяцаўшы каву, хлеб, тварог
І яек шмат прынесці, маладзіцы
Пакінулі Жуану па спадніцы.

134 Яны пайшлі. Сагрэўся паступова
Ён і заснуў імгненна. У такі
Глыбокі сон (і то, відаць, часова)
Правальваюцца толькі мерцвякі.
Ніякая страшэнная выснова,
Што б'ецца з супакоем учубкі,
Пакуль мы спім, яго не катавала
І стомленай душы не дратавала.

135 Спаў моцным сном Жуан, як я сказаў,
Але Гайдэ, выходзячы з пячоры,
Пачула, быццам ён яе пазваў,
Бо сэрцы ўсе, як языкі і пёры,
Умеюць памыляцца. Ён не знаў
Яе імя, а ёй у раз каторы
Здалося, што яно зляцела з губ
Таго, хто быў Гайдэ, напэўна, люб.

136 Задумліва дамоў яна ішла
І прымушала быць маўклівай Зою,
Якая ведала, чаму была
Дачка пірата ціхаю такою,
Бо лішні год на свеце пражыла.
Ахопленая страсцю маладою,
Яна з карысцю правяла яго
І добра разумела шмат чаго.

137 Спаў доўга Дон-Жуан у глыбіні
Пячоры, бо ў яе не пранікалі
Ні ранішняга сонца прамяні,
Ні шум, які яшчэ ўчынялі хвалі,
Бо ночы ўсе апошнія і дні
Спаць юнаку пакуты не давалі.
А вынес ён трывог, пакут і бед
Не меней, чым мой знакаміты дзед.

138 З Гайдэ было не гэтак. Вечар цэлы
І ноч усю круцілася яна
І неспакойна ўздрыгвала ў пасцелі.
Крушэнні сніліся ёй давідна
І юнакоў аголеныя целы.
Відаць, іх прыгажосць і галізна
Красуню надта ўразілі. Служанку
І ўсіх рабоў яна ўзняла адранку.

139 Тады ў Гайдэ з'явілася патрэба
Не ўбачыць Дон-Жуана — паказаць
Рабам і слугам калясніцу Феба,
Што неўзабаве будзе выязджаць
З-за гор засмужаных на ўскраек неба
І змусіць птушак зноўку шчабятаць.
Як урачыста Фебавы праменні
Знімаюць з гор жалобныя адзенні!

140 Феб выязджае надта грацыёзна!
Я ноч не спаў нядаўна, бо здурнеў
І пільнаваў усход, хаця сур'ёзна
Сам ад недасыпання захварэў.
Ды горш намнога прачынацца позна.
Калі асвеціць сонца кроны дрэў,
Штодня ўставай — і год васьмідзесяты
Сустрэнеш ты здаровы і багаты.

141 Хоць ранак той і не псавалі хмары,
Гайдэ была свяжэй і прыгажэй:
Яе ўпрыгожвалі, напэўна, мары.
У цёмны грот яна пайшла хутчэй.
Чырвоным морам у яе на твары
Кроў разлілася, бы ў гарах — ручэй.
Дарэчы, мора, што завуць Чырвоным,
Праславілася не чырвоным лонам.

142 Астравіцянка на правах сястры
Ў той час, калі спускалася да грота
З абрывістай і велічнай гары,
Пакрытай яркай свежай пазалотай,
Губамі палымянымі зары
У губы цалавалася з пяшчотай.
Цвіла больш вабна смертная сястра,
Бо не была паветрам, як зара.

143 Гайдэ ўвайшла ў пячору асцярожна,
Бо ўбачыла, што спіць яшчэ Жуан,
І раптам супынілася трывожна.
(Відаць, таму, што сон за іншы стан
Прыняць душой небезуважнай можна,
Тым болей што ў пячоры быў туман.)
Затым цяплей накрыла Дон-Жуана
І стала на яго глядзець рахмана.

144 Стаяла, як анёл — ля галавы
Свяшчэнніка, Гайдэ ля Дон-Жуана,
Што мірна спаў — спакойны і жывы,
А Зоя гатавала апантана
Сняданак (і, вядома, не з травы),
Бо ведала, што позна або рана
Захоча есці парачка яе.
І вось яна ўжо яйкі дастае.

145 Служанка добра знала, што каханне
Не замяняе ежы, што яно
Рашуча адвяргае галаданне.
Хоць пазяхала, Зоя ўсё адно
Ўзялася спрытна гатаваць сняданне.
Дастала і хіоскае віно
Яна з каша, і іншыя прадукты:
Мёд, каву, рыбу, свежы хлеб і фрукты.

146 Зварыўшы яйкі, Зоя ўжо хацела
Будзіць Жуана, ды Гайдэ рукой
Знак падала служанцы, каб не смела
Яна ягоны парушаць спакой
І каб ля Дон-Жуана з ёю села.
І давялося раніцаю той
Служанцы гатаваць другі сняданак.
Такі ўжо лёс, відаць, ва ўсіх служанак.

147 Ляжаў спакойна прыгажун іспанец,
А на ягоных стомленых шчаках
Свяціўся ліхаманкава румянец.
Зары адбітак часам на гарах
Заснежаных такі ўчыняе танец.
У чорных раскіданых валасах
Марская соль і пыл зямны блішчалі.
Сляды пакут на лбе яго ляжалі.

148 Нібы дзіцё — каля грудзей матулі,
Нібыта ўгамаваны акіян,
Як ліст, які ўжо халады кранулі,
Прыгожы, быццам ружа ці цюльпан,
Бы лебедзь — белы, ў футры без кашулі
Ляжаў спакойна, ціха Дон-Жуан.
Схіліўшыся, глядзела на Жуана
Красуня неадрыўна, закахана.

149 Нарэшце ён прачнуўся, ды ўсё роўна
Ягоны позірк, верагодна б, згас,
Каб не глядзела міла і чароўна
Гайдэ на Дон-Жуана ў гэты час.
Жуан і ў час малітвы павярхоўна
Вачамі прабягаў іканастас,
Дзе днеюць лікі бледныя, старыя,
Бо вабіла яго адна Марыя.

150 На локці прыпадняўся і пачаў
Ён углядацца ў твар — такі чароўны!
Быў бледны ён, ды часам навяшчаў
Яго румянец. Праўда, ледзь улоўны.
Яна сказала, каб Жуан маўчаў
І яйкі еў, ды болей красамоўны
Быў позірк прыгажуні маладой,
Чым словы з іанічнасцю сваёй.

151 Не грэкам быў Жуан — і слоў дзяўчыны,
Як зразумела вам, не зразумеў,
Хаця яны гучалі, як птушыны,
З той музыкаю раўнальны спеў,
Якая нараджае ручаіны
Шчаслівых слёз, і дон зніякавеў.
Гучалі словы ўладна, пранікнёна,
Нібы дзяўчына гаварыла з трона.

152 Жуан прачнуўся так, як чалавек,
Разбуджаны раскатамі аргана
Ці лёкая, бо раскрываць павек
Ён не хацеў і пазяхаў заспана.
Я сам лічу, што гэта проста здзек,
Калі цябе разбудзіць нехта рана.
Палаюць, быццам зорачкі, ярчэй,
На жаль, жанчыны ў мораку начэй.

153 Ды неўзабаве фруктаў выгляд свежы
І апетытны, казытлівы пах
Служанкаю прыгатаванай ежы
Агнямі бліснулі ў яго вачах.
А канчаткова выпутаў з мярэжы
Чароўных сноў Жуана той ачаг,
Каля якога Зоя шчыравала
І снеданне Жуану гатавала.

154 Хацеў Жуан біфштэксу, ды маслатых
Быкоў няма ў цыкладцаў. Бараны,
Авечкі, козы па вялікіх святах
Трапляюць у цыкладцаў на ражны.
На астравах тых мала хат багатых,
Бо ўсюды скалы голыя адны.
З тых астравоў, напэўна, востраў родны
Красуні нашай самы найвыгодны.

155 І тут згадаў я міф аб Мінатаўры
І Пасіфаі, што з быком жыла.
Хоць на яе міф надзявае лаўры
Распусніцы, царыца не была
Распуснаю, а дбала, каб літаўры
Ў бой клікалі, калі вайна ішла,
Байцоў, адметных сілаю і спрытам,
Каб вораг злы не завалодаў Крытам.

156 Гавяджы ростбіф любяць англічане,
Яшчэ (хоць гэта дарага) — вайну.
У іх і піва добрае ў пашане,
Ды я расказ пра піва абміну.
Па сутнасці, такімі і крыцяне,
Відаць, былі ў сівую даўніну.
І вінавата ў тым царыца тая,
Якую звалі ўсё-ткі Пасіфая.

157 Працягваю сваё апавяданне...
На локаць абапёршыся, юнак
Убачыў апетытнае сняданне
І, натуральна, прыгадаў няўзнак
І шторм, і жудаснае галаданне —
І што наесца можа, як шчупак,
Як альдэрман, манах або акула,
Удзячнасць Богу выказаў прачула.

158 Як маці клапатлівая — сынка,
Нічога не шкадуючы, на славу
Красуня частавала юнака,
Падаючы любы напой і страву,
Пяшчотна гледзячы на едака,
І падала б усё — і мёд, і каву,
Ды Зоя, што старэйшаю была,
Наесца Дон-Жуану не дала.

159 Яна даць захацела нечакана
Сваімі дзеяннямі зразумець
Таму, хто ўстаць Гайдэ прымусіў рана,
Што ад абжорства можна акалець,
І вырвала талерку з рук Жуана,
Каб юнака ўваскрэслага адзець,
Гаворачы, што ён і так замнога
З'еў — і паваліць жарабка любога.

160 І грэкам стаў іспанец бледнатвары.
На вогнішчы спаліўшы лахманы
Яго штаноў, надзелі шаравары
На юнака прыгожага яны
І новую кашулю. Янычары
Спрадвеку носяць гэткія штаны.
Каб выглядаў ён туркам, неставала
Чалмы, пістоляў, туфляў і кінжала.

161 Управіўшыся ўрэшце з туалетам,
Красуня пачала свой маналог.
Жуан дзяўчыну слухаў з піетэтам,
Уважліва, аднак у дыялог,
Бо слоў яе не разумеў пры гэтым,
Ніяк яго ператварыць не мог.
Іспанец-прыгажун быў не гатовы
Яшчэ да разумення грэцкай мовы.

162 Дапамаглі дзяўчыне знакі ўмоўныя
І ўсмешкі, што выказвалі жаданні
Дасціпней, чым прамовы мнагаслоўныя.
Дарэмна не прапалі намаганні:
Чыталіся адказы красамоўныя
У яго вачах на ўсе яе пытанні.
Адкрыў ёй свет з паняццямі адметнымі
Ён рухамі вачэй, ледзь-ледзь прыкметнымі.

163 Ён быў на розум і пачуцці скоры.
За ёю паўтараў ён кожны гук,
А сам сачыў за вочкамі сеньёры.
Хто вучыць астраномію (з навук —
Найлепшую), не ў кнігу, а на зоры
Глядзіць часцей. Так і Жуану рух
Яе вачэй прыемней быў за словы
Яе, Жуану невядомай, мовы.

164 Прыемна мову вывучаць тады,
Калі з настаўніцаю маладою
Садзіцца поруч вучань малады.
Здаралася такое і са мною
У далёкія юначыя гады,
Калі настаўніца сваёй рукою
За поспех пацяскала мне руку,
А за памылку — цмокала ў шчаку.

165 Слоў грэчаскіх, турэцкіх і іспанскіх
Я (дзякуючы ментарам сваім)
Шмат ведаю, а італьянскіх,
На жаль, амаль не ведаю зусім.
Нямнога слоў з глыбінь артэзіянскіх
Ёсць у англійскім слоўніку маім.
Я словы, што выношу на паперу,
Вучыў па Сутсі, Цілатсону, Блэру.

166 А што датычыць лонданскіх жанчын,
То я пра іх вам не скажу нічога,
Бо свет брытанскі, што як успамін
Прыходзіць да мяне цяпер з былога,
Даўно пакінуў я не без прычын.
Жанчын і ворагаў, якіх так многа
У шалапута юнага было,
Назад не верне і маё сціло.

167 На горных схілах палымнела кашка,
А дон асільваў мову, на якой
Красуня гаварыла. Болей цяжка
Было хаваць ад дзевы гаваркой
Жуану пачуццё, з якім манашка
Не можа нават саўладаць парой.
Ён на Гайдэ, яна на Дон-Жуана
Захоплена глядзелі, закахана.

168 Штодзень сцяжынаю, што ў грот вядзе,
Як толькі загаралася світанне,
Хадою хуткаю, а дзе-нідзе
І ўподбег да Жуана на спатканне
Ішла Гайдэ, каб у сваім гняздзе
Убачыць птаха спячым, каб дыханнем
Яго, як ветрык — ружу, атуліць
І пасмы, як пялёсткі, церабіць.

169 Быў Дон-Жуан ужо амаль здаровы.
Здароўе ж і бяздзейнасць, як усім
Вядома,— пачуццёвасці асновы.
Як пораху і маслу, ім дваім
Касцёр кахання, што сканаць гатовы,
Пад сілу толькі зноў зрабіць жывым.
Любві спрыяюць Бахус і Цэрэра,
Відаць, не меней, чым сама Венера.

170 Пакуль занята сэрцамі Венера
(Любоў без сэрца — танны сурагат),
Нам макарону падае Цэрэра,
Бо і каханню есці трэба шмат,
А Бахус лье віно на дно фужэра.
А хто нам з устрыцамі падае салат
І яйкі, знае, пэўна, толькі неба...
Мо Пан, Нептун, Юпітэр або Геба.

171 Штодзень дарылі Дон-Жуану ранкі
Дзве пары чорных маладых вачэй
(Гайдэ, вядома, і яе служанкі),
Што ззялі з кожным днём усё ярчэй,
Пасля — марскія ванны і сняданкі,
Ды я пра гэта ўжо казаў раней.
Вяртаўся з мора да Гайдэ і кавы
Жуан бадзёры, свежы і рухавы.

172 Хоць ёй здаваўся Дон-Жуан істотай,
Якая два апошнія гады
У снах адорвала яе пяшчотай,
Але і ён быў надта малады,
І дзева палымнела гэткай цнотай,
Што, як анёл, выходзіў ён з вады
І панну не бянтэжыў галізною.
Іх радасць не была яшчэ двайною.

173 Як весела, з якою асалодай
Гайдэ глядзела ў гэты час наўкруг,
Плыўцом любуючыся і прыродай!
О як ад дотыку ягоных рук,
Астуджаных марскою прахалодай,
Уздрыгвала яна, а ў час разлук
З якою безвыходнасцю ўздыхала!
Упершыню ў жыцці яна кахала.

174 Прайшоў так месяц і другі пайшоў.
Штодзень Гайдэ наведвала Жуана,
Але не выдала ягоны схоў,
Пакуль нарэшце бацька нечакана
Не ўзняў на ўласным судне парусоў,
Каб не за Іа гнацца апантана,
А каб рагузскі брыг на абардаж
Каля Хіоса ўзяць і зняць багаж.

175 Насталі для Гайдэ свабоды дні.
Ніхто не пільнаваў дачкі пірата,
Бо не было ў дзяўчыны ні радні,
Ні маці роднай, ні сястры, ні брата.
Краіны хрысціянскія адны
Даюць жанчынам вольнасцей багата.
Збягаць не трэба з дому ім тайком,
Бо там іх не трымаюць пад замком.

176 Цяпер Гайдэ бывала днямі з ім —
І ён засвоіў грэчаскую мову
Настолькі, што па беразе марскім
Прайсціся з ім зрабіў ёй прапанову.
Ажыў той квет, што на пяску сырым
Ляжаў — ужо завялы напалову.
І сонца з месяцам па-над вадой
Гарэлі зноў для пары маладой.

177 Скалістымі крутымі берагамі
Адметны востраў гэты дзіўны быў.
Рыпеў пясок драбнюткі пад нагамі.
За ўцёсамі знаходзіўся заліў
З пашкоджанымі бурай караблямі.
Прыбой у скалы там заўсёды біў.
І толькі летняй доўгаю парою
Была паверхня мора люстраною.

178 На водмелях успененыя хвалі
Нагадваюць сваім шыпеннем там
Шампанскае, што пеніцца ў бакале.
Раса душы! Дождж сэрца! Як бальзам,
Яно вылечвае. Што б ні казалі
Мне ментары, я застаюся сам
З віном вясёлым, з дзевай маладою,
А дзень сустрэну з содавай вадою.

179 Разумны чалавек павінен піць,
Бо лепшага на свеце адчування
Ад ап'янеласці не можа быць.
Жыццё без золата, віна, кахання
Не будзе, як айва, плады спяліць.
Піць раю ўсім і без абмежавання.
Калі ж назаўтра з хворай галавой
Хто-небудзь з вас прачнецца раніцой,

180 Хай лёкая званочкам пазаве
І вып'е разам з содавай вадою
Рэйнвейну пеністага шклянкі дзве.
І Ксеркс ні разу вадкасцю такою
Не сцішыў боль у царскай галаве.
Не могуць смакам параўнацца з ёю
Ў гарачыню сырой вады глыток,
Шэрбет з ільдом, шампанскае і сок.

181 А бераг... Я сказаў ужо нямала,
Здаецца, пра яго... А бераг быў
Так, як і неба, ціхі. Люстрам стала
Паверхня мора, дзе драмаў заліў.
І толькі чайка цішу парушала,
Ды мерна хвалі біліся ў абрыў,
Ды іншым разам над вадой дэльфіна
Паказвалася выгнутая спіна.

182 Ішла дзяўчына з юнаком. Яна
Цяпер была свабоднай, бо не мела
Матулі, брата і апекуна,
А бацька ў плаванне пусціўся смела.
Была служанка ля Гайдэ адна.
Ёй валасы расчэсваць Зоя ўмела
І з жаласнаю мінаю на лбе
Старую сукню выпрасіць сабе.

183 Быў момант надыходу прахалоды,
Бо сонца — рыжае, як лісяня,—
Схавалася за ўзгорак, што заўсёды
Мяжою свету на зыходзе дня
Становіцца нібыта. Цвердзь і воды
Ахутала начная цішыня.
Ў ружовым небе ярка і высока
Заззяла зорка, як чыёсьці вока.

184 Трымаючы красуню за руку,
Ішоў Жуан, зачараваны ёю,
Па ракаўках, па цвёрдаму пяску,
Па гальцы, што абточана вадою.
Было прыемна ёй і юнаку
У гротах пахмяляцца цішынёю
Пад сталактытамі. Пурпурны змрок
І радаваў, і цешыў іхні зрок.

185 Яны глядзелі ў неба, што над імі
Трымцела, як ружовы акіян.
Дыск поўні над прасторамі марскімі
Ужо віднеўся праз начны туман.
З прыгожымі змярканнямі такімі
Сябруюць закаханыя. Жуан
З Гайдэ неспадзявана абняліся —
І ў пацалунку вусны іх зліліся.

186 Цнатлівасці, кахання, прыгажосці
Былі сфакусаваны прамяні!
Запальваюць іх толькі ў маладосці
Высокія нябесныя агні,
Калі кроў — лава, пульс — агонь і штосьці
Накшталт раскатаў грому ў цішыні —
Гарачай маладосці падарунак:
Бязгрэшны, доўгі, моцны пацалунак.

187 А як надоўга іх зліліся вусны,
Напэўна, неба ведае адно.
Каб ведалі яны, напой спакусны
Так прагавіта не пілі б даўно.
Быў іх парыў цнатлівы — не распусны,
Не страсць іх ап'яняла, не віно.
Да перапоўненых нектарам кветак
Вясною пчолы прыпадаюць гэтак.

188 Хоць закаханыя былі адны,
Сябе не адчувалі адзінока,
Бо не ў пакой схаваліся яны.
Сузор'і адбіваўшая затока,
Пясок нямы, сутонне бляск двайны
І грот, які бярог іх ад сурокаў,
Прымусілі прыцiснуцца мацней
Астравіцянку да яго грудзей.

189 Дарэчы, іх нікольki не пужалі
Падгляды і падслухванні. Таму
Яны на цемрадзь нават не зважалі.
Ён ёй належаў, а яна — яму.
Аднымі шэптамі агалашалі
І ўздыхамі яны начную цьму,
Бо мову Евы, як і страсць праматчыну,
Перадалі стагоддзі ім у спадчыну.

190 Гайдэ не знала, што такое шлюб,
Бо вырасла наіўнаю і цнотнай,
І быў ёй Дон-Жуан бясконца люб.
Яму насустрач птушкай бясклапотнай
Яна ляцела, хоць з ягоных губ
І не сарвала клятвы аніводнай.
Яна, яшчэ не ведаючы здрад,
Нічога браць не думала ў заклад.

191 Каханне напаўняла іх дваіх —
І па суровых правілах прыроды
Былі павінны зліцца душы іх,
Памёршы ад бязмежнай асалоды,
Але жыве душа не па зямных
Законах — і таму жыве заўсёды.
Прыйшоў доўгачаканы час, калі
Асобна жыць іх сэрцы не змаглі.

192 Яны былі такія маладыя!
І так хацелі шчыра палюбіць
Тады яны — наіўныя, слабыя,
Што глупстваў не маглі не нарабіць.
Ім неабдуманыя ўчынкі тыя
І ўсёю вечнасцю не замаліць.
Наканаваны ім агонь спрадвечны,
Як і таму, хто злы і бессардэчны.

193 О бедныя! Іх асуджаць не нам
За тыя ўчынкі, што яны зрабілі.
Прыгожыя, як Ева і Адам,
Яны так страсна, горача любілі,
Што пра пякельны, страшны тарарам
І пра Стыгійскую раку забылі,
Хаця пра гэта ў той цудоўны час
Было ім нельга забываць якраз.

194 Сярод пяскоў і скал сядзеў Жуан,
А на яго нагах Гайдэ ляжала.
Трымаў красуню ён за тонкі стан,
Яна яго за шыю абдымала.
Вячэрні фіялетавы туман
Растаў — і поўня ў іх вачах блішчала.
Здаваліся скульптураю антычнаю
Юнак прыгожы з німфай сімпатычнаю.

195 Яны, як дзеці страсці і прыроды,
Свабодай цешыліся ў халадку,
Ды момант найвышэйшай асалоды
Прайшоў — і Дон-Жуан паклаў шчаку
На грудзі ёй, сп'янелы ад лагоды.
Яна ж паклала на яго руку
І думала, якое гэта шчасце —
Сабе на грудзі любага пакласці.

196 Сысун, што дрэмле ля грудзей матулі;
Малеча, што любуецца кастром;
Перс, да якога госці зазірнулі;
Ліхвяр, здаволены сваім дабром;
Марак, якога абмінулі кулі,
І поп, якому б'юць усе чалом,—
Шчаслівыя, але не так, калі мы
Глядзім, як дрэмле чалавек любімы.

197 Ён спіць так міратворна, так прыгожа,
Пачуцці, думкі тоячы свае.
Бездапаможны, ён адчуць не можа
Той радасці, якую нам дае,
Нібы ім скінута зямная ноша —
І ён у лепшым свеце існуе,
Ды гэта не пужае нас, вядома,
Хаця ляжыць ён ціха, нерухома.

198 На беразе пясчаным уначы
Пад шоргат зор і плёскат акіяна
Было Гайдэ прыемна сцерагчы
Знясіленага ласкамі Жуана,
Які драмаў спакойна на плячы,
І на яго глядзець зачаравана.
Не бачыў зорны велічны абшар
Яшчэ нічый такі шчаслівы твар.

199 Жанчыны, як ніхто, кахання варты,
Хоць іх каханне — жудасная рэч.
Яны ў любоў гуляюць, як у карты,
А самі прагнуць асалод, сустрэч.
Як выйграюць — бы з меха, сыплюць жарты,
Прайграюць — агаляюць помсты меч.
Яны тады як злосныя пантэры,
Хоць сэрцы іх пакутуюць без меры.

200 А што рабіць? Ні ласкі, ні спагады
Мы не знаходзім іншы раз для іх —
І самі падштурхоўваем да здрады
Сваіх жанчын, калісьці дарагіх.
Ім забаронена даваць парады
І аб пачуццях гаварыць сваіх.
Іх лёс — сям'я, уборы, палюбоўнік,
Царква, магіла і на ёй цярноўнік.

201 Распусніцай становіцца адна.
З другой знявага робіць багамолку.
Слабыя прывыкаюць да віна.
Ёсць жонкі, што ўлюбляюцца ў іголку.
Хтось, напакутаваўшыся спаўна,
Кідае мужа, хоць у гэтым толку
Няма і шчасце гэткае — падман,
А хтось бярэцца сачыняць раман.

202 Гайдэ была ўся страсць і ўся парыў.
Кахання прагла ўся яе істота.
На прыгажуню аказалі ўплыў
Здзічэлая прырода і спякота.
Было ўсё роўна ёй, што гаварыў
Люд пра яе. Бязмежная пяшчота
Да Дон-Жуана ў час шчаслівы той
Жыла ў душы газелі трапяткой.

203 Салодкі момант наталення смагі,
Што спапяляе плоць, прадухіліць
Нялёгка намаганнямі развагі
І ўласнага сумлення, што спыніць
Імкнуцца нашу радасць, хоць заўвагі
Іх проста немагчыма ацаніць.
Таму абкласці, як віно і грог,
Сам Каслры іх падаткамі не змог.

204 Адбыўся, гэткім чынам, дзіўны міг!
Уночы пры святле дрыготкіх зорак,
Калі, здавалася, ўвесь свет аціх —
І ціішыня ўзмацняла кожны шорах,
Адасабленне павянчала іх,
А іхнім сведкам быў блакітны морак.
Яны ж былі анёламі, бадай,
І дзікі бераг ім нагадваў рай.

205 Каханне! Слаўны Цэзар — твой шукальнік,
Антоній — раб, а Флавій — валадар,
Катул, як і Гарацый,— тлумачальнік,
Авідзій — твой няўрымслівы званар,
Сафо — твой вечны сорам. Пераймальнік
Яе хай помніць, што падземны ўдар
Скалы Ляўкадскай не растрос — і мора
Яго магілаю стаць можа скора.

206 Каханне! Ведай, ты — багіня зла!
Ты Цэзару, Пампею, Магамету
І Велісарыю, аб кім хвала
Не надакучыла дагэтуль свету,
Стараннямі сваімі надала
Яшчэ адну агульную прыкмету:
З іх кожны — заваёўнік і герой...
І раганосец. Вось і ладзь з табой.

207 Зрабілі філасофію з табою
Вульгарны Эпікур і Арыстып
Навукай амаральнай, прыкладною
І зручнай для распуснікаў. Калі б
Яны вялі змаганне з сатаною,
Я, іх бы праслаўляючы, ахрып.
«Еш, пі, кахай — і не сумуй!» — злятала
З прарочых вуснаў і ў Сарданапала.

208 Але Жуан... Няўжо юнак забыў
Так хутка Джулю? Цяжкае пытанне!
Таму віною поўны месяц быў,
Які дарыў душы зачараванне
І так над морам таямніча плыў,
Што ў сэрцы зноў Жуан адчуў каханне.
Не ўдзельнічаць у гэтым не магло
Начное сатанінскае святло.

209 Я сябар вернасці і вораг здрадзе.
І для людзей няпэўных, быццам ртуць,
Не знойдзецца цяпла ў маім паглядзе —
Да іх я ласкі не магу адчуць.
Ды ўчора вечарам на маскарадзе
Пашчасціла мне незнарок зірнуць
На прыгажуню мілую з Мілана —
І сэрца зноўку б’ецца закахана.

210 Мне ж кажа Філасофія ласкава:
«Цябе зноў спакушае сатана!»
«Так, так,— адказваю.— Але цікава:
Дзяўчына ці замужняя яна?
Якая ў гэтай модніцы пастава!»
«Спыніся! Гэта не любоў — мана»,—
Крычыць мне Філасофія-грачанка,
Апранутая, як венецыянка.

211 Яе загад выконваю старанна,
Ды — змушаны спыніцца і маўчаць —
Усё-ткі думаю: «А ці заганна
Непастаянным быць і адзначаць
Чыюсьці дасканаласць пастаянна?»
Калі хто-небудзь любіць разглядаць
Акругласці Венерынага бюста,
Што гэта — захапленне ці распуста?

212 Любоў да прыгажосці ўвасабляе
Падоранае Богам пачуццё,
Якое з платанічнасцю яднае
Пажадлівасць святую — і жыццё
Да зор недасягальных уздымае,
Каб пошлым не зрабілася быццё.
Любоў такая не трымае ў шорах
І сведчыць, што людская плоць — як порах.

213 Хоць і балюча гэта, існую
Я з той любоўю, ды зайздрошчу шчасцю
Таго, хто лашчыць шмат гадоў сваю
Жанчыну першую з нязменнай страсцю,
Нібыта строі Евы ўпершыню
Убачыў ён — і рады, як прычасцю.
Для печані і сэрца лепей так.
Не горш і для кішэні так, аднак.

214 Як неба, сэрца наша — частка раю.
Пануе ў ім то морак, то святло.
Я ўсіх усмешкай светлай азараю,
Калі яно празрыстае, як шкло.
Калі ж надвор'е аж да небакраю
Аблокамі яго завалакло,
Яно слязьмі выказвае маркоту,
Нагадваючы лонданскую слоту.

215 А печань наша — жоўці лазарэт.
Яе прадвызначэнне — ачышчэнне,
Ды ў ёй, як змеі, малады імпэт,
Вар'яцтва, страсць, нянавісць, засмучэнне,
Страх, рэўнасць, помста, злосць на цэлы свет
Сплятаюцца — і, як землетрасенне,
Народжанае ўнутраным агнём,
Руйнуюць без разбору ўсё кругом.

216 Пара канчаць. Я строф дзве сотні склаў
Для гэтай песні — і хачу прызнацца,
Што колькі б песень я ні напісаў
(Дванаццаць або дваццаць пяць), старацца
Зноў буду гэтай колькасцю актаў
Пры напісанні іх абмежавацца.
Кладу пяро! Чытайце мой раман.
Хай цешаць вас Гайдэ і Дон-Жуан.

## ПЕСНЯ ТРЭЦЯЯ

1 О Муза любая! Et cetera...
Пакінулі Жуана мы з табою,
Калі, як міласэрная сястра,
Дзяўчына, для якой яшчэ журбою
Атручвацца не надышла пара,
Яго туліла да грудзей рукою,
Хоць быў ён ворагам і шмат прынёс
Ёй потым ганьбы і крывавых слёз.

2 Скажы, любоў, чаму на свеце гэтым
Так небяспечна закаханым быць?
Чаму квітнець ты любіш дзікім цветам
І ўздыхі безнадзейныя рабіць?
Няўжо прыемна маладым кабетам
Жыццё ў нас на грудзях табе губіць,
Як ружам, дзеля водару сарваным
І шпількай на грудзях замацаваным?

3 Спачатку любяць нас, мужчын, жанчыны,
А потым улюбляюцца ў любоў
Так, як у час асенняй халадзіны
У пальчаткі — пальцы. Я сцвярджаць гатоў:

Каханак першы толькі ў іх адзіны,
А разагрэўшы страсцю першай кроў,
Яны кахаюць толькі ў множным ліку,
Хоць страсць сваю хаваюць для прыліку.

4 Не ведаю, хто ў гэтым вінаваты —
Мы ці яны, ды, саграшыўшы раз,
Становяцца і сціплыя дзяўчаты
Какеткамі на ўвесь астатні час,
Калі дзяўчаты не ханжой зачаты,
Хоць першае каханне, як абраз,
У адбалелых сэрцах зберагаюць.
Ёсць дамы, што нікога не кахаюць.

5 Адзін выток у шлюбу і кахання,
Але паразуменне ўсё адно
Яны гатовы зруйнаваць дазвання.
Каханне ў шлюбе — кіслае віно,
Не годнае для частага ўжывання,
Бо ўжо не вабіць водарам яно.
І іншыя шукаюць для спажытку
Больш пахкага, салодкага напітку.

6 Як шчыра да вяселля мы ўлюбёны
Ў сваіх абранніц — юных, трапяткіх,
Пакуль абразы, кпіны і праклёны
Яшчэ не вылятаюць з вуснаў іх.
Гады мяняюць якасцей імёны.
Чамусьці так вядзецца, што жаніх,
Які прываблівае натурай страснай,
Злачынцам робіцца для жонкі ўласнай.

7 Пяшчотным з жонкаю быць вечна сорам,
Бо ўсе мужы стамляюцца зрэдчас,
Хоць кажуць, што адзін і той жа скорам
Штодня не можа задаволіць нас.
Што можа ў свеце параўнацца з горам
Уласнай жонцы трапіць пад абцас?
Не менш бязрадасная перспектыва —
Аплакваць жонку любую тужліва.

8 Пра закаханых пішуцца раманы,
А шлюб у творы — толькі эпізод,
Які ханжою адрэдагаваны,

Бо рытуальных слоў, як і пяшчот,
Цярпець не можа кніжнік сапсаваны:
Сямейны лад — кахання антыпод.
Была б Лаура жонкаю Петраркі —
Заглох бы паступова талент яркі.

9 Канчаюцца спакон вякоў трагедыі
Раптоўнай смерцю дзеючых асоб,
А шлюбам — бессэнсоўныя камедыі.
Недагаворанасць — іх недахоп.
І шлюб, і смерць — заўсёды інтэрмедыі
Прамежкавыя перад тым, як поп
З рук аўтара герояў атрымае.
Шлюб, як і смерць, працяг цікавы мае.

10 Як помню, Дант і Мільтан апісалі
І рай, і пекла, гэта значыць — шлюб.
На жаль, іх вузы шлюбныя парвалі
Грашкі і словы грубыя, што з губ
Абранніц іхніх часцяком зляталі.
(Каму, скажыце, злы характар люб?)
І прататыпы Беатрычэ, Евы —
Не жонкі іх, як зразумелі ўсе вы.

11 «Так, Беатрычэ — веры ўвасабленне,—
Сцвярджаюць каментатары,— а не
Каханка Дантэ». Гэтае сцвярджэнне
Фантазіяй (не больш) здаецца мне
І выклікае нават засмучэнне,
Бо верыць люд бяздоказнай мане.
«А можа, генія экстаз містычны,—
Пытаюся я,— знак матэматычны?»

12 Жуан з Гайдэ былі не абвянчаны,
Ды гэта не мая віна, а іх.
Калі ж табе, чытач мой паважаны,
Усё ж прыгоды грэшнікаў маіх
Не падабаюцца — чытай раманы,
Сабе на радасць, аўтараў другіх,
Больш правільных і праведных. Бясспрэчна,
Чытаць раман мой надта небяспечна.

13 Аднак шчаслівымі ў задавальненні
Жаданняў маладых былі яны.

Рабіліся больш смелымі з'яўленні
Гайдэ да юнака. У час начны,
На досвітку і вечарам памкненні
У грэшнай парачкі былі адны.
Гайдэ кахала без перасцярогі,
Пакуль быў у адлучцы бацька строгі.

14 Здавацца дзіўнаю яго манера
Здабычы грошай не павінна вам.
Яго імя вы іменем прэм'ера
Лепш замяніце, як раблю я сам,—
І зробяцца даходы флібусцьера
Падаткамі. Але, на страх сцягам
Усіх краін, ён адпраўляўся ў мора
У якасці марскога пракурора.

15 На гэты раз гвалтаўніка старога
Затрымлівалі вецер і прызы,
Якіх было ў яго занадта многа —
Так, як і ў папярэднія разы.
Разбойнік не пашкадаваў нікога
І змог усё ўлічыць да драбязы:
Быў кожны вязень пранумараваны,
Ацэнены ў далярах і скаваны.

16 Адных рабоў ён збыў ля Матапана
Сябрам-майнотам, а другіх прадаў
Туніскаму агенту. Старыкана,
Які сябе пагана адчуваў,
Шпурнуў за борт у хвалі раззлавана
І ў цёмны трум зганяць багатых стаў.
Прадаць іх выгадна ён меў надзею
Султану або трыпальскаму дэю.

17 Прадаў тавары жыхарам Леванта
Грабежнік наш. А шпількі для валос,
З тканін французскіх дарагія транты,
Нажніцы, чайнік, залаты паднос,
Гітару, кастаньеты з Алікантэ,
Карункі і зубныя шчоткі вёз
Пірат дачцэ сваёй у падарунак,
Зрабіўшы усяго адзін пакунак.

18 Вёз і жывёл нямала флібусцьер.
Былі сярод істот жывых сабакі:
Бульдог вялікі і малы тэр'ер
Бадзягі-брыта, што ў зямлі Ітакі
(Там, дзе сканаў) знаходзіцца цяпер.
Былі два папугаі, дзве макакі,
З персідскай кошкай трое кацянят.
Іх у агульнай клетцы вёз пірат.

19 Цыклады ўбачыўшы на гарызонце,
Ўсе крэйсеры ў бакі ён развярнуў.
Ягоны ж карабель, які ў рамонце
Займеў патрэбу, рыфы абагнуў
І стаў на якар у цыкладскім порце.
З палёгкаю стары пірат зірнуў
На бераг, дзе шмат месяцаў няспынна
Дачка прымала юнака гасцінна.

20 Адсутнічаюць мытні, каранціны
На востраве. Там допыт учыніць
Не могуць вам нахабныя крэціны.
Ён даў каманду судна разгрузіць
І перакanапаціць — і ўсе спіны
Адразу сталі рухаць і насіць
Баласт, гарматы, дарагія рэчы.
Іх шмат было на гэты раз, дарэчы.

21 Сцяну свайго пабеленага дома
З пагорка ўбачыў гаспадар і стаў.
Складаныя пачуцці падсвядома
Прыходзяць да таго, хто завітаў
Дамоў з вандроўкі. Радасць, страх і стома
У іх зліваюцца ў адзіны сплаў,
Таму што мы душой у час вяртання
Вяртаемся да моманту расстання.

22 Калі ж вяртаемся дамоў з далёкай
Вандроўкі мы — грызуць сумненні нас,
Бо заставацца цяжка адзінокай
І жонцы, і дачцэ працяглы час.
З дачкою вашай можа збегчы лёкай,
А жонку — звабіць спрытны лавелас.
(Жанчынам я бязмежна давяраю,
Хоць сам сабе ліслівіць ім не раю.)

23 Не ўсе, як Пенелопай — Адысей,
Чакаемся мы жонкамі дахаты.
Бывае, што ў свой гонар маўзалей
Знаходзіць дома марахол жанаты
І нават некалькі малых дзяцей,
Якіх зачаў таварыш зухаваты,
Калі марак дадому прыплыве —
І Аргус вопратку на ім парве.

24 А той, хто адпраўляўся жаніхом
Гаротніцы прыгожай у вандроўку,
Пабранаю са сквапным багачом
Убачыць можа зноў сваю сяброўку.
Хай багача ён зробіць рагачом,
З нявестаю пасябраваўшы зноўку
І стаўшы cavalier servente, ці
Жанчын кляймуе ў вершах і ў жыцці.

25 Але і вам надоўга, спадары,
Якія з дамамі liaison трымаюць
(Калі вы з жонкай нечаю — сябры,
Чамусьці вашу дружбу называюць
Такім французскім словам плеткары),
Як вопытныя лавеласы раюць,
Не варта анікуды ад'язджаць,
Каб рагачамі гэткімі ж не стаць.

26 Стары Ламбро (так зваўся наш пірат),
Больш вопытны не ў сухапутных справах,
Убачыў дым, што падымаўся над
Яго страхой, і, стрыманы ў праявах
Сваіх пачуццяў, быў надзвычай рад.
Хоць флібусцьер не ведаў слоў ласкавых,
Ён гэтак даражыў сваёй дачкой,
Што плакаў горка б над яе труной.

27 Ён бачыў дом, зялёны сад і гай,
Дзе весела ў цяністай прахалодзе
Звінеў знаёмы балабон-ручай.
Людзей, што тоўпіліся ў карагодзе
Пад брэх сабачы і птушыны грай
Са зброяй, як заведзена на Ўсходзе,
Заўважыў праз імгненне ён здалёк.
Пярэсціўся натоўп, як матылёк.

28 Ён падышоў бліжэй ніякавата —
І падарожніка здзівіў памер
Нязвыклага для гэтых месцаў свята.
На ўсю акругу (хоць вушам не вер!)
Скрыпеў скрыпач, біў барабан заўзята
І флейта заглушала гукі сфер.
А больш за ўсё разбойніка старога
Здзівіў не ўсходні, выбуховы рогат.

29 На гукі тыя скіраваўшы крокі,
Ён расхінуў кусты — і ўбачыў луг,
Дзе, быццам дэрвішы, пусціўся ў скокі,
На месцы стоячы, гурт верных слуг.
Яны то браліся гулліва ў бокі,
То ўгору ўскідвалі далоні рук —
І ўсе кружыліся ў пірыйскім танцы,
Які так любяць страсныя левантцы.

30 Красуні юныя далей скакалі,
За рукі ўзяўшыся,— і колца іх
Нагадвала жамчужныя каралі.
Іх локаны каштанавыя ўсіх
Паэтаў рамантычных закахалі
Адразу б у грачанак маладых.
Вадзіўся гэты карагод дзяўчынай,
Што пела і размахвала хусцінай.

31 Непадалёку ад усёй гасціны
На кукішках працягвалі абед
Сябры вясёлыя. Пілаў і віны
З Хіоса і Самоса, плоў, шарбет
У порыстых збанках з чырвонай гліны
Стаялі перад імі. На дэсерт
Падносілі ім дрэў цяністых шаты
Хурму, і апельсіны, і гранаты.

32 На рогі барана чародка дзетак
(А быў старэча белы, быццам снег)
Нанізвала вянкі з прыгожых кветак —
І ён не прыпыняў яе пацех.
Бы для нападу, грацыёзна гэтак
Згінаў ён шыю, ды — усім на смех —
Зноў галаву сваю ўзнімаў угору
І не даваў гарэзнікам адпору.

33 Іх вочы цёмныя, нібы масліны,
Ружовасць шчок, даўгія валасы,
Адзенне яркае, прамыя спіны,
Бязгрэшнасць і класічныя насы
Рабілі з грэкаў маладых карціны.
«Няўжо настануць іншыя часы,—
Сказаў бы, гледзячы на іх, філосаф,—
І атрыбутам іхнім стане посах?»

34 Старым дзядам, што з люлькамі ў зубах
Сядзелі кругам, карлік даўганосы
Расказваў аб арабах-ведзьмарах,
Якія робяць розныя дзівосы,
І аб зачараваных камянях.
Яшчэ — аб ведзьмах, што ламаюць лёсы
Абраных імі некалі мужчын,
Ператвараючы іх у скацін.

35 Было тут, карацей, усё сабрана,
Каб весяліцца целам і душой —
Цягнуць віно пад гукі барабана
І ласавацца рэдкай смакатой.
Аднак у флібусцьера нечакана
Ад гэтага пагоршыўся настрой:
У моры ім сабраныя падаткі
Паменшаць значна гэтыя выдаткі!

36 Нікчэмная істота чалавек!
Усё, чым ён усцешаны, знікае.
Дзень залаты за ўвесь жалезны век
З нас самага шчаслівага чакае.
Нібы сірэна, асалоду ў здзек
Жыццё каварнае ператварае.
І для гурмы падпітай быў Ламбро
Нібы для вогнішча — вады вядро.

37 Негаваркі, зацяты ад прыроды —
Хацеў суровы пракурор марскі
Зрабіць сваё вяртанне, як заўсёды,
Сюрпрызам добрым для сваёй дачкі.
Не думаў ён, што ля сваёй гасподы
Убачыць можа вэрхал вось такі.
І ў гэты момант не задавальненне
Напоўніла пірата, а здзіўленне.

38 Пакуль збіраў падаткі пракурор,
Цыклады схамянуліся ад плёткі,
Нібыта ён загінуў ці памёр.
(Вось як ілгаць умеюць грэкі ўсё-ткі.
Такіх скасіць не можа нават мор!)
Чатыры тыдні (тэрмін — не кароткі)
Быў у жалобе флібусцьера дом,
Дзе стаў Жуан амаль гаспадаром.

39 Паружавелі гаспадыні шчокі
І слёзы высахлі. І вось яна
Наладзіла багаты стол і скокі.
Было шмат рысу, мяса і віна,
Былі салаты розныя і сокі —
Красуня разгарнулася спаўна!
І дзіўна, як яна ўсё паспявала,
Бо страсць яе на міг не астывала.

40 Вы думаеце, што пачырванеў
Ламбро ад злосці, трапіўшы на свята,
І выказаў свой справядлівы гнеў?
А можа, вы чакаеце, што ў ката
Ператварыўся ён, асатанеў
І загадаў, каб спіны слуг пірата
Ушчэнт спаласавалі бізуны,
Бо кары заслугоўвалі яны?

41 Вы памыліліся! На ўсёй зямлі
Не знойдзецца больш мяккі і пакорны,
Чым ён, бандыт, што грабіць караблі.
Ён быў надзіва стрыманы, прытворны.
Яго любілі б нават каралі,
Калі б ён быў дарадчык іх прыдворны.
Ён упрыгожыў бы вышэйшы свет,
Каб стаў міністрам волю планет.

42 Разбойнік да гасціны гаманкой
Наблізіўся рашуча і ў кагосьці
Спытаў, па спіне ляпнуўшы рукой,
З усмешкай, каб не зразумелі госці,
Які ў яго на сэрцы неспакой:
«У чым прычына вашай весялосці?»
І грэк, што п'яны быў ужо спаўна,
Падаў гаспадару фужэр віна,

43 Сказаў незадаволена: «Глыні!» —
І сам у глотку рухам рэзкім кінуў
Фужэр віна. «Нам не да балбатні,—
Другі дадаў.— Наш гаспадар загінуў».
«У дом зайдзі — на новага зірні! —
Бы за каўнер вады халоднай лінуў
Гуляка трэці следам за другім.—
А хочаш, дык і пазнаёмся з ім».

44 На жаль, дагэтуль аніхто з гуляк
Не бачыўся з Ламбро, відаць, ніколі.
Насупіўся стары марак, аднак
Неверагодным намаганнем волі
Злосць падавіў і запытаўся, як
Завуць таго нахабніка, што ў ролі
Гаспадара цяпер гуляў і піў,
Бо, пэўна, дамаю Гайдэ зрабіў.

45 «Хто гэты перакормлены каплун
І ці з далёкага прыбыў ён краю,—
Такі адказ даў п'яны весялун,—
Не ведаю і ведаць не жадаю,
Ды він такіх не піў ён!» І хітрун
Незадаволена адрэзаў: «Раю
Табе пытанне гэтае задаць
Суседу, бо ён любіць балбатаць».

46 Усім ударам лёсу насупор
Быў гаспадар спакойны і цярплівы,
Хоць і карцела разагнаць абжор.
Нібы француз вясёлы і пачцівы
(Французскі гумар для мяне — узор),
Абразы, здзекі, кпіны, брэх звяглівы
Людзей, што нішчылі яго дабро,
Хоць сэрца грукатала, знёс Ламбро.

47 Хоць не ўласцівы мяккія прыёмы
Таму, хто надта любіць аддаваць
Загады, здзекавацца — і каго мы
Не маем права добрым называць,
Бо ён сваёю жорсткасцю вядомы,
Стары пірат удары ўмеў трываць.
А той, хто так валодае сабою,
Як Гвельф, управіцца з гурмой любою!

48 Ламбро шалёным часам выглядаў,
Але калі была сур'ёзнай справа,
Рабіўся стрыманым, як той удаў,
А іншым разам — стрыманей за ўдава.
Ён слоў сваіх на вецер не кідаў,
Не рассыпаў налева і направа
Udaraў лёгкіх. І калі ён біў,
Удар другі ўжо не патрэбны быў.

49 Больш не задаў ніводнага пытання
Ён і праз тайны ход прабраўся ў дом,
Дзе не чакаў ніхто яго вяртання
І не лічыў яго гаспадаром.
Не змог, на жаль, знайсці ён апраўдання
Таму, што адбывалася кругом,
Хоць і хацеў, але, з другога боку,
Баяўся вырашаць усё з наскоку.

50 Калі ўваскрэснуць раптам (о крый Божа!),
Напрыклад, нашы верныя сябры,
Ці жонкі нашы, ці які вяльможа,
То я асмелюся трымаць пары
(Але хто з вас аспрэчваць гэта можа?),
Што ўсе амаль мы скажам: «Забяры
Назад іх, Бог!» — і бліснем зноў слязою,
Як некалі над іхняю труною.

51 Стары Ламбро зайшоў пад родны дах —
Зняважаны, падаўлены, бяссільны.
Як цяжка бачыць дарагі ачаг,
Калі ўжо ён — бы камень надмагільны
Ці урна, дзе надзей уласных прах
Ты пахаваў, да сантыментаў схільны.
Што адчуваў тады стары марак,
Не зразумее толькі халасцяк.

52 Зайшоў ён як бяздомны ў родны дом,
Бо не было там сэрца, што чакала
Яго вяртання вечарам і днём,
І флібусцьеру адзінока стала.
Тут сэрца грубае яго, што злом
З дзяцінства поўнілася, размякчала
Дачка, чый светлы, прамяністы твар
Быў для душы счарсцвелай як алтар.

53 Ён, дзікі і суровы, меў манеру
Спакойна гаварыць. І еў, і піў,
І забаўляўся флібусцьер у меру,
Затое дужы, цягавіты быў,
Бо нарадзіўся, каб зрабіць кар'еру
Намнога лепшую, чым ён зрабіў.
Парабаваная яго айчына
Рабаўніком свайго зрабіла сына.

54 Занятак небяспечны, прага ўлады,
Узбагачэнне хуткае, разлад
З законамі, няўдзячныя пагляды
Зайздроснікаў, якіх заўсёды шмат,
Нарэшце, мора бурнае і звады,
Сярод якіх састарыўся пірат,
Яго для ворагаў зрабілі катам,
А для хаўруснікаў надзейных — братам.

55 У грэчаскай душы яго пакінуў
След горды дух, які даўным-даўно
Вёў арганаўтаў дружную дружыну
Ў далёкую Калхіду па руно.
Усім народам помсціў за айчыну
Зняважаную ён, [redacted] заадно,
Абдзелены пашанаю, па праву
Ён здабываў аўтарытэт і славу.

56 Меў, пэўна, мяккі клімат іанічны
Ўплыў добры на душу рабаўніка —
Быў ён высакародны, рамантычны,
Глядзеў на свет вачамі мастака.
Любіў і кветкі ён, і меладычны
Крыштальны звон гарэзы раўчука,
Бо для Ламбро было ў часы спакою
Ўсё гэта жыватворнаю расою.

57 Была ў пяшчоту да сваёй дачкі
Ягоная любоў сканцэнтравана.
Змякчаць душу рабаўніка, які
Напамінаў крывавага тырана,
Калі ішоў да мэты напраслкі,
Дачка любімая была прызвана.
Яе згубіўшы, ён захмарыў лоб
І азвярэў бы ўмомант, як цыклоп.

58 Тыгрыца вельмі лютая, калі
Яе дзіцятка загрызуць шакалы.
Кідае надта злосна караблі
Разлютаваны акіян на скалы.
Ды жахі б гэтыя хутчэй прайшлі,
Чым змрочны гнеў, крывёю набрынялы,
Што вочы напаўняў гаспадара
І прадвяшчаць ужо не мог дабра.

59 Калі дачка ці сын з-пад іх улады
Выслізгваюць, нялёгка ўсім бацькам.
Стварэнні, у якіх мы ўбачыць рады
Свае абрысы або іхніх мам,
Нам здраджваюць, аднак,— і гэтай здрады
Спакойна знесці немагчыма нам,
Бо наша сонца засланяюць хмары —
І разбіваюць нас хвароб удары.

60 Сям'я, дарэчы, неблагая рэч.
Каб дзеці не псавалі нам крыві, мы
Ніколі б іх не адганялі прэч.
Каля каміна, быццам херувімы —
Ля алтара (святыя насамрэч),
Яны стаяць у сіверныя зімы.
Сярод дзяцей бяднейшая з кабет —
Нібы гінея пасярод манет.

61 Было сутонне. Праз малыя дзверы
Зайшоў вандроўнік непрыкметна ў дом.
Жуан з Гайдэ (прыгожай, быццам перы)
Ва ўсёй красе сядзелі за сталом
Інкруставаным. Лыжкі і фужэры
Блішчэлі золатам і серабром,
А перламутр і яркія каралы
Ўпрыгожвалі талеркі і піялы.

62 Стаялі за Гайдэ і Дон-Жуанам
Рабы прыгожыя, а на стале —
Ягня з фісташкамі, і суп з шафранам,
І з рэдкай рыбы смачнае філе.
Напэўна, падабалася гурманам
І з малака казінага суфле.
Працэджаныя праз кару шарбеты
Стол аздаблялі ў адвячорак гэты.

63 Стаялі на стале плады з Марока
І з фінікаў салодкіх піражкі,
А самы лепшы аравійскі мока
Быў у кітайскім посудзе, які
Здзіўляў красой і не рабіў апёкаў.
А кава пахла (я напой такі
Не піў ніколі б з радасцю вялікай)
Карыцаю, шафранам і гваздзікай.

64 Палосы аксамітныя ў пакоі,
Дзе парачка ўлюбёнцаў маладых
Дэгуставала дзіўныя напоі,
Былі да сцен прыбіты, а на іх
Майстрыхі шоўкам вышылі ляўкоі.
А на бардзюры рукі тых майстрых
Рупліва апранулі ў шоўк ліловы
Персідскіх мудрых вершатворцаў словы.

65 Як Валтасару грознаму — прарок,
Як чарапы — Мемфісу, іх цытаты
Нагадваюць на Ўсходзе ўсім штокрок,
Што некалі настане час адплаты —
І кожны ветрагон і абібок
Ў абдымкі будзе забыццём узяты.
Але шануе экзатычны Ўсход
Другую мудрасць — прагу асалод.

66 Гетэра памірае ад сухот;
Эклектыкам становіцца гуляка;
Співаецца ўсяго за нейкі год
Самаўлюбёны геній-задавака;
Паралюш (пэўна, горшае з нягод)
З ног валіць альдэрмана-небарака.
Віно, любоў, няспанне па начах,
Як і абжорства, набліжаюць крах.

67 Малінавы дыхтоўнейшы дыван
З блакітнаю шырокай аблямоўкай
Таптаў нагамі юны Дон-Жуан
З прыгожай і парывістай сяброўкай.
Сафа, якой не мае і султан,
Была апошняй іхняю абноўкай.
Падушкі аксамітавыя тры,
Як сонцы, асвятлялі дом знутры.

68 Фарфор, фаянс, крыштальныя збаны
І мармур бляск агульны дапаўнялі.
Індыйскія цыноўкі, дываны
Персідскія квяцістасцю здзіўлялі.
Былі там кошкі, козы, ілгуны,
Што званнем фаварытаў зараблялі
Надзённы хлеб, як найкаштоўны дар.
Хапіла б іх на двор і на базар.

69 Было шмат люстраў там, а на сталах,
З драўніны чорнай зробленых майстрамі
І з панцыраў вялізных чарапах,
Стаялі і паблісквалі бакамі
Графіны, вазы — і прыемны пах
Струменіўся над шчодрымі сталамі.
Застаўлены быў кожны стол суздром
Прысмакамі, шарбетамі з ільдом.

70 Апісваць я не буду туалеты.
Скажу адно, што на Гайдэ былі
Шыкоўныя джэлікі дзве надзеты.
Бы хвалі дзве, кашулю прыўзнялі
Тугія грудзі маладой кабеты,
А гузікі жамчужны бляск лілі.
Свяціўся тонкі вэлюм над дзяўчынай
Наплыўшаю на поўню аблачынай.

71 Ружанцы бранзалетаў залатых
У той дзень яе ахоплівалі рукі.
Прычым замочкаў не было на іх.
Калі Гайдэ рукой рабіла рухі,
Расцягваўся метал чысцейшы ўміг,
Хаця страшэнна не хацеў разлукі
З бялейшай найпяшчотнейшай рукой
Астравіцянкі гэтай маладой.

72 Такія ж залатыя абручы
Былі і на яе нагах, бо графам
Быў бацька прыгажуні тут, лічы.
Празрысты вэлюм дарагім аграфам
Ззяў на грудзях, бы неба панначы.
Акрасамі сваімі апранахам
Не саступалі валасы. Як жар,
Гарэў атлас турэцкіх шаравар.

73 Яе валос каштанавыя хвалі
Нагадвалі альпійскі вадаспад
І да падлогі, ззяючы, спадалі.
Яны б усю — ад галавы да пят —
Яе пры неабходнасці схавалі,
Каб не былі адкінуты назад
У тонкай сетцы. Бы вялізны веер,
Яны хісталіся, як вецер веяў.

74 Ліла прысутнасць гэтай мілай феі
Святло нябеснае на ўсіх гасцей.
Жыццё, паветра, блазны, ліхадзеі
Каля яе рабіліся чысцей.
Даказвала сабой сястра Псіхеі,
Што можна ў захапленні, карацей,
Не толькі перад ідалам схіліцца,
А і жывой істоце пакланіцца.

75 На жаль вялікі, падвяла сурмой
Красуня вейкі — чорныя, як ночы.
О як смяяліся з яе самой
Вялізныя насмешлівыя вочы!
Ну а пазногці прыгажуня хной
Пафарбавала густа (па-жаночы),
Хаця былі ружовыя яны
Без гэтай яркай непатрэбнай хны.

76 Дарэмна скуры белае адценне
Яна старалася падкрэсліць тым.
І снежным пікам дзіўнае стварэнне
Не саступала бляскам маладым
І згадвалася ўсім, як летуценне.
Шэкспір казаў: «Навошта залатым
Чырвонцам пазалота, а лілеі —
Бялілы?» Так, як фарбы — нашай феі.

77 У белую даўгую апранаху
Адзеты быў Жуан — і камяні
Пад ёй гарэлі, як на Млечным Шляху
Асенняй ноччу — зорныя агні.
Была на ім чалма (на зайздрасць шаху!)
З паўмесяцам, што сеяў праманi,
Шаль з золатам і пёрка з ізумруду,
Але ўсё пералічваць я не буду.

78 Сярод скакух і карлікаў іх світы,
Што забаўляла маладых тады,
Быў і паэт даволі знакаміты,
Які хваліўся славаю заўжды.
Хоць быў яго радок нядрэнна звіты,
Ды апяваў пясняр немалады,
На жаль, звычайна толькі моцных свету,
Якія заплаціць маглі паэту.

79 Ён ганіў каралёў былых і прынцаў,
Хваліў свой час, а зараз ён сярод
Усходніх лютых антыякабінцаў
І лічыць, што лепш з'есці бутэрброд,
Чым плесці вершы і не мець гасцінцаў,
Бо быў калісьці бедным вершаплёт.
Як Саўці і як Крэшаў, апантана
Ён славіць зараз іншае — султана.

80 Ён многа бачыў на сваім вяку.
Мяняў, як стрэлка компаса, кірункі,
Бо не хацелася больш бедаку
Спяваць псалмы, калі спяваюць шлункі.
І ўрэшце дзякуючы языку
Жыццё яму паднесла падарункі:
Быў увянчаны ў хуткім часе ён
І атрымаў салідны пенсіён.

81 Адораныя розумам цвярозым
Свае перакананні змогуць скрыць
І, здрадзіўшы сваім юначым крозам,
Прымусяць пра сябе загаварыць,
Паклікаўшы на дапамогу розум!
Але ці не пара мне завяршыць
Сваё апавяданне? Толькі дзе мы?
Я ледзьве не забыў сюжэт паэмы.

82 Пясняр той быў вясёлы суразмоўца
Ў кампаніі паўп'янай — і сваёй
(Незразумелай і для навукоўца)
Філасафічнай надта балбатнёй
(Было ў ёй рэбусам любое слоўца)
Даводзіў да экстазу ўсіх парой.
Здараецца, што і нікчэмным словам
Аказваецца ўвага дзікім ровам.

83 Паэт па свеце ў гэты час гайсаў
І ў гонар незалежнасці, свабоды
Натхнёна і нязмушана пісаў,
Як і ў далёкай маладосці, оды.
Прызнаны крывадушнік не ўпускаў
І на пустынным востраве нагоды
Зноў з праўдай перамір'е заключыць
І душы гэтай праўдай палячыць.

84 У Францыі і ў Турцыі ён быў.
І там, адкуль прыйшлі ў Еўропу гуны.
Нямала падарункаў ён здабыў,
Кранаючы народаў гэтых струны.
Падрыхтаваным вершыкам любіў
Здзівіць прысутных балаўнік фартуны.
І ўсюды ён стараўся не забыць,
Што ў Рыме трэба рымлянінам быць.

85 Хітрун ніколі не ігнараваў
Нацыянальных густаў і свабодна
«God, save the king» і «Ca ira» спяваў.
Ён пачынаў спакойна і лагодна,
Але ў канцы звычайна глотку рваў.
Прычым спяваў заўсёды ўсё, што модна.
Раз Піндар скачкі праслаўляў, чаму
Не стаць такім жа Піндарам яму?

86 Ён сачыніў шмат песенек у Галіі;
У Англіі раман стварыў амаль;
Баллады ён пісаў у Партугаліі;
Ў Германіі, якую славіць Сталь,
Прыпадабніўся Гётэ; у Італіі
Ён трэчэнтыстаў высмеяў, на жаль,
А ў Грэцыі, што гнецца пад прыгнётам,
Гімн сачыніў тамтэйшым патрыётам:

I «О грэчаскія астравы,
Дзе пра любоў Сафо пісала!
Нам Феба нарадзілі вы,
Тут слава Дэласа паўстала.
Імглой пакрыта што было.
І толькі сонца — не зайшло!

II Быў час для вас — як землятрус.
Чароўнай арфы, дзіўнай лютні
Сіроскіх і Тэноскіх муз
Сягоння галасы не чутны.
На *блаславёных* астравах
Паўсюдна толькі тло і прах.

III Груды глядзяць на Марафон,
А Марафон глядзіць на мора.
І сніцца мне чароўны сон,
Што грэкаў не гняце пакора.
Грабніцы персаў я тапчу —
Быць пад прыгнётам не хачу.

IV Цар ганарлівы раніцой
Глядзеў са скал на Саламіне
На флот непераможны свой,
Які да вечара загіне.
Яшчэ калі гарэў заход,
Разбіты быў персідскі флот.

V Ты, Грэцыя, пасля таго
Не чула пераможных гімнаў.
Звон сэрца мудрага твайго,
Нібы набат, яшчэ не грымнуў.
Няўжо як ліра, так і лук
Не знойдуць тут надзейных рук?

VI Мяне, як і маіх сяброў,
Не насычае славы скорам.
Што край мой родны — край рабоў,
Мяне катуе сёння сорам.
Я не магу спакойна пець,
Магу рыдаць і чырванець.

VII Не слёзы — продкі нашы кроў
Тут пралілі за край свой мілы.
Спартанцы! Ажывіце зноў
І перакрыйце Фермапілы.
З трохсот вярніце толькі трох —
І нам тады паможа Бог.

VIII Вы маўчыце? О не! Здаля,
Бы рэха, коціцца ў тумане:

«Адпусціць нас усіх зямля!
Хай з вас жывых адзін паўстане».
Але дарэмны покліч іх:
Не адказаў ніхто з жывых.

IX Няхай лютуе туркаў раць,
А мы за родную Эладу
Ў тавернах будзем праліваць
Кроў маладую вінаграду
І абаронім гонар свой
Вясёлай п'янаю гурмой.

X Пірыйскі танец ёсць у нас,
А дзе цяпер фаланга Піра?
Нязломных душ агонь пагас.
Няма ў нас мэты і куміра.
Кадм алфавіт прыдумаў нам,
Але навошта ён рабам?

XI Лепш піць самоскае віно,
Чым слухаць пра такія рэчы.
Натхняла некалі яно
Анакрэона. І, дарэчы,
Хоць ім апеты Палікрат,
Быў той тыран — наш кроўны брат!

XII Тыранам Херсанеса быў
Той Мільтыяд, які свабоду
І волю больш за ўсё любіў,
А падабаўся тым народу,
Што ўсіх закуў у кайданы.
Відаць, не мулялі яны!

XIII О дайце мне віна глынуць!
Дагэтуль на гарах сулійскіх
І ля паргаскіх скал жывуць
Нашчадкі мацярок дарыйскіх.
Павінна ж гераклідаў кроў
На подзвігі натхніць іх зноў!

XIV Свабоду не падораць нам
Французы з каралём прадажным.
Даверымся сваім мячам
І сэрцам — мужным і адважным!

Страшней, чым сіла мусульман,
Для нас каварства лацінян.

XV Віна наліце ў кубак мой!
Якія вочы, што за грудзі
Ў грачанкі гэтай маладой!
Шкада, што выкармлена будзе
І імі гэткая ж раба.
І зноў туманіць змрок журба.

XVI Да скал сунійскіх я прыйду
Аднойчы і, як лебедзь белы,
З журботнай песняй упаду
На бераг дзікі, апусцелы.
Зямля рабоў! Ты не мая.
І кубак разбіваю я».

87 Так пеў тады ці пець павінен быў
Прыгожым юнакам і мілым феям
Паэт, які свой край не разлюбіў,
Бо спевака, хоць ён не стаў Арфеем,
Але манернасцю не загубіў
Сваёй душы, мы лепей разумеем.
Аднак усе паэты — ілгуны:
Як хочуць, верш расквечваюць яны.

88 У слова шмат магчымасцей і сіл.
Паэт расой чарнільнаю мільёны
Людзей зыначвае на свой капыл.
Нас літары злучаюць, быццам звёны,
З мінуўшчынаю. Нашы лёсы — пыл,
Якім пакрыты пісьмы і пісьмёны.
Які ж малы для часу чалавек,
Калі ў паперкі болей доўгі век!

89 У прах не толькі целы — і грабніцы,
І нашы родыператворыць час.
Адны храналагічныя табліцы
Мо нагадаюць датамі пра нас.
Ды раптам, як пламенне бліскавіцы,
У манускрыпце адшуканы сказ
Або хачкар з грамадскага клазета
Азораць тое, што забрала Лета.

90 Для мудрых слава — вецер, слова, мроя.
Яна залежыць болей ад пяра
Гісторыка, а не ад справў героя.
Як Хойлю — віст (цудоўная ігра!),
Так абавязана Гамеру Троя
Сваёю славай. Слава ж Мальбара
(Хто з вас чакаў такога парадоксу?)
Пакуль жывая дзякуючы Коксу.

91 Лічылі першым, хоць цяжкім, паэтам
Мы Мільтана — любімчыка Тварца.
Ён шчыры, незалежны быў. Пры гэтым
Вучонасцю нагадваў мудраца.
Ды Джонсан іншым мільтанскім партрэтам
Здзівіў нас. Аказалася, жраца
Паэзіі і ў школе лупцавалі,
І дочкі родныя не шанавалі.

92 Ці быў Шэкспір заядлым браканьерам,
Кім Бэкан слыў, што Цэзар вырабляў
І ці ўдзяляў увагу Ціт гетэрам,
З кім Кромвель жыў, а Бёрнс ці так гуляў —
Цікава ведаць гандлярам і пэрам.
Ніколі б гэта я не высвятляў.
Знаць пра герояў нам усё цікава,
Ды гэтым знеслаўляецца іх слава.

93 Не любяць маралісты маладыя
Ні Саўці, што ствараў «Пантысакратыю»,
Ні Вордсварта, які ў гады былыя
Ў сваіх паэмах славіў дэмакратыю,
Ні Колрыджа, які нататкі злыя
Змяшчаў у «Morning Post», арыстакратыю
Чамусь абараняючы заўзята,
А ўзяў, як Саўці, шлюб са швачкай з Бата.

94 Успомню іх — і згадваецца мной
Батані-бэй маральнай геаграфіі.
Іх здрады, рэнегацтва — лепшы гной,
Каб забуялі пышна біяграфіі.
Яшчэ ніхто не выдаваў такой
Вялізнай і снатворнай манаграфіі,
Як вордсвартскі даўжэзны «Мацыён».
Мяне, прызнацца, раздражняе ён.

95 Паміж сабой і чытачамі плот
Ён збудаваў высокі, непралазны.
Так, як і паслядоўніцу Саўткот,
Яго не зразумелі нават блазны.
Яны выношвалі свяшчэнны плод
(Падману вірус надта ўжо заразны),
А аказалася, што ад вады
Паэты «зацяжаралі» тады.

96 Ды час вярнуцца да майго рамана.
Пустой я захапіўся балбатнёй,
Пакінуўшы Гайдэ і Дон-Жуана
Ўдваіх ісці дарогаю сваёй.
Такія прыштукі — мая загана.
Змагаюся бязлітасна я з ёй,
Хаця рабіць мне гэта і няпроста.
Мой грэх, аднак,— не страта Арыёста.

97 У нашай лексіцы, на жаль, няма
Сіноніма longueurs, але, хоць слова
Няма такога, з'ява ёсць сама.
Згадаць пра Боба Саўці дастаткова.
Ў яго паэм даўгіх, як пуга, цьма.
Даўгая ж эпапея і прамова
Усіх, як правіла, змушае спаць.
І гэта ўсё няцяжка даказаць.

98 «Гамер,— сказаў Гарацый,— часам спіць».
А Вордсварт піша опусы нядрэмна,
Каб з «Вазаком» сваім нас пракаціць
Каля азёр. Было б яму прыемна
Адчуць, што ў лоддзі над зямлёй ляціць,
Але ўзляцець ён сіліцца дарэмна.
У сліне ўласнай ён адзін плыве
І лоддзю драхлы чоўнік свой заве.

99 Ажыццявіць абсурдныя ідэі
Паэту не паможа і Пегас.
Яму драконаў лепей у Медэі
Пазычыць і запрэгчы ў тарантас
Работы Ўайна. А калі і змеі
Не змогуць памагчы на гэты раз,
То раю Вордсварту ўзляцець за хмары
Я на паветраным вялізным шары.

100 Разносчыкі! Галеры! Вазакі!..
О цені Попа, Драйдэна! Зірніце,
Як падымаюць пену пузыркі,
Што пустатой надзьмуты, і спыніце
Тых джэкаў кедаў, што на ўсе вякі
Ўтапілі б вашы прозвішчы ў нябыце.
Глуміцца перавозчык Пітэр Бел
З таго, кім створаны «Ахітафел».

101 Ды ў рэшце рэшт закончыўся банкет —
І слугі, карлікі, гурма танцорак,
Нявольнікі, музыкі і паэт,
Што песні пеў, пакінулі падворак,
А для Гайдэ з Жуанам неўпрыкмет
Ізноў заззяў зарою адвячорак.
Ave Maria! Гэты дзіўны спеў
Па-над зямлёй ацiхлай паляцеў.

102 Ave Maria! Як любіў калісьці
Я велічнасць хвіліны той, калі
Звон пачынаў магутным гімнам плысці
Зноў над прасторамі святой зямлі,
Калі Цябе ўслаўляла нават лісце,
Хоць кроны нерухомыя былі,
А водбліскі ў паветры вечаровым
Яго рабілі мяккім і ружовым.

103 Ave Maria! — гэта спачуванне,
Малітва і пяшчота да ўсяго.
Ave Maria! — гэта сузіранне
Цябе і Сына роднага Твайго.
Ave Maria! — гэта і чаканне
Магутнейшага Голуба Таго,
Які ператварыў Цябе ў Мадонну,
Што заліла святлом сваім ікону.

104 Бязбожнікам такім, як я, паэты-
Фанатыкі не кураць фіміям,
А пішуць непрыстойныя памфлеты.
Часцей і ўдумліва я раю вам
Чытаць мае малітвы-запаветы:
Дарогу ў неба знойдзеце вы там,
Бо мой алтар — зямля, паветра, горы,
Марскі прастор і душ радзіма — зоры!

105 О адвячоркавы салодкі час!
Як я на ціхіх берагах Равены,
Што выйшлі пініямі цешыць нас
З адрыятычнай жыватворнай пены,
Любіў цябе! Рабіўся (і не раз!)
Аплотам цэзараў лес вечны гэны.
Бакачыо і Драйдэн гэты бор
Уславілі так, як не ўславіць хор!

106 У гэты вечаровы час набат
Гудзеў за дрэвамі прызыўна дзесьці,
А я ў час гэты быў надзвычай рад
Вярхом на рысака гнядога сесці
І гнаць яго пад пераззвон цыкад,
Пакуль не ўбачу ў лесе цень Анесці,
Што паляваў на гурый маладых
І навучаў любві сапраўднай іх.

107 Глядзеў у гэты час я на Венеру
І гаварыў: «О Геспера святло!
Прыносіш ты галоднаму вячэру,
А птушаняткам — матчына крыло,
Спачын даеш знясіленым не ў меру
І ўсіх вяртаеш у сваё жытло —
Валоў, людзей. Маленькаму дзіцяці
Ты ў гэты час вяртаеш грудзі маці».

108 О час, калі маркоцяць шкадаванні
Тых мараплаўцаў, што сябрам сваім
На пірсе рукі пацìскалі ўранні;
Калі заплакаць хоча пілігрым,
Пачуўшы звон, які пяе літанні
Дню, што згасае ў прыцемку густым!
Памрэ тыран, што зелянеў ад злосці,
Яго таксама пашкадуе хтосьці.

109 Калі, на радасць Рыму, ўсё ж такі
Раз'юшаны Нерон сканаў (у сілу
Прысуду справядлівага, які
Быў вынесены гэтаму граміле),
Гавораць, быццам нехта гваздзікі
Паклаў усё ж на свежую магілу.
Відаць, вампір, што кроў людскую піў,
Хаця б хвіліну чалавечным быў.

110 Я адхіліўся зноў, хоць мой герой
Не меў ніякіх сувязей з Неронам,
Як жыхары лампады незямной,
Што ноччу свеціць,— з прынцам ці баронам.
Быў Дон-Жуан, па сутнасці, ізгой
І не валодаў аніякім тронам.
Мяне, напэўна, побыт засмактаў —
І я ў паэзіі кантабам стаў.

111 Шматслоўны я, хоць адчуваю сам,
Што гэта песня — ледзь не эпапея.
І вось таму разрэзаць папалам
Пры перапісцы вырашыў яе я,
Хоць, можа, крытыкам і чытачам
Не спадабаецца мая ідэя.
Зрабіць параіў Арыстоцель так
Сваёй «Паэтыкаю» мне, аднак.

## ПЕСНЯ ЧАЦВЁРТАЯ

1 Няма ў паэзіі цяжэй нічога
Пачатку і канца. Як Люцыфер,
Што з раю выгнаны, Пегас-нябога
Ледзь кандыбае па зямлі цяпер.
Калі ў паэта гордасці замнога,
Ён не ўзнясецца да нябесных сфер:
Бард, што свае пераацэніць сілы,
У хуткім часе паламае крылы.

2 Расчараванне і няўмольны час
Між рэчамі ўсталююць раўнавагу
І ўрэшце змусяць болей сціпла нас
Ацэньваць і свой розум, і развагу.
Мы перабольшваем, пакуль не згас
Агонь у жылах, і сваю адвагу.
Калі жыццё ўпадае ў акіян,
Развейваецца, як туман, падман.

3 На творцаў я глядзеў з прыжмурам хітрым,
Бо перавагу свет маю прызнаў.
Шматфарбнасцю я не ўступаў палітрам
Паэтаў лепшых, але ўрэшце склаў

Мой гонар крылы. Над маім пюпітрам
Адчай сягоння пырхае, бо стаў
Ператварацца ў вадэвіль камічны
Чамусьці і раман мой рамантычны.

4 Высмейваю я слабасці людскія,
Каб не заплакаць. Плачу я ж таму
Ў апошні час, што душы ў нас такія:
Мы люду спагадаем усяму.
Каб сэрца не краналі сны былыя,
У Лету трэба даць нырца яму.
У Стыкс Фетыда сына акунала,
Але для нас прыдатнай Лета стала.

5 Мне ладзяць нядобразычліўцы звады,
Нібы ў сваіх радках рабіць люблю
Я на айчыну і мараль напады.
Я сапраўды не знаю, што раблю,
Калі не здолею стрымаць бравады,
Ды і тады я проста весялю
Панурых чытачоў (калі прызнацца),
Бо часам хочацца пазабаўляцца.

6 І веру — не палічыць адыёзным
Чытач сырой краіны гэты ход.
І Пульчы быў паэтам несур'ёзным,
Бо рыцарам такім, як Дон-Кіхот,
Прыстойным дамам і сатрапам грозным
Ён прысвячаў радкі жартоўных од,
Ды пра каго пісаў Луіджы оды —
Усе, апроч апошніх,— выйшлі з моды.

7 Я пераняў ягоныя манеры,
Ды не магу сказаць вам, у якой
Ступені выканаў свае намеры.
Я згодны буду з думкаю любой,
Калі вас гэта задаволіць, сэры.
Не зганю я век ліберальны свой!
Ды Апалон дзярэ мяне за вуха:
«Ў сюжэт вяртайся — не пішы так суха!»

8 Калі з Гайдэ ў кампаніі сваіх
Салодкіх думак Дон-Жуан застаўся,
Сам час — бязлітасны праціўнік іх —

Махнуць касой жахлівай не рашаўся,
Бо шкадаваў шчасліўцаў трапяткіх,
Чый экзатычны сон цяпер канчаўся.
Жыццё ўжо іх састарыць не магло —
Ім суджана больш страшнае было.

9 Іх твары не счарнеюць ад маршчынак,
Не зробіцца халоднаю іх кроў,
Іх пасмы застануцца без сівінак.
Іх жыцці — гэта клімат гарадоў,
Дзе не бывае сцюжы і сняжынак.
Ім лепей стаць ахвярамі грамоў,
Чым дагараць, як вогнішча начное:
Было ў іх душах штосьці незямное.

10 І для дзяўчыны, і для юнака
Здаваўся раем час адасаблення.
Як без вытоку — хуткая рака,
Як маладое дрэўца — без карэння
І як без матчынага малака —
Дзіцё, яны б зачахлі, без сумнення,
Каб нехта разлучыў гвалтоўна іх.
Разлука — крах для сэрцаў трапяткіх.

11 Яны не могуць існаваць адны,
На жаль, на гэтым свеце ні хвіліны.
Ад смутку разбіваюцца яны,
Бо зроблены не з чалавечай гліны.
Шчаслівы тройчы, хто пайшоў з вясны,
Мінуўшы лета, ў сырасць дамавіны.
Жыццё часцей пускае карані
У людзей, што ім не даражаць ані.

12 «Багоў любімцы паміраюць рана»,—
Сказаў мудрэц. Яны пазбегнуць страт
Сяброў, кахання. Ім наканавана
Юнацтва вечнае без бед і звад.
Як доўга ад смяротнага аркана
Ты ні ўцякай — цябе маўклівы спрат
Чакае ўсё адно. І лепш намнога
У маладосці паляцець да Бога.

13 Гайдэ і Дон-Жуана захаплялі
Зямля, паветра, неба — і не раз

Мае героі шчыра шкадавалі,
Што гэтак хутка пралятае час.
Іх вочы незахмараныя ззялі
Заўсёды шчасцем — яркім, як алмаз.
Быў гэты дзіўны бляск адлюстраваннем
Святых агнёў, народжаных каханнем.

14 О як натхняліся яны пяшчотным
Неспадзяваным дотыкам рукі,
Усмешкаю, паглядам мімалётным
І мілагучным гоманам, які
Здаваўся шчабятаннем бесклапотным
Таму, хто іхні верад трапяткі
Не разумеў, бо ўжо даўно забыўся
Пра тое, як упершыню ўлюбіўся!

15 Яны абое праглі асалоды,
Бо дзецьмі неразумнымі былі
І засталіся імі назаўсёды.
Яны звычайных роляў не маглі
Выконваць. Гадаванцамі прыроды
Яны ў струменях вадзяных жылі
І між расквечаных лясных палянак,
Як тая німфа і яе каханак.

16 Мяняўся месяц, а яны нязменна
Свяціліся любоўю незямной.
Яшчэ ніколі радасць так праменна
Не ззяла пад лампадаю начной.
Ды не маглі іх душы, несумненна,
Быць сыты пачуццёвасцю адной.
Страсць натуральная, нібы дыханне,
Ўпрыгожвала іх чыстае каханне.

17 Як страсна прагне гэткага кахання,
Памкненняў і пачуццяў вось такіх
Душа, знямоглая ад сузірання
Прыгод распусных, пошласці, інтрыг,
Ненатуральных шэптаў, выкраданняў,
Вяселляў дарагіх, пасля якіх
Даведвасцца толькі муж не хутка
(О Гіменей!), што жонка — прастытутка.

18 Хоць надта жорсткія такія словы,
Але праўдзівыя. Мае сябры
Былі шчаслівыя, бо шал вясновы
Іх ратаваў ад смутку і журбы,
Ды шал такі — кароткатэрміновы.
Іх называлі слугі і рабы
Спагадна рамантычнаю блазнотай,
Хоць і зайздросцілі ім шчыра ўпотай.

19 Гайдэ чытала з кніг адзін буквар.
Жуан прыстойны быў. Таму не плодам
Чытання і ім выкліканых мар
Былі пачуцці іх. Сама прырода
І лёс раздзьмухалі душ юных жар.
І ўсталявалася між імі згода,
Бо спазнавалі азбуку любві
Яны, як салаўі, як галубы.

20 Для іх зары вячэрняй пералівы,
Якою любаваліся яны
Тым вечарам, сэнс мелі асаблівы:
Такой парой, застаўшыся адны,
Яны пачулі сэрцаў стук шчаслівы —
І іх злучылі страсці кайданы.
О як прыемна любавацца тым,
Што нам напамінае аб былым!

21 Яшчэ на захадзе не згаслі барвы,
Як страх іх сэрцы чуйныя крануў,
Нібыта лёгкі вецер — струны арфы,
І душы іх, як полымя, хіснуў —
Раптоўны, вераломны і каварны.
Жуан панік адразу, уздыхнуў,
Як быццам адчуваў, што за пагрозы
Вісяць над ім. Гайдэ змахнула слёзы.

22 Праводзілі дзяўчыны сумнай вочы
Свяціла дзённага бліскучы шар,
І быў, на жаль, пагляд Гайдэ — прарочы,
Бо гэта сонца іх надзей і мар
Заходзіла навекі. Сум сірочы,
Як змрок, нахлынуў на Жуанаў твар.
Юнак ад гэтага замарачэння
У Гайдэ прасіць збіраўся прабачэння.

23 Яна з усмешкаю, але не з той,
Што прымушае іншых усміхацца,
Зірнула на яго. Відаць, з журбой
Было не надта лёгка ёй змагацца.
Жуан, жартуючы, пра іх настрой
Загаварыў. Яна ў адказ: «Смяяцца
Я не магу... Жах лезе ў галаву...
Бо я расстання не перажыву».

24 І рот заціснула яму яна
Працяглым пацалункам, каб прымусіць
Маўчаць яго і каб не так відна
Была яе журба, бо гэта, мусіць,
Не горшы сродак нават ад віна,
Хоць прызнаюся, бо не ўмею хлусіць,
Прыносяць болі тыя сродкі два —
То сэрца забаліць, то галава.

25 Што лепш — віно ці страсныя жанчыны?
Яны прычына ўсіх зямных нягод.
Яны нібыта зборшчыкі даніны
З адвечных радасцей і асалод.
Жанчыны нам патрэбны, як і віны,—
Без іх змарнее чалавечы род.
Я іх баюся, ды кажу затое:
Лепш паспытаць і тое, і другое!

26 Выказвалі яны ўсе віды цягі
Вільготнымі вачамі ў вечар той:
Дзіцячага сяброўства, моцнай прагі
Задавальнення страсці маладой,
Кахання, захаплення і павагі.
Была любоў іх чыстай і святой!
Ад лішку пачуцця яны п'янелі,
Бо меней сэрцы іх любіць не ўмелі.

27 Было ў той час памерці лепей ім,
Калі злучыліся іх сэрцы, рукі.
Здалося б ім маркотным і даўгім
Жыццё, каб доўжылася да разлукі.
Прытворны свет ім — страсным, быццам гімн
Сафо цнатлівай,— гора і дакукі
Прынёс бы шмат, бо для такіх істот
Жыцця не існуе без асалод.

28 Ім з салаўямі ў гушчарах лясных
Жыць адасоблена б. Людзей заганы,
Нянавісць і турботы — не для іх!
Істоты, што ў свабоду закаханы,
Жывуць, як птушкі пеўчыя, ўдваіх
Або адны лунаюць, як арланы.
Кідаюцца на трупы груганы,
Як людзі, злымі зграямі адны.

29 Жуан, прыпаўшы да Гайдэ шчакой,
Як і яна, у чуйную дрымоту
Правальваўся — і нейкі неспакой
Перапаўняў усю яго істоту.
Гайдэ трымцела ружай трапяткой.
Салодкай музыкі за нотай ноту
Выводзілі пялёсткі губ яе.
Здавалася, нібы яна пяе.

30 Так, як у Альпах ветрык-ветрагон
Па роўнядзі азёрнай прабягае,
З Гайдэ той ноччу забаўляўся сон,
Які прытомнасць нашу выкрадае,
Душу і цела беручы ў палон,
Але адначасова дазваляе
Ў адсутнасці пачуццяў адчуваць,
З закрытымі вачамі — сузіраць.

31 Ёй снілася, нібы яна прыкута
На беразе пустынным да скалы.
Раўло і грукатала мора люта,
Да рота падбіраліся валы.
Якая гэта цяжкая пакута,
Калі цябе прыбой накрые злы!
Але дзяўчына ў гэтай крутаверці
Адчула, што не можа ўсё ж памерці.

32 Нябога (дзякуючы намаганню
Неверагоднаму) парвала ўсё ж
Свае аковы і за белай зданню
Пайшла па вострых скалах басанож,
Не могучы даць рады хваляванню,
Што к сэрцу падступіла, быццам нож.
Гайдэ да здані рукі прасцірала —
Здань ад астравіцянкі адступала.

33 Але жахлівы сон змяніўся скора.
І снілася красуні маладой
Цяпер са сталактытамі пячора,
Сырая і глыбокая, кудой
Цюлені часам выпаўзалі з мора.
Гайдэ была абліта ўся вадой,
А слёзы, што са шчок цяклі, адразу
Рабіліся драбочкамі алмазу.

34 Дзе высілася мокрая скала,
Ляжаў Жуан — збялелы, быццам пена,
Прыліпшая да мёртвага чала,
Якую марна, стаўшы на калена,
Гайдэ сцірала. Змусіць не магла
Хлапца прачнуцца нават хваль сірэна.
Здавалася, што сон імгненны той
Не меней вечнасці ўжо сніўся ёй.

35 Чым больш уважліва яна ўглядалася
У твар нябожчыка, усё ясней
У ім аблічча бацькі праяўлялася —
Пагляд пранізлівы яго вачэй
І профіль грэчаскі. Гайдэ злякалася,
З сябе дрымоту скінула хутчэй
І ўбачыла (о жыхары нябесныя!)
Абрысы бацькі — злыя і злавесныя.

36 Устала з крыкам радасным дзяўчына,
Але ад страху ўпала зноў затым,
Убачыўшы таго, каго лічыла
Даўно здабычай хваль марскіх, жывым;
Таго, хто зараз абарве, магчыма,
Жыццё Жуана выстралам адным.
Падобнае на гэты момант штосьці
Я пераЖыў у даўняй маладосці.

37 Жуан ускочыў, леваю рукою
Схапіў Гайдэ і шаблю са сцяны
Сарваў паспешліва рукой другою.
З тым, хто парушыў іх спакой начны,
Юнак рашучы быў гатоў да бою,
Але пірат, што абарваў іх сны,
Сказаў яму пагардліва, сурова:
«Знай, цьма клінкоў майго чакае слова!»

38 Гайдэ хлапца рукамі абхапіла
І крыкнула: «Жуан! Ён бацька мой!
І каб на нас ён не глядзеў няміла,
Стань на калені перад ім са мной!
О тата! Я люблю, як і любіла,
Цябе і полы вопраткі тваёй
Цалую. Пастугі з дачкою строга,
Ды пашкадуй хлапчыну маладога!»

39 Старэча горды не зрабіў ні руху.
Спакойнымі і голас, і пагляд
Былі ў яго, што аб спакоі духу
Ваўка марскога сведчыла наўрад.
Ламбро не стаў яе развейваць скруху —
На бледнага хлапца зірнуў пірат.
Той з шабляй у руках стаяў знямела
І быў гатоў абараняцца смела.

40 «Аддай мне шаблю, шкет!» — на юнака
Ламбро прыкрыкнуў. «Немагчыма гэта,
Пакуль свабодная мая рука!» —
Той запярэчыў. Дула пісталета,
Паклаўшы палец на скабу курка,
Навёў разбойнік у адказ на «шкета».
Калі б Жуан зрабіў адзіны рух,
То з цела б адляцеў ягоны дух.

41 Пахаладзее кроў, як шчоўкне суха
Праціўнікам узведзены курок
(Так дзейнічае гэты гук на вуха!) —
І ты адчуеш, што праз нейкі крок
Смяротны выстрал можа грымнуць глуха.
Але пасля дуэлей дзвюх ці трох
Да гукаў гэтых вуха прывыкае —
І ўжо яго нічога не злякае.

42 Здавалася, загіне мой герой,
Але Гайдэ ад выстралу пірата
Тут засланіла юнака сабой:
«Забі мяне! Ва ўсім я вінавата!
Яго на бераг выкінуў прыбой.
Яго люблю я і памру з ім, тата.
Ты непахісны, цвёрды і круты,
Ды я не менш рашучая,чым ты!»

43 Вось толькі што яна была ў слязах,
Была дзяўчынкай кволай і ласкавай,
А ў гэты момант, занядбаўшы страх,
Гайдэ стаяла з гордаю паставай.
Яна расла як быццам на вачах —
І стала мармуроваю выявай,
Каб засланіць надзейна юнака.
І дрыгнула магутная рука.

44 Былі яны падобныя надзіва —
І зіркалі адно на аднаго
Аднолькава рашуча і зласліва.
Сцвярджалі блікі полымя таго,
Што пырхала ў вачах іх мітусліва:
Ён і яна гатовы да ўсяго!
Была красуня львіцай, хоць ручною,
Ды з бацькавай гарачаю крывёю!

45 Аднолькавыя неба ім дало
Паставы, рукі, твары і натуры.
Узрост — адно адрозненне было,
Другое — разнаполыя фігуры.
Замест слёз радасці ў той момант зло
Ў вачах іх бліскала прадвесцем буры
І красамоўна сведчыла ад тым,
Што можа страсць зрабіць любога злым.

46 Ламбро на момант палец зняў з курка,
За пояс пісталет засунуў зноўку:
«Хто вінаваты, што мая дачка,
Калі я ў небяспечную вандроўку
Адправіўся, прыгрэла чужака?
Любы раман павінен меці канцоўку!
І ўсе віноўнікі такіх абраз
Павінны некалі трымаць адказ.

47 Калі не кіне ён свой ятаган,
То галава з плячэй ягоных шарам
Адразу скоціцца к тваім нагам,
А слоў сваіх не гавару я дарам!»
Ён свіснуў — і ў пакой пад дзікі гам
Гурт на чале з няўрымслівым карсарам
У той жа момант урывацца стаў.
«Узяць яго!» — разбойнік загадаў.

48 Схапіў Ламбро сваю дачку за рукі
І ашчаперыў, быццам той удаў,
А флібусцьеры злыя, як гадзюкі
(Хоць, зрэшты, змей дарэмна я згадаў,
Бо не такія ўжо гадзюкі злюкі
І лепшых заслугоўваюць актаў),
Напалі на збялелую ахвяру,
Што лоб рассекла першаму карсару.

49 Другому Дон-Жуан рассек шчаку,
Ды трэці (самы стрыманы з карсараў)
Адбіў удар і (у сваю чаргу)
Спрактыкавана ножыкам ударыў
У галаву Жуана і ў руку —
І ўсё, аб чым герой мой змалку марыў,
Адным ударам абарваць ён мог:
Хлапец валяўся ля ягоных ног.

50 Памяўшы добра рэбры небараку,
Шукальнікі прыгод і асалод
Звязалі Дон-Жуана і (па знаку
Ламбро) даставілі на галіот.
Даўно гатовы быў сваю Ітаку
Пакінуць парусны пірацкі флот.
Было загадана піратам двум
Сачыць за донам, кінутым у трум.

51 Які наш свет усё ж парадаксальны
І зменлівы надзіва! Сапраўды,
Джэнтльмен адораны, не амаральны,
Удачлівы, прыгожы, малады
Трапляе ў пераплёт непрадказальны.
У труме тым, дзе шмат было вады,
Паранены, ляжаў ён з-за дзяўчыны.
Цяпер душылі Дон-Жуана ліны.

52 Я, каб не ўпасці ў пафасны экстаз,
Узбуджаны кітайскай німфай чаю,
Як той Касандрай, у чарговы раз,
Жуана ў гэтым месцы пакідаю:
Як вып'ю кубкі тры — я кожны сказ
Журбою і маркотай напаўняю.
Шкада, што шкодна піць адно віно.
Паэта падбадзёрыла б яно!

53 Калі піць чай, дык толькі з каньяком —
Спакусліваю німфай Флегетона,
Але ж зрабіць ён можа трухляком,
На печань хворым, барда і барона.
Я ласуюся часам араком,
Калі працую плённа і натхнёна,
Бо вельмі смачны гэты пунш, аднак
Псуе здароўе і слабы арак.

54 Няхай адзін пабудзе бедалажка,
Бо сэрца беднае Гайдэ было
Паранена той ноччу болей цяжка.
Гайдэ была жанчынаю, што зло
Яшчэ не ўмела зносіць, як манашка,
І ўсё, што сталася, яе гняло.
Яе матуля — з Феса, дзе, дарэчы,
Адны аазісы або пустэчы.

55 У мармуровыя басейны там
Струменяць сок вялізныя масліны.
Расцецца добра зерню, і пладам,
І кветкам на абшарах той краіны.
Прывычна днём там апякаць пяскам
Вярблюдам пяткі. Гучны рык ільвіны
Там раздаецца ў цішыні начной.
І людзі гэткія ў краіне той.

56 Гарачыя, як сонца, афрыканкі —
То дабрыня бязмежная, то гнеў
Перапаўняюць сэрцы іх і тканкі.
Каханнем, прыгажосцю палымнеў
Твар чарнавокай страснай маўрытанкі,
Ды страсць яе драмала, быццам леў,
Што ў цень, каб не надакучала спёка,
Схаваўся ля гаючага вытока.

57 Яе дачка, на жаль, была саткана
З больш мяккіх прамянёў. Яна святлом
Была, як аблачынка, прапітана.
Зарадамі, што нараджаюць гром,
Гайдэ напоўнілася нечакана.
У нумідыйскіх жылах злым агнём
Адчай успыхнуў і ўзарваў дзяўчыну,
Як той самум — пясчаную раўніну.

58 Убачыўшы, як падае Жуан
І як пафарбавалася падлога
Крывёю, што цякла з ягоных ран,
Нібы ўздыхнула, крыкнула нябога
І ўпала, як падсечаны платан,
У бацькавы абдымкі — і нічога
Астравіцянка больш перад сабой
Не бачыла з хвіліны страшнай той,

59 Бо хлынула кроў з разарванай жылы
Да свежых губ і ўсмешлівых вачэй.
Нібы гарлачык белы ў дзень панылы,
Яна схіліла галаву ніжэй.
Жанчыны, што прыбеглі, палажылі
На ложак са слязьмі яе хутчэй.
Ні травы не дапамаглі, ні лекі:
Красуня адыходзіла навекі.

60 Дзён некалькі вось так яна ляжала
З пурпурнымі губамі, бы ў жывой,
Хоць пульсу не было. Не праяўляла
Пакуль што смерць каварнасці сваёй.
Гайдэ хутчэй аблíччам унушала
Надзею, чым упадніцкі настрой.
Парой зямля са смерцю ваяўнічай
Нялёгка завалодваюць здабычай.

61 Адбітак страсці і крутой натуры
Ляжаў на твары панны маладой,
Але не прадвяшчаў ніякай буры.
З'яўляўся ён адбіткам страсці той,
Што выяўляецца тварцом скульптуры,
А гэта значыць — страсці нежывой.
«Лаакаон», «Венера», «Гладыятар»!
Жывых фігур я большы ўсё ж аматар.

62 Яна прачнулася, але не так,
Як той, хто спаў спакойна і глыбока,
А як з магілы паўстае мярцвяк.
Усё наўкол яе здзіўляла вока.
Сціскала, праўда, сэрца штось, аднак
Была красуня ад падзей далёка.
Спагадлівыя фурыі спакой
Падаравалі на хвіліну ёй.

63 Блукаючым паглядам абвяла
Гайдэ людзей, што ля яе сядзелі,
Ды ўцяміць усё роўна не змагла,
Чаму сумотна так яны глядзелі,
І ні на што адказу не дала,
Хоць вусны прыгажуні не знямелі.
Яскрава сведчыў толькі рэдкі ўздых:
Яна яшчэ належыць да жывых.

64 Прыглядваў за Гайдэ і бацька з імі,
Але яна адводзіла пагляд.
І рэчы, і сябры, што дарагімі
Былі яшчэ дзён некалькі назад,
Зрабіліся ўсе для яе чужымі.
Як вынеслі астравіцянку ў сад
І нагадалі пра жыццё былое,
Яе аблічча стала болей злое.

65 Каб да жыцця вярнуць яе, арфіста
У рэшце рэшт паклікалі яны,
Ды той спяваць пачаў так галасіста,
Што змусіў адвярнуцца да сцяны
Дачку пірата і кантрабандыста,—
І ціха песню роднай стараны
Пра час, калі яна была свабоднай,
Запеў арфіст з тугою безвыходнай.

66 Худымі пальцамі ў такт песні той
Біць стала па сцяне астравіцянка.
Пасля арфіст дзяўчыне маладой
Спеў песню пра каханне — і грачанка
Пад песню тую ўспомніла з тугой
Той час, калі была сама каханка.
І слёзы хлынулі з яе вачэй
Так, як у лівень з гор крутых — ручэй.

67 Была нядоўгай радасць! Не паспелі
Зрабіць сядзелкі аблягчэння ўздых,—
Яна раптоўна ўскочыла з пасцелі
І стала ў непрытомнасці на ўсіх,
Нібы яе пабіць усе хацелі,
Кідацца, як на ворагаў сваіх.
Гайдэ на іх парады не зважала —
Упарта і напружана маўчала.

68 Красуня апрытомневала зрэдку,
Але глядзець на бацьку не магла
Так, як на пакаёўку і суседку,
Хоць у бяспамяцтве ўвесь час была.
Схуднелая без ежы, неўпрыкметку
Гайдэ згасаць і чахнуць пачала.
Ні лекі ёй, ні змены дня і ночы
Заплюшчыць не дапамагалі вочы.

69 Дванаццаць сутак не магла заснуць
Гайдэ, пакуль душа бядняжкі з цела
Так ціха, што ніхто не змог пачуць
Ні ўздыхаў і ні стогнаў, адляцела.
Аднак спыніўся неўзабаве чуць
Прыкметны рух вачэй і пацямнела
Аблічча светлае. Бляск у вачах
Змяніўся цьмой. Які ўсё ж гэта жах!

70 У той жахлівы вечар не адна
Яна пайшла з жыцця. З малым зачаткам
Жыцця другога адышла яна —
З зачаткам, што зрабіцца мог дзіцяткам,
Якога б не разбэсціў сатана.
Але навек застаўся ён зярняткам,
Якое ўжо не будзе ярыной,
Хоць палівай яго расой адной.

71 Так адышла грачанка ў небыццё.
Не змусіла ніякая пакута
Астравіцянку спляжыць пачуццё
І тлець, пакуль якаясьці мінута
Ёй не ўкароціць сумнае жыццё.
Ля мора самага, дзе ўгору крута
Ўздымаецца высокая скала,
Ляжыць яна, згарэўшая датла.

72 На востраве бязлюдна і паныла.
З дамоў кудысьці зніклі жыхары.
Магіла бацькі і Гайдэ магіла
Стаяць адны каля крутой гары.
Пра грэшніцу, якую страсць згубіла,
Там не раскажуць вам і плеткары.
Яна цяпер адданая Аіду.
Над ёй спявае мора паніхіду.

73 Ламбро пірацкай славіцца сям'ёй,
А пра Гайдэ ўся Грэцыя спявае:
Жыццяя каханне каштавала ёй.
Сярод людзей інакш не бывае —
І грэшніца слязамі і крывёй,
Як павялося на зямлі, змывае
Сваё (звычайна — светлае!) кляймо.
Каханне помсціць за сябе само!

74 Ды час, відаць, сумотную старонку
Перагарнуць, бо надта не люблю
Ў мінорным тоне весці я гамонку.
Плыць у другім напрамку караблю
Час надышоў. І гэта я спрасонку
З гарэзліваю музаю зраблю.
Мы паплывём услед за Дон-Жуанам,
Які яшчэ не змог даць рады ранам.

75 Паранены і звязаны — шмат дзён
Ляжаў Жуан, ды ў рэшце рэшт прачнуўся.
Расплюшчыўшы павекі, зноўку ён
У рэчаіснасць з небыцця вярнуўся
І ўбачыў экзатычны Іліён,
Куды з маленства самага імкнуўся.
Аднак і велічны Сігейскі мыс
Паднёс яму нярадасны сюрпрыз.

76 Дзе Гелеспонт блішчыць, як адамант,
Стаіць курган з астанкамі Ахіла,
Хоць гэта і аспрэчвае Брыант.
Крыху ўбаку знаходзіцца магіла
Патрокла ці Аякса. Дылетант
У гэтым я — і думка асяніла
Мяне такая: «Хто ні ўстаў бы з іх —
Ён знішчыў бы адразу ўсіх жывых».

77 Далей ад месца, дзе ляжыць Фетыды
Праслаўлены і легендарны сын,
Убачыць падарожнік краявіды,
Напэўна, велізарнейшай з далін —
Скамандр (калі ён гэта), схілы Іды,
Граду вяршынь, нагадваючых тын.
Сто тысяч вояў могуць размясціцца
Ў даліне той і нават зручна біцца.

78 Авечкі пасвяцца сягоння там,
Дзе сцены Іліёна сталі прахам.
Там бегаецца вольна рысакам
І поўзаецца добра чарапахам.
Не ў навіну тамтэйшым пастухам
Дзівіцца еўрапейскім апранахам.
Там скачуць туркі з люлькамі ў зубах
І пацеркі трымаюць у руках.

79 Тут выпусцілі ўпершыню з «каюты»
Пакутніка, што трапіў у палон.
Абвёў вачамі, змрочнымі ад смуты,
Герояў легендарных пантэон,
А потым, ледзьве зносячы пакуты,
Загаварыў з рабаўнікамі дон.
Прычын яго цяперашняга стану
Яны не растлумачылі Жуану.

80 Яшчэ былі з ім спевакі з Ліворна.
Іх для Палерма закантрактаваў
Антрэпрэнёр, што жыць умеў праворна,
І гандлярам рабамі іх прадаў.
Плылі артысты ў Турцыю пакорна.
Ніхто з іх не стагнаў і не рыдаў.
Антрэпрэнёр падумаў, пэўна: «Продаж —
Больш хуткая і большая выгода ж!»

81 Пра гэта жвавы камедыйны бас
Паведаміў знясіленаму дону.
З усмешкай вёў ён сумны свой расказ,
Чым прыклад тэнару і барытону
Даваў у гэты невясёлы час
І ўмела падбадзёрваў прымадонну:
Казаў яго вясёлы выгляд ім,
Што задаволены бас-буфа ўсім.

82 Вось той расказ: «Не даўшы нам salario,
Як шэльма, завалодаў намі наш
Макіавел — так званы імпрэсарыо.
Падаў сігнал ён — і на абардаж
Узяў нас (o corpo di Caio Mario!)
Трохмачтавага судна экіпаж.
Але свой лёс я праклінаць не стану,
Калі мы спадабаемся султану.

83 Хоць наша прымадонна ўжо старая
І, стомленая безліччу прыгод,
Смаркаецца, калі зіма — сырая,
Яна ўзяць можа шмат высокіх нот.
А тэнарава жонка недурная
На выгляд. У Балонні, дзе штогод
Святкуюць масленку, яна ў час месы
Адбіла графа ў рымскай прынчыпесы.

84 Ёсць і танцоркі ў нас. Адна з іх (Ніні)
За ўзнагароду згодна палюбіць.
Другая (рагатушка Пелегрыні) —
Змагла пяцьсот цэхінаў зарабіць,
Але за дзень спусціла ўсе zecchini!
Гратэска — трэцяя. Шчаслівай быць
Там, дзе жывуць гарачыя мужчыны,
Даволі проста для такой дзяўчыны.

85 А фігуранткі нашы ўсе такія.
Іх толькі прадаваць на кірмашах.
У некалькіх аблічча неблагія,
А ўсе астатнія — ну проста жах.
Адна з іх мае ногі найдаўгія
І шмат сентыментальнасці ў вачах,
Але сама лянівая без меры —
І ёй не варта марыць аб кар'еры.

86 Пасрэднасці пазбавіцца амаль
Увесь мужчынскі персанал няскора.
Разбітаю патэльняю, на жаль,
Бразджыць ахрыплы голас рэжысёра.
Прыслужнікам такога б у сераль
Ці ў храм да Папы, а не нам на гора,
Бо, безумоўна, месца толькі там
Такім *сярэдняполым* спевакам.

87 Наш тэнар ад залішняй афектацыі
Сарваў свой голас. Бас раве, як бык,
Бо не набыў музычнай адукацыі,
А ўдасканальвацца даўно адвык.
Ды кажа прымадонна, што авацыі
Раней зрываў яго напеўны рык,
Хоць родзіч прымадонны ўсе матывы
Ператварае... у рэчытатывы.

88 Што да мяне, то я свой сціплы дар
Расхвальваць і ўзвышаць не маю права.
Вы падарожнік — і таму, спадар,
Да вас, відаць, дакочвалася слава
І Раўкаканці. Ёсць такі пясняр.
Ён — гэта я. Але не ў гэтым справа.
Праз год ён рады будзе ад душы
Вітаць у Лузе вас на кірмашы.

89 Цяпер сказаць слоў некалькі я рады
Аб нашым барытоне. Ён дабрак
З прыемнымі манерамі. Бравады
І самалюбства шмат у ім, аднак.
Яму на плошчах бы спяваць балады,
А не на сцэне — арыі сяк-так.
Спяваючы, паказвае ён зубы —
І гэтым публіцы не надта любы».

90 Аповед Раўкаканці перарвалі,
На жаль, піраты гучным крыкам тут.
Яны ўсім разысціся загадалі
У гроты цёмныя сваіх кают.
Зірнуў вачамі сумнымі на хвалі,
Што неба адбівалі, бедны люд
І чарадой паплёўся без ахвоты
Ў свае халодныя каюты-гроты.

91 Прыбыўшы неўзабаве ў Дарданелы,
Піраты пачалі чакаць фірман,
Які абходзіць прайдзісвет умелы,
Хаця фірман падпісвае султан,—
І прачакалі гандляры дзень цэлы.
Пакуль прыйшоў магутны талісман,
Скавалі нецярплівыя карсары
Так, як мужчын, так і жанчын, па пары.

92 Была рука прыгажуна Жуана
У вынікуператасоўкі той
Піратамі не да рукі сапрана
(Яе ў жанчын зрабілі старшынёй)
Цяжкімі ланцугамі прыкавана,
А да рукі вакханкі маладой,
Бо лік абодвух полаў быў няцотны,
А мой герой, як гурыя,— пяшчотны.

93 А Раўкаканці позіркам знішчальным
Глядзеў на тэнара, нібы ўсур'ёз
Хацеў забіць яго, бо анамальным,
На жаль, іх атрымаўся сімбіёз.
Сапернікаў у свеце тэатральным
Больш ненавідзяць, чым уласны лёс.
Arcades ambo — так варагавалі
Яны, што ледзь ланцуг свой не парвалі.

94 А Дон-Жуан з брунеткаю з Анконы
Скаваны фліфусцьерамі былі.
Наскрозь праціяўся прыгажун палонны
Вачамі чорнымі, як вугалі,
Што выдалі жаданне прымадонны
Мужчынам падабацца. А калі
Для гэтага ёсць важкія прычыны,
Такая якасць — вартасць для жанчыны.

95 Але дарэмна спакусіць хацела
Жуана bella donna, бо туга
Ў яго душы знясіленай трымцела.
Дарма краналася яе нага
Яго рукі ці іншай часткі цела.
Вярнуць у свет рэальны не змагла
Жуана грацыёзная вакханка
І, пэўна, вельмі добрая каханка.

96 Хоць нельга у руках трымаць агонь,
А згадваць пікі снежныя Каўказа,
Не сціснуў дон напарніцы далонь,
Хоць гэта для яе была абраза.
Кроў, што мацней загрукатала ў скронь,
Спужала Дон-Жуана, як праказа.
Не здрадзіў мой улюбчывы герой
Сваёй астравіцянцы маладой.

97 Я ўкліню бы ў раман свой даўгаваты
Падобны прыклад са свайго жыцця,
Ды чытачы і так вядуць дэбаты,
Нібы аўтабіяграфічны я;
Але тады хутчэй вярблюд гарбаты
Праз дзірачку іголкі для шыцця
Прасунецца, чым дойдзе песня гэта
Да чытачоў скандальнага паэта.

98 Хай разлагаюць душы чытачоў
Зноў Філдынг, Смолет, Прайар, Арыёста,
А я ўступаю просьбе выдаўцоў,
Бо мне цяпер даецца гэта проста.
Раней змагацца з імі быў гатоў
Я словам і пяром — і вельмі востра
Выказваўся пра крывадушнасць іх.
Цяпер люблю я выдаўцоў усіх!

99 Быў калісь я нястрыманы задзіра —
І, як той хлопчык, уступаў у бой.
Цяпер я ўсё імкнуся кончыць мірам,
Бо палюбіў лагоду і спакой.
І мне ўсё роўна, прызнаюся шчыра,
Памрэ ці не слых пра мяне са мной.
Пад гучны спеў і пад напеў ласкавы
Растуць раскошна на магілах травы.

100 Жыве паэт на свеце толькі раз.
Бывае, нават знешне нецікавы.
Імя ж паэта, улюбёнца славы,
Стагоддзяў дваццаць коціцца да нас,
Як снежны ком, паперадзе ўсёй лавы
Імёнаў, што праславілі свой час,—
І робіцца камяк вялізны той
Халоднаю гарою ледзяной.

101 Пустымі гукамі імёны ўсе
Становяцца, а захапленне славай
Для ўсіх істот смяротных пакрысе,
Ды непахісна, робіцца забавай,
Бо вечны рух нам забыццё нясе.
Хоць я Ахілу прысвячаў актавы,
Навекі Троя знікла разам з ім.
А прыйдзе час — навекі знікне Рым.

102 Няма ў прыродзе катэгорый вечных —
Ні гарадоў, ні вёсак, ні людзей.
Зарыта будзе ў душах чалавечых
І памяць нават знакавых падзей.
Куміры, што паходні ў душах нечых
Запальвалі, ўслаўляюцца радзей.
І будуць палымяныя імёны
Сусветнай смерцю праз вякі замглёны.

103 Я часта праязджаю на кані
Ля стэлы, дзе юнак Фуа забіты.
Ён жыў для ўсіх, ды ў лічаныя дні
Людзьмі, якіх абараніў, забыты —
І памятнік равенскай злой разні
Няўмольна разбураецца. Праз пліты
Каля яго прабілася трава,
А навакол — здзічэлая жарства.

104 Спыняюся штодня па вечарах
Каля грабніцы Дантэ пры хадзьбе я.
Маленькі купал асяняе прах
Тварца, чый твор каштоўней ад трафея,
Ды знікнуць песні і яго ў вяках,
Як гімны ваярам, што да Пелея
І да Ахіла ў небыццё сышлі
І ўслаўлены Гамерам не былі.

105 Размыюць стэлу брудныя памыі,
Хаця яе сцэментавала кроў,
Бо чэрнь, якая гне пакорна шыі,
Змушаюць у бязлітасных звяроў
Пераўвасобіцца перыпетыі.
Дарэчы, доўга помніць ваяроў,
Што ў пекла Дантэ свет ператвараюць,
Ёй успаміны ўласныя не раяць.

106 Не знікне племя песняроў у Леце!
І хоць сцвярджаюць, быццам слава — дым,
Той сверб, што песню першую на свеце
Стварыў, не дасць спакою маладым.
Як хвалі, страсці плешчуцца ў паэце
І б'юцца аб уцёсы, каб затым
Паэзіяй зрабіцца, хоць, дарэчы,
Падобны вершы іншыя на рэчы.

107 Калі хто з мастакоў, што на працягу
Жыцця багатага ў палон страсцей
Траплялі неаднойчы, мае прагу
Намаляваць карціны ўсіх падзей
У натуральных фарбах, то павагу
Да мастака выказвайце часцей.
Няхай ён піша на любую тэму,
Іначай можа сапсаваць паэму.

108 Чытачкі мілыя! Калі пагляд
Вачэй блакітных вашых «imprimatur»
Маёй паэме скажа, будзе рад
Падзеі гэтай сціплы літаратар,
Які не п'е салодкі сурагат
І карнуэльскіх крамаў не аматар.
Запрошаны на ваш кастальскі чай,
Лічыць я буду, што папаў у рай.

109 Няўжо я болей не салонны леў,
Што паўтараў пад ліўнем кампліментаў,
Як шпак Іорыка: «Мой голас сеў!
Больш не магу!» — каб шквал апладысментаў
Да раніцы ў вушах яго грымеў?
Калі ў мяне так многа апанентаў,
Як Вордсварт, я крычаць пачну: «Няма
Ў вас густу! Вы ўсе — шэрая гурма!»

110 Як небасхіл («спакусны і густы»),
Вы носіце ўсе сінія спадніцы
І сінія панчохі. Можа, ты,
Бог, ведаеш, чаму, як той патрыцый
З падвязкай сіняю, хоць не святы
І быў кумірам нават свецкай львіцы,
Няшмат убачыў я такіх панчох
На ікрах маладых жаночых ног.

111 Сярод вучоных дам ёсць, апрача
Драпежных львіц, сапраўдныя анёлкі,
Што некалі чыталі рыфмача.
Як мне свяцілі іх вачэй вясёлкі!
Здараецца, вучонасці парча
Хавае міласэрнасць багамолкі,
Што не зрабіла анікому зла.
Дурніцай з іх апошняя была.

112 Вандроўнік Гумбальт (дзе вы, інжынеры
І вынаходнікі?) зрабіў фурор:
Ён вынайшаў, калі даць слыхам веры,
Не так даўно дакладнейшы прыбор,
Што мерае сінечу атмасферы,
Якая аддзяляе нас ад зор.
Калі міс Дафну не ахопіць сорам,
Яе сінечу змеру тым прыборам.

113 Ды зацягнуў я надта перапынак!
Стаў карабель на якар, дзе сераль,—
І павялі бясчумны груз на рынак,
Дзе бессаромны гандаль чыніць баль.
Там шмат было чаркешанак, грузінак,
Красунь з Расіі і з Элады краль.
Усе яны былі прызваны небам
Служыць свайго гаспадара патрэбам.

114 На юную чаркешанку адну
(Цнатлівасць даражэй любых тавараў)
У міг адзін павысілі цану
Да тысячы з паловаю даляраў.
Дазнаўшыся пра гэту навіну,
Скрыць зайздрасці не змог ніхто з карсараў.
Не здагадаўся б толькі істукан
Пра тое, што купіў яе султан.

115 А з Нубіі дванаццаць негрыцянак
Па кошту больш высокаму пайшлі,
Чым за такіх пажадных паланянак
На рынку б у Вест-Індыі далі,
Хоць цэны там на чорных афрыканак
Пры Вільберфорсе ў два разы ўзраслі.
Спакон вякоў распуста — мот вялікі,
Што марнатравіць больш, чым уладыкі.

116 Адных артыстаў набылі яўрэі,
Другіх — купілі за грашы пашы.
Адным з іх суджана насіць ліўрэі,
Другім — насіць кашолкі і кашы.
Жанчыны вынікамі латарэі,
Што разыгралася на кірмашы,
Былі ўсе задаволеныя шчыра,
Бо трапілі да шаха і візіра.

117 Аднак я мнагаслоўнасцю грашу!
Лепш вас у пятай песні пазнаёмлю
Я з падрабязнасцямі кірмашу —
І час (для вас каштоўны) зэканомлю.
Далейшы лёс Жуана апішу
Я ў ёй і муз нічым не пасаромлю.
Цяпер жа я кажу, як Асіян:
«Чакай, чытач, наступны мой дуан».

# ПЕСНЯ ПЯТАЯ

1 У страснага паэта і ў трувера
Так рыфмы спараны спакон вякоў,
Як спарвала прыгожая Венера
Калісьці бесклапотных галубкоў.
І гэта — ліха! Абылгана вера
Авідзіем і цнотнасцю радкоў
Петраркі, з пункту гледжання маралі:
Для нас яны звадыяшамі сталі.

2 Я адхіляю эратычны твор,
Які пісаўся для замарачэння,
Але вітаю той, які да зор
Душу ўздымае дзеля ачышчэння.
Мая паэма — павучання ўзор!
І ў вас, чытач, прашу я прабачэння,
Калі падковы згубіць мой Пегас —
І нечым я не задаволю вас.

3 Палацы, свечкі дрэў на берагах —
На еўрапейскім і на азіяцкім;
Сафіі залацісты купал-дах;
Заліў, дзе ўтульна суднам і пірацкім;
Алімп сівы; гаі на астравах
(Дванаццаць іх) здаваліся мастацкім
Шэдэўрам, што Марыі Мантэг'ю
Адкрыўся праз блакітную смугу.

4 Якое дзіўнае імя Марыя!
Яно мяне п'яніла, як віно,
Сваімі гукамі ў гады былыя.
І хоць мінулі тыя дні даўно,
Зноў абудзіла мары маладыя
Пра каралеўства фей ва мне яно.
Ды зноўку я ў патэтыку ўпадаю,
Хаця на тое праў цяпер не маю.

5 Выў вецер над Эўксінам — хваль грамады
Наўсцяж гарбацілі марскі прастор
І разбіваліся аб Сімплегады
Там, дзе Еўропу з Азіяй Басфор
Спрадвеку разлучае. Як быў рады
Я, рамантычны малады фланёр,

Убачыць некалі яго з кургана,
Названага Магілай Велікана.

6 Дзень пачынаўся ветраны, няяркі —
Адзін з тых сумных восеньскіх дзянькоў,
Калі здаецца, што нажніцы Паркі
Ўкароцяць зараз жыцці маракоў,
Бо хвалі зноў распачынаюць сваркі —
І кожны з нас, хто мае шмат грахоў,
Нябёсам выправіцца абяцае,
Хаця затым пра клятву забывае.

7 Было на рынку ўзростаў, нацый, полаў,
Як у народзе кажуць,— на выбор.
Стаяў нявольнік, апусціўшы голаў,
І згадваў тое, што з нядаўніх пор,
На жаль, згубіў,— пяшчоту родных долаў,
Сяброў і волю. Пэўна, як вугор,
Быў толькі чорны раб у дзень пануры
Гатовы нават да здзірання скуры.

8 Надзей і сіл быў поўны Дон-Жуан
(Відаць, з прычыны ўзросту маладога),
Але ягоны засмучоны стан
Усё ж не мог абрадаваць нікога,
Бо ад цялесных і душэўных ран
У гэты час пакутаваў нябога.
Усё — і страснага кахання крах,
І страта райскага жыцця, і страх,

9 Што праз хвіліну купіць з аўкцыёну
Цябе, свабодалюба, хтось з татар,—
Хісне і стоіка. Не акрылёна
Глядзеў Жуан, але ўсё роўна твар
Быў горды і высакародны ў дона
І ўсім казаў: ён дарагі тавар!
Жуана выдзялялі, без сумнення,
З гурмы і рэшткі яркага адзення.

10 Базар, як дошка для гульні ў трыктрак,
Вялізны і раўнюткі, ды з бакамі
Не надта паралельнымі, аднак,
Быў поўнасцю завалены рабамі.
Стаў трыццацігадовы небарак —

Рашучы, з цёмна-шэрымі вачамі —
Каля Жуана і сваёй чаргі
Чакаў, не дэманструючы тугі.

11 Нявольнік рослы з выгляду быў брытам.
(Адрозніваюцца спакон вякоў
Яны бялюткай скураю і спрытам.)
Глядзеў брытанец на пакупнікоў
З гатоўнасцю даць бой любым іспытам
І ў рэшце рэшт пазбавіцца акоў.
З падвязанай рукою, белазубы —
Здавалася, ён не баіцца згубы.

12 Убачыў ён каля сябе Жуана
Ў слязах, хаця душа хлапца была
Падзеямі не цалкам зруйнавана,—
І ў сэрцы незнаёмца прарасла
Да юнака спагадная пашана.
Шмат брыт высакалобы зведаў зла,
Ды не змаглі ніякія падзеі
Ў ім заглушыць патолі і надзеі.

13 «Паслухайце,— Жуан пачуў ад брыта,—
І паглядзіце. Акружае нас
Дрэнь розная, калі казаць адкрыта.
Туніс, Расія, Нубія, Каўказ
Прадстаўлены някепска тут нібыта.
Быць разам трэба нам у гэты час!
Астатнія — амаль усе крэціны.
Скажыце мне: а вы з якой краіны?»

14 «З Іспаніі»,— сказаў Жуан. «Я так
І думаў. Вы не можаце быць грэкам,
Бо грэкі — гэта рабскі род сабак.
Вы ж мне здаліся гордым чалавекам,—
Прызнаўся Дон-Жуану брыт-мацак.—
Змірыцеся, як я, з часовым здзекам.
Суцешцеся. Не ліце марна слёз.
Яшчэ і радасць нам падорыць лёс».

15 «Што прывяло вас на базар, спадар?» —
Спытаў Жуан у мажнага мужчыны.
Брыт адказаў: «Ланцуг і шэсць татар».
«Я знаць хачу канкрэтныя прычыны!» —

Пачырванеў у Дон-Жуана твар.
Утаймаваў брытанец гнеў хлапчыны:
«З Суворавым я штурмаваў Відзін,
Ды трапіў у палон — і не адзін».

16 «Сябры ў вас ёсць?» — «Былі, ды, дзякуй Богу,
Яны даўно пакінулі мяне.
Пасля таго як зняў з сябе я «тогу»,
Вы мне тым самым адплаціце».— «Не! —
Сказаў Жуан.— Самотна і падоўгу
Заўсёды цяжка спавядацца мне».
«Ну што ж! — прамовіў ратнік бестурботны.—
Аповед невясёлы і журботны

17 У два разы даўжэйшы сапраўды.
Ды не адчайвайцеся, бо ў Фартуны
Дух зменлівы — і ў вашыя гады
Яна вас не пакіне, рыцар юны,
Як жонка,— і імпэт ваш малады
Адолее жыццёвыя буруны.
Але змагацца з лёсам насамрэч —
Як адбіваць саломінкаю меч».

18 «Я меней ад цяперашніх нягод,
Чым ад былых,— сказаў Жуан,— сумую.
Дом аднаго з пірацкіх ваявод
Мне падарыў красуню маладую...
Я многа зведаў жудасных прыгод...
Не кожны вынес бы жуду такую».
Сум развярэдзіў сэрца юнаку —
І выцекла слязінка на шчаку:

19 «Спярша я атрымаў удар ад мора...
Ды больш балючы быў удар другі...»
«Я так і думаў, бо любое гора
І радасць — ад жанчын, мой дарагі.
Я плакаў і ў сябе прыйшоў няскора
Ад невыноснай скрухі і тугі,
Як жонка першая ў магілу легла
І як другая да другога збегла.

20 А што датычыць трэцяй...» Дон-Жуана
Здзіўляла гэтак мала што ў жыцці —
І ён спытаў: «Няўжо тры жонкі ў пана,

Якому, пэўна, меней трыццаці?»
«Не! Толькі дзве жывыя. Ці ж загана,—
Той адказаў,— святыя вузы, ці...» —
«Дзе ж трэцяя? Мо збегла, як другая?» —
«Ад трэцяй жонкі даў сам драпака я».

21 «Чаму так раўнадушна гледзіце,—
Жуан здзівіўся,— на сваё жыццё вы?»
«А што рабіць? — ён адказаў.— Цвіце
Для вас у небе вобад каляровы,
А я жыву, лічы, што ў цемнаце,
Хоць бачыў некалі ў святле ружовым,
Як зараз — вы, усё таксама я.
Жыццё змяніла скуру, як змяя.

22 Вядома, скура і другая, хоць
Спачатку і бывае больш бліскучай,
Мяняецца ў сваю чаргу, як плоць,
Якая быць не можа неўміручай.
Каханне — пастка. Цяжка пабароць
Істоце маладой і нерашучай
І славы, і абагачэння сверб.
Жыць прыгажэй ёй хочацца няўсцерп».

23 «Мо гэта,— Дон-Жуан сказаў,— і так,
Але ці могуць вашыя высновы
У гэты час нам памагчы, аднак?»
«Вядома, гору не памогуць словы,—
Той адказаў,— ды рэчам як-ніяк
Ляпей даваць сапраўдныя назовы.
З'яўляешся ты ў гэты час рабом,
А дасць Гасподзь — зноў будзеш спадаром!»

24 «За волю,— крыкнуў дон,— я ўсё аддам,
Каб адплаціць сваім «братам»-паганцам,
Што нам урок далі, як школярам,
Ды Бог не надзяліў нас гэткім шанцам».
«Ён праз хвіліну дапаможа нам,—
Брыт не згадзіўся з маладым іспанцам.—
Зірні, як еўнух-негр на нас глядзіць.
Напэўна, вельмі хоча нас купіць.

25 Не варта нам журбоціць надта лбы,
Як і паказваць гонар свой вялікі.

Мы ўсе па сутнасці сваёй рабы,
І больш за ўсіх — магутныя ўладыкі,
Што гнуцца ў тры пагібелі, абы
Страсць задаволіць. На хвалу і ўпікі
Я раю вам увагі не звяртаць.
Так толькі можна стоікамі стаць!»

26 Сярэдняполы еўнух падышоў
Да юнага іспанца і да брыта
Ў наступную хвіліну — і рабоў
Стаў аглядаць уважліва, нібыта
Жаніх — нявесту, візнік — рысакоў,
Краўчыха — апранаху, што пашыта;
Як ганарар свой — хітры адвакат
Ці як сваю ахвяру — люты кат.

27 Купляў сабе падобных пакупнік!
Таму і быў, напэўна, вельмі важны.
У кожнага, вядома, свой разлік —
І кожны чалавек таму — прадажны.
Зух прадаецца за прыгожы лік,
Фат — за пасаду, за медаль — адважны.
Купляецца і прадаецца ўсё —
Улада, аплявуха, парасё.

28 Нагадваючы хітрага купца,
Пачаў бясполы еўнух таргавацца —
І абурыў карсара-прадаўца.
Пірат марскі стаў лаяцца, злавацца
І абражаць нахабнага скапца.
На хрысціянскіх рынках прадавацца
Так мусяць надта ўпартыя аслы,
Быкі, авечкі, козы і казлы.

29 Заціх нарэшце шумны галас гэты —
І пацяклі ў далоні гандляра
З прыемным звонам важкія манеты.
Замест *цехіна* іншы раз *пара*
Падсоўваў прадаўцу махляр адпеты,
Ды той вяртаў яго да махляра.
Паклаўшы ў кашалёк свой куш харошы,
Гандляр стаў думаць, дзе патраціць грошы.

30 І вырашыў ён добра паабедаць,
Але ці добра ўсё пераварыў
Ягоны страўнік, не магу я ведаць.
Ягоны ж твар выразна гаварыў:
Нявольнікаў, што не змаглі паснедаць,
Ён сёння без пакут сумлення збыў.
А засарэнне страўніка, бывае,
Вялікія пакуты вызывае.

31 Вальтэр не згодны з тым. Яго Кандыд
Здаволены быў доляю сваёю
Тады, як наталяў свой апетыт.
Ды нельга чалавеку быць свіннёю!
Відаць, таму цвярозы сібарыт
Не ганарыцца ўласнай таўшчынёю.
Так, як Філіпа і Амона сын,
Я думаю пра ежу не адзін.

32 Нагадвае, як Аляксандру, мне
Неэстэтычны акт прыняцця ежы
Той факт, што мы смяротныя ўдвайне.
Калі рагу, суп, рыба, ростбіф свежы
Прыносяць асалоду альбо не-
прыемнасць нам, то мозгам, што залежыць
Вось так ад соку страўнікавага,
Хваліцца трэба меней як мага.

33 У пятніцу (не думайце, што байку
Я раскажу) ў сем вечара, калі
Ужо надзеў ■ цёплую фуфайку,
Пальчаткі ж на стале яшчэ былі,
Пачуўся стрэл. Дзяцей цікаўных зграйку
І каменданта ў форме на зямлі
Убачыў я, як толькі выбег з дому.
Нябога слова не сказаў нікому.

34 З-за нейкай недарэчнасці пустой
Яго прашылі італьянца кулі.
Нябожчыка занеслі ў мой пакой,
Паклалі на канапу, распранулі,
Але дарма. Прымочкі ў вечар той
Забітага ў прытомнасць не вярнулі.
Пяццю цяжкімі кулямі мушкет
Адправіў каменданта на той свет.

35 Прастрэлены праз сэрца і пячонку
І нескрываўлены — здаваўся мне
Жывым нябожчык у той вечар звонку.
Здавалася, што ён забыўся ў сне —
Спакойным і глыбокім,— і гамонку,
Прачнуўшыся, са мною зноў пачне.
Яго не турбавалі болей болі —
І ў гэты час я думаў мімаволі:

36 «Дык вось якая смерць!» «А што такое —
Жыццё і смерць?» — спытаў я гучна. Ён
Не даў адказу на пытанне тое,
Хаця забіты, як цэнтурыён,
Салдатам даць заданне мог любое —
«Стаяць!», «Ісці!», «Ўзяць штурмам бастыён!».
Загадваў ён — пець пачыналі трубы.
Назаўтра ж толькі барабаншчык грубы

37 У барабан, спавіты ў крэп, лупіў,
З панурым тварам ідучы за урнай
З астанкамі героя, што любіў
На бой натхняцца музыкай бравурнай
І сведкам краху Банапарта быў.
Ішла тады ў працэсіі хаўтурнай
І купка баявых яго сяброў,
Што з ім у бітвах прылівала кроў.

38 На вуліцы ганебна расстраляны
Забойцам быў бясстрашны ветэран.
Зарубцаваныя старыя раны
Віднеліся на ім ля свежых ран
І выклікалі смутак несціханы.
Хоць веру ў будучыню барабан
Тады ў мяне ўбіваў усю дарогу,
Не верыў я ўсё роўна ў перамогу

39 Дабра спрадвечнага над вечным злом.
Але куды мы адляцім усё-ткі
Пасля таго, як некалі памром?
Няўжо мой шлях — і без таго кароткі —
Скароціцца свінцом або нажом?
Вада, агонь, зямля і вецер лёткі
Не паміраюць. Дык чаму ж тады
Прыроды цар не вечна малады?

40 Але пара вяртацца да рамана...
Як смертнікаў, у распісны каік
У хуткім часе пасадзіў Жуана
І мажнага брытанца пакупнік.
Плылі яны штосілы ўздоўж лімана,
Пакуль не адчыніў ім вартаўнік,
Які не меў ні пікі, ні сякеры,
Ў сцяне высокай вузенькія дзверы.

41 Яны зайшлі ў іх і пайшлі далей.
За вадаром, што з наваколлем зліўся,
Па экзатычным парку без алей,
Як і брытанец, Дон-Жуан пусціўся
Амаль навобмацак, бо змрок раней,
Чым з каіка сышлі яны, згусціўся.
Знак веслярам даў еўнух — і каік
Без плёскату ў начной цямрэчы знік.

42 Ішлі яны. Сур'ёзнай перашкодай
Для іх той ноччу быў густы язмін.
Знаёмы добра з гэтаю пародай
Усходніх дрэў я. Пра яе ўспамін
Дагэтуль поўніць сэрца мне лагодай.
На жаль, не толькі я — яшчэ адзін
Паэт наведаў гэтую краіну
І од нямала прысвяціў язміну.

43 Пакуль яны за еўнухам ішлі,
План рызыкоўны выспеў у Жуана —
І брыту ён сказаў: «А што, калі
Пырнём нажом яго мы нечакана
І уцячом?» Дарэчы, стаць маглі
І вы, і я прыхільнікамі плана
Такога ж у становішчы такім.
І я не вінавачу іх ні ў чым.

44 «І сапраўды! — сказаў Жуану той.—
Ды ўсё-ткі збегчы — марная надзея.
Скажы, як выйдзем мы адсюль з табой?
Мне, зрэшты, невядома нават, дзе я.
У пастцы апынёмся мы другой,
Хоць і пазбегнем мук Варфаламея.
Я ж да ўсяго галодны, як Ісаў,
Што першародства за біфштэкс прадаў.

45 Тут дзесь жытло. Іначай негр стары
Не стаў бы дзейнічаць так рызыкоўна.
Ён толькі крыкне — і яго сябры
На гэты крык збягуцца, безумоўна.
Ідзі і ні аб чым не гавары,
Бо мы ўцячы не зможам усё роўна.
Але зірні — што гэта за святло?
Юпітэрам клянуся — там жытло!»

46 Вялізны з пазалотаю будынак,
Які адкрыўся нечакана ім,
Расфарбаваны быў і ўсходні рынак
Нагадваў бедалагам гаваркім.
Мастацтвы ўзніклі тут, ды перапынак
Чамусь зрабілі ў развіцці сваім.
Размаляваны вілы на Басфоры,
Як тыя дэкарацыі ці шторы.

47 І ў юнага іспанца, што цікава,
Адбіў ахвоту збегчы вабны пах
Гарачай смажаніны і пілава.
Адчуў ён лёгкасць у сваіх нагах
І за праваднікам пакрочыў жвава.
«Раней, чым на скапца рабіць замах,
Вядома ж, павячэраць трэба смачна,—
Згадзіўся брыт.— А потым будзе бачна».

48 Каб слухачоў пераканаць, прамоўцы
Звяртаюцца звычайна да людскіх
Пачуццяў, недахопаў і эмоцый,
А не да розуму. Для нас усіх
Лепш ерась у прыгожай абламоўцы,
Чым праўда голая выснoў чужых.
Гнеў ці рыданне — довад іх галоўны.
Прычым зачаста надта мнагаслоўны.

49 На жаль, убок я адхіліўся зноў!
У ход ідзе ўсё, карацей — пагрозы,
Няшчырасць хітрая ліслівых слоў,
І золата, і прыгажосць, і слёзы,
Ды вабны гул абедзенных званоў,
Які казыча слінныя залозы,—
Найлепшы сродак, каб падняць настрой
І завалодаць найхутчэй душой.

50 У Турцыі няма званоў. Сігнала
Не чулі ні брытанец, ні юнак.
Іх вабілі вясёлы бляск мангала
І свежаніны апетытны пах.
Нявольнікаў галодных падганяла
Жаданне паспытаць яго на смак.
І хоць ніхто не быў з іх сібарытам,
Іх позіркі гарэлі апетытам.

51 Зла не зрабіў ніхто праведніку.
Рабы забылі пра свае намеры.
Стары, чыё жыццё на валаску
Вісела толькі, грукаць стаў у дзверы —
І давялося з брытам юнаку
Ў вялізным апынуцца інтэр'еры.
Ніколі залы велічнай такой
Не бачылі ні брыт, ні мой герой.

52 Раскошай азіяцкай цешыў зрок
Той інтэр'ер і шэйху, і султану.
Хоць апісанні — мой мацнейшы бок,
Апісваць я той інтэр'ер не стану,
Каб разарыцца выдавец не мог,
Калі пачне спрыяць майму раману
Убачыць свет. Другі паэт ці гід
Спатоліць, чытачы, ваш апетыт.

53 У зале той, засланай дыванамі,
Сядзела шмат людзей уздоўж сцяны
З падкурчанымі пад сябе нагамі.
У шахматы гулялі з іх адны;
Хто люлькі з дарагімі муштукамі,
Хто ром смактаў; хто спаў. Ды ўсе яны
(І тыя, што туды-сюды хадзілі)
Паміж сабою ціха гаманілі.

54 Не змог заўважыць з іх ніхто, што ў залу
Зайшлі мужчыны на зыходзе дня,—
Ні той, хто пыхкаў люлькаю памалу,
Ні той, каго прывабіла гульня
У шахматы. Спакойна, без запалу,
Як вознік, што ацэньвае каня,
Адзін хадок акінуў іх вачыма
І двум рабам паспачуваў, магчыма.

55 Праз інтэр'ер прайшлі гяуры ззаду
Старога еўнуха. Затым Жуан
І мажны брыт мінулі анфіладу
Пакояў, у адным з якіх фантан
Цурчэў і чуўся плёскат вадаспаду.
Іх вёў кудысьці чорны старыкан,
А побач з імі чуўся шэпт дзявочы
Ды бліскалі гарэзлівыя вочы.

56 Падвешаныя лямпы асвятлялі
Іх шлях, але няяркае святло
І абажуры ім не дазвалялі
Разгледзець тое царскае жытло,
Якое рэчы бляскам аздаблялі.
Аднак у душах дружбакоў было
Ў пустыннай зале без жывой істоты
Чамусьці меней страху, чым сумоты.

57 Пустыня, лес, натоўп, што б ні казалі,
Для адасобленасці — родны дом,
А ў галерэі і ў вялізнай зале,
Абсталяванай так гаспадаром,
Каб людна ў ёй, нібы на карнавале,
Было заўсёды — вечарам і днём,
Пустэльнік — адзінокі і панылы —
Нагадвае нябожчыка з магілы.

58 Малы, з утульнай мэбляю пакой,
Друг ці жанчына любая, тартынкі,
Лампада, кніга, пеністы напой
І на сцяне прыгожыя карцінкі —
Вось тое, чым халоднаю зімой
Вам раю я ўпрыгожваць адпачынкі,
А я дык не вылажу з галерэй
І мару, каб вясна прыйшла скарэй.

59 Вялізнае стварае чалавек,
Каб паказаць, які ён сам мізэрны.
Я згодны, што павінен з веку ў век
Нас велічнасцю вабіць храм шматсферны.
Вялізная грабніца ж — проста здзек
З таго, хто надта быў высакамерны.
Нагадваюць пра гэта і Адам,
І вежа Вавілонская ўсім нам.

60 Быў займішчам Німврода Вавілон
Спачатку. Горадам садоў вісячых
Пры Навуходаносары стаў ён.
Утаймаваў там Данііл гарачых
І лютых львоў. Там зносіла праклён
Людзей няўдзячных і душой лядачых
Семіраміда. Фісба і Пірам
Праславіліся гэтаксама там.

61 Царыцу вінавацяць хранікёры
Ў злачыннай страсці да свайго каня.
(Каханне і рэлігія — партнёры:
Без ерасі не пражывуць ні дня.)
Але ўсё гэта, думаю, сеньёры,—
Апіска ці пачварная хлусня.
І разабрацца ў гэтых плётках важных
Павінен быў англійскі суд прысяжных.

62 Зноў у палац султана я паклічу
Вас, чытачы, праз некалькі хвілін,
А скептыкам, што Клаўдзіусу Рычу
Не вераць, быццам некалькі цаглін
Ён мог прывезці з Вавілона, зычу
Прыняць да ведама нюанс адзін:
Яўрэі, што ў егіпецкім палоне
Рабілі цэглу, як і ў Вавілоне,

63 Сцвярджаюць: гэты горад існаваў!
Хоць рызыкоўна верыць ім, вядома
(Ніхто з іх веры б і сабе не даў),
Вер ім, чытач, хоць у цябе ўсе дома.
Яшчэ Гарацый некалі казаў,
Што «Et sepulchri immemor struis domos».
Мы часта ўзводзім гмахі камяніц,
Не помнячы аб сырасці грабніц.

64 Мы ўсе па сутнасці сваёй Німвроды!
Але ў канец палаца прывялі
Нарэшце спадарожнікаў праходы
І рэха разбудзілі. Там былі
Такія рэчы, што ў самой прыроды
Вы б гэтакай раскошы не знайшлі.
Але ўсе тыя вычварныя рэчы,
Здавалася, былі там недарэчы.

65 А быў пакой, куды прыйшлі яны,
Пачаткам найдаўжэйшай анфілады.
Абіўкай аксамітнай — тапчаны
І касцянымі ручкамі — шуфляды,
Як і раскошай рэдкай — дываны,
Ў пакоі гэтым вабілі пагляды.
З задавальненнем па раскошы б той
Я слізгануўся рыбкай залатой.

66 Маім героям унушалі страх
Бязлюдныя пакоі, калідоры,
А еўнух-негр ішоў па дыванах
Спакойна, быццам велічныя ўзоры
Іх не напаміналі Млечны Шлях,
Дзе палымнеюць скопішчамі зоры.
Усю дарогу ён маўчаў. Калі ж
Да шафы, што ў адну з глыбокіх ніш

67 Была майстрамі хітра ўбудавана,
Дайшлі яны, скапец з яе дастаў
Касцюм, які прыхільніку Карана
Больш строгасці і важнасці б надаў,
І апрануць яго неспадзявана
Плячыстаму брытанцу загадаў,
Хоць мажны і прыгожы англічанін
Быў хрысціянін, а не мусульманін.

68 Такі б касцюм больш падышоў эміру,
Чым еўрапейцу росламу, на жаль.
Надзеў ён плашч кандыйскі і з Кашміру
Прывезены надзіва мяккі шаль —
І стаў нагадваць турка-расфуфыру.
Яшчэ брытанец прычапіў кінжал,
Якому пазайздросцяць янычары,
Насунуў туфлі і надзеў шальвары.

69 Пакуль ён апранаўся, негр Баба,
Упэўнены, што гэта не загана
(Інакш ён стаў бы праведным хіба?),
Абрэзаць плоць сваю пераканана,
Навокал паглядзеўшы спадылба,
Агітаваў яго і Дон-Жуана.
Баба даводзіў, што стары абрад
І пераваг, і выгад мае шмат.

70 Яшчэ спытаўся ён, чаму б Каран
Не пагартаць Жуану разам з брытам —
І не прыняць ім веру мусульман,
Але пакінуў запыт свой адкрытым.
Хаця брытанец, як і Дон-Жуан,
Рабіцца і не думаў празелітам,
Ён еўнуху сказаў усё адно,
Што любіць веру мусульман даўно.

71 Затым дыпламатычны брыт сказаў,
Што звычай абразання варты ўвагі
І што ён згоду б, верагодна, даў
На прапанову, ды аслаб ад смагі
І голаду, а Дон-Жуан пачаў
Выходзіць паступова з раўнавагі:
«Не! Не! Я гэта не перажыву...
Хай лепей мне адрэжуць галаву!

72 Няхай яе адрэжуць сто разоў!»
«Вам лепей зараз замаўчаць, панове,
І не вяртацца да такіх размоў»,—
Брыт закрычаў. «А ў вашай прапанове,—
Да еўнуха звярнуўся ён ізноў,—
Ёсць тонкасць, аб якой напагатове
Я гаварыць сягоння ж tête-à-tête,
Спачатку з'еўшы хоць які паштэт».

73 Дастаў Баба ў наступнае імгненне
І загадаў, каб юны мой герой
Хутчэй надзеў жаночае адзенне,
Што ў самы раз прынцэсе маладой.
Аднак Жуан мой непаразуменне
Вачамі выказаў і ўбок нагой
Шпурнуў адзенне тое. «Старычына! —
Сказаў ён еўнуху.— Я не дзяўчына».

74 «Хто вы такі, такая ці такое,
Не знаю я і не жадаю знаць.
Выконвайце без запытанняў тое,
Што будзе вам стары Баба казаць»,—
Скрывіў скапец сваё аблічча злое.
«Няўжо не маю права я спытаць,—
Здзівіўся Дон-Жуан,— у вас нічога?»
«Я раю вам не балбатаць так многа».

75 «Не! — крыкнуў Дон-Жуан.— Я патрабую...»
Негр абурыўся: «Можна без пагроз?
Я не ўхваляю вашу злосць сляпую.
Яна давесці можа вас да слёз».—
«Што ж! Я надзену вопратку любую,
Ды полу не змяню!» Баба ўсур'ёз
Асатанеў і крыкнуў: «Апранайце!
А то бясполым зробіцеся, знайце!

76 Я прапаную вам касцюм шыкоўны.
Жаночы, праўда. Толькі ён для вас
У гэты вечар — талісман ахоўны.
Вы гэта зразумееце ў свой час».—
«Якога чорта хочаце, шаноўны,
Каб апрануў я гэты брыдкі газ?» —
Спытаў Жуан. Сказаў такія словы
Іспанец наш пра вэлюм адмысловы.

77 Яму прасцей было надзець чалму.
Але, хоць і з пагардаю на твары,
Ўсё ж давялося надзяваць яму
Спадніцу ўпершыню на шаравары
І на кашулю белую. Таму
Ён спатыкнуўся і ледзь-ледзь не ўдарыў
Плячом старога негра. Гэты сказ
Я дзеля рыфмы напісаў для вас.

78 Дарэчы, гэта здарыцца магло.
Ён сапраўды з нязвыклым туалетам
Вазіўся першы раз і (як назло!)
Спраўляўся дрэнна з туалетам гэтым.
Таму і ледзь не ўпаў... Калі ж было
Надзета ўсё, што маладым кабетам
Належыць апранаць, стары Баба
Агледзеў з ног да галавы раба.

79 І вось, нарэшце, да яго валос
Дайшла, як кажуць у народзе, справа.
Баба дастаў шмат букляў, штучных кос
І распачаў рабіць прычоску жвава,
Як быццам ён цырульнік-віртуоз,
З валос, што дыбіліся кучарава.
Ensemble прыгожы завяршыла шмат
Каштоўных камянёў, духоў, памад.

80 Стаў хлопец, пературвораны ў жанчыну,
Пры помачы нажніц, бяліл, румян,
Падобны на прыгожую дзяўчыну.
«Пераўвасобіў вас я без заган! —
Расквеціў негр усмешкай злую міну.—
Ну а цяпер за мной ступайце, пан!
Прабачце — пані!» Пляснуў ён сваімі
Далонямі — і ўзніклі перад імі

81 Чатыры негры. «З гэтымі панамі,—
Скапец звярнуўся да брытанца,— вы
Вячэраць пойдзеце».— «Мы ж разам з вамі,—
Жуану, што стаяў як нежывы,
Сказаў Баба,— не на сустрэчу з львамі
(У гэтым логаве жывуць не львы),
А ў Магаметаў рай скіруем крокі.
Не раю вам пускацца я наўцёкі.

82 Ніхто, паверце, зла не зробіць вам».
«А я,— сказаў Жуан,— і не баюся
Нікога, бо адпор належны дам,
Калі сам-насам раптам апынуся
З нахабнікам, што абражае дам.
Я знешне хілым юнаком здаюся,
Але на самай справе не такі.
Любы адчуе моц маёй рукі».

83 «Вось дурань! — негр заўважыў і дадаў
Загадкава: — Хутчэй за мной ступайце!»
Жуан і брыт, што ўпотай рагатаў,
Адначасова крыкнулі: «Бывайце!»
«Адзін з нас туркам напалову стаў,
Другі — дзяўчынай, ды не забывайце
Іспанца маладога і таго,
Хто ў модніцу ператварыў яго.

84 Калі расстацца нам наканавана
Навекі, то жадаю смачна есці!» —
Сказаў Жуан. Брыт глянуў на Жуана
І адказаў: «Куды яшчэ занесці
Нас можа ветразь Лёсу — думаць рана,
Але, прашу вас, не згубіце чэсці
Так, як яе згубіла колісь Ева».
«Ні ў якім разе!» — адказала «дзева».

85 Яны рассталіся — і негр скарэй
(Было ў яго, напэўна, часу мала)
Павёў хлапца праз безліч галерэй
Па мармуровых плітах да партала
Надзіва грузнага і да дзвярэй,
Чыя масіўнасць кожнаму ўнушала
Пашану да сябе і супакой,
Дзе пах дурманіў, як святы напой.

86 Аздоблены скульптурнаю разьбой
Былі цяжкія бронзавыя дзверы.
Скульптуры выяўлялі нейкі бой.
Быў пераможца радасны без меры,
Палоннікі ж, сагнутыя журбой,
Ганебна шыі ўцягвалі ў каўнеры.
Відаць, аматарам такіх карцін
Быў некалі Вялікі Канстанцін.

87 Там, дзе канчалася нарэшце зала,
Знаходзіўся партал, а па баках
Таго акамянелага партала
(Пачварныя, малыя — проста жах!)
Два карлікі стаялі. Не блукала
Ніякай думкі ў іх пустых вачах.
Падкрэслівалі іхнія памеры,
Якія гэта велічныя дзверы!

88 Усіх, хто зблізку бачыў тыя дзверы,
Здзіўляла брыдкасць выродкаў малых.
Пяром іх колер бела-чорна-шэры
Не перадасць ніхто з калег маіх.
А прадалі султану флібусцьеры
Па кошту страшнаму страшыдлаў тых.
Звыш усяго — былі пігмеі тыя
Занадта злыя і глуханямыя.

89 Малыя і пачварныя істоты
Вароты адчынялі. Хлеб цяжкі
Быў змалку ў іх — і да любой работы
Прывыклі ў рэшце рэшт вартаўнікі.
(Дарэчы, адчыняліся вароты
Так, як ліюцца Роджэрса радкі,—
Надзіва плаўна.) Карлікі накінуць
Яшчэ маглі пятлю і ў мора зрынуць.

90 На пальцах размаўлялі ліхадзеі.
Зусім не размаўлялі, карацей.
Даў знак Баба — і брыдкія пігмеі
Раздвоенымі джаламі вачэй
У Дон-Жуана ўпіліся, як змеі.
Пагляды, што кідалі на людзей
Пачварныя і злыя ліліпуты,
Былі жахлівей ад любой атруты.

91 А негр сказаў: «Раней, чым уваходзіць
У дзверы гэтыя, павінны вы
Усё ж навучыцца, як сябе паводзіць.
Іначай — вам не знесці галавы.
Быць раю вам, каб справе не пашкодзіць,
Цяпер цішэй вады, ніжэй травы.
А ў першую чаргу сваю паходку
Змяніце вы, каб не нагадваць лодку.

92 Як толькі позіркамі вашы ўборы
Пратнуць мярзотныя вартаўнікі,
То апынёмся разам у Басфоры
Спачатку мы, зашытыя ў мяшкі,
А раніцай — у Мармуровым моры.
Наогул, спосаб плавання такі
Тут прымяняецца даволі часта.
З уступа скінуць у ваду — і баста!»

93 Жуана сцішыла перасцярога —
І з сўнухам зайшоў ён у пакой
Багаты і шыкоўны, дзе так многа
Змяшчалася раскошы дарагой,
Што рэч адну адрозніць ад другога
Прадмета мой няўрымслівы герой
Не мог адразу. Каб разгледзець масу
Такіх прадметаў, трэба многа часу.

94 Як водзіцца на Ўсходзе, выяўляла
Сябе багацце ў поўным бляску там,
Хаця было ў раскошы густу мала.
Густ здраджваў і другім гасударам,
Калі ў іх выхавання не хапала.
Я шэсць ці сем палацаў бачыў сам
Правіцеляў заходніх — і скульптуры
Ў іх не былі здабыткамі культуры.

95 Ляжала на канапе ў зале той
Жанчына гордая пад балдахінам.
Баба стаў на калені перад ёй
І даў Жуану прыклад гэткім чынам.
Укленчыў інстынктыўна мой герой,
Хоць змалку быў непаслухмяным сынам
І не любіў маліцца, і гадаў,
Што сёння лёс яму наканаваў.

96 Венераю, што выйшла з акіяна
На ярка палымнеючую мель,
Яна на еўнуха і Дон-Жуана
Зірнула іскрамётна, як газель,
І знакам папрасіла старыкана
Наблізіцца. Пацалаваў круцель
Край вопраткі загадкавай жанчыны —
І паказаў рукой у бок хлапчыны.

97 З уладнаю і велічнай паставай —
Кабета ззяла, як усё наўкруг.
Лічу няўдзячнай, непатрэбнай справай
Я апісанне губ яе і рук.
Калі б і змог я трапнаю актавай
Яе абмаляваць, то кожны гук
Вас асляпіў бы фарбамі сваімі,
А вас рабіць я не хачу сляпымі.

98 Адно скажу: ішоў ёй дваццаць шосты.
Калі адкрыта гаварыць, то ёсць
І болей захапляючыя ўзросты,
Бо страсці разбураюць прыгажосць,
Калі ў яе тым болей лёс няпросты.
Бывае ўсё ж і вечнай маладосць!
Нінон Ланкло, шатландская Марыя
Былі да самай смерці маладыя.

99 Стаяла ля Гульбеі дзесяць фей,
Апранутых так, як прыбраў Жуана
Стары Баба. Яны былі мілей
За німф, з якімі гойсала Дыяна.
Пра якасці другія дабрадзей
Вам ведаць, як і мне, непажадана.
Гульбея ўладным голасам сваім,
Напэўна, выйсці загадала ім.

100 Яны пайшлі. Знямелы ад здзіўлення,
Жуан не мог да ісціны дайсці.
Была Гульбея варта захаплення,
Як і здзіўлення. Поруч па жыцці
Пачуццям гэтым добрым, без сумнення,
Наканавана праз вякі брысці.
І я гляджу — з усмешкаю на твары! —
На фатаў, чый дэвіз: «Nil admirari».

101 «Той, хто спрактыкаваней і мудрэй,
Нічым не будзе надта захапляцца.
І ў вопратку квяцістую, Мерэй,
Не трэба гэтай праўдзе апранацца».
Так піша Поп наш. А яшчэ раней
Так гаварыў Гарацый, хоць здзіўляцца
Яны абодва ўмелі, як і Крыч,
Што пераклаў вядомы гэты кліч.

102 Даў знак Баба хлапцу, што мяўся ззаду,
Каб той укленчыў і пацалаваў
Нагу красуні, ды з іспанцам зладу
Негр не знайшоў. Жуан пашкадаваў,
Што ён не можа выканаць загаду.
Аблізваць ганарлівец бы не стаў
Абутак нават грознага сатрапа,
А толькі той, што абувае Папа.

103 Хоць злой была каханка Магамета,
Жуан сябе не ўнізіў перад ёй.
Баба пастрашыў за нахабства гэта
Іспанца ганарлівага пятлёй.
Наогул, я прыхільнік этыкета
З ягонай атрыбутыкай усёй.
Патрэбны этыкет на сельскіх святах,
Тым больш — у імператарскіх палатах.

104 Жуана не пужала і магіла,
Бо ў юным ганарліўцу ў гэты час
Кастыльскіх продкаў кроў загаварыла.
Прыдаўлены прынукай, як Атлас —
Зямлёю, хлопец паглядзеў няміла
І даў старому еўнуху адказ
З рашучасцю і гордасцю такою,
Што еўнух замяніў *нагу рукою.*

105 Жуан крыху падумаў і астыў.
Прапанаваны выхад ганаровы
Для ганарлівага іспанца быў.
Ён не адмовіўся ад прапановы.
Наадварот — адразу аб'явіў,
Што *так* пачцівасць выявіць гатовы:
На Захадзе ніводзін кавалер
Не адмаўляўся ад такіх манер.

106 Хоць гэта непрыемна юнаку
Было рабіць, памацаў ён губамі
Надзіва дасканалую руку.
Да гэткіх рук імкнуцца губы самі!
І пазайздросціць можна смельчаку,
Аблашчанаму гэткімі рукамі.
Прывабіць можа гэткая рука
Перакананага халасцяка.

107 Кабета на Жуана паглядзела,
Прыгожым рухам выпрастала стан
І раптам нечакана захацела,
Каб іх дваіх пакінуў старыкан.
Шапнуў Жуану той: «Трымайся смела!» —
І, усміхнуўшыся, пайшоў. Жуан
У зале пазалочанай тым часам
Застаўся з прыгажуняю сам-насам.

108 Як толькі сціхлі злога негра крокі,
Змяніўся страснай змоўніцы настрой.
Яе празрыстыя, як неба, шчокі
Заззялі вечароваю зарой,
Што залівае чырванню аблокі.
А ў позірку красуні той парой
Успыхнулі не літасць і спагада
Да юнака, а гордасць і пажада.

109 Яе спакуслівыя формы цела
І дэманічныя абрысы ўсім,
Бо гэтага Гульбея і хацела,
Казалі, што яна — той херувім,
Які змушаў, каб Ева яблык з'ела.
Але ўсё роўна выглядам сваім
Яна сцвярджала: ўладай забаўляцца
Больш звычна ёй, чым некім захапляцца.

110 Яе пагляд прапальваў навылёт.
Былі яе ўсе словы быццам путы.
А там, дзе праяўляецца прыгнёт,
І шчасце ператворыцца ў пакуты.
Але калі ваш нораў — не ілот,
Калі ён незалежны і раскуты,
І люты кат не зможа зладзіць з ім.
Магутны дух настоіць на сваім!

111 І чаравала ўсмешкаю сваёй
Жанчына гэтая, і абражала.
Няўхіснай воляй біць паклоны ёй
Яна сваіх прыслужніц прымушала,
Каб гнуць ім шыі дзіўнаю ступнёй,
І ўсіх пужала даўжынёй кінжала,
Які ў Гульбеі на баку вісеў.
Я рад, што жонкі гэткай не займеў!

112 «Служы і слухайся!» — такі дэвіз
Быў у гурмы, што даму акаляла.
Таму выконваўся любы капрыз
Жанчыны, што красою асляпляла.
Глядзець на ўсіх нявольніц зверху ўніз
Яна сабе з дзяцінства дазваляла.
Калі б хрысціў красуню каталік,
Гульбея мела б вечны рухавік.

113 Заколкі, грабяні, навінкі моды...
Усё, што ў гэтым свеце існуе,
І ўсё, што можа існаваць, заўсёды
Імгненна здабывалі для яе,
Хоць і былі бязмежнымі расходы.
Але паверце, чытачы мае,
Што ў гэтай тыранічнай прыгажосці
Чароўнае было таксама штосьці.

114 Капрыз яе апошні — Дон-Жуан.
Убачыла яна яго на рынку
І загадала ўладна, як тыран,
Купіць жывую гэтую навінку.
Стары Баба прыдумаў хітры план —
І ў маладую мілую жанчынку
Гарачага хлапца ператварыў,
Чым вельмі Дон-Жуана абурыў.

115 Прыгожы твар і маладосць Жуана
Ягонай хітрасці дапамаглі.
Ды як да жонкі грознага султана
Ўсё ж думкі рызыкоўныя прыйшлі?
Бо жонкі проста не шануюць сана
Сваіх мужоў. Цары і каралі
Так, як і ўсе, падманваюцца імі.
Я сведчу гэта ведамі сваімі!

116 Справадзіўшы пахілага скапца,
Вачамі, у якіх заззяла страснасць,
Красуня на знямелага хлапца
Зірнула нечакана як на ўласнасць.
Была Гульбея шчырай да канца
І, каб унесці ў іх стасункі яснасць,
Адразу вырашыла запытаць:
«Ці ўмееш, хрысціянін, ты кахаць?»

117 Не спакусіла юнака Гульбея,
Бо ў гэты час прымроілася зноў
Яму з аблíччам іанічным фея
(Яго Гайдэ!) з Цыкладскіх астравоў.
Здавалася, што снежная завея
Занесла шчокі, дзе ірдзела кроў.
Хлапца працялі пікі слоў красуні —
І распусціў іспанец горды нюні.

118 Была кабета ўражана слязамі
Не так, як раўнадушнасцю хлапца,
Бо ўсе жанчыны часта плачуць самі.
Бы кропелькі гарачага свінца,
Мы слёзы змахваем са шчок рукамі.
Яны і для сівога мудраца,
І для каханка юнага — мучэнне,
А для жанчыны слёзы — аблягчэнне.

119 Красуня ўмела злосна хмурыць бровы,
Але не ўмела хныкаць і рыдаць,
Таму, хоць вусны і былі гатовы
Гаротніку майму паспагадаць,
Яна не ведала, якія словы
У гэты час належыць прыгадаць,
Каб ён не хмарыў вочы па-жаночы,
Калі паблізу гэтакія вочы.

120 Ды нам намнога больш дае прырода,
Чым здольны ў нашых душах задушыць
Улада над людзьмі і асалода.
Не можа ў сэрцах маладзіц не жыць
Жаночая чуллівая лагода.
Павінны, як самарыцянін, ліць
Яны на раны кропелькі бальзама.
І зрок султаніхі змутнеў таксама.

121 Ды слёзы скончыліся неўзабаве —
І на ўладарку паглядзеў юнак,
Што патакаць не стаў яе забаве,
Бліскучымі ад слёз вачамі так
Пагардліва, што на яго паставе
Упэўненасць адбілася няўзнак:
Хоць страсці не астылі ў Дон-Жуане,
Ды ў рабстве іх ён здавальняць не стане!

122 Упершыню збянтэжанасць адчула
Султаніха, бо змалку перад ёй
Дагэтуль чэлядзь толькі спіны гнула.
Заняцца з ім любоўнаю гульнёй
Гульбея думала, ды не кранула
Душы Жуана страснасцю сваёй.
Праходзілі бясцэнныя мінуты,
Прыносячы ёй ганьбу і пакуты.

123 Я скарыстаю гэтыя хвіліны,
Каб толкам растлумачыць юнакам,
Ці многа ў выпадках такіх жанчыны
Для роздуму адводзяць часу нам.
Для прыкладу — паўднёвыя краіны,
Бо прамаруджванне — злачынства там.
Хвіліны дзве (не болей!) там даецца
На тое, каб паспелі мы раздзецца.

124 «Кахаць» наш хрысціянін мог жанчын,
Ды думкай пра Гайдэ ён быў заняты.
І гэта найгалоўная з прычын,
Што ён з Гульбеяй быў халаднаваты.
Яна ж лічыла, што Жуан адзін
Ва ўсіх яе пакутах вінаваты.
Султаніха збялела, быццам смерць,
А потым зноўку стала чырванець.

125 Уладна і шматзначна за руку
Яна ўзяла яго і зазірнула
З надзеяй зноў у вочы юнаку,
Але ў адказ ні слова не пачула.
Каб з п'едэстала не сысці, нямку
Яна прыпадабнілася, ўздыхнула,
З канапы ўстала горда, як магла,
І... юнака рукамі абвіла.

126 Была Гайдэ ў той час яго бранёй.
Гульбея не прарвала абарону.
І з дапамогай гордасці сваёй
Ён неўзабаве вырваўся з палону
Рук грэшніцы і з абурэннем ёй
Сказаў у твар, хоць не павысіў тону:
«Кахаць сябе не прымушай арла,
Які не можа развінуць крыла!

127 Ці ўмею я кахаць? Скажу адно.
Адмовіўся кахаць таму цябе я,
Што закаханы ў іншую даўно.
Мне ў гэтых строях быць бы жонкай бея
Або ўвесь дзень круціць верацяно.
Усе паклоны б'юць табе, Гульбея,
Але ж каханне — для свабодных душ.
Нявольнік я, але каханнем дуж».

128 Але яна яго не зразумела,
Бо вотчынай сваёй лічыла свет
І змалку над усімі ўладу мела.
Любы мастак, музыка і паэт
Выконваў тое, што яна хацела.
Быў для яе законам запавет
Легітымістаў — і яна, здаецца,
Не ведала, дзе наша сэрца б'ецца.

129 Гульбея выглядала так чароўна,
Што ўсе, каб і дачкою жабрака
Яна была, лічылі б усё роўна,
Што прыгажуня — царская дачка.
Яна ж (небеспадстаўна, безумоўна)
Лічыла змалку, што яе рука
Дастойна скіпетра, бо ў прыгажосці
Яе было вялікаснае штосьці.

130 Успомніць я прашу або ўявіць
Гнеў пажылой жанчыны, што хацела,
Як Федра некалі, амаладзіць
З прыгожым юнаком старое цела,
Ды не змагла вас, вучня, спакусіць —
І ад такой абразы звар'яцела.
Быць цяжка ў сітуацыі такой.
Тым болей — прыгажуні маладой.

131 Пераканаўча раю вам, сябры, я
Ўявіць, як спакушалі маладых
Разбэшчаная жонка Пантэфрыя
І лэдзі Бубі. Уявіўшы іх
(Прабачце мне за прыклады старыя,
Бо новых я сярод сучасных кніг
Знайшоў няшмат), уявіце вы міну
І злой красуні ў гэтую хвіліну.

132 Нагадвала Гульбея ў момант гэты
Раз'юшаную львіцу, у якой
Дзіця забралі, бо ў любой кабеты —
Тым болей, паўтараю, маладой,—
Калі яна не дасягнула мэты,
Зла болей нават, чым у львіцы злой.
Згубіць дзіцяці страшна кожнай маці,
Ды горш — згубіць надзею мець дзіцяці.

133 Буслы і львы свае ўзнаўляюць роды,
Бо цяга да ўзнаўлення роду ёсць
Агульны і святы закон прыроды.
Лепш кіпцюры і дзюбы вострыць злосць,
Народжаная бояззю, каб шкоды
Не нарабіў нашчадкам нашым хтось.
Ды трэба ўсё ж заканчваць заключэнне,
Бо ў вас, відаць, канчаецца цярпенне.

134 Я не скажу, што бліскалі маланкі
Ў вачах жанчыны грознай, бо яны
Заўсёды бліскалі ў вачах турчанкі.
Прыняць аблічча нават сатаны
Няцяжка ад такой неспадзяванкі.
Ўявіць не змогуць гнеў яе трайны
І тыя ненасытныя жанчыны,
Якіх вось так жа крыўдзілі мужчыны.

135 Гнеў радавітай фурыі быў люты!
Прыгожы твар яе пачырванеў.
І хоць працягваўся каля мінуты
Ўсяго, напэўна, гэты люты гнеў,
Ён, страснасцю і гордасцю раздзьмуты,
І ў Пекле вельмі б страшна палымнеў.
Як акіян глыбокі, дзікі, хмуры,
Ён быў жывым увасабленнем буры.

136 Каб з гэтым лютым гневам параўнаць
Яе штодзённы гнеў, то, скажам шчыра,
Як ветрык — перад бурай, выглядаць
Ён будзе, хоць, як Готспару Шэкспіра,
Ёй месяц не хацелася дастаць.
Яна хацела крыкнуць словы Ліра:
«Без жалю рэзаць і без жалю біць!»
Але нічога не змагла зрабіць.

137 Сціх ураган праз нейкую хвіліну.
Без грому хмару ён сваю пранёс.
Раптоўна сорам хлынуў на жанчыну,
Душою завалодаў усур'ёз —
І гордасці высокую плаціну
Прарвалі бурныя патокі слёз.
Яна прайграла бойку Дон-Жуану,
Што на карысць людзям такога сану.

138 Напамінае ім урок такі:
Матэрыял, з якога мы,— адзіны.
Спрадвеку як магутныя царкі,
Так і бяспраўныя прасталюдзіны
Ламаюцца, як вазы і гаршкі,
Што зроблены з адной і той жа гліны.
Наўрад ці выправіць іх гэты ўрок,
Ды прывядзе любога з іх у шок.

139 Хлапца Гульбея забіваць не стала
І сябраваць не перастала з ім,
Дзе ён выхоўваўся, не запытала
І не адпомсціла насмехам злым.
Яна прыслужніц нават не пазвала,
Не закалолася клінком сваім
І лупцаваць Баба не загадала,
А села і няўцешна зарыдала.

140 Жаданне закалоць сябе было,
Як думаецца, думкай недурною,
Але кінжал вісеў (ну як назло!)
Ў яе якраз пад праваю рукою —
І праз уборы б лёгкія прайшло
Без перашкод лязо. І з галавою
Таго, хто асалоду мог ёй даць,
Раздумала Гульбея разлучаць.

141 Расчулілі хлапца Гульбеі ўсхліпы.
Шкада жанчыны стала юнаку,
Што быў гатоў да вісельні і дыбы
І да таго, што кінуць у мяшку
Яго ў Басфор з гары, каб з'елі рыбы.
Растаў, як снег, ён і падаць руку
Ужо хацеў прывабнай прыгажуні,
Што распусціла, як раней — ён, нюні.

142 Няўрымслівую святасць Дон-Жуана,
Як смеласць — Боба Эйкра, пахіснуў
Плач горкі жонкі маладой султана.
Спярша здзівіўся ён, што адштурхнуў
Такую прыгажуню нечакана.
Затым сваю упартасць папракнуў,
Як той, хто стаў па дурасці манахам
І ў выніку пусціў жыццё ўсё прахам.

143 Ён нешта мармытаў у апраўданне,
Ды словы ў гэткіх выпадках — пусцяк,
Тым болей, як сказаў я,— мармытанне.
Не мог суцешыць ён яе ніяк,
Ды ў рэшце рэшт надзея на вяртанне
Яе пяшчоты бліснула, аднак,
У позірку Гульбеі. Ды раптоўна
Зайшоў Баба, як брамнік усё роўна:

144 «Нявеста Сонца! Месяца сястра,
Чый позірк рухацца змушае сферы
І ўсе планеты! Ваш пакорны раб,
Што не губляе ў Вашу мудрасць веры,
Паведамляе, што ўставаць пара,
Бо Сонца неўзабаве зойдзе ў дзверы,
Каб асляпіць вас бляскам залатым.
І я — прамень, да Вас пасланы Ім».

145 «Хачу я, каб заззяў Яго прамень,—
Усхвалявана крыкнула кабета,—
Перада мною, як пачнецца дзень.—
І дадала: — Калі ўсё праўда гэта,
Ідзі, пакуль я не дала ў каршэнь,
І сабяры, здрахлелая камета,
Ўсе зоркі ў Млечны Шлях. А ты, юнак,
Сярод сузор'яў згубішся няўзнак».

146 «Султан ідзе!» — хтось крыкнуў перад ёй,
І да ўладаркі набліжацца стала
Працэсія (ў чвэрць мілі даўжынёй)
Наложніц і ўсіх еўнухаў султана,
Які з чацвёртай жонкаю сваёй
Сябе паводзіў мякка і рахмана —
І аб візіце абвяшчаў сваім
Днём і ўначы задоўга перад ім.

147 Султан з'явіўся да яе ў чалме.
Быў самавітым ён і барадатым.
Неспадзявана, седзячы ў турме,
Ён следам за сваім забітым братам,
Хаця такога і не меў наўме,
Стаў кіраваць турэцкім султанатам.
Але тыповы кнэльсаўскі султан —
Ён кіраваў не так, як Саліман.

148 Ён у мячэцях адпраўляў абрады,
А справы султаната вёў візір,
Які меў больш цікавасці да ўлады.
Не ведаю, ці валадарыў мір
У доме тым, ды не выносіў звады
Ніхто з яго, як піша Кантэмір.
Султана жонкі і яго каханкі
Былі раўнёй царыцы-хрысціянкі.

149 Калі якая і ўпадала ў грэх,
Ніхто не разбіраўся доўга з ёю,
Бо справа вырашалася наспех.
Басфор глыбокі быў тады суддзёю,
А пракурорам — велізарны мех.
Таму канчалася ўсё цішынёю.
Здавольваліся рыбы і мараль —
І зноў жыла сваім жыццём сераль.

150 Што месяц — круглы, бачыў уладар.
І ў той жа час ён быў перакананы
Ў тым, што зямля — не велізарны шар,
Бо, як дыван, па плошчы раскатаны,—
Яго святой імперыі абшар,
Які дратуюць часам басурманы
І на якім бунтоўныя пашы
Раз-пораз агаляюць палашы.

151 Да Сямівежавай турмы, аднак,
Ні разу не дастрэлілі гарматы
І не дайшоў узброены чужак.
Былі ў ёй, пэўна, толькі дыпламаты
Краін варожых, што падчас атак
Саджаліся султанамі за краты,
Каб абібокі гэтыя з-за крат
Так проста сеяць не маглі разлад.

152 Як і чатыры тузіны сыноў,
Сядзелі пяцьдзесят дачок султана
Ў турме з дзяцінства — і на волю зноў
Выходзілі, калі да іх з дывана
Султан прыводзіў знатных жаніхоў.
Іх замуж выдавалі вельмі рана,
Бо ўладару прызначаны ім зяць
Калым вялікі быў павінен даць.

153 Сынам султана ў замку тым сядзець
Суровы лёс наканаваў да скону.
Іх выпускалі толькі, каб надзець
Пятлю — на шыю ці на лоб — карону.
Маглі ж яны, калі шырэй глядзець,
Прынесці выхаваннем гонар трону.
І тым не менш — усе яны былі
Дастойныя кароны і пятлі.

154 Яго Вялікасць увайшоў у залу
І маладую жонку прывітаў
Напышліва — па цырыманіялу!
І ў міг адзіны гнеў яе растаў,
А твар (пазбегнуць трэба ўсё ж скандалу!)
Двайной пяшчотай напаўняцца стаў.
Так жонкі абыходзяцца з мужамі,
Якіх яны зрабілі рагачамі.

155 Прысутных вочы чорныя султана
Агледзелі ад галавы да пят
І ўбачылі ў гурме жанчын Жуана.
Затым султан зноў перавёў пагляд
На жонку, што глядзела закахана
На мужа, і сказаў: «Я вельмі рад,
Што ты рабыню новую купіла.
Хоць хрысціянка — выглядае міла!»

156 Пачырванець прымусіў камплімент
«Рабыню новую», бо ўсе панура
Глядзелі на яе: «О Магамет!
Як мог увагу на дачку гяура,
Што ў гурт наш улілася неўпрыкмет,
Звярнуць Яго Вялікасць, бо фігура
Рабыні мае не адзін агрэх?»
Сяброўкі ледзьве стрымлівалі смех.

157 Хоць туркі з жонак не спускаюць вока
І часта іх трымаюць пад замком,
Каб у распусце не зайшлі далёка,—
Перашкаджае справіцца з грахом
Турчанкам бедным жудасная спёка.
Не так на Поўначы. Там кожны дом —
Аплот маралі, што, як снег, іскрыцца,
Чым я не перастану ганарыцца.

158 На Ўсходзе вузы шлюбу азначаюць
Амаль заўсёды тыя ж кайданы.
Прычым дзяўчыне стаць не дазваляюць
Ніколі зноў дзяўчынаю яны.
А мнагажонствам людзі далучаюць
Сябе да асяроддзя сатаны.
Маральнага кентаўра слаўлю я,
Чыё імя спрадвечнае — сям'я!

159 Цяпер я апускаю ветразь свой,
На якар стаўлю рыфмы і жадаю,
Каб людзі з пятай песняю маёй
Пасябравалі. А яшчэ я раю
Чакаць наступнай песні, у якой
Перасягнуць сябе я абяцаю.
А зараз у мяне другі намер —
Перадыхнуць спакойна, як Гамер.

## ПЕСНЯ ШОСТАЯ

1 «У справах чалавечых ёсць прылівы,
Якімі карыстаючыся...» Вам
Астатняе вядома, ды калі вы
Даць волю баіцеся парусам,
Вам не паможа выпадак шчаслівы.
І ўсё ж (я ў тым пераканаўся сам)
Любая справа выпраўляцца стане,
Калі акажацца ў найгоршым стане.

2 Прыліў спрыяе часам і жанчыне.
Бог ведае куды яна плыве,
Калі стыхія ёй у сэрца хлыне.
Не мог і Якаў Бэмэ ў галаве
Такія смерчы нараджаць і плыні,
Сярод якіх душа яе жыве.
Бог даў уменне разважаць мужчынам,
А слепа летуценнічаць — жанчынам.

3 Жанчына ж сімпатычная сабой,
Што любіць авантуры і афёры
І рызыкнуць каронаю сваёй
Гатова, каб любімай быць; што зоры
Змяла б з нябёс, каб раптам стаць такой
Свабоднаю, як тая хваля ў моры,
Па сутнасці — сапраўдны сатана.
Нас робіць маніхеямі яна.

4 Пустое славалюбства свет і троны
Хістае і трасе, калі яму
Дыктуе страсць вар'яцкія законы,
І мы яго апраўдваем таму.
З-за Клеапатры рымлянін Антоній
Ля Акцыя змагаўся і свайму
Разгрому абавязаны, што славе,
Як Цэзар, спадабаўся неўзабаве.

5 За саракагадовую царыцу
Загінуў ён у пяцьдзесят гадоў,
Хоць лепш — у дваццаць і за чараўніцу,
Якой пятнаццаць, бо тады любоў
Нам замяняе трон. За маладзіцу
Усмешлівую быў аддаць гатоў

У тыя дні я сэрца, што нямала
(Як зараз — цэлы свет) мне каштавала.

6 О як цнатліва адчуваць я мог!
І хоць, на жаль, пачуцці маладыя
Дагэтуль у душы я не збярог,
Бы ўзносак удавы, пачуцці тыя
(Бог ёсць любоў! Чаму ж любоў не Бог?)
Залічацца на свеце тым. Святыя
І чыстыя яны спярша былі,
Ды грэх змаршчыніў і чало зямлі.

7 Грэх на душу не ўзяў выбраннік мой,
Яго не спакусіла асалода,
Хоць рызыкнуць і скураю сваёй
Не грэх мужчыне з-за такога плода.
Любым султанам жонцы маладой
Павек не будзе дадзена свабода,
Якую ўласнай жонцы даў Катон.
Таварышу яе пазычыў ён.

8 Вядома, вінавачу я Гульбею
За страсць яе. І ў той жа самы час
Красуню я выдатна разумею.
Яе спадар, хоць быў і лавелас
(На жаль, я крывадушнічаць не ўмею),
Меў шэсцьдзесят гадоў тады якраз
Ды і наложніц маладых нямала —
І ёй уцех любоўных не хапала.

9 Паверце мною сказанаму слову:
Пра гэта ўсё даведаўся я з кніг.
Пацвердзіць можа гэтую выснову
Арыфметычны просценькі разлік.
Калі б султан ёй аддаваў палову
(На жаль, ён дзеліць страсць сваю на ўсіх),
А не двухтысячную долю страсці,
Яна б не дбала аб жаночым шчасці.

10 На жаль, памкненні ўласніцкія дужа
І ўсіх жанчын псуюць, што ні кажы.
Ва ўсе часы ў адносінах да мужа
Яны былі суцягі і ханжы.
З іх кожная калючая, як ружа,

Бо іх дэвіз: «Ты мой — і мне служы!»
Калі ж другая ўзнікне паміж вамі,
Яны даб'юць вас іскамі, судамі.

11 Так паступаюць жонкі-хрысціянкі.
Глядзяць на круг сваіх сямейных спраў
Так прыкладна і жонкі-мусульманкі,
Хоць не з такім шырокім кругам праў.
Такія ж і султанавы каханкі.
Сляпой жаночай рэўнасці праяў
Усюды дастаткова — і нярэдка
Тыгр, як і Тэмза, іх нявольны сведка.

12 Гульбея, ганарлівая з маленства,
Хоць і каханай жонкаю была,
Ды ўсё адно чацвёртай! Мнагажэнства
Нясе ў сабе шмат і грахоў, і зла.
Яно — самазабойства падабенства.
Так існаваць Гульбея не магла,
Бо мудры чалавек уэрскі ложак
У шлюбны ўсё жператварыць не можа.

13 Султан святлейшы (тытул вось такі
Насіў ён, як і іншыя манархі,
Пакуль ім якабінцы чарвякі
Не завалодалі па волі Паркі)
Пяшчотна дакрануўся да рукі
Чацвёртай жонкі — велічны і яркі,
Бо захацеў ён, чытачы мае,
Прыхільнасці шатландскай ад яе.

14 А я хачу вам зараз патлумачыць,
Што слова, пацалунак і пагляд,
Які, на першы погляд, многа значыць,
Звычайна ёсць звычайны маскарад
Або ўпрыгожванне, і цяжка ўбачыць,
Хто з вамі побач — сябар або кат.
Жаночыя абдымкі, ўздыхі, ласкі
Таксама іншым разам — толькі маскі.

15 Збянтэжанасць, румянец трапяткі —
Жаночага кахання ўвасабленне.
Любоў такую ўбачыш праз вякі,
А не ў вачах, што могуць праз імгненне

Патупіцца ад сораму, які
Святога сэрца чыстае адзенне.
Такое сэрца чуйнае здавён —
Кахання шчырага найлепшы трон.

16 Каханню шкодзіць непамерны шал,
Таму што ён гарэць не можа вечна.
Гарачая жанчына — ідэал
Для юнака, ды ўкладваць небяспечна
У страсную нявесту капітал:
Да іншых можа сплысці ён, бясспрэчна.
А на халодных носьбітак спадніц
Я ўсё жыццё гляджу як на дурніц.

17 За дрэнны густ іх цяжка палюбіць.
Я да такіх не падыходжу блізка.
Ва ўсіх мужчын павінна жонка быць
Усё ж у нейкім сэнсе адаліска,
Хоць многія з нас могуць растапіць
І снежную абранніцу Францыска.
Гарацый правы: «Medio tu tu-
tissimus ibis!» Хоць займеннік «tu»

18 І лішні тут, але ж закон прасодыі
Зрабіць так змусіў, бо, на жаль, няма
Ў гекзаметры ні рыфмы, ні мелодыі.
Я гэты выраз уціскаў дарма
Ў радок. Атрымліваліся пародыі
На верш англійскі, бокам ці тарчма
Яго ў актаву я піхаў, ці плазам.
І ўсё ж не ахвяруйце мудрым сказам.

19 Была артысткай добраю Гульбея
І страсць сваю не выдала нічым.
Закончылася паспяхова дзея,
А поспех азначае шмат ва ўсім.
Ілгуць мужчыны (знаю па сабе я)
Яшчэ хітрэй падманшчыцам сваім,
Бо толькі голад страсць да размнажэння
Даводзіць іншы раз да вынішчэння.

20 Хай, поўная спакою і лагоды,
Гульбея з мужам засынае, хоць
Падманвацца ў чаканні асалоды

Ніколі не прывыкне наша плоць,
Бо цяжка ёй з душой прыйсці да згоды,
Калі на страсць накінута аброць.
Канфлікты гэтыя, хоць кожны — дробны,
На кроплі, што валун дзяўбуць, падобны.

21 Зануда-жонка, слепата каня,
Нахабныя хапугі-крэдыторы,
Капрызнае малое дзіцяня,
Недаразвіты сын, сабака хворы
І, ўрэшце, састарэлая радня,
Што вам не завяшчае і аборы,—
Вядома, толькі дробязі, аднак
Спакойна іх не ўспрымеш аніяк.

22 Я, акрамя жанчын, каб не злавацца,
Усё на свеце пасылаць гатоў
Да чорта, бо тады, калі прызнацца,
Імгненна заціхаюць жоўць і кроў —
І дух мой пачынае вызваляцца,
Каб зноў аддацца думцы, ад акоў.
*Што* — дух? *Што* — думка? Я, на жаль, не знаю.
Таму і іх да д'ябла пасылаю.

23 Калі што-небудзь праклянеш, фантазія
Адразу абуджаецца, нібы
Анафемай Святога Афанасія,
Якую любяць Божыя рабы.
Больш у ніякай друкаванай фразе я
Не бачыў столькі гневу і злабы.
І трэбнікі ўпрыгожваюцца ёю,
Як неба — сямікалернай дугою.

24 Гульбея і султан заснулі скора.
Дакладней — сон змарыў валадара.
О Госпадзі! Якая гэта змора
Жанчыне, пакахаўшай шкаляра,
Чакаць, калі зашморгнутая штора
Ізноў запунсавее, як зара.
Ляжыць Гульбея і не варухнецца!
А што, як раптам валадар прачнецца?

25 Багатыя мужчыны і жанчыны
(Кароль, імператрыца, падзішах),

Хаця іх асяняюць балдахіны,
Прыўзнятыя на чатырох слупах,
І лашчаць беласнежныя прасціны,
Не спяць таксама часам па начах.
Няшчаснай (шлюб заўсёды — латарэя),
Як жонка мужыка, была Гульбея.

26 Па пераходах доўгіх Дон-Жуан,
Патуплены ў сваіх жаночых строях,
І прыгажунь гарэмных караван
Маўкліва разышліся па пакоях
Чакаць, калі аблашчыць іх султан,
І целы цешыць у салодкіх мроях.
О колькі б'ецца сэрцаў трапяткіх,
Бы ў клетках — птушак, у пакоях тых.

27 Хацеў тыран, што ў Рыме валадарыў,
З адною галавою мець народ,
Каб толькі раз мячом з размаху ўдарыў —
І ссек яе. А я наадварот,
Бо ўсіх жанчын люблю, заўсёды марыў,
Каб меў жаночы род адзіны рот,
Каб я жанчын, народжаных Каўказам
І Альпамі, пацалаваць мог разам.

28 О Брыарэй! Старукі велікан!
Калі ты меў і іншых членаў многа,
Табе зайздрошчу я, хаця тытан —
Жаніх для музы не маёй. Дарога
Не завядзе ніколі мой раман
У Патагонію. Да маладога
Пігмея-дона я вярнуся зноў
У лабірынт, дзе рэй вядзе любоў.

29 Ішоў па дыванах ён, як па прыску,
Бо дон знаходзіўся ў краіне той,
Дзе кожны, хто асмельваецца зблізку
Пажадлівы і прагны позірк свой
Хоць раз накіраваць на адаліску,
Заўсёды рызыкуе галавой.
Ахоўваюць маральнасць мусульмане
Больш строга, чым педанты-англічане.

30 Па галерэях — вузкіх і даўгіх —
Ішоў Жуан пераадзеты з роем
Султанавых наложніц маладых,
Што ззялі прыгажосцю, пад канвоем
Шматлікіх еўнухаў — тупых і злых.
А перад яркім і стракатым строем
Сярдзітая наглядчыца ішла,
Што *мамай дзеў* ужо даўно была.

31 Не ведаю, ці стала мамай *мама*.
І ці была з тых *дзеў* хаця б адна
Дагэтуль дзевай, не скажу таксама.
Але што *мамай* звалася яна,
Князь Кантэмір і Тот гавораць прама.
Якой бы *дзеў* тых не была віна
(А іх было дзве тысячы ў сералі),
Яны любові *матчынай* не знал.

32 Але няма больш лёгкай сінекуры!
Мужчын адсутнасць, еўнухі, замкі
І сцены (хоць і страсныя натуры
У *дзеў* былі) стварылі лад, які
Не прымушаў вылазіць вон са скуры.
У італьянскіх кляштарах такі
Спакойны лад заведзены калісьці.
І там, і тут адно ў пажады выйсце.

33 Якое ўсё ж? Малітвы і ўстрыманне!
Я здзіўлены, што вы мне задалі
Такое недарэчнае пытанне.
Аднак жанчыны ўсіх краін брылі
Ў гарэм, з пажадай ведучы змаганне.
Яны нібыта лілії плылі
Уздоўж берага па возеры паволі,
Адзінай падначаленыя волі.

34 Калі нарэшце прывяла іх *мама*
У свой гарэм, яны, як жыхары
Славутага брытанскага Бедлама,
Як птушкі пеўчыя, як шкаляры,
Глынуўшыя гаючага бальзаму,
Як шумныя ірландцы-гандляры
І як прыбой, адразу заспявалі,
Загаманілі і затанцавалі.

35 Пра *новую* вялася гамана —
Пра рост яе, калі казаць каротка,
Пра валасы і ўзрост. Знайшла адна,
Што новая красуня — не малодка.
Здзівілася другая, што яна
Не носіць завушніц і што паходка
Ў яе мужчынская. Карцела ім,
Каб у красуні ўсё было такім.

36 Аднак яны сышліся ўсе на тым,
Што *новая* на выгляд — як дзяўчынка
І што яна (так падалося ім)
Хутчэй за ўсё прыгожая грузінка.
Было незразумела ім усім,
Чаму Гульбея (хітрая жанчынка!)
Нявольніцу такую набыла,
Якая стаць султаніхай магла.

37 Вядома ўсім даўно, што ў грамадзе
Дзяўчатак маладзенькіх (незалежна —
Нявест Хрыста ці Магамета), дзе
Красуні ўсе, буяе непазбежна,
Як тое пустазелле на градзе,
Сляпая рэўнасць. І таму бязмежна
Я здзіўлены, што ім Жуанаў твар
Не нагадаў найгоршую з пачвар.

38 Відаць, на гэтым свеце існуе
Міжполавая тайная павага.
Флюіды векавечныя свае,
Якія нас катуюць, быццам смага,
Ім слала, пэўна, чытачы мае,
Той ноччу гэтая зямная цяга.
Яна нагадвае мне магнетызм,
А іншым разам — нават сатанізм.

39 Сентыментальнай, чыстай і святой
Была іх закаханасць, бо ўзбуджала
Яна адно жаданне, каб сястрой
Іх прыгажуня новенькая стала.
Аднак у прыгажуні маладой
Знайсці і брата не адна жадала.
Мігцеў бы цьмянай зоркай — у вачах
Сястры такога брата — падзішах.

40 Наложніц шмат сабралася наўкола
Красуні новенькай, ды з ліку іх
Дуду, грузінка Кацечка і Лола
Сяброўства з ёю праглі больш за ўсіх.
Прыязнасць шчырая, а не крамола
Змушала прыгажунек трапяткіх,
Што розніліся ростам і гадамі,
Яе ласкаць вачамі і рукамі.

41 Пагляд індускі Лолы страсці бурнай
І не хацеў утойваць, і не мог.
А Кацечка такой мініяцюрнай
Была, што ступнямі маленькіх ног
Падлогі не краналася. Фігурнай
І самай томнаю з наложніц трох
Была Дуду. Убачыўшы ў пасцелі
Яе аголенай, вы б звар'яцелі.

42 Штось ад Венеры спячай (што магло б
Бяссонніцу прынесці тым, хто скоса
Убачыў бы яе высокі лоб,
Яе румянец і атычнасць носа)
Было ў яе. Адзіны недахоп
Дуду — дзябёласць, што каменячоса
(І Фідыя!) прымусіла б, відаць,
Жыццё другое ў мармуры ёй даць.

43 Як фарбы майскай ранішняй зары,
Што гоняць прэч паўночную дрымоту,
Яе пагляд засмужаны дарыў
Усім, хто на яе глядзеў, пяшчоту.
Дуду нагадвала, мае сябры
(Прашу адзначыць параўнання цноту),
Пігмаліёна статую, калі
Яе павекі толькі ажылі.

44 «А як цябе завуць?» — спытала Лола.
«Жуанна».— «Вельмі добрае імя».—
«А ты не з Грузіі?» — угору голаў
Падняла Каця. «Не, іспанка я».—
«А гэта дзе?» — «Ах! — Лола падкалола.—
Ты ж цемрашалка, любая мая!
Знаходзіцца іх востраў недалёка
Ад Грэцыі,Танжэра і Марока».

45 Дуду без слоў Жуанны пакрывала
І локаны яе густых валос,
У вочы зазіраючы, трапала,
Нібыта спачуваючы, што лёс
Прывёў яе ў дом гэты і нямала
Ўсялякіх непрыемнасцей прынёс.
Цікаўныя, дапытлівыя вочы
Парушаць хутка супакой дзявочы.

46 «Спадарыні! Спаць класціся пара вам!» —
Да *дзеў* іх *мама* раптам падышла
І голасам, яшчэ даволі бравым,
Зірнуўшы на Жуанну, дадала:
«Уласным карыстаючыся правам
(На жаль, прадугадаць я не магла,
Што нехта з'явіцца парой начною),
Я прапаную легчы вам са мною».

47 Ды раптам Лола запратэставала:
«Сон чуйны ў вас. Навошта гэта вам,
Каб вас Жуанна ноччу турбавала?
Лепш удваіх дазвольце легчы нам.
Мы ж тонкія. Нам трэба месца мала.
Жуанне я заснуць спакойна дам».
І Кацечка сваё сказала слова:
«Пасцель і я з ёй падзяліць гатова».

48 І дадала: «Я дрэнна сплю адна».—
«Чаму так?» — *мама* хмыкнула з прышчурам.
«Ля стоек балдахіна давідна
Тады мне трызняцца то гебр з гяурам,
То злыя прывіды, то сатана».
«Ну што ж,— сказала з выглядам панурым
Ёй *матухна*.— У выпадку такім
З табой Жуанна не засне зусім.

49 З табою спаць яна не можа, значыць,
І з Лолай я яе не пакладу.
Чаму? Я гэта не хачу тлумачыць.
Няхай кладзецца спаць яна з Дуду,
Што моцна спіць і прывідаў не бачыць.
Рашэння лепшага я не знайду.
Скажы мне, мілая мая, ты згодна?»
Красуня змоўчала высакародна,

50 Хаця і ўсцешыла маўчунню тую,
Што *мама* аддала загад такі.
Яна пацалавала ў лоб старую,
А Лолу з Кацечкай — у дзве шчакі
І за руку красуню маладую
Рашуча пацягнула напраскі
(На зайздрасць Каці з Лолай) па праходу,
Паклон аддаўшы *матухне*, у оду.

51 Завецца па-турэцку гэтак зала.
Шмат ложкаў, столікаў уздоўж сцяны
У велізарнай зале той стаяла.
Былі яны ў пакоі не адны.
І іншых рэчаў там было нямала.
Я бачыў іх, між іншым, і яны
(Вядома, я на ўвазе маю рэчы),
Лічу, былі ў пакоі тым дарэчы.

52 Дуду была цудоўнае стварэнне,
Што можа чараваць, [redacted] не здзіўляць.
На жаль, яе спакойнае гарэнне
І правільныя рысы ўвасабляць
Цяжэй на палатне, чым абурэнне
І грубыя абрысы. Выяўляць
Іх любяць жывапісцы і паэты,
Бо вабяць нас выразныя партрэты.

53 Дуду — ландшафт, расквечаная шыр,
Дзе так прыемна на мурог упасці,
Дзе ўсё — спакой, гармонія і мір.
Хоць гэта не само, напэўна, шчасце,
Такі ландшафт — яго арыенцір,
Больш правільны, чым нашы з вамі страсці.
Гарачая жанчына ў бурным стане
Больш страшная, чым бура ў акіяне.

54 Дуду, што ў оду крочыла з Жуаннай,
Задумлівай, прасветленай была
І надта ўжо меланхалічнай паннай.
Здавалася, красуня не магла
Сябе разбэсціць думкаю заганнай,
Хоць васемнаццаты ўжо год жыла.
Не ведала маўклівая кабетка
І хто яна — бландзінка ці брунетка.

55 Была Дуду прывабнаю, нібыта
Век залаты (які яшчэ не знаў
Пра золата, за што так менавіта
Яго гісторык некалі назваў,
Як і заместа non lucendo ўжыта
Аднойчы lucus; гэткі ж дзіўны сплаў —
Стагоддзе наша, ды яго саставу
Не ўціcне нават д'ябал у актаву.

56 Яно, відаць, з карынфскага металу,
Дзе кампанент галоўны — гэта медзь,
А іншых кампанентаў надта мала).
Чытач, прабач, што сказ пабочны ледзь
Закончыў я. Хоць выйшаў ён няўдала,
Калі больш аб'ектыўна паглядзець,
Сказ гэты быў усё-ткі неабходны.
І хай ты з гэтым довадам не згодны!

57 Ды час вяртацца да апавядання...
З прыязнасцю паказвала Дуду
Жуанне лабірынты памяшкання
І зрэдку штосьці казала на хаду.
(А я на сціслы метад апісання
Наўрад ці неўзабаве перайду.)
Названа навальніцаю нямою
Была б такая чараўніца мною.

58 Яны, вядома, праставалі ў оду.
Ды вось Дуду размову завяла
З Жуаннай, хоць міжполавага роду
У Жуана знешнасць ноччу той была.
Пра звычаі цнатлівыя Усходу
Распавядаць красуня пачала.
Яны гарэмнай *дзевы* нораў палкі
Змякчаюць абавязкамі вясталкі.

59 Пацалавала (у шчаку) цнатліва
Дуду сяброўку новую затым.
Пацалавацца гэтак жартаўліва
Заўжды прыемна дзевам маладым,
Бо пацалунак (чысты — асабліва)
Нам дорыць радасць і душэўны ўздым.
Невыпадкова слова *пацалунак*
Рыфмуецца са словам *падарунак*.

60 У міг адзін Дуду сябе раздзела,
Далонню ўсёй пагладзіла нагу
І нечакана ў люстра паглядзела.
Наложніцу цнатлівую магу
У момант гэты параўнаць я смела
З газеллю, што зірнула на бягу
Ў ручай чысцюткі і з замілаваннем
Любуецца сваім адлюстраваннем.

61 Яшчэ распранутая напалову,
Дуду хацела памагчы сама
Раздзецца новенькай, ды прапанову
Іспанка адхіліла — і дарма,
Бо шпількі, што нязвыклую абнову
На ёй трымалі (а было іх цьма!),
Скалолі пальцы вострымі канцамі.
За што? Вы здагадаецеся самі.

62 З жанчыны шпількі робяць дзікабраза,
Не дазваляючы яе кранаць,
Нібыта гэта для яе абраза.
Калі вам давядзецца апранаць
(Была ў маім жыцці такая фаза)
Графінь на маскарад, вам трэба знаць,
Як небяспечна шпількай укалоць
Не там дзе трэба спешчаную плоць.

63 Хоць гэта глупствам назаве разумны,
Я больш люблю разумнасць, чым яна —
Мяне, бо лічыць, што мой твор — бяздумны.
Я філасофстваваць люблю здаўна
Пра дрэвы, пра тыранаў, ды (што сумна)
Мне сутнасць існавання не відна.
Хто мы? Адкуль? Дзе скончацца блуканні?
Напэўна, гэта вечныя пытанні.

64 Нішто не парушала цішыні.
Прыгожых фей спакуслівыя члены
Сон супакоіў. Змрочныя агні
Падсвечвалі серал і соннай сцены.
Калі ёсць духі, раю дзень пры дні
Ім прылятаць з руін у церам гэны
(Каб даказаць, што добры густ і ў іх)
І пацяшаць жыхарак трапяткіх.

65 Нібыта клумбы — прыгажунь рады.
Усе іх кветкі вырваны гвалтоўна
І перасаджаны з другой грады.
Было ім, далікатным, безумоўна,
Няпроста перасаджвацца сюды.
Галоўку з русаю касой чароўна,
Бы плод — галінка, звесіла адна.
Спакойна, роўна дыхала яна.

66 У сне (так можа здарыцца і з вамі),
Напэўна, страсць валодала другой.
Быў лоб яе пакрыты валасамі,
Як і падушка пад яе шчакой.
Красуня, растрывожаная снамі,
Да палавіны прасціну рукой
Імгненна скінула — і агаліла
Дзве поўні, усміхаючыся міла.

67 Здаюцца, пэўна, гэтыя радкі
Вам супярэчлівымі, бо забылі
Вы, што ў пакоі тлелі начнікі.
Сны настальгічныя разварушылі
Душу красуні трэцяй. Хмызнякі
На беразе далёкім абудзілі
У ёй журбу і давялі да слёз.
Так на платане ззяюць кроплі рос.

68 Чацвёртую з выявай мармуровай,
Відаць бы, параўнаў любы паэт.
Яна была халоднай і суровай,
Як гор Альпійскіх снежны мінарэт,
Як струм, скаваны сцюжаю зімовай,
Як мёртвай жонкі Лота сілуэт.
А ты, чытач, прызнаць, напэўна, схільны,
Што гэта проста помнік надмагільны.

69 А вось і пятая! Было жанчыне...
Я ўзрост яе паведаміць гатоў,
Ды не магу, на жаль, па той прычыне,
Што я да дзевятнаццаці гадоў
Люблю жанчынак. Лежачы на спіне,
Яна, відаць, не сніла страсных сноў.
Сны праведныя сняцца чалавеку
Больш сталага і стрыманага веку.

70 Не знаю, як Дуду той ноччу спала,
Якія бачыла красуня сны
(Для гэтага адных здагадак мала,
А я з дзяцінства не люблю маны),
Але калі цямней у одзе стала
І прывіды з'явіліся (адны
Іх бачаць, а другія — не), жахліва
Ускрыкнула Дуду — усім надзіва.

71 Усе адразу з ложкаў паўставалі
(І *матухна*, і *дзевы* — ўсё адно
Сапраўдныя ці як іх называлі)
І да збялелай, быццам палатно,
Сяброўкі пакаціліся, як хвалі.
Ім не даводзілася чуць даўно
Такога крыку. На Дуду глядзелі
Яны, ды сутнасці не разумелі.

72 Імгненна збегліся ўсе сеньярыты:
Ва ўсіх іх быў надзіва лёгкі крок.
Іх рукі, ногі не былі прыкрыты
Нічым — і асвятлялі шэры змрок,
Нібы паўночныя метэарыты.
Але ўсё роўна зразумець не змог
Ніхто з разбуджаных жанчын гарэма,
Чаму Дуду так закрычала нема.

73 Нягледзячы на шум, быў сон спакойны
Ў Жуанны — і гарэмны кавардак
Не разбудзіў іспанку. Муж законны
На шлюбным ложку спіць спакойна так.
Ні гучны гром, ні лязгат законны
Не шкодзяць спаць нявіннасці. Аднак
Была ўсё ж раскатурхана Жуанна —
І *дзева* азірнулася заспана.

74 На плёткі ў нас, людзей, вялікі попыт,
Яны жыцця галоўны атрыбут.
Непаслядоўны, шумны, строгі допыт
Збянтэжанай Дуду пачаўся тут.
Не дазваляў яшчэ жыццёвы вопыт
Ёй быць такім «аратарам, як Брут»,
І не магла красуня, безумоўна,
Адказваць на пытанні красамоўна.

75 Красуня, выціскаючы па слову
З сябе, тлумачыць пачала, што ў сне
Яна зайшла ў дрымотную дуброву,
Ў якую Дантэ трапіў па вясне,
Калі прайшоў свайго жыцця палову.
(Жанчын ва ўзросце гэтым сатане
Ўжо спакушаць не хочацца, як Еву.)
І падышла Дуду нібыта к дрэву.

76 Вісеў на недасяжнай вышыні
На дрэве спелы яблык, што ранеты
Нагадваў. І такой велічыні
Ён быў, што захацела яблык гэты
Красуня збіць. Кідала камяні
І іншыя нялёгкія прадметы
Яна ў яго, а ён усё вісеў
І падаць з дрэва долу не хацеў.

77 Дуду збіць яблык доўга не магла.
Сама на дол яе спакуса ўпала.
Ды толькі нагінацца пачала
Дуду да яблыка, як зажужжала
Каля яе назойліва пчала,
Што вылецела з яблыка, і джала
Ўсадзіла ў сэрца *дзевы* маладой.
Таму яна і закрычала: «Ой!»

78 Здавалася разгубленаю звонку
Дуду. І гэта лёгка зразумець.
Няпроста з перапуду і спрасонку,
Калі ніхто спагадна паглядзець
Не можа на цябе, пачаць гамонку,
Тым больш — калі яшчэ на ўвазе мець,
Што «збег абставін» робіць сон прарочым,
Хаця мы гэтага зусім не хочам.

79 Жанчыны, што не тое чуць хацелі,
Дазнаўшыся, што ўзняў перапалох
Уночы іх з-за дробязі з пасцелі
(Ніхто ж не любіць дробязных трывог),
На бедную сяброўку наляцелі.
Наглядчыца старалася за трох.
Дуду ўздыхала толькі ды маўчала
Або вінілася, што закрычала.

80 «Хоць мой жыццёвы вопыт немалы,—
Вытрэшчвала старая *мама* вочы,—
Я не магу ўявіць, як з-за пчалы
Прымусіць мог у тры гадзіны ночы
(Падумаць толькі!) чалавек нязлы
І не лунацік з ложкаў нас ускочыць.
Ты хворая, Дуду! І я хачу
Сягоння паказаць цябе ўрачу.

81 Жуанна бедная! Ці ж гэта жарты —
Дзяўчыну сціплую так напужаць?
Учынак гэты пакарання варты.
Яе з табою я паклала спаць,
Упэўненая, што такі базар ты
Ўчыніць не можаш, а цяпер, відаць,
Зраблю яе я кампаньёнкай Лолы.
Ёй спаць яшчэ не дакучалі пчолы».

82 Заззяла шчасцем Лола, а ў вачах
Дуду заззялі ў гэты момант слёзы.
Прычынай іх быў пражыты страх,
Але хутчэй, што *матчыны* пагрозы.
«Калі,— яна сказала,— па начах
У сны мае назойлівыя восы
Ці пчолы зноўку стануць залятаць,
Не буду ўвагі я на іх звяртаць».

83 Нябога пастарацца абяцала
Не бачыць нават аніякіх сноў,
Здзіўлялася, чаму яна крычала,
Бо ціхаю была (не з крыкуноў),
І слёзна *матухну* перапрашала,
Каб з ёй Жуанну спаць паклала зноў,
А ўсё, што ноччу адбылося з ёю,
Тлумачыла нервознасцю сваёю.

84 Жуанна ўсё ўспрымала так балюча,
Што за Дуду, нібы сястра ці брат,
Яна ўступацца пачала рашуча,
Даводзячы кабетам, што наўрад
Прачнулася б, каб не ўзнялася буча,
Якая нагадала ёй набат.
Дарэчы, я ні ў чым бы не вініў
Таго, хто сон mal-à-propos прысніў?!

85 Пакуль Жуанна сцішвала кабет,
Дуду ў іспанкі на грудзях схавала
Свой твар усхваляваны неўпрыкмет.
Таму відна была з-пад пакрывала
Ім толькі шыя, што, як макаў цвет
(Чаму — не ведаю), чырвонай стала.
Адгаваруся фразаю адной,
Што праўда ўсё, расказанае мной.

86 Між тым патух на небасхіле ветах —
І караван з падножжа Кафскіх гор,
Яшчэ нясмела пеўнямі апетых,
Бо не паспеў распецца іхні хор,
Убачыў ветахі на мінарэтах
І ўзвышшы, што спускаюцца ў Басфор,
У першых промнях сонца. Добрай ночы
(Ці добрай раніцы), прытул дзявочы!

87 Як толькі ветах над зямлёй пагас,
Збялелая, змарнелая ад зморы,
Якой бывае страсць у гэты час,
Гульбея ўстала, расхінула шторы,
Надзела прыгажэйшыя з акрас.
І з байкі салавей, што плача ў горы,
Цярноўнікам праколаты, не так
Пакутуе, як наша плоць, аднак.

88 Раман мой не па густу чытачам,
Бо ён нібыта не нясе маралі.
Шаноўныя! Ён спадабаўся б вам,
Каб вы смялей на праўду пазіралі.
Усім курыць не могуць фіміям
І аўтары. Спрадвеку зацíралі
Яны калег-сапернікаў сваіх.
А зараз колькі развялося іх!

89 Гульбея з ложка мяккага свайго —
Мякчэйшага, чым ложак сібарыта
Такога спешчанага, што яго
Пялёстак ружы разбудзіў нібыта,—
Устала, гэткім чынам, да таго
Знясіленая, што была забыта
Красуняй звычка ў люстра паглядзець.
Яна не ведала, дзе крыўду дзець.

90 Затым салодка пазяхнуў спрасонку
І з ложка ўстаў вялікі валадар,
Што царстваў меў дзесяткі тры і жонку,
Якой даўно абрыдзеў гаспадар.
Ды гэта дробязі, калі скарбонку
Наложніц маеш. На жывы тавар
(Ці, па-марскому кажучы, на cargo)
На Ўсходзе не накладваюць эмбарга.

91 На гэты конт ён клапаціўся мала,
Бо мець прывык, як веер, пад рукой
Чаркешанку-каханку, што здымала
З яго пасля нарады гаманкой
Хандру, якая ўладара даймала,
Але з чацвёртай жонкай, да якой
Прыліў пяшчоты ён адчуў раптоўна,
Яму было прыемней усё роўна.

92 Ён здзейсніў абмыванні, прашаптаў
Пад нос малітвы і напіўся кавы,
Пасля чаго адразу пажадаў
Даведацца пра воінскія справы.
Султана наступ рускіх турбаваў,
Што промнямі вялікасці і славы
Пачаў апошнім часам асвятляць
Расійскую імператрыцу-б...

93 Прабач мне, Аляксандр, унук яе,
Калі ты ў Пецярбургу над Нявою
Пачуеш гэтыя радкі мае.
Я ведаю, што з Балтыкай сівою
Нява ўжо оду вольнасці пяе —
І абуджаецца Расія ёю.
Мне дастаткова гэтага спаўна.
Няхай усё грамчэй гучыць яна!

94 Ты — бацькаў сын! Твая — яго карона!
Да звычак і да слабасцей людскіх
Адносіцца не трэба падазрона.
Калі мы продкаў выбітных сваіх
Зваць будзем антыподамі Цімона,
То збэсцім і сябе не менш, чым іх,
Тым болей што гісторыі даўно
Належаць нашы продкі ўсё адно.

95 Падзей найболей значных і прыемных
Тым часам, пэўна, не было б, калі
Султан аб інтарэсах узаемных
З царыцаю дамовіцца б змаглі
І адпаведна колькасць *дзеў* гарэмных
І грэнадзёраў да нуля звялі.
Тады б казна іх не была пустою
І кроў людская не цякла б ракою.

96 А так савет склікае ён спрасонку,
Каб вырашыць, як рускім здачы даць
І збэшчаную шлюху-амазонку
У рэшце рэшт усё ж утаймаваць.
Ва ўсе канцы краіны, каб скарбонку
Папоўніць, змушаны ён пасылаць
Ганцоў, што да крыві збіваюць пяткі,
Збіраючы з насельніцтва падаткі.

97 Султаніха, праводзіўшы султана,
Адразу падалася ў будуар,
Дзе ўсё было сабрана і прыбрана,
Каб спапяляць у ім любоўны жар
І песціць страўнікі. Там палымяна
Квітнелі ружы — сёстры тых ахвяр,
Што ў одах вянуць, як яны — у вазах.
Там столь была ў рубінах і ў алмазах.

98 І перламутр, і мармур, і парфір
У гэтым будуары мілавалі
Пагляды, як і жэмчуг, і сапфір.
Нібы ў Эдэме, птушкі там спявалі,
Сцвярджаючы гармонію і мір;
Па сценах таямніча рассявалі
Усіх колераў праменні вітражы.
Быў гэта дзіўны кут, што ні кажы!

99 Калі ў праёме нішы патайной
Баба з'явіўся, прыгажуня стала
Распытваць, што было з хвіліны той,
Калі гурма рабынь папраставала
Ў гарэм, пакінуўшы яе пакой.
Затым Гульбея ў еўнуха спытала,
Ці не раскрыўся раптам іх падман,
Але галоўнае — дзе спаў Жуан.

100 Адказваў негр на кожнае пытанне,
Што цяжка для яго рабіць было.
Трымаўся добра ён, але жаданне
Ўтаіць галоўнае (ну як назло!)
Бянтэжыла яго — і хваляванне
Няўпэўненасць старому надало.
Патыліцу раз-пораз еўнух чухаў
І насцярожана Гульбею слухаў.

101 Не любячы ні спраў, ні слоў чакаць
І ўбачыўшы, што негр накшталт кабылы
З нагі стаў на нагу пераступаць,
Яна старога пачала штосілы
Пытаннямі да сценкі прыціскаць —
Так, што на скронях сталі біцца жылы.
І гэтак распаліў Гульбею гнеў,
Што нават лоб яе пачырванеў.

102 Каб нейкім чынам абмінуць бяду
(Гром спеў ужо ў паветры перагрэтым)
І ўласную сівую бараду
Абавязкова ўратаваць пры гэтым,
Прызнаўся негр, што спаў Жуан з Дуду,
Пакляўшыся прарокам Магаметам,
Каранам і вярблюдам найсвятым,
Што ён, Баба, не вінаваты ў тым.

103 А заварыла, як лічыў нябога,
Ўсю кашу *матухна* пасля таго,
Як гурт зайшоў у оду, ля парога
Якой канчаюцца правы яго,
А лішняя яго перасцярога
(На жаль, не прадугледзіш усяго)
Абавязкова прывяла б тады
Да гвалту страшнага і да бяды.

104 Аднак хітрун ніяк не верыў, каб
Нявольнік юны выдаць мог жанчынам,
Што не рабыня ён зусім, а раб,
Бо ён сябе паводзіў лепшым чынам.
Іначай не пазбегнуў ён мяшка б:
Там спуску не даюць такім правінам!
Стары Баба ўсё расказаў амаль.
Забыў адно — сон, што падняў сераль.

105 Напэўна, доўга б еўнух балбатаў,
Каб у Гульбеі ўзбуджанай на твары,
Скажоным гневам, ён не прачытаў,
Што навальніца ўжо, лічы, ў разгары —
І лепш, каб ён спачынак вуснам даў.
Не знесла прыгажуня слоў удары.
Заторгаліся вушы. Сцяўся рот,
А лоб яе пакрыў халодны пот.

106 Так золкам арашаецца лілея.
Вось-вось у непрытомнасць упадзе,
Здавалася ўжо еўнуху, Гульбея
І што красуні памагчы ў бядзе
Не зможа ён. Не ўпала злая фея
У непрытомнасць. Толькі дзе-нідзе
Канвульсіі перасмыкнулі цела,
Ды муза б іх апісваць не хацела.

107 З хвіліну прастаяла анямела
Гульбея. На трыножніку сваім
Калісьці гэтак піфія дранцвела.
Грымотна сэрца грукала, а ў ім
Ад гора фібра кожная трымцела,
Бы тузалася ніткаю. Затым,
Калі яе ўжо пакідала сіла,
Гульбея села, галаву схіліла.

108 Яна сядзела ў нерухомай позе —
І пасмы доўгія яе валос,
Бы вецце ніцай вербы, па падлозе
Рассыпаліся. Хвалі аб уцёс
Так б'юцца, каб адхлынуць у знямозе
Назад, не наракаючы на лёс.
Красуні грудзі, быццам тыя хвалі,
Пачуцці неаціхлыя ўздымалі.

109 Даўгія і густыя валасы
Схавалі цела, быццам пакрывала.
Рука невераготнейшай красы
На падлакотніку сафы ляжала.
Султаніха ў мінулыя часы
Любога б жывапісца ўсхвалявала.
Шкада, што вершатворац — не мастак,
А словамі не намалюеш так.

110 Баба да нораву яе прывык —
І разумеў, што ў гэтыя імгненні
Лепш, безумоўна, прыкусіць язык,
Не думаючы аб супакаенні.
Маланку выклікаць мог кожны зык.
Туды-сюды хадзіць у задуменні
Гульбея па пакоі пачала,
Бо хваляванне сцішыць не магла.

111 Яна спынілася, але з сабою
Не могучы ўсё роўна саўладаць,
То хуткай, то маруднаю хадою
Памеры будуара вымяраць
Зноў пачала праз момант з мінай злою,
Хаця загад хацела нейкі даць.
Крок Кацiлiны, як сцвярджаў Салюсцій,
Залежаў ад страсцей яго чамусьці.

112 Нарэшце супыніўшыся: «Баба! —
Гульбея ціхім тонам загадала.—
Вядзі сюды рабыню і раба».
Яна пярэчанняў не дапускала
І на Баба глядзела спадылба.
Аблічча еўнуха пакорным стала —
І выціснуў стары праз рэдзь зубоў:
«Якіх на ўвазе мелі вы рабоў?»

113 «Грузінку з палюбоўнікам! — халодна
Султаніха сказала, а затым
Дабавіла: — І так зрабі, каб лодка
Чакала іх у месцы патайным».
Хоць і хацела гордай быць малодка,
Гульбеі голас быў не грамавым —
І негр стаў барадою Магамета
Упрошваць не даваць заданне гэта.

114 «Я выканаю ўсё! — такі адказ
Даў ён.— Але ўявіце, уладарка,
Чым гэта можа скончыцца для нас.
Пад гэтым дахам, як вядома, сварка
Пагібеллю канчаецца падчас.
І развіваюцца падзеі шпарка!
Ды вас я гэтым не пужаю! Не!
Бо хочацца сказаць другое мне.

115 Пачуцці вашы не дадуць вам жыць,
Калі сягоння пахаваюць хвалі
І тайну страшную, якую скрыць
Вам хочацца, і навічка сералі.
Але ці трэба доўга гаварыць?
Вы ж гэтага іспанца пакахалі!
Яго забіўшы, назаўжды сябе
Вы аддасце сумоце і журбе».

116 У лютым гневе крыкнула Гульбея:
«І ты яшчэ асмеліўся, кастрат,
Штось пра каханне гаварыць? Табе я
Хутчэй выконваць раю мой загад!»
І знік Баба. У гэтага пігмея
Быў свой разлік: «Няўжо сабе я кат?»
І для яго была таксама шыя
Свая больш дарагая, чым чужыя.

117 Па галерэях ён ішоў даўгіх
І на турэцкай мове несціхана
Усіх жанчын чыхвосціў. Больш за ўсіх,
Вядома, жонак збэшчаных султана —
Паскудных і капрызных, у якіх
На тыдні пятніц сем. «Глядзець пагана,—
Ён мармытаў,— на гэтых фей-крыўляк».
І род ніякі славіў усяляк.

118 Паклікаў ён бясполых сабратоў
І загадаў, каб маладзенькай пары
Яны пераказалі сутнасць слоў,
Красуняй сказаных у будуары,
І каб Жуан, як і Дуду, гатоў
Быў на сабе адчуць Гульбеі чары.
Дуду здзівілася, а мой Жуан
Зрабіўся сумным ад такіх пашан.

119 Тут я свайго героя пакідаю —
Няхай рыхтуецца да рандэву.
Хаця гадаць наперад не жадаю,
Ці зможа ўратаваць ён галаву,
Я гэта лёгка ўсё прадугадаю.
Але ўжо новай песняю жыву
І не хачу ў жаночыя капрызы
Зноў унікаць, бо не люблю рэпрызы.

120 Жадаю Дон-Жуану я дабра!
Ён выйдзе са становішча са славай —
І рыбы не з'ядуць яго. Пара
Пачаставаць гасцей другою стравай.
Палац турэцкага валадара
Я пакідаю, бо ваеннай справай,
Якую найвялікшым злом лічу,
Цяпер заняцца з музаю хачу.

## ПЕСНЯ СЁМАЯ

1 Што вы такое, слава і каханне?
Вы для зямных смяротных жыхароў —
Паўночнага метэарыта ззянне.
Вы вызваліцца з ледзяных акоў
Нам дорыце нясцерпнае жаданне,
Ды, бліснуўшы, згасаеце ізноў —
І мы далей у смутку і знямозе
Адны ідзём па ледзяной дарозе.

2 Мяняюцца героі, рыфмы, тэмы,
Метафары, прыдуманыя мной.
І яркія радкі маёй паэмы —
Як ззянне над пустэчай ледзяной.
Хоць, ведаючы, што такое ўсе мы,
Павінен плакаць я ў цішы начной,
Вы ўсё-ткі мне дазвольце пасмяяцца,
Бо ўсё жыццё — міраж, калі прызнацца.

3 Мяне абвінавачваюць у нечым.
У чым — не ведаю. Відаць, у тым,
Што не ў ладах я з родам чалавечым
І многіх абражаў насмехам злым.
Мы хворыя, але сябе не лечым.
Пасмейваліся з гэтага ў былым
Тэрцыны Дантэ, прытчы Саламона,
Раман Сервантэса, трактат Платона.

4 Грош — кошт жыцця зямнога. Фенелон,
Ларошфуко, Русо, Макіявелі,
Уэслі, Лютэр, Свіфт і Цілатсон
Так сутнасць існавання разумелі.

А я не Дыяген і не Катон —
І думкі простыя ва мне заселі:
Мы ўсе жывём і паміраем. Што
Усё ж лепей — з нас не ведае ніхто.

5 Прызнаўся вучням некалі Сакрат:
«Я знаю, што не ведаю нічога».
Што шмат аслоў вучоных — рэзультат
Найцікавейшы ведання такога.
А Ньютан, што зрабіў адкрыццяў шмат,
Малечай уяўляў сябе самога.
«Ля акіяна Ісціны збіраў
Я ракаўкі»,— ён часта паўтараў.

6 Праўдзіва сказана ў Эклезіясце:
Што б ні рабілі мы — «ўсё мітусня!».
Нібы прызнаючы, што ў хрысціянстве
Таксама валадарыць сумятня,
Эклезіяста вывад цёмнай пастве
Даводзяць прапаведнікі штодня.
Як святары, вучоныя, паэты,
І я падтрымліваю вывад гэты.

7 О людзі, о сабакі! Прывітанне!
Я вас не абражаю, а хвалю,
Вам дарачы такое параўнанне:
Сабак я болей, чым людзей, люблю.
Нягледзячы на ваша скавытанне,
Я вам ні промня музы не ўступлю.
Як зграя злых ваўкоў ні завывае,
На іх увагі поўня не звяртае.

8 Я буду пець «каварную вайну
І страснае каханне» (дзякуй Богу,
Што ўжыў яшчэ цытату я адну)
І горад той, што вытрымаў аблогу
З вады і сушы, штурмаваць пачну,
Каб на штыках прынесці перамогу
Сувораву, які людскую кроў
Любіў, як альдэрмен — мазгі быкоў.

9 Той непрыступны горад-бастыён
Спрадвеку Ізмаілам называўся.
На левым беразе Дуная ён

У азіяцкім стылі будаваўся.
Такім бы ён, відаць, да нашых дзён,
Калі б яго не знеслі, заставаўся.
Ад Ізмаіла восемдзесят вёрст
Да мора Чорнага было наўпрост.

10 З усходу горад прыкрываў пасад,
Дзе ўмацаванні туркі размясцілі.
Ён быў вялікі і ўзвышаўся над
Астатнім горадам, але разбілі
Вакол пасада дурні палісад
І абаронцам шкоды нарабілі.
Ён весці ім стральбу перашкаджаў,
А іхнім ворагам — дапамагаў.

11 Стаў нейкі грэк наступнікам Вабана.
Ён болей удзяліў увагі рвам
Вакол сцяны (глыбей ад акіяна
Яны былі) і земляным валам,
Насыпаным вышэй, чым пажадана
Вісець на шыбеніцы мне і вам.
Не прадугледзеў грэк патэрн і веркаў.
Відаць, каб я іх назвы не каверкаў.

12 Ды бастыён (больш моцны, чым ілбы
Дурных людзей), барбеты, казематы,
Абедзве батарэі, што (нібы
Наш слаўны форт Сент-Джордж) свае гарматы
Ужо падрыхтавалі да стральбы,
Сцвярджалі: горад будзе цяжка ўзяты!
Хто б стаў на горад з поўначы глядзець,
Убачыў бы ствалоў гарматных шчэць.

13 Затое з поўдня горад быў адкрыты.
Ці ж думаў хто, каб у Дунай свой флот
Увесці рызыкнулі маскавіты?
Ды любіць гэты малады народ
Рабіць неспадзяваныя візіты.
Зайшоў флот у раку, якую ўброд
Ніхто не пераходзіў, і Алаху
Маліцца туркі пачалі са страху.

14 У лагеры, разбітым ля ракі,
Да штурму ўмацаванняў Ізмаіла

Ужо былі гатовы казакі.
Іх прозвішчы б, відаць, не зацяніла
(О бог вайны! Як толькі языкі
Іх вымаўляюць?) і імя Ахіла,
Калі б хто-небудзь іх апеў цяпер
Так, як Ахіла некалі — Гамер.

15 Я скарыстаю зручны момант гэты
І назаву імёны ваяроў,
Што славай асянілі эпалеты:
Чаконаў, Стронгенаў, Львоў, Чачыкоў,
Арсеньеў, Строканаў... Калі ў газеты
Я зазірнуў, шмат прозвішчаў знайшоў.
Імёнаў гэтых не выносіць слава:
Яе труба спявае больш ласкава.

16 Прамовам Лондандэры б надавалі
Прывабнасці і шарму шмат яны,
Ды каб героямі раманаў сталі,
Больш вартыя героі той вайны,
Чым іншыя нявесты, каб гучалі
У гонар іх царкоўныя званы.
З усіх імён на «ускін», «ышкін», «оўскі»
Наступныя згадаю: Разумоўскі,

17 Шыхматаў, Шарамецеў, Казлаўскі,
Куракін, Мускін-Пускін. Як умела
Яны ўтыкалі ў ворагаў клінкі
І як яны ішлі ў атаку смела!
Не шкадавалі туркаў смельчакі
(Карана іх душа не разумела) —
І абцягнулі б кожны барабан,
Каб ён парваўся, скурай мусульман.

18 Сярод кавалергардаў, грэнадзёраў
І бамбардзіраў там былі відны
І постаці замежных валанцёраў.
Іх звабілі высокія чыны
І, безумоўна, статус марадзёраў,
Якіх заўсёды многа ў час вайны.
Было там шмат і чыстакроўных брытаў:
Пятнаццаць Томсанаў і дваццаць Смітаў.

19 Трынаццаць Джэмсаў Томсанаў было там
(Двух з Томсанаў тых звалі — Біл і Джэк),
Тры Сміты Пітэры. Адзін з іх потым
Так ворагаў ля Галіфакса сек
(Таму што быў сапраўдным патрыётам),
Што паказаў, як можа чалавек
Даваць адпор захопніцкім атарам.
А ў гэтай бойцы ён служыў *татарам.*

20 Яшчэ хачу згадаць я Джэка Сміта.
Ён з Кумберленда. Дзед яго — каваль.
Пры ўзяцці невялікага Шмаксміта
У Малдавіі загінуў Джэк, на жаль,
І ў пераможным рапарце нібыта,
Як мне казалі, тры радкі амаль
Тады былі прысвечаны герою.
Як гэта ведаць радасна парою!

21 О Марс! Як гінуць многія бяздумна!
Не зганіў англічанін свой мундзір,
Ды тры радкі ў дэпешы, як ні сумна,
Не зацыруюць трох смяротных дзір.
Раней сказаў пра гэта больш разумна,
Хоць не сваімі вуснамі, Шэкспір.
Слывуць разумнікамі і вар'яты,
Што помняць з п'ес шэкспіраўскіх цытаты.

22 Не раз траплялі ў баявыя зводкі
І прозвішчы французаў маладых,
Ды я, прыхільнік музы-патрыёткі,
Не буду згадваць па-англійску іх,
Бо гэтым я пакрыўдзіць мог бы ўсё-ткі
Шаноўных суайчыннікаў маіх.
Ім трэба, каб у дні вайны і міру
Французаў бэсціць прымушаў я ліру.

23 На востраве насупраць Ізмаіла
Дзве батарэі рускія ўзвялі —
І гэта б сітуацыю змяніла
Карэнным чынам, думаю, калі
Іх добра б інжынерыя зрабіла,
Бо ўсе дамы, дзе беднякі жылі,
Грамадскія будынкі, людзі, коні
Былі адтуль відны як на далоні.

24 У астраўных часовых батарэй
І ў кананіраў іх было дзве мэты:
З пачаткам штурму разбурыць скарэй
Дамы, умацаванні, мінарэты
І ядрамі накрыць дунайскі рэйд,
Дзе згрудзіліся шхуны і карветы.
Яшчэ, між іншым, прадугледжваў план
Здаць горад вымусіць ізмаілчан.

25 Пагарда часам да людзей прыходзіць
Так, як у час абеду — апетыт.
Яна ў ваенных справах надта шкодзіць.
З-за гэтага загінуў смелы Сміт,
Чыё імя славутае прыводзіць
Звычайна за сабою рыфму *спрыт.*
Ды Смітаў шмат. Здаецца, і ў Адама
Было такое прозвішча таксама.

26 Было заган нямала ў батарэй,
Бо ў спешцы будаваліся, а ёю
(Вядома, спешкай) нават і харэй
Псуецца так, што церці даланёю
Лбы пачынаюць Лонгмен і Мерэй.
З-за спешкі тое, што завуць *разнёю*
Ці *славаю* гісторыкі, не раз
Адкладвалася на няпэўны час.

27 Былі падрадчыкі і інжынеры,
Якія ў будаўніцтве бралі ўдзел,
Напэўна, вінаваты ў роўнай меры
У тым, што ўзялі адразу на прыцэл
Той востраў туркі — і ахвяр памеры
Практычна павялічваў кожны стрэл.
І ўсе на смертаносным збудаванні
Дбаць сталі аб сваім выратаванні.

28 Адлегласці дурное вылічэнне
Той раніцою падвяло і флот.
Тры брандэры сваё самазнішчэнне
Раней, чым трэба, здзейснілі, бо кнот
Запалены быў рана. Засмучэнне
У рускіх выклікаў той эпізод,
Хоць выбухі не разбудзілі туркаў.
Іх, пэўна б, і набат не раскатурхаў.

29 У сем гадзін прачнуцца жыхары
І ўбачаць у сябе флот рускі з тылу.
А стаў ля берага на якары
Флот гэты, прадэманстраваўшы сілу,
У дзевяць раніцы — і пушкары
Прыцэльна сталі біць па Ізмаілу,
Хаця накрыты самі караблі
Агнём турэцкіх батарэй былі.

30 Каля шасці гадзін гулі снарады
І нарабілі разбурэнняў шмат,
Ды гарады бяруць не кананады —
І неўзабаве паступіў загад
Катэгарычны, як усе загады:
Стральбу закончыць, адступіць назад!
І ўсё ж два судны рускія згубілі —
Адно ўзарвалася, адно разбілі.

31 І ў туркаў страты значныя былі,
Аднак у каіках за рускім флотам
Пагналіся іх лютыя *дэлі*,
Агонь прыцэльны ведучы, хоць потым
Адважных туркаў граф Дама, калі
Сышлі на мыс яны за паваротам,
Зноў у раку загнаў і ўшчэнт скрамсаў.
Пра гэта шмат газетны свет пісаў.

32 «Калі б (гісторык прызнаецца) мы
Усе ўчынкі вояў рускіх асвяцілі
У гэты дзень,— і тоўстыя тамы
Ўсяго напісанага б не змясцілі».
Але ў ягоных працах з той гурмы
Канкрэтныя героі не гасцілі.
Назваў сярод праслаўленых імён
Дама, дэ Ліня, Ланжэрона ён.

33 Нам уяўленне, што такое слава,
Цікавы гэты прыклад можа даць.
Не чуў ніхто і краем вуха нават
Пра згаданых preux chevaliers, відаць,
Таму што славу, што не менш цікава,
Згубіць лягчэй намнога, чым прыдбаць.
І прынц дэ Лінь (на справе, а не ў марах)
Свой подзвіг паўтарыў у мемуарах.

34 Несправядліва, што такіх людзей,
Якія дзейнічалі як героі,
Зацягвае ў сябе віхор падзей —
І некалі праслаўленыя воі
Прыгадваюцца ўсё радзей-радзей.
Чытаючы рэляцыі, ніхто і
Пяці імён (трымаць магу пары)
Не ўспомніць. Можа, толькі два ці тры.

35 Якой бы слаўнай ні была атака,
Было і недахопаў шмат у ёй,
Хоць дэ Рыбас (вядомы задзірака)
Хацеў працягваць гераічны бой.
Была нарада бурная, аднак я
Ні слова не скажу аб спрэчцы той.
Інакш не будзеш, мой чытач славуты,
Ты браць рамана гэтага рэдуты.

36 Тады жыў муж... Але ці можна мужам
Яго лічыць, не ведаю, хоць быў,
Як Геркулес, і мужным ён, і дужым
І якасцямі гэтымі зрабіў
Кар'еру ў піку злоснікам дасужым.
Відаць, таму, што многа еў і піў,
Як саранча, ў спустошанай краіне
Ён потым ад нястраўнасці загіне.

37 Пацёмкін гэта. Праявіўшы спрыт
У гулях і ў разні, сябе са славай
Ён парадніў. Ягоны дабрабыт
Быў роўны ёй. З магутнаю паставай
І з ростам веліканa фаварыт
Сваёй імператрыцы маладжавай,
Якая ўмела гэта ўсё цаніць,
Не мог, вядома, штурму адмяніць.

38 Пакуль савет гадаў, якая мера
Быць эфектыўнай можа ў гэты час,
Да князя рускага паслаў кур'ера
Іспанец рускі — адмірал Рыбас.
Ізноў гарматы вывезці на бераг
Рыбасу загадаў той у адказ.
І выкацілі зноў свае марціры
І гаўбіцы на бераг бамбардзіры.

39 З васьмідзесяці жудасных гармат
Па Ізмаіле маскавіты білі,
Ды ўрэшце сталі адступаць назад
На суднах і ўжо ледзь не адступілі,
Калі прыспеў Пацёмкіна загад.
Суворава, якога ўсе любілі,
Бо ён усё разумна вырашаў,
Загад камандуючым прызначаў.

40 Пісаў пісьмо ў катэгарычным тоне
Фельдмаршалу святлейшы князь.У ім
Было менш клопатаў аб абароне
Радзімы, права і свабоды, чым
Аб месцы ўласным пры расійскім троне
І аб мундзіры княжацкім сваім.
Ён загадаў рашуча і сурова:
«Ўзяць трэба Ізмаіл абавязкова!»

41 «Хай будзе светла!» — Бог сказаў — і ў вочы
Яму адразу хлынула святло.
«Хай будзе кроў!» — сказаў хаўруснік ночы —
Свет крывяное мора заліло,
А над зямлёй узнёсся плач сірочы.
Дзень на зямлі пагаспадарыць зло —
І мы гады жывём, бы ў сутарэнні.
Вайна сячэ і суччa, і карэнні.

42 Сустрэлі туркі крыкамі «Ала!»
Настырных маскавітаў адступленне,
Ды памылковай радасць іх была.
Як лёгка часам верыць нецярпенне,
Што перамога ў рэшце рэшт *прыйшла*
(*Здабыта* — лепш, ды гвалтаваць натхненне
Я не люблю)! Хто не цярпеў свіней,
Быў рад за тлушч уласны, карацей.

43 Шаснаццатага рускія зірнулі
Ў стэп і заўважылі двух седакоў,
Што несліся наўскач і шыі гнулі
Да рэзвых украінскіх рысакоў,
Хоць везлі ў багажах па дзве кашулі,—
І палічылі іх за казакоў,
Якія не шкадуюць коням шпораў.
А гэта быў з праваднікам Сувораў.

44 «Які быў фэст у Лондане!» — утораць
Ілюмінацый сведкі, а Джон Буль
Гатоў з-за іх пазбавіцца, гавораць,
Душы і кашалька, бо джын «Буль-буль»
І гулі дурню Булю радасць дораць,
І жыць без іх не можа ён пакуль.
І да ілюмінацыі нябога
Ляціць хутчэй за матылька начнога.

45 Яму праклясці вочы застаецца,
Але Джон Буль і так сляпы зусім.
Багаццем зараз доўг яму здаецца,
Падаткі — шчасцем. Голад перад ім
Стаіць, як той шкілет, а Джон смяецца
Напаўвар'яцкім рогатам сваім
І не дае вачам уласным веры,
Сцвярджаючы, што гэта сын Цэрэры.

46 Зрабіў я адступленне не задарам.
Сувораў, быццам газавы ражок,
Французам, брытам, рускім і татарам
Тым часам бліснуў. Бліснуў як зарок
Бліскучай перамогі. На імшарах
Вось так агеньчык асвятляе змрок
І падарожнікаў уладна цягне
Глухою ноччу апынуцца ў багне.

47 І ў лепшы бок адбыўся паварот.
Паўсюдна панавала ажыўленне,
Бо ўспрынялі як лагер, так і флот
З прыхільнасцю правадыра з'яўленне.
Пашырыўся адразу фронт работ.
І там, і тут вялося аднаўленне
І батарэй, і лесвіц, і фашын,
І іншых *дабрачыннейшых* машын.

48 Людскую дзейнасць у патрэбны бок
Правадыра загады скіравалі,
Як слепака — маленькі сабачок,
Як статак — бык, як моцны вецер — хвалі
І як на шыі барана званок —
Авечак, што пакору захавалі
Ў сваёй крыві. Была спрадвек такой
Улада волатаў над драбнатой.

49 Нібы вяселле ў лагеры ішло!
І гэта не пустое параўнанне:
І там, і тут у перспектыве — зло.
І хлапчукам абозным прадчуванне
Пагромаў і трафеяў надало
Больш храбрасці. Такое ж парыванне
Адчулі ўсе, бо ў армію прыбыў
Малы старэча, што тытанам быў.

50 Не ўмеў нічога ён рабіць памалу —
І штурмавы атрад, каб першы ўдар
Нанесці ворагу, чакаў сігналу.
Другі, што быў павінен у разгар
Змагання ўверх караскацца па валу,
Ужо таксама знемагаў ад мар.
І ў рэшце рэшт яшчэ адзін атрад
З Дуная ўдарыць атрымаў загад.

51 Па тры калоны мелі два атрады,
А трэці — дзве. Сувораў вёў так рэй,
Што ўсе прыйшлі да згоды ў час нарады
І па закладцы новых батарэй.
І вось ужо прывезлі ўсе снарады —
І золак славы заблішчэў ярчэй.
Сувораў бліскаў гэтак жа вачамі
І рэкрутаў вучыў калоць штыкамі.

52 Вучыў з энтузіязмам і з пад'ёмам
Фельдмаршал асабіста, як капрал,
Ударам эфектыўным і прыёмам.
Паказваў, як караскацца на вал,
Як рвы адольваць пад гарматным громам
І як праходзіць праз пякельны шквал,
Каб саламандру нагадаць сабою,
І як жывым, нарэшце, выйсці з бою.

53 Чалмы, крывыя шаблі і кінжалы
Надзеўшы на фашынныя пукі
(А гэта, як вядома, прычындалы
Узброенага турка), на штыкі
Іх паднімаць вучыў фельдмаршал шалы
Няўмелых навабранцаў пад смяшкі.
Ды праявіў ва ўсёй красе свой нораў
І ўзяў з трыумфам Ізмаіл Сувораў.

54 Не верыцца, ды лагер перад боем
Быў апавіты мёртвай цішынёй.
Фельдмаршал энергічным неспакоем
Упэўненасць даў арміі сваёй.
Адзін драмаў, другі аддаўся мроям,
А трэці ў думках размаўляў з сям'ёй.
Ды, паўтараю, не было ні тлуму
Той ноччу ў рускім лагеры, ні шуму.

55 А сам Сувораў гэтаю парой
То назіраў, то аддаваў загады,
То трапным жартам паднімаў настрой,
То неназойліва рабіў парады.
Паўдэман-вернік, паўпрастак-герой —
Ён варты і паэмы, і балады.
Ў залежнасці ад часу ён адзін —
І Марс, і Мом, і нават арлекін.

56 За дзень да прыступу, калі капрала
Нагадваў ён, чародка казакоў
Туды-сюды ля крэпасці гайсала,
Нагадваючы нечым каршакоў,
І між пагоркаў раптам напаткала
Гурму даволі дзіўных хадакоў,
Адзін з якіх па-руску ім прызнаўся,
Што пад сцягамі іх ужо змагаўся.

57 І вось яны ў галоўнай штаб-кватэры.
На кожным — шаравары і халат.
Але іх хрысціянскія манеры
І звычкі іх, што выглядалі з-пад
Усходняй вопраткі, як з-за парцьеры,
Казалі ўсім, што гэта маскарад.
Унутраная вартасць так парою
Хаваецца пад знешнасцю дурною.

58 Сувораў у кашулі быў адной
І з дапамогай лаянкі і крыкаў
Вучыў высакародную разнёй
Займацца неабстрэленых калмыкаў.
Людскую плоць ён параўнаў з зямлёй
І ўсіх не шкадаваць сябе заклікаў,
Бо смерць салдата, як даказваў ён,
Па-філасофску — той жа пенсіён.

59 Ды ўвагу палкаводца прыцягнула
Гурма, якую гналі казакі.
«Адкуль вы?» — запытаў ён. «Са Стамбула
Уцекачы».— «А гэта хто такі?» —
«Вы ж самі бачыце!» — не так прачула,
Як горда адказаў мацак, які,
Відаць, наўмысна так чаканіў фразы,
Бо знаў таго, каму даваў адказы.

60 «Імёны вашы?» — «Джонсан і Жуан.
Ён мой таварыш. З намі дзве жанчыны.
А гэта вось бясполы старыкан.
Ён падабенства ўбогае мужчыны».—
«Вы Джонсан, а ў адзенні мусульман...
А я збярог, між іншым, успаміны
Пра Джонсана — аматара атак...
А вы не з Мікалаеўскага?» — «Так».—

61 «Атакавалі вы Відзін?» — «Але ж».—
«А што затым?» — «Не ведаю нічога».—
«Вы ў горад уварваліся праз брэш
У ліку першых?» — «Там было нас многа».—
«А што пасля?» — «Не помню, хоць зарэж.
Мяне ў палон там узялі самога».—
«Хоць будзе тут цяжэй нам удвайне,
Ды мы за вас адпомсцім. Верце мне.

62 Дзе вы цяпер жадаеце служыць?» —
«Любы загад не палічу прымусам».—
«Вы прагнеце, вядома, адплаціць
Паганцам, бо народжаны не трусам,
А вось, як мне, скажыце, паступіць
Найлепей з гэтым юнаком бязвусым?» —
«Як і жанчыну, веру, генерал,
Ён з ходу возьме непрыступны вал».—

63 «Рабіць прарыў турэцкай абароны
Ваш полк і зараз будзе. Пойдзе з ім
На прыступ заўтра і ваш друг зялёны,
Калі не забаіцца, а затым
З зямлёй зраўнуюць Ізмаіл бароны.
Ён будзе месцам голым і пустым!
Галоўная мячэць таксама ў грудзе
Разбітых камянёў валяцца будзе.

64 Ну што ж, сябры, са славаю наперад!» —
І на «класічнай» рускай мове зноў
Стаў абуджаць ён у калмыкаў верад
Распраў крывавых, славы, грабяжоў.
І ў сплецены ім адмыслова нерат
Траплялі тут жа душы ваяроў.
Свяшчэнную нянавісць да паганцаў
Ён абудзіў у сэрцах нававбранцаў.

65 Згадаўшы генерала тон зычлівы,
Сказаў Сувораву брытанец так:
«Мы ўдзячны, што магчымасць нам далі вы
Памерці заўтра першымі, аднак
Я сам і сябар мой непалахлівы,
Што не збаіцца, думаю, атак,
Хацелі б, ваш-сіяцельства, дазнацца,
Куды канкрэтна нам цяпер падацца».

66 «Аб тым я не падумаў сапраўды.
Полк Мікалаеўскі тут недалёка.
Катскоў! Праводзьце спадара туды,—
З усмешкай генерал прышчурыў вока.—
А гэты іншаземец малады
Пры мне хай застаецца. Хоць глыбока
Я спачуваю ім, але кабет
Адпраўце на падмогу ў лазарэт».

67 Кабетак бурнае рэагаванне
Ён выклікаў распараджэннем злым,
Хаця гарэмнае іх выхаванне
Забараняла абурацца ім.
Як не хацелася патрабаванне
Фельдмаршала выконваць *дзевам* тым!
Яны заплакалі і, бы квактухі
Ў адчаі — крылы, распасцерлі рукі

68 І кінуліся раптам стрымгалоў
Да пары, удастоенай размовы
З вялікім палкаводцам, што гатоў
Быў пачынаць крывавы баль чарговы.
О людзі! Як з-за некалькіх лісткоў,
Уплеценых у ваш вянок лаўровы,
Дашчэнту можна царствы руйнаваць,
Крыві і слёз патокі праліваць?

69 Сувораў не зважаў на кроў і слёзы.
Ён да ўсяго, здавалася, прывык,
Але ў жанчын былі такія позы,
Што ў рэшце рэшт расчуліўся калмык,
Хоць ён здзяйсняў амаль усе пагрозы
І воляю ягонай востры штык
Прынёс ужо нямала бед мільёнам.
Спагада днела на чале ягоным.

70 І ў Джонсана ён мяккім тонам, каб
Не сапсаваць наёмніку настрою,
Спытаў: «Якога чорта гэтых баб
Сюды вы прыцягнулі за сабою?
Гарантаваць і варта не магла б
Бяспеку іхнюю на полі бою.
Каб рызыкі пазбегнуць і пагроз,
Адпраўлю вашых жонак я ў абоз».

71 «Прабачце,— запярэчыў брыт, крануты
Увагаю фельдмаршальскаю,— ды
Яны не нашы жонкі. Я статуты
Не парушаю, бо немалады.
Сваёй сям'і не прынясём пакуты
Ні я, ні ён, хоць не мінём бяды.
Аднак няшчасця здарыцца не можа:
Наш вольны дух паганцаў пераможа!

72 З турчанкамі з палону мы ідзём.
З наглядчыкам сваім дапамагалі
Яны нам уцячы. І заўтра днём,
Каб вы аберагаць іх загадалі,
Мы ўсе пагрозы, веру, абмінём.
Мы шмат нягод з таварышам спазналі,
Яны ж пайшлі на мукі ў першы раз
І, што немалаважна, дзеля нас».

73 І ўсё ж даць рады не змаглі слязам
Знямоглыя, гаротныя дзяўчаты,
Бо ўжо не верылі апекунам.
Бянтэжыў іх і старац дзіўнаваты,
Які не балаваў увагай дам.
Не так разумны, як прастакаваты —
Ён унушаў усім прысутным страх
Не меншы, чым султан ці падзішах.

74 Султан — як Бог. Ён ззяе і цвіце.
Ён важнасцю нагадвае паўліна,
Што носіць дыядэму на хвасце.
Сувораў жа нагадваў арлекіна.
Як моц магла хавацца ў прастаце
Адзетага ў старызну паладзіна,
Відаць, было незразумела тым
Зажураным турчанкам маладым.

75 Джон Джонсан супакоіць іх узяўся,
Але яго заходні этыкет
Усходнім выхаваннем адхіляўся.
Змог супакоіць маладых кабет
Узрушаны Жуан, які пакляўся,
Што пашкадуе генералітэт,
Калі яны не ўбачаць іх да ночы.
І высахлі заплаканыя вочы!

76 Дае надзея сілы чалавеку!
Пацалаваўшыся, яны пайшлі.
Нагадваючы нечым іпатэку,
З'яўляецца прынадай для душы
Непрадказальнасць вынікаў спрадвеку.
І сталі ўзбройвацца таварышы
Палонніц маладых, каб знішчыць горад,
Які ім не прынёс ні зла, ні гора.

77 Сувораў быў не тактык, а стратэг.
Ён не звяртаў увагі на дэталі.
Яго ні слёзы, ні вар'яцкі смех,
Ні гібель арміі не засмучалі,
Як лёс Іова — родзічаў. За грэх
Ён не лічыў, што гарады знішчалі
Яго палкі дашчэнту без прычын.
Ці ж мог стратэг пашкадаваць жанчын?

78 Вядома — не, бо рухаліся справы
Ўжо да бамбардзіроўкі, што магла
Стаць уверцюрай аглушальнай славы!
Каб артылерыя ў той час была,
То быў бы бой за Трою больш крывавы.
Гамера ў шок смерць Гектара ўвяла.
Штыкі, рэдуты, ядры і марціры
Співаць маёй перашкаджаюць ліры.

79 Гамер бяссмертны! Цешацца табою
І з доўгімі вушамі ўладары.
Бяруць з табою людзі ў рукі зброю,
Якою еўрапейскія двары
Свабоду хочуць зруйнаваць, як Трою.
Ім варта зразумець, што пушкары
І порах гэтага зрабіць не ў стане:
Яна, непераможная, паўстане!

80 Да прыступу я прыступлю цяпер.
У сто разоў жахлівей ад аблогі,
Якую ты намаляваў, Гамер,
Ён будзе. І таму я дапамогі
Прашу ў цябе. Спаборнічаць, павер,
Я не магу з табой, настаўнік строгі.
Ты — акіян, а я — малы ручай,
Ды што разні датычыць, выбачай,

81 То мы не ўступім старажытным катам.
Я прывяду шмат фактаў (а яны,
Вядома кожнаму,— dicederatum),
Але не ўсе, бо творца (і буйны!)
Жыццём прымушаны быць дыпламатам.
Героі штурму крапасной сцяны!
Вы славай зможаце ўлагодзіць Феба —
І ён у чырвань пафарбуе неба.

82 О слаўныя дэпешы Банапарта!
О спісы некароткія ахвяр!
О Леанід, кім ганарыцца Спарта,
Бо ты, вялікі воін і змагар,
Свой родны край абараняў упарта!
О Цэзараў славуты «Каментар»!
Пазычце мне хоць частку вашай славы
І выведзіце з цемры да святла вы.

83 Усё цямней імёнаў вашых бліскі,
Не грэюць вашай славы прамяні
Сягоння моладзь, бо цяпер калыскі
Вырошчваюць герояў дзень пры дні.
Ім лашчаць слых захопленыя піскі,
На плошчах ставяць іх на камяні.
Яны, аднак, у параўнанні з вамі
З'яўляюцца не больш як мяснікамі.

84 З наступнікамі спраў Напалеона
Зжыліся стужкі, медалі, чыны
Так, як з распусніцаю з Вавілона —
Пурпурная парфіра. Галуны
Шануе паж, як веер — прымадонна.
Швейцар, які з лампасамі штаны
Надзеў, сабе быць важным дазваляе,
Бо што такое слава — не ўяўляе.

85 Вядома добра парасяці гэта,
Што нюхае паветра і імчыць
Хутчэй ад каравелы і карвета
Па полі — і ад радасці вішчыць.
Ды муза тузае між тым паэта
І просіць гэту песню завяршыць.
Палохаючы нацыі, гарматы
У восьмай песні грымнуць, як набаты.

86 Вы бачыце, як уначы калоны
Абходзяць сцены горада, які
Сырым, густым туманам заімглёны,
Сціх насцярожана каля ракі;
Як над абсягам мокрай абалоны
Міргаюць рэдкіх зорак светлякі?
Пякельны дым над рвамі і над валам
Павісне хутка змрочным пакрывалам.

87 Я прыпынюся на адно імгненне
Пад асцярожны тупат цёмных мас,
Што пойдуць праз хвіліну ў наступленне
І будуць дыхаць у апошні раз.
У гучнае кашмарнае гудзенне
Сальюцца выгукі дзвюх вер і рас.
Заглушаць стогны ўсе і ўсе малітвы
«Ура!», «Ала!» і грукат страшнай бітвы.

## ПЕСНЯ ВОСЬМАЯ

1 Дзе гром і кроў і там, дзе смерць і раны,
Нязвыкла быць вам, пэўна, чытачы.
І тым не менш крывавы шлях абраны
Да славы большасцю людзей, лічы,

А мне ён музаю наканаваны —
Пайду і я на прыступуначы.
Вайну ўпрыгожыць не змаглі імёны
Ні доблеснага Марса, ні Белоны.

2 Да штурму рускія былі гатовы!
Іх доўгі строй нагадваў нечым льва,
Што, мышцамі іграючы, на ловы
Пусціўся раніцою з логава.
Як гідра жудасная, шматгаловы
Быў гэты леў. Як толькі галава
Якая-небудзь з плеч яго злятала —
На месцы тым другая вырастала.

3 Гісторыя на ўсё глядзіць звысоку,
А мы зірнём на ход падзей знутры,
Каб зразумець, ці многа маюць клёку,
Льючы людскую кроў, валадары;
Ці варта за якуюсьці валоку
Прыносіць д'яблу гэткія дары.
Лепш асушыць адну слязу, чым мора
Крыві праліць і ў свет прынесці гора.

4 Таму што натуральнай асалоды,
Хоць шмат прывабнасці ў яго красе
(Высокія чыны, узнагароды),
Нам ратнай славы бляск не прынясе.
Тым болей што збяднелыя народы
Аплачваюць узнагароды ўсе.
Вайна не за свабоду і геройствы
У час яе — звычайныя забойствы.

5 За славаю ваеннай наўздагон
Ляцяць праклёны страшныя заўсёды.
Святыя — Леанід і Вашынгтон!
Яны змагаліся ў імя свабоды
Сваіх народаў — і вакол імён
Іх ззяюць арэолы. Ваяводы-
Захопнікі і перамогі іх
Хвалююць сэрцы нелюдзяў пустых.

6 Ноч цёмная была. Смугой густой
Агонь гарматных стрэлаў спавіваўся
І змрочнаю дунайскаю вадой,

Нібыта люстрам пекла, адбіваўся.
У параўнанні з кананадай той
Гром не такім бы жудасным здаваўся.
Ніколі навальніца сапраўды
Нам не прыносіла такой бяды.

7 Калі сто крокаў штурмавы атрад
Прабег ужо ў напрамку Ізмаіла,
Праціўнік люты выскачыў з засад —
І пад нагамі рускіх захадзіла
Зямля, спавітая ў смурод і чад.
Агнямі страляніна падпаліла
Ваду, паветра, глебу, як вулкан,
У чэраве якога чхаў тытан.

8 Ляцеў насустрач рускаму атраду,
Як выклік, аглушальны крык «Ала!»
І заглушаў сабою кананаду,
Якая не змаўкаючы гула
І спераду штурмавікоў, і ззаду.
Тым крыкам сатрасалася імгла.
Над бастыёнамі і равелінам
Яна вісела шэрым балдахінам.

9 Усе гарматы, шаблі і штыкі
Раз'юшана ўзяліся за работу,
Ды смельчакоў, што ў наступ ад ракі
Ішлі, валілі кулі, як лістоту,
Хоць падначальваліся смельчакі
Арсеньеву — герою-патрыёту.
Для Вордсварта «дачка нябёс» вайна.
І сапраўды «свяшчэнная» яна.

10 Дэ Лінь паранены ў калена быў,
А ў Рышэлье, які флегітымістам
Прыпадабняцца нездарма любіў,
Не закрануўшы лба, свінец са свістам
Капелюша верх навылёт прабіў —
І на зямлю граф не зваліўся лістам.
«Прах — праху!» — некалі сказаў мудрэц,
А я дадаў бы: «А свінцу — свінец!»

11 А ў генерала Маркава, што даў
Загад прыбраць дэ Ліня з поля бою

(Хоць шмат хто, акрамя яго, стагнаў,
Крычаў, уздрыгваў, курчыўся ад болю,
Прасіў вады, маліўся і канаў,
Ды быў не прынцам, а ўяўляў сабою
Салдата простага), ушчэнт бядро
Разбіла мусульманскае ядро.

12 Выплёўвалі гарматы ядры. Кулі
З мушкетаў сыпаліся, быццам град.
О людзі! Вы не раз расказы чулі,
Як шмат прыносяць чалавечых страт
Хваробы, бедствы, голад. А пілюлі
Свінцовыя страшнейшыя нашмат!
І найжахлівая бяда малою
Здаецца ў параўнанні з полем бою.

13 Хоць устарэлі і мячы, і дзіды,
Убачыць наша вока можа тут
У колькасці такой вялікай віды
Калецтваў, пакаранняў і пакут,
Што ў ім ні спачування, ні агіды
Яны не выклічуць. І Страшны суд
Такім, напэўна, жудасным не будзе.
Хто выжыве — тым стужачка на грудзі.

14 І тым не менш мы ўсё-ткі любім славу!
Прыемна жыць за кошт гасудара!
Зямныя думкі гэтыя па праву
Прыходзяць да любога ваяра.
А як прыемна трапіць у актаву
Або ў санет паэта-песняра!
І гэта дзве галоўныя прычыны,
Што робяцца забойцамі мужчыны.

15 Хоць бітва не агляд і не парад,
Спакойна, не зважаючы на кулі,
Уступіў у бой дэсантнікаў атрад.
Дэсантнікі другія сiганулі
Крыху ніжэй праз роў і палісад
Хутчэй, чым дзеці да грудзей матулі.
Былі павінны як мага скарэй
Яны спыніць агонь дзвюх батарэй.

16 Іх подзвіг увянчаны вечнай славай!
Калі б начынсны Везувій быў
Адначасова ядрамі і лавай,
Такога б спусташэння не зрабіў.
Трэць афіцэраў той каманды бравай
Злы і каварны вораг перабіў,
Што не спрыяла развіццю атакі:
Без паляўнічага нішто сабакі.

17 І мой Жуан — няўрымслівы і ўпарты —
Рашуча кінуўся таксама ў бой,
А бой сапраўдны — гэта вам не жарты!
Было ўцалець няпроста ў звалцы той.
З пяцідзесяці тысяч шмат хто варты
Элегіі ці оды як герой,
Але займацца гэтым я не стану,
Бо шкодзіць не хачу свайму раману.

18 Хай у старых запыленых газетах
Шукае састарэлы імярэк
Імёны слаўныя герояў гэтых,
Што з плоццю развіталіся навек
У рвах, у голым полі і ў барбетах,
Калі імёны мёртвых і калек
Дэпешы не сказілі выпадкова
І Гроза не перахрысцілі ў Грова.

19 Гарачы Дон-Жуан і Джонсан мажны
У першай са штурмуючых калон
Вялі з паганцамі бой рукапашны,
Не баючыся трапіць у палон
І быць забітымі. Як вой бясстрашны,
Страляў і фехтаваў спацелы дон.
І занясення ў рапарт пераможны
З іх заслугоўваў, безумоўна, кожны.

20 Да крэпасці з праломленым вуглом
Яны ішлі па скрывянелых целах,
Але штокрок спыняліся агнём
Бесперапынным туркаў азвярэлых,
Нібыта пекла вогненным дажджом
Над ківерамі валанцёраў смелых
Было разліта,— і яны назад
Ішлі па целах раненых салдат.

21 Быў для Жуана гэта першы бой.
Хаця і не пад аркай трыумфальнай,
А пад ружжом у цемрадзі сырой
Ноч ён правёў, дон з мужнасцю пахвальнай
Адолеў баязлівасць і з сабой,
Хоць навалаччу жудаснай, крухмальнай
Было пакрыта неба, саўладаў.
Іспанец драла ад падзей не даў,

22 Як Фрыдрых той, што, быццам бумеранг,
Знік і вярнуўся ў поле пры Мольвітцы;
Як паляўнічы сокал; як мустанг,
Што стаў стаеннікам; як маладзіцы,
Мы, людзі, б'ёмся за набыты ранг,
За пенсіён, за банцік у пятліцы.
Крывавыя пабоішчы людзей —
Як бойкі злых, бязлітасных чарцей.

23 Напоўнены быў малады ваяр
*Эсенцыяй юнацтва*, як удала
Сказаў калісьці Эрын. (Антыквар
Сцвярджае, што на мове Ганібала
Пісаў і гаварыў ён, а буквар,
Які Дзідона некалі стварала,
Нагадвае ірландскія.) Аднак
Ірландцам думаць непрыстойна так.

24 Быў гэта дух узбуджаны, дзіця
Паэзіі высокай, адмысловай.
Ён плаваў у бурунах пачуцця,
А больш дакладна — ў плыні пачуццёвай,
Хоць біцца ўмеў да самазабыцця
Ў кампаніі вясёлай і бядовай,
Што радасць адчувае ў час аблог
І не звяртае ўвагі на спалох.

25 Ён і кахаў, і ваяваў з няверамі,
Не баючыся трапіць у канфуз,
Жартуючы, *з чысцейшымі намерамі*,
Хоць выраз гэты — як казырны туз
Для прастытутак і для лордаў з пэрамі.
Чысцейшыя намеры — гэта друз,
Якім, на жаль, брукуецца дарога,
Якая ў пекла нас вядзе ад Бога.

26 Калі дарога ў пекла існуе
(Мне думка ў галаву прыйшла такая),
То ў час апошні спляжыла яе
Нябожчыкаў драпежніцкая зграя,
Якой намераў добрых нестае,
І выглядае тая маставая,
Напэўна, як славутая Пэль-Мэль,
Дзе што ні крок — смярдзючы бруд і прэль.

27 Жуан пайшоў на штурм даволі смела,
Ды малады прыгожы паладзін,
Як жонка юная, што аўдавела
Ці мужа кінула (такіх жанчын
Заўсёды шмат на свеце, зразумела),
Застаўся ў рэшце рэшт зусім адзін
У выніку гарачай страляніны
І зноў збянтэжыўся на паўхвіліны.

28 Таму, напэўна, гэта адбылося,
Што многія заснулі вечным сном,
Як толькі наступленне пачалося,
А іншыя крутнуліся *кругом*.
І Цэзару аднойчы давялося
Спыняць уцекачоў сваім шчытом,
Каб армію вярнуць на поле бою,
Ахопленую панікай сляпою.

29 Не меў шчыта іспанец, і прытым
Дон не магутным Цэзарам здаваўся
У гэты час, а хлопцам маладым,
Які не ведаў, за каго змагаўся.
На момант ён спыніўся, а затым,
Як той асёл... (Я доўга не вагаўся,
Эпітэт падбіраючы цяпер:
З аслом Аякса параўнаў Гамер.)

30 Нагадваючы ўпартага асла,
Не азірнуўшыся (што вельмі дзіўна),
Дон кінуўся наперад, дзе імгла,
Што ўдзельнічала ў бітве той актыўна,
Успышкамі азорана была.
Іспанец малады лічыў наіўна,
Што ён атраду можа памагчы,
Які ўжо ўвесь быў знішчаны, лічы.

31 Кудысьці знік і камандзір калоны,
Якую вораг сцёр з чала зямлі...
(Суровыя ваенныя каноны
Наёмнікам парушаны былі,
Бо прагнуў славы валанцёр зялёны
І апярэдзіў сябрукоў, калі
На золку з імі кінуўся ў атаку.
Ён прамяняў іх жыцці на табаку.)

32 Жуан адзін застаўся, гэткім чынам.
Як спадкаемец той, што сіратой
Застаўся, не зрабіўшыся мужчынам;
Як пілігрым, што ўбачыў над дрыгвой
Блукаючы агеньчык,— жыў адзіным
Жаданнем дзёрзкі малады герой:
Наперад рынуцца, крышыць і біць —
І славу гучную сабе здабыць!

33 З-за ўдушлівага дыму і смугі
Не бачыў Дон-Жуан амаль нічога.
Маланкі ў жылах гойсалі, мазгі
Ад жахаў пухлі. Дона ж маладога
Туды, дзе ярка бліскалі агні
І стрэлы чуліся, вяла дарога,
Дзе вынаходніцтвам гуманным страх
Наводзіў Бэкан — кемлівы манах.

34 Да купкі смельчакоў, што засталася
На гэтую хвіліну ад другой
Калоны генерал-маёра Ласі,
У рэшце рэшт прыбіўся мой герой
І, як яны, пачаў абстрэльваць гласіс.
Экстрактам гераізму ў момант той
Быў іх атрад. Мне ж выняткі з рамана
Гвардзейцы нагадалі нечакана.

35 І Джонсан-брыт, што *здзейсніў адступленне*
(Пра ўцекачоў звычайна кажуць так),
З'явіўся там у гэтае ж імгненне.
Быў сябар Дон-Жуана не прастак —
І хітрасцю ваеннаю знікненне
Сваё назваў усмешлівы мацак.
Калі Жуан у бой ішоў бяздумна,
То хітры Джонсан ваяваў разумна.

36 Калі атрад іх парадзеў істотна,
Убачыўшы, што толькі Дон-Жуан
Без боязі і па-юначы цнотна
Штурмуе бастыёны мусульман,
На гарт спадзеючыся бесклапотна,
Разважлівы, як большасць англічан,
З *даліны смерці* Джонсан збег паціху.
Збег, каб не даць раскашавацца ліху.

37 Хаваўся Джонсан у адным з кюветаў
Час некаторы ад пляўкоў гармат
І куль, што вылятлі з дул мушкетаў
І сыпаліся, як пякельны град,
З валоў, дамоў, засад і парапетаў
На хрысціянскіх егераў-салдат,
Якіх палохалі не без прычыны
Ашчэры злыя д'ябальскай дзічыны.

38 Паклікаў брыт гурт егераў такіх —
І ўміг яны з крывавага пагоста
(У піку *духам бездані*, якіх
Звычайна трэба, як сцвярджае Готспар,
Падоўгу выклікаць з глыбінь марскіх)
З'явіліся, што растлумачыць проста:
Святыя пастары і важакі,
Як статку, нам патрэбны ў час цяжкі.

39 Юпітэрам клянуся! Надзяліла
Прырода брыта ўсім, каб звацца ён
Мог братам ці Аякса, ці Ахіла,
Хоць меў мацак не лепшае з імён.
Быць дазвалялі спрыт, развага, сіла
Яму ў баі спакойным, як мусон.
Разгубленасць і ворагаў удары
Не адбіваліся ў яго на твары.

40 Калі ўцякаць прымусілі варункі,
Брыт разумеў, што шмат герояў ёсць,
Якія не жадаюць, каб іх шлункі
Так, як атрута, раз'ядала млосць.
Каб перавесці дух, усе стасункі
Са смерцю той, якую сее злосць,
Ён прыпыніў, хоць не баяўся скону,
І ў гурт сабраў разбітую калону.

41 Вярнуў гвардзейцаў зух немітуслівы,
Як Гамлет гаварыў, на той парог,
Дзе пачынаўся шлях такі жахлівы,
Што брыт адзін прайсці яго не змог
І нестрыманай смеласці парывы
Ў іх абудзіў, як гальванічны ток,
Што рухацца нябожчыкаў змушае,
Хаця памерлых і не ўваскрашае.

42 І трапілі героі ў раз другі
Туды, дзе страшна ўсё было настолькі,
Што доўгу і прысягі ланцугі
Парваць не пабаяўся Джонсан стойкі,
Бо ён усе пякельныя кругі
Прайшоў і не зважаў на крыватолкі.
Сустрэлі зноў няпрошаных гасцей
Агнём жахлівым туркі, карацей.

43 Валіў агонь салдат, як ніву — град,
Каса — траву, як серп жняі — сцяблінь,
Даказваючы, што жыццё салдат
Па крохкасці — ёсць падабенства шкліны.
Нібы цапы ці кулакі, ў салат
Снарады за якіясьці хвіліны
Ператварылі ледзь не ўсіх стралкоў,
Якія нават не ўзвялі куркоў.

44 З-за траверсаў і фланкаў бастыёнаў
Вялі агонь іх ворагі тады.
Як вецер — пену з хваль у дні цыклонаў,
Агонь той здзьмухваў цэлыя рады
Расійскіх парадзелых батальёнаў,
Ды лёс, што любіць нішчыць гарады,
Памог, каб купка вояў асядлала
Усё ж хрыбціну гарадскога вала.

45 Спачатку двое ўзлезлі на яго,
Затым — шасцёра, потым — тузін цэлы.
Таго, хто ўзлез на вал, як і таго,
Хто ў гэты момант быў не надта смелы
І не мяняў становішча свайго,
Бы каўчуком гарачым, азвярэлы
Асман агнём суцэльным паліваў
І крэпасці няверным не здаваў.

46 І ўсё адно былі бясконца рады
Усе, хто ўзлез на гэты вал, калі
Убачылі там раптам палісады,
Якія грэкі з туркамі ўзвялі.
Ніколі Францыя і Нідэрланды
Зрабіць такога глупства не маглі.
Вядома, Ізмаіл скласці пару
Дастойную не мог і Гібралтару.

47 Вал гарадскі ўяўляў у Ізмаіле
Не высачэзны бруствер, а бульвар —
І даць адпор не змог варожай сіле
Асманскі Ізмаіл, як Гібралтар,
Бо ваяры, што лезлі ўверх па схіле,
Змаглі сабрацца і нанесці ўдар,
Перакуліўшы палісады тыя.
На радасць ім — яны былі малыя.

48 У ліку першых быў... Я не хачу
Сцвярджаць, што быў ён першым менавіта,
Каб не нанесці траўмы чытачу,
Які ўспрымае надта хваравіта
Пытанні першынства, як я лічу,
І пачынае лаяцца, нібыта
Джон Буль, калі пачуе раптам ён,
Што ля Ватэрлоо не Велінгтон,

49 А прусы выйгралі; што Гнейзенау,
Бюлоў і Блюхер (як вядома, шмат
Было герояў там на *оў* і *ау*)
Унеслі ў перамогу важкі ўклад.
Каб на французаў не нагналі страху
Тады яны, то Велінгтон наўрад
Свае загады раздаваў бы сёння
І забяспечваўся б так пенсіённа.

50 Хай беражэ Гасподзь вас, каралі!
Займацца гэтым людзі не жадаюць,
Бо нават конь брыкаецца, калі
Яму, цярпліўцу, раптам пачынаюць
Надакучаць занадта шанкялі.
Народы пастулова вырастаюць —
І менее на свеце дзівакоў,
Чый ідэал дасюль яшчэ — Іоў.

51 Спярша натоўп на долю наракае,
А потым, як біблейскі цар Давід,
У велікана камень запускае
І ўрэшце выйсце з дапамогай дзід,
Сякер, мушкетаў і гармат шукае,
Хоць гэта самы наймярзотны від
Канфліктаў грамадзянскіх, без сумнення,
Аднак ён лепшы сродак ад гніення.

52 Дык вось... Усё ж на сцены Ізмаіла
Ўзабраўся ў ліку першых Дон-Жуан,
Нібыта юнака жыццё ўзрасціла
Браць штурмам бастыёны мусульман,
І прага славы, што яго натхніла,
Іспанца берагла, як талісман.
А быў і тварам, і душой хлапчына
Прыгожы і пяшчотны, як дзяўчына.

53 Жуан з маленства трапіў у ласо
Рук прыгажунь і на грудзях жанчыны
Жыццё правесці быў гатоў усё.
Яго б кумірам лепшай палавіны
Людскога роду мог лічыць Русо,
Бо без абдымкаў страсных ні хвіліны
Не мог пражыць каханак малады
І вырываўся толькі з іх тады,

54 Калі яны прынесці асалоды
Ўжо не маглі яму або калі
Яму чынілі людзі перашкоды
І буры лёсу, што над ім гулі.
І вось хлапца, што сэрцам жыў заўсёды,
Агню даўгія рукі абнялі.
Бы конь прышпораны, Жуан рвануўся
І ў самым цэнтры пекла апынуўся.

55 Нібы на скачках у таго жакея,
Які разгарачыўся не на жарт,
Бо ім яшчэ не згублена надзея
Стаць пераможцам, праявіўшы гарт,
Кіпела кроў Жуана — ліхадзея
Па неабходнасці. Праз кожны ярд
Дон рассякаў камусьці грудзі, сцёгны,
Хаця не мог спакойна слухаць стогны.

56 І ў Ласі, баявога генерала,
Якога ледзьве не ўзялі ў палон
Няверныя, лягчэй на сэрцы стала,
Калі падмацаванне ўбачыў ён.
Жуану ўдзячнасць шчырую з запалам
Ён выказаў, прычым ягоны тон
Засведчыў, што за немца-двараніна
Прыняў ён маладога паладзіна.

57 Загаварыў ён па-нямецку з донам —
І той не разумеў яго таму.
Пачцівейшым, але нямым паклонам
Іспанец юны адказаў яму.
Што гэты генерал прыгрэты тронам,
Было адразу бачна па ўсяму —
Па зорах, стужках, медалях і шпазе,
Што гаварылі аб яго адвазе.

58 На жаль, іспанец юны, як назло,
Горш размаўляў на алеманскай мове,
Чым на санскрыце, і таму было
Не суджана адбыцца іх размове,
Тым болей што перапыніць магло
Яе ядро любое на паўслове
Так, як і ўскрыкі дзікія салдат,
Якія аглушалі, як набат.

59 Працягваўся хвіліну акурат
Той эпізод, які я ў дзве актавы
Ледзь умясціў, а колькі бед і страт
За гэты час прынёс пагром крывавы,
Што шумам заглушаў пальбу гармат.
(І ўсё, вядома, дзеля нечай славы!)
Як песню канаплянкі, так і гром
Умомант заглушыў бы той пагром.

60 Пранік атрад за сцены крапасныя...
«Бог дол стварыў, а людзі — гарады»,—
Сцвярджае Каўпер. Высі незямныя!
Чаму ж былі разбураны тады
Рым з Карфагенам, з Цірам Ніневія
І Вавілон? Магчыма, праз гады
Ўсе гарады зруйнуем мы, а самі
Зноў зробімся ляснымі жыхарамі.

61 Я думаю, з вядомых ваявод,
Што пад сцягамі Марса і Нептуна
Знішчалі ў войнах чалавечы род,
За выключэннем Сулы, з кім Фартуна
Да скону сябравала, больш ільгот
Ніхто не меў за Генерала Буна:
Усё жыццё найлепшы з ваяроў
Каля Кентукі забіваў звяроў.

62 Ён быў адметны смеласцю і спрытам.
Ні разу ў непрыгляднае жытло,
Узведзенае ў лесе следапытам,
Зло так, як і хваробы, не зайшло.
На зайздрасць гараджанам хваравітым,
Чые вантробы раз'ядае зло,
Немітуслівa, дабрачынна, проста
Жыў зверабой гадоў да дзевяноста.

63 А самае галоўнае, што ён
Пакінуў добрае імя, бо ў міры
Бун жыў з усімі да апошніх дзён.
Яму не падабаліся куміры,
Што знішчылі шмат нацый і плямён
І чый трыумф — як галасы валькірый.
Бун — злосці антыпод. І як дзіцё
Прыроды ён пражыў сваё жыццё.

64 Ён пазбягаў сваіх суграмадзян.
Калі хто-небудзь стан яго знаходзіў
І побач з Бунам будаваў будан,
То следапыт з жытла свайго сыходзіў
Ажно за сотні міль і новы стан
У неабжытай глухамані ўзводзіў.
І ўсё ж асоб асобных ён любіў,
Хоць нелюдзімы і зацяты быў.

65 Пустым пустэльніка таго жытло
Ніколі не было. Дзяцей прыроды
У ім пакаленне цэлае расло.
Ні меч, ні сум ім не чынілі шкоды —
І вочы іх праменілі святло.
З маленства выхаванцамі свабоды
І светлых рос былі яны, нібы
Лясныя ручаі або дубы.

66 Яны раслі ўсе, гледзячы на лес,
Пад пошум дрэў і птушак шчэбет боскі.
З іх кожны быў сапраўдны Геркулес
Тады, як хлюпікі і неданоскі
Жывуць у гарадах вялікіх спрэс,
А моднае адзенне і прычоскі
Ператвараюць паступова іх
У папугаяў ці макак дурных.

67 Яны не сумавалі без прычыны,
Ніякіх не баяліся работ.
Для вырашэння спрэчак карабіны
Ні ў якім разе не пускалі ў ход
Іх мудрыя, спакойныя мужчыны.
Распусты джала, роскашы прыгнёт,
Што ў неспакойным свеце панавалі,
Цнатлівых іхніх душ не сапсавалі.

68 Ды хопіць, пэўна, пра дзяцей прыроды!
Вяртаюся да льгот цывілізацыі.
Шматлікія ахвяры і нягоды,
Што абяцалі росквіт рускай нацыі;
Уладароў любоўныя прыгоды,
І палкаводцаў спешныя рэляцыі,
І іншыя цікавейшыя тэмы
Чакаюць чытачоў маёй паэмы.

69 Асманам доля выпала цяжкая.
Ператвараўся горад іх у прах.
Адна калона, а затым другая
Праклалі ў Ізмаіл крывавы шлях.
Не перашкодзілі імгла густая
І серны дым гвардзейцам на штыках
Усё ж прынесці дзякуючы Богу
Імператрыцы рускай перамогу.

70 І ўсё ж яшчэ гвардзейцаў вораг тузаў,
Даваў адпор настырным ваярам.
Нястомны, смелы жартаўнік Кутузаў,
Што потым (дзякуючы маразам)
Усё-ткі змусіў спешчаных французаў
З Масквы ўцякаць, на гэты раз быў сам
Разгублены і нават жалю варты.
Не памаглі яму ў той дзень і жарты.

71 Калі адольваў ён глыбокі роў
З калонаю бясстрашных грэнадзёраў,
Якім сваю пульсуючую кроў
Змяшаць з гразюкай давялося скора,
Карцечы град на смелых ваяроў
Абрынуў люты і каварны вораг,
Што выскаляўся, як загнаны звер.
Якраз тады загінуў Рыбап'ер.

72 Загінуць вельмі проста на вайне.
Калі б атрад, які па незнаёмай
Мясцовасці блукаў, нібыта ў сне,
Усё ж да калоны, вам ужо знаёмай,
Неспадзявана на падмогу не
Прыйшоў тым ранкам а гадзіне сёмай,
Хутчэй за ўсё, што і Кутузаў сам
Ляжаць застаўся б гэтаксама там.

73 Нягледзячы на холад ледзяны,
Салдатамі аблуднай гэтай роты
Адолены быў насып земляны
І знесены Кілійскія вароты.
Дапамаглі Кутузаву яны
Тым самым вырвацца з крывавай слоты,
Хоць у яго гвардзейцаў на шчаках
Ужо разліўся белай фарбай страх.

74 Казáкі ж, а магчыма — казакí
(Мне зараз не да правіл арфаграфіі.
Не папракнулі б толькі знатакі
Ваеннай тактыкі і геаграфіі)
Усе былі пасечаны ў кускі.
На штурм, не ведаючы тапаграфіі,
Упершыню яны ішлі пяшком
Той змрочнай раніцай, а не вярхом.

75 Казакі, што на вал змаглі ўзабрацца,
Ужо збіраліся пачаць грабеж
Кварталаў гарадскіх, каб расквітацца
Дарэшты з басурманамі, але ж
Празорцы нават могуць памыляцца.
Казакаў туркі заманілі ў брэш
І з хрысціянамі-жартаўнікамі
Даволі жорстка абышліся самі.

76 Са злосцю лютай спераду і ззаду
Іх басурман і рэзаў, і калоў.
У выніку каварнага нападу
Загінула калона казакоў,
Не здрадзіўшых ні клятве, ні загаду,
Каб з батальёнам Полацкім прайшоў
Палкоўнік Іесуцкі па іх целах
І перабіў асманаў звар'яцелых.

77 На жаль, забіты быў і сам смяльчак.
Сканалых туркаў не паспеў ён з'есці.
Валы былі адолены, аднак,
Што гэта можа поспех ім прынесці,
Сказаць не мог яшчэ ніхто з рубак,
Якія на валы паспелі ўзлезці.
Удар наносіўся ў адказ на ўдар —
І кожны міг прыносіў шмат ахвяр.

78 Быў лёс не лепшы і ў другой калоны...
Каб ні аб чым пасля не шкадаваць,
Салдатам, што штурмуюць бастыёны,
Павінны камандзіры выдаваць
Усё ж у меншай колькасці патроны,
Каб іх не падмывала адкрываць
Стральбу, калі лепш дзейнічаць штыкамі.
Гісторыкі! Я згодны ў гэтым з вамі!

79 Атрад Мекнопа (зрэшты, камандзір
Ужо даўно забіты быў) злучыўся
Нарэшце з тымі, хто ў крывавы вір
Нырнуў у ліку першых і злаўчыўся
Умацаванне ўзяць, дзе сераскір,
Які бясстрашным воінам лічыўся,
Засеў і бараніў з апошніх сіл
Засмужаны і дымны Ізмаіл.

80 Жуан і Джонсан у парыве шчырым
Прапанавалі воіну таму
Здаць пісталет і бой закончыць мірам,
Ды прапанова слушная яму
Не спадабалася, бо сераскірам
Рабіць так нельга, і на дол таму
Ўпаў афіцэр англійскі нечакана,
Які ў палон хацеў узяць асмана.

81 Ён атрымаў, зрабіўшы рух няўдалы,
У грудзі кулю — і навекі сціх.
Пусцілі ў ход сталь і свінец (металы
Каштоўнейшыя ў выпадках такіх)
Гвардзейцы, як сапраўдныя вандалы,
І мусульман (было прыблізна іх
Тры тысячы) зрабілі мерцвякамі.
Заколаты шаснаццаццю штыкамі

82 Быў сераскір. Ды горад не здаваўся.
І не было ў ім вулкі ні адной,
Дзе дэман зла крывёю б не ўпіваўся.
Спакон вякоў ён сябраваў з вайной
І ўрэшце да таго дасябраваўся,
Што стаў, па сутнасці, яе раднёй,
Бо іх, як сонца — глейкі бераг Ніла,
Пачварнейшая жорсткасць апладніла.

83 Як турка капітан ні скідваў з пяткі,
Укушанай асманам, бы змяёй,
Якой сапсуты Евіны нашчадкі;
Як ні крычаў і ні сцякаў крывёй,—
Ён вызваліць не здолеў з мёртвай хваткі
Зубоў учэпістых нагі сваёй.
А ўкушаны быў рускі афіцэр,
Калі ён бег па грудзе цёплых цел.

84 У капітана гэтага была
Зубамі сціснута сухая жыла,
Якую муза, што спакон жыла
У нашых душах, некалі хрысціла
І ёй — наўздзіў дасціпная! — дала
Імя высакароднае Ахіла.
Сціскаў яе асман і нежывы
Зубамі ўжо адцятай галавы.

85 Мо гэта выдумка, але бясспрэчна
(Запомніць гэта і павінны вы),
Што стаў кульгавым афіцэр навечна.
Не дапамог і лекар палкавы,
Якога вінаваціць недарэчна,
Хоць да ягонай беднай галавы
Было прэтэнзій больш у капітана,
Чым да адцятай галавы асмана.

86 Спакон вякоў факт фактам застаецца!
І гэта ёсць галоўны прынцып мой,
Бо толькі ён мне правільным здаецца.
Не маюць права злоўжываць маной,
Што паэтычным вымыслам завецца,
І сумнай празаічнай балбатнёй
Паэты існыя. Жыць без маны
Не могуць толькі слугі сатаны.

87 Аднак узяты горад не здаваўся!
Ручай крыві цёк у другі ручай
І па зямлі пакутнай разліваўся,
Як за сцяною крапаснай — Дунай.
І ўсё адно яшчэ не адбіваўся
У мусульманскіх позірках адчай —
І стогну кожнаму ў турэцкім стане
Уторылі стагнаннем расіяне.

88 Як вецер — пажаўцелае лісцё,
Яшчэ штыкі і шаблі абрывалі
Паўсюдна чалавечае жыццё —
І вуліцы, як голы гай, стагналі.
Найлепшыя іх дзеці ў небыццё
У гэтыя хвіліны адляталі.
Паў зруйнаваны Ізмаіл, аднак,
Як бураю зламаны дуб-крапак.

89 Жахлівым захапіўся я сюжэтам
(Кроў, стогны, стрэлы — у маіх радках)
Тады, як тэмаю любой паэтам
Стамляць паклоннікаў — таксама жах.
Мой творчы метад вінаваты ў гэтым.
Я ўзненавідзеў бы сябе і счах,
Каб некалі спрацiў сваю задачу
І свет не маляваў такім, як бачу.

90 Сярод нягод расказ аб добрай дзеі,
Я спадзяюся, зможа *асвяжыць*
*Уражанні* (так кажуць фарысеі,
Якія нам перашкаджаюць жыць)
Ад гэтай паэтычнай эпапеі,
Што кожнаю дэталлю даражыць,
Як ювелір той — дыяментам рэдкім,
Хаця наскрозь прапахла дымам едкім.

91 Сярод развалін дымных і руін,
У рвах, бы ў незасыпаных магілах,
Валялася нямала цел жанчын
Забітых і пакуль што не астылых,
Якіх не ўратаваў і равелін.
Жывая валадарка вочак мілых,
Якой было ля дзесяці гадоў,
Між трупаў гэтых адшукала схоў.

92 Два лютыя на выгляд казакі
Ёй пагражалі шаблямі сваімі.
Сібірскія мядзведзі і ваўкі
Не надта злыя ў параўнанні з імі.
Чым растлумачыць парадокс такі?
Тым, што мы створаны прыродай злымі,
Ці тым, што вучаць палкаводцы нас
Бязлітаснымі быць у гэткі час?

93 Над светлаю маленькай галавой
Дзіцяці, што сцінался ад страху
І ў грудзе цел хавала тварык свой,
Заззялі шаблі, што хацелі з маху
Ударыць і заліць яе крывёй,
Але Жуан не знёс такога жаху,
Рашуча кінуўся на казакоў
І выдаў ім шмат непачцівых слоў.

94 Спынілі катаў шабельныя ўдары
І здзейсніцца забойству не далі.
Каб іх перавязалі санітары,
Лямантаваць казакі пачалі.
На бледныя, скрываўленыя твары
Жанчын, што грудзіліся на зямлі,
Зірнуў Жуан — гарачы і рашучы —
І выцягнуў малютку з іхняй кучы.

95 Была палонніца не меней бледнай
Ад мёртвай маці, а крывавы след
На мілым тварыку малышкі беднай
Напамінаў, што наш суровы свет
Гатоў з бязлітаснасцю адпаведнай
Знішчаць усё ў імя вялікіх мэт.
Была, на шчасце, неглыбокай рана —
І прыгажунька ўбачыла Жуана.

96 Дзіцячы страх і шчырае здзіўленне
Адбіліся ў дапытлівых вачах,
А ў позірку Жуана — здавальненне,
Надзея, радасць, шкадаванне, страх
За лёс яе і ўрэшце — захапленне.
Мігцела радасць на яе шчаках,
Нібыта алебастравая ваза,
Ўнутры якой палае воск ці газа.

97 Прыйшоў з атрадам Джонсан легендарны
(Не называю Джэкам я яго.
Іначай будзе надта ўжо вульгарны
Расказ пра англічаніна таго,
Што ўнёс у бітву ўзносак велізарны)
І падбадзёрыў сябрука свайго:
«Жуан, павер! Пасля крывавых оргій
Пашанай удастоіць нас «Георгій»!

98 На небе сераскіра ўжо душа!
Ды, люлькай пыхкаючы, ў бастыёне
Між гор забітых ворагаў паша
Пад грукат кананады, як на троне,
Сядзіць і не баіцца ні шыша,
Таму што бачыць сэнс вялікі ў сконе.
І асыпае нас карцечы град,
Як ягадамі глебу — вінаград.

99 За мной! Наперад!» — А Жуан: «Зірні
На мною ўратаваную дзяўчынку.
Каб я сярод разбою і разні
Яе пакінуў нават на хвілінку
У гэты момант — Божа барані!»
Памацаў Джонсан *шыйную хусцінку*:
«Ты маеш рацыю, ды што рабіць,
Каб гэтае дзіцё не загубіць?»

100 «Ва ўсякім выпадку я не пакіну
Яе, пакуль дзе-небудзь не знайду,—
Сказаў Жуан,— бяспечную мясціну,
Дзе сірата не трапіць у бяду».
Брыт у адказ: «Хай нават я загіну —
Усё адно браць бастыён пайду»
Жуан — разгублена: «Ўсіх вабіць слава,
Ды я рызыкаваць не маю права».—

101 «Жуан! Рашайся як мага хутчэй! —
На дона крыкнуў Джонсан мімаволі.—
Дзяўчынка — мілая! Такіх вачэй,
Прызнаюся, не бачыў я ніколі.
Але чаму пачуцці даражэй
Табе ад славы і шчаслівай долі?
Было б ісці мне без цябе шкада.
Бог бачыць — мы спазняемся. Гайда!»

102 Брыт, што любіў па-свойму Дон-Жуана,
Прывёў гурму людзей і клятву даў,
Што будзе ім яна ўся расстраляна,
Калі дазволіць, каб з дзяўчаці ўпаў
Хоць волас ад калмыка ці асмана.
І ў той жа час мацак паабяцаў
Той варце даць па пяцьдзесят *цалковых*,
Калі ў дзяўчынкі ран не будзе новых.

103 І гэта без уліку той здабычы,
Якой надзелены за страшны бой
Пароўну будзе кожны паляўнічы.
Схіліў усё ж іспанца за сабой
Пайсці ў атаку Джонсан ваяўнічы
Пад жудаснай гарматнаю пальбой.
Ці ж палавінным жалаваннем зможа
Здаволіцца герой, што пераможа?

104 З людзей не меней дзевяці дзесятых
Бяруць спакойна на душу грахі.
Чаму Бог любіць грэшнікаў заўзятых?
Мо што нязведаны яго шляхі?
У кучу клаў гяураў распраклятых —
Да крыкаў і да грукату глухі!—
Татарскі хан. (Мянушкаю такою
Яго зваў аўтар, паважаны мною.)

105 Акружаны ажно пяццю сынамі
(У мнагажонства гэткія плады,
Але яны не прызнаюцца намі),
Змагаўся хан, як воін малады,
Пакуль падтрымліваўся быльнягамі
Ягоны дух, з няверными тады.
Не родзіча Прыама ці Пелея
Малюю я — асмана-дабрадзея!

106 І воіны, што гэткай раўнавагі
Ад старыкана не маглі чакаць,
Уражаныя, апускалі шпагі,
Хоць ім самім, зазначу, пазычаць
Было не трэба гарту і адвагі.
Стаў д'ябла Бог у іх перамагаць.
Хіснула іх шкадоба, як павевы
Хістаюць часам векавыя дрэвы.

107 Здавацца хан не думаў у палон —
І адхіляў любую прапанову,
Як пад Бендэрамі — Карл Шведскі, ён,
Бо адчуваў надзейную ахову
Сваіх сыноў, якія бастыён,
Як ён, абаранялі і палову
Гяураў палажылі перад ім,
Што ворага ізноў зрабіла злым.

108 Хоць скарысталі Джонсан і Жуан
Дарэшты ўсходнюю фразеалогію,
Лаяльнасць іхнюю нязломны хан
Усё адно прыняў за дэмагогію.
Налева і направа старыкан
(Як той, хто выкладае тэалогію
І хоча скептыкаў пераканаць)
Пачаў рукамі секчы і махаць.

109 Жуан з уздыхам і з праклёнам брыт
Накінуліся на сівога хана.
І іншыя свой паказалі спрыт,
Наперад кінуўшыся нестрымана.
Але, пакуль не адышлі ў нябыт,
Як быццам дождж — пясчаная паляна,
Што застаецца ў час любы сухой,
Прымалі абаронцы выпад той.

110 Быў сын другі, маўклівы і зацяты,
Забіты куляй; трэці — палашом;
Чацвёрты, самы дарагі, працяты
Быў вострым і бязлітасным штыком;
А выкармлены хрысціянкай пяты,
Каго лічыў хан брыдкім слімаком,
З жыццём расстаўся на пачатку бою,
Калі ён бацьку засланіў сабою.

111 Пакутнік Магамета — ліхадзеем
Быў сын старэйшы хана для таго
Бязбожніка, што зваўся назарэем,
Ды ў гэты час ён прагнуў аднаго:
Хутчэй аддацца чарнавокім феям,
Што ў раі сцелюць ложак для яго
Ў зялёных пакрывалах, хоць гатовы
І іншым воінам кружыць галовы.

112 Не ведаю дакладна, што рабілі
На небе дзевы з ханам маладым,
Якога рускія кап'ём забілі,
Ды ўпэўнены, што прыгажуні з ім
Усё ж цяплей намнога паступілі,
Чым абышліся б з воінам старым.
Таму і менш аказваецца ў трунах
Старых ваяк, чым навабранцаў юных.

113 Найболей гурыі ўсё ж любяць ловы
На маладых падманутых мужоў
Пасля таго, як месяц іх мядовы
Закончыцца — і вырвацца з гужоў
Сямейнай вупражы яны гатовы,
Каб апынуцца на свабодзе зноў.
А абыходзяцца яны так з намі,
Каб кветкі не зрабіліся пладамі.

114 Не чатырох прыгожых жонак вочы
У той час прымроіў воін малады.
Узніклі гурыі, як патарочы,
Ужо даўно над ім — і ён тады
Ляцеў насустрач першай райскай ночы.
Мы здзекуемся з гэтага заўжды,
Хоць феі юныя, калі прызнацца,
Змушаюць мусульман смялей змагацца.

115 Не скоўваў хана аніякі страх.
Калі кап'ё яго наскрозь працяла,
Ён крыкнуў задаволена: «Алах!»,
Бо з ім адначасова мата ўпала,
Што ў юнака вісела на вачах
І ад яго рай вечны засланяла.
Убачыў фей, анёлаў і святых
Хан — і зрабіў апошні свой уздых.

116 Памёр ён з радасцю... А хан стары,
Каго ўжо гурыі не хвалявалі,
Калі, як тая пінія — ў бары,
Ўпаў першы сын — і перад ім заззялі
Нязгасна яркім водбліскам зары
Завоблачнага султаната далі,
Адразу апусціў свой ятаган:
Забіты горам быў адважны хан.

117 Перапынілі і салдаты бой,
Падумаўшы, што ён жадае здацца.
А ён працягваў з болем і журбой
У рысы сына мёртвага ўглядацца
І сам сабе істотай нежывой
Ужо, здавалася, пачаў здавацца,
Ды нечакана здрыгануўся рот —
І задрыжаў татарын, як чарот.

118 Нядоўга губы ханавы дрыжалі.
Скачком, як на агонь — матыль начны,
Ён кінуўся на шчэць расійскай сталі,
Чых уколаў жудасных сыны
Ягоныя дагэтуль паспыталі,
Затым зірнуў туды, дзе ўсе яны
Ляжалі, быццам мёртвыя тытаны,
І дух на волю выпусціў праз раны.

119 Праліў хан горды па-геройску кроў.
Каля сыноў сваіх ён рухнуў долу
І змусіў глянуць лютых ваяроў,
Што служаць верна веры і прастолу
І шанаваць не ўмеюць ні гадоў,
Ні розуму, ні таленту, ні полу,
Не без паважлівага пачуцця
Усё ж на яго пагарду да жыцця.

120 А бастыён каменны не здаваўся.
Сядзеў паша ў ім і ў дваццаты раз
Ад рускіх паспяхова адбіваўся,
Хоць здацца заклікаў яго Рыбас.
І ўсё ж паша тады, калі дазнаўся,
Што горад паў, сцвярджальны даў адказ
І з ім паслаў да адмірала бея.
Знік Ізмаіл, як Троя, як Пампея.

121 А сам паша сядзеў на дыване
І гладзіў бараду, падцяўшы ногі.
Хоць быць спакойным цяжка на вайне,
Ён не выказваў страху і трывогі,
Нібы знаходзіўся ў чароўным сне,
Які нірванай называюць ёгі.
Здавалася, што меў тры бунчукі
І тры жыцці паша негаваркі.

122 Быць бастыён не мог ужо шчытом
Для горада, зраўнянага з зямлёю.
Паўмесяц, што дагэтуль серабром
Ззяў ярка над ваколіцай усёю,
Адразу быў заменены крыжом,
Пафарбаваным свежаю крывёю.
Як месяц, што святлом заліў абшар,
Адбіўся ў лужынах крыві пажар.

123 Усё, чаго так прагнуць сатана,
Плоць збэшчаная, геній звар'яцелы,
Заўзятыя аматары віна,
Разбойнік люты,валадар сапселы
І дзеці пекла, нам нясе вайна.
І ў Ізмаіле знішчаным дзень цэлы
Ўсё гэта адбывалася тады.
Так будзе і ў наступныя гады.

124 Закон вайны — крывавы! І калі
У іншых пераможцаў парыванні
Дабра і міласэрнасці былі,
То гэта дробязь проста ў параўнанні
З тым, што быў сцёрты Ізмаіл з зямлі.
Якія тут быць могуць апраўданні?
Парыжа, як і Лондана, шпана!
Падумай, што такое ўсё ж — вайна!

125 Якою колькасцю ахвяр і бед
Купляеце вы сёння асалоду
Ад чыткі бюлетэняў і газет?
А што, як вы не прыйдзеце з паходу?
Для думкі гэтай не адзін паэт —
І Каслры нават можа даць нагоду.
Як славай Велінгтона накарміць
Ірландыю, якая ледзь ліпіць?

126 І ўсё ж я нацыі патрыятычнай,
Якой баталіі ўздымаюць дух,
Жадаю ўзняцца з музай патэтычнай
Над саранчою прагнаю разрух.
Такой бяды, што голад да крытычнай
Мяжы ў Ірландыі дайшоў! Не пух
З яго Георг вялікі, як і чэлядзь,
І важыць, як раней, пудоў пад дзевяць.

127 Ды час вяртацца ў Ізмаіл, бадай.
Палаючыя вежы азаралі
Над ім, ушчэнт разбітым, небакрай.
Пафарбаваныя крывёю хвалі
Да мора Чорнага каціў Дунай.
Паветра крыкі скрозь агалашалі.
Для тысяч сарака ізмаілчан
Стаў ракавым бязлітасны ўраган.

128 Ды рускіх ёсць за што і пахваліць.
Той, хто з сучаснаю мараллю згодны
Ў сваіх паводзінах, не аценіць
Не мог учынак іх высакародны.
Не ведаю, што іх магло спыніць —
Ці дрэнны правіянт, ці дзень халодны,
Ці, можа, проста стомленасць салдат,—
Ды згвалцілі жанчын яны няшмат.

129 Яны шмат забівалі, рабавалі,
У хатах учынялі кавардак,
Вядома, дзе-нідзе і гвалтавалі
Турчанак маладых, але не так,
Як галы брудныя, што ваявалі,
Каб свет ператварыць наш у бардак.
Цнатліўкі ўсе, за выключэннем сотні,
Тады свой выгляд захавалі цнотны.

130 Ды іншым разам собіла і хлюсту,
Якому, скажам, толькі дваццаць пяць,
З-за цемрадзі ці недахопу густу
(Іначай не магу я апраўдаць
Ніякім чынам гэтую распусту)
Старую векавуху гвалтаваць.
Сем дзеў, што ціха век свой дажывалі,
Сямёра грэнадзёраў згвалтавалі.

131 Такая стрыманасць салдат, прызнацца,
Здзівіла нават некаторых дзеў,
Што вырашылі ўсё ж пачаставацца
Салодкім плодам, што даўно паспеў,
Каб на абставіны пасля спаслацца,
Але ніхто на іх не паглядзеў.
Любая з іх з гвалтаўніком нялюбым
Пабралася б сабінска-рымскім шлюбам.

132 Сярод разбураных ушчэнт муроў
Не раз пачулася тады пытанне
І сакавітых нестарых удоў:
«Чаму не пачынаюць гвалтаванне?»
Ды вабіла гвардзейцаў болей кроў,
А спакушала болей — рабаванне.
Няблага задаволіць плоць, але ж
Для іх цяпер галоўнае — грабеж!

133 Узяў Сувораў крэпасць мусульман!
Усё наўкол гарэла, як салома.
Славуты, як Цімур і Чынгісхан,—
Пры ўспышках дагараючага дома
Крывавую рукою старыкан
Пісаў імператрыцы, як вядома,
Дэпешу: «Слава Богу, слава Вам,
Бо Ізмаіл узяты — і я там!»

134 Пасля «Манэ», «Тэкел», «Перэс» я слоў
Не знаў жахлівей. Сэрца апаліла
Дэпеша мне. Хоць я не багаслоў,
Зазначу ў апраўданне Данііла:
Калі прарок у дом цара прыйшоў
І змусіў сцішыцца яго паныла,
То з нацыі не пацяшаўся ён,
Як рускі жартаўнік або Нерон.

135 На жудасную музыку вайны
Герой паклаў напісаныя словы.
Наўрад калі забудуцца яны.
Я кожны камень навучыць гатовы
Біць дэспатаў крывавых. О сыны
Унукаў нашых! Веру, што даўно вы
З плеч скінулі сваіх тыранаў злых.
І я хачу вам нагадаць пра іх.

136 Хоць ваша брацiя пра дзiкуноў,
Што ў нашы днi для расфарбоўкi цела
Выкарыстоўваюць людскую кроў,
I ведаць бы, напэўна, не хацела,
Я дбаю, каб яна пра iх са слоў
Маiх усё-такi ўяўленне мела,
Калi, вядома, дойдзе мой расказ
Якiмсьцi чынам некалi да вас.

137 Раскажа вам гiсторык цi паэт
Пра ўладароў якога-небудзь трона,
Што залiлi людской крывёю свет,—
Вы на яго зiрнеце падазрона
Або, як мы — на маманта шкiлет
Цi на значкi грабнiцы фараона,
Што не даюць дасюль адказу нам,
Якая гордасць пахавана там.

138 Я выканаў, чытач мой, абяцанне,
Якое ў першай песнi я даваў:
I караблекрушэнне, i каханне,
I нават падарожжа апiсаў
I вось вайны канчаю апiсанне.
Я анiдзе нахабна не iлгаў,
Як папярэднiкi, i ўдзячны небу
За дапамогу i, вядома, Фебу,

139 Якi свае мне пазычае струны,—
I шчасце маю я сыграць на iх.
Ну а цяпер, пакуль Жуан мой юны
Ляцiць з дэпешай на перакладных
У Пецярбург па волi як фартуны,
Так i Суворава, я перадых
Зраблю, бо надта ўжо мяне стамiла
Крывавая аблога Iзмаiла.

140 Дон гонару ўдастоен быў такога
За тое, што турчанку ўратаваў:
Пасля разбою лютага i злога
Люд азвярэлы чалавечным стаў.
Хоць ордэн Уладзiмiра Святога
Тады Жуан за храбрасць атрымаў,
Усё ж ён рады болей быў учынку,
Якi збярог маленькую дзяўчынку.

141 Плыве над горадам турчанкі дым,
А не знаёмы голас муэдзіна.
Як дом Прыама, мёртвым і пустым
Стаў дом яе. І ў тым, відаць, прычына,
Што ў шлях з выратавальнікам сваім
Пусцілася гаротная дзяўчына.
Леілу апякаць узяўся дон —
І абяцанне не парушыў ён.

## ПЕСНЯ ДЗЕВЯТАЯ

1 О Велінгтон (ці Villainton, як галы
Каверкаюць славутае імя,
Бо ўсе яны спрадвеку — зубаскалы.
Лепш ваяваць параіў бы ім я)!
Ўдастоіўся ты пенсіі і ўхвалы
Усіх людзей свядомых, акрамя
Вар'ятаў, што герояў граззю мажуць,
Але «О nay!» ім патрыёты скажуць.

2 І ўсё-ткі з Кінердам і Марынетам
Ты, герцаг, паступіў, як езуіт,
Пагрэбаваўшы нават этыкетам.
Ты нс ўпрыгожыш надмагільных пліт
Вестмінстэрскага храма ўчынкам гэтым.
Ды на такія плёткі апетыт
З'яўляецца, калі мы п'ём напоі.
Бадзёры ты, як юныя героі!

3 Ты бедную Брытанію ў карміліцу
Ператварыў, бо адрамантаваў
Легетымізму зломаную мыліцу.
А зараз бы я рэкамендаваў
Еўропе ўсёй, што чухала патыліцу,
Пакуль ты свет увесь не ўратаваў,
Цябе ўсё ж за Ватэрлоо аддзячыць
І ўславіць у найлспшых одах, значыць.

4 «Галаварэз вялікі» ты! На словы
Шэкспіра грэшна герцагу злаваць:
Вайна — уменне рассякаць галовы
І горлы ворагам пераразаць.

Закон вайны — бязлітасны, суровы,
Ды не цары, а людзі вырашаць
Павінны ўсё ж, хто варты больш пашаны.
Ты ж дворняю сваёй ушанаваны!

5 Я не ліслівец, прызнаюся шчыра,
Хоць лёсткі для цябе (бо не знімаў
Ты ўсё жыццё ваеннага мундзіра
І ў шмат якіх баях удзел прымаў)
Больш неабходны зараз, чым сатыра,
А больш за ўсё — лухта, што ты, маўляў,
Зняволенай Еўропы «вызваліцель»
І многіх нацый гінучых «збавіцель».

6 Бразільскім імператарам сервіз
Шыкоўнейшы табе падараваны —
Ідзі і еш з пазалачоных міс,
А вартавому (будзь усё ж рахманы)
Абавязкова паднясі сюрпрыз
І са стала, які сервіраваны
Не горш за каралеўскі стол, бадай,
Хаця б адзін кавалак мяса дай.

7 Ты нацыю ўзвялічыў, хоць і кат!
Сышлі ў нябыт ужо даўно, як тэрмы,
Законы, па якіх жыў Цынцынат,
Па іншых правілах жывём цяпер мы.
Хаця прынёс казне выдаткаў шмат,
Ты стаў гаспадаром сабінскай фермы,
Бо як ірландзец любіш бульбы смак,
Ды садзяць іншыя яе, аднак.

8 Вялікіх не бярэ ў палон мамона.
Эпамінонда — абаронцу Фіў,
Славутага Георга Вашынгтона,
Што вызваліцелем айчыны быў,
І Піта, кім краіна разарона,
Якую я ў маленстве так любіў,
Яднае бескарыслівасць, з якою
Не гэтак проста сябраваць герою.

9 Для добрых спраў, як і Напалеон,
Ты меў магчымасцей даволі многа,
А каб свабоду пасадзіць на трон

Замест тыранаў — не зрабіў нічога.
Калі заціх той трыумфальны звон,
Якім твая сустрэта перамога,
Прыслухайся, як плача ў цішыні
Галота — і свой поспех пракляні.

10 Раз я распавядаю пра вайну,
Да ісцін тых, якіх няма ў газетах,
Я з музай нелісліваю вярну
Цябе і ўсіх наёмнікаў адпетых,
Што смокчуць кроў людскую і казну.
Ты многа здзейсніў спраў, але ў спраў гэтых
Душок заўсёды непрыемны быў.
Ты імі чалавецтва пагубіў.

11 Смяецца над усім, што засмуціла
І плакаць горка прымушае нас,
Смерць, што, нібыта гарызонт — свяціла,
Хавае ад вачэй мінулы час.
Страх на людзей старая напусціла
Касою і агіднейшай з грымас.
Як жудасна сустрэцца раптам з гэтым
Бязгубым і пачварнейшым шкілетам!

12 Рот да вушэй, якіх няма ў пачвары,
Насмешліва разяпіла яна.
Да ўсіх смяротных на кастлявым твары
Пагарда непрыкрытая відна.
Калі ж здзярэ бязвухая з ахвяры
І скуру тонкую, што ў нас адна,
І наша лепшае адзенне — мяса,
Шчаслівай зробіцца яе грымаса.

13 Смерць, смеючыся, ходзіць паміж намі.
Сумотны смех, але ён існуе!
Чаму б жыццю не растаптаць нагамі
Падманныя каштоўнасці свае,
Што на паверхні лёсаў пухірамі
Паветранымі лопаюцца ўсе,
Нібыта на паверхні акіяна,
Ў якім усё сапраўднае схавана?

14 «Быць ці не быць? — пытанне толькі ў гэтым»,—
Сказаў Шэкспір (дарэчы, зараз ён

Даволі модным робіцца паэтам).
Не Аляксандр я, не Гефестыён —
І да здароўя з большым піетэтам
Адношуся, чым той Напалеон.
Любіў ён славу больш за ўсё, аднак
Яго са славай разам знішчыў рак.

15 «O dura ilia messorum!», што значыць:
«О несапсуты страўнік хлебароба!»
Шкада мне багацея, што лайдачыць:
Гніе, як Стыкс, ягоная вантроба,
І сны жахлівыя ён часта бачыць.
Не чэпіцца ніякая хвароба
Да парабка, які сабраў алівы.
І спіць ён добра, а таму — шчаслівы!

16 «Быць ці не быць?» Раней, чым адказаць
На гэтае нялёгкае пытанне,
Што значыць *быць* — дакладна трэба знаць.
У тое і ў другое меркаванне
Унікну я, пакуль рашуся стаць
На нечы бок, бо смерць, а не дыханне,
Лічу я, вызначае сэнс жыцця —
І небыцця ў ім болей, чым быцця.

17 «Que sais-je?» — дэвіз Мантэня, як вядома.
Шмат хто і з акадэмікаў лічыў,
Што веды нашы ўсе — не аксіёма,
І іншых гэтай ісціне вучыў.
Няўпэўненасць жыве ў нас падсвядома.
Хаця нямала на зямлі пражыў,
Я мушу сумнявацца, што сумненне —
Чуццё, што мае гэтае найменне.

18 Прыемна морам думак плыць з Піронам
Пад ветразем, ды нашы мудрацы
Ўсё ж перавагу аддаюць затонам,
А не марскім прасторам, бо плыўцы
З іх дрэнныя — і могуць з вольным лонам
Не справіцца духоўныя айцы.
Лепш ракаўкі збіраць на мелкаводдзі,
Чым плыць насустрач урагану ў лоддзі.

19 «Ды неба,— кажа Касіа,— над намі!
Чым гаварыць, лепш памаліцца нам».
Мы душы ратаваць павінны самі
Пасля таго, як Ева і Адам,
Спакушаныя райскімі пладамі,
Лёс вызначылі нам і вераб'ям.
Напэўна, прашчур іх сядзеў на дрэве,
Якое спадабалася так Еве.

20 О неба! Што такое тэагонія?
О людзі! Што такое філантропія?
О зоры! Што такое касмагонія?
Мне, кажуць, уласціва мізантропія
Ў той час, калі не ведаю таго ні я,
Ні мой пюпітр чырвоны. Лікантропія —
Зусім другая справа! Бачыў сам
Вар'ятаў, што як родзічы ваўкам.

21 Я па сваёй прыродзе дабрадзей,
Цярплівы, ціхі праведнік смяротны —
Такі ж, як Меланхтон або Майсей,
Хаця юрлівы і даўно няцнотны.
Чаму ж тады для большасці людзей
Я злыдзень злы і мізантроп мярзотны?
А ўсё таму, што я ніколі ім
Не патакаў. І спынемся на тым.

22 Вяртаюся рашуча да маёй
Яшчэ не надта ўхваленай паэмы,
Хоць і перакананы я, што ў ёй
Цудоўнейшыя вобразы і тэмы,
І спадзяюся, галізной сваёй
(Стаць шчырымі павінны ўсё ж усе мы)
Не будзе праўда больш бянтэжыць вас:
Належыць ёй быць голаю ўвесь час.

23 Быў, гэткім чынам, наш герой пасланы
Ў сталіцу цемрашалаў, што Пятром
Былі гвалтоўна цывілізаваны.
На жаль, ягоны манархічны дом,
Які не заслугоўвае пашаны,
Прывечаны вальтэраўскім пяром.
Я ненавіджу болей аўтакратаў,
Чым дзікіх варвараў і лютых катаў.

24 З тыранамі, з манархіяй любой,
Што дбаюць толькі аб уласнай славе,
І з ворагамі думкі цяжкі бой
Вяду я і на словах, і на справе.
Хто ўрэшце пераможа ў бойцы той,
Я веру, высветліцца неўзабаве.
Ці буду весці да канца жыцця
Я гэты бой да самазабыцця.

25 Я не імкнуся дагадзіць народу.
І без мяне ёсць дэмагогаў шмат,
Якія выступаюць за свабоду,
Каб хрысціянскі зруйнаваць дагмат —
І іншых ідалаў увесці ў моду.
Ім непатрэбны вера і набат,
Які гучыць над намі ў час вячэрні.
Страшней за ўсё на свеце ўлада чэрні.

26 Я шчыры вораг усялякіх партый
І не баюся супраць ветру плыць
З настырнасцю і ўпэўненасцю ўпартай,
Бо ілгуном не навучыўся быць.
Хто вольным застаецца і пад вартай
Усё, што хоча, можа гаварыць.
І голасу я, апанент вандалаў,
Не далучаю да выцця шакалаў.

27 Шакалы! Ля Эфеса чуў іх я.
Яны — усіх кровапраліццяў сведкі.
І гэта вельмі трапнае імя
Для зграй, што любяць панскія аб'едкі,
Хоць страўнікам іх помсціць печая,
Відаць, за шакаліны нораў гэткі.
Але шакалы дагаджаюць львам,
А людзі служаць прагным павукам.

28 Народы! Не служыце павукам!
Не гніце ўгодліва ніколі спіны,
Не дазваляйце жыраваць тарантулам,
Якія маюць апетыт ільвіны.
Няўжо так цяжка разагнуцца вам
І разарваць густыя павуціны?
У шпанскай мухі і пчалы атычнай
Пазычце, людзі, злосці гераічнай.

29 Пакінулі Жуана мы ў дарозе
З дэпешай тэрміновай, у якой
Так гаварылася аб перамозе,
Бы не дзвюх нацый, а двух пеўняў бой
Адбыўся, а сыходзілі ў знямозе
Салдаты не крывёю, а вадой.
Сувораў сам намаляваў карціну,
Што цалкам здавальняла Кацярыну.

30 За славаю і ветрам наўздагон,
Зайздросцячы крылатаму Пегасу,
Імчаў калдобістай дарогай дон
І пасылаў праклёны час ад часу,
Не пераходзячы на злы жаргон,
І тракту, і старому тарантасу,
Які не меў падушак і рысор.
Пасыльным стаў іспанскі валанцёр.

31 Любы нахіл, як і любы штуршок,
Якіх было ў паездцы той нямала,
Змушаў Жуана накіроўваць зрок
На спадарожніцу, што з ім скакала
Па самай найкалдобістай з дарог.
Яе ўтрамбоўвала і брукавала
Адна прырода ў той адной з краін,
Дзе ўсім валодае Гасподзь адзін.

32 Хоць пошліны не плаціць, можа Ён
Назвацца фермерам, па меншай меры.
Шкада, што раса іх да нашых дзён
Не дажыла і ажывіць Цэрэры,
Што ўпала, як упаў Напалеон,
Не ў стане ўжо і з дапамогай веры.
І ці не дзіўна, што манарха лёс
Зваліў, калі ўпаў кошт і на авёс?

33 Кідаў пагляд пяшчотны і ласкавы
На мілую турчанку Дон-Жуан.
О шах Надзір, што манумент крывавы
Паставіў сам сабе, бо Індастан
Зрабіў пустэчай і па кубку кавы
Пакінуў тым, з кім грозны Тамерлан
Быў родзічам, а сам таму памёр,
Што ўрэшце даканаў цябе запор!

34 О вы! О мы! О ён ці о яна!
Уратаванае жыццё намнога
Каштоўней, чым крывавая вайна
І ў ёй атрыманая перамога.
Як вас бы ні ўхваляла гамана
І ліры ні ўслаўлялі — анічога
Не значыць хор, што ў гонар ваш гучыць,
Калі сумленне ўласнае маўчыць.

35 О вы, адукаваныя паэты!
О ты, мільён падкупленых пісак,
Што выдаюць бульварныя газеты,
Сцвярджаючы: усе даўгі — пусцяк!
О вы, хто піша страсныя памфлеты,
Не могучы змірыцца з тым ніяк,
Што з голаду дзяржава вымірае,
І «на мазолі дворні наступае».

36 О аўтары вялікія! Я з вамі
Хацеў пагутарыць, але забыў
(Так à propos des bottes і з мудрацамі
Здараецца), пра што я гаварыў
У думках вам. Хутчэй за ўсё — з мурамі
Халупы і казармы я мірыў,
Ды я сваёй забыўчывасці рады.
Вы б адхілілі ўсе мае парады.

37 Ды, пэўна, хопіць гаварыць аб гэтым.
Аскепкі часу нашага і стос
Чарнавікоў, напісаных паэтам,
Нашчадкі адшукаюць і ўсур'ёз
Цікавіцца пачнуць сучасным светам,
Што ўрэшце ператворыцца ў хаос.
Людзей і думкі ў гэты supestratum,
На жаль, ператварае час, як фатум.

38 Кюўе такія змены прадказаны
Цяперашняму свету, хоць затым
Легендай дзіўнай свет наш зруйнаваны
Пакажацца стагоддзям маладым,
Як нам сягоння — маманты, тытаны,
Іхтыязаўры зноравам крутым
(Калі дакладней — іхнія шкілеты)
І побыту сатлелыя прадметы.

39 Усе, напэўна, здзівяцца, калі
Георг Чацвёрты адкапаны будзе,
Як гэты велікан мог на зямлі
Знаходзіць столькі ежы, бо ўсе людзі
Тады здрабнеюць (нават каралі).
Усе мы толькі — чарвякі, што ў хлудзе
Цывілізацый знішчаных жывуць
І старажытным светам іх завуць.

40 Як будзе выгнаны свет новы з раю,
То стане сеяць, малаціць, малоць
(Інакш не паспытаеш караваю),
Капаць, араць, баранаваць, палоць
І, можа, выкапае — паўтараю —
Георга найпачварнейшага плоць.
Каб здарылася так, яго анатам
Зрабіў бы ўраз музейным экспанатам.

41 Аднак я метафізікам зрабіўся.
Час з каляі сышоў, а з ім і я,
Бо нечакана для сябе забыўся,
Пра што паэма пішацца мая,
І раптам на сур'ёзны тон узбіўся.
Вядома, мне вядома каляя,
Якою трэба рухацца да мэты,
Ды ў тэмпах руху вольныя паэты.

42 Я замарудзіў рух апавядання,
Калі карміў дон коней, а цяпер
Без прамаруджвання і апісання
Дарожных знакаў (з месца — у кар'ер!)
Пушчуся ў Пецярбург, куды ад рання
Ізноў памчаўся малады кур'ер
І дзе расфарбаванымі снягамі
Мы палюбуемся нарэшце з вамі.

43 Стаіць у поўнай зале рыцар наш
І радуецца новаму мундзіру.
Бы ветразі парваныя, плюмаж;
Штаны ў абцяжку з жоўтага кашміру;
Каўнер чырвоны; чорны закаўраш —
Усё пасуе юнаму задзіру.
А праз малочны шоўк яго панчох
Праглядваюцца ікры дужых ног.

44 І я прашу вас уявіць, сябры,
Як ён пад пахай капялюш трымае
І, стоячы са шпагай пры бядры,
Не толькі ўласнай прыгажосцю ззяе,
Але і той, якую штукары-
краўцы ствараюць. Пэўна, нагадае
Амура гэты бравы афіцэр,
Узведзены на п'едэстал, цяпер.

45 Так, думаецца мне, падумаў кожны,
Калі ўвайшоў у залу Дон-Жуан.
Пагоны, шпага, капялюш і ножны
На крылы, стрэлы, лук і на калчан
Паходзілі. Пагляд неасцярожны
На Дон-Жуана мог увесці ў зман
І страсную, пажадлівую фею,
І сціплую, цнатлівую Псіхею.

46 «Хто гэта?» — не сціхала гамана.
Была ад дона ў захапленні світа
Царыцы рускай, а сама яна
З какетлівай усмешкай, прагавіта
Зірнула на хлапца-прыгажуна,
Чым надта засмуціла фаварыта.
Што можа замяніць яго Жуан,
Спалохаўся дзяжурны велікан.

47 Хоць — безбароды, гнуткі і худы,
Наскрозь прапахлы порахам і дымам —
У гэты час паручнік малады
Здаваўся сарамлівым нелюдзімам,
Але імператрыца сапраўды
Магла заняцца гэтым серафімам,
Бо адышоў на вечны супакой
Яе бязвусы фаварыт Ланской.

48 Мамонаў, можа, можа, сам Ярмолаў
Ці іншы хтось на «ін» або на «оў»
Стаяў і думаў, нахіліўшы голаў:
«А што, калі алтар яе гатоў
Для новага агню?» Без пратаколаў,
Без віншаванняў пышных і прамоў
Даваўся «пост вышэйшага даверу»
Царыцаю, юрліваю не ў меру.

49 О лэдзі мілыя! У Лондандэры
Больш падрабязна распытайце вы
Аб гэтым імператарскім даверы,
Што расквітнеў на берагах Нявы.
Хоць гаварыць ён любіць у манеры
Людзей, чыіх прамоў да галавы
Не варта браць, ён, веру, растлумачыць
Усё-ткі вам, што гэты тэрмін значыць.

50 Дарэчы, абысціся я гатовы
Без лютага драпежніка, які
Замяніць іерогліфамі словы.
Каб не яго крывавыя пляўкі,
Былі б незразумелымі прамовы,
Якія сёння Каслры гаваркі
Лье на галовы бедным патрыётам.
Я абыдуся проста анекдотам.

51 Спытала англічанка італьянку:
«Хто cavalier servente і як ён
Ператварае іншы раз балванку
Каменную ўсяго за пару дзён
У палкую і страсную каханку,
Як статую сваю — Пігмаліён?»
І адказала мудрая кабета:
«Я раю высветліць самой вам гэта».

52 І ты, чытач мой, зразумееш, веру
(Іначай і не можа проста быць),
Што значыць «пост высокага даверу»
І *як* належыць за яго любіць
Сваю імператрыцу кавалеру
Такой узнагароды, каб зрабіць
Царыца не схацела фаварытам
Таго, хто большым вызначыўся спрытам.

53 Нягледзячы на памужнеласць рыс,
Быў Дон-Жуан істотай трапяткою,
Хоць не настолькі юнай, як Парыс,
Які спаліў сваёй усмешкай Трою,
За што Алену атрымаў, як прыз.
Напэўна, самай дарагой цаною
Дамогся скасавання шлюбу ён,
Аддаўшы за каханне Іліён.

54 За выключэннем мужа, што пакінуў
Карону ёй, мужчынскі дужы пол
Прываблівау заўсёды Кацярыну,
Прычым яе пашаны арэол
Звычайна кананізаваў мужчыну,
Што быў ва ўсіх адносінах арол,
Хаця царыца гаравала многа,
Калі хавала і хлапца Ланскога.

55 «Teterrima causa» войн і бед!
Жыцця і смерці велічная брама
Для ўсіх істот, што насяляюць свет!
Крыніца нашай вечнасці і яма
На дне ракі, якая неўпрыкмет
Зацягвае наступнікаў Адама!
Дагэтуль мы з пары далёкай той
Знішчаемся і ўзносімся табой!

56 Ты не прычына горшая вайны!
Прычынай лепшай лічышся ты мною.
Няўжо не могуць разбурыць сцяны
Або пайсці на ўвесь сусвет вайною,
Каб дагадзіць табе, твае сыны,
Якія нараджаюцца табою
Ва ўсіх краінах і ў часы трывог?
Ты ёсць — і струм жыцця не перасох!

57 Царыца, што жывым увасабленнем
Распусты, міру і вайны была,
З лагоднаю усмешкай і здзіўленнем
Прыгожага кур'ера прыняла,
Што на калена стаў з паведамленнем
Аб перамозе слаўнай. Не магла
На данясенні разламаць пячатку
Імператрыца гордая спачатку.

58 Манаршы выгляд, за якім хавала
Сваю жаноцкасць, прыняла яна
У рэшце рэшт, пячатку разламала,
Дэпешу прачытала і, спаўна
Здаволеная, расцвіла. А зала
Адразу зразумела: навіна
Прынесла славу новую царыцы —
І будзе свята, значыць, у сталіцы!

59 Па-першае, узяты горад быў,
А па-другое, трыццаць тысяч пала!
Як сонечны ўзыход, што азарыў
Індыйскі акіян, так азарала
Царыцу слава, хоць яе здабыў
Салдацкі штык. І ўсё-ткі не хапала
Так, як дажджу — пустыні, славы ёй.
Не ўмыеш рукі і такой крывёй.

60 Па-трэцяе, мне думаецца, быў
Вялікай радасцю для Кацярыны
І верш Суворава, які любіў
Усмешку выклікаць у той жанчыны,
Чыёю воляй подзвіг ён зрабіў.
Хаця былі крывавымі навіны,
Але фельдмаршал, праявіўшы гарт,
Рэляцыю ператварыў у жарт.

61 Расцвіў усмешкамі і гурт прыдворных,
Бы кветнік, зрошаны вадой жывой,
Што пралілася з высяў жыватворных.
Але калі ласкавы позірк свой,
Што люстрам быў пачуццяў непрытворных,
На юнака з паніклай галавой
Царыца мажная накіравала,
Чамусьці насцярожылася зала.

62 Нярэдка вылятаі бліскавіцы
З яе вачэй, але калі прынёс
Задавальненне хтось імператрыцы,
Яна яго ўздымала да нябёс
І падабенствам добрай чараўніцы
Рабілася не жартам, а ўсур'ёз,
Але Эрота вэксалі, бывала,
Аплачваць поўнасцю патрабавала.

63 Хаця патрэбы не было такой,
Яна была, па водгуку агульным,
Хоць нацыі знішчала, трапяткой —
І аддавалася любоўным гульням
Са страснасцю каханкі маладой.
Той, хто хоць раз у будуары ўтульным,
Як Джайльз казаў, з царыцай бавіў час,
Самой фартунай надзімаўся ўраз.

64 Не знойдзецца на свеце больш істот
Такіх непрадказальных, як жанчына.
Яна — як вецер, як водаварот.
Яна ўсіх бед і радасцей прычына.
Ідуць з намерамі ў яе ўразброд
Звычайна думкі — ці яна дзяўчына,
Ці маці, ці каханка, ці ўдава,
Бо для жанчыны плёткі — трын-трава.

65 О Кацярына! (І выклічнік «Ах!»
Ты справамі сваімі заслужыла.)
Як дзіўна сутыкнула ты ў мазгах
І думкі аб узяцці Ізмаіла,
І клопат аб чарговых медалях,
І захапленне тым, каму так міла
Падаравала позірк свой цяпер,
Хоць гэта быў не маршал, а кур'ер.

66 Ганец багоў Меркурый на вяршыні,
Што неба цалавала, завяршыў
Палёт свой у Шэкспіра. Манархіні
Кур'ер Жуан, што ёй пісьмо ўручыў
І на калена стаў, як ля багіні,
Такую ж думку, пэўна, унушыў.
Прывабіў юнака пагляд жаночы,
І на царыцу скіраваў ён вочы.

67 Стаіць імператрыца над Жуанам —
І ясна ўсім: ёй спадабаўся дон.
Любуецца яна ягоным станам
І, можа, чым яшчэ, бо Купідон
Адразу плешча ў кубкі laudanum,
А не якісьці брыдкі самагон.
Мог асушыць пагляд імператрыцы
Ў час гэты ўсе жыццёвыя крыніцы.

68 Здаволенае самалюбства дона
П'яніла ў гэты момант, як віно.
Калі табе вядомая персона
Увагу аказала (ўсё адно —
Ці балерына, ці ўладарка трона,
Ці модная спявачка з казіно,
Ці герцагіня), гэта, несумненна,
Не толькі дону, а і мне прыемна.

69 Не трэба забываць, што ў Дон-Жуане
Яшчэ кіпела маладая кроў —
І быў кур'ер, як Данііл у стане
Бясстрашна кінуцца ў ільвіны роў,
А ўнутранае сонца ў акіяне
Абы-якім быў патушыць гатоў,
Як тушыць сонца бурныя флюіды
Ў вадзе марской ці на грудзях Фетыды.

70 Царыца (гэта трэба асабліва
Падкрэсліць нам) удзячнаю была,
Нягледзячы на тое, што зласліва
І грозна крыкнуць іншы раз магла,
А часам помслівай была надзіва.
Яна ніколі не рабіла зла
Сваім выбраннікам — высокім, дужым.
Быў для яе, лічы, з іх кожны мужам.

71 Яе высакародныя манеры
Да гэтага прыбавіць я прашу,
Яе спагадлівасць і колер шэры
Яе вачэй, што царскую душу
Умее выразіць у большай меры.
Я, кажучы вам гэта, не грашу:
Напалеон, шатландская Марыя,
Палада мелі вочы ўсё ж такія!

72 Усмешка ветлівая, прыгажосць,
Якой нікольки не перашкаджала
У гэты момант царская мажносць,
І тое, як прыветліва прымала
Царыца воіна, што маладосць
Сабой увасабляў, калі ўся зала
Цікавілася іхнім рандэву,
Пасыльнаму ўскружылі галаву.

73 З-за эгаізму і з-за самалюбства
(І на пачатку і ў канцы жыцця)
Мы хочам, каб любілі нас, і глупства
За глупствам робім дзеля пачуцця,
Што многіх давяло да самагубства.
І ўсё ж каханне — рухавік быцця.
Яго здаўна лічылі воссю свету.
І я падтрымліваю думку гэту.

74 Бывае платанічнаю любоў,
Сентыментальнай. Ёсць любоў да Бога,
Хоць існуе яшчэ любоў сяброў.
(Прабачце, што, не думаючы многа,
Для іх знайшоў я рыфму *галубоў*.)
Хаця няма ў ёй путнага нічога,
Любоў такая зараз на плаву.
Яшчэ я пачуццёвасць назаву.

75 Яна — прадукт і плоці, і крыві;
Святы парыў душы з зямнога бруду;
Вяршыня, квінтэсенцыя любві;
Зліццё з багіняй; пакланенне цуду!
Хоць да яе шлях доўгі і крывы,
Я шляху іншага шукаць не буду,
Таму што, як ні дзіўна, гэты шлях
Нятленны дух зноў удыхае ў прах.

76 Ды самы ўсё ж высакародны род
Любві, вядома, першы — платанічны.
Другі спрыяе павышаць даход
Духоўнікам. Род гэты — кананічны.
Род трэці распаўсюджаны сярод
Матрон, калі ім лад жыцця прывычны
Нарэшце надакучыць — і яны
Саюз утвораць шлюбны. Патайны.

77 Але ж мне трэба да свайго расказу
Вяртацца. Хопіць аналізаваць!
Не палічыце гэта за абразу
Царыцы рускай, толькі адчуваць
Стаў юны афіцэр амаль адразу
(Чым вас хачу я заінтрыгаваць),
Што для царыцы (гэтага не ўтоіш)
Любошчы і любоў — адно і тое ж.

78 Двор царскі насцярожана і глуха
Ў час гэты зашумеў — і пачало
Часцей з губамі сустракацца вуха.
Змаршчынілася важнае чало,
Усмешкі не стрымала шчабятуха,
Якой зайздросна, думаю, было,
Што для царыцы вочы Дон-Жуана
Гарэлі ў гэты момант палымяна.

79 Усіх краін замежных дыпламаты
Пыталіся, хто гэты афіцэр
Такі прыгожы і малайцаваты,
Каго чакае лепшая з кар'ер
І да каго чырвонцы і дукаты
Ракой у куфры пацякуць цяпер,
Ужо не кажучы пра ўзнагароды:
Іх у такога будзе шмат заўсёды.

80 Было не сквапным сэрца Кацярыны.
Любоў, якая, быццам чарадзей,
Праз горы, загароды і пярыны
Пракладвае дарогу да людзей
(Дакладней — да іх сэрцаў), хоць звярыны
Быў нораў у галоўнай з рускіх фей
І Клітэмнестры не магла царыца
Лагоднасцю як жонка пахваліцца,

81 Была прычынай шчодрасці кабеты,
Чым і праславіла яна свой род.
А фаварыт адзіны Лізаветы
Не тое што не меў ніякіх льгот,—
Калі не лжэ гісторык, рыцар гэты
Пасланы ёю быў на эшафот.
Яна па ім слёз праліла нямала
І тым сябе таксама даканала.

82 Прыём закончаны. Стаіць Жуан
У гурце дыпламатаў, асавелы
Ад віншаванняў іхніх і пашан.
Шумяць, як ветразямі — каравелы,
Шаўкамі жонкі пышныя дваран
І ўглядваюцца ў твар паружавелы,
Што поспехі і ўдачы юнаку
Прыносіць абяцае на вяку.

83 Усе цікавіліся юным донам.
І кожнаму стараўся адказаць
Ён грацыёзным, велічным паклонам,
Бы ведаў, што наканавана стаць
Яму міністрам. На чале ягоным
Пакоілася важнасці пячаць.
Здавалася, што афіцэр зялёны
Быў грацыяй, як сцягам, асянёны.

84 Яе Вялікасцю апекунам
Даручаны быў малады хлапчына.
(Не давяраць прыгожым юнакам
Заўжды ў дарослых знойдзецца прычына.)
Але была сярод прыдворных дам
У зале і Пратасава — жанчына,
Якой *выпрабавальніцы* ярлык
Падараваў якісьці злы язык.

85 З жанчынай гэтай і пайшоў юнак,
Які здаваўся родным братам Феба,
Бо ў рэшце рэшт ён узышоў, аднак,
На горны пік, які цалуе неба.
Ды раскруцілася, нібы вятрак,
Мая фантазія, а значыць, трэба
Даць адпачыць Пегасу — і вярхом
Праехаць па алеях вечарком.

## ПЕСНЯ ДЗЕСЯТАЯ

1 Гавораць, быццам Ньютанам закон
Сусветнай гравітацыі адкрыты,
Калі на дол пад пошум ціхі крон
Упаў у садзе яблык сакавіты.
Хоць ападалі яблыкі спакон
Вякоў на грунт, вучоны знакаміты,
Якога мудрацом бы я назваў,
Нарэшце гэты факт абгрунтаваў.

2 З-за яблыка ўпаў чалавек, аднак
І ўзвысіцца з ягонай дапамогай,
Калі прыгожы малады смяльчак
Няўезджанай нябеснаю дарогай,
Якую торыў кемлівы Ісак,
Памчыцца ўрэшце над Зямлёй убогай,
Зарослай хмызнякамі і травой,
Да Месяца ў машыне паравой.

3 Навошта згадваць Ньютана было?
Бо я адчуў, узяўшы ліст паперы
І завастрыўшы вернае сціло,
Што сам прыпадабніцца ў нейкай меры

Хачу яму, хоць пара, як і шкло,
Не дапаможа здзейсніць мне намеры.
Каб увасобіць тое, чым жыву,
На помач я паэзію заву.

4 Для зор, вядома, тэлескоп мой — цьмяны.
Ды супраць ветру (так, як параход),
Хаця штодзень шпурляюць ураганы
То ўніз, то ўгору мой дзіравы бот,
Плыву бясстрашна я праз акіяны
Страсцей і Часу ўжо не першы год
І абмінаю спрытна тыя мелі,
Дзе б караблі вялізныя заселі.

5 Пакінулі Жуана-смельчака
Мы з вамі ў бляску славы, што не стала
Пакуль што ганьбаю для навічка
І чырванець таму не прымушала
Прылашчанага лёсам юнака.
Захоплена яго вітала зала!
І ён яшчэ не ведаў невыгод,
Што падразаюць крылы асалод.

6 Ды адрастуць абавязкова крылы —
І птушка вылеціць з гнязда, бо іх,
Як псалматворац, хоча і пахілы
Старэча мець, хоць згадкі дзён былых
Яму не вернуць маладыя сілы,
Страсць не запаляць у вачах сляпых.
Як сын, ён толькі ўпотай уздыхае,
Але, як дзед, не перхае, не чхае.

7 Аднак усё — уздыхі, лівень слёзны
І сум, які валодае ўдавой,—
Сціхае ў рэшце рэшт, як Арна грозны,
Што затапляе араллю зімой,
Каб сейбіт новы ў свежыя барозны
Кідаў зярняты радасці вясной,
Аддаючыся тым салодкім марам,
Што глебе зла быць не даюць папарам.

8 Перапыняецца салодкі ўздых
Амаль заўсёды кашлем тым сухотным,
Які маршчыніць чолы маладых,

Як вецер — возера, і мімалётным
Румянцам пакрывае шчокі іх,
Бы вечаровым водбліскам сумотным.
Хто верыць і кахае да канца,
Той варты ганаровага вянца!

9 Ды маці нарадзіла Дон-Жуана
Не для таго, каб шчасця, што даюць
Нам страсныя жанчыны, гэтак рана
Пазбыўся ён, бо чэрвеню не шлюць
Праклёнаў людзі, хоць зямля заслана
У снежні снегам будзе ці скуюць
Дол маразы. Мо лепш пагрэцца летам
І ўзімку ўдзячна ўспамінаць аб гэтым?

10 Жуан меў якасці, што не дзяўчатак
Прываблiваюць болей, а кабет,
Таму што для бяскрылых куранятак
Каханне — прывідны нябесны свет,
А не салодкі, як віно, занятак.
Іх ідэал — зажураны паэт.
Лічыць па Месяцы свае гады я
Вам раю, прыгажуні маладыя.

11 Паверце, гэтым я сказаць хацеў,
Што Месяц гэткі ж зменлівы, цнатлівы.
Я думаю, што кожны зразумеў
Як трэба заклік мой, але калі вы
Падумалі, што я на ўвазе меў
Не тое,— вывад ваш несправядлівы
І *безгустоўны*. Джэфры так сказаў
Пра мой раман, а я не зазлаваў.

12 Калі старыя ворагі сябрамі
Становяцца, я не магу ўявіць,
Каб нехта зноў іх змусіў біцца лбамі
І лютую варожасць узнавіць,
З якою, як з часночнымі зубкамі,
Цяпер я дружбы не хачу вадзіць.
Па мне дык палюбоўніцы былыя
І жонкі — ворагі найболей злыя.

13 І Саўці — найхітрэйшы з рэнегатаў,
Які прытулак для сябе знайшоў

У стайні ўшанаваных лаўрэатаў,—
Не стане рэфарматарам ізноў.
Сумленных каледонцаў і далматаў
І жыхароў Барбадскіх астравоў
Быць флюгерамі хітрасць не прымусіць.
Ніхто з іх вас не ўдарыць і не ўкусіць.

14 Юрыст і крытык цёмныя бакі
Ў жыцці шукаюць і ў літаратуры.
Яны эксплуатуюць род людскі,
Якому даспадобы авантуры.
Нібы хірургі, гэтыя дзялкі!
Іх пільны зрок у глыб людской фактуры,
У ход падзей і ў сутнасць нашых спраў
Спакон вякоў, як скальпель, пранікаў.

15 У чыстыя кашулі і штаны
Ты апрані і напаказ іх выстаў —
Усё адно амаль усе яны
(Бо дваццаць дзевяць з трыццаці юрыстаў —
Агідныя і злыя паўзуны)
Нам нагадаюць брудных трубачыстаў.
Цябе не меў на ўвазе, Джэфры, я:
Ты адвакат — і мантыя твая

16 Чысцюткая, як Цэзарава тога!
Цяпер, шаноўны Джэфры, мы — сябры.
Хаця мяне вы асудзілі строга
(А як усім вядома, песняры,
На жаль,— марыянеткі слова злога),
За *Auld Lang Syne* (што значыць за стары
Цудоўны час) я паднімаю чашу
І прызнаю высакароднасць вашу.

17 Ні з кім з вядомых вашых землякоў
(За выключэннем, мабыць, толькі Скота)
Ніякіх він, ніякіх каньякоў
Мне распіваць, як з вамі, неахвота,
Хоць у Шатландыі шмат сваякоў
Я маю — і шатландца-патрыёта
З сябе не трэба строіць мне зусім,
Бо я з маленства выхаваны ім.

18 Калі я *Auld Lang Syne* шапчу губамі,
Шатландыя чароўная, як сон,
Са стужкамі, з блакітнымі гарамі
І з Балгуінскім валам, Дзій і Дон,
Што мілагучней плешчуцца з гадамі,
Прыходзяць да мяне з мінулых дзён
Сынамі Банка, хоць іх шлях няблізкі,—
І вочы слепяць мар юначых бліскі!

19 Хаця шатландцаў у юнацтве гнеўна
Чыхвосціў я, няўрымслівы рыфмач,
Што абурала некалі, напэўна,
Да глыбіні душы цябе, чытач,
З шатландцамі я параднёны крэўна —
І ты мне словы рэзкія прабач.
Шатландца я ў душы не забіваю:
«Краіну гор і рэк» не забываю.

20 І люты ліхадзей, і дабрадзей,
Ідэаліст і рэаліст (я смела
Сцвярджаю гэта, бо душа людзей
Сябе не можа праявіць без цела,
І не рэальны геній без ідэй) —
Мой Дон-Жуан, якога прыглядзела
Сама царыца, не цураўся дам,
Бо ён не знаў, дзе лепей — *тут* ці *там*.

21 Калі стаў рускім дваранінам дон,
Я не скажу, бо не хачу быць хлусам.
Зазначу толькі: рэдкі маладзён
Асмельваецца даць адпор спакусам.
Падушкай мяккай, што вянчае трон,
Жуан спакусіўся не пад прымусам.
Балы, жанчыны, грошы сцюжны край
Ператварылі для іспанца ў рай.

22 Прыхільнасць да Жуана Кацярыны
Не менела — і часам адчуваў
Ён стомленасць, ды ўсё адно прычыны
Ёй для нездавальнення не даваў.
Ён рос, як у бары растуць яліны,
Заўжды гатовы да *вялікіх* спраў.
Яго ад асалод яшчэ, вядома,
Адмовіцца не прымушала стома.

23 Хутчэй захоплены, чым закаханы,—
Ён стаў рабом распуснага жыцця,
Што вылучыла ўсе яго заганы
І прытупіла свежасць пачуцця.
Бы ў ракавіну — вустрыца, схаваны
Быў дух ягоны ў плоць — і, як дзіця,
Не мог Жуан аддацца марам чыстым,
Бо юны дон зрабіўся эгаістам.

24 Таму, відаць, не трэба згадваць мне,
Што адбывалася паміж жанчынай
Ужо даволі сталаю (а не
Семнаццацігадоваю дзяўчынай)
І афіцэрам юным. Утрайне
Старэйшая, з глыбокаю маршчынай
(Злой дэмакраткай) пасярод чала —
Яна яшчэ прывабная была.

25 Смерць больш уладная, чым каралі!
І ў той жа час яна — Гракх легендарны.
Аднолькавыя лапікі зямлі
Атрымліваюць лорд і смерд бяздарны
У карыстанне вечнае, калі
Падпасці пад яе закон аграрны
І ўгноіць глебу давядзецца ім.
Смерць — рэфарматар. Гэта ясна ўсім.

26 Ды гэткіх думак не было ў паміне
У юнака. Ён жыў сярод віхур,
Узнятых крыналінамі, ў краіне
Мядзведжых (чорных і пушыстых) шкур,
Якія ў той краіне на жанчыне
Убачыш і праз пурпур, і ажур.
Магчыма, што з такіх тканін спадніцы
Насілі вавілонскія царыцы.

27 Як жыў Жуан, я не скажу ні слова,
Хоць гэта і няцяжка мне зрабіць.
За паваротам Дантава дуброва
Лістотай пажаўцелаю шуміць,
Што мною пройдзена жыцця палова —
І я павінен кожны міг цаніць.
Час надыходзіць уздыхаць трывожна
І рухацца наперад асцярожна.

28 Калі змагу прэч думкі адагнаць,
Што не перастаюць майму раману
Сваёй назойлівасцю дакучаць,
Як той шчанюк — матулі, я не стану
Апісваць падрабязна, што спазнаць
З царыцай давялося Дон-Жуану,
Я мару спадабацца чытачу —
І філасофстваваць больш не хачу.

29 Не заляцаўся дон. Наадварот,
Зрабіўся сам прадметам заляцання
Прыгожы смелы афіцэр, чый род
Прызначаны для страснага кахання,
Як той рысак — для ўзяцца перашкод.
Ён быў вытокам велічнага ззяння!
І Кацярыну асляпіў герой,
Як сонца, што заззяла над гарой.

30 Паслаў дамоў ён некалькі лістоў —
І з дому папрасілі фаварыта,
Каб ён у хуткім часе быў гатоў
Уладкаваць ля царскага карыта
Сваіх стрыечных маладых братоў.
А каб Маскву да іхняга Мадрыда
Па клімаце наблізіць хоць крыху,
Параілі яму купіць даху.

31 Інеса ж (задаволеная шчыра,
Што ў Дон-Жуана ўсё пайшло на лад,
Што болей не турбуе ён банкіра,
Хаця і менее ягоны ўклад,
І што цяпер выгодамі жуіра
Любімы сын спакусіцца наўрад)
Надзею выказала, што і потым
Жуан не зробіцца бяздумным мотам.

32 Аддаўшы сына пад апеку Панны,
Інеса папярэдзіла яго,
Каб веры грэчаскай дух акаянны
Гнаў прэч, не рэкламуючы таго,
Бо празеліты ўсе — народ заганны,
І ўзрадавала першынца свайго,
Што брата ён займеў, а закругліла
Тым, што імператрыцу пахваліла.

33 І шчыраю была Інесы ўхвала,
Нягледзячы, што маладых людзей
Расійская царыца шанавала.
Паверыць, што Жуан — пралюбадзей,
Прырода руская ёй не давала.
Было б на берагах Нявы цяплей,
Яна б яшчэ магла засумнявацца.
Калі ж там стынь — навошта хвалявацца?

34 Каб я зрабіўся ўладаром ражка,
Які да вуха цётухна заўсёды
Падносіла, калі яе дачка
Чытала трэбнік, крывадушшу оды
Трубіў бы не цішэй ад сарака
Англійскіх прапаведнікаў, што шкоды
Больш робяць, чым карысці. Серафім
Не асяняе іх крылом сваім.

35 Была сляпая цётка, ды не шэльма —
І ўносіла набожнасцю свой пай,
Як праведнікі існыя, што вельмі
Жадаюць трапіць у нябесны рай,
Таму што Заваёўніка Вільгельма
Нагадваць будзе Страшны суд, бадай.
Падзеліць ён нябесныя святліцы
Так, як Вільгельм — зямлю і камяніцы.

36 Калі не маніць памяць мне, як хлус,
Дык сорак восем замкаў атрымалі
У дар ад яго Эрнейс і Радульфус,
Якія продкамі маімі сталі.
Нарманы, з д'яблам водзячы хаўрус,
Як гарбары, з саксонцаў скуру дралі
І храмы будавалі, каб у іх
Затым пакаяцца ў грахах сваіх.

37 Квітнела шчасце дона пышным цветам,
Што не перашкаджала адчуваць
Яму няёмкасць іншы раз пры гэтым.
Як наш кароль баіцца цытаваць
Твор, што не Саўці, а другім паэтам
Напісаны, стараўся ён схаваць,
Відаць, незадаволенасць краінай,
Дзе сэрца робіцца адразу льдзінай.

38 Відаць... Хоць лепш *відаць* не гаварыць.
Чарвяк сумнення можа рот ружовы
І шчокі спалатнелыя стачыць,
Як і чарвяк магільны, бо жыццёвы
Штодзённы клопат, як ліхвяр, закрыць
Стараецца рахунак свой, каб новы
Нам прад'явіць, магчыма, дні праз тры,
І часта нас даводзіць да хандры.

39 Не ведаю, прастуда ці хандра
Ў тым вінавата, ды Жуан адранку
Аднойчы неспадзеўкі для двара
Не ўстаў з пасцелі, чым сваю каханку
Ўстрывожыў вельмі. Лекар, што Пятра
Лячыў, усклаў віну на ліхаманку.
Каб Дон-Жуан дашчэнту не аслаб,
Піць мёд яму параіў эскулап.

40 І ўсе шаптацца сталі! Палавіна
Сцвярджала, што Пацёмкіным самім
З-за рэўнасці атручаны хлапчына.
«Стаміўся ён!» — здавалася другім.
А трэція казалі, што пухліна
Якаясь раптам завялася ў ім.
Чацвёртыя лічылі, што сімптомы
Ўсе гэтыя — ад ізмаільскай стомы.

41 Чым толькі ні лячылі Дон-Жуана,
А стан яго здароўя быў цяжкі.
Таблеткі, каплі Ipecacuanhae,
Tincturae Sennae Haustus, парашкі
Не памагалі — і сябе пагана
Ён адчуваў, чытаючы радкі:
«Bolus Potassae Sulphuret. sumendus,
Et haustus ter in die capiendus».

42 Назваў я сродкі дзейсныя, якімі —
Secundum artem! — атручаюць вас
І лечаць эскулапы. Знацца з імі
Мы не жадаем у бяспечны час.
Калі ж смерць цягне кіпцямі сваімі
Ў hiatus maxime deflendus нас,
Мы просім, каб не апынуцца ў Леце,
Аб дапамозе Балы, Альбернеці.

43 Хаця, як гаварылі пры двары,
Імператрыцы рускай утрыманец
Меў мала шанцаў выжыць, дактары
Зрабілі ўсё, каб не памёр іспанец,
І на худых шчаках праз тыдні тры
Стаў паяўляцца ў рэшце рэшт румянец.
І вырашыў медычны факультэт,
Што трэба паглядзець яму на свет.

44 Жуан прывык з дзяцінства да цяпла,
Бо нарадзіўся ў старане паўднёвай,—
І пецярбургская зіма была
Для дрэўца субтрапічнага суровай.
З падрэзанымі крыламі арла
Нагадваў зух той раніцай зімовай.
Царыца, напалоханая тым,
Урэшце злітавалася над ім.

45 І, хоць яго далёка адпускаць
Ей не хацелася, неспадзявана
З дыпламатычнай місіяй пасланць
У Англію рашыла Дон-Жуана.
Расіі не давала гандляваць
Пушнінай, салам, маслам канапляным
Тады ў краінах Балтыкі яна —
І страты несла руская казна.

46 Царыца шчодраю была — і славу
Тым у вышэйшым свеце набыла.
Даверыўшы адказнейшую справу,
Яна аддзячыла і падняла
Хлапца, што заслужыў таго па праву.
Інструкцый шмат і ўзнагарод дала
Яна куміру прыгажунь сталіцы —
І ён руку пацалаваў царыцы.

47 Ва ўсім была шчаслівай Кацярына!
А шчасце — гэта ўсё! Але чаму,
Калі займае царскі трон жанчына,
Ідзе ўсё паспяхова? Мо таму,
Што і фартуна як-ніяк дзяўчына?
Замены палюбоўніку свайму
Пакуль што гасударыня не мела,
Але што будзе мець, сцвярджаю смела.

48 Святое месца быць пустым не можа!
Калі прыйшла нарэшце ноч, як сват,
З царыцай, што любіла жыць прыгожа,
Ужо, магчыма, новы кандыдат
На званне фаварыта лёг у ложак.
Такіх ахвотнікаў заўсёды шмат,
Ды толькі той, хто вызначыцца *спрытам*,
Становіцца чарговым фаварытам.

49 Пакуль ні грэнадзёр, ні юны паж
Жуана месца не заняў, я раю
У карэце, у якой пасланнік наш
Імчыцца ўдалеч, вам прысесці з краю.
А гэта быў шыкоўны экіпаж.
Другую Іфігенію (я маю
На ўвазе Кацярыну) неслі ў ім
Калісьці коні ў экзатычны Крым.

50 Бульдога, снегіра і гарнастая
(Сваіх любімцаў) вёз Жуан з сабой.
Чаму да птушак і звяроў такая
Прыхільнасць насычае нас парой,
Дасціпна растлумачыць вам старая
Цнатліўка ці вандроўнік з барадой.
Не меў пасланнік з імі падабенства,
Ды птушак і звяроў любіў з маленства.

51 Паперадзе Жуана два звяры
Сядзелі, пазіраючы паныла,
І птушка; слугі і сакратары —
У другіх вазках, а побач з ім — Леіла.
Каб не Жуан, дзяўчынка без пары
Загінула пры ўзяцці б Ізмаіла
Ад шабель і бязлітасных штыкоў
Раз'юшаных і лютых казакоў.

52 Пяшчотнасць, сціпласць і характар мілы,
Якіх, на жаль, нам гэтак нестае,
Падкрэслівалі прыгажосць Леілы.
І выглядалі ўсе каля яе,
Нібы ля homo sapiens — гарылы
(Ці маманты, як мог сказаць Кюўе).
Было ёй дзесяць — і яна дастойна
Прымала ўсё: без боязі, спакойна.

53 Леіла палюбіла Дон-Жуана,
Хаця Жуан — не бацька і не брат.
Паглядваў на Леілу закахана
І малады расійскі дыпламат,
Якому мець дачку такую рана,
А на сястру які б зірнуў наўрад,
Каб нават вельмі ганарыўся ёю,
З такой пяшчотаю і цеплынёю.

54 Мой Дон-Жуан быў рыцар малады,
А не распуснік той, які гатоў
Зрываць яшчэ зялёныя плады,
Каб імі гарачыць старую кроў,
Як шчолач — кіслатой. Хоць не заўжды,
Усё-ткі платанічная любоў,
Што пазбягае цягі пачуццёвай,
Была яго канцэпцыяй жыццёвай.

55 Так, як айчыну любяць патрыёткі
(Ці патрыёты), дон яе любіў
І тым, што ўратавальнікам сіроткі
Ён, [redacted] не хтосьці менавіта быў,
Хаця і сціплы, ганарыўся ўсё-ткі.
Ён крыжык хрысціянскі ёй купіў
І ахрысціць хацеў, але Леіла
Жуана прапанову адхіліла.

56 Хаця яе, дзяўчынку, Магамет,
Каму яна прывыкла пакланяцца,
Не ўратаваў ад жахаў і ад бед,
Яна не захацела спавядацца
Тым, хто шануе Новы Запавет,
Як і ў ваду святую акунацца,
І паўтарала цвёрда, як урок
Зазубраны, што Магамет — прарок.

57 Відаць, адным з няверных хрысціян,
Хто анічым не раздражняў Леілу
У чужой краіне, быў мой Дон-Жуан,
Які ёй родных, што сышлі ў магілу,
Змог замяніць, хоць не чытаў Каран,
А па-турэцку гаварыў насілу.
Хоць людзі зразумець іх не змаглі,
Яны цікавай парачкай былі.

58 Між тым з турчанкаю іспанскі дон
Праехаў паланёную Варшаву,
Курляндыю, скуль некалі Бірон
На ўладу пазіраў, як на забаву.
Сучасны Марс — Луі Напалеон,
Які абагаўляў сірэну Славу,
Прайшоў тым шляхам потым на Маскву,
Дзе ледзь яму не знеслі галаву.

59 Ускрыкнуў бог, што злеплены быў з праху:
«Дзе гвардыя славутая мая?»
На Каслры не паспеў нагнаць ён жаху.
Пад снегам гвардыя яго. А я
Хацеў бы зараз пакланіцца ляху —
Касцюшку легендарнаму, чыя
Святая слава можа так, як Гекла,
Снягі і льдыператвараць у пекла.

60 Старую Прусію яны мінулі
І Кёнігсберг, дзе жыў філосаф Кант,
Але ў ягоны двор не завярнулі,
Бо Дон-Жуан лічыў, як дылетант,
Што філасофія — пустыя гулі.
І вось ужо імчыцца юны франт
Дарогамі Нямеччыны адсталай,
Раздробленай на часткі, занядбалай.

61 Ужо не сцюжна і не так завейна
Было, калі праз Дрэздэн і Берлін
Да готыкай увенчанага Рэйна,
Да ржавых дахаў і сівых руін,
Якія дажываюць безнадзейна
Свой доўгі век за кратамі раслін,
У рэшце рэшт іх прывяла дарога.
І ўспомніў грэшнік Дон-Жуан пра Бога.

62 Бон [illegible] Драхенфельсам, што над навакольным
Абсягам прывідам былых часоў
Паўстаў; Мангейм са старажытным Кёльнам,
Дзе адзінаццаць тысяч чарапоў
Дзеў беззаганных людзям багамольным
Паказваюць з дазволу святароў,
Убачыў Дон-Жуан з акна карэты.
І мне прыемна факт засведчыць гэты.

63 Ён потым у Галандыі Гаагу
І Гельветлюс наведаў, дзе бядняк,
Як мне вядома, наталяе смагу
Ядлоўцавым напоем і ніяк
Не можа выкараніць гэту цягу.
Галандцам моцнага напою гляк
Адзенне, ежу, дровы замяняе.
Дарма сенат ім піць забараняе.

64 Зноў да Нептуна трапіўшы ў палон,
На караблі пад ветразем надзьмутым
Адсюль, з Галандыі, памчаўся дон
Ужо даўно пракладзеным маршрутам
Да вострава свабоды наўздагон
За свежым ветрам, што шумеў над ютам.
Стаяў ён, гледзячы на караблі,
Што ім насустрач з Англіі плылі.

65 І вось узнік нарэшце белы вал
Над роўняддзю, што ўся была замглёна.
Убачыўшы бель прыбярэжных скал
Туманнага, сырога Альбіёна,
Іспанец, як брытанскі адмірал,
Сябе адчуў узрушана, натхнёна,
Бы гэта ён дзярэ падаткі з хваль
Да полюса Паўднёвага амаль.

66 На Англію не надта я сярдзіты,
Хоць думаю, што жыць маглі ўдвайне
Высакародней і дастойней брыты.
Ужо мінула сем гадоў, як мне
Шляхі ў краіну родную закрыты,
Ды сэрца часам да яе імкне —
І крыўда, што жыла ва мне, аслабла,
Бо Англія мая ляціць да д’ябла.

67 Ці ведае яна, як сёння мараць
Праціўнікі старыя і сябры
Падманутыя, што нарэшце ўдараць
Па галаве ёй помсты тапары
За гвалт, з якім над светам уладараць
Яе нахабнейшыя гандляры,
Хаця магла падараваць свабоду
Яна сягоння кожнаму народу?

68 О Англія! Свабоднай не лічы
Сябе, бо ты з'яўляешся рабою,
Хоць у тваёй кішэні ўсе ключы
Ад тых цямніц, дзе нацыі табою
Утрымліваюцца. Паслугачы
Зла быць не могуць вольныя душою!
Ахоўнік пільны ланцугоў цяжкіх,
Як і нявольнік, закаваны ў іх.

69 Даставіў неўзабаве карабель
У порт шыкоўны маладога дона.
І мытніца, і Дуўр, і той атэль,
Дзе хлопчыкі пры першым гуку звона
Вам паднясуць і рэчы, і партфель,
Ашаламілі госця Альбіёна.
Найболей здзіўлены быў Дон-Жуан
Рахункамі даўгімі англічан.

70 Хоць быў няскватны, шчодры і багаты,
Меў вэксалі, брыльянты і рублі
І не звяртаў увагі на затраты,
Жуан, аднак, збянтэжыўся, калі
Яму грэк-камердынер зухаваты
Рахунак уручыў, які далі
Гаспадары. Дон аплаціў рахунак.
У брытаў і паветра — не дарунак!

71 І вось ляціць ён у Кентэрберы,
Як быццам уцякае ад пагоні.
Імкліва гэтак, што ні гавары,
Ў Германіі не галяпуюць коні.
*Мацуюцца* там Schnaps'ам паштары,
А потым ледзь зацягваюць супоні.
На іх уздзейнічае крык «Hundsfot!»
Так, як маланка на громаадвод.

72 Як смакату супоў і верашчак
Кайенскі востры перац паляпшае
Ды гэтак, што і сытых іхні смак,
Аблізваючы пальчыкі, змушае
Трапезнічаць ізноў, чамусьці так
Настрой нам сапсаваны падвышае,
Кроў саграве і ўзбуджае дух
Хоць бессэнсоўны, але хуткі рух!

73 Там, у Кентэрберы, маўчун кульгавы
Паказваў з абыякавым чалом
Жуану Бекета амбон крывавы
І Эдуарда смелага шалом.
О як мяняюцца грымасы славы!
Становіцца з гадамі парашком
Магнезіі святар усім вядомы
І ржою пакрываюцца шаломы.

74 Прывёў Жуана ў стан душэўнай смуты
І Прынца Чорнага шалом, які
Знявечыў толькі Час — наш вораг люты;
І Бекета святога лёс цяжкі,
Што быў за караля не менш славуты,
Але паў ад наёмніцкай рукі.
Сягоння кат, што завалодаў тронам,
Умела прыкрываецца законам.

75 «Чый гэта дом?» — спыталася Леіла.
«Калісьці жыў у гэтым доме Бог»,—
Сказаў царкоўнік — і яе здзівіла,
Як Магамет пусціў на свой парог
Няверных, што мячэці Ізмаіла
Ушчэнт зруйнавалі, і яшчэ — як мог
Прарок, што веру заснаваў святую,
Пакінуць свінням перліну такую.

76 Далей! Далей! Праз поймы і даліны,
Дзе яблыні цвітуць і ўецца хмель.
Як вабяць вочы сціплыя расліны,
Калі, бы з выраю — той жуpавель,
Паэт чуллівы да сваёй краіны
Ізноў з далёкіх вернецца зямель,
Дзе бачыў вінаграднікі, бананы,
Снег, апельсіны, леднікі, вулканы.

77 Калі ж згадаю я пра кружку піва...
О не, я плакаць не хачу... Паштар!
Па конях — пугай і наперад жыва!
Хай вецер свежы абдзімае твар!
Калі яны не дурні, як на дзіва
І іншаземец, і яе жыхар
Глядзяць на Англію маю — і гэта,
Паверце, вельмі радуе паэта.

78 Люблю я тракты нашы! Як па небу —
З раскінутымі крыламі арол,
Па іх імчацца маю я патрэбу
І радасна паглядваць навакол.
Былі б яны ў дні Фаэтона — Фебу,
Відаць, аплакваць сына, што на дол
Упаў з нябёс, не дасягнуўшы сонца,
Не давялося б горка і бясконца.

79 Псуюць, аднак, настрой на іх заставы
(Якіх зашмат на кожным бальшаку),
Калі, адзеты ў пурпур, стражнік жвавы
Спыняе зірк на вашым кашальку.
«Калі забілі родных дружбака вы,
То гэта лепш, чым запусціць руку
Ў яго кішэнь»,— казаў Макіявелі,
А мы яго, на жаль, не зразумелі.

80 Не забывайце гэта, каралі!
Калі настаў нарэшце адвячорак,
З лагчын на агароды і палі
Папоўз блакітнымі клубамі морак,
А промні сонца гаснуць пачалі,
Мой Дон-Жуан уз'ехаў на пагорак
(Так-так, на знакаміты Шутэрс-Хіл)
І ўбачыў Лондан праз дарожны пыл.

81 Садзілася свяціла. Як з вулкана,
Які яшчэ дарэшты не патух,
З «гасцёўні д'ябла» дым ішоў. Тапкана
На ўзгорку запаволіла свой рух.
Хоць Лондан — не радзіма Дон-Жуана,
Зняў перад ім іспанец капялюх,
Бо паважаў паўночную краіну,
Што пакарыла свет напалавіну.

82 Хаця сталіцу Англіі не буду
Апісваць падрабязна я, між тым
Прызнаюся, што гэта — кучы бруду,
Смурод і копаць, мачты, едкі дым,
І ветразі, і зваленыя ў груду
Чырвоныя цагліны, а ў адным
Спічастым купале яе выразна
Мне бачацца абрысы шапкі блазна.

83 Дым засцілаў і вуліцы, і рэчку —
І дон не бачыў панарамы той.
Нагадваў Дон-Жуану Лондан печку
Алхіміка, што для сям'і зямной
Гатуе «дабрабыт». Як вецер — свечку
(Ва ўсякім разе — з лёгкасцю такой),
Густая хмарнасць дзённае свяціла
Над горадам вялікім пагасіла.

84 Нібыта перад залпам кананір,
Спыніўся дон — і я хачу спыніцца.
Як прыбіральшчык, а не як сатыр,
Хачу да суайчыннікаў з'явіцца.
Іх уратуе праўды эліксір.
З іх бытам не магу я пагадзіцца,
Хоць смецце вымесці, як містрыс Фрай,
З пакояў іх я не змагу, бадай.

85 О містрыс Фрай! Навошта Ньюгет вам?
Лепш прыбіранне пачынаць з Карлтона!
Не гультаям адпетым — каралям
Вам раю прапаведаваць натхнёна
Лухту філантрапічную, бо хлам
І смецце ўсё збіраецца ля трона.
Нядобра паступаць так, містрыс Фрай!
Наўрад ці трапіце вы так у рай.

86 Вучыце грахаводнікаў старых
Сябе паводзіць чынна і спакойна.
Ад падарожжаў адвучыце іх.
Скажыце ім, што ганьбіць непрыстойна
Касцюм гусарскі, бо гадоў былых
Ім не вярнуць; што гэта недастойна
Ўзвялічваць Кертаса, які, на жаль,—
Фальстаф, з якім не расставаўся Галь.

87 Скажыце ім, хоць павучаць іх позна,
Што старцам, выбеленым сівізной,
Аб славе дбаць сур'ёзна — несур'ёзна.
Ім застаецца вабіць дабрынёй,
Бо мудры цар жыве не адыёзна...
Ды неўзабаве грымне голас мой,
І лордаў непакоячы, і грандаў,
Так, як ля Расенваля рог Раландаў.

# ПЕСНЯ АДЗІНАЦЦАТАЯ

1 Епіскап Берклі свет матэрыяльны
Не прызнаваў і называў лухтой,
Даказваючы пастве, што рэальны
Ён толькі — у свядомасці людской.
«Трактат» яго настолькі геніяльны,
Што перад ім пасуе розум мой.
І я паверыць іншы раз гатовы,
Што і бязногі я, і безгаловы.

2 І ўсё-ткі я прыхільнік эгатызму:
Хто ж не захоча *я* сваё прызнаць?
Таму прашу сваіх сумненняў прызму,
Каб не перашкаджала прапускаць
Мне ў грудзі Spiritus ідэалізму,
Які чамусьці хочацца назваць
І сапраўды нябесным алкаголем.
Мо што яго я пераношу з болем?

3 І галава, і страўнік гэтым хмелем
Псуюцца. Пераносяцца лягчэй
Мной зносіны з бязважкім Арыэлем.
Здаецца дзіўным для маіх вачэй,
Што анідзе няма на свеце белым
Суіснавання мірнага людзей,
Плямён і полаў. Не зрабіць памылкі,
Стварыўшы ўсё, ад космасу да былкі,

4 Менш чым за тыдзень, Бог не мог, відаць,
Калі пачатак старазапаветны —
Не выдумка. На жаль, не можа даць
Ніхто на гэта нам адказ канкрэтны.
Ды і навошта попусту гадаць,
Бо ў незваротны вырай кругасветны
Адправімся мы ўрэшце? Толькі там
Адкрыцца ісціны ўсе могуць нам.

5 Ды роздум свой метафізічны ўсё-ткі
Я прыпыню, бо ёсць — што ёсць. І ўсім,
Як думаецца, тэзіс мой кароткі
Павінен спадабацца. Справа ў тым,
Што ўсё часцей выкашліваю з глоткі
Я кроў сваю і надта гаваркім

Быць не магу, тым болей што раблюся
Набожным я і з Бога кпіць баюся.

6 Паверыў я нарэшце ў сатану,
Збавіцеля і ў беззаганнасць Панны —
І, як сваю, Адамаву віну
Адчуў, бо я, як ён, не беззаганны.
Трыяду найсвяцейшую адну
Пакуль я не спасціг, але — старанны
І сціплы вучань — як любы дагмат,
Прыму на веру гэты пастулат.

7 Хто ў Тамбукту бываў; хто бачыў Форум;
Хто любаваўся выглядам Афін
З Акропаля старога, а з Басфора —
Тым горадам, дзе правіў Канстанцін;
Хто сёрбаў чай з кітайскага фарфору
Ў Пекіне ці хадзіў сярод руін
У Ніневіі,— прыйдзе ў захапленне
Ад Лондана не ў першае імгненне.

8 Аднак Жуан упадабаў карціну,
Што перад ім адкрылася. Зірнуць
Даўно хацеў ён зблізку на даліну
Дабра і зла, што Лонданам завуць.
Нагадвала даліна катлавіну —
І, бы ў катле нагрэтым — каламуць,
Над горадам рып колаў падымаўся
І гул, які гудзеннем пчол здаваўся.

9 Ішоў пяшком наш Дон-Жуан каля
Карэты, хоць была сырой пагода,
Шчаслівы тым, што ўбачыў ён здаля
Нарэшце Лондан. «Тут жыве свабода! —
Ён крыкнуў.— Гільяціна і пятля
Тут не заглушаць голасу народа!
Я вам зайздрошчу, англічане! Вы
На ўласны выбар маеце правы!

10 Жанчыны тут святыя. Тут народ,
Як хоча, так аплачвае падаткі,
А цэны павышаюцца штогод,
Бо любіць брыт, да выхвалення падкі,
Усім паказаць, які ў яго даход.

Тут на дарогах жорсткія парадкі...»
Ды бліснуў раптам перад ім клінок —
І ён пачуў: «Жыццё ці кашалёк!»

11 Так гаркнуў самы спрытны і адпеты
З чацвёркі маладых рабаўнікоў,
Калі Жуан, адстаўшы ад карэты,
Ішоў адзін. Нахабства лайдакоў,
Якія адбіралі партманеты
І жыцці ў ездакоў і хадакоў
Дагэтуль шмат разоў беспакарана,
Ніколькі не спалохала Жуана,

12 Бо па-англійску ён не размаўляў.
Славутае ж «God damn!», які любіла
Інеса згадваць, атаясамляў
Жуан з малітвай «Госпадзі, памілуй!»
Або з вітаннем мусульман «Салам!».
Я думаю, вас гэта не здзівіла:
Брыт кожны гэты выраз ужываў,
Калі на помач Бога прызываў.

13 Але дапамаглі нажы злачынцаў
Іспанцу зразумець іх шыбалет.
Умомант умудрыўся ён злаўчыцца
І выхапіць кішэнны пісталет.
У гразь упаў грабежнік першы, быццам
Бык, і зароў: «О Джэк! У іншы свет
Я адыходжу! Куляю адною
Дурны француз расправіўся са мною!»

14 Аднак далі ўсе злыдні лататы.
Калі прыбегла світа Дон-Жуана,
Ні Джэка, ні астатняй свалаты
Ўжо не было. Агледзеў уркагана
Жуан і загадаў падаць бінты.
Але была, на жаль, смяротнай рана —
І «рыцар поўні» хутка астываў,
Аб чым іспанец шчыра шкадаваў.

15 Сумотны роздум авалодаў донам:
«Чаму гасцей расстацца з кашальком
Тут прымушае метрдатэль з паклонам,
А рабаўнік — з аголеным нажом,

Нахабным выглядам, блатным жаргонам
І з медным, як у гэтага, ілбом?
Ды як яго пакінуць тут, скажыце?
Хутчэй прыбраць зладзюгу памажыце!»

16 Ды не паспелі адцягнуць хлапчыну
Лакеі на абочыну, хлапец
Ускрыкнуў гучна, распраміўшы спіну:
«Пакіньце тут! Мне ўсё адно — капец!
Прашу вас Богам, дайце шклянку джыну!»
Ён быў і сапраўды ўжо не жылец.
Сарваў махляр з распухлай шыі шалік
І прастагнаў: «Аддайце гэта Салі...»

17 Сказаў і сціх. Гаротнікам здранцвелым
Змоўк і Жуан, бо зразумець не мог,
Як абысціся з шалем скрывянелым,
Які валяўся ля яговых ног.
Пакуль кішэнямі і дужым целам
Не завалодалі сухоты, Бог
Спрыяў нябожчыку — і быў Том фатам,
Але вясёлым, шчодрым, зухаватым.

18 Калі факт смерці жуліка засведчыў
І неабходны ў выпадках такіх
Судовы допыт свой закончыў следчы,
Дон у суправаджэнні слуг сваіх
У Лондан пакаціў, дзе ён, дарэчы,
Круціцца будзе ў колах дзелавых.
А думкамі ягонымі валодаў
Разбойнік той, якога ён уходаў.

19 Забіты жулік быў увагі варты —
І пра яго легенд хадзіла шмат.
Ніхто не піў, не біўся так і ў карты
Так не гуляў, як гэты супастат,
Які людзей трывожыў не на жарты
І забіваў іх, як заўзяты кат.
А як яны прыгожа балявалі
З каханкай любай — з чарнавокай Салі!

20 Ды хопіць аб істоце нежывой,
Відаць, пісаць, калі даўно ўсё ясна,
Тым болей што такі, як Том, герой

Усё ж павінен паміраць дачасна.
Вітанне, Тэмза, бо па маставой
Уздоўж цябе ў сталіцу, дзе так шчасна
Жывуць усе, імчыць праз Кёнінгтон
Ужо ў карэце залачонай дон.

21 Імчыцца падарожнік напраcткі
Ў сталіцу, стаўшую даўно легендай,
Праз «Груд уцех» і праз бульвар, які
З лістотаю, як lucus — з non lucendo,
Стасуецца; паўз пыльныя ларкі
І скрыні з шыльдамі «Здаю ў арэнду»
Ўздоўж вуліцы, што мае назву «Рай»,
Хаця б там Ева не жыла, бадай.

22 Напэўна, самы малады з паслоў
(Жывы і цэлы — дзякуючы Богу)
Імчыцца міма колаў, галасоў,
Карэт, шынкоў, што запрашаюць грогу
І рому выпіць, міма мальпастоў
І ліхтароў, якія на дарогу
Ліюць ужо лампаднае святло.
(Лямп газавых у час той не было.)

23 З якой дарогі ў новы Вавілон
Вы б ні заехалі, паверце, віды
Убачыце такія ж, як і дон.
Шмат мог бы я нагаварыць, ды гіды
Успрынялі б мой жартаўлівы тон
За здзек і спахмурнелі б ад агіды.
Калі ўжо сонца села, цераз мост
Дон у карэце паскакаў наўпрост.

24 Хаця на мосце, што ні гавары,
Пануе лаянка, ды Тэмзы хвалі,
Вестмінстэрскага храма ліхтары
І тыя поўні, што над храмам ззялі,
Нібы брытанскай славы алтары,
Маю душу калісьці саграваλі.
На Альбіёне месцам найсвятым
Зрабіўся Лондан — дзякуючы ім.

25 Друіды зніклі. (Толькі, як закляты,
Станхендж стаіць, хоць невядома нам,

Што значыць ён.) Затое ёсць вар'яты,
Ды родзічаў, што ходзяць у Бедлам,
Яны не пакусаюць, бо не зняты
З іх ланцугі. На гора даўжнікам
Ёсць каралеўскі суд. Дасюль Абацтва
І Ратуша ратуюць наша брацтва.

26 На радасць наваяўленаму росу,
Гарэлі ярка ліхтароў рады,
Якія цягнуцца па Чарынг-Кросу
І ўздоўж Пэль-Мэль. Нідзе так гарады
Не асвятляюцца. І як тут носу
Не ўзняць угору брыту сапраўды?
Француз, як абзавёўся ліхтарамі,
На іх стаў вешаць здрадцаў з бунтарамі.

27 На змену цьмяным свечкам і лучынам
Прыходзяць вісельнікі. Ім карціць
Свет чалавечы гэткім простым чынам
Сягоння прасвятліць і асвяціць.
З'яўляецца іх спосаб напамінам
Пра слуп фасфарасцэнтны, што стаіць
Па-над магілаю, як ноч прыходзіць,
Але не свеціць — толькі жах наводзіць.

28 Каб узнавіў свой пошук Дыяген,
Не быў бы знойдзены, відаць, ніводны
Сумленны, бескарыслівы джэнтльмен
Сярод гурмы, што насяляе Лондан.
Хаця злачынцаў вешаць узамен
Лямп на слупах у нас пакуль не модна,
Аднак адсутнасць яркага святла
Прычынай гэтага б стаць не магла.

29 На жаль, у свеце процьма пракурораў...
Між тым грымотны грукат малаткоў
Ператвараў тым часам крэдытораў
У скваппных і азартных ігракоў,
А жулікаў з уладных калідораў
У важных чапурыстых едакоў.
Палац Сент-Джэмскі, два ці тры гатэлі
Ў Жуана за акном прамільгацелі.

30 Вось і яго гасцініца, аднак!
І лёкаі (з іх кожны быў адзеты,
Што ўсіх здзівіла, у шыкоўны фрак)
Адразу сыпанулі да карэты.
Каля пад'езда шмат было зявак
І німф начных. Нам гэтыя кабеты,
Як Мальтус той, патрэбны, бо даюць
Халасцякам смак шлюбу ўсё ж адчуць.

31 Жуан распакаваў свае пакункі
Ў гатэлі, што прызначаны для тых,
Хто не звяртае ўвагі на рахункі
І ў Англію прыбыў з краін чужых.
Ілжывыя пасланнікі стасункі
Тут высвятляюць, але потым іх
У скверы відныя перасяляюць
І да дзвярэй гербы іх прыбіваюць.

32 Пасол Жуан меў статус казытлівы:
Прыватнаю асобаю ён быў,
Хаця наказ выконваў асаблівы.
Было вядома толькі, што прыбыў
У Англію ўручыць акрэдытывы
Замежны госць, які жанчын любіў.
Шапталіся, што ролю фаварыта
Выконваў пры царыцы ён нібыта.

33 Пра подзвігі ваенныя яго
І пра яго раманы вёў размовы
Бамонд сталічны — і пасля таго
Шаптання рамантычныя галовы
Ў святле ружовым бачылі майго
Героя і таму былі гатовы
Больш *блізка* пазнаёміцца з паслом...
І хутка ён зрабіўся модным львом.

34 А мода — гэта ўсё для англічанак,
Хоць розум (а не сэрца) іх часцей
Ператварае ў ласкавых каханак.
Ды што было прычынай іх страсцей
(Ці розум, ці кагору пара шклянак),
Мне нецікава ведаць. Карацей,
Галоўнае — дайсці да вабнай мэты.
Хай на мяне не крыўдзяцца кабеты.

35 Жуан прадстаўнікамі ўлады быў
Прыняты ўрэшце і акрэдытывы
Свае каму належала ўручыў,
Але яго дзяцінства рэцыдывы
Былі заўважаны — і хтось рашыў,
Што ён, як з вераб'ём — кот памаўзлівы,
Расправіцца з Жуанам. Акурат
Пра гэта дбае кожны дыпламат.

36 Пра дыпламатаў неўзабаве зноў
Згадаю я, а мо і не згадаю,
Бо ўспамінаць не надта ілгуноў
З раздвоенымі душамі жадаю.
На гаспадынь ілжывых языкоў
Я толькі з захапленнем пазіраю.
Ілгуць з такою шчырасцю яны,
Што не адрозніш праўду ад маны.

37 Ды што такое ў рэшце рэшт мана?
Не больш чым ісціна ў прыгожай масцы!
Усіх бянтэжыць праўды галізна —
І мы гатовы верыць толькі казцы,
За што нагараваліся спаўна.
Прарокаў, пастыраў і іншай трасцы
(Я меў на ўвазе іншых ілгуноў)
Было заўсёды шмат спакон вякоў.

38 Спяваю падхалімам і мане
Я з музай панегірыкі і оды,
А хтось у мізантропіі мяне
Абвінаваціць зноўку, як заўсёды.
Лісліўцу, што, як Эрын, спіну гне
Перад манархам злым і ўсе праходы
Яму гатовы залізаць, хвала!
Лісліваць звеку мудрасцю слыла.

39 Нарэшце быў прадстаўлены пасол.
Яго ныя аблічча і адзенне
(Фрак модны, панталоны і камзол)
Адразу выклікалі захапленне
Міністраў, што стаялі навакол.
А выклікаў найбольшае здзіўленне
Царыцын падарунак — адамант.
Яго, бясспрэчна, заслугоўваў франт.

40 Асоб, манархам акрэдытаваных,
Ва ўсіх краінах сустракаюць так.
Пісцы і тыя ў зносінах з Жуанам,
Як і міністры, праяўлялі такт,
Хоць такт і не ўласцівы для паганых
І самазадаволеных пісак.
Яны вантробы вывернуць спачатку
І ўжо затым прыляпаюць пячатку.

41 О колькі ў дэпартаменце любым
Сядзіць такіх нахабных дармаедаў!
Занятак іх — псаваць настрой усім.
Не верыце — спытайцеся ў суседа,
Што некалі на вопыце сваім
Прывычкі гэтых дармаедаў зведаў.
Упэўнены, што лічыць ён пісак
Плюгаваю пародаю сабак.

42 Хоць Дон-Жуан не верыў кампліментам,
Ён быў прыняты добра — empressement —
І дзелавым, і ўладным кантынгентам.
Больш грубы лексікон у англічан,
Разлучаных пралівам з кантынентам,
Чым у экстравагантных парыжан,
І я таму ўжываю слова гэта.
Прабачце мне, гандляркі з Белінсгета!

43 Ды *чорт вазьмі* (наш самы грубы мат)
За мат кантынентальны больш атычны,
Бо ў іншых лаянках цынізму шмат
І іхні змест не надта платанічны.
Іх не ўжывае наш арыстакрат,
Таму і я не буду ерэтычны
(І эратычны) змест іх паўтараць,
Каб нашу лаянку не абражаць.

44 Са шчырасцю затое ў нас праблемы.
І каб яе знайсці або спаткаць,
Я шчыра раю чытачам паэмы
*Глыб* пераплыць і *пену* разарваць.
Іх, зрэшты, я ўспрымаю як эмблемы
Былога і наступнага. Ды знаць
І меру вершаплаўцу пажадана —
І я вяртаюся да Дон-Жуана.

45 Заходні фешэнебельны раён
Брытанскай рэспектабельнай сталіцы,
Дзе па начах, як водзіцца здавён,
Палююць і балююць львы і львіцы,
Прыняў Жуана так, нібыта ён
Па меншай меры лорд або патрыцый.
Чатыры тысячы гуляк такіх
Глядзяць звысоку на братоў сваіх.

46 У лонданскі высакасвецкі гамуз
Быў без праблем прыняты Дон-Жуан.
Даў дзеве, што хацела выйсці замуж,
Надзею халасцяк-палітыкан,
Замужнюю какетлівую даму ж —
Падбіў хутчэй завесці з ім раман.
З жанатымі амурнічаць, бясспрэчна,
Як непрыстойна, так і небяспечна.

47 Танцор, непераўзыдзены спявак,
Лічы, з дзяцінства самага няцнотны,
З сентыментальным тварам халасцяк,
Як Моцарта мелодыя, пяшчотны,
Быў рыцарам дон у любві, аднак,
Хоць зразумеў даўно, што больш мярзотны
Вышэйшы свет, чым пішуць пра яго.
Я згодны з думкай рыцара майго.

48 Былі ў яго жанчыны закаханы —
І чырванелі пры размове з ім,
Прытым цвілі жаночых шчок цюльпаны
Больш, чым дзявочых, бо вядома ўсім,
Як любяць дамы Лондана румяны,
Як ганарацца выглядам сваім.
Матулі дзеў наводзілі даведкі:
«Ці мае брата рыцар юны гэткі?»

49 Мадысткі, што для лонданскіх франціх
Звычайна шыюць шлюбныя абновы
І патрабуюць, каб работа іх
Была аплачана, пакуль мядовы
Не сыдзе месяц і пакуль жаніх
Не ўчуе шлюбу прысмак палыновы,
Стараліся крэдытаў больш адкрыць.
О як іх цяжка мужу аплаціць!

50 Панчохі сінія, ў якіх пад блузкай
Былі адны санеты і «Агляд»,
Хоць на іспанскай, як і на французскай,
Паскудна размаўлялі, неўпапад
Пыталіся: кастальскаю ці рускай
Захоплены больш юны дыпламат?
Якіх паэтаў сёння ён чытае
І як сягоння Троя выглядае?

51 Хоць знаў паэтаў мала, бедалага
Выказваўся мудрэй, чым Цыцэрон,
Як трапіў пад абстрэл аэрапага
Разумных і назойлівых матрон.
Вайна; любоўныя прыгоды; прага
Наказ, які яму даў рускі трон,
Найлепей выканаць; гарэма сцэны
Адвадзілі хлапца ад Іпакрэны,

52 Якой блакітны колер надала
Задаўшая пытанне баранеса.
Упэўненасць спакойная была
Ў яго адказах. Нават паэтэса
Арманта Сміт запісваць пачала
Іх у блакнот, хоць «Лютасць Геркулеса»
Праславіла яе ў шаснаццаць год.
Зірнуць бы краем вока ў той блакнот!

53 Ён ведаў некалькі замежных моў
І вытанчана карыстаўся гэтым.
Калі б яшчэ хоць некалькі радкоў
Мог прысвяціць ён лонданскім кабетам,
Дык элегантны юны вастраслоў
Праслыў бы геніяльнейшым паэтам.
Шмат хто з жанчын сталічных захацеў,
Каб па-іспанску іх Жуан апеў.

54 Выдатна ў справы Дон-Жуан унік.
І дзесяць тысяч аўтараў сучасных
(Дарэчы, уваходзілі ў іх лік
І «восемдзесят бардаў першакласных».
Часопіс кожны мае ўласны бзік,
А ў выніку — і геніяў уласных),
Як цені — перад Банка, перад ім
На розных зборышчах прайшлі затым.

55 Праз дзесяць год паэт-кумір жывы
Пацвердзіць абавязаны на званне
Паэта геніяльнага правы.
Хоць мне не даспадобы цараванне
Над дурнямі, як ведаеце вы,
Бо слава — горшае выпрабаванне,
Я доўгі час на грэбні славы плыў
І ў царстве рыфмаў Банапартам слыў.

56 Маёй Масквой зрабіўся «Дон-Жуан»,
Як Лейпцыгам з'яўляецца «Фальера»,
А «Каін» — мой ганебны Монт-сент-Жан.
La belle Aliance шматлікай дрэні шэрай
Займае трон, як падае тытан.
Зайздроснікі нам плацяць поўнай мерай.
І я сканаць палоннікам гатоў
На востраве, дзе ключнік — Саўці-Лоў.

57 Раней, чым я, гаспадарамі трона
Сэр Вальтэр Скот, Мур з Кемпбэлам былі.
Паэты-прапаведнікі з Сіона
Цяпер чытаюць жыхарам зямлі
Малітвы псалмадычныя натхнёна.
Пістолі нашы ставіць пачалі
Крылатага Пегаса на хадулі,
А музу, як манашку, апранулі.

58 Яны не барды, як і не мужчыны,
Сум навявае іх царкоўны хор,
Як воцат, надта кіслыя іх віны,
Бо Раллі-Паллі і сучасны Дор
Іх робяць з зеляпушнай садавіны.
А надта пладавіты еўнух Спор
Арэ дзірван паэзіі ўтравелы
І з Камбісам б'е раць жраца Кібелы.

59 Пра Эўфуэса не згадаць пры гэтым
Я не магу. Ён, кажуць, мой двайнік.
Але ж ці можа панаваць над светам
Бард, што ў грахі ягоныя не ўнік?
І Колрыдж стаў выдатнейшым паэтам,
І ў Вордсварта сягоння славы пік,
І лічыць з Лэндарам яшчэ хто-небудзь,
Што Саўці не гусак, а белы лебедзь.

60 Шкада, што крытыкану-ліхадзею
Ўдалося Джона Кітса пагубіць,
Калі ён толькі падаваў надзею
Штось значнае ў паэзіі зрабіць.
Хацеў ён Зеўса, Кронаса і Рэю
Прымусіць мову брытаў палюбіць.
Якая ўсё-ткі ў нашай прэсы сіла!
Яна пажар душэўны пагасіла.

61 Няўхільна павялічваецца спіс
Паэтаў тых, якія прэтэндуюць,
Хоць беспадстаўна, на галоўны прыз
І ўжо сябе да вечнасці рыхтуюць.
Час не прывык ісці на кампраміс —
Ад забыцця іх лаўры не ўратуюць!
Нашчадкі ўвагі не акажуць ім,
Як трыццаці сваім тыранам — Рым.

62 Папаў Жуан у самы нізкі слой
Літаратуры, дзе ўладарыць шайка
Прэтарыянцаў, што не могуць бой
Салдатам даць. Іх муза — папрашайка!
З'яўляецца адзнакай дарагой
Для іх увагі салдафонскай пайка.
Быў дома б я — ніводны янычар
Не змог адбіць бы мой знішчальны ўдар.

63 Я шмат удараў ведаю, аднак
Было б недаравальнаю памылкай,
Калі б у ход пусціў я свой кулак.
Хоць і народжаны з байцоўскай жылкай,
Я самы міласэрны з задзірак —
І муза гордая мая з ухмылкай
Ля гэтых літаратараў прайшла,
Шчаслівая, што не зрабіла зла.

64 Панчохі сінія, як і паэты,
Жуану надакучылі. Таму
Пакінуў гурт ён небяспечны гэты
І ўліўся ў больш салідную гурму —
У гурт разумных жыхароў планеты.
І давялося ў той гурме яму
Зрабіцца яркім промнем нечакана.
Быў сынам сонца ён, а не тумана.

65 Ляжанне на тахце. Гарбата. Прэса,
Якая і тады для чытачоў
Была, як для асілка Геркулеса —
Атручаная ядам гідры кроў
Кентаўра наймагутнейшага Неса.
Вось пералік галоўных пусцякоў,
З якіх дзень пачынаўся ў Дон-Жуана.
Як мы айчыне служым апантана!

66 Рабіў апоўдні Дон-Жуан штодня
Візіты, пешаходныя прагулкі,
А потым ён садзіўся на каня —
І лонданскія вуліцы, завулкі,
А ў рэшце рэшт і паркі напаўняў
У гэтыя хвіліны цокат гулкі.
Без кветак паркі ў Лондане, ды там,
Як Мур пісаў, паветра ёсць для дам.

67 Як толькі прачынаўся модны свет
І надзяваў свае начныя ўборы,
А ліхтары за вокнамі карэт
Мільгалі зноўку, быццам метэоры,
Мяняў і Дон-Жуан свой туалет.
Зноў адчынялі моцныя запоры
Паслу Расіі ўдары малатка —
І ў рай начны ўпускалі юнака.

68 І вось Жуан заходзіць у салон!
Прыстойная ўладальніца салона
Адвешвае трохтысячны паклон,
А пары ў вальсе кружаць акрылёна,
Бо прыгажунь змушае думаць ён.
Нібыта пасяленцы Вавілона,
Апошнія з прыехаўшых стаяць
На лесвіцы параднай і шумяць.

69 Шчаслівы той, хто месца адшукаў
Ля праходных дзвярэй ці ў будуары
І Джэкам Хорнерам адразу стаў;
Хто, іранічна гледзячы на пары,
Сарказму ці самоце волю даў
Ці з раўнадушнай мінаю на твары
Чакае раніцы, каб легчы спаць.
Ды на балах такіх няшмат, відаць.

70 Зайздросцілі Жуану ўсе танцоры,
Бо ён быў самы спрытны з юнакоў —
І ноч усю без боязі па моры
Брыльянтаў, адамантаў і шаўкоў
У вальсах дон не горш ад Тэрпсіхоры
Нястомна плыў, як пасланец багоў.
І выглядаў сярод салонных гурый
Пасол на самай справе, як Меркурый.

71 Тут я хачу параіць кавалеру,
Што вока на багатую ўдаву
Паклаў, не выдаваць свайго намеру
Пры першым мімалётным рандэву.
Я лавеласа, жвавага не ў меру,
Разумным тактыкам не назаву,
Як і народ, якому нецярпенне
Прыносіць большае закабаленне.

72 Слыць хоча дама кожная Венерай —
І ёю заваподвае лягчэй
Той, хто сядзіць насупраць за вячэрай
І не адводзіць ад яе вачэй.
За позірк ваш кабета поўнай мерай
Вам аплаціць захоча найхутчэй.
О колькі шчырых сэрцаў разбівалі
І асалодай напаўнялі балі!

73 Я гэтыя парады адрасую
Звычайным кавалерам, для якіх
Фартуна ўгатавала долю злую,
Бо ёсць нямала зухаў гаваркіх,
Чые манеры, выхадку любую
(«О мне б такі каханак ці жаніх!»)
Захоплена жанчыны ўсе прымаюць
І ўсё рабіць тым зухам дазваляюць.

74 Прыгожы, знакаміты і багаты
Так, як усе героі,— мой герой
Нібы папаў пад арышт і за краты
Пасаджаны быў. Лордаў з галыцьбой
Не параўнаеш, ды арыстакраты
Спагады варты, і характар мой,
Хоць у жыцці я зведаў шмат благога,
Не змог бы вынесці жыцця такога.

75 Жывуць яны, марнуючы гады.
З іх кожны целам зношаны і хворы,
З іх нават малады — не малады.
Даводзілі яўрэйскія канторы
Да разарэння іх і да бяды.
Яны як дэмагогі-рэзанёры
Ў палатах пабалбочуць, а затым
Сямейны склеп адкрые дзверы ім.

76 «Дзе свет людзей? Куды сышлі яны?» —
Спытаў Юнг Эдвард на васьмідзесятай
Вярсце жыцця. Нібыта шар шкляны,
Што вабіў зрок палітраю багатай,
Ушчэнт разбіты ён, бо дзікуны
Ўладараць там, дзе панаваў аратай.
Дзе дэндзі, каралі, правадыры?
Удалячынь панеслі іх вятры.

77 Дзе Банапарт? Спытайце лепш у Пана.
Дзе Каслры? Толькі д'ябал дасць адказ.
Дзе адшукаць, скажыце, Шэрыдана
І ліберала Гратана ў наш час?
Дзе юная прынцэса пахавана?
Куды ўцякла ўладарка ад абраз?
Куды дзяваюць ліхвяры працэнты?
І дзе даходы ад зямельнай рэнты?

78 І Брэмель знік, і Ўайтбрыт на пагосце.
На могілках ужо і Рамільі.
Няма Георга Трэцяга, ды штосьці
Яго папер дагэтуль не знайшлі.
Георг Чацвёрты паляцеў у госці
Да Соўні — у Шатладыю. Калі
Сабаку хтосьці гладзіць або чэша,
Сабака не кусаецца, не брэша.

79 Дзе лэдзі гэтыя і містрыс тыя?
Дзе міс такая і дзе лорд такі?
Адны — забыты ўсімі, бы старыя,
Да дзір заношаныя, каўпакі.
Шлюб новы заключылі маладыя.
Дзе лонданскія гучныя свісткі?
Дзе радасць Дубліна, што збіў вярыгі?
Дзе грэнвільскія флюгеры? Дзе вігі?

80 Дзе лэдзі Фрэнсісы і Караліны?
Калі яны аформілі развод?
Ты ж, «Morning Post», гісторык наш адзіны,
Што лічыць экіпажы з году ў год!
Скажы, якія сёння ручаіны
Ўпадаюць у раку сучасных мод?
Адны памерлі, а другія збеглі
На кантынент і там у флірт улеглі.

81 Адны з іх герцагаў зла́віць жадалі,
Але злавілі ўрэшце іх братоў,
А некаторыя багачкі сталі
Здабычаю махлярскіх невадоў.
Шмат дзеў, што званне маці атрымалі
Пры дапамозе зводніц — не сватоў.
Змен, карацей, у свеце надта многа.
І ў гэтым дзіўнага няма нічога!

82 За сем гадоў больш адбылося змен,
Чым хтось за семдзесят гадоў іх бачыў.
Манарх змяніўся, іншым стаў джэнтльмен,
Сагнуўся лорд, які ўвесь век лайдачыў,
Бо ўсё жывое пастаянна ў тлен
Ператвараецца, як я зазначыў.
І толькі вігі, пэўна, праз гады
Да ўлады будуць рвацца, як заўжды.

83 Юпітэрам быў Банапарт, аднак
Упаў неспадзявана ён Сатурнам.
Я ведаў герцага, які няўзнак
Міністрам стаў — тупым і бескультурным.
Але пара спускаць блакітны сцяг
І плыць удалячынь па моры бурным.
Я чуў, як бэсціў караля народ,
Хоць заслугоўваў ён хвалебных од.

84 Саўкот я бачыў; бачыў цяжкі прэс
Парламента, што выціскае трону
Падаткі з бедных фермераў; працэс
Шлюбаразводны караля; карону
У блазнюка на галаве; кангрэс,
Які навекі зганьбаваў Верону;
Народ, што ношу скідвае з гарба,
Не згодны з доляю асла-раба.

85 Я бачыў геніяльных і вялікіх,
Пасрэдных і нязначных літаратараў;
Шматслоўных, шматаблічных і шматлікіх,
Хоць і смяротных, як усе, аратараў.
Я бачыў вернікаў-ілотаў дзікіх;
Паважных і крыклівых арандатараў.
Я бачыў Джона Буля, што гатовы
Прызнаць, што ён п'янюга бесталковы.

86 Аднак Жуан мой, carpe diem, carpe!
Дзень заўтрашні на іншых юнакоў,
Як на цябе, нашле такіх жа гарпій.
Жыццё — камедыя для лайдакоў.
Не ў справе — справа, а ў славесным скарбе.
Не гаварыце, людзі, шчырых слоў,
Не выдавайце мэт сваіх ніколі —
Іграйце вамі выбраныя ролі!

87 Што мне рабіць з прыгодамі героя
У краіне, дзе шануецца мараль?
Напэўна, лепей адкладу пяро я,
Бо «Аталанту новую», на жаль,
Не напішу я. Гумар — наша зброя.
І тым не менш, што брыты — не крышталь,
Вы ўсё ж пачуць павінны ад паэта,
Хоць вам самім даўно вядома гэта.

88 Што бачыў Дон-Жуан і што рабіў —
Маёй галоўнай застаецца тэмай.
Чытач, ты, спадзяюся, не забыў,
Што я ўслаўляю гэтаю паэмай
Не мілых дам, якіх раней любіў,
І не сябе, хоць светам і багемай
Яна прымаецца зусім не так.
Не вер, чытач, фантазіі пісак!

89 Магчыма, што пажэніць бедалагу
Графіня з трэцяю дачкой сваёй;
А можа, з пункту гледжання пасагу,
Ён возьме дзеву лепшую — і з ёй
Дзяцей народзіць цэлую ватагу;
Ці ў рэшце рэшт судовай валтузнёй
Жуан аплаціць свой імпэт празмерны
У адносінах да модніцы з таверны.

90 Але ўсё гэта нам пакажа час.
Ідзі ж хутчэй з паставай непакорнай
Да чытачоў, праўдзівы мой расказ!
Каб нават быў ты рэччу бездакорнай,
Усё адно пачуў бы шмат абраз
Ад крытыкаў, што мажуць фарбай чорнай
Усё на свеце. Незалежны тон
Я не згаджуся прамяняць на трон!

## ПЕСНЯ ДВАНАЦЦАТАЯ

1 Сярэдні ўзрост больш непрыемны, чым
Сярэднявечча жорсткія законы.
Паміж святлом святым і тлом зямным
Разгойдваецца маятнік ягоны —
І я сягоння кудзерам сівым,
Як змятаю старонкай, засмучоны.
Няўмольна мы старэем з кожным днём —
І ўжо саміх сябе не пазнаём.

2 Нам неўзабаве стукне трыццаць пяць,
А мы сябе ўсё лічым маладымі,
Хоць і дзятву нам цяжка забаўляць
І гутарыць з балакамі старымі.
Дагэтуль страсці ў нас яшчэ кіпяць,
Ды мы застацца мусім халастымі,
Бо золата хвалюе болей нас
У гэты сумны, невыносны час.

3 О золата! Чаму здыхляк багаты
Няшчасным лічыцца, калі яго
Звязалі з асалодамі канаты?
Мы ненавідзім багача таго,
Хоць спажывае ён адны салаты.
Не здолеем дагэтуль аднаго
Мы зразумець, як радуецца шчыра
Ліхвяр няз'едзенай галоўцы сыра.

4 О золата! Цябе не ганю я.
А вось каханне, страсці, прага славы,
Віно, тым больш карцёжная гульня —
Нікому не патрэбныя забавы,

Нас расслабляючая мітусня.
Адвыкнеце ад карт і ад віна вы,
Калі пачнеце золата скупляць.
Нішто, як золата, не можа ззяць.

5 Паклаў сягоння Ротшыльд свет на вагі
І ўзважвае свой гадавы даход.
Ён ценем Банапартавай адвагі
Лёг на цябе, іспанскі патрыёт,
І колы палітычнай калымагі
Мазутам змазвае не першы год.
І хрысціянін Берынг кампаньёнам
Зусім неспадзявана стаў ягоным.

6 Яны ды існы ліберал Лафіт —
Манархі еўрапейскай спекуляцыі:
Або руйнуе троны іх крэдыт,
Або да росквіту прыводзіць нацыі.
Імкнецца завалодаць індывід
Здабыткамі зямной цывілізацыі.
Рэспубліка Калумбія, Перу
Прыносяць куш салідны ліхвяру.

7 Яго багацце — устрымання вынік.
І скнару-багацея называць
Няшчасным, пэўна, можа толькі цынік.
Ва ўсім стараліся абмежаваць
Сябе аскеты, што жылі ў пустынях,
За што царква іх кананізаваць
Спяшалася. Чаму тады мы з вамі
Абураны худымі багачамі?

8 Хаця ягоны прынцып — устрыманне,
Багач-скупеча — у душы паэт,
Бо зліткаў залатых адлюстраванне
У яго вачах. За імі ў Новы Свет
Плывуць народы — і тых зліткаў ззянне
Яго натхняе. Кожны самацвет
Пяшчотны бляск на скнару пралівае
І твар ягоны шчасцем асвятляе.

9 Яму зямлі належаць дзве паўсферы.
З Цэйлона і Кітая караблі
З духмянымі дарункамі Цэрэры

Плывуць да ліхвяра, як і плылі,
А гронкі вінаграду, як Венеры
Спакуслівыя губы, налілі
Зноў для яго сябе салодкім сокам —
І ён для ўсіх манархам стаў няўрокам.

10 Магчыма, распіраюць галаву
Манарха неабвешчанага мары
Пабудаваць шпіталь або царкву,
Ці ўласны бюст паставіць на бульвары,
Ці больш сабраць банкнотаў, як заву
І фунты стэрлінгаў я, і даляры,
І пералічваць іх да скону дзён?
Мо вызваліць народы хоча ён?

11 Аднак усе праекты ліхвяра
Палічыць люд сімптомамі хваробы.
А што тады злы нораў ваяра,
Жаданне ежаю набіць вантробы,
Інтрыгі, п'янкі ўсе et cetera?
Па мне банкір, што вылічае дробы
Капеек, не такі дурны, як мот,
Які гуляе ночы напралёт.

12 Што ў свеце лепш ад зліткаў залатых?
Няўжо не вабяць некага манеты
Сучасныя, на рэверсах якіх
Асоб вялікіх выбіты партрэты,
Хаця мізэрнасць вызначае іх?
Далоні нашы іх цяплом сагрэты,
Бо Аладзіна лямпаю для нас
З'яўляецца манета ў змрочны час.

13 «У лагерах, у цішыні дуброў
Сярод дубоў і пры двары пануе,
Як неба — неабдымнае, любоў».
Скот мае рацыю, калі рыфмуе
Любоў з густымі шатамі дуброў,
Аднак мяне сумненне апануе
Наконт двароў і лагераў, бо двор
Так, як і лагер,— сквапны крэдытор.

14 Двара, кахання, баявога стана
Я не магу без грошай уявіць.

Яны, як над прылівамі — Дыяна,
Ўладараць над усім. І палюбіць
Лепш не дачку рамізніка, а пана,
Як раіць Мальтус. Можа раем быць
Каханне ў шлюбе, бо вяртанне ў соты
Вянчае ўсе пчаліныя палёты.

15 Любоў і шлюб — далёка не адно
І тое ж, ды ўсё роўна быць каханне
Не можа пазашлюбным, хоць яно
Заканчвае нярэдка існаванне
У шлюбе менавіта, як даўно
Заўважана. Царкоўнае вянчанне —
Любві абавязковы атрыбут.
Інача гэта не любоў, а бруд.

16 Ды ў пушчы, лагеры і пры двары
Жывуць мужы, чый грэх асноўны — здрада,
І, значыць, памыляўся ўсё ж, сябры,
Наш Скот вялікі — мой buon camerado,
Якому Джэфры шмат нагаварыў
Слоў пахвалы — і, можа, інтыфада,
Якую вёў са мною крытыкан,—
Ці непаразуменне, ці падман.

17 Мне ўдача здраджвае цяпер, аднак
У маладосці мне яна спрыяла
І ў тым якраз, у чым любы юнак
Патрэбу мае. Гэта акрыляла
Хлапца шчаслівага, як добры знак.
З-за тых уцех я зведаў шчасця мала
У сталыя гады свае, відаць,
Ды поспех той не стану праклінаць.

18 Я быў шчаслівы вельмі — і таму,
Якім канец майго зямнога шляху
Ні будзе, суд нашчадкаў я прыму
Без хвалявання, без надзей і страху,
Хоць болей справядліва даць яму
Усё ж імя Суд Будучага Праху.
Нашчадкі пра сучаснікаў маіх
Знаць будуць столькі, колькі мы — пра іх.

19 Ва ўсякім разе — мы нашчадкі самі.
Але ці многа прыгадаць імён
Славутых продкаў здолеем мы з вамі?
Плутарх быў геніем, аднак і ён
Згадаў няшмат асоб. Прытым з гадамі
Прызнана, што яго натхнення плён —
Фальсіфікацыя, бо нечакана
Мітфорд змог выкрыць грэка-старыкана.

20 О чытачы і крытыкі! Я зноўку
На тон сур'ёзны надта перайшоў,
Нібы пішу паэму пад дыктоўку
Ці Мальтуса, ці Вільберфорса зноў
І да фіналу сунуся па слоўку.
Апошні з іх вярыгі кайданоў
Зняў з неграў і тым лепш за Велінгтона,
Што спутаў белых путамі закона.

21 Усе сур'ёзныя мы на паперы.
Ды што перашкаджае запаліць
Свяцільнік мне, як сонца ўласнай веры?
Нам канстытуцыі мяняць карціць
І вынаходзіць шпаркія галеры,
А хто дзяцей не можа пракарміць,
Што ад грудзей матуліных адняты,
Друкуе негуманныя трактаты.

22 Ён супраць філагеніі! Парыў
Наўздзіў высакародны, рамантычны!
(І сам не ведаю, як паўтарыў
За Мальтусам я тэрмін непрывычны,
Хоць старажытнай назвы не забыў
Вытворчасці людзей.) Ды архаічны
Занятак гэты, як здаецца нам,
Павінен падабацца ўсім людзям.

23 Вяртаюся, аднак, да нашых спраў.
Ты ў Лондане, герой мой, і заўсёды,
Куды б ні трапіў і ні завітаў,
Адольваць вымушаны перашкоды,
Хаця не навічком ты паскакаў
На пошук радасці і асалоды
Ў краіне незнаёмай і чужой,
Якую цяжка зразумець душой.

24 Пра клімат і аб сацыяльным стане я
Усіх краін магу апавядаць
(Ці будзе гэта Францыя ці Данія),
А штосьці пра цябе зарыфмаваць
Не надта проста, Вялікабрытанія.
Не хоча муза пра цябе спяваць.
Грывастых *львоў* шмат у любой краіне,
А Вялікабрытанія — звярынец.

25 Пачаў я балбатаць — сабе на гора.
Ды я, прабачце, не палітыкан
І прапаную вам paola majora.
Як спрытны канькабежац, Дон-Жуан
Па лёдзе коўзаўся і вельмі скора
Ледзь не завёў у Лондане раман
З істотаю, што прагла мук Тантала
Ад кожнага, чыёй каханкай стала.

26 Баіцца толькі агалоскі дама,
Хаця здаецца іншым, што яе
Распушчанасць — святой жанчыны драма.
Яна фліртуе, быццам выдае
Чарговы перл асліха Валаама.
Маралі для яе не існуе.
І шэпчацца зноў асяроддзе злое:
«Хто пра яе падумаць мог такое?»

27 Ды на заходняе любое дзіва
Усходнімі вачамі пазіраць
Працягвала спакойна і маўкліва
Маленькая Леіла. Ёй, відаць,
Жыць не хацелася так мітусліва.
Аб'ектам свецкіх абгавораў стаць
У Лондане было наканавана
Прыгожай выхаванцы Дон-Жуана.

28 Ніхто на вусны хустачкі кабетам
Накінуць не ўхітрыцца, бо для іх,
Узгадаваных бездухоўным светам,
Перамыванне костачак чужых —
Занятак важны. Я сказаць аб гэтым
Павінен, хоць люблю жанчын усіх.
Жуанам выхаваная Леіла
У кожнай з іх цікаўнасць абудзіла.

29 У рэшце рэшт сышліся ўсе на тым,
Што маладой турчанцы небяспечна
Жыць разам з дыпламатам халастым.
Хоць Дон-Жуан сябе паводзіць гжэчна
І страсць сваю не выдае нічым,
Ды паручыцца за яго, бясспрэчна,
Ніхто не можа — і *яе*, відаць,
Старой пэрэсе лепей перадаць.

30 Хоць спрэчкі бурныя былі, усё-ткі
Ніхто з жанчын здавацца не хацеў.
За званне выхавальніцы сіроткі,
Якую ля сябе Жуан прыгрэў,
Змагаліся і ўдовы, і какоткі,
І некалькі вучоных важных дзеў,
Што вартыя «Гісторыі» Галама,
І не адна разведзеная дама.

31 Нагадвала смакоўніцу сухую
З іх кожная, бо не паспела плод
Свой выспеліць. Турчанку маладую
Карцела ім пусціць хутчэй у ход,
Бо першы баль (спытайце з іх любую)
Для прыгажуні маладой, як мёд,
Тым больш калі ў красуні грошай многа
Для здавальнення шалу маладога.

32 Зірніце на джэнтльменаў-жабракоў
І на дзіравыя кішэні пэраў,
На іх матуль, якія ад сынкоў
Больш спрытныя ў здзяйсненні іх намераў.
Зірніце на чароды жаніхоў
І зграі пустаплётаў-кавалераў,
Што вальсамі нявестам ускружыць
Галовы хочуць, каб заможна жыць.

33 Наўрад ці хто з жанчын змагацца стане
За шчасце нечае, хоць ведаў сам
Я маладзіц, што песцілі жаданне —
Жаніць свайго каханка. Гэта вам
Не нагадала, чытачы, «Tantane...»?
Карыслівасць заўсёды ў планах дам.
Іх кожны ўчынак асянёны сцягам
Пагоні смелай за чужым пасагам.

34 На вудачку не кожная дзяўчына
Адразу пападаецца, аднак.
І жаніха-няўдачніка кузіна
Не можа супакоіцца ніяк.
У чым адмовы крыецца прычына,
Яна не разумее: «Як жа так?
Міс Ігрэк з Федэрыкам фліртавала,
А аказалася, што жартавала».

35 «Пакрыўдзіла яна яго дарма! —
Узмахвае рукамі неўвярэда
І абураецца: — Яна ж сама,
А не яе пасаг прывабіў Фрэда!
Нібыта ў іншых жаніхоў няма
Заган ніякіх? Гэтай дзевы крэда —
Какецтва непрыстойнае само!
А ці чыталі вы яе пісьмо?»

36 Гурт прымушае лордаў і педантаў
Хадзіць даволі доўга ў жаніхах.
Ён адвяргае нават фракі франтаў
І залатыя кветкі на гербах —
І ўрэшце выбірае спекулянтаў,
Якіх прывабіў дарагі пасаг,
Пасля чаго не могуць не зласловіць
Усе адрынутыя, так бы мовіць.

37 Дапамагае выйграць латарэю
Настырнасць прэтэндэнта-жабрака,
Які згубіў апошнюю надзею,
Што не адвергнецца яго рука.
А іншы раз і бабылю-жакею,
Хоць кандыдату ўжо ля сарака,
Ўдаецца выйграць латарэю тую.
І на нявест я надта не крыўдую.

38 Я сам — юнак наіўны і бяздумны —
Аж дваццаць прэтэндэнтаў перамог.
(Хоць справядлівы выпадак, ды сумны.)
Відаць, тады мне дапамог не Бог,
А д'ябал хітры, бо сусед разумны
Мяне не ўнёс чамусьці ў каталог
Прыстойных жаніхоў — і пры вянчанні
Нявесце ўслых выказваў шкадаванні.

39 Прабачце адхіленне мне — і следам
За мной шыбуйце. Для мяне цяпер
Мараль — нібы малітва прад абедам.
Ваш апякун, таварыш і трувер,
Непадуладны каралям і бедам,—
Хачу я ў веру абярнуць нявер,
Дзе б ні жылі яны. І ў тым прычына,
Што мой Пегас так выступае чынна.

40 Няпраўду нельга гаварыць адну.
Выводзіць пустазелле трэба дбала.
Калі ж я зараз паднімаць пачну
Пры дапамозе ржавага арала
Грахамі ўгноеную цаліну,
То свету прынясу карысці мала.
Пры дапамозе рала і сахі
Не выведзеш спрадвечныя грахі.

41 Напэўна, будзе лепш, калі прыстрою
Маленькую Леілу я спярша.
Ззяў твар яе світальнаю зарою,
Іскрылася, як снег, яе душа
І ўлетку, і асенняю парою.
Прыносіць, як гашыш ці анаша,
Такім вось лішак волі і свабоды
Нямала непрыемнасцей і шкоды.

42 Пасол расійскі, з самага пачатку
Ўсвядоміўшы, што ён не педагог,
Выхоўваць маладую азіятку
Даверыў лэдзі Пінчбек, бо не змог
У пансіён аддаць ён кандыдатку
На званне дзевы. Быццам абярог,
Яна аберагаць Леілу стала,
Бо верніц дабрачынных прадстаўляла.

43 Ужо даволі сталая кабета —
Яна была калісьці маладой
І вызначалася (я веру ў гэта),
Як і цяпер, прыстойнасцю сваёй,
Хоць кажуць, што... Ды цнотны слых паэта
Не хоча нават літары адной
Тых плётак чуць. Мы ж не жывёлы ўсё-ткі.
Як жвачку, нельга пражоўваць плёткі.

44 Дарэчы, я перакананы сам
(У дурняў — іншае перакананне),
Што толькі тая з міласэрных дам,
Якой прынесла бурнае каханне
Шмат непрыемнасцей, даць можа вам,
Як кажуць, правільнае выхаванне.
Не можа вас наіўны чалавек
Абараніць ад бед і небяспек.

45 Манерніца, якая ганіць страсці,
Карысці словам вам не можа даць.
Наадварот, яна паможа ўпасці,
Пасля чаго нялёгка будзе ўстаць.
Калі ты марыш аб сапраўдным шчасці,
Даверся той, якая пачакаць
І прыглядзецца раіць, бо спазнала
І захапленняў, і спакус нямала.

46 Парадамі такія не пашкодзяць:
Спазналі гэты свет яны не з кніг!
У векавухах спешчаных не ходзяць
Ніколі дочкі мацярок такіх,
Бо без праблем пакупнікоў знаходзяць
На кірмашах вясталак маладых.
Какецтва і манерныя манеры
Шануюць вельмі рэдка кавалеры.

47 Пра маладую лэдзі Пінчбек чуткі
Хадзілі розныя, бо мілы твар
Быў у яе і стан даволі гнуткі.
Нічога дрэннага цяпер пляткар
Не кажа пра кабету. Розум хуткі
І дабрыня, ёй дадзеныя ў дар,
Яе зрабілі дамай міласэрнай
У рэшце рэшт і нават жонкай вернай.

48 Не меней, чым памылак нарабіла,
Яна зрабіла дабрачынных спраў.
Мне дзвюх бы песень, пэўна, не хапіла,
Каб я падлічваць зараз іх пачаў.
Турчаначка маленькая Леіла,
Якую Дон-Жуан ўратаваў,
Была атулена адразу ёю
Спагадай і бязмежнай цеплынёю.

49 Кабета шанавала і Жуана,
Бо зразумела з першых дзён яна,
Што сэрца юнака не сапсавана,
Хаця спакус і цяжкасцей спаўна
Было герою ўжо наканавана.
Лічы, ні з чым застаўся сатана.
Ні гнеў султаніхі, ні шторм, ні кулі
Душы прыгажуна не закранулі.

50 Нягоды і спакусы перанёс
Надзіва лёгка малады нябога.
Старыя толькі крыўдзяцца на лёс
І беспадстаўна вінавацяць Бога.
Журботным выглядам і градам слёз
Іспанец не расчульваў анікога:
Хто выяваў і знёс жаночы гнеў,
Загартаваўся і паразумнеў.

51 Леіла апякункаю, нібыта
Дзяўчо — малодшая дачка яе,
Выхоўвалася ўмела, дзелавіта.
Жуан быў рады, што перадае
Турчанцы лэдзі Пінчбек менавіта
Духоўныя каштоўнасці свае.
Звычайна, быццам ракаўку Цытэры,
Перадаюць так яхту лорды-мэры.

52 Магчыма, вас бянтэжыць сказ такі,
Але ўсе таленты перадаюцца
Так сапраўды ад маці да дачкі.
Залежыць гэта ад таго, як гнуцца
Ў дачок мазгі, калені, пазванкі.
Адны ў вір метафізікі імкнуцца,
Другія — танчаць, трэція — пяюць,
Чацвёртыя на цэлы свет злуюць.

53 Для іх істэрыка — не эскапада.
А таленты дзявочыя (імпэт,
Прытворства, тэалогія, пажада,
Слых музыкальны, розум і карсет) —
Для лордаў і для ўсіх мужчын прынада.
Гурмой вясталак новых белы свет
Хутчэй папоўніць — кожнай дзевы мэта.
І кожны з нас павінен помніць гэта.

54 Але якім я ўсё-ткі стаў марудам!
Дванаццаць песень я прапеў для вас,
Ды ўсе яны здаюцца мне прэлюдам
Ці ўступам толькі. Не пачаць расказ
Дагэтуль я ўхітрыўся нейкім цудам.
Настройваў струны ліры я ўвесь час!
Але вы не рабіце выгляд хмуры,
Бо я ўжо прыступаю да ўверцюры.

55 Апошні замацоўваю калок —
І кратаю тугія струны ліры!
У муз маіх высокі паталок!
Не поспех вабіць іх! Намер іх шчыры —
Даць вам «вялікі павучальны ўрок».
Я песень болей у разы чатыры,
Чым думаў, пэўна, напішу для вас,
Калі, аднак, не стоміцца Пегас.

56 Вышэйшы свет, што на хадулі ўзлез,
Так уладарыць над астатнім светам,
Як уладарыць над клінком эфес.
Хоць мала хто жадае быць клеўрэтам,
На поўдні, поўначы, на ўсходзе (спрэс!)
Кіруемся мы мікракосмам гэтым.
Ва ўсіх імперыях для цёмных мас
Свет гэты — сонца, месяц, свечка, газ.

57 Хаця ён і вышэйшы, ды малы.
Жуану і сябры, і іх кабеты
На балі і святочныя сталы
Давалі запрашальныя білеты,
Каб раніцай пад покрывам імглы
Праводзіць далікатна да карэты.
Такім жыццём не болей чым сезон
Мог захапляцца, безумоўна, дон.

58 Багаты, знатны халасты юнак
Іграе ролю цяжкую ў тым свеце,
Бо клетка, дзе знаходзіцца гусак,
У кожнага ў тым свеце на прыкмеце,
І, як гусак, ён можа сам няўзнак
Папасціся неспадзявана ў сеці,
Расстаўленыя дзевай маладой
Ці вопытнай і хітрай удавой.

59 Аднак што гэта — правіла, ніколі
Я клятвы, безумоўна, вам не дам,
Бо і такіх жанчын яшчэ даволі,
Якія (дзякуючы караням
Прыстойнасці) прамыя, як таполі.
Ды больш сірэн, якія лашчаць нам
Напевамі вушныя перапонкі.
З такой пабудзьце — купіце пярсцёнкі.

60 Упэўнены, праз тыдзень акурат
Вы атрымаеце пісьмо матулі
З папрокам, што пакут прынеслі шмат
Дачцэ, як толькі на яе зірнулі.
А можа, з'явіцца ў карсеце брат
І скажа: «Ці не час заканчваць гулі?»
І вы падоўжыце жанатых спіс,
Пайшоўшы з пачуццём на кампраміс.

61 Ва ўсякім разе, шлюбаў вось такіх
Не менш за тузін ведаю я, пэўна.
Ды не заўжды абкладзены жаніх
(Як бакенбарды брат ні пушыць гнеўна
І як матуля ў клопатах сваіх
Ні рупіцца), каб не гібець душэўна
І цешыцца свабодаю сваёй,
Спяшае абзавесціся сям'ёй.

62 Другая небяспека навічкоў
Чакае ў свеце тым. Яна, магчыма,
Нястрашная, як шлюб або любоў,
Ды лепш, калі яна праходзіць міма.
Я не скажу ніколі крыўдных слоў
Распусніку з абліччам пілігрыма.
З какетак маскі я хачу сарваць,
Якіх амфібіямі лепей зваць.

63 Яны не кажуць жаніхам знявераным
І «так» і «не», бо іхнія пакуты
Прыносяць радасць куртызанкам ветраным,
Якія жыць не могуць ні мінуты,
Каб не прынесці гора новым Вертэрам
І ў душы іх не кінуць зерне смуты.
Шмат павянчалі жаніхоў з магілаю
Какеткі гэтыя манаю мілаю.

64 Які я балбатлівы, Божа мой!
А твар мой — як вучэбны дапаможнік.
Той, хто гуляе з жонкаю чужой,
У нас ганьбуецца, як той бязбожнік,
Хоць гэта — флірт бязгрэшны за мяжой,
Што вам пасведчыць кожны падарожнік.
На жаль, наш гнеў і на сучасных Еў
Страшнейшы, чым для Евы — Божы гнеў.

65 Я Англію сваю лічу краінай
Газетных плётак, іскаў і судоў,
Дзе небяспечна сябраваць з дзяўчынай
Хлапцу такіх жа, як яна, гадоў.
Іх рамантычнай сувяззю бязвіннай
Прадажны брыт спекуляваць гатоў.
І сведкі ў Англіі, і адвакаты
Усе — паклёпнікі, а суддзі — каты.

66 Ды ў пасткі, што паўсюдна расстаўляе
Жаночае ўпраўленне неўпрыкмет,
Звычайна толькі навічок трапляе.
Акторскі талент, як імунітэт,
Напасці ад распусніц адхіляе,
Хаця на кожны баль і на абед
Шмат прыязджае алігархак гэтых —
Высакародных, чыстых, разадзетых.

67 Сярод вачэй блакітных і панчох
Жуан нібыта знемагаў ад стомы,
Хоць ён у флірце быў не навічок,
А рыцар, як вядома нам, вядомы
І за душой меў не адзін грашок.
О востраў, дзе, як мелавыя стромы,
Бялеюць плечы і жанчын, і дзеў!
Я абражаць твой гонар не хацеў.

68 Гарачы, рызыкоўны, малады,
З душою рамантычнай і свабоднай —
Герой мой трапіў неспадзеў туды,
Дзе лічыцца каханне рэччу моднай
(Хаця давесці можа да бяды),
І гурый нацыі высакароднай
З-за густу дрэннага не ацаніў,
Хаця яны прыгожыя наўздзіў.

69 На жаль, перакanaўся ён не з ходу,
Што англічанкі лепей ад кабет,
Квітнеючых пад ветахамі Ўсходу.
Для вас таксама, пэўна, не сакрэт,
Што з вывадам паспешным Час нязгоду
Выказвае нярэдка. Tête-à-tête
Я чытачу свайму хачу прызнацца,
Што я магу таксама памыляцца.

70 Каб я пад афрыканскім небасхілам
Да Тамбукту дзівоснага даплыў
(Як падарожнік) Нігерам ці Нілам
І царства немагчымае адкрыў
(На жаль, Еўропа цягнецца пахілым
Валом па Афрыцы), то палюбіў,
Відаць бы, чорны колер паступова.
Прывычкі — нашых поглядаў аснова.

71 І ўславіў бы я негрыцянак цэлы.
Хоць белым чорнае назваць ніяк
Я не магу, але што колер белы
Бывае чорным, ведаю, аднак.
Я мог бы напісаць пра гэта цэлы
Трактат. Ва ўсякім разе, і сляпак
Не бачыць высяў сонечных і зорных
І ўсё ўяўляе толькі ў фарбах чорных.

72 У лабірынт разваг я трапіў зноў,
Хоць нітка пуцяводная — як сродкі
(Яны нагадваюць мне матылькоў
Над прыскам) ад сухотаў. Але ўсё-ткі
Я чужаземкам пару цёплых слоў
Хачу сказаць, бо нашыя какоткі —
Як дзень палярны, у якім цяпла
Зусім няма, затое шмат святла.

73 Ды лепей нашых лонданскіх вясталак
За рыбін хвост і чалавечы твар
Аднесці да супольнасці русалак.
Датла спаліўшы пачуццёвы жар,
Як рускія — ад пары і мачалак
Чырвоныя, бы выкрыты махляр,—
Кідаюцца ў халодныя сумёты,
Яны даюць нырца ў сумёты цноты.

74 Іх знешнасцей не ацаніў Жуан,
Бо імі лепшых якасцей палова
Хаваецца звычайна. Іхні клан
Штурмуе нашы сэрцы паступова
І не выкарыстоўвае таран.
Аблога — іхніх поспехаў умова.
Вядома, што пасля такіх асад
Яны не могуць адступіць назад.

75 Ні поступу арабскага каня,
Ні велічы дзяўчыны андалузскай,
Якая з храма на пачатку дня
Вяртаецца дамоў сцяжынай вузкай,
Няма ў брытанкі. Рэдка чарцяня
Дурэе ў ёй з пачцівасцю французскай.
А голас англічанкі, як і слых,
Слабей, чым у аўзонак маладых.

76 Пікантнай смеласці, якой даніну
Мы аддаём дракону, у яе
(Вядома, я брытанскую жанчыну
На ўвазе маю зноўку) нестае.
Скупая на пагодлівую міну,
Паклоннікам гарачым не дае
Надзей яна ў час першага спаткання,
Хоць прагне ўпотай страснага кахання.

77 Яна запалымнее не цяпер!
Спярша яе любоў — даніна модзе,
Капрыз дзіцячы, жарт, а не намер
Знайсці задавальненне ў асалодзе.
Як цацка, ёй патрэбны кавалер!
Саперніцу памучыла — і годзе!
Затое, пэўна, на дзесяты раз
Яна, як бура, наляціць на вас.

78 Не дай Гасподзь, каб гэта навіна
У суправаджэнні злога каментарыя
Увесь горад абляцела, а *яна*
Згубіла ўсе правы, як тая парыя.
Такіх зганяе гамана-мана,
Як Сула палкаводца Гая Марыя,—
І пакаранне за салодкі грэх
Руйнуе іхні Карфаген уцех.

79 Каб найхутчэй вярнуць у лона веры
І святасці, да грэшніцы такой
Не грэх, відаць, прымаць якіясь меры,
Ды не суду, а брацкі святой,
Хоць грукацца ў зачыненыя дзверы
Не трэба прыгажуням за мяжой,
Што захапіліся і саграшылі,
Але пасля пакаяцца рашылі.

80 Ва ўсякім разе, я, калі прызнацца,
Вядома, супраць жорсткіх мер такіх.
Суровы суд змушае нас баяцца
Не так грахоў, як агалоскі іх.
Мараль не можа ў чарапы ўбівацца
Ударамі прысудаў найцяжкіх.
Асуджаныя ўсе, я прыкмячаю,
Грашыць больш пачынаюць ад адчаю.

81 Жуан не казуіст — і аб маралі
Не гаварыў ніколі мой герой.
Хоць сотні дзеў Жуана асаджалі,
Ён не знайшоў па густу ні адной.
Усе яны яго расчаравалі —
І дон гарачы ачарсцвеў душой.
Ён радаваўся поспеху, вядома,
Ды пачуццёвасць прытупіла стома.

82 Што Дон-Жуан ахаладзеў да дзеў,
Парламенцкія зборні вінаваты.
Здаралася, начамі ён сядзеў
На іх і слухаў бурныя дэбаты,
Што скаланалі свет. І свет глядзеў
На небасхіл, свяцiламі багаты.
Грэй не ўзышоў яшчэ тады, а Піт
Ужо зайшоў — і кануў у нябыт.

83 У дзень апошні сесіі на троне
Сваім канстытуцыйным і тады
Сядзеў кароль у велічнай кароне.
Стаць дэмакратамі ўсё ж сапраўды
Ніяк не могуць дэспаты ў законе
(Хаця з законнасцю ў іх нелады),
Пакуль не растлумачыць ім свабода,
Што значыць для цара давер народа.

84 Дон бачыў там і прынца маладога,
Што першым прынцам быў. Яго чало
(Як падабенства сонца веснавога)
Праменіла надзеі і святло,
Хаця і каралеўскай пыхі многа
Ў яго паставе велічнай было.
Ён быў увесь джэнтльменам, а не фатам
І падабаўся нават дэмакратам.

85 Жуан прыняты быў вышэйшым светам
З прыязнасцю, як я раней казаў,
І здарылася тое з ім пры гэтым,
Чаго баяўся я. Ён унушаў
Характарам вясёлым, этыкетам
Любоў усім, а значыць, спакушаў
І свет яго. І не заўсёды дону
Ўдавалася наладзіць абарону.

86 Як ён грашыў і спакушаўся кім,
Калі, чаму і дзе ўсё адбылося,
Мы з музай ведаем, ды прамаўчым,
Каб спакайней абодвум нам жылося.
Я мараліст — і рад, калі хоць чым
Расчуліць вашы сэрцы мне ўдалося.
Як сын Філіпа, помнік на гары
Узводжу я паэтыцы, сябры.

87 Дванаццатую песню завяршаю
На гэтым я. Калі пачну раман,
Вы ўбачыце, што я вас павучаю,
А не разбэшчваю. Калі ж мой план
Не даспадобы вам, я не змушаю
Мяне чытаць. Не дазваляе сан.
Душою разняволеныя барды
Не пазбягаюць ганьбы і пагарды.

88 І вас няволіць я ні ў чым не стану.
Калі вы моліцеся Перуну,
Згадайце апісанне ці ўрагану,
Ці тое, што пісаў я пра вайну.
Пра эканоміку краін па плану
Размову з вамі я цяпер пачну.
Спяю яшчэ, калі Гасподзь дасць сілы,
Я песню пра нябесныя свяцілы.

89 Цяпер, калі ў грамадскім частаколе
Ужо амаль усе калы згнілі,
Нам з вамі неабходна, як ніколі,
Пралезці неяк праз яго, калі
Мы ўсе сабе жадаем лепшай долі.
План здзейсніць барду б вы дапамаглі,
Калі б яму спіс аўтараў даслалі,
Што пра нацыянальны доўг пісалі.

## ПЕСНЯ ТРЫНАЦЦАТАЯ

1 Мой жартаўлівы твор увагі варты,
Хаця пакуль не заслужыў пашан.
Злачынствам лічыць дабрачыннасць жарты,
Накіраваныя супроць заган.
А, як вядома, я не вельмі ўпарты
І мушу стаць сур'ёзным, хоць раман
Прыпадабню разбітаму сабору,
Які імкне адну калону ўгору.

2 Кажу сур'ёзна: лэдзі Адэліна
Амундэвіль (нармандскі род) была
Багатая і знатная жанчына
І звацца прыгажуняю магла
Ў Брытаніі, хоць гэтая краіна
Шмат свету дасканаласцей дала.
Брытанцы лічаць, што не толькі неба
Таму спрыяе, а і наша глеба.

3 Пакуль я ў Лету ціхую не кану,
Жанчын з пяшчотным колерам вачэй,
Здавалася, любіць не перастану,
Ды час ляціць, на жаль, усё хутчэй —
І я выказваю сваю пашану
Жанчынам з кожным днём усё радзей,
Хаця да трыццаці гадоў мужчыне
Здаецца ўсё прыгожым у жанчыне.

4 А потым прыйдуць сталыя гады
І ператвораць нашу поўню ў ветах.
Крытыкаваць мы прымемся тады
Ці па прывычцы славіць гурый гэтых,

Бо супакоіцца шал маладосці —
І зразумеем мы, што не ў кабетах
Уцеха наша і што трэба нам
Яе перадаверыць юнакам.

5 Не можа абмінуць нас гэта эра.
Жаданне іншых адтэрмінаваць
Прыход яе — звычайная хімера.
Калі жыцця экватар здратаваць
Нам давядзецца, добрая мадэра
Нам вечар свой паможа паліваць.
Уцехай нашай зробяцца плакаты,
Даўгі нацыянальныя, дэбаты,

6 Што лютасцю пераўзыходзяць штормы,
Царква, фінансавыя аперацыі,
Падаткі, войны, мітынгі, рэформы
І ўсё, што вызначае сутнасць нацыі.
Варожасцю, што ігнаруе нормы
Паводзін і таму не мае рацыі,
Гады напоўняць наша існаванне.
Яна мацней намнога, чым каханне!

7 Вялікі Джонсан-мараліст казаў,
Што любяць ворагаў некрывадушных.
Ніхто за тысячу гадоў не даў
Парад і настаўленняў болей слушных,
Хаця хітрун, магчыма, жартаваў.
Сярод людзей здаволеных і скрушных,
Як Мефістофель Гётэ, я агляд
Раблю палацаў і пахілых хат.

8 Я крайнасцей ні ў чым, калі прызнацца,
Не прызнаю і не люблю, бо ў зман
Мяне нялёгка ўвесці, і змагацца
Я супраць недахопаў і заган
Не буду ўжо. З іх лепей пасміхацца!
Я прачытаў Сервантэса раман
Пра рыцара старога Дон-Кіхота —
І ў бой ісці прапала ўся ахвота.

9 Вясёлы твор, напэўна, самы сумны.
Яго герой, наіўны Дон-Кіхот,
З млынамі, быццам чалавек бяздумны,

Змагаецца не дзеля ўзнагарод,
А дзеля праўды — і чытач разумны
Пасмейваецца: «Гэта ж ідыёт!»
Такою безвыходнасцю маралі
Трагедыі нас не ашаламлялі.

10 Высакародней, пэўна, спраў няма,
Чым абарона гонару жанчыны,
Як вызваленне нацыі з ярма
І помста за знявагу бедачыны.
Няўжо мы робім гэта ўсё дарма —
І толку ад актавы ці тэрцыны
Маёй не больш, чым ад старых балад?
Няўжо той самы Дон-Кіхот Сакрат?

11 Насмешкаю з няўдачніка, што быў
Натхнёны мэтаю высакароднай,
Дух рыцарства іспанскага забіў
І правую руку краіны роднай
Адсек Сервантэс. Свет, які любіў
Рамантыку, апраткаю нямоднай
Яе сягоння лічыць. Поспех свой
Купіў Сервантэс дарагой цаной.

12 Я трапіў у чарговы раз, аднак,
На гора чытачам, у ручаіну
Развагі адхіленняў — і няўзнак
Забыў пра прыгажуню Адэліну.
Заблыталіся лэдзі і юнак
У сплеценую лёсам павуціну.
Не знаю, што б рабіў Жуан, калі б...
Але жыццё — як Сфінкс, я ж не Эдып.

13 Прабачце мне, бо «Davus sum»... Вакол
Красуні той, што зграбнасцю сваёю
Нагадвала ўсім каралеву пчол,
Вілося трутняў шмат. Мужчына з ёю
Язык развязваў, а жаночы пол
Пераставаў займацца балбатнёю,
Што можна цудам, я лічу, прызнаць
Ці непаўторным выпадкам назваць.

14 Яе стаць жонкай змусіла любоў.
Быў муж кабеты чалавек шаноўны
Як член дзяржаўных розных устаноў
І меў як брыт характар памяркоўны,
Хоць энергічна пляжыў крыкуноў.
Быў іхні шлюб, як амулет ахоўны.
Ёй сэрца грэла дабрыня, яму ж —
Упэўненасць, што ён шчаслівы муж.

15 Звялі дыпламатычныя пытанні
Яго і іншаземнага пасла.
Пры ўсім сваім прыродным устрыманні
Душа брытанца гордага была
Уражана Жуанам. Іх спатканні
Прывычкай сталі, што перарасла
У шчырае сяброўства неўзабаве.
Шануюць розум і на самай справе!

16 Лорд Генры надта стрыманым, і гордым,
І асцярожным быў і ў той жа час —
Настойлівым і неразумна цвёрдым,
Бо меркаванне, зробленае раз,
Ніколі не аспрэчвалася лордам.
Ён не мяняў сяброў, як лавелас —
Жанчын, і часам сябраваў упарта
З нягоднікам, з кім сябраваць не варта.

17 Яго пачуцці, як мідзян законы,
Заўсёды непарушнымі былі —
І гэта яўны недахоп ягоны.
Сімптомы ліхаманкі той, калі
То плачаш, здрадай сябра засмучоны,
То зноў яго шануеш, не змаглі
У ім яшчэ ні разу праявіцца,
Хоць у сябрах ён мог і памыліцца.

18 «Удачай смертнаму не кіраваць!
Мы зробім больш, Семпроній», на здзіўленне
Ўсім людзям, навучыўшыся ўступаць,
Калі губляе сэнс супраціўленне.
Лепш, як баксёра, навучыць трымаць
Удары моцныя сваё сумленне,
Чым безаглядна рвацца з ходу ў бой,—
І поспех не пагрэбуе табой.

19 Лорд Генры, што ўласціва ўсім нікчэмным
І значным людзям, першым быць любіў.
З мякчэйшага з сарказмам патаемным
Ён пры магчымасці вяроўкі віў,
Бо пыхі груз не можа быць прыемным
Для конніка, які не раздзяліў
Яго, хаця сам у сядле трасецца,
З тым хадаком, які пяшком плянецца.

20 Брытанец не пераўзыходзіў санам,
Як і багаццем, рускага пасла —
І гордасць лорда Генры над Жуанам,
Здаецца, верхаводзіць не магла,
Калі б лорд перавагу англічанам
Не аддаваў, бо ў іх тады была
Ужо свабода і пяра, і слова,
Чым Генры карыстаўся адмыслова.

21 Англійскі лорд быў, акрамя таго,
Больш сталага, чым дон іспанскі, веку
І экс-міністрам. Лепей за яго
Ніхто не знаў, якую небяспеку
Ўяўляе дворня для двара свайго,
Што робіць толькі гонар чалавеку
Дзяржаўнаму, які за свой народ
Змагаўся словамі, як патрыёт.

22 А спадабаўся лорду дон ласкавы
Сур'ёзнасцю і ўменнем уступаць
Дастойна — так, як і ўнікаць у справы.
Шмат лорд чаго змог у жыцці спазнаць
І не баяўся, што дурныя травы
Ў душы іспанца сталі прарастаць.
(Такая ж урадлівая ўжо глеба!)
Іх толькі зжаць да выспявання трэба.

23 З ім пра Канстанцінопаль і Мадрыд
І пра краіны, дзе не дазвалялі
Людзям дыхнуць прыгнёт ці генацыд,
Яны падоўгу часам размаўлялі.
Яшчэ — пра скачкі. Як сапраўдны брыт
Іх лорд любіў. І дона забаўлялі
Яны не менш. Як рускія — людзьмі,
Ён коньмі кіраваў гадоў з васьмі.

24 Няўхільна кожны раут і абед
Сяброўства мацавалі лорда з донам.
Паслом прыняты быў вышэйшы свет,
Як ордэнскія правілы — масонам.
Высакароднасць, розум, этыкет,
Прывычка сустракаць усіх паклонам
Жуана вылучалі — і была
Гасцёўня лорда домам для пасла.

25 Ля сквера N знаходзіўся той дом...
Калі па імені названы мною
Сквер будзе, то хто-небудзь з вас тайком
Засее клін паэта лебядою
І апаскудзіць доўгім языком
Асобу ганарлівую, з якою
Дон сябраваў. Як я ўжо аб'яўляў,
Яе катэдж ля сквера N стаяў.

26 Калі не тую вуліцу ці сквер
Я назаву, дык некага другога,
Магчыма, асаромлю, бо цяпер
Здараецца скандалаў лёгкіх многа
Пасля прыёмаў пышных і вячэр.
Аб'ектам кпінаў не зраблю нікога
Я словам неабдуманым. Гняздом
Грахоўнасці быць можа кожны дом.

27 Назваць, вядома, можна Пікадзілі.
На ёй не ўдасца peccadillos вам
Знайсці ніколі, колькі б ні хадзілі,
Ды не хачу я апынуцца там,
Каб згадкі ў сэрцы сум не абудзілі.
Пакуль святога, як вястальскі храм,
Я месца ў Лондане не адшукаю,
Па іншых вуліцах я паблукаю.

28 А лорд няхай жыве ля сквера N...
У доме Генры быў Жуан заўсёды
Жаданым госцем, як любы джэнтльмен,
Што прадстаўляў бязгербавыя роды,
Але меў талент; так, як бізнесмен
Ці франт, які не адставаў ад моды,
Бо сустракаем з вамі найчасцей
Усё-ткі па адзежы мы гасцей.

29 Сказаў калісьці мудры Саламон:
«Чым радцаў больш, тым лепей», хоць, магчыма,
Сказаў хтосьці іншы гэта, а не ён.
І сапраўды — штодня непрымірыма
У парламенце, судах да нашых дзён
Вядуцца спрэчкі — і мая радзіма
Ад калектыўнай мудрасці такой
Штодзённа статус павышае свой.

30 Мужчынам колькасць радцаў гарантуе
Удачу, поспех, а прыстойнасць дам
Ад захапленняў ветраных ратуе.
Калі ёсць выбар, быць не можа драм,
Хоць іх нямала нам жыццё рыхтуе,
Бо ўвагі больш падводным камяням
Мы надаём, калі іх шмат. Мужчыны,
Калі іх шмат,— надзейны шчыт жанчыны.

31 Аднак патрэбнасці ў такім шчыце
Не мела Адэліна, што ўласціва
Сапраўднай дабрачыннай чыстаце.
Яна была разумная надзіва,
Бо прыдавала кошту прастаце
І ўменню натуральна і пачціва
З людзьмі сябе паводзіць болей, чым
Прытворству і какетніцтвам пустым.

32 Калі і падавала знакі ўвагі
Яна камусьці, то яны былі
Прыстойныя заўсёды і павагі
Да прыгажуні зменшыць не маглі.
Яе добразычлівыя заўвагі
І позіркі натхнёна прынялі
І лорд стары, і ратнік маладжавы,
Знясіленыя цяжкай ношай славы,

33 Якая ўсё ж, за рэдкім выключэннем,—
Рэч сумная ў адносінах усіх.
Зірні, з якім глыбокім засмучэннем
Усведамляе найшчаслівы з тых,
Чые аблічча сонечным свячэннем
Нас грэлі, што цямнее слава іх,
Бо напльваюць ганьбавання хмары
На іхнія прасветленыя твары.

34 Была арыстакраткай Адэліна
І стрыманасцю рэдкаю сваёй
Перасягала нават мандарына
(Чыноўніка кітайскага), чыёй
Спакойнасці і важкая прычына
Не парушае, і, як іншым, ёй
Было не трэба вытрымцы вучыцца
Ў кітайцаў, каб дарма не гарачыцца,

35 Так і ў Гарацыя, які назваў
Майстэрствам поспеху non admirari.
Такую ролю з радасцю б сыграў
Артыст любы, ды цяжка здзейсніць мары,
Калі табе Бог вытрымкі не даў.
Трымае вытрыманы лепш удары.
Прыносіць, як галовам — алкаголь,
Энтузіязм залішні душам боль.

36 Прыстойная красуня ўсё ж была
Не абыякавай і не халоднай.
Хавала шмат імпэту і цяпла
Яна ў сваёй душы высакароднай.
Вулканнай лавай кроў яе цякла
Пад беласнежнай скурай. Толькі моднай
Метафары я не хачу ўжываць,
Каб чытачоў сваіх не раззлаваць.

37 Другое параўнанне пад рукою
Ёсць у паэта — апанента мод!
З бутэлькаю вясёлага напою,
Які ператварыла стынь у лёд,
І ён адною кропляю жывою
Пабульквае прывабна пасярод,
Ды п'ецца лепш, чым маладыя віны,
Я параўнаю постаць Адэліны.

38 Сканцэнтраваны спірт у кроплі той!
Так і асоба іншая хавае
Нектар пад абалонкай ледзяной,
Ды муза сціплая мая спявае
Пра тую, што маральнай чыстатой
Здзіўляла ўсіх, а мне дапамагае
Шаноўнай грамадзе ўяўленне даць,
Дзе лепей скарбы рэдкія шукаць.

39 Смялей, смяльчак, халодны лёд крышы,
Здзяйсняй, не баючыся ганьбы, мары,
Бо ў Індыю гарачую душы
Прабіцца вельмі цяжка шляхам Пары!
Не бойся, што цяжкія ледзяшы,
Якія з рэй звісаюць, лёс ахвяры
Табе прарочаць, і хутчэй плыві
Ў спякотны край пад ветразем Любві!

40 І раю гэта я не навічкам
(Яны загінуць могуць у паходзе),
А вопытным бывалым маракам,
Якія знаюць толк у асалодзе.
Пакуль няцяжка ім сваім гадам
Даць рады і знайсці праход у лёдзе,
У плаванне пусціцца лепей ім,
Чым esse ў часе паўтараць былым.

41 Павінна ж неба мець свае забавы,
Хоць часам вельмі жорсткія яны!
Іх не пазбегне нават шэльма жвавы.
Ды ўсё да лепшага! І вашы сны
Азорацъ скора промні Вечнай Славы,
Хоць гэтага дактрына сатаны
Пра два пачаткі і не гарантуе,
Чым веру існую кампраметуе.

42 Зіма англійская сышла з двароў
І кончылася, каб ізноў пачацца
У жніўні. Лета ж — рай для паштароў:
Па ўсіх дарогах зноў карэты мчацца!
Хто пашкадуе бедных рысакоў?
Ніхто! Бо чалавек, калі прызнацца,
Аб тым шкадуе толькі, што сыны
Шмат грошай выграблі з яго машны.

43 Канчаецца ж англійская зіма
У ліпені або пазней. Памылкі
Ў маім сцвярджэнні, ведайце, няма.
Парламент стаў барометрам — і ўхмылкі
Наконт ягоных пастаноў дарма
Даволі часта напаўняюць жылкі
Крывёй у радыкалаў на шчаках.
Час сесій — каляндар і альманах.

44 Упала ўрэшце да нуля іх ртуць.
Ізноў на вуліцах фургонаў многа.
Уздоўж карлтонскіх камяніц імкнуць
Карэты, брычкі лёгкія да Соха.
Калі ж на Ротэн-Роу вы зірнуць
Захочаце, то з нашых львоў нікога
Не ўдасца там убачыць, пэўна, вам.
Там летам надта сумна гандлярам.

45 Праносяцца па пыльных маставых
І кебы міма іх ва ўсе кірункі.
Да сесіі наступнай твары іх
Выцягваюцца зноў, як іх рахункі.
І вэксалі для гандляроў крутых
Цяпер як дарагія падарункі.
Іх суцяшае толькі, што яны
У рахунках указалі кошт двайны.

46 Ды гэта драбяза! Мілорд мой едзе
У сваёй карэце і мармыча штось,
Спакойна дрэмлючы каля мілэдзі.
«Хутчэй! Хутчэй!» або «Гэй, коні!» — вось
Усё, што чуў той, хто паблізу недзе
Знаходзіўся. Нібы дагнаць кагось
Мілорд хацеў. Ён раздаваў гасцінцы
Усім конюхам і слугам пры гасцінцы.

47 Імчыцца лорд пад фурманавы крыкі,
А пакаёўка лэдзі з вазаком
Сядзяць на козлах. І паэт вялікі
Не змог бы шэльму апісаць пяром.
Але ж — «Gosi viaggino i ricchi!».
(Прабачце, што ўжываю часцяком
Я фразы іншаземныя і словы.
У падарожжах вывучаў я мовы.)

48 Каму прыемна вёску пакідаць,
Калі ў адзенне лепшае адзета
Прырода, і ў палатах засядаць,
Пакуль салоўкамі не будзе спета
Апошняя мелодыя? Відаць,
Нікому з існых англічан. О лета!
Навесці да мясцін сваіх масты
Усім патрыётам памагаеш ты.

49 Абраннікі ўсіх радасцей зямных,
Якіх у Англіі, напэўна, лішак
(Ва ўсякім разе — сорак тысяч іх),
Шукаць адасабленне і зацішак
Сярод шматлікіх лёкаяў сваіх
І ў шумнай грамадзе падняць кілішак
Раз'ехаліся летняю парой
У рэшце рэшт па Англіі старой.

50 Лорд Генры з прыгажуняй Адэлінай
Таксама з'ехалі ў маёнтак свой.
Быў той маёнтак дзіўнаю мясцінай
З гатычнай вежаю стовекавой.
Магутны дуб над кожнай дамавінай
Славутых продкаў летняю парой
Шумеў у ім лісцём разгалай кроны.
Нагадваў покліч продкаў шум ягоны.

51 Пра іх ад'езд пісалі ўсе газеты,
Нібыта не было больш важных з'яў.
Шкада, што нічые аўтарытэты
Не пераходзяць за мяжу аб'яў
Або яшчэ чагосьці ў родзе гэтым.
І першы «Morning Post» паведамляў,
Што ў свой маёнтак сёння адбыла
Сям'я мілорда Г. і лэдзі А.

52 Пісалася ў абвестцы той далей,
Што быццам восеннію лорд паважаны
Прыняць збіраецца ў сябе гасцей,
Сярод якіх быў герцаг Б. названы,
І быццам паляванне на гусей
І качак у яго ўваходзіць планы,
І што нібыта рускі дыпламат
Прыедзе ў замак, дзе жыве магнат.

53 Як і дагматам веры англіканскай,
Не верыць нельга допісам газет.
І рускі дыпламат з крывёй іспанскай
Займеў магчымасць, значыць, tête-à-tête
Пагутарыць з элітаю брытанскай,
Што «з храбрасцю садзіцца за абед»,
Як Поп сказаў. І аб такіх візітах
Больш пішуць, чым аб колькасці забітых.

54 Гартаючы газет пажоўклых стос,
Даведаўся, напрыклад, я адразу
З паведамленняў на адной з палос
Пра ўрадавы прыём і пра паразу
Слэпдашскага палка, які панёс
Нямала страт, але які па ўказу
Папоўнены да колькасці былой:
Няма вакансіі ў ім ні адной.

55 У замак родавы за многа міль
Ад Лондана (у гербавай карэце!)
Імчыцца горды лорд Амундэвіль.
Сан лепшай рэзідэнцыі на свеце
Прыдбаў той замак за гатычны стыль.
Былы нармандскі кляштар, ён, каб вецер
Манаскія малітвы не глушыў,
Пабудаваны пад гарою быў.

56 Лясы абаранялі ад атак
Прыроды гэты замак састарэлы.
Дубы друідаў, быццам Карактак,
Маланак яркіх адбівалі стрэлы.
Наранку з-пад дубоў алень-важак,
Ад свежага паветра захмялелы,
Са статкам выбягаў да ручая,
Чый плёскат шчэбетам назваў бы я.

57 А перад замкам возера было.
Вялікае, праточнаю ракою
Асвежанае, чыстае, як шкло,—
Яно узорам мудрага спакою
І велічы глыбіннай быць магло.
Там вадзяныя птушкі над вадою
Гняздзіліся. Адзеннем зяляным
Лес прыбярэжны адбіваўся ў ім.

58 За возерам, дзе над вадою віс
Густы лазняк, гуллівая рачулка
Сама сябе кідала смела ўніз,
Круціла пену і шумела гулка.
Затым яна сціхала, бы капрыз
Дзіцяці, што крычыць, бо ў люльцы мулка,
Знікала між задумлівых лясоў
І колер неба адбівала зноў.

59 Там велічная арка, ля якой
Валяліся пабітыя цагліны,
Узносілася горда над зямлёй;
Раскошныя гатычныя руіны,
Якія некалі былі царквой,
Грувасціліся пасярод даліны.
Як помнікі далёкай даўніны
У сэрцах выклікалі сум яны.

60 Дванаццаці апосталаў выявы
У нішах, што ўпрыгожвалі фасад,
Змяшчаліся раней, ды час крывавы,
Які пазбавіў Карла ўсіх пасад,
Ушчэнт разбіў іх дзеля ўласнай славы.
Загінула ў той лютай бойні шмат
І рыцараў, якія ваявалі
За тых, што так бяздарна царавалі.

61 А Маці Божая з маленькім Сынам,
Што над святымі змешчаны былі,
Усё ж такі ўцалелі нейкім чынам
І на зямлю святло сваё лілі.
І кланяліся людзі тым руінам
Нярэдка мімаволі да зямлі.
Мо гэта прымхі, толькі зруйнаваны
Храм унушае пачуццё пашаны.

62 Скуголіў вецер злосны ў дзень зімовы
У храме, дзе літанняў не было.
З акна, якое рознакаляровы,
Нібыта серафімава крыло,
Вітраж прыгожыў, вылятаілі совы,
Калі згасала дзённае святло.
Больш не гарэлі ў храме жырандолі
Пад зводамі яго высокай столі.

63 Ды часам ноччу месячнай, калі
З усходу лёгкім ветрам павявала,
Па храме гукі дзіўныя плылі —
І ціхім стогнам поўнілася зала.
Адны заўсёды ўпэўнены былі
Ў тым, што гучанне гэтага харала
Ёсць рэха вадаспада, што шумеў
За возерам сярод ацiхлых дрэў.

64 Другія лічаць, што, як Мемнан той —
У сонечным Егіпце, безумоўна,
Там сцены храма ў цішыні начной
Спяваюць гэтак дзіўна і чароўна,
А надзяляе здольнасцю такой
Іх дух руін мясцовых. Я даслоўна
Прывёў дзве думкі, бо калісьці сам
Чуў, як уночы стогне гэты храм.

65 Фантану вычварнай архітэктуры
Знайшлося месца ў замкавым двары.
Струменілі гранітныя фігуры,
Якіх зрабілі блазнамі майстры
І размясцілі кругам на бардзюры,
З ратоў сваіх ваду, што ў пухіры
Ператваралася ў басейне жвава
І лопалася, як людская слава.

66 Сам замак быў вялізны і стары.
Трапезная, яе даўгія ўслоны,
Каплічка, келляў моцныя муры,
Крыжы і пачарнелыя іконы
Нагадвалі, што ты ў манастыры
Былым знаходзішся, хаця бароны
Перарабілі ўсё па-свойму ў ім,
А нешта нават знішчылі зусім.

67 Яны пакоям, галерэям, залам
Такую грандыёзнасць надалі,
Што чалавека з густам дасканалым
Абразіць іхнім выглядам маглі,
Хоць са сваім памерам небывалым
Для чулых тыя фетышам былі.
Хто думае, сустрэўшы велікана,
Ці ўсё ў ім між сабой дапасавана?

68 Баронскія і графскія партрэты
Са сцен глядзелі ў анфіладах тых.
Змянялі іх прыгожыя кабеты
(Між іх было шмат і графінь старых),
Чые ўпрыгожванні і амулеты
Сляпілі бляскам гледачоў, якіх
Больш вабілі партрэты сэра Лелі,
Якія прыгажунь амаль раздзелі.

69 І суддзяў чэрствых, што чынілі зло,
Ў апратках, гарнастаямі падбітых,
Убачыць можна ў залах тых было;
І святароў, даволі знакамітых,
Чыё святарства плёну не дало;
І пракурораў — грозных і сярдзітых.
Калі мне быць даводзілася тут,
Прыгадваў я Палаты Зорнай суд.

70 Былі тут палкаводцы тых вякоў,
Калі свінец яшчэ баяўся сталі,
І тыя, што аб'ёмам парыкоў
(А-ля Мальбрук) сучаснікаў здзіўлялі.
Далей цягнуўся цэлы рад панкоў,
Німвродаў, што на конях гарцавалі,
І твары злыя патрыётаў тых,
Ды месцаў не змаглі заняць сваіх.

71 Карціны Карла Дольчы, Тыцыяна
І Сальватора Розы там былі.
Вясёлыя амурчыкі Альбана
У добрай згодзе ў замку тым жылі
З асветленымі ззяннем акіяна
Пейзажамі, што мне дапамаглі
Лепш зразумець рамантыка Вернета,
І з палатном крывавым Спаньалета.

72 Там красаваўся відамі Ларэн,
Там ля карцін Рэмбранта цемра днела,
А Караваджа выступаць са сцен
Змушаў свайго анахарэта цела.
Тэньер там вабіў весялосцю сцэн.
Ля іх душа адразу маладзела
І падмывала кожны раз мяне
Чамусьці крыкнуць: «Гэй! Рэйнвейну мне!»

73 О мой чытач! Каб звацца чытачом,
Умець чытаць яшчэ недастаткова.
Калі ты ўзяў у рукі нечы том,
З пачатку пачынай абавязкова
І не цікаўся загадзя канцом.
Калі ж пачнеш з канца, то паступова,
Але няўхільна рухайся назад,
А то цікавага прапусціш шмат.

74 Апісваў рэчы і былых персон
Шыкоўныя партрэты так нязвязна
І гэтак доўга я, што Апалон
Прыдзірлівы прыняў мяне за блазна
Ці вырашыў, што я на аўкцыён
Іх выставіць хачу. Больш падрабязна
Апісваў, зрэшты, караблі Гамер,
А я дык закругліўся ўжо цяпер.

75 Настала восень. Свірны і адрыны
Запоўнены. Сустрэў гасцей лорд наш.
У лесе навакольным шмат дзічыны.
Прычэплены на пояс патранташ.
Харты снуюць. Напружвае рысіны
Зрок паляўнічы. Поўніцца ягдташ.
Вось курапатка, а вось рабчык шэры.
Не суньцеся ў гай, смерды-браканьеры!

76 Не здзівіць зборам вінаграду свет
Англійскі верасень, хоць на вячэру
(Дарэчы, гэтак, як і на абед)
Там пададуць і моцную мадэру,
І лёгкі недакучлівы кларэт,
Хаця віна брытанцы п'юць у меру.
У Англіі не спее вінаград.
Там вінны склеп — найлепшы вертаград.

77 Хоць у англійскай восені няма
Дзён ясных, як на берагах паўднёвых,
Пасля якіх, здаецца, не зіма
Надыдзе, а пара работ вясновых,
Не бэсціць восень брыт сваю дарма,
А золатам палеткаў вераснёвых
Любуецца ці п'е паціху джын,
Падкідваючы вугаль у камін.

78 Для брыта паляванне, што адхланне.
Ён адарвецца ад любых работ,
Калі пакліча рог на паляванне,
І засыпаць пачне ў патроны шрот.
Пачуўшы брэх сабак і труб гучанне,
Зрабілі б тое ж пастар і Німврод.
Дзікоў няма ў нас. Дурняў надта многа,
Ды не чуваць дасюль чамусьці рога.

79 Графіня Фіц-Фалк, баранеса Крэбі;
Бюзі і Сціла — лэдзі; міс Максцей,
Міс Экла, міс Бамбіна, місіс Рэбі,
Чый муж вядомы ў свеце багацей;
Вядома, місіс Сліп і міс О'Тэбі
Былі ў маёнтку ў якасці гасцей.
Хоць Сліп глядзелася авечкай ціхай,
Яна была бадліваю казліхай.

80 Шмат прадстаўніц «красы і прыгажосці
Грамадства» Англіі яшчэ тады
Прыехала да лорда Генры ў госці.
Ператварылі доўгія гады
Не надта белыя іх продкаў косці
Ў каштоўнасці ачышчанай вады
Так, як банкіры ў залатыя зліткі —
Памятыя банкноты і крэдыткі.

81 Вышэйшы свет велікадушны вельмі.
Прыстойнасць знешняя — яго закон.
На грэшніц не вылупліваюць бельмы
Ні лорд, ні герцагіня, ні барон,
Пакуль не крыкне хтосьці: «Стойце, шэльмы!»
Хоць у Мсдэі кожнай свой Язон,
Я згодны і з Гарацыем, і з Пульчы:
«Omne tulit punkctum, guae miscuit utile dulci».

82 Але, на жаль, маральныя законы
Звычайна — падабенства латарэй.
Здараецца, прыстойныя мадонны
Жывуць з ганебнай славаю медэй,
А грубыя, нахабныя матроны
На небе ўдачы свецяцца ярчэй,
Чым Сірыус. Бяскрыўдныя насмехі
(І толькі!) выклікаюць іх уцехі.

83 Я знаю шмат, бо і ў мяне раманы
Былі, ды лепш зірнём, што робіць знаць.
Гасцілі ў лорда трыццаць тры брахманы
Манер прыстойных, але ўсіх назваць
Я не магу — і будуць мной названы
Не самыя славутыя, відаць.
Былі там вернікі і атэісты
І тры ірландскія абсентэісты.

84 Шасцітыднёвай славай асляплёны,
Там бард Рыфмач ля возера гуляў.
Быў рытар Пустабрэх, які законы
Ў сенаце і ў судзе абараняў.
Ён, зрэшты, і для ўласнай абароны
Таксама толькі словы прымяняў.
Быў Джон Баран, мысляр косназыкі,
І Пітэр Жлукта — п'яніца вялікі.

85 Быў герцаг дэ-Башыр і тузін пэраў,
Што значнасці падзеі надало,
Бо за сяброў Палаты Ніжняй сэраў
Тых вока нічыё б не прыняло.
Такіх высакародных кавалераў
І пры Вялікім Карле не было.
Былі яшчэ там шэсць сясцёр Мянташак,
Якіх зусім не вабіў лёс манашак.

86 Быў не адзін джэнтльмен тытулаваны
Сярод гасцей. Быў дэ-ля-Рюз — маркіз,
Фартунай Францыі падараваны,
І гэта быў для ўсіх гасцей сюрпрыз:
Прыдумаў жартаўнік спрактыкаваны
Шмат новых анекдотаў і рэпрыз
І цешыў імі ўсіх. Яму і госці
Павінаваліся, і гульні ў косці.

87 Быў метафізік там Дубінас Дзік,
Які любіў гультайства і вячэры.
Быў матэматык — сэр Уяўнылік,
Жакей Скакун, што лёгка браў бар'еры.
Быў пастар Радамонт як прадстаўнік
Праасвяшчэнны англіканскай веры,
Што ненавідзеў менш грахі, чым свет.
Яшчэ — лорд Аўгуст Фіц-Плантагенет,

88 Што не прайграў ніводнага пары.
Не абышлося без гвардзейца Джака
Жаргона там. Быў там яшчэ стары
Джэк Мордзік — палкаводзец і рубака.
Ён янкаў менш забіў, чым з'еў, у тры
Разы, відаць. Быў там суддзя Балака.
Калі і тэрмін немалы даваў
Падсуднаму, Балака жартаваў.

89 Людскую грамаду па меншай меры
Я параўнаў бы з шахматнай гульнёй.
Ёсць коні, пешкі, вежы, афіцэры,
Ёсць каралі і каралевы ў ёй.
(Арэна толькі большая — ўсе сферы
Нябесныя.) Я музаю сваёй,
Як шэршань — джалам, джгаць іх не жадаю
І над зямлёю матыльком лятаю.

90 Я ледзь пры пераліку не забыў
Таго, каго ўслаўлялі ўсе газеты.
На сесіі апошняй ён зрабіў
Даклад свой першы — і аратар гэты
Залічаны ў лік перспектыўных быў.
Пустых выказванняў апалагеты
Расхвальвалі тады на ўсе лады
Яго ўсе фарысейскія хады.

91 Аматар анекдотаў і цытат,
Пачуўшы крыкі «Слухайце!» і «Брава!»,
Быў надта рады, што яго даклад
Вянчае цыцэронаўская слава.
Выказванняў разумных ведаў шмат
На памяць ён. З ім гаварыць цікава
І мудраму філосафу было.
І тым не менш — ён з'ехаў на сяло!

92 Законнікі Стронгбоу і Лангбоу,
Што добра выхаваныя былі
І сесій не ператваралі ў шоу,
У замку ў гэты час яшчэ жылі.
Лангбоу быў ірландцам, а Странгбоу —
Шатландцам. Першага з іх падвялі
Пытанні бульбяныя, а ў другога
Было агульнага з Катонам многа.

93 Здаваўся першы арфаю Эола,
Што падпявае ўсім вятрам, на жаль.
Гучаў Стронгбоу голас, як віёла,
А часам — як настроены раяль.
Калі ў прамовах першага крамола
Гучала часам, то другі амаль
Ніколі неабдуманага слова
Не вымавіў услых і выпадкова.

94 Калі хто з вас падумае цяпер,
Што разам цяжка быць такім персонам,
Скажу: «Не ў модзе Конгрыў і Мальер,
Што захапляліся дурдомным фонам,
У час цяперашні. Як мадэльер,
Аддаў і модам іншым, і фасонам
Ён перавагу, а любы чытач —
Ахвяра моды так, як і глядач».

95 Хоць разнамасных дурняў, як тады,
Шмат па зямлі і ў нашы дні гуляе,
Ды з дрэва дурасці зрываць плады
Сягоння мода нам не дазваляе.
Паверхню нерухомую вады
Грамадства наша зараз уяўляе.
Хто надта ўжо журбоціцца і той,
Хто сум навёў, адбіты той вадой.

96 Як на палях Ваоза — Руф, збіраю
Я на палях уласных чытачоў
Калоссе, малачу і напаўняю
Сусекі зернем Ісціны — і зноў
Палеткі чытачоў ім засяваю.
Не фермер я, а зборшчык каласоў.
Але, як Адамс кажа, параўнанне
Такое можа зганьбаваць Пісанне.

97 Я мару, што ў паганы век саломы
З іх вырасце багаты ураджай.
Кіт-Кэт — салонны весялун вядомы —
Прыбыў таксама ў той дзівосны край.
Ягоны метад: хохмы, палідромы
Прыдумвай загадзя і выдавай
За трапныя экспромты тыя жарты.
«О слухай, бедны цень!» Ты жалю варты.

98 Па-першае, размова скіравана
Павінна быць у неабходны бок,
А па-другое, выйграць пажадана
Адразу ў апанентаў хоць вяршок
Зямлі табе. Па-трэцяе, ты, рана
Зрабіўшы неабдуманы наскок,
Прымусіш ворагаў у наступленне
Пайсці — і зноў пацерпіш паражэнне.

99 Лорд Генры і яго красуня жонка
Былі гасцінныя гаспадары.
Маглі прывабіць іхняя смажонка,
Біфштэксы іхнія і іх сыры
І тых, каго Харона пласкадонка
Вязе праз ахеронскія віры,
Бо з той пары, як Ева яблык з'ела,
Уладу ежа над людзьмі займела.

100 Зямлю, дзе многа малака і мёду,
Сніў шмат гадоў галодны іудзей.
Такую ж, як і ежа, асалоду
Прыносяць грошы большасці людзей.
Мы вянем і старэем год ад году,
Ды ў золата ўлюбляемся мацней,
Хоць карыстацца дарагім металам
Усё цяжэй з гадамі людзям сталым.

101 Мужчыны ўсталі рана раніцой
І з ружжамі пайшлі на паляванне.
Яно для маладых — пацешны бой
Або фізічнае практыкаванне;
Для сталых — сродак барацьбы з журбой,
З якою весці ў Англіі змаганне
Нялёгка, бо яе карэнні там,
Хоць назву ёй даць не ўдалося нам.

102 А самыя пахілыя цішком
Ішлі ў бібліятэку і гарталі
Старыя кнігі, ездзілі вярхом,
Партрэты вяроў крытыкавалі,
Чыталі прэсу, бегалі трушком
Ці на гадзіннік сумна паглядалі,
Чакаючы, калі зазвоніць звон.
Іх на абед штодзённа клікаў ён.

103 Мог кожны з іх (вам гэта трэба ведаць)
Прачнуцца і пачаць свой туалет
У час любы; мог дзе заўгодна снедаць;
Мог сам з сабой застацца tête-à-tête
Ці ўліцца ў грамаду, але абедаць
Збіраліся ўсе разам, бо абед
На самай справе — калектыўны тэрмін:
Прыём гасцей у вызначаны тэрмін.

104 А дамы мілыя парфумны глянец
Наводзілі, прачнуўшыся, але
Быў не ва ўсіх іх на шчаках румянец.
Затым яны каталіся ў сядле
Ці на тэрасе летняй новы танец
Развучвалі. Калі ж тануў у мгле
Халодны лес — аб модах размаўлялі,
Чыталі, пелі ці лісты пісалі

105 Як палюбоўнікам, так і сябрам.
На небе і зямлі знайсці нічога
Больш цікавейшага не ўдасца вам
За пісьмы дамскія. У іх так многа
Прызнанняў, клічнікаў, размытых плям!
Яны прывабяць, думаю, любога,
Бо ўсе яны каварней і хітрэй,
Чым свіст, якім валодаў Адысей.

106 Былі ў маёнтку і більярд, і карты.
Былі таксама лодкі і канькі.
І паказаць, на што яны ўсе варты,
Маглі там і зімою спрытнякі.
Былі і вуды. Гэта ўжо не жарты!
Мяне так абураюць рыбакі,
Што селадона Ўольтана Ісака
Я ўбачыў з радасцю б у клюшнях рака.

107 Увечары да він і да размоў
Звычайна далучаліся дуэты
У выкананні дзіўных галасоў.
Вясёлыя, гуллівыя куплеты
Старэйшыя Мянташкі пелі зноў
Не горш, чым прафесійныя квартэты.
Малыя сёстры іх на арфах гралі
І белатой рук лебядзіных ззялі.

108 Былі і танцы там па вечарах,
Калі мужчын занятак Артэміды
Стамляў не вельмі і яны не ў снах
Убачыць праглі грацыю сільфіды.
Калі ж мужчыны ледзьве на нагах
Трымаліся і грэшныя флюіды
Прыгожых дам іх не маглі ўзбуджаць,
У дзесяць роўна клаліся ўсе спаць.

109 Палітыкі, усеўшыся ў кутку,
Сусветныя праблемы вырашалі.
І хітруны, каб волю языку
Даць і сваім bon-mot здзівіць, чакалі
Хвіліны зручнай. Рэдка на вяку
Такія выпадкі ім выпадалі.
Слухач неабчасаны або псіх
Звычайна ўдачы пазбаўляе іх.

110 Але паводзін арыстакратычных
Не парушаў ніхто, бы выяўляў
Іх Фідый з белых камянёў атычных.
Для Сквайры Ўэстэрны і Соф'і стаў
Свет іхні невыносным — і крытычных
У адрас іх я не зраблю заяў.
Не знойдзеш Тома Джонса ў іхнім свеце.
Калонай стаў брытанец у карсеце.

111 Настала ноч. Закрыты аканіцы.
Не свеціцца ніводнае акно.
У гэты момант поўдзень у сталіцы,
А ў старадаўнім замку ўжо даўно
Заснулі дамы, дзевы, маладзіцы —
Нідзе ніякіх гукаў не чутно.
Спі, кветнік руж, і пах струмень духмяны!
Сон робіць непатрэбнымі румяны!

## ПЕСНЯ ЧАТЫРНАЦЦАТАЯ

1 Усе высновы нашы — як дылемы.
О каб нарэшце ісцінай адной
Мы ўсе дуалістычныя сістэмы
Абверглі — і на шлях адзіны той,
Якім калісьці праставалі ўсе мы,
Вярнуліся! Ды марны заклік мой,
Бо, як Сатурн — дзяцей, адна выснова
Другую пажырае прынцыпова.

2 Але ў крывавай барацьбе дактрын,
Як павялося з даўніх пор, звычайна
Перамагае не тытан, а сын,
Хоць, перабраўшы ўсе дагматы дбайна,

Наўрад ці прымеш сэрцам хоць адзін,
А верай не даказваецца тайна.
Вядома, сэрца можа памыляцца,
Але на *што* тады абапірацца.

3 Не абвяргаецца нічога мною.
Не ўмею я сцвярджаць і праклінаць.
Дасюль жыву я з вераю адною,
Што нарадзіліся мы, каб сканаць,
Хаця і гэта можа стаць маною,
Бо можа эра вечнасці настаць.
Смерць — рэч, якая нас да слёз даводзіць,
Хоць трэць жыцця ў сне чалавек праводзіць.

4 Для сейбіта сон — лепшы падарунак
Увечары, пасля работ цяжкіх,
А вечны сон чамусь за паратунак
Ніхто не лічыць з жыхароў зямных.
Самазабойца, што з жыццём рахунак
Надумаў звесці, свой апошні ўздых
Не з аблягчэннем робіць, а са страхам,
Што хутка зробіцца халодным прахам.

5 Смерць адусюль нам, людзям, пагражае.
Яна каля цябе — і тут, і там.
Страх смерці нашу храбрасць нараджае,
Пасля чаго не страшна смерці нам.
Са скал сарвацца храбрасць пабуджае
У бездань, што адкрылася вачам
Таго, хто на гару ўзышоў крутую
І пад сабой убачыў бездань тую.

6 Але не зробяць гэтага, вядома,
Ні чалавек разумны, ні вар'ят.
Збялелыя ад страху, нерухома
Над прорваю застынуць — і назад
Адступяць, зразумеўшы падсвядома,
Што глузду ў іхніх дзеяннях няшмат.
Сваёй нязведанасцю нас глыбіні
Прываблівають так, як і вяршыні.

7 «Навошта ты ўсё гэта гаварыў?» —
Магчыма, я пачую голас нечы.
Не ведаю, бо ўсё, што я стварыў

Дагэтуль (недарэчы ці дарэчы),—
Не болей чым фантазіі парыў,
Падмурак, на які я стаўлю рэчы
Звычайныя,— і памагаюць мне
Агульнасці з сюжэтам нараўне.

8 Калі паэт сугуччы выдыхае,
Схіляючыся над чарнавіком,
Саломінкаю Бэкана ўзлятае
Паэзія зноў над яго сталом
Або, як папяровы змей, махае
Між смерцю і жыццём сваім хвастом.
Мая ж лятае пузыром, надзьмутым
Вясёлым і забаўным шалапутам.

9 Каб свет апісваць, зведаў дастаткова
У жыцці і ўдач, і гора я, хоць свет
Убачыў і не цалкам, а часткова.
За страсці, занядбаўшы этыкет,
Прынесці мне мая радня гатова
Шмат непрыемнасцей і розных бед,
Атруціўшы гаркаваю прыправай
Мёд, што здабыты быў маёю славай.

10 Я разышоўся ў думках з гэтым светам,
Як і з другім — са светам святароў,
Якія пасквілем або памфлетам
З набожным выглядам псуюць мне кроў.
Але ўсё роўна ў тыдзень раз паэтам
Раблюся я, каб тым стаміць сяброў.
Напоўніцу пісаў я ў маладосці!
Цяпер душа засумавала штосьці.

11 Навошта я пішу? У гэтай фразе
Абразлівыя выпады чуваць.
Кажу ў адказ: «Навошта ў гэткім разе
Гуляць у карты, выпіваць, чытаць
І забывацца ў плоцевым экстазе?
Не для таго, каб сум свой разагнаць?»
Кідаю я ў натоўп бясстрашна творы.
Што будзе з імі ў чалавечым моры?

12 Няважна, ці разгром, ці перамога,
Ці поспех незвычайны, ці канфуз

Мяне чакае (я змагаўся многа —
І да ўсяго прывык), але саюз
З натхненнем, з дапамогаю якога
Я зведаў ласку і багінь, і муз,
Не разарву. Няўдачамі сваімі
І славай я дзяліцца буду з імі.

13 Я з музай процьму фактаў назбіраў, ды
Чытач кляне паэзію маю,
Таму што ён — закляты вораг праўды.
І часам я пытанне задаю
Сабе: «Навошта шлях такі абраў ты?»
Ды як дагэтуль пеў, так і пяю
Пра ўчынкі чалавечыя і справы,
Не дамагаючыся лёгкай славы.

14 Вайна, каханне, караблекрушэнне
І позірк на грамадства з вышыні
Павінны ўсё ж прывесці ва ўзрушэнне
Саслоўі, што жывуць у нашы дні,
А мо і будучае пакаленне.
Ты ж, крытык мой, што хочаш загарні
Ў мае лісткі. Я крыўдаваць не стану —
І ўчынак палічу твой за пашану.

15 У гэтай песні быт людзей саноўных
Я апішу, бо гэтай грамадзе
Не прысвячаў праўдзівых і змястоўных
Радкоў ніхто, ніколі і нідзе.
На жаль, збіранне камянёў каштоўных
І мантый гарнастаевых вядзе
Да сумнай манатоннасці, а гэта
Бянтэжыць і палохае паэта.

16 Халодны і бяздушны гэты свет
Хавае ад людзей свае заганы.
Блішчыць вяльмож адзенне, як паркет
Пачышчаны і палакіраваны.
У іх ненатуральны этыкет,
Страсць штучная, прыземленыя планы,
Бо — зробленыя на адзін капыл —
Вяльможы гэтыя не маюць крыл.

17 Пачуцці іхнія — бы строй салдат.
Хаця з іх некаторыя парою
(Вядома, як закончыцца парад)
І выбягаюць радасна са строю,
Ды барабан вяртае іх назад.
Бліскучаю феерыяй такою
Палюбавацца дзень яшчэ б я мог,
Але каб кожны дзень — памілуй Бог!

18 Рахункі звёўшы з гульнямі ўсялякімі,
З парламентам, з банкетнымі сталамі,
З каханнем страсным, з моднымі гулякамі,
Якія стануць сумнымі мужамі,
І з прыгажунямі, якіх дзесяткамі
Вывозяць прадаваць,— мы ўрэшце самі,
Як ci-devant jeunes hommes, пачнём журбоціцца
Ці дакучаць усім, хто не маркоціцца.

19 Не апісаў праўдзіва наш бамонд
Ні малады паэт, ні майстра сталы.
Атрымлівалі звесткі мы наконт
Яго жыцця праз розныя каналы,
Ды папаўнялі нашых ведаў фонд
Звычайна плёткі пра яго скандалы,
Якія распускаюць найчасцей,
Вядома ж, пакаёўка ці лакей.

20 Цяпер — інакш. Вядомыя паэты
Ў наш час сябры beau-monde'a неадменныя.
Усе яны ўпісаліся ў свет гэты
Больш натуральна нават, чым ваенныя,
І ведаюць усе яго сакрэты.
Чаму ж яны (такія ўсе сумленныя!)
Нічога не напішуць пра яго?
Бо пра яго пісаць няма чаго!

21 «Haud ignara loguor», пра «Nugae, guarum
Pars parva fui», хоць да іншых тэм
Прасцей было мне павярнуцца тварам.
Пра шторм, вайну, каханне і гарэм,
Прызнаюся, пісаў я з большым жарам.
Каб з друкаваннем не было праблем,
«Vetabo Cereris sacrum gui vulgarit».
Навошта, каб так многа ведаў брыт?

22 Як і гісторыя масонскай ложы,
Якой зачытваецца франкмасон,
Мой сказ пра тое, як жывуць вяльможы,
Містычны будзе мець дыяпазон,
А выгляд — ідэальны і прыгожы.
Як Пары, а не гэтак, як Язон,
Я судна павяду сваё да мэты,
Каб задаволены былі эстэты.

23 Пасля таго як свет наш пагубіць
Ёй давялося некалі, жанчына
Прывыкла забаўляцца і грашыць —
І цяжка паступаць ёй іншым чынам.
Ёй суджана ахвярай страсці быць
І нараджаць у муках, як мужчынам
Наканавана лёсам раніцой
Галіць штодзённа падбародак свой.

24 Такое пакаранне горш, чым роды.
А што датычыцца жанчын, то нам
Спасцігнуць удаецца не заўсёды
Ўсю глыбіню трагедый іх і драм.
Хоць мы і голім дзеля іх бароды,
Ўласцівы эгаізм, аднак, мужам.
Навошта ім жаночых драм глыбіні?
Патрэбны жонкі ім як гаспадыні!

25 Нічога ў гэтым кепскага няма,
Хоць ведае, напэўна, толькі неба,
Што высіцца над намі нездарма,
Як шмат для гэтага цярпення трэба.
Ды хай жанчына скажа лепш сама:
Чый лёс больш вабны — Весты або Феба?
І кім яна жадае стаць тайком —
Ці каралеваю ці хлапчуком?

26 Мы выйшлі з-пад спадніц усе і марна
Ўцячы ад іх імкнёмся, бы карась —
Ад шчупака, бо хітра і каварна
Спадніц жаночых і атлас, і бязь,
І шоўк, які глядзеўся элітарна
Ва ўсе вякі, бы коней — канавязь,
Каля сябе мужчынскі пол трымаюць.
Усё ж спадніцы сэнс містычны маюць.

27 Мы прагнем з невядомасцю сустрэч,
А гэтае адзенне пад сабою
(Як куфар скнары — дарагую рэч,
Што бліскае аздобай залатою;
Так, як канверт — пісьмо; як ножны — меч)
Хавае скарб, што скрытасцю сваёю
Прываблівае нас. І я не мог
Прайсці спакойна ля жаночых ног,

28 Што зіркалі з-пад падала спадніцы.
У дзень журботны, змрочны і сыры,
Калі сірока дзьме, а бліскавіцы
Азорваюць счарнелыя віры,
Прыемна нават постаць працаўніцы,
Якая завіхаецца ў двары,
У простай сукні нечакана ўбачыць
І ўпотай прыгажосць яе адзначыць.

29 Пакінулі герояў мы, аднак,
І гераінь сваіх у той краіне,
Па-над якой не ўладны задыяк,
Дзе бляску зор і гор няма ў паміне —
І дзе паэт не можа аніяк
На светлы лад настроіцца. Пакіне
Яна такое ўражанне ў гасцей,
Як і пануры злодзей-багацей.

30 Непаэтычнымі палацы сталі,
А на двары — дождж, слота і туман,
Сярод якіх не пішуць пастаралі,
Якім прыпадабніўся мой раман,
Ды як умовы б ні перашкаджалі,
Я здзейсню, хоць і сапсую, свой план.
Як над матэрыяй — Тварэц, працуе
Мой мозг над ім і ўпэўненасць мацуе.

31 Аднолькава прыязным да любога
Саслоўя малады герой наш быў —
І гэтым ён паходзіў на святога,
Хоць весяліцца і грашыць любіў.
На судне, пры двары манарха злога
І ў лагеры дон без прэтэнзій жыў
І падабаўся фрэйлінам багатым,
Хаця не быў угоднікам і фатам.

12 Зак. 1678

32 Быць трэба коннікам сапраўдным, каб,
Пагнаўшыся за спрытнаю лісою,
З каня не ўпасці на зямлю і скаб
Не паламаць, каб потым над табою
Ніхто не насміхаўся. Як араб,
Жуан займаўся верхавой яздою —
І адчуваў пад ім любы скакун,
Што на яго сеў вопытны драгун.

33 Асвойваючы новую забаву,
Іспанец юны ўсё рабіў як след.
Ён лёгка пераскочыў праз канаву,
Праз роў глыбокі і праз парапет —
І адабрэнне заслужыў па праву,
Хаця згубіў хітрухі рыжай след.
Ён абагнаў і егераў мясцовых,
І нават зграю выжлаў адмысловых.

34 Не падмачыў дон юны рэпутацыі.
Жуана абступіўшы на паляне,
Выдатнаму наезніку авацыі
Наладзілі і сквайры, і сяляне.
«Як можа прадстаўнік не нашай нацыі
Так паляваць?» — здзіўляліся дваране.
А старшы егар з дабрадушнай мінаю
Назваў асобу нашу малайчынаю.

35 Відаць, фартуна паспрыяла дону —
І ў якасці трафеяў не шчыты,
Не дзіды і не шпагі вёз ён з гону,
А пышныя лісіныя хвасты,
Нагадваючы іншую персону.
Як Чэстэрфілд, ён мог задаць тады
Такое недарэчнае пытанне:
«Хто ж пойдзе ў раз другі на паляванне?»

36 Хаця рабіць так цяжка чалавеку,
Які на паляванне ўстаў зімой
Раней, чым певень крыкнуў «ку-ка-рэку»,
Не спаў пасля абеду мой герой.
Такая якасць цэніцца спрадвеку
Прыгожай палавінаю людской.
Жанчыны балбатлівыя надзіва
І любяць, каб іх слухалі цярпліва.

37 Дон у пасляабедзенных размовах
Любіў удзельнічаць — на радасць ім.
Ён глупствы заўважаў у іхніх словах,
Але (от, шэльма!) дамам гаваркім
Ніколі не рабіў заўваг суровых,
Хоць у душы пасмейваўся. З такім
Прыгажуном і слухачом выдатным
Быць падабалася жанчынам знатным.

38 А як ён танчыў! Малады іспанец
Па часці пантамімы англічан
Ва ўсім пераўзыходзіў. Кожны танец
Натхнёна, годна танчыў Дон-Жуан.
Ён, як балетнай школы выхаванец,
Не выгінаў занадта гібкі стан,
А таліі партнёркі ледзь кранаўся.
І ў танцы ён джэнтльменам заставаўся!

39 Быў сціплы крок у рыцара майго.
Ён коўзаў па бліскучаму насцілу,
Ледзь дакранаючыся да яго,
І тым нагадваў лёгкую Камілу.
Меў добры густ іспанец да таго,
Надзіва музыкальны слых і сілу,
Але нікога ёю не здзіўляў.
Ён балеро сабой увасабляў

40 Або анёла — вестуна Аўроры,
Што Гвіда Рэні ўславіла і Рым.
Дон выклікаў бы зайздрасць Тэрпсіхоры
І грацыяй, і выглядам сваім.
Такія самабытныя танцоры
Не могуць быць апісаны нікім,
Таму што ў белетрыстаў і ў паэтаў
Не хопіць фарбаў для такіх партрэтаў.

41 Не дзіўна, што яго багатварылі.
Цікавіў і жанчын прыстойных дон,
І тых, якія вока палажылі
З другою мэтай на яго, бо ён
Быў не пустышкай, што б ні гаварылі,
І выглядаў, як сталы Купідон.
Графіню Фіц-Фалк з ім agacerie
Пачаць прымусіла tracasserie.

42 Прываблівая носьбітка святла —
Beau monde'а самым яркім аздабленнем
Бландзінка гэтая тады была.
А быў яе апошнім захапленнем
(Магчыма, праўды ў гэтым менш, чым зла,
І я пачуў пра гэта са здзіўленнем,
Бо плётка казытлівы ўсё ж прадмет)
Тады лорд Аўгуст Фіц-Плантагенет.

43 Убачыўшы яе какетаванне
З Жуанам, лорд прыстойны спахмурнеў,
Ды намаганнем волі хваляванне
Пераадолеў і суцішыў гнеў,
Бо ён на бурнае рэагаванне
Ніякіх праў, па сутнасці, не меў.
Хто раўнаваць сваю каханку стане —
Ураз акажацца ў найгоршым стане.

44 Флірт не ўдалося скрыць ад грамады —
І хтось з жанчын з графіні насміхаўся;
Хтось праклінаў яе на ўсе лады;
Хтось мудра сумняваўся; хтось баяўся,
Каб не давёў флірт гэты да бяды;
А хтосьці нават шчыра абураўся.
І часта паўтараў вышэйшы свет:
«Ах, бедны Аўгуст Фіц-Плантагенет!»

45 Але чамусьці гэты люд дасужы
І языкаты надта не згадаў
Ні разу аб яе законным мужы.
Ён недзе ў іншых месцах прападаў
(І мо дарыў жанчынам іншым ружы),
Чым жонцы повад для свавольства даў,
Калі муж з жонкай не жывуць па году,
Яны, лічы, ў разводзе без разводу.

46 А лэдзі Адэліна, як Дыяна
Эфеская, цурацца пачала
Графіні, спакушаўшай Дон-Жуана,
Бо вольнасцей выносіць не магла.
Яе чысцейшаму сумленню рана
Сяброўкаю нанесена была.
Хаця раней такое заляцанне
У лэдзі выклікала б спачуванне.

47 Спагадлівасць не горш, чым падарункі.
І Адэліны спачувальны ўздых,
Бясспрэчна, упрыгожыў бы стасункі
Сябровак (і тым болей — маладых),
Як дзіўныя брусельскія карункі.
Што б мы рабілі без сяброў сваіх?
Хто нас бы ўцешыў словамі спагады:
«А каб паслухаўся маёй парады...»?

48 Ты меў, велікамучанік Іоў,
Хоць лепей, каб надзейны друг адзіны
У чалавека быў, аж трох сяброў.
Нагадваюць у цяжкія хвіліны
Сябры звычайна дактароў-рвачоў
Ці дрэнных стырнавых. Нібы з асіны —
Лісцё, здзімае моцны вецер іх.
Зайдзіце ў бар — і знойдзеце другіх!

49 Аднак я сам не ўмею так рабіць,
Бо не хачу нагадваць чарапаху
І не жадаю, як яна, насіць
Цяжкую рагавую апранаху.
Як можна болей зведаць мне карціць —
І я таму прымаю ўсё без страху.
І ў рэшце рэшт у рэшата, відаць,
Пачуцці навучуся не ўліваць.

50 І крык савы, і ветру скавытанне
На душы чуйныя наводзяць жах,
Ды горш гучыць сяброўскае пытанне
«А што казаў я?» у маіх вушах.
Замест таго каб выказаць жаданне
Хутчэй нас вывесці на верны шлях
Ці вырваць з вострых кіпцюроў нудоты,
Сябры расказваюць нам анекдоты.

51 Асудаю сяброўкі Адэліна
Абмежавацца не змагла, аднак
(Хаця графіні цяжкая правіна
У вяках не апраўдаецца і так)
І Дон-Жуана (праўда, так, як сына)
Таксама асудзіла, бо юнак
(Безабароннейшы і прыгажэйшы!)
Быў за яе на месяц маладзейшы.

52 Даў месяц той... Утойваць, зрэшты, ёй
Узросту ад высакасвецкай раці
Было не трэба. Надта маладой
Яна была, як сведчаць спісы знаці.
Даў, паўтараю, права месяц той
Жуана ёй апекаваць, як маці,
Хаця было далёка ёй самой
Тады яшчэ да рысы ракавой.

53 А тэрмін гэты — дваццаць сем гадоў.
Ну, трыццаць... Вы дзе-небудзь сустракалі,
Прызнайцеся, старэйшых дам і ўдоў,
Калі маршчыны іх не выдавалі?
О час бязлітасны! Не гань касцоў.
Старэнькаю касой з іржавай сталі
Махаеш ты апоўдні і ўначы.
Спыніся і яе хоць патачы.

54 Да ўзросту спелага свайго тады
Было яшчэ далёка Адэліне,
Ды ўласныя памылкі (не гады)
Стаць вопытнай дапамаглі жанчыне.
Яна сухой выходзіла з вады
І не ашуквалася на мякіне,
Хоць ёй было... Ды лепей адымі
Сам лічбу шэсць ад дваццаці сямі.

55 Прыйшла яна, як з мора — Афрадыта,
У свет, што вабіў пышнасцю сваёй,
І два гады брытанская эліта
Дарэмна пела дыфірамбы ёй,
Ды ў васемнаццаць, хоць ля дзевы світа
Багатых жаніхоў гула, як рой,
Згадзілася стаць Еваю таксама —
І ашчаслівіла свайго Адама.

56 Прайшлі з тых дзён, калі эпіталамы
Гучалі ў гонар іх, аж тры зімы,
Ды на сумленні гэтай мілай дамы
Не адшукалі б усё роўна мы,
Як на чысцейшым мармуры, ні плямы,
Хаця былі народжаны прамы
Наследнік лорда ёю і другое
Дзіцё (на жаль, адразу нежывое).

57 Ля лэдзі хмара цэлая лятала
Бліскучых лонданскіх жукоў начных,
Але, каб Адэліну ўджаліць, джала
Належнага ўсё ж не знайшлося ў іх.
Мо лэдзі мець паклонніка жадала
Разумнага, ды не было такіх,
А мо была занадта гаварлівай —
І заставалася таму цнатлівай.

58 Капацца ў брудзе і шукаць прычыну
Я не люблю, як скнар, якім няўцям,
Што ўжо даўно кларэту або джыну
Карціць глынуць па кропельцы гасцям;
Як пыл, што лезе ў нос, калі скаціну
На пашу гоняць; так, як фіміям,
Які прэм'еру Верхняя палата
Курыла зноў; як оду лаўрэата.

59 Злачынец той, хто карані расліны,
Што пад зямлёй схаваны, агаліў.
Мне важна, што на ёй шмат зяляніны,
І ўсё адно, з чаго расток пусціў
Магутны дуб. Таемныя спружыны
Раней бы я, магчыма, раскруціў,
А зараз адаслаць да Аксенштэрна
Я вырашыў дапытлівых празмерна.

60 Хацела дыпламата маладога
Ад непрыемнасцей аберагчы
Красуня лэдзі, бо занадта строга
На кожны памылковы крок, лічы,
Глядзяць у Англіі, а дон-нябога
Не ўстоіць доўга. Падабраць ключы
Да сэрца юнака графіня зможа —
І скончыцца ўсё дрэнна, непрыгожа.

61 Ён малады і можа памыліцца!
І, быццам міласэрная сястра
(Нявіннасць, як вядома, не баіцца
Ні свецкіх абгавораў, ні кастра),
Наіўна вырашыла маладзіца,
Што Дон-Жуана ратаваць пара.
Яна яшчэ не ведала, што ўменне
Канцы ў ваду хаваць — ад бед збавенне.

62 Баялася красуня не скандалу
Сямейнага, бо муж графіні быў
Спагадлівы да жончынага шалу
І нізашто б яе не разлюбіў.
Яна трывожылася, каб фіналу
Жахлівага лорд Аўгуст не ўчыніў.
На палюбоўніцу сваю і дона
Даўно ўжо ён паглядваў падазрона.

63 Капрызнай і распешчанай каханкай
Графіня гаварлівая была,
А звыш таго, каварнай інтрыганкай
І злой драпежніцай яна слыла —
І той, хто захапіўся англічанкай,
То ў непрытомнасць падаў ад цяпла,
То мёрз ад холаду. Яна іграла,
Як з мышкай — кошка, з тым, каго абрала

64 Сваёй ахвярай. Вертэрам зрабіць
Магла графіня юнака любога.
І ад яе інтрыг абараніць
Хацела лэдзі дона маладога.
Лепш быць жанатым і сканаць, чым жыць,
Калі на сэрцы смутак і трывога.
Павінен перш падумаць добра дон,
Каб bonne fortune была папраўдзе bonne.

65 І лэдзі, поўная сакрэтных планаў,
Звярнулася да мужа, каб ён даў
Параду добрую і донжуанаў
Лёс ад сірэны злой уратаваў.
Нібы прарок, дзяржаўны дзеяч глянуў
На жонку ўласную і адказаў
Так, як заўсёды,— мудра і талкова,
Але яна не ўцяміла ні слова.

66 Сказаў жа Адэліне ён тады,
Што нельга ўмешвацца ў чужыя справы;
Што ў тым няма, як лічыць ён, бяды,
Што хтосьці да кагосьці больш ласкавы;
Што дон, хоць і не мае барады,
Па сутнасці, разумнік маладжавы
І што не варта тое паўтараць,
Што можа і адмоўны вынік даць.

67 Прывёўшы гэты важкі аргумент,
Параіў лорд не турбаваць Жуана,
Бо ён сапраўдны ўсё ж інтэлігент
І вылечыцца позна або рана
(На гэтым сказе ён зрабіў акцэнт)
Ад страсці, што грахоўнаю названа
Манахамі, а дон жа — не манах...
Ды ўзнік пасыльны раптам у дзвярах.

68 І сябар *тайнай* рады ў кабінет
З атрыманай дэпешаю падаўся
Ў чаканні, што нарэшце здзівіць свет
Паведамленнем, як ён здагадаўся,
Нацыянальны выканаць бюджэт,
Ціт Лівій новы. Тэкст той не папаўся
На вочы мне, ды я яго знайду
І ў тлумачэннях цалкам прывяду.

69 Але яшчэ з парога кабінета
Лорд кінуў некалькі агульных фраз,
Якія, як разменная манета,
Ўжываліся чыноўнікам штораз.
Зламаў пячаць сургучную пакета
І каралеўскі прачытаў указ.
Вярнуўся зноў і жонку маладую
Пацалаваў, нібы сястру старую.

70 Быў Генры горды, кемлівы, халодны,
Высокі, стройны (выглядаў як гном
Каля яго кароль), высакародны;
Працэсію, вітаючую з днём
Народзін караля, ўзначаліць годны.
Калі я раптам стану каралём,
Аддам належнае яго манерам,
Прызначыўшы мілорда камергерам.

71 І ўсё ж у ім чагосьці не хапала,
Як дамы сведчылі, хоць важны пост
Яму паходжанне падаравала,
Хоць меў ён мужны твар і добры рост
І ў бой ішоў звычайна без забрала —
Прамы, нібы таполя або шост.
На жаль, такія перпендыкуляры
Не могуць быць аб'ектам нечай мары.

72 У іх няма іскрыначкі, якою
Елена — Ева элінаў — была
Заваблена са Спарты збегчы ў Трою,
Чым да вайны крывавай прывяла,
Бо, здрадзіўшы славутаму герою
З пяшчотным хлопчыкам, зярняты зла
Яна пасеяла — і помста злая
Ўзышла ў душы зацятай Менелая.

73 Мне не вядома, што было прычынай
Бязглуздай здрады — цела альбо дух,
Бо, як Тырэсій, я не быў жанчынай.
Складаецца каханне з частак дзвюх,
Ды я не стану карыстацца спінай,
Якую разам прывядуць у рух
І пачуццёвасць, і сентыментальнасць.
Такі кентаўр, паверце, нерэальнасць.

74 Прыгожы пол — настойлівы і ўпарты.
Ён вечна штосьці шукае, ды ніяк
Не знойдзе нечага, чаго ён варты.
Па волі хваль і ветру, як марак,
У грозным моры кінуты без карты,
Нясецца ён туды, дзе, як маяк,
Штось навісае над пустынным плёсам,
А тое *штось* аказваецца ўцёсам.

75 Ёсць кветка *прыхамаць любві хвіліннай*,
Якую ў садзе вырасціў Шэкспір.
(За тое, што я рыфмаю бязвіннай
Яе крануў, прабач мяне, кумір.)
Зацягнуты ракою хуткаплыннай
Зноў у глыбокі пачуццёвы вір,
«Voilà la Pervenche» — я паўтараю
Ўслед за Русо. І вам рабіць так раю.

76 Стоп! Эўрыка! Я не магу лічыць
Каханне прыхамаццю, як ні дзіўна.
Наўрад захоча кожны дзень грашыць
Той, хто працуе многа і актыўна,
За выключэннем толькі, можа быць,
Медэі, што кахала інстынктыўна,
Хоць разам з арганаўтамі плыла
І капітанам выбрана была.

77 «Beatus ille procul» ад «negotiis»,—
Сказаў Гарацый, хоць і памыліўся.
Лічу больш правільным другі яго дэвіз,
Які надзіва гарманічна ўліўся
Ў маю свядомасць,— «Noscitur a sociis»
(Хоць я і на нягоднікаў маліўся),
Бо сапраўды шчаслівы самы той,
Хто справаю заняты хоць якой.

78 Рай прамяняў на араллю Адам,
З лісточкаў фігі сукню сшыла Ева,
А навучыла, як вядома нам,
Іх працаваць пазнанняў нашых дрэва.
Усіх людзей (і асабліва — дам)
Ушчэнт разбэшчвае гультайства. Дзева,
Што для работы некалькі гадзін
Знайсці не можа, не здалее сплін.

79 Гультайства напаўняе пустатой
Вышэйшы свет і катаваннем робіць
Хвіліну кожную ў пустэчы той —
І непрыемнасцей хапіць нам собіць.
Адсюль распуста і благі настрой,
Адсюль жаданне дам свой быт аздобіць
Сінечаю панчох, раманаў, мар.
Жанчына свецкая — як антыквар.

80 Але дагэтуль я не прачытаў
Ніводнага рамана пра раманы,
Якіх на вочы ўласныя лёс даў
Мне шмат пабачыць. Каб, вернападданы
Жыццёвай праўды, я апавядаў
Пра ўсё, што бачу, лямант несціханы
Падняўся б неўзабаве — і мяне
Абвінавацілі б усе ў мане.

81 Таму ў мяне мясцін агульных шмат.
«І вустрыца няшчаснаю бывае
Ў каханні», бо жыццё праводзіць пад
Вадой у шкарлупіне і ўздыхае,
Нібы манашка. Зрэшты, вертаград,
Што пышнаю набожнасцю буяе
За кляштарнай сцяною,— сад, які
Даць можа і грахоўныя расткі.

82 О Вільберфорс! Ты заслужыў па праву
Хвалебных од, санетаў і канцон,
Хоць чорнаю тваю назвалі славу.
Ты Афрыкі маральны Вашынгтон!
Цяпер хутчэй зрабі другую справу
І загані ўсіх белых у загон,
Бо нельга ж усяму людскому роду
Даваць і раўнапраўе, і свабоду.

83 Але святую тройцу Аляксандра
Пляшывага спачатку адапры
У Сенегал — туды, дзе алеандра
Не ўбачыш нават і за мілі тры.
Няхай агонь, як тая саламандра,
Глытаюць ваяўнічыя цары,
Бо, пэўна, не хапіла б і мільёнаў
На пабудову новых Павільёнаў.

84 Надзень на свет астатні кайданы.
Свабоду ж дай насельнікам Бедлама
І дапусці да ўлады — і яны
Уладарыць будуць, веру, гэтаксама,
Як і *нармальныя* балбатуны.
Як Архімед, каб вас упэўніць прама
Цяпер у тым, я спробы не зраблю.
Не зрушыш без point d'appui Зямлю!

85 У сэрцы лэдзі маладой каханне
Яшчэ не пасялілася тады.
Было яно ў той час — як памяшканне
Прасторнае і светлае, куды
Зайсці зрабіць баяўся намаганне
І сталы зух, і вісус малады.
Ды, даць адпор не здолеўшы спакусе,
Яно ўпадзе, як дом пры землятрусе.

86 Мілэдзі мужа ўсёй душой любіла
(І гэта не гіпербала, не міф),
Але любіла так, нібы каціла
Угору цяжкі камень, як Сізіф.
І бура б грозная не пасадзіла
Іх каравелу шлюбную на рыф.
Наогул, шлюб іх быў высакародны,
Спакойны, ясны, ды, на жаль, халодны.

87 Хоць іх адна арбіта паяднала,
Яны не сталі зоркаю двайной.
Жыццё мілэдзі з мужам працякала,
Як Рона ў Лемане. Вады сваёй
Яна з азёрнай не перамяшала
І светлаю блакітнаю бруёй
Цякла праз возера. Яны пры гэтым
Не ўзростам розніліся, а імпэтам.

88 Калі цікавіў хтосьці Адэліну,
Нягледзячы на стрыманасць яе,
Здавалася, што ўражанне плаціну
Яе душы захопленай прарве
І ўжо стрымаць эмоцый ручаіну
Не ўдасца ёй, пакуль не пазаве
Ўсе сілы ўласныя на дапамогу.
Але ўсё ўладжвалася, дзякуй Богу!

89 Дапамагала ёй звычайна гордасць
Ці дэман той, што мае два імя:
Калі ў героі ён жыве, то *Цвёрдасць*;
Калі ж — у тым, каго, нібы змяя,
Кусае лёс, то *Ўпартасць*. Каб на годнасць
Праверыць казуіста, раю я
Вам папрасіць яго, каб неадкладна
Мяжу між імі ён правёў дакладна.

90 Каб ля Ватэрлоо да Банапарта
Фартуна больш спрыяльная была,
Яго б упартасць не кляймілі ўпарта:
Яна б зрабіцца цвёрдасцю магла.
Правесці рысу паміж імі варта,
Як і дабро адмежаваць ад зла,
Ды я вярнуся ўсё ж да Адэліны,
Таксама ў нейкім родзе гераіні.

91 Я не кажу, што юнака нібыта
Кахала лэдзі, бо падстаў няма.
Чаго хацелася ёй менавіта,
Яна тады не ведала сама.
Аб тым не гаварыла нават скрыта
Яшчэ гасцей дасужая гурма.
Мілэдзі ратавала чалавека,
Якому пагражала небяспека!

92 Красуня міласэрная была
Або лічыла (гэта больш дакладна)
Сябе сяброўкай рускага пасла
І з ім сабе дазволіць безаглядна
Пацалавацца нават не магла,
Як немка ці француженка. Зларадна
Не трэба пасміхацца без прычын.
Іх сувязь — быццам дружба двух мужчын.

93 Вядома, розных поляў тайны ўплыў
Не мог на іх сяброўстве не адбіцца,
Ды гэты ўплыў такі бязвінны быў,
Што ў чысціні іх зносін усумніцца
Не мог ніхто. Калі страсцей парыў
Жанчыну не прымусіў распаліцца,
То за яе не зможаце знайсці
Вы сябра больш надзейнага ў жыцці.

94 Нясе ў сабе любоў зародак здрады.
І быць інакш не можа. Чым ярчэй
І палымяней свецяцца пагляды
У закаханых, тым яны хутчэй
Патухнуць. Азарае даляглядны
Нядоўга бліскавіца, карацей.
Не можа страсць быць бляклай і нятленнай,
А толькі асляпляльнай і імгненнай.

95 Нібыта захапляльная ігра,
Страсць завалодала і Саламонам,
Зрабіўшы наймудрэйшага цара
Няшчасным палюбоўнікам-буфонам.
Тут пару слоў пра шлюб сказаць пара.
Я паважаю шлюб, хаця палонам
Бязрадасным лічыў яго. Аднак
Муж страснай жонкі — двойчы небарак.

96 Але жанчыны могуць быць сябрамі
(Здараецца ў жыцці так сапраўды),
Якія вечна застаюцца з намі
(Нягледзячы на плёткі і суды),
Калі нас ядавітымі зубамі
Кусаюць злыя змеі грамады.
Такая вернасць у гады выгнання
Каштуе палымянага кахання.

97 Сябрамі дон і Адэліна сталі.
Але ці гэтак прыгажун Жуан
З прывабнаю мілэдзі сябравалі,
Дазнаецеся вы, калі раман
Не адкладзеце ўбок. Я ўсе дэталі
Адносін іхніх выкладу і ў зман
Вас не ўвяду. Каб захаваць інтрыгу,
Убок сваю сам адкладу я кнігу.

98 Гуляў па лесе з ёю ці катаў
Яе ў калясцы юны рыцар гэты,
Ці «Дон-Кіхота» разам з ёй чытаў
Або праглядваў свежыя газеты —
Ўсё гэта тэмы будучых актаў
І песень тых, што потым будуць спеты.
Я ўсё ў іх падрабязна раскажу
І мне ўласцівы талент пакажу.

99 Сур'ёзным буду я ў наступнай дзеі.
Таму прашу пакорна чытачоў
Не забягаць наперад і падзеі
Не апярэджваць, каб ганебных слоў
Не выказаць дарэмна добрай феі
І маладзейшаму з яе сяброў.
Была дагэтуль, прызнаюся шчыра,
Як фарс, мая эпічная сатыра.

100 Падзеі ўсе вялікія і справы
Ўзнікаюць часта з дробязных прычын.
Мой лёс уласны — прыклад найяскравы.
Страсць, што прыводзіць дам, як і мужчын,
Да гібелі, ўнушыў мне нецікавы
І найнікчэмны выпадак адзін.
Гатоў трымаць пары аж да мільярда!
Вам не ўгадаць, што ўсё пайшло з більярда.

101 Хоць гэта дзіўна, праўда, ды праўдзіва.
Глядзіць на праўду з недаверам свет.
О каб нарэшце адбылося дзіва —
І, як Калумб, празаік ці паэт
Давёў да запаветнага заліва
Праўдзівасці і шчырасці карвет
І паказаў бы нашых антыподаў,
Дык сэрцамі свет іншы б завалодаў.

102 У душах чалавечых фальшу горы
І эгаізму полюсныя льды,
«Бясплодныя пустыні і пячоры
Вялікія» адкрыліся б тады,
Ў антрапафагаў сэры і сеньёры
Ператварыліся б і назаўжды
Патухла б слава Цэзара, якога
Хвалілі лжэгісторыкі замнога.

## ПЕСНЯ ПЯТНАЦЦАТАЯ

1 Ах, памяць, памяць! Гэта проста жах:
Я забываю, што сказаць жадаю.
І тым не меней, што ў маіх радках
Усё дарэчы будзе, абяцаю.
Жыццё — выклічнікі. То *ох*, то *ах*,
То *о*, то *о-го-го* я паўтараю.
А зараз я ўжыву выклічнік *тфу*:
Ён мне паможа завяршыць страфу.

2 Калі ўсё падагуліць, то любы
Выклічнік — гэта сімвал хвалявання
І, значыць, антытэза той журбы,
Якая захлынула нас дазвання.
Уздыхі, стогны, позехі — нібы
Паверхня акіяна існавання.
Усё, што вока ўбачыць не магло,
Убачыць хваляванне мне дало.

3 Нястрымны гнеў, нястрыманыя ласкі
Намнога лепш, чым затрыманы ўздых,
І тым не меней чалавек без маскі
Рэліктам стаў. Сярод людзей жывых
Няма такіх, што могуць без апаскі
Сказаць усё, што думаюць, услых.
У сэрцах пасялілася прытворства —
Не абурае нас і рэзанёрства.

4 А хто не згадвае сягоння з нас
Памылкі страсці ў маладыя леты?
Пахілыя балваны іншы раз
Хвалююцца, як юныя паэты,

Хаця здаецца, што прыйшоў іх час
Павольна плыць па хвалях ціхай Леты.
Ў рубінавых фужэрах не віно —
Асадак горкі пакрывае дно.

5 А зараз пра каханне... О каханне!
Цябе ўслаўляць заўсёды я гатоў.
І ўсё-ткі лепей я зраблю вяртанне
Да мілай лэдзі Адэліны зноў.
Яе імя як раўчука журчанне,
Нібыта ціхі шоргат чаратоў.
І шум лясны, і пляск азёрных плёсаў,
Дарэчы,— рэха музыкі нябёсаў.

6 Была павагі вартая яна,
Ды, як жанчыны ўсе, рызыкавала
Стаць выпітай бутэлькаю віна.
Мне вобраз гэты муза падказала,
І што сказаў я так — яе віна,
Хаця з віном агульнага нямала
Ёсць у жанчын. Псуецца і віно,
Калі такое ж лёгкае яно.

7 З віном, якое зроблена было
З грон вінаградных лепшага адбору,
Я б лэдзі параўнаў. Яе чало
Не саступала бляскам луідору.
Доўг спаганяць сумленне б не дало
З красуні той прыродзе — крэдытору,
Што неплацежаздольных даўжнікоў
Не меў, як ведама, спакон вякоў.

8 О смерць! Як крэдытор ты самы строгі,
Нахабны, неадступны і круты.
Давесці да адчаю і знямогі
Любога даўжніка — твой доўг святы,
Хаця спачатку абіваць парогі
Дзябёлых даўжнікоў баішся ты.
Умееш так да нас ты прычапіцца,
Што чэкам ад цябе не адкупіцца.

9 Няўжо табе, абжора, не шкада
Надзвычай рэдкай сёння прыгажосці?
Ці гэткая ўжо страшная бяда,

Што незнарок са шляху збіўся хтосьці?
Табе ж належыць нацый чарада,
А ты не ўмерыш усё роўна злосці.
Героеў колькі хочаш пажырай,
Але слабых жанчын не забірай.

10 Красуня Адэліна (асабліва
У хвіліны закаханасці) была
Наіўнай, прастадушнаю надзіва
(Хоць хутка закахацца не магла
І несла крыж мілэдзі ганарліва)
І неаднойчы сэрца аддала
(Рашуча, без працяглага вагання)
Пачуццям, што дастойны спачування.

11 Былі вядомы лэдзі эпізоды
Даволі многія з жыцця пасла,
Таму што змоўчаць пра яго прыгоды
Хадзячая газета не магла,
Але чамусьці ставяцца заўсёды
Жанчыны да такіх грахоў пабла-
жліва. Аднак і Дон-Жуан змяніўся —
У Алківіяда ён ператварыўся.

12 Хаця і не стараўся ён, як фат,
Эфектным быць; хоць модным купідонам
Не рысаваўся, а яго пагляд
Не гаварыў ні дзевам, ні мадоннам:
«Абараняйцеся!», быў дыпламат
Прывабным — і таму, напэўна, донам,
Якi не захапляў нікога сам,
Магла любая захапіцца з дам.

13 Як жорстка памыляюцца жуіры,
Калі шукаюць шлях да сэрцаў іх,
Другія выбраўшы арыенціры.
Дон не любіў падвохаў і інтрыг,
Ягоны голас быў заўсёды шчыры.
А голас непадманлівы з усіх
Стрэл д'ябальскіх, як вызначана мною,
З'яўляецца вастрэйшаю стралою.

14 Быў Дон-Жуан пяшчотны ад прыроды.
Яго пагляд, хоць і не баязлівы,

Упэўніваў, што ён нікому шкоды
Зрабіць не можа. Добры, незласлівы —
Ён не патрабаваў узнагароды
За ветлівасць сваю і быў шчаслівы
Сваёю сціпласцю. Характар гэты
Іспанца хутка набліжаў да мэты.

15 Спакойны, стрыманы, адукаваны —
Ён у грамадстве бачыў шмат заган,
Ды выкрываць грамадскія заганы
Ні ў якім разе не хацеў Жуан.
Быў з гордым гордым дон, пераканаваны,
Што ён і сам далёка не прафан,
І знаць даваў паглядамі сваімі,
Што ён прывык нароўні быць з усімі.

16 Так мой герой з мужчынамі трымаўся.
А што датычыцца жанчын, то ім —
Уражлівым і палкім — дон здаваўся
Не тым, кім быў ён, а такім, якім
Жаночым уяўленнем маляваўся:
Магчыма, што каханкам трапяткім,
А можа, добрым і пяшчотным Лелем.
Бог ператвораны так Рафаэлем.

17 Была не вельмі добрым знатаком
Характараў красуня Адэліна —
І, добрая, лічыла зло дабром.
Нявопытнасць — вось нашых бед прычына.
Як можа той лічыцца мудрацом,
Хто павучае нас, хоць палавіна
Людзей не можа зразумець яго?
Вар'яцтва шмат у мудраца таго.

18 Так здарылася з Бэканам і з Локам.
Так здарылася і з табой, Сакрат.
Скажы, Філосаф Божы, хто прарокам
Быў і чыім вучэннем супастат
Грэх прыкрывае, ці не стала ўрокам
Тваё распяцце для цябе? Я шмат
Прывесці б мог падобных ілюстрацый,
Якія будуць вечнай ганьбай нацый.

19 Маё ж апавяданне — гамана
Бязладная. Сярод жыцця на горцы
Стаю і не звяртаю ўвагі на
*Здзяйсненні*, як другія вершатворцы.
Жыцця фактура з горкі мне відна —
І словы льюцца, быццам пры гаворцы
З сустрэчнымі людзьмі, калі пяшком
Гуляю ці катаюся вярхом.

20 Мець, пэўна, трэба талент асаблівы,
Каб гэткім чынам словы рыфмаваць.
Ва ўсякім разе, хоць я балбатлівы,
Вам у маіх радках не адшукаць
Ліслівай інтанацыі, калі вы
Пачнеце метад мой рэвізаваць.
Любы таленавіты літаратар
У нейкім сэнсе ўсё ж імправізатар.

21 «Імкнецца *belle* гаварыць Мато.
Кажы і *bene*, і *neutrum*, і *male*».
Не піша *belle* ў гэты час ніхто,
А *bene* і *neutrum* даўно ў апале.
А што датычыць стылю *male*, то
Дагэтуль не абрыдзеў ён ухвале.
Я задаволены, што мой язык,
Нарэшце, змешваць стылі ўсе прывык.

22 Лічу, што сіла, а не слабасць гэта,
Бо сціпласць лепш ад гордасці любой.
Ды час, відаць, вяртацца да сюжэта,
А то паэма гэтая даўгой
Занадта будзе. Каб маёю мэтай
Было жаданне дагадзіць слабой
І драхлай тыраніі, я, бясспрэчна,
Свой твор бы не расцягваў недарэчна.

23 Не падхалім я і не прыхвасцень,
Таму прымаю бок слабых заўсёды.
Калі б «сабакі свой займелі дзень»,
А ўладныя душыцелі свабоды
Ва ўсёй вялікасці сышлі б у цень,
Я асмяяў бы іх з такой нагоды,
Каб ультрараялістам стаць затым,
Хоць тыраніі не цярплю ні ў чым.

24 Як я казаў, рэч добрая — сям'я.
І, каб не ўспамінаў свой шлюб са страхам,
Прыстойным мужам мог зрабіцца я,
Хоць мог бы стаць, напэўна, і манахам,
Каб халаднейшы быў хоць удвая.
А каб не захацеў адзіным махам
Забараніць мне бардам быць той-сёй,
Не стаў бы я пісаць аповед свой.

25 Laissez aller. Пра рыцараў і дам,
Вядомых мне, мая спявае ліра.
Каб так спяваць (здаецца, пэўна, вам),
Не трэба крыл тытана са Стагіра
Ці Лонгіна, ды (як адчуў я сам
І ў чым адразу прызнаюся шчыра)
Нялёгка штучных персаналій раць
У натуральных фарбах маляваць.

26 Былі ўсе людзі розныя калісьці
І мелі нораў свой. Цяпер яны
Аднолькава стрыгуцца ўжо ў калысцы,
Як у атары — тыя бараны.
У апісанні іх няма карысці,
Бо звычкі і манеры ў іх адны.
І, можа, лепей метад парадыйны
Пры апісанні іх, чым традыцыйны.

27 Наперад, Муза! Пырхай, раз лятаць
Яшчэ не навучылася высока.
Дасціпнай будзь, але і нагадаць
Дзяржаўнага гаваруна-прарока
Не бойся часам. Можна адкрываць
Амерыку і заплываць далёка
Ў мізернай брыганціне, як Калумб.
Ад мэты не ўхіліся ні на румб!

28 Святая, з незаплямленым сумленнем
І верная абранніку свайму —
Глядзела Адэліна з захапленнем
На дона юнага, відаць, таму,
Што ён здаваўся ёй увасабленнем
Нявіннасці. Дапамагчы яму
Уратаваць сваю душу і цела
Мілэдзі маладой тады карцела.

29 Як людзі, што даюць парады дарам
І шчыра вераць у карыснасць іх
(Парады па кішэні нават скнарам,
Бо ўдзячнасць — кошт не з самых дарагіх),
Яна хлапчыне з мілавідным тварам
Сказала вечарам, што як жаніх
Ён прыгажуням незамужнім сніцца
І што яму прыйшла пара жаніцца.

30 Жуан прызнаўся ёй чыстасардэчна,
Што ён шануе шлюб і халастым
Ні ў якім разе жыць не хоча вечна,
Ды змушаны становішчам сваім
Быць стрыманым, бо надта небяспечна
Руку прапанаваць жанчынам тым,
З якімі б ён звязаць жыццё згадзіўся.
Ніводнай з дзеў Жуан не захапіўся.

31 Зрабіўшы ўласны выбар, маладзіцы
Бяруцца сватаць родзічаў сваіх,
А размясціўшы іх, як на паліцы —
Тамы прыгожых нечытаных кніг,
Збіраюць, быццам жмінды — завушніцы
І персцені, у круг сямейны ўсіх
Знаёмых, што пад рукі пападуцца,
І ад спакус тым самым берагуцца.

32 Няма ніводнай дабрачыннай дамы
(За выключэннем, можа, толькі дзеў),
У галаве якой бы гэткі самы
План шлюбны ў гэты момант не сядзеў,
Пабудаваны па законах драмы,
Якія Арыстоцель зразумеў.
Хоць планам гэтым назву драм далі мы,
Яны ўсе — меладрамы, пантамімы.

33 Ёсць на прыкмеце ў добрых дам заўсёды
(У чым хачу я ўпэўніць чытача)
Джон або Джордж, з якімі знікнуць роды
Пры іх бяздзетнасці, бо, апрача
Іх, больш няма сыноў у ваяводы
Былога і ў старога багача,
А ў звадыяшак спрытных ёсць нявесты,
З якіх любая прыгажэй ад Весты.

34 Беспамылкова выберуць яны
Для аднаго наследніка багачку;
Красуню з целам рэдкай белізны —
Для гэтага; а для таго — спявачку,
Якая мае вартасці адны;
А для кагосьці — фею-паслугачку
Маўклівую, якой няма цаны.
Любая імі выбраная жонка
Сама як той пасаг, сама скарбонка.

35 Здзівіў усіх нас Рап сваёй калоніяй,
Якая нараджае менш ратоў,
Чым можа пракарміць. Яна «Гармоніяй»
Названа, хоць я называць гатоў
Яе так толькі з горкаю іроніяй.
Хоць смакаванне слодычных пладоў
У раі тым і не забараняецца,
Затое шлюб у ім не дазваляецца.

36 Са шлюбу ці з гармоніі пакпіць,
Развёўшы іх, Рап захацеў, магчыма,
Хоць паасобку я іх уявіць
І не магу. І ўсё ж ён — малайчына!
Не можа секты гэткай утварыць,
На жаль, мая распусная айчына.
Быў задаволены б я цалкам, каб
Назваў інакш сваю суполку Рап.

37 Я ўжо даўно адэпт яго вучэння.
Ён — супрацьлегласць збэшчаных матрон,
Якія ўзводзяць прагу размнажэння
У нас, Мальтусу насуперак, на трон.
Яна — прычына перанасялення
Брытаніі. І кожны наш Катон
Ламае галаву, як эміграцыю
Прадухіліць і не разбэсціць нацыю.

38 Упэўнена я не скажу, бадай,
Што Адэліна Мальтуса чытала,
Хоць запаведдзю адзінаццатай
Вучэнне нашага прарока стала,
Ці ты яго прымай ці не прымай.
«Будзь халастым, калі прыбытку мала»,—
Гаворыць Мальтус. Толькі хто ў разлік,
Калі кахае, гэта браць прывык.

39 Быў капітал апірышчам надзейным
(І гэта лэдзі ведала, відаць)
Для жаніха. Каб у жыцці сямейным
Дон пацярпеў фіяска, галадаць
Не стаў бы ён. Напісана Гальбейнам
Карціна «Скокі смерці». Перадаць
Яна нюансы скокаў шлюбных можа,
Хоць так, магчыма, гаварыць нягожа.

40 Мілэдзі вырашыла канчаткова,
Што ў рэшце рэшт ажэніцца Жуан.
Міс Брык, міс Крык, міс Кніга, міс Абнова,
Міс Каштарыс, міс Бланк і міс Гурман
Былі ў мілэдзі пад рукой. Фартова
Жыў з кожнай бы пасол-палітыкан
І ззяў бы кожны дзень, як імяніннік.
Ішло б жыццё Жуана, як гадзіннік.

41 Была яшчэ ў мілэдзі маладой
Міс ціхая Балотта пад рукамі.
Яна была адзінаю дачкой
І жаніхам здавалася вяршкамі
Тады, як сумесь малака з вадой
Яна ўяўляла. Праўда, жаніхамі
Сур'ёзна ўлічвацца не можа гэта:
Шлюб як-ніяк — малочная дыета.

42 Была міс Бот, што стужкаю блакітнай
І яркай зоркай трызніла ўвесь час,
Хоць мара аказалася нязбытнай,
Бо вельмі мала герцагаў у нас.
А можа, міс была не надта спрытнай,
Што герцаг ёй не трапіў пад абцас.
А чым выходзіць замуж за прыдурка,
Лепш аблапошыць рускага ці турка.

43 Я ўсіх нявест прыгадваць без патрэбы
Не буду, каб чытачак не злаваць,
Хоць глянулася мне Аўрора Рэбі,
Якая толькі пачынала ззяць
Венераю на досвіткавым небе,
Хоць не магло яно адлюстраваць
Прывабнасць ружы, што не расквітнела,
Ды ўжо даволі ярка палымнела.

44 Багатаю і знатнай сіратой
Яна жыла ў апекуноў, і вочы
Красуні безвыходнаю журбой
Тумaніліся часта па-дзявочы.
Кроў — не вада. Палатай залатой
Аздобіць немагчыма сум сірочы,
Калі дамашні дарагі ачаг
Ужо з бацькамі нашымі ачах.

45 Дзіцё на выгляд, як і па гадах,—
Яна была дарослая вачыма.
Не мог спакойна і стары манах
Прайсці ля юнай прыгажуні міма,
Бо сумны бляск у маладых вачах
Яму нагадваў позірк серафіма,
Які стаіць каля варот у рай
І прапускае душы ў дзіўны край.

46 Хаця квітнеў ужо не ў поўнай меры
Каталіцызм, міс гэтая была
Прыхільніцаю каталіцкай веры
І сэрца добрае ёй аддала.
Яе славутых продкаў нават пэры
Прывечвалі, і Рэбі не магла
Ні ў якім разе іхняй веры здрадзіць.
Міс ад яе ніхто б не змог адвадзіць.

47 Яна, здаецца, ведаць не жадала
Свет, абсалютна не вядомы ёй,
І, быццам тая кветка, расцвітала
Сам-насам з адзінотаю сваёй.
Яе душа ў завоблаччы лятала
І наталяла смагу вышынёй,
Што для істоты маладой пахвальна
І ў нейкім сэнсе нават знамянальна.

48 Каля шаснаццаці было ёй дзесьці,
І мо таму ў свой патаемны спіс
Забыла лэдзі Адэліна ўнесці
Імя цнатлівай і прыгожай міс,
Хоць халасцяк любы такой нявесце
Аддаў бы перавагу. І маркіз,
Які хацеў сябе хутчэй удвоіць,
Яе стараўся ўвагай удастоіць.

49 Той пропуск, як адсутнасць бюста Брута
Ў працэсіі Тыберыя, дзівіў —
І дон з усмешкай, хоць і надта крута,
Сваё здзіўленне лэдзі прад'явіў.
Твар Адэліны не сказіла смута,
А толькі гнеў упарты рот скрывіў.
І ўзрушаны Жуан пачуў: «Аўрора —
Халодная маўклівая прытвора».

50 Але Жуан заўважыў, што Аўрора
Як каталічка болей для яго
Як жонка падыходзіць. Будзе гора,
Калі ад сына блуднага свайго
Так, як матуля, так і папа скора
Адвернуцца і нават больш таго...
Ды Адэліна глянула сурова
І паўтарыла довад слова ў слова.

51 Чаму ж было ёй гэтак не зрабіць?
Любы разумны довад горш не стане,
Калі яго, як лэдзі, паўтарыць.
Калі ж ён замяшаны на падмане,
Яго, як кол — у глебу, трэба ўбіць
У апанента. На палітыкане,
Што славіцца бязмежнай дуратой,
Лепш выпрабоўваць метад лэдзі той.

52 Чаму ж так ставілася прадузята
Мілэдзі да істоты маладой,
Якая мела вартасцей багата,
Была прыгожай і амаль святой,
Тым больш што лэдзі шанавала свята
Такія ж якасці ў сабе самой?
Вось мой адказ: жаночыя капрызы
Падносяць нам і большыя сюрпрызы.

53 Не падабалася ў ёй Адэліне,
Напэўна, раўнадушша да ўсяго,
Чым жыць даводзіцца любой жанчыне:
Да свецкай мітусні і да таго,
Як на яе свой позірк герцаг кіне.
А прыніжэнне гонару твайго
Кім-небудзь горш ад здзеклівых ironій.
Так прыніжаўся Цэзарам Антоній.

54 Не зайздрасць лэдзі добрую гняла
(Зайздросціць гордасць ёй не дазваляла);
І пагарджаць Аўрорай не магла
Яна, бо дзева юная ўяўляла
Сабою плод любові, а не зла;
І ў рэшце рэшт яна не раўнавала.
Але ці варта давярацца нам
Яе душы блукаючым агням?

55 Аб тым, што лэдзі Адэліна косці
Перамывае ўжо даўно сваёй,
Напэўна, самай далікатнай госці,
Не ведала Аўрора — і бруёй
Чысцюткай у патоку маладосці
І вартасцей паблісквала. Каб ёй
Пра гэта ўсё вядома раптам стала,
Яна ўсміхнулася б і прамаўчала.

56 Спыняла на мілэдзі позірк мілы
Аўрора, як на светлячку якім,
Каб глянуць праз імгненне на свяцілы,
Што ззяюць ярка ў мораку начным.
Яна не мела здольнасцей Сівілы,
І дон яе не захапіў нічым,
Хаця гарэў ярчэй ад метэора.
Не давярала знешнасці Аўрора.

57 Быў д'яблам-спакушальнікам Жуан.
Яго імпэт прыпадабніўся сплаву
Нядрэнных якасцей і тых заган,
Што асляпляюць і прыносяць славу.
(На лонданцаў такіх і парыжан
Жаночы пол наладжвае аблаву.)
Але Аўрора пры сустрэчы з ім
Халоднай заставалася зусім.

58 Не ведаў ён характараў такіх.
Яго Гайдэ, яго астравіцянка,
Узгадаваная ля хваль марскіх,
Была надзіва страсная каханка.
Ядналі шчырасць і прывабнасць іх,
Але дачкой прыроды гараджанка
Быць не магла. Адна цвіла, бы квет,
Другая бліскала, як самацвет.

59 Якое ўсё-ткі параўнанне змог
Прыдумаць я! І мне таму ахвота
Зноў «пратрубіць у мой ваенны рог»,
Як сябар Скот сказаў, а лепш ад Скота
Ніхто не маляваў рабоў-нябог
І хрысціянскіх рыцараў. Блазнота
У параўнанні з ім любы кумір.
Вядома, не Вальтэр і не Шэкспір.

60 На абалонцы чалавецтва зноў
Наігрываць я, значыць, пачынаю.
Ці задаволіць твор мой чытачоў,
Не ведаю і ведаць не жадаю,
Хоць ворагаў не меней, чым сяброў,
У выніку, вядома, я прыдбаю.
Апісваю я без аглядкі свет
І веру, што нядрэнны я паэт.

61 Нараду бурную, якую дон
Праводзіў з лэдзі, як усе нарады,
Перапыніў той серабрысты звон,
Які пачуць былі ўсе госці рады,
Бо да абеду рыхтавацца ён
Іх заклікаў. Абеды ж — як парады
Каштоўнасцей і ўбораў — для жанчын,
Як бой пацешны з ежай — для мужчын.

62 Стол — поле бою. Блюды, як шчыты,
Нажы з відэльцамі — прадметы зброі.
Гамер! Хто зараз рызыкне, як ты,
Апісваць падрабязна, чым героі
Сягоння набіваюць жываты?
Біфштэксы, соусы, супы, напоі
Складаней, чым рэцэпты дактароў,
Знахарак, куртызанак, ведзьмароў.

63 Былі пададзены булён à la
Bonne femme і суп à la Beauveau, а потым —
Са смачнай поліўкаю камбала.
Індычка Parigeux за антрыкотам
Затым гасцям паднесена была.
Наогул, столькі смачных страў было там,
Што я не ведаю, як столькі страў
Змясціць на плошчы некалькіх актаў.

64 Хутчэй закончыць я абед хачу:
Іначай будуць чытачы злавацца.
І я, каб спадабацца чытачу,
Не буду ў падрабязнасці ўдавацца.
Я bonne vivante, але трыбухачу
Не хоча мой радок прыпадабняцца,
Бо ён павінен чытачоў карміць,
Каб раптам іхні дух не прытаміць.

65 Дзічына à la Condè і ласасіна
Пад соусам; віно, што пагубіць
Магло б яшчэ раз маладога сына
Амона, роўнага якому быць
Ужо не можа вяяра; вяндліна
Вестфальская, якую блаславіць
Апіцый мог бы; фінікі з Суматры;
Шампанскае, як перлы Клеапатры;

66 À l'Allemande рагу, à l'Espagnole лангет,
Timballe і salpicon — вось тыя стравы,
Што падалі прысутным на абед,
Які, дарэчы, меў усе падставы,
Каб называўся ён усё ж *банкет*.
Былі ўсе стравы тыя варты славы
Лукулавых славутых страў, але
Найболей — з курапаціны філе.

67 У параўнанні з ім узнагароды,
Вянцы і калясніцы — смецце, прах.
Дзе арка, пад якой прайшлі народы
У цяжкіх і грымотных ланцугах,
Якія іх пазбавілі свабоды?
Усе яны згубіліся ў вяках.
Хто будзе за Лукула-гастранома
Славуцей з пераможцаў, невядома.

68 Няма смачней за труфелі прыправы,
Калі затым petits puits d'amour
Вам падаюць. Для гэтай простай стравы
Не трэба ні суфле, ні канфіцюр.
Яе рэцэпт шукаеце дарма вы
Пад вокладкамі поварскіх брашур.
Яго няма там, хоць і без варэння
Мной згаданая страва — аб'ядзенне.

69 Складанейшы працэс — сервіраванне.
Яго асвоіць дадзена не ўсім.
Калі ж яшчэ ўлічыць, што страваванне
Нярэдка можа пагаршацца ім,
Не здзівішся і ты, што гатаванне
І самых нескладаных страў, якім
Заняцца змусіла жыццё Адама,
Навукаю зрабілася таксама.

70 Хадзілі сківіцы. Хрусталь звінеў.
Былі ўсе задаволены абедам.
Прыдзірлівы гурман са смакам еў
Прыправы і не размаўляў з суседам.
А юнакі займалі юных дзеў —
І тыя балбатлівым неўвярэдам
З прыязнасцю ўсміхаліся ў адказ.
Жанчыны мала елі ў гэты раз.

71 Пара, аднак, падводзіць рэзюме.
Працягваць я не буду апісанне
Дзічыны ўсёй, сальмі і кансаме,
Бо толькі дзеля рыфмы ўпамінанне
Зрабіць іх назваў давялося мне.
Я не дазволю сапсаваць гучанне
Сваіх, хоць і абжорлівых, актаў
І апісаннем іншых смачных страў.

72 Плады і іншыя плады прыроды
Не толькі развіваюць смак і густ,
Але прыносяць людзям шмат і шкоды,
Больш гучным робячы каленны хруст.
Падагры беражыцеся заўсёды,
Бо і прыстойны чалавек, і хлюст
Хварэць каварнаю падаграй можа.
Абарані нас ад напасцей, Божа!

73 Ды не згадаць пры пераліку страў
Не мог я аб сябрах віна — маслінах,
Бо з асалодай іх я абгрызаў
У Луке, у Мадрыдзе і ў Афінах.
Еў з хлебам іх я на абрусах з траў
І на паветры свежым на вяршынях
Гамета, Сунія, як Дыяген.
Ягонай бочкі я абарыген.

74 Як грымнуў звон, мінула паўгадзіны —
І за сталом абедзенным вакол
Вялізнай груды мяса і дзічыны,
Якая прагінала важкі стол,
Расселіся мужчыны і жанчыны,
Як гэта прадугледжваў пратакол.
Дон пажыраў à l'Espagnole вачамі.
Што гэта значыць, мы ўжо знаем з вамі.

75 Не ведаю, на шчасце ці на гора,
Ды побач з развярэджаным паслом
Сядзелі Адэліна і Аўрора
Ў той вечар за абедзенным сталом,
І выглядаў Жуан не так бадзёра,
Бо ў сэрцы юным адчуваў надлом.
З пасла вачэй мілэдзі не спускала
І нешта ў позірку яго шукала.

76 Здаецца мне, што нашы сітавіны
Цялесныя і вочы маюць слых.
Ва ўсякім разе, чуйныя жанчыны
Яшчэ шмат чым, апроч вачэй сваіх,
Пачуць умеюць свежыя навіны
Так, як і музыку сфер незямных.
А звадыяшкі ўмеюць чуць размовы,
Ў якіх адсутнічаюць нават словы.

77 Аўрора з выглядам халаднаватым
І грэблівым сядзела за сталом,
Нібыта пагарджала дыпламатам,
Які прыбыў у Англію паслом.
І хоць не быў іспанец горды фатам,
Не мог ён заставацца караблём,
Заціснутым ільдамі ў акіяне,
І вастраслоў прачнуўся ў Дон-Жуане.

78 На пусцякі вясёлыя ў адказ
Жуан атрымліваў адны абрыўкі
Даволі цьмяных, невыразных фраз.
Аўрора абыякава з-пад грыўкі
Глядзела ў бок яго. І хоць бы раз
Заззяла ўсмешка ў позірку цнатліўкі!
Яна ў час гэты чарцянём была.
Затое лэдзі ззяла і цвіла.

79 «Ну што? Аказваецца, я прарок!» —
Усё тады крычала ў Адэліне,
Але, на жаль, калі такі папрок
Мужчыне хтосьці ў час трыумфу кіне,
Абавязкова больш сур'ёзны крок
Тады зрабіць захочацца мужчыне.
Праявіць ён увесь імпэт і гарт —
І скончыцца сур'ёзнай справай жарт.

80 Жуан быў вымушаны ў дастаткова
Выразнай форме ўвагу аказаць
Сваёй суседцы — і яна сурова
На дона перастала пазіраць
І першае за гэты вечар слова
Выразна пастаралася сказаць,
Усмешкай удастоіла Жуана
І разняволілася нечакана.

81 Здаралася такое з ёю рэдка.
Нарэшце да пытанняў перайшла
Расійскага пасланніка суседка,
І лэдзі Адэліна пачала
Пабойвацца, каб страсная какетка
У ёй не праявілася. Была,
Аднак, дарэмнаю яе трывога:
Аўрора гонар пільнавала строга.

82 І сціпласцю, і веліччу пакоры,
З якою слухаў наш тактоўны дон
Жанчын, калі б другі памёр ад зморы,
І тым, што ён выконваў, як закон,
Любую просьбу іх, сусед Аўроры
Прываблівае і гордых прымадонн.
Зашмат людзей быць шчырымі прымусіў
Ён неўпрыкмет для іх, бо сам не хлусіў.

83 Яна ж сябе да думкі прывучыла,
Што ўсе паклоннікі балбатуны,
Манюкі, фарсуны, таму лічыла,
Што Дон-Жуан такі ж, як і яны.
Але ён так сябе паводзіў міла,
Што ўрэшце стрыманасці кайданы
Аўрора скінула. Схілілі вагі
У бок паразумення знакі ўвагі.

84 Прывабліваў і прыгажосцю дон.
Яна была для маладой дзяўчыны
І будзе лепшай якасцю nem. con.,
А страсныя замужнія жанчыны
Даходзяць з-за яе і да crim. con.,
Але не я — прысяжныя павінны
Займацца гэтым. Для жанчын усіх
Прыгожы франт лепш ад цікавых кніг.

85 Разгаварылася Аўрора, хоць
Больш кнігі і Мінерву шанавала.
Не пажадала маладая плоць
На прыгажосць глядзець з-пад пакрывала,
Бо для яе прыстойнасці аброць
Карсетам строгай старасці не стала.
І, эталон прыстойнасці, Сакрат
Паглядваў часам на красунь дзяўчат.

86 Калі прыстойнейшы мудрэц атычны
І ў семдзесят гадоў быў не зусім
Бясстрасны і не надта аскетычны
У мроях і фантазіях, аб чым
Напісаны аповед драматычны
Самім Платонам, то і маладым
Дзяўчатам, безумоўна, мроіць можна,
Але разважліва і асцярожна.

87 Дзве супрацьлеглых думкі пра Сакрата
Я выказаў, як Кук — пра Лільтана,
Ды музу строгую маю заўзята
Ні ў чым не вінавацьце вы: яна
Ў адным, напэўна, толькі вінавата
(Хоць гэта вартасць мо, а не віна),
Што спасцігае свет непаслядоўны.
Ў апошняй думцы — вывад мой галоўны.

88 Свет супярэчлівы, недасканалы.
Чаму ж я супярэчыць не магу
Сабе, калі мы ўсе не ідэалы?
І ўсё адно ніколі я не лгу.
Выток у праўды чысты, ды каналы,
Якімі ў непралазным трыснягу
Няшчырых душ ёй плыць наканавана,
Яе забрудзяць позна альбо рана.

89 Парабала, паэма, апалог,
І байка, і гіпербала ілжывы
Для вас, чытач, пакуль душы аблог
Пераараць і ўгноіць не змаглі вы!
Якое дзіва байка, далібог!
У байцы свет наш не такі жахлівы.
Аб ім адна рэлігія, відаць,
Праўдзівае ўяўленне можа даць.

90 Але якая? Як не памыліцца?
Ці правы ўсе мы? Адкажы, Гасподзь.
Свяцільнік Твой перастае свяціцца —
І каб ён раптам не патух, сыходзь
Сам на зямлю ці пакажы з'явіцца
Другому Богу, у зямную плоць
Апранутаму, як і Ты, бо трэба,
Каб веру ўрэшце асвяжыла неба.

91 І вось я ў метафізіцы ізноў
Заблытаўся, хоць не люблю спрачацца.
І тым не менш дагэтуль з-за размоў
Аб тым, чаго мы можам дачакацца
І што было, я шмат набіў гузоў.
Мой лёс — ілбом на нешта натыкацца,
Хоць [redacted] прапагандую вечны мір,
А Трою так шаную, як і Цір.

92 Ды ўмеранаму прэсвітэрыянцу
І метафізіку, які аддаць
Не можа перавагі ні траянцу,
Ні цірыянцу,— мне пра нашу знаць
(Як Эльдану — пра наш Бедлам) брытанцу
Сляпому больш хацелася б сказаць.
Яна жыццё ператварае ў пекла —
І кроў мая кіпіць, як тая Гекла.

93 Палітыка, рэлігія і ўрад —
Агульныя мясціны, пра якія
Пішу я, каб не толькі кругагляд
Свой паказаць. Яны мне дарагія
Маральнасцю. Як гуску, я грамад-
ства ёю начыняю. І другія
Яшчэ ў мяне ёсць тэмы. З іх адну —
Містычную — цяпер я закрану.

94 Вяртаюся ў сюжэт я канчаткова
І, што мяне з дарогі не саб'е
Ужо ніякая спакуса, слова
Даю, як чытачу, так і сабе.
Маю шматслоўнасць асудзіць сурова
За шкоднасць хочуць, толькі я сябе
Не дам у крыўду. Не раблю я шкоды,
Як той, хто павучае ўсіх заўсёды.

95 Скажы, табе, мой апанент сярдзіты,
Даводзілася бачыць здань хоць раз?
Не? Дык тады сярдзіта не бурдзі ты
І не шкадуй пра змарнаваны час:
Цябе чакаюць дзіўныя іспыты
У лабірынце замкавых тэрас!
Я веру ў прывіды, як і ў урокі,
І не паганю іхнія вытокі.

96 «І Рычарда душу бянтэжаць духі».
Смяешся ты? Што ж, смейся. Бог з табой.
Мяне твой смех не давядзе да скрухі.
Я веру ў існаванне багны той,
Дзе можна ўбачыць іх нямыя рухі,
Ды я ні слова не скажу аб ёй.
Скажу адно: філосаф мальмсберыйскі
Мне поглядам на гэту з'яву блізкі.

97 Ноч цёмная. (Спяваю па начах
Я звонкім салаўём або савою.)
Мінервы птушка крыкам сее жах.
З партрэтаў вее даўнінаю сівою.
Камін каля сцяны амаль ачах.
І думка да мяне сама сабою
Аднекуль з цемрадзі начной прыйшла,
Што час настаў устаць мне з-за стала.

98 Я за сталом сядзець люблю ўначы
І рэдка сачыняю днём і зранку,
Але ў ноч гэтую перамагчы
Не ўдасца мне, напэўна, ліхаманку.
За стол я сяду ў поўдзень, чытачы,
І буду зноў пісаць бесперастанку
Да поўначы пра прывіды, якіх,
Як мне вядома, шмат у месцах тых.

99 Жыццё — як зорка, што гарыць на грані
Зямлі і неба ў прамянях зары.
Усе мы зшкнем, быццам тыя здані,
Палопаемся ўсе, як пухіры,
У вечным і бязмежным акіяне
Дзён і стагоддзяў. Толькі цвінтары
Імперый, што калісьці існавалі,
Віднецца будуць дзе-нідзе, як хвалі.

## ПЕСНЯ ШАСНАЦЦАТАЯ

1 Вучылі персаў змалку тром навукам:
Валодаць добра лукам, на кані
Выдатна ездзіць і не быць манюкам.
Такім быў Кір — іх цар. І ў нашы дні
Так вучаць юнакоў. Спраўляцца з лукам
І з коньмі навучыліся яны,
Але гавораць праўду не заўсёды:
Яна апошнім часам выйшла з моды.

2 Хаця «любога дрэннага наступства
Знайсці прычыну можна», марнаваць
Час я не буду з-за такога глупства.
І тым не менш — я не магу скрываць
(І гэта, верце мне, не самалюбства),
Што музу ўласную карціць назваць
Мне самай сціплаю і самай шчырай,
Хоць я валодаю нядрэнна лірай.

3 Не навучыўся здраджваць сам сабе я
І адмаўляцца ад уласных слоў.
Нашпігавана гэта эпапея
Дзівацтвамі і безліччу высноў.
І горыч ёсць у ёй, і ёсць надзея.
Дазнаецеся вы з маіх радкоў
«De rebus cunctis et guibusdam alis».
Ды ці патрэбны вам такі аналіз?

4 Пра здань, што існавала, без сумнення,
У замку, песню я пачаў складаць,
Пра што вядома вам з паведамлення,
Якое я раней меў гонар даць,

І не баюся вашага глумлення.
Я скептыкаў прымушу замаўчаць,
Як Хрыстафор Калумб, што з каравелы
Сышоў на бераг ціхі і здзічэлы.

5 Стаць летапісцамі аўтарытэтнымі
Змаглі і Джэфры Монмут, і Турпін,
Хоць хронікі былі іх неканкрэтнымі.
Тады найлепшы пастар — Аўгусцін.
Схіляў да веры словамі адметнымі
Усіх нявер святы хрысціянін:
«Вер у дзівосы, guia impossibile
Убачыць іх», і ты пазбегнеш гібелі.

6 Не адмаўляйце наадрэз, прыдзіры,
Маіх містычных слоў. Паверце ім,
Як верыце, магчыма, вы Псалтыры
І Дабравесцю. Вер, што я зусім
Цябе не абражаю, вернік шчыры,
І ў гэты раз выказваннем сваім.
Чым больш людзьмі аспрэчваецца з'ява,
Тым болей верыцца, што з'ява — ява.

7 Я Джонсану даўно падтакнуць схільны,
Што вераць людзі шэсцьдзесят вякоў,
Нібыта на зямлю свет замагільны
Нярэдка адпускае мерцвякоў.
Не можа нават розум усясільны
Абвергнуць тое. І за дзівакоў
Я не лічу адэптаў гэтай веры.
А вы ўсё сумняваецеся, сэры?

8 Прайшлі абед з вячэраю. І спевы,
І танцы скончыліся. Надышла
Пара спаць класціся. Апошняй дзевы
Спаднічка аблачынкаю сплыла
З паўцёмнай залы. Сціхлі нават дрэвы
За вокнамі. І, акрамя святла
Свяцільнікаў і поўні, больш нічога
Не адбівала гладкая падлога.

9 Нібы шампанскае ў бакале, згас
Вясёлы дзень. Я параўнаў бы смела
З сістэмай філасофскай гэты час,

Што моднаю была, але ўстарэла,
І з содавай вадой, дзе болей газ
Не пузырыцца. Бурай, што шумела
І пену белую зрывала з хваль,
Нарэшце адшумеў у замку баль.

10 Я з опіумам, што змушае спаць
Трывожна наркаманаў, і... з сабою
Яшчэ магу час гэты параўнаць.
Але хто можа параўнаць з душою
Што-небудзь або ўпэўнена сказаць,
Чым цірскі пурпур — ракаўкай марскою
Ці кашэніллю — быў. Хай знікне след
І тыраніі, як яго сакрэт.

11 Як баль заканчваецца, наш халат
Адзеннем Неса прыстае да скуры —
І жоўты, быццам амбра, суму яд
Мозг атручае. Часам Ціт пануры
Ускрыкваў: «Я дабра зрабіў няшмат
І дзень згубіў». Танцоры і чапуры!
Вы змарнавалі шмат начэй і дзён,
Але наўрад ці ўскрыкнеце, як ён.

12 Калі Жуан вярнуўся ў свой пакой,
То пра Аўрору юную ўспаміны
Ўсялілі ў сэрца дона неспакой
Насуперак прароцтву Адэліны,
Ды аргументамі, што пад рукой
Былі ў яго, ён заглушаць прычыны
Сваёй усхваляванасці не стаў.
На жаль, ён толькі стоена ўздыхаў.

13 Але, на шчасце, месяц залаты,
Нібы павераны ўсіх закаханых,
Заззяў над замкам і ад цемнаты
Пакінуў толькі цені на палянах.
Не крыкнуў Дон-Жуан яму: «Эй ты!»,
Хоць і хацеў. Ад прамянёў рахманых
Яго эгаістычны горды дух
Не ўспыхнуў, а, наадварот, патух.

14 Пастух, паэт, каханак, астраном
Глядзяць на поўны месяц летуценна.

Зачараваныя яго святлом,
Яны ўсе напаўняюцца імгненна
Адкрыццямі, што не прыходзяць днём,
А часам — і прастудай, несумненна.
На мозг і акіян ягоны ўплыў
Аднолькавы: пад ім у іх — прыліў.

15 Задумны, з растрывожанай душою
Стаяў Жуан і болей, чым да сну,
Да мройнасці быў схільны ноччу тою.
Пагойдваў ветрык за акном сасну,
І возера паверхняю сваёю
Паблісквала. Дон слухаў гаману
Ужо вядомага нам вадаспаду
І не знаходзіў з хваляваннем зладу.

16 На століку яго ці туалеце
(На жаль, дакладна не магу сказаць,
Хоць падрабязна аб любым прадмеце
Стараюся заўжды апавядаць)
Гарэла лямпа, ды ў маім эстэце,
Які не мог з сабою саўладаць
І прыхіліўся да спічастай нішы,
Страх выклікала таямнічасць цішы.

17 Хаця ноч яснаю была, але
Халоднаю. У калідор праз дзверы
Ён выйшаў зноў і ў прывідным святле
Убачыў рад партрэтаў. Кавалеры
Былых стагоддзяў, рыцар у сядле
І дамы строгія, чые манеры
Для дам сучасных — недасяжны ўзор,
Зірнулі строга на яго ва ўпор.

18 Партрэты палкаводцаў і святых,
Асветленыя поўняй, ажываюць —
І гукі крокаў сцішаных тваіх,
Як галасы нябожчыкаў, пужаюць
Цябе ў час гэты, бы з магіл сырых
Паўсталі трупы і ў цябе пытаюць,
Хто можа тут хадзіць у час такі,
Калі не ў ложку толькі мерцвякі.

19 Сваім мігценнем прымушаюць зоры
Усмешкі прыгажунь памерлых ззяць.
Іх локаны і дарагія ўборы,
Іх вочы не перастаюць здзіўляць,
Як сталактыты белыя ў пячоры.
Ды смерць наклала ўжо на іх пячаць.
Як пазалотай пакрывалі рамы,
Былі крыху ўжо не такімі дамы.

20 Ён думаў аб жыцці істот зямных,
Чый лёс наперад вызначаны ўвышы,
І аб каханай. І нішто ў начных
Харомінах не парушала цішы.
Ды раптам дон аслупянеў і сціх:
«Хто гэта там шкрабецца — здань ці мышы?»
Уночы шапаценнем з-за шпалер
Нас прымушае ўздрыгваць гэты звер.

21 Не мыш была ўсё ж гэта! Не пацук.
Напаўзакрыты чорным капюшонам,
Манах, што пацерак з маленькіх рук
Не выпускаў, з'явіўся перад донам.
Нагадваў шалясценне кожны гук,
Народжаны ягоным балахонам.
І Дон-Жуанам завалодаў жах,
Як толькі бліснуў зрэнкамі манах.

22 Жуану, як вядома, і раней
Даводзілася чуць пра існаванне
Манаха, ды, як большасці людзей,
Не верылася ў даўняе паданне.
Манеты залатыя казначэй
Чаканіць, але дзе яны — пытанне.
Няўжо ўсё ж прывід параўняўся з ім?
Ці гэта толькі пара або дым?

23 Аж тры разы прайшла ля небаракі
Істота, што хавалася ў башлык.
На ўсё жыццё Жуану даўся ў знакі
І кожны рух яе, і кожны зык.
Бы статуя, стаяў ён. Як вужакі,
Сціскалі чэрап валасы. Язык,
Калі Жуан паспрабаваў азвацца,
Яму адмовіў падпарадкавацца.

24 Хоць не хацеў вачам уласным веры
Даваць Жуан, ды ўрэшце знік манах.
Магчыма, што за зборкамі парцьеры
Схавалася раптоўна здань, чый прах
Даўно сатлеў? А мо ў якіясь дзверы
Яна зайшла, каб у жахлівых снах
З'яўляцца да яго штоночы потым
І спіну абліваць халодным потам?

25 Не меней вечнасці, напэўна, дон
Стаяў акамянелы і ўглядаўся
У цямрэчу, дзе манаскі капюшон
Яшчэ вось толькі перад ім хістаўся.
Ён суцяшаў сябе, што гэта сон,
Ды растрывожаным так і застаўся.
Не адчуваў Жуан ні рук, ні ног —
І ў свой пакой вярнуцца ледзьве змог.

26 Выходзячы, ён лямпу не задзьмухаў.
Яна гарэла, ды не тым агнём,
Які мог сведчыць пра прысутнасць духаў.
Затым Жуан усеўся за сталом,
У задуменні лоб рукой пачухаў
І, каб абстрагавацца перад сном,
Газеты свежыя прабег вачамі.
А што там пішуць, ведаем мы з вамі.

27 Даведаўся той ноччу ён з газет
Пра ваксу новую, аб Хорне Туку.
Праз прэсу свежую ў рэальны свет
Вярнуўся дон і перамог дакуку.
І ўрэшце ён залез пад цёплы плед.
Ужо нідзе не чулася ні гуку.
Хоць здань — не опіум, як наркаман,
Заснуў, яе згадаўшы, Дон-Жуан.

28 Прачнуўшыся, калі яшчэ замглёны
Быў небасхіл, ён вырашыў маўчаць,
Каб не ўпікнуў ніхто, што ў забабоны
Ён верыць, і пра прывід не казаць.
Калі ж пастукаўся слуга ягоны
У дзверы з напамінам, што ўставаць
Пара гаспадару і апранацца,
Жуан падумаў: «Можа, лепш прызнацца?»

29 Праз паўгадзіны быў Жуан адзет,
Хоць робяць доўга людзі маладыя
Звычайна ранішні свой туалет.
Зазначу толькі, што ў хвіліны тыя
На ім сядзеў фрак не зусім як след,
Нячэсаныя кудзеры густыя
Нядбайна падалі на лоб і ўбок
Быў гальштук ссунуты на валасок.

30 Задумлівы, рассеяны, зацяты —
Ён сеў за стол і з чашкі сербануў
Гарачай, неастуджанай гарбаты.
Апёкшыся, навокала зірнуў,
Нібыта быў у нечым вінаваты,
І ў плечы галаву сваю ўцягнуў.
Няладнае адчула Адэліна,
Хоць і не ведала, у чым прычына.

31 Як і Жуан, панурыла пагляд
Яна і мужу штось прамармытала.
Ёй у адказ лорд Генры неўпапад
Сказаў, што на тартынках масла мала.
Уважліва графіня Фіц-Фалк з-пад
Вуалі на Жуана пазірала.
Адна Аўрора Рэбі без канца
Захоплена глядзела на хлапца.

32 Здзіўленне выклікаў у Адэліны
Ягоны выгляд, як і ў грамады,
Хоць восенню катары і ангіны
Не рэдкасць, як вядома. І тады:
«Вы хворыя?» — спыталася ў хлапчыны
Мілэдзі. «Так,— сказаў зух малады,
А потым: — Не!» А эскулап мясцовы
Пачуў ад Дон-Жуана: «Я здаровы».

33 «Так», «Не», «Здаровы»... Як бы ні гучалі
Адказы таямніча, ды яны
Душэўны стан Жуана пацвярджалі,
Бо так псіхічнахворыя адны
Гавораць. Дух ягоны прыгняталі
Якаясь тайна або груз віны,
Што не ўяўляла страшнай небяспекі.
Жуану не спатрэбіліся лекі.

34 Лорд Генры, выпіўшы свой шакалад,
Заўважыў, што Жуан якісьці млявы.
Хоць напярэдадні не выпаў град
І дождж не ліў, змарнеў за ноч рухавы
Ягоны сябар. Потым свой пагляд
Лорд на графіню перанёс. «Як справы
У графа?» — запытаўся і пачуў:
«Падагры прыступ зноў яго сагнуў».

35 Пачуўшы гэты стрыманы адказ,
Да сябра, скутага журбой ці страхам,
Мілорд звярнуўся: «Гледзячы на вас,
Падумаць можна, што пад нашым дахам
Вам спалася трывожна ў гэты раз.
Мо сон ваш сапсаваны быў манахам?»
«Якім манахам?» — буркнуў мой герой,
Але схаваць не здолеў неспакой.

36 Здзіўленне ў лорда бліснула ў вачах:
«Няўжо вам не вядома, што ў руінах
Былой царквы яшчэ жыве манах —
Як аб мінулым часе напамінак
Прыходзіць ён у замак па начах,
Хоць шмат маны ў легендах і былінах.
Ва ўсякім разе, ён усё радзей
Палохае цяпер ужо людзей.

37 Апошні раз...» — «Ах, любы, перастань! —
Перапыніла лорда Адэліна,
Нарэшце зразумеўшая, што здань
Хваробы Дон-Жуанавай прычына.—
Ужо нікога не цікавіць, глянь,
Нагнаўшая аскоміну быліна.
Калі жадаеш жартаваць, жартуй,
Ды толькі нас хоць крышку пашкадуй».

38 «Я не жартую,— лорд ёй запярэчыў.—
Мы ж самі бачылі яго з табой.
У дні свае мядовыя, дарэчы».
«Дык гэта ж так даўно было»,— з журбой
Яна ўздыхнула, выпраставшы плечы.
Нібы Дыяна — лук напяты свой,
Схапіла Адэліна арфу ў рукі —
І струны арфы нарадзілі гукі.

39 «А дзе табой прыдуманыя словы? —
Сказаў мілорд.— Мілэдзі, спадары,—
Паэт і выканаўца адмысловы».
І госці зашумелі: «Падары
Нам, Адэліна, радасць шматбаковы
Твой талент бачыць цалкам і ўсе тры
Бакі яго нам пакажы адразу.
Станоўчага чакаем мы адказу».

40 Пасля двух-трох пярэчанняў чароўных
(Абавязковасць іхняя была
Спакон вякоў адной з умоў галоўных
Прывабнасці жанчын) яна зліла
Свой голас з гукамі струн красамоўных
І пець сваю баладу пачала
З той прастатою, у якой ёсць штосьці
І болей вабнае ад прыгажосці:

I «Беражыся! Манах на старых камянях
Нерухома сядзіць у цішы.
Шэпча споведзі ён і малітвы тых дзён,
Што навек засталіся ў душы.
Ён прыгадвае зноў ордэн шэрых братоў
І страшэнную чорную быль,
Як, спусціўшыся з гор на шырокі прастор,
Гнаў з абацтва іх Амундэвіль.

II Ён у кляштар здаля пасланцом караля
Са шматлікім атрадам прыбыў.
І агнём, і мячом ён змагаўся з дабром,
Шмат манахаў скаваў і забіў.
Толькі гэты манах не ў цяжкіх кайданах
І штоночы блукае цяпер
У цішы галерэй, ля акон і дзвярэй
І палохае часам нявер.

III Не даведацца мне, Богу ці сатане
Служыць гэты маўклівы манах,
Ці з дабром, ці са злом ён з'яўляецца ў дом
Новых гаспадароў па начах.
Ён не ходзіць наўзбоч у вясельную ноч,
А ля ложка стаіць маладых.
А сканаюць яны — ён ля іхняй труны
Пастаіць, не шкадуючы іх.

IV Як народзіцца сын, плача ён між руін.
Замятаючы расай сляды,
Пад свяцілам начным па палацы пустым
Ходзіць ён давідна ў час бяды.
Нам жа толькі відна яго постаць адна.
Твар манаха схаваў капюшон.
Так і ходзіць адзін ля карцін і гардзін
І вачамі паблісквае ён.

V Беражыся! Манах не сатлеў і не спрах.
Манастырскіх развалін жыхар —
Не звычайны чарнец, а духоўны айцец
І маёнтка другі гаспадар.
Лорд з'яўляецца днём поўным гаспадаром
Замка гэтага, гэтых лясоў.
А пустэльнік-манах правіць тут па начах
Пад жахлівае вухканне соў.

VI Той манах-нелюдзім не гаворыць ні з кім
І ў маёнтку, як прывід, жыве.
Паяўляецца ён ля дзвярэй і акон
Неўпрыкмет, як раса на траве.
Ці са злом, ці з дабром ён заявіцца ў дом
І бясшумна пранікне ў пакой,
Памаліся, прашу, за манаха душу
І за вечны яе супакой».

41 Чароўны рокат струн нарэшце сціх,
Замоўкла прыгажуня Адэліна —
І наступіла ў выпадках такіх,
Відаць, абавязковая хвіліна
Маўчання, каб на выканаўцу ўміг
Абрынулася воплескаў лавіна.
Гарачая людская пахвала
У збянтэжанасць мілэдзі прывяла.

42 Ва ўсіх адносінах была тале-
навітаю красуня, без сумнення.
Яна не прыдавала пахвале
І воплескам вялікага значэння
З-за сціпласці прыроджанай, але
Прымала іх не без задавальнення.
Паказваць зрэдку таленты свае
Было прыемнай справай для яе.

43 Я сціпласць бы мілэдзі параўнаў
З той гордасцю нахабнай і цынічнай,
З якой філосаф Дыяген таптаў
І гордасць, і дыван *пчалы атычнай*,
Чым гнеў Платона выклікаць жадаў,
На што той з мудрасцю філасафічнай
Даў цыніку-філосафу адказ,
Які я помню і па гэты час.

44 Прабачце мне за параўнанне злое,
Бо як паэт, спявак і музыкант
Яна, жартуючы, рабіла тое,
Што з важнай мінай робіць дылетант.
Майстэрства прадэманстраваць такое,
Напэўна, змог бы не любы вагант.
Была мілэдзі Адэліна рада,
Што спадабалася гасцям балада.

45 Усёй душою некалі любіў
Я вечары з дуэтамі і трыо.
І «Tanti palpiti» я не забыў,
І «Mamma mia», як і «Amor mio».
Навекі я зачараваны быў
Акордамі «Lasciami» і «Addio»
І партугальскай песняй «Tu chamas»,
Якая папулярнай стала ў нас.

46 Выконвала мілэдзі добра шмат
Аптымістычных арый італьянскіх
І некалькі задумлівых балад
Зялёнаэрынскіх (чытай — ірландскіх).
Гуляла рэха ад яе рулад
Па замку, быццам у гарах шатландскіх,
Калі няхітрыя напевы іх
Яна спявала для гасцей сваіх.

47 Так, як усе з душою тонкай дамы,
Яна панчохай сіняю была
І на сяброў пісала эпіграмы,
Не тоячы на іх у сэрцы зла,
Як іншыя. Хоць сіні, ды не самы
Насычаны, ёй колер надала
Уражлівасць. Шкада, што быў пры гэтым
Поп для яе выдатнейшым паэтам.

48 Аўрора, хоць была ўласціва сінь,
Як Адэліне, ёй, калі быць шчырым,
Нагадвала сабою гераінь,
Апетых некалі самім Шэкспірам.
Не дасягнуў ніхто яшчэ глыбінь
Яе душы. З нязведаным эфірам,
Які загадкавасцю вабіць нас,
Аўрору параўноўвалі ў той час.

49 Графіня грацыёзная, на Грацыю
Не надта ўжо падобная, скрываць
Не ўмела дум сваіх і мела рацыю,
Бо непасрэднасць можа надаваць
Фігурам лепшую канфігурацыю.
Было Фіц-Фалк няцяжка разглаваць.
Калі б спакой не здраджваў нашым гебам,
Зямля зрабілася б адразу небам.

50 Да лірыкі яна халаднавата
Адносілася. Для яе мілей
Былі «Даведнік па мясцінах Бата»
І той «Трыумф», што напісаў Гайлей.
(Ён прадказаў, якою будзе плата
Яе за шлюб і ўсё, што надалей
Наканавана.) А яшчэ — санеты,
Якія прысвячалі ёй паэты.

51 Даволі цяжка зразумець, чаму
Баладу пра манаха праспявала
Мілэдзі Адэліна. Мо таму,
Што на Жуана страх нагнаць жадала,
Ці справіцца, наадварот, яму
З нервознасцю яна дапамагала.
Ва ўсякім разе, вам на гэты раз
Я не змагу дакладны даць адказ.

52 Між тым Жуан ізноў ужо здаровы,
На твары ні разгубленасці, ні
Прыгнечанасці. Гэта ўсё — умовы
Абавязковыя пустой гульні
У вялікасвецкасць. І калі даўно вы
Праводзіце ўсе вечары і дні
За ёй, то маску шчырасці прытворнай
Надзенеце для чэлядзі прыдворнай.

53 Жуан так і зрабіў. Ён не даваў
Ніякіх тлумачэнняў, кпіў з падання,
З графіняй Фіц-Фалк трапна жартаваў,
Бы і не палатнеў ён ад пытання,
Якое нечакана лорд задаў
Змарнеламу Жуану ў час снядання.
Цікавіла графіню і хлапца,
Чым шлюбны ложак вабіў чарняца.

54 Не расказалі болей ім тады
Лорд Генры і мілэдзі больш нічога
Пра здань. Лічыла большасць грамады,
Што гэта прымхі ўсё і што такога
Не можа быць. Ператаўклі вады
У ступе госці языкамі многа.
Калі Жуану хтось напамінаў
Пра прывід, ён размову замінаў.

55 Так наступіў і поўдзень. За сталом
Гасцей мілорда засталося мала.
Хто більярдыстам стаў, хто весляром,
А частка большая гасцей чакала,
Калі сабакі будуць з жарабком
Спаборнічаць, бо гэта іх займала
Не меней, чым пасьянс і прэферанс.
Вясёлы смех прадухіляе транс.

56 А тут яшчэ прынёс, як на базар,
У гэтыя хвіліны нечакана
У манастыр былы якісь гандляр
Сапраўдную карціну Тыцыяна,
Якую і брытанскі валадар
Не змог купіць, калі прапанавана
Была тым гандляром яму яна,
Бо беднай стала караля казна.

57 Ён хітраваты позірк свой уперыў
У лорда, што быў сябрам мастакоў,
І папрасіў, каб той яму паверыў,
Нібыта ён з карцінаю прыйшоў
З *класічных* і *асветніцкіх* намераў
І што аддаў бы, каб не меў даўгоў,
Яму карціну гэтую бясплатна —
І адчуваў бы сам сябе выдатна.

58 Быў там і будаўнік-каменячос
З тых вавілонскіх муляроў, якія
Завуцца дойлідамі. Доўгі нос
У шчыліны і трэшчыны малыя
Ён утыкаў і вырак, што на знос
Пайсці павінны ўсе муры старыя.
Пры гэтым рэстаўрацыяй свой план
Назваў той архітэктар-шарлатан.

59 І хоць шмат фунтаў стэрлінгаў угробяць
На рэстаўрацыю гаспадары,
То гэта, як ён выказаўся, дробязь.
Пабудаваныя наноў муры
Маёнтак перлінай сапраўднай зробяць
І тым гатычны манастыр стары
Увекавечаць. І грамадства будзе
Аб ім прыгадваць як аб новым цудзе.

60 Былі ў маёнтку тым і адвакаты —
Феміды раўнадушнай два слугі.
Адзін з іх шчыраваў наконт аплаты
Царкоўнай дзесяціны, а другі
Быў закладной маёмасці заняты,
Каб не залез лорд раптам у даўгі.
Тры экспанаты там былі з выставы —
Бугай, свіння і хлебароб рухавы.

61 Былі два браканьеры, што ў капканы
У лесе трапілі, каб урачы
Турэмныя залечвалі іх раны.
Была сялянка юная ў плашчы.
Звычайна ўсе любоўныя раманы
Такім плашчом канчаюцца, лічы.
Я зведаў гэта. Расхіні яго ты —
І ўбачыш не адну, а дзве істоты.

62 Рэч надта хітрая — верацяно
У шкляной бутэльцы. Могуць здагадацца
Не ўсе, як трапіла туды яно
І як дастаць яго адтуль. Займацца
Не буду гэтым я. Скажу адно
(І не для кансісторыі): дазнацца
Пра гэта можа міравы суддзя
(Або інакш — лорд Генры), а не я.

63 Як браканьерка на мараль дзяўчына
Канстэблем Скоўтам злоўлена была.
Больш, чым кантракт арэндны, дзесяціна,
Якой запалена паходня зла,
І, безумоўна, лепей, чым дзічына,
Мараль аберагаецца. Дала
Яна шмат галаўнога болю суддзям.
Ды мы пра гэта гаварыць не будзем.

64 Была сялянка бледнай, быццам слой
Бяліл пакрыў ланіты той харыты,
Хаця звычайна фарбай агнявой
Яны ў вясковых прыгажунь пакрыты
Тады, як у сірэны гарадской
Амаль заўсёды бледныя ланіты.
Ёсць прывілея ў бедных дзеў — бляднець,
А ў знатных прывілея — чырванець.

65 Не ведаючы, ў чым яе віна,
Дзяўчына толькі бліскала вачамі,
Апушчанымі ўніз і дапаўна
Напоўненымі горкімі слязамі,
Хоць плаксаю і не была яна.
Пыхліваю з пыхлівымі хлусамі
Не навучылася дзяўчына быць,
Таму не ведала, што ёй рабіць.

66 Размешчаны быў гэты люд стракаты
Далёка ад гасцёўні. Кабінет
У гэты дзень займалі адвакаты,
А браканьеры з быдлам на павет-
ры свежым рэй вялі. Заняты
Былі і дойлід, і гандляр-эстэт,
Як генерал, які дэпешы піша.
У флігелі для іх знайшлася ніша.

67 І ў ёй нядрэнна чуліся яны.
А бедная дзяўчына сіратліва
Сядзела ў зале змрочнай ля сцяны,
Чакаючы гадзіну ўжо цярпліва,
Калі канстэбль дап'е свой эль двайны
(Ахоўнік чысціні маральнай піва
Не мог цярпець), каб у яшчэ не маці
Спытаць: «Хто бацька вашага дзіцяці?»

68 Былі заняты і мілорд, і лэдзі
Сваімі справамі, ды больш, відаць,
Іх непакоіў клопат аб абедзе,
Бо ў гэты дзень павінны завітаць
Былі да іх багатыя суседзі.
Іх даўні звычай абавязваў даць,
Хоць, як нашэсце, гэтыя візіты,
У дзень прызначаны абед *адкрыты.*

69 Без запрашэння, бы ў царкву — міране,
У гэты дзень маглі прыйсці да іх
Усе землеўладальнікі, дваране
І нават сквайры ўсе. А дзён такіх
Звычайна значылася ў іхнім плане
Да чатырох у месяц. Він любых
І меркаванняў розных мог адведаць
За іх сталом той, хто прыйшоў абедаць.

70 Лорд Генры ведаў, як пацук ці крот,
Бо быў прагматыкам і эрудытам,
Напэўна, кожны патаемны ход,
Які вядзе ў парламент. З Гіфтгебітам
(Шатландскім графам) у той самы год,
Як і з яголым сынам Дайсрэбітам,
Што эгаістаў партыю стварыў,
Сапернікам на выбарах ён быў.

71 Мілорд без асаблівых намаганняў
Праходзіў у парламент кожны раз,
Бо быў вялікім майстрам заляцанняў
І вельмі трапных папулісцкіх фраз.
Даваў ён гэтак многа абяцанняў,
Што іншыя выконваў з іх падчас.
Быў Генры фарысеем адмысловым —
І людзі верылі ягоным словам.

72 Адданы друг магнатаў і свабоды —
Лорд Генры не крытыкаваў і ўрад.
Дбаў Генры не пра ўласныя выгоды,
Займаючы рад выгадных пасад.
Ён шчырым патрыётам быў заўсёды
І не хацеў ламаць дзяржаўны лад,
Відаць, таму, а не таму, што ломка
Магла ператварыць яго ў бяздомка.

73 «*Заўважыць смею* (і адкуль пайшло,
Цікава, гэтае словазлучэнне —
Ці не з парламента?), што нам дало
Не менш апошняе новаўвядзенне,
Чым век былы, а для мяне было,—
Лорд гаварыў,— галоўным не імкненне
Як можна больш атрымаць даход,
А прага ашчасліўіць мой народ».

74 Бог мудры ведаў, ведалі сябры,
Што добры лорд і за парадак строгі
Не выступаў бы ён, каб бунтары
Аб караля не выцiралі ногі;
Каб не схапілі ў рукі тапары
І рассякаць не сталі дэмагогі
Той вузел Джорджыеў, што спакваля
Звязаў абшчыны, лордаў, караля.

75 Не! Як ні нападалі б на яго,
Пакуль не звольняць, ён ні ў якім разе
Не ўступіць месца ўтульнага свайго,
Бо ён за лёс Брытаніі ў адказе,
І ў ёй чыны не знікнуць, бо таго
Ён не дапусціць. На якой жа базе
Тады збудуе дом свой дэмакрат?
І што ён брыт сапраўдны, Генры рад.

76 Ён болей незалежны быў, чым той,
Хто не атрымліваў ніякай платы
За незалежнасць і за гонар свой.
Публічныя жанчыны і салдаты
Больш спрытныя, чым валанцёр любой
Прафесіі. І клеркі-тарбахваты
Падалей просьбітаў звычайна шлюць.
Лакеі ж старцам выспятка даюць.

77 Усё, тут сказанае, акрамя
Страфы апошняй, ведайце, цытаты.
І больш нічога не скажу вам я.
І без таго расказ мой даўгаваты.
Хто з вас не чуў, што кажуць у імя
Высокіх мэт нам нашы кандыдаты?
І я сваіх актаў мяняю тон,
Бо на абед ужо паклікаў звон.

78 Які парадны гэта быў абед!
Здаўна абеды Англія любіла,
Нібы абжорства — гордасці прадмет,
І акцыяй грамадскаю рабіла
Любое частаванне і банкет,
Хоць гэта — ежа, што даўно астыла,
Шыкоўны посуд, незвычайны тлум,
Натоўп вялізны і вялізны сум.

79 Высакамернай гордасцю пры гэтым
Мілорды ўсе напоўнены былі,
А сквайры ўсе — нацягнутым імпэтам.
Лакеі ад работы знемаглі
І ў непасрэднай блізкасці з буфетам
Заседжвацца падоўгу пачалі,
Хоць гэта скончыцца магло вялікім
Скандалам для лакеяў і разлікам.

80 Нямала смелых коннікаў, стралкоў
Было сярод удзельнікаў гасціны
(Клыкі іх спрытных выжлаў і хартоў
Не тузалі падстрэленай дзічыны)
І некалькі *змястоўных* святароў
Або *жрацоў* царкоўнай дзесяціны,
Што распяваюць песні, як псалмы,
І кім былі ўсе павянчаны мы.

81 Быў там выгнаннік гарадскі адзін,
Каго вясковы побыт прачынацца
Ў гады апошнія змушаў гадзін
І ў сем, і ў восем (а не ў адзінаццаць)
І дзёран дратаваць сярод нізін.
І я там быў, але хачу прызнацца,
Што пастар Петэр Піт сядзеў са мной
І гучным крыкам слых бянтэжыў мой.

82 Вікарыем у Лондане ён быў,
І ўжо тады яго я добра ведаў.
За красамоўства Лондан палюбіў
Вялікага аматара абедаў —
І, на пацеху д'яблу, Бог зрабіў
Яго адным з тых многіх дармаедаў,
Якім прыносіць круглы год даход
Прыход, хоць ён і пасярод балот.

83 Ператварыў ён пропаведзі ў жарты,
А жарты — ў пропаведзі, ды жывы
Тон пропаведзяў гэтых быў не варты
Унураных насельнікаў дрыгвы.
Як ні стараўся вастраслоў упарты —
Панурыя, зацятыя з царквы
Выходзілі заўсёды прыхаджанкі,
Пакутуючыя ад ліхаманкі.

84 «Між каралевай і жабрачкай беднай
Ёсць розніца»,— спяваецца ў адной
Вядомай песні, хоць такою ж бледнай
І каралева можа быць парой.
Ёсць розніца між залатой і меднай
Талеркай, між спартанскай баландой
І ростбіфам англійскім, між дэканам
І нунцыем, усімі паважаным.

85 Ды ў процьме супярэчнасцей прыроды
Не знойдзецца, напэўна, большай, чым
Між горадам і вёскай. Той, хто оды
І вершы сачыняе і з такім
Заняткам звязвае свае даходы,
Вядома, быць жадае гарадскім,
Хаця і бедны смерд, і лорд багаты
Такою справай могуць быць заняты.

86 Ды — en avant! Няпэўная любоў
Не любіць надта доўгія вячэры
Тады, як у кампаніі сяброў
І шчырых шанавальнікаў Цэрэры
І Бахуса мы адчуваем зноў
Уздзеянне гаючае Венеры.
Іх труфелі з шампанскім робяць нас
Зноў шчадралюбнымі на нейкі час.

87 Прайшоў абед вялікі манатонна
І надта сумна. Дон-Жуан сядзеў,
Нібы прыкуты да стала, і сонна
На чапурыстых едакоў глядзеў,
Пакуль у трэці раз бесцырымонна
Над ім сусед-гурман не загудзеў.
Каб перадаў Жуан кавалак рыбы,
Даўно хацеў госць лордавай сядзібы.

88 Дон юны азірнуўся вінавата,
Ухмылкі ўбачыў і пачырванеў,
Бо абурылі ўхмылкі дыпламата
Не меней, чым несправядлівы гнеў.
Ачомаўшыся, лыжкаю заўзята
Ён больш паловы камбалы паддзеў
І адваліў на сподачак суседа,
Чым надта абурылася бяседа.

89 Шмат хто пакрыўдзіўся на лорда. Мала,
Што той не ведаў, як цана на лён
І на авёс катастрафічна ўпала,
Дык пасадзіў за стол бяседны ён
Яшчэ такога дурня-цемрашала!
Мядзведжую паслугу маладзён
Зрабіў яму. Так ахвяруем з вамі
Мы часам выбарчымі галасамі.

90 Не ведалі застольнікі, чаму
Жуан такі задумны і здранцвелы,
А каб і ведалі, наўрад яму
Яны паспачувалі б. Вечар цэлы
Яны служылі жывату свайму.
І як душа разбэшчаныя целы
Магла зрабіць прыстанішчам сваім?
Вы казусам не здзіўлены такім?

91 Па ўсёй акрузе разбрыліся плёткі
Пра маладога рыцара майго.
З цікавасцю мясцовыя какоткі
І сквайры пазіралі на яго.
Ды не ад іхніх позіркаў усё-ткі
Збянтэжыўся ён і не ад таго,
Што ўспомніў вочы, бачаныя ўночы.
Яго збянтэжылі другія вочы.

92 Крыху насмешлівы пагляд Аўроры,
У якім і ценю нават не было
Ні ласкі, ні спагады, ні пакоры,
Што ўмацаваць, вядома, не магло
Надзею кволую на поспех скоры,
Жуана раззлаваў, бо прарасло
У ім ужо, як зерне, спадзяванне
На іхняе шчаслівае спатканне.

93 Калі б тады быў болей назіральным
Жуан, то ён бы не пачырванеў
І што не назіральнікам нейтральным
Была Аўрора, мажа б, зразумеў.
Хутчэй, што здзіўленым ці спачувальным
Быў зірк, які прывёў Жуана ў гнеў.
Ды кемлівасць звычайная Жуана
Была манахам паралізавана.

94 Але што непрыемна сапраўды,
Дык гэта тое, што не счырванела
Аўрора (у сваю чаргу) тады
І, як герой мой, не зніякавела.
Яна, хоць бледнаю была заўжды,
Ўбок позірк адвяла і пабляднела.
Нібы на дне марскім, у глыбіні
Яе вачэй трымцелі прамяні.

95 Як гаспадыня мела Адэліна
На тым абедзе званым шмат турбот.
Камусьці падабалася дзічына,
Камусьці — рыбны суп і антрыкот.
Аднак увішнасці яе прычына
Тлумачылася тым, што шосты год
Парламента канчаўся — і за мужа
Мілэдзі непакоілася дужа.

96 Праз рыфы новых выбараў правесці
Яна бяспечна здолее яго!
Ёй абавязкі стырнавога несці
Было няцяжка. Нават больш таго!
Каля стала, нібы на балі дзесьці
Ў кадрылі, пырхала яна, чаго
Мой Дон-Жуан не мог прыняць спакойна,
Бо думаў: ёй так пырхаць непрыстойна.

97 Яна выконвала любую ролю
Настолькі лёгка, што глядач любы
Падумаць мог (я выказаць дазволю
Сабе перакананне многіх), бы
Яе душа не адчувала болю,
Не ведала адчаю і журбы,
Хоць лэдзі ўвасабляла не пазёрства,
А сплаў пачуццяў шчырых і прытворства.

98 Такі характар нараджаў актораў,
Паэтаў, раманістаў, мастакоў,
Прамоўцаў, дыпламатаў і танцораў,
Радзей — герояў, рэдка — мудрацоў.
На гэтым свеце безліч крэдытораў
І з кожным годам больш балбатуноў.
На жаль, эканамісты, казначэі
І канцлеры — таксама фарысеі.

99 Яны паэты лічбаў! Даказаць
Яны яшчэ народу не паспелі,
Што не чатыры двойчы два, а пяць,
Але яны спакон вякоў умелі
Нам тры, а не чатыры аддаваць.
Тады, калі народ сядзеў на мелі
І ад падаткаў ледзьве не канаў,
Іх акіян прыбыткі паглынаў.

100 Пакуль мілэдзі раздавала чары
Гасцям, графіня Фіц-Фалк, як пчала,
З усмешкай ледзь прыкметнаю на твары
Ўсё смешнае збіраць распачала.
Патрэбу маюць у такім нектары
Усе істоты, для якіх была
Пацеха асалодаю заўсёды.
І я не знаю лепшай асалоды.

101 Закончыўся нарэшце дзень і гэты.
Прайшоў так, як і іншыя прайшлі.
Да ганка сталі падаваць карэты
Пасля таго, як каву падалі.
Гаспадарам мясцовыя кабеты
Адвешваць рэверансы пачалі.
Здаволеныя надта ўжо абедам,
На двор мужы за імі выйшлі следам.

102 І ўсе з іх адзываліся пахвальна
Аб гаспадыні. Колькі праўды ў ёй!
І як яна паводзіць натуральна
Сябе з людзьмі! З якою цеплынёй
Яна глядзіць на ўсіх! Як абаяльна
Ўсміхаецца! Як вопраткай сваёй
Яна заўсёды драпіруе ўмела
Свае спакуслівыя формы цела!

103 Затое ўцеху сэрца Адэліны
Знайшла тады ў крытычнасці размоў
Пра дзікія паводзіны і міны
Гасцей, якія з'ехалі дамоў.
Асуды не пазбеглі ні кузіны,
Ні жонкі іх. А больш за ўсё грамоў
Абрынулася ўсё ж у вечар гэты
На іх прычоскі і на туалеты.

104 Хоць лэдзі задала размове тон,
Больш кпілі іншыя мужы і дамы.
Так «пахвалой нясмелай» Адысон
Гнеў выклікаў. Для майстра эпіграмы
Была мілэдзі, быццам камертон —
Для імітатара музычнай драмы.
І тым не меней я прашу сяброў
Мяне не бараніць ад плеткароў.

105 Дваіх не зацікавіла размова.
І гэта дон з Аўрораю былі.
Маўчала прыгажуня прынцыпова,
Бо надта не любіла ўжо, калі
Адсутных бэсцяць. Не сказаў ні слова
І Дон-Жуан, хоць многія змаглі
У досціпе яго пераканацца.
Зацяўся ён, як пачало змяркацца.

106 Ні трапны жарт, ні злая эпіграма
Жуана не кранялі. Ён сядзеў
На покуці задумліва і прама
Перад сабою, як сляпы, глядзеў.
Аўрора думала, што ён таксама
Адсутных абгаворваць не хацеў,
І выказала зрокам адабрэнне,
Што юнаку прынесла здавальненне.

107 Калі ён думку гэтую ў вачах
Аўроры ўбачыў, то святым парывам
Удзячнасці з душы ягонай страх
Быў змецены — і зноў сябе шчаслівым
Жуан адчуў. Загадкавы манах,
Які зрабіў яго, як сам, маўклівым,
Пачуцці чыстыя ў яго ўдыхнуў
І веру, страчаную ім, вярнуў.

108 Ён зноў паверыў у магчымасць дзіўных
Імгненняў і ў апраўданасць надзей,
Якія пасяляюцца ў наіўных,
Несапсаваных душах найчасцей.
Пачуццяў светлых, свежых, непазбыўных,
Што грэюць і ўзвялічваюць людзей
Не меней, чым славутасць і пашана,
Зноў прагла ў гэты час душа Жуана.

109 Згадай Венеру — і ўздыхнеш: «Ах! Ах!»
На жаль, як і свяціла Артэміды,
Ўсё ж ператворыцца ў халодны прах
І згасне зорка яркая Кіпрыды.
Адзін Анакрэон жыве ў вяках
І міртамі вянчае тыя дзіды,
Што прабіваюць сэрцы навылёт.
Ах, добрая Венера! Ах, Эрот!

110 Апоўначы пайшоў у свой пакой
Жуан з пачуццямі, што ў сэрца білі
Нястомна, гучна, як марскі прыбой,
І ў рэшце рэшт яго ператварылі
У юнака, які ў цішы начной
Заснуць не можа. Дона расцвялілі
Салодкагорасныя думкі так,
Нібыта перад вокнамі цвіў мак.

111 На небасхіле, як ліхтар — на бэльцы,
Ізноў вісела поўня за акном.
Халат накінуўшы (не ў камізэльцы
І sans culotte), сядзеў ён за сталом
І чуў, як ходзяць па двары прышэльцы
З другога свету. Праз хвіліну ў дом
Адзін з іх зойдзе (смейцеся, няверы)
І з рыпам страшным прыадчыніць дзверы

112 Ў яго пакой. Між іншым, на двары
На самай справе шамаціць лістота
Сухая (уяўляеце, сябры?)
І рухаецца нейкая істота.
Ды гэта ж кошка! Чорт цябе бяры!
Чаго ты ходзіш па начах, басота?
Як робіш ты свой асцярожны крок,
Здаецца, што рыпіць чаравічок.

113 Ізноў! Што гэта — ліставей ці звон?
Не, гэта, пэўна, зноў манах той чорны
З хадой метрычнаю, як рытм канцон.
Як толькі разгарэўся купал зорны
І зноў людзей абняў глыбокі сон,
Хоць поўня азарыла плёс азёрны,
У старажытны замак ён зайшоў
І ў лёд ператварыў Жуана кроў.

114 Спачатку гук намочанага шкла,
Якое пальцам труць, да Дон-Жуана
Данёсся, потым — шум дажджу. Была
Звышнатуральнасць нейкая схавана
У гуках тых, што рускага пасла
Уздрыгнуць змусіла неспадзявана.
І веруючы ў замагільны свет
Збаіцца ўбачыць прывід tête-à-tête.

115 Былі адкрыты ў Дон-Жуана вочы
У той жахлівы час і нават рот.
Пачуўшы шорахі такія ўночы,
Мы доўга красамоўнасці варот
Закрыць не можам. Крокі патарочы
Зрабілі свой апошні паварот —
І, быццам звер у жудасным ашчэры,
Раскрылі пашчу на Жуана дзверы.

116 «Сюды надзей ніякіх не бяры!» —
Здавалася, завесы прарыпелі
Радок з паэмы Дантэ. Ваяры,
Што смеласцю праславіцца паспелі,
Затрэсліся б, калі ў манастыры
Замест Жуана жыць бы гонар мелі.
Сустрэўшы прывід бесцялесны, плоць
На страх баіцца надзяваць аброць.

117 Хіснуўшы полымя на дзвюх свячах,
Што на стале гарэлі, і парцьеры,
Адкрыў марудна, як вялікі птах
Махае крыламі сваімі, дзверы
І сапраўды ў пакой зайшоў манах,
З якім у галерэйным інтэр'еры
Жуан сустрэўся ўчора. Чарнатой
Свайго адзення цень заценьваў той.

118 Жуан мой здрыгануўся, бледным стаў,
Як напярэдадні, ды праз хвіліну
Сам у сябе рашуча запытаў:
«Няўжо я сёння страх з сябе не скіну?»,
Быць сам сабе спакойным загадаў
І выпрастаў прыгорбленую спіну.
Прынамсі, можа разам з целам дух
Адужаць бесцялесных духаў двух.

119 Жуанаў страх ператварыўся ў гнеў.
Хто пад манаскай расаю хаваўся,
Даведацца герой мой захацеў.
Умомант з месца ён свайго падняўся —
І дух, які каля дзвярэй чарнеў,
Ад нечаканасці назад падаўся,
Затым Жуану пагразіў рукой
І прытуліўся да сцяны глухой.

120 Працягвае руку наперад смела
Герой-пакутнік (о святая рацы!),
Але сцяну знаходзіць, а не цела,
Якое спадзяваўся адшукаць.
У гэты момант на сцяне трымцела
Шмат блікаў месячных, і ён дрыжаць
Пачаў ад страху. Горш з дамавікамі
Героям сустракацца, чым з палкамі.

121 Пад нечай унушальнаю скульптурай
Стаяла здань у расе, пад якой
Угадвалася зграбная фігура,
І закрывала дзіўны твар рукой.
З блакітнымі вачамі, белакурай
Была яна — і юнаку жывой
Здавалася. Каралавыя губы
У яе былі. Нібыта жэмчуг — зубы.

122 Прымусіла цікаўнасць юнака
Наперад працягнуць руку другую —
І (цуд які!) на гэты раз рука
Яго сустрэла выпукласць тугую.
О як сябе герой мой папракаў,
Што ён недаравальную такую
Памылку дапусціў і напаткаў
Спярша рукой не тое, што шукаў.

123 Здань дыхала пяшчотна. Пад рукой
У дона сэрца здані грукатала.
Што здань была не мёртвай, а жывой,
Яшчэ і шыя здані выдавала.
Калі з яе — загадкавай такой! —
Нарэшце на падлогу раса ўпала,
А разам з ёй і чорны капюшон,
Графіні Фіц-Фалк твар убачыў дон.

## ПЕСНЯ СЕМНАЦЦАТАЯ

1 Шкада, што дзеці ледзь не ўсе сіроты,
Хоць дуб высокі, што расце ў густой
Дуброве, пэўна, прагне адзіноты,
Бо больш магутны дуб звычайна той,
Што ў полі рос. Падлетак, без пяшчоты
Бацькамі ўзгадаваны, сіратой,
Па сутнасці, з'яўляецца таксама,
Хоць у яго і тата ёсць, і мама.

2 І ў той жа час, як сведчыць пагаворка,
«Адзінае дзіцятка — не дзіця».
Я да дзяцей прыглядваюся зорка,
Скажу іначай: «Да канца жыцця
Такія дзеці — дзеці». Вельмі горка,
Што межы літасці і пачуцця
Адказнасці за лёс іх здратаваны —
І дзеці, як сіроты, ўзгадаваны.

3 Калі мы кажам «сірата» — заморак
Малюецца ў прыходскай школе нам,
Скелет, галінка ў моры, вечны морак.
Яны як *мулы* і жыццёвы хлам,
Так і прадмет расчуленых гаворак,
Бо шмат хто спачувае бедакам.
(Хоць мы павінны ў вершах і трактатах
Не меней шкадаваць сірот багатых.)

4 Сіроцтва з беднасцю — іх павітухі,
З Палаты Зорнай іх апекуны,
Але ад іх, як ад бяды-прыдухі,
Самім сабе і дочкі, і сыны,
Уцякаюць, як ад курыцы-квактухі —
Наседжанае качаня, яны.
І робяцца яны, нарэшце, самі
Сваіх сіроцкіх душ апекунамі.

5 Нялёгка ў плыні новых ісцін плысці.
І той, хто не прымае іх здавён,
Абараняецца ад гэтых ісцін
Сцвярджэннем, быццам правы толькі ён.
Наўрад ці дачакаемся калісьці
Мы з вамі тых неверагодных дзён,
Калі не будуць рэдкасцю заявы:
«Раз правы ўсе вы, значыць, я не правы».

6 Парламенту ўзаконіць прапаную
Свабоду слова я, каб чалавек
Мог смела гаварыць лухту любую
І каб з мінулага наступны век
Кпіў за каляную падушку тую,
Якую той паклаў, сабе на здзек,
Пад галаву. Быў Лютэр парадоксам,
А скора, пэўна, стане артадоксам.

7 Ён з таінстваў сямі пакінуў два
І адмяніў вядзьмарства. Хоць узводзіць
На вогнішчы жанчын — няветліва,
Ды сучку хоць адну, што жыць нам шкодзіць,
Падсмажыць трэба. Гэта таінства
Паможа, можа, іншых улагодзіць.
Так паступіў калісьці Гейлс лагодны
З дзвюма вядзьмаркамі. І я з ім згодны.

8 Адлучаны ад сонца быў за тое
Вялікі Галілей, што ён спыніў
Яго нахабна, а ядро зямное
Круціцца навакол яго пусціў.
Свет зразумеў у рэшце рэшт, якое
Злачынства супраць генія ўчыніў.
Грахі ўсё ж адпусцілі Галілею!
І разам з ім я сёння весялею.

9 Таму, у чым грамадства вінавата,
Нямала можна прысвяціць актаў.
Як Лока, Піфагора і Сакрата
За мудрасць іхнюю свет абражаў!
Нас да святла яны вялі заўзята,
За што ім лёс жыццё цяжкое даў.
Але ж якім выдатным некралогам
Мы аддадзім належнае нябогам!

10 Калі жыццё такія ўсмешкі дорыць
Тытанам, то абачлівей за іх
Павінны мы зямныя сцежкі торыць.
Мо лепш, каб я палагаднеў, прыціх
І ўладарам зямным пачаў уторыць,
Каб свет не згадваў мне грахоў маіх?
Ды я, вятрамі золкімі прадзьмуты,
Як furens Hercules, раблюся люты.

11 Маўклівы я і надта балбатлівы,
Спакойны і задзірлівы з людзьмі,
І вельмі сціплы я, і ганарлівы.
Няпэўным, пераменлівым прымі
Мяне, чытач, такі ж, як я, цярплівы.
Я ж як-ніяк не septer idem — і
Ўжываюцца адразу тры натуры
Ў мяне пад тонкай абалонкай скуры.

12 Я ў папярэдняй песні кінуў дона
Ў становішчы пікантным. Што рабіў
Пасля Жуан, вядома, мне вядома,
Ды я ніколі пляткаром не быў.
Ці саграшыў ён, не скажу свядома.
Ніхто б і з прыгажунь не падкупіў
Мяне ні лёсткамі, ні падарункам.
Мо толькі нечаканым пацалункам.

13 Не хочацца мне тайну адкрываць,
Тым болей — у пачатку дня за чаем.
(Яго не *апяваць*, а *папіваць*
Мы гонар і задавальненне маем.)
Каб струн апошніх ліры не парваць,
Мы за гасцямі лепш паназіраем.
Графіня ў залу ў рэшце рэшт зайшла
І за сабой Жуана прывяла.

14 А выглядаў дон юны так, нібы
Усю ноч гэтую аддаў змаганню
З тытанам, хоць знямог ад барацьбы,
Вядома, не з тытанам, а са зданню.
Ён стомлены быў надта і слабы.
Графіня Фіц-Фалк рады знемаганню
Даць не магла таксама, бы адну
Хвіліну ноч ёй адвяла для сну...

# ТЛУМАЧЭННІ



## ДОН-ЖУАН

### ЭПІГРАФ

*Difficile est proprie communia dicere* (лац.) — Цяжка гаварыць добра пра простыя рэчы.

### ПРЫСВЯЧЭННЕ

1. *Саўці* Роберт (1774—1843) — англійскі паэт, заснавальнік «азёрнай школы» паэтаў, якіх называлі *лэйкістамі* (ад lake — возера), бо Саўці нарадзіўся ў азёрным краі ў г. *Кесвіку*, які згадваецца ў 5-й актаве Прысвячэння.

*Торы* — палітычная (зараз — кансерватыўная) партыя Англіі.

*...як «два тузіны драздоў...»* — словы, узятыя ў двухкоссе, з'яўляюцца перафразаванай цытатай з дзіцячай песні пра драздоў, запечаных у пірог: «Калі пірог разразалі, дразды спяваць пачыналі. Чаму б яго не падаць каралю?»

2. *...каралю і рэгенту* — г. зн. англійскаму каралю Георгу III і яго наступніку Георгу IV, які да 1820 г. быў рэгентам пры састарэлым манарху.

*Колрыдж* Сэмюэл Тэйлор (1772—1834) — англійскі паэт і літаратурны крытык, прадстаўнік «азёрнай школы».

4. *Вордсварт* Уільям (1770—1850) — англійскі паэт-рамантык, прадстаўнік «азёрнай школы». Яго філасофска-дыдактычная паэма «*Мацыён*» мела празаічнае «Тлумачэнне» і вялікі фармат — $^{1}/_{4}$ друкаванага аркуша (*in-quarto* — лац.).

7. *Скот* Вальтэр (1768—1812) — англійскі пісьменнік, аўтар гістарычных раманаў.

*Роджэрс* Сэмюэл (1763—1855) — англійскі паэт.

*Кэмпбэл* Томас (1777—1844) — англійскі паэт, які ў сваёй паэме «Радасці надзеі» выказаў абурэнне падзелам Рэчы Паспалітай, калі «свабода закрычала ад болю».

*Мур* Томас (1779—1852) — англійскі паэт-рамантык, аўтар верша «Вячэрні звон», які быў перакладзены на рускую мову паэтам Іванам Казловым і стаў вядомай песняй. Апублікаваў «Пісьмы і дзённікі лорда Байрана і заўвагі пра яго жыццё».

*Краб* Джордж (1754—1832) — англійскі паэт, аўтар твораў пра сялян-беднякоў.

10. *Мільтан* Джон (1608—1674) — англійскі паэт, вядомы як аўтар паэм «Згублены рай» і «Вернуты рай».

11. *Самуіл* — вялікі прарок, апошні з «суддзяў ізраілевых», які выйшаў з магілы і прадказаў цару Саулу і яго тром сынам хуткую гібель (Першая кніга царстваў, XXVIII і XXXI).

*Каслры* Роберт Сцюарт (1769—1822) — ваенны міністр Вялікабрытаніі ў 1805—1808 гг. і міністр замежных спраў у 1812—1822 гг., торы.

13. *Іксіон* — міфалагічны пачынальнік роду кентаўраў. За абразу Геры, жонкі Зеўса, быў асуджаны вечна круціцца на вогненным коле.

15. *Еўтропій* — еўнух рымскага імператара Аркадзія. Пакараны смерцю ў 407 г.

16. *Эрын* — г. зн. Ірландыя.

17. *Блакітна-жоўты колер* — колер вігі (зараз — ліберальнай партыі Англіі).

*Юліян* Адступнік (331—363) — рымскі імператар, які адрокся ад хрысціянскай веры і хацеў аднавіць паганства.

## ПЕСНЯ ПЕРШАЯ

1. *...чэрці ў пекла рана // Ў тэатры зацягнулі Дон-Жуана* — яшчэ да Байрана Дон-Жуан быў героем многіх тэатральных пастановак.

2. Пералічваюцца вядомыя палкаводцы Англіі і Францыі. Найбольш вядомыя з іх:

*Камберленд-мяснік* — сын караля Георга II.

*Прынц Фердынанд* — маецца на ўвазе Фердынанд Брауншвейгскі (Брауншвейг — горад у Ніжняй Саксоніі).

*Велінгтон* Артур Уэлслі (1769—1852) — герцаг, англійскі фельдмаршал. Нанёс паражэнне Напалеону I каля Ватэрлоо ў 1815 г.

*Дзюмур'е* Шарль Франсуа (1739—1823) — славуты генерал Французскай рэвалюцыі, які ў красавіку 1793 г. здрадзіў ёй і перабег да аўстрыйцаў.

*Банапарт* — французскі імператар Напалеон I (1804—1814 і сакавік — чэрвень 1815). Значна пашырыў тэрыторыю Французскай імперыі і паставіў у залежнасць ад Францыі большасць краін Заходняй і Цэнтральнай Еўропы, але ў 1812 г. прайграў вайну супраць Расіі.

*...прывідамі тых, што зоймуць трон // Свінні забітай* — намёк на вядомую сцэну з трагедыі Шэкспіра, калі перад Макбетам праходзяць прывіды будучых каралёў Шатландыі, спадкаемцаў забітага ім Банка («дзевяць парасят адной маткі») («Макбет», IV, 1).

3. Згадваюцца дзеячы Французскай рэвалюцыі і працягваецца пералік славутых французскіх палкаводцаў. Найбольш вядомыя з іх:

*Мірабо* Анарэ Габрыель Рыкеці (1749—1793) — граф. Набыў вядомасць выкрыццём абсалютызму. У час рэвалюцыі — лідэр буйной французскай буржуазіі.

*Барнаў* Антуан (1761—1793) — французскі сацыёлаг, адзін з кіраўнікоў палітычнай групоўкі буржуазіі і ліберальнага дваранства — фельянаў.

*Лафайет* Мары Жазеф (1757—1834) — маркіз, у 1775—1783 гг. у званні генерала арміі ўдзельнічаў у вайне за незалежнасць у Паўночнай Амерыцы. У пачатку рэвалюцыі камандаваў Нацыянальнай гвардыяй, але потым стаў контррэвалюцыянерам.

*Кандарсе* Жан Антуан Нікала (1743—1794) — маркіз, матэматык, сацыёлаг, з 1785 г. сакратар Французскай акадэміі. У час рэвалюцыі быў адным з лідэраў палітычнай групоўкі гандлёва-прамысловай і землярobчай буржуазіі (жырандыстаў).

*Брысо* Жак П'ер (1754—1793) — лідэр жырандыстаў. Пакараны смерцю.

*Дантон* Жорж Жак (1759—1794) і *Марат* Жан Поль (1743—1793) — лідэры якабінцаў, якія выказвалі інтарэсы рэвалюцыйна-дэмакратычнай буржуазіі і сялянства. Першы пакараны смерцю, а другога закалола кінжалам французская дваранка Шарлота Кардэ.

*Гош* Луі Лазар (1768—1797) — генерал, падаўляў контррэвалюцыйныя мяцяжы ў Вандэі і Брэтані.

*Лан* Жан (1769—1809) — маршал Францыі, герцаг. Удзельнік рэвалюцыйных і напалеонаўскіх войнаў. Паспяхова камандаваў арміяй каля Аўстэрліца ў 1805 г. супраць руска-аўстрыйскіх войск пад камандаваннем Кутузава. Смяротна паранены ў баі каля Эслінгена (Германія).

*Маро* Жан Віктор (1763—1813) — французскі генерал, удзельнік рэвалюцыйных войнаў, камандаваў арміяй, атрымаў шэраг перамог над аўстрыйцамі. У 1813 г. саветнік пры штабе войск антынапалеонаўскай кааліцыі. Смяротна паранены пад Дрэзданам.

*Пецiён* Аляксандр Сабес (1770—1818) — француз, удзельнік вызваленчай вайны гаіцян супраць англійскіх інтэрвентаў і французскіх каланізатараў, прэзідэнт Гаіці (1808—1818).

4. *Нельсан* Гарацыа (1758—1805) — англійскі флатаводзец, віцэ-адмірал. Атрымаў шэраг перамог над французскім флотам, у тым ліку ля мыса Трафальгар (Іспанія), дзе быў смяротна паранены.

*Дункан* і *Джэрвіс* — англійскія флатаводцы.

5. *Агамемнан* — правадыр грэчаскага войска ў час Траянскай вайны, у выніку якой быў знішчаны старажытны горад Троя.

6. *Гарацый* (65 да н. э. — 8 да н. э.) — рымскі паэт, чый трактат «Навука паэзіі» стаў тэарэтычнай асновай класіцызму. Раіў эпічныя паэмы пачынаць з «сутнасці справы» (*medias res* — лац.).

*Эрот* — у грэчаскай міфалогіі бог кахання.

8. *Гвадалквівір* — рака ў Іспаніі.

11. *Лопэ* дэ Вега (1562—1635) — буйнейшы іспанскі драматург эпохі Адраджэння.

*Кальдэрон* дэ ла Барка (1600—1681) — буйнейшы драматург іспанскага барока.

*Фінэгл* Грэгор (1765—1819) распрацаваў сістэму, якая аблягчае працэс запамінання.

13. «*Pater noster*» (лац.) — «Ойча наш».

14. *Эдэм* — у біблейскай міфалогіі зямны рай.

«*God damm*» (англ.) — чорт вазьмі.

15. *Сэмуэл Рамілі* (1757—1818) — вядомы англійскі юрыст, які скончыў самагубствам пасля смерці жонкі.

16. *Эджворт* (Эджуорт) Марыя (1767—1849) — ірландская пісьменніца, якая прапагандавала педагагічныя ідэі.

*Містрыс Трымер* Сара (1741—1810) — аўтар папулярных раманаў і павучальных кніг для дзяцей.

*Цэлеб* — герой рамана англійскай пісьменніцы Ханны Мор (1745—1833) «Цэлеб у пошуках жонкі».

17. *Макасарскае масла* — г. зн. зробленае макасарамі, якія жывуць на Малайскім архіпелагу.

30. *Malus animus* (лац.) — злы намер.

35. *Пампіліус Нума* — другі цар Старажытнага Рыма (715—672 да н. э.).

41. *«Энеіда» і «Іліяда»* — эпічныя паэмы рымскага паэта Вергілія (70—19 да н. э.) і старажытнагрэчаскага вандроўнага спевака Гамера. Першая з іх прысвечана легендарнаму траянцу, заснавальніку Рымскай дзяржавы Энею, другая — абаронцам Троі (Іліён — другая назва Троі).

42. *Авідзій* (43 да н. э. — 18 н. э.) — рымскі паэт, аўтар міфалагічнага эпасу «Метамарфозы».

*Анакрэон* (Анакрэонт) (каля 570—478 да н. э.) — старажытнагрэчаскі паэт-лірык. Культаваў асалоду жыццёвымі радасцямі.

*Катул* (каля 87—54 да н. э.) — рымскі паэт. Страсны лірык.

*Сафо* (Сапфо) (VII—VI стст. да н. э.) — старажытнагрэчаская паэтэса. Апявала каханне, дзявочую прыгажосць.

*Лонгін* (213—273) — рымскі вучоны, граматык, трактаты якога перакладаў тэарэтык класіцызму французскі паэт Буало (1636—1711).

*«Formosum Pastor Korydon»* (лац.) — «Прыгажуна (пакахаў) пастух Карыдон...» (Вергілій. Букалікі. Эклога II).

43. *Лукрэцый* — рымскі паэт і філосаф-матэрыяліст I ст. да н. э.

*Ювенал* (каля 60 — каля 127) — рымскі паэт-сатырык.

*Марцыял* (каля 40 — каля 104) — рымскі паэт, які пісаў эпіграмы.

47. *Іеранім* — хрысціянскі багаслоў VI ст. Пераклаў Святое Дабравесце (Евангелле) на лацінскую мову.

*Хрызастом* (Іаан Залатавусны) (каля 350—407) — епіскап Канстанцінопаля (з 398 г.), аўтар шматлікіх пропаведзей, панегірыкаў, псалмоў.

*Аўгусцін* Блажэнны (354—430) — епіскап г. Гіпон (Паўночная Афрыка), родапачынальнік хрысціянскай філасофіі. Яго тэалагічныя погляды ўладарылі ў заходнееўрапейскай філасофіі да XIII ст.

53. *Verbum sat* (лац.) — хопіць сказанага.

55. *Венера* — у рымскай міфалогіі багіня кахання і прыгажосці.

*Купідон* — у рымскай міфалогіі бог кахання.

56. *Баабдзіл* — арабскі палкаводзец.

64. *Антоній* Вялікі (каля 250—356) — заснавальнік хрысціянскага манаства, пустэльнік.

71. *Арміда* — чараўніца і спакусніца з паэмы італьянскага паэта Тарквата Таса (1544—1595) «Вызвалены Ерусалім» пра першы крыжовы паход 1099 г.

75. *Тарквіній* — маецца на ўвазе Секст (сын апошняга цара Старажытнага Рыма Тарквінія Ганарлівага), які зганьбаваў Лукрэцыю — жонку рымскага консула Калаціна, самазабойства якой прывяло да звяржэння царскай улады.

84. *Inter nos* (лац.), *entre nous* (фр.) — паміж намі.

86. *Медэя* — у грэчаскай міфалогіі дачка цара Калхіды, якая нарадзіла ад арганаўта Язона двух сыноў. Калі Язон здрадзіў ёй, яна забіла іх і адляцела ў калясніцы, запрэжанай драконамі.

88. Першыя чатыры радкі гэтай актавы — страфа з паэмы Кэмпбэла «Гертруда з Уайомінга».

95. *Гарсіласа* дэ ла Вега (1503—1536) і *Баскан* Хуан (1500—1544) — іспанскія паэты.

104. *Анакрэон-Мур* — Мур (гл. тл. да Прысвяч., 7) пераклаў кнігу падробак пад Анакрэона (гл. тл. да I, 42), якія тады лічыліся арыгінальнымі творамі.

116. *Платон* (428 ці 427—348 ці 347 да н. э.) — старажытнагрэчаскі філосаф-ідэаліст.

118. *Ксеркс* (? — 465 да н. э.) — персідскі цар.

120. *Арыстоцель* (384 — 322 да н. э.) — старажытнагрэчаскі філосаф і вучоны. У сярэднявеччы лічыўся самым вялікім з вучоных.

127. *Праметэй* — у грэчаскай міфалогіі тытан, які ўкраў у алімпійскіх багоў агонь і падарыў яго людзям, за што быў прыкуты да скалы.

129. *Кангрэвавы ракеты* — маюцца на ўвазе парахавыя артылерыйскія ракеты, якія вынайшаў англійскі канструктар Уільям Кангрэў (1772—1828).

132. *Сэр Хамфры Дэві* (1778—1829) — хімік, вынаходнік *бяспечнага* ліхтара для шахцёраў.

*Тамбукту* — гандлёвы цэнтр у Малі на рацэ Нігер. Вузел транссахарскіх шляхоў.

139. *Levee* (фр.) — урачыстая працэдура ўставання з ложка караля.

148. *О'Рэллі* (1722—1794) — іспанскі генерал, які не толькі не *скарыў Алжыр*, а ледзь не трапіў у палон да алжырцаў сам.

149—150. Усе прозвішчы, якія згадваюцца ў гэтых актавах, прыдуманыя, і першыя дзве з іх маюць непрыстойнае значэнне.

159. *Ахат* — каго мае на ўвазе Байран, невядома.

164. *Posse comitatus* (лац.) — у англійскай юрыдычнай тэрміналогіі атрад грамадзян, які збіраецца шэрыфам для падаўлення мяцяжу.

*Hiatus* (лац.) — прабел.

166. *Кларэнс* (1449—1478) — англійскі герцаг, якога нібыта ўтапілі ў бочцы з віном.

168. Калі цар *Давід* састарыўся, яму знайшлі маладую дзяўчыну, якая сагравала яго сваім целам (Трэцяя кніга Царстваў, I, 1—4).

186. *Іосіф, дагала раздзеты* — Іосіф уцёк ад жонкі свайго гаспадара Паціфара, пакінуўшы ў яе руках сваё адзенне (Быццё, XXXIX).

189. *Герней* (1777—1855) — вядомы рэпарцёр, які пісаў справаздачы аб судовых працэсах.

198. *Billet doux* (фр.) — любоўная запіска.

«*Elle vous suit partout*» (фр.) — «Яна ўсюды ідзе следам за вамі».

200. *Аліг'еры* Дантэ (1265—1321) — вялікі італьянскі паэт, аўтар «Боскай камедыі».

201. *Vade mecum* (лац.) — праваднік (літаральна — ідзі за мной).

205. *Поп* Аляксандр (1688—1744) — вядомы англійскі паэт.

*Драйдэн* Джон (1631—1700) — адзін з пачынальнікаў англійскага класіцызму.

*Апалон* — у грэчаскай міфалогіі алімпійскі бог, апякун мастацтваў.

206. *Сотбіеўская муза* — г. зн. вершы паэта Сотбі Уільяма (1774—1833).

207. *Аід* — у грэчаскай міфалогіі царства мёртвых.

212. «*Non ego hoc ferrem calida juventa*» (лац.) — «Я не сцярпеў гэтага б у дні гарачай маладосці» (Гарацый. «Оды»).

*Брэнта* — рака ў Італіі.

216. *Бардо* — гатунак віна.

217. Вынаходніку пораху манаху Роджэру *Бэкану* фразу, якую цытуе Байран, у адпаведнасці з легендай, сказала галава чалавека, зробленая з бронзы, пасля чаго яна разляцелася на часткі.

219. *Хеопс* — егіпецкі фараон (27 ст. да н. э.). Яго пірамідальны магільны склеп з'яўляецца першым цудам свету.

5. *...пакуль маўчаў Перу* — г. зн. пакуль не пачалася вайна за незалежнасць іспанскіх калоній у Амерыцы, у выніку якой у 1821 г. Перу стала самастойнай дзяржавай.

7. *Фацыолі* (італ.) — хусцінка з празрыстай тканіны.

16. *Ён плакаў, як яўрэі ў Вавілоне* — Байран спасылаецца на 136-ы псалом Псалтыры, які пачынаецца словамі: «Ля рэк Вавілона, там сядзелі мы і плакалі, калі ўспаміналі аб Сіоне».

17. *«Прыгожае — прыгожаму»* — гэтыя словы казала маці Гамлета Гертруда (Шэкспір, «Гамлет», акт V, сц. I).

20. *Эль* (англ. — ale) — назва светлых густых гатункаў піва ў Вялікабрытаніі.

24. *Ліворна* — порт у Італіі на беразе Лігурыйскага мора.

25. *Ліцэнцыят* (ад познелац. licentiatus — дапушчаны) — першая вучоная ступень у шэрагу краін Заходняй Еўропы і Лацінскай Амерыкі.

27. *Ахтэрштэвень* — кармавая частка судна ў выглядзе рамы, апора для руля.

*Старнпост* — кармавы сілавы брус.

29. *Гекатомба* (грэч. — hekatombe) — гібель вялікай колькасці людзей.

32. *Грот-мачта, бізань, фок-мачта* — на трохмачтавых суднах адпаведна сярэдняя, кармавая і насавая мачты.

*Бушпрыт* — гарызантальны ці нахілены брус, які служыць для замацавання насавых ветразяў.

37. *Саламанка* — горад у Іспаніі, славуты старым універсітэтам (XVI ст.).

*Санча Панса* — збраяносец вандроўнага рыцара — героя рамана іспанскага пісьменніка Мігеля Сервантэса (1547—1616) «Дон-Кіхот».

40. *Заліў Ліёнскі* — заліў Міжземнага мора на поўдні Францыі, у які ўпадае рака Рона.

56. *Aqua vita* (лац. — вада жыцця) — гарэлка.

64. *Атрапос* (грэч. — непазбежная) — у грэчаскай міфалогіі адна з трох багінь лёсу (мойраў), якая перараэае нітку жыцця.

81. *Tertiana* (англ.) — малярыя.

83. *Угаліна* — персанаж «Боскай камедыі» Дантэ Аліг'еры, які ў дзевятым крузе Пекла грызе патыліцу свайго ворага.

100. *Этна* — вулкан на востраве Сіцылія.

*Радос*, *Кандыя* (Крыт), *Кіпр* — астравы ў Міжземным моры.

101. *Харон* — у грэчаскай міфалогіі перавозчык нябожчыкаў у Аідзе (гл. тл. да I, 207).

105. *Гелеспонт* — старажытная назва праліва Дарданелы, які злучае Эгейскае і Мармуровае моры. Кожную ноч, у адпаведнасці з грэчаскім міфам, яго пераплываў юнак з г. Абідоса *Леандр,* каб сустрэцца са сваёй каханкай, якая ў гэты час запальвала на вежы агонь.

*Экенгед*, якога Байран у арыгінале называе містэрам, відаць, нехта з яго сучаснікаў.

120. *Баскіны ... і мантылы* — г. зн. спадніцы і карункавыя накідкі.

123. *Ахіл* — у грэчаскай міфалогіі герой Траянскай вайны, сын цара Пелея і марской багіні Фетыды, персанаж «Іліяды» Гамера (гл. тл. да I, 41).

126. *Прыпадабніўся ён Пятру Святому* — г. зн. апосталу Пятру, які быў рыбаком і якога Ісус Хрыстос зрабіў лаўцом людзей (гл. Паводле Марка Святое Дабравесце, I, 16—17).

127. *Цыкладскія* (Кікладскія) *астравы* — група малых астравоў у Эгейскім моры.

131. *...я за Паўлам паўтараю* — Байран мае на ўвазе Пасланні Апостала Паўла (гл. Новы Запавет). Найбольш лаканічна хрысціянскія прынцыпы паводзін Апостал Павел выказаў у Пасланні да галятаў (V, 13—23).

137. *Мой знакаміты дзед* — маецца на ўвазе дзед Байрана па бацьку. «Апавяданне высокашаноўнага Джона Байрана (начальніка экспедыцыі ў час кругасветнага падарожжа), у якім змешчана справаздача аб вялікіх пакутах, перанесеных ім і яго таварышамі на берагах Патагоніі, ад 1740 г. да вяртання іх у Англію ў 1746 г.», напісанае ім, выкарыстаў паэт пры сачыненні гэтай песні.

139. *Феб* (грэч. — бліскучы) — эпітэт алімпійскага бога Апалона (гл. тл. да I, 205), які атаясамліваўся з сонцам.

145. *Хіоскае віно* — г. зн. з вострава Хіос у Эгейскім моры.

155. *Міф аб Мінатаўры і Пасіфаі* — міф пра распусную сувязь жонкі крыцкага цара Пасіфаі з быком, у выніку якой нарадзіўся Мінатаўр — пачвара з галавой быка.

165. *Сутсі* — малавядомы англійскі прапаведнік.

*Цілатсон* Джон (1630—1694) — англійскі багаслоў і прапаведнік.

*Блэр* Х'ю (1718—1800) — англійскі багаслоў, святар, аўтар «Пропаведзяў» і «Лекцый па рыторыцы».

169. *Бахус* — лацінская форма імені Вакх (аднаго з імёнаў алімпійскага бога вінаградарства і вінаробства Дыянісія).

*Цэрэра* — у рымскай міфалогіі багіня вытворчых сіл зямлі, выспявання злакаў, а таксама падземнага свету.

170. *Пан* і *Геба* — у грэчаскай міфалогіі адпаведна бог статкаў, лясоў і палёў і багіня юнацтва.

*Нептун* і *Юпітэр* — у рымскай міфалогіі адпаведна марскі бог і бог неба, святла і навальніцы.

174. *Іа* (Іо) — у грэчаскай міфалогіі каханка вярхоўнага алімпійскага бога Зеўса, якой давялося шмат вандраваць па Грэцыі, Азіі і Егіпце.

193. *Стыгійская рака* (Стыкс) — у грэчаскай міфалогіі рака ў царстве мёртвых.

205. *Цэзар* Гай Юлій (102 ці 100—44 да н. э.) — рымскі дыктатар, палкаводзец, чыёй палюбоўніцай была апошняя царыца Егіпта Клеапатра (69—30 да н. э.).

*Антоній* Марк (каля 83—30 да н. э.) — рымскі палкаводзец, чыёй палюбоўніцай, а потым і жонкай таксама была Клеапатра.

*Флавій* Ціт (39—81) — рымскі імператар з 79 г. Быў палюбоўнікам іудзейскай царыцы Берэнікі. У 70 г. разбурыў Ерусалім.

206. *Пампей* Гней (106—48 да н. э.) — рымскі палкаводзец, удзельнік падаўлення паўстання Спартака.

*Магамет* (каля 570—632) — заснавальнік ісламу.

*Велісарый* (каля 504—565) — візантыйскі палкаводзец.

207. *Эпікур* (341—270 да н. э.) *і Арыстып* (2-я палова 5 — пач. 4 ст. да н. э.) — старажытнагрэчаскія філосафы.

*Сарданапал* — асірыйскі цар, які з'яўляецца ўвасабленнем распусты і раскошы.

## ПЕСНЯ ТРЭЦЯЯ

1. *Et cetera* (лац. і фр.) — і іншае.

8. *Петрарка* Франчэска (1304—1374) — заснавальнік італьянскай нацыянальнай паэзіі.

*Лаура* — гераіня амаль усіх яго санетаў і канцон.

16. *Матапан* (Тэнарон) — мыс на паўднёвым узбярэжжы паўвострава Пелапанес у Грэцыі.

*Майноты* — адно з плямён Пелапанеса.

*Трыпальскаму дэю* — г. зн. правіцелю Лівіі.

17. *Левант* — усходняе ўзбярэжжа Міжземнага мора.

*Алікантэ* — порт на паўднёвым усходзе Іспаніі.

18. *Ітака* — востраў у Іанічным моры, радзіма героя Траянскай вайны Адысея.

23. *Пенелопа* — жонка Адысея. *Аргус* — яго сабака.

24. *Cavalier servente* (італ.) — пастаянны кавалер пры замужняй жанчыне.

25. *Liaison* (фр.) — сувязь.

29. *Дэрвішы* (перс.) — жабракі.

31. *Самос*, як і *Хіос* (гл. тл. да II, 145) — грэчаскія астравы ў Эгейскім моры.

47. *Гвельф* — маецца на ўвазе англійскі каралеўскі дом Гановераў, які паходзіць з нямецкага дому Вельфаў.

60. *Гінея* — англійская залатая манета, якая чаканілася ў 1663—1817 гг.

65. *Валтасар* — сын апошняга вавілонскага цара Набаніда (паводле Біблії — апошні вавілонскі цар, сын *Навуходаносара II* — гл. тл. да V, 60). Прароцтва аб яго хуткай гібелі напісалі «пальцы рукі чалавечай... на вапне сцяны палаты царскай», якое растлумачыў *прарок* Даніїл («Кніга прарока Даніїла»,V).

*Мемфіс* — старажытнаегіпецкі горад, жыхары якога, паводле Герадота, на свае банкеты прыносілі мумії і чарапы, каб яны ім нагадвалі пра смерць.

70. *Джэліка* — безрукаўка, якая надзяваецца на кашулю.

74. *Псіхея* — у грэчаскай міфалогіі ўвасабленне душы, дыхання.

76. *«Навошта залатым чырвонцам пазалота...»* — цытата з трагедыі Шэкспіра «Кароль Джон» (акт V, сц. 2).

79. *Крэшаў* Рычард (1613—1649) — англійскі паэт, які быў пратэстантам, а стаў каталікам.

85. *God save the king* (англ.) — Божа, беражы караля.

*Ca ira* (фр.) — справа пойдзе на лад.

*Піндар* (каля 518—442 ці 448 да н. э.) — старажытнагрэчаскі паэт-лірык, які ўслаўляў пераможцаў спартыўных гульняў.

86. *Галія* — старажытная назва Францыі.

Дэ *Сталь* Жэрмэн (1766—1817) — французская пісьменніца, аўтар кнігі «Пра Германію».

*Гётэ* Ёган Вольфганг (1749—1832) — нямецкі пісьменнік, аўтар вершаванай трагедыі «Фауст».

*Трэчэнтыстаў* — г. зн. адраджэнцаў XIV ст.

Гімн:

1. *Сафо* — гл. тл. да I, 42.

*Феб* — гл. тл. да II, 139.

*Дэлас* — востраў у Эгейскім моры, на якім нібыта нарадзіўся Феб (гл. тл. да II, 139). У старажытныя часы на ім у храме Апалона праходзілі сходы Дэласкага саюза прыморскіх гарадоў Грэцыі і астравоў Эгейскага мора, у тым ліку — *Хіоса*, *Тыноса*, *Саламіна* і *Самоса*, якія згадваюцца ніжэй.

II. *Блаславёныя астравы* — найбольш верагодна, што гэта Канарскія астравы.

III. *Марафон* — паселішча, ля якога ў 490 г. да н. э. грэчаскае войска на чале з афінскім палкаводцам *Мільтыядам* (згадваецца ніжэй ) разбіла персаў. Вестку аб гэтай перамозе ў Афіны прынёс воін, які прабег 42 км. Адсюль — марафонскі бег.

IV. *Цар ганарлівы* — персідскі цар Ксеркс, чый флот быў разбіты грэчаскім флотам у 490 г. да н. э. (гл. тл. да І, 118).

VII. *Фермапілы* — горны праход, які злучае паўднёвую і паўночную Грэцыю. У 480 г. да н. э. трыста спартанцаў на чале з царом Леанідам стойка абаранялі яго ад персаў, але ўсе загінулі.

IX. *Элада* — Старажытная Грэцыя.

X. *Пір* (318—277 да н. э.) — цар Эпіра (зараз Эпір — гістарычна-геаграфічная вобласць на захадзе Грэцыі). Праславіўся ў бітвах з рымлянамі, адну з якіх — у 279 г. да н. э. — атрымаў цаною вялікіх страт («пірава перамога»).

*Кадм* — міфічны цар, заснавальнік г. Фівы. Яму прыпісваюць вынаходніцтва грэчаскага алфавіта.

XI. *Анакрэон* — гл. тл. да І, 42.

*Палікрат* — правіцель *Самоса* (каля 540 — каля 522 да н. э.).

XII. *Херсанес* — паўвостраў на поўначы Грэцыі.

XIII. *Дарыйцы* — старажытнагрэчаскае племя, якое славілася сваёй ваяўнічасцю. Дарыйцы лічылі сябе нашчадкамі волата Геракла.

XVI. *Да скал сулійскіх* — г. зн. да скал на паўднёвым узбярэжжы паўвострава Атыка ў Грэцыі.

87. *Арфей* — у грэчаскай міфалогіі адмысловы спявак, удзельнік паходу арганаўтаў, верны муж, які спускаўся ў Аід за сваёй жонкай Эўрыдыкай.

89. *Хачкар* (арм.) — камень з выбітым на ім крыжам.

*Лета* — у грэчаскай міфалогіі рака забыцця ў падземным царстве.

90. *Хойль* Эдмунд (1672—1769) — аўтар кнігі «Гульні» і «Кароткага трактата пра віст».

*Так абавязана Гамеру Троя* — гл. тл. да І, 41.

*Мальбара* Джон Чэрчыл (1650—1722) — славуты англійскі палкаводзец, чыё жыццё апісана Уільямам *Коксам* ва «Успамінах пра Джона, герцага Мальбара».

91. *Джонсан* Сэмуэл (1709—1784) — англійскі пісьменнік і крытык, аўтар кнігі «Жыццё Мільтана».

92. *Шэкспір* Уільям (1564—1616) — англійскі драматург і паэт, буйнейшы гуманіст эпохі позняга Адраджэння.

*Бэкан* Фрэнсіс (1561—1626) — англійскі пісьменнік, філосаф і дзяржаўны дзеяч.

*Цэзар* — гл. тл. да II, 205.

*Ціт* — гл. тл. да II, 205.

*Кромвель* Алівер (1599—1658) — дзеяч Англійскай буржуазнай рэвалюцыі XVI ст., які садзейнічаў пакаранню смерцю караля і абвяшчэнню рэспублікі. З 1650 г. галоўнакамандуючы ўсіх узброеных сіл Англіі.

*Бёрнс* Роберт (1759—1796) — вядомы шатландскі паэт.

93. «*Пантысакратыя*» («Агульная роўнасць» — грэч.) — назва абшчыны, якую Саўці і Колрыдж (гл. тл. да Прысвяч., 1—2) у сярэдзіне 90-х гадоў XVIII ст. збіраліся стварыць у Амерыцы на берагах р. Сусквеханы.

*Бата* — горад у Англіі.

«*Morning post*» — «Ранішняя пошта».

94. *Батані-бэй* — месца высылкі англійскіх злачынцаў (Аўстралія).

95. *Саўткот* Джоана (1750—1814) — лонданская «прадказальніца». Незадоўга да смерці абвясціла, што яна цяжарная Збавіцелем, але яе «цяжарнасць» аказалася вадзянкай, ад якой яна і памерла.

96. *Арыёста* Лудовіка (1474—1533) — італьянскі паэт, аўтар паэмы «Неўтаймоўны Раланд».

97. *Longueurs* (фр.) — расцягнутыя мясціны.

98. *«Гамер часам спіць»* — цытата з «Паслання пізонам» Гарацыя. *«Вазак»* — скарочаная назва паэмы Вордсварта «Веніямін-вазак».

99. *Пегас* — міфічны крылаты конь.

*Медэя* — гл. тл. да I, 86.

100. *...джэкаў кедаў* — г. зн. такіх грубых бунтаўшчыкоў, як Джэк Кед — дзеючая асоба трагедыі Шэкспіра «Генрых VI».

*Пітэр Бел* — герой аднайменнай паэмы Вордсварта.

*«Ахітафел»* — скарочаная назва паэмы Драйдэна «Авесалом і Ахітафел».

*Поп* — гл. тл. да I, 205.

*Драйдэн* — гл. тл. да I, 205.

103. *Голуба Таго* — г. зн. Ісуса Хрыста, якога так назваў Іаан Хрысціцель (Паводле Іаана Святое Дабравесце, I, 32).

105. *Равена* — горад у Італіі на беразе Адрыятычнага мора, дзе пахаваны Дантэ.

*Бакачыо* Джавані (1313—1375) — італьянскі пісьменнік, аўтар «Дэкамерона» і «Жыцця Дантэ Аліг'еры».

106. *Анесці* — герой адной з навел «Дэкамерона».

107. *Геспер* — вячэрняя зорка.

109. *Нерон* (37—68) — рымскі імператар, які праславіўся жорсткасцю і распустай.

111. *«Паэтыкаю»* называлася кніга Арыстоцеля (гл. тл. да I, 120), у якой ён сфармуляваў свае эстэтычныя прынцыпы.

## ПЕСНЯ ЧАЦВЁРТАЯ

1. *Люцыфер* — анёл, які паўстаў супраць Бога і быў зрынуты з неба; сатана.

4. *У Стыкс Фетыда сына акунала* — Фетыда акунала сына Ахіла (гл. тл. да II, 123) у Стыкс (гл. тл. да II, 193), каб зрабіць сына непаражальным. Паражальнай засталася толькі пятка, за якую яго трымала маці (адсюль выраз «ахілесава пятка»).

6. *Пульчы Луіджы* (1432—1484) — італьянскі паэт, чые творы прасякнуты гуманістычным вальнадумствам і элементамі народнага гумару.

*Дон-Кіхот* — гл. тл. да II, 37.

*Апалон* — гл. тл. да I, 205.

12. *«Любімцы Бога паміраюць рана»* — цытата з Менандра (каля 343 — каля 291 да н. э.) — старажытнагрэчаскага паэта-камедыёграфа.

17. *Гіменей* — у грэчаскай і рымскай міфалогіях бог шлюбу.

27. *Сафо* — гл. тл. да I, 42.

30. *Альпы* — горы ў Заходняй Еўропе.

52. *Касандра* — у грэчаскай міфалогіі траянская царэўна-прарочыца, прадказанням якой ніхто не верыў.

53. *Флегетон* — рака ў падземным царстве.

54. *Фес* — горад у Алжыры.

57. *У нумідыйскіх жылах* — г. зн., што маці Гайдэ паходзіла з Нумідыі (зараз Нумідыя — усходняя частка Алжыра).

*Самум* — сухі гарачы вецер у пустынях Паўночнай Афрыкі і Аравійскага паўвострава.

61. *«Лаакаон», «Венера», «Гладыятар»* — вядомыя старажытныя статуі.

75. *Іліён* — гл. тл. да I, 41.

76. *Гелеспонт* — гл. тл. да II, 105.

*Брыант* Джэмс (1715—1774) — англійскі гісторык, які сцвярджаў, што «Іліяда» — чыстая выдумка.

*Патрокл* — герой Траянскай вайны, сябар *Ахіла* (гл. тл. да II, 123), подзвігам і гібелі якога прысвечана XVI кніга «Іліяды».

*Аякс* — маецца на ўвазе другі герой Траянскай вайны Аякс Тэламанід, стрыечны брат Ахіла.

77. *Фетыды праслаўлены і легендарны сын* — г. зн. Ахіл.

*Скамандр* і *Іда* — адпаведна рака і горны масіў ля старажытнай Троі.

80. *Ліворна* — гл. тл. да II, 24.

*Палерма* — горад на востраве Сіцылія ў Міжземным моры.

*Антрэпрэнёр* — прыватны тэатральны прадпрыемец.

82. *Salario* (італ.) — зарплата.

*O corpo di Caio Mario* (італ.) — літаральна: цела Кая Марыя. Азначае абурэнне і здзіўленне.

83. *Балоння* — горад у Італіі.

84. *Цэхін* (італ. — *zecchini*) — залатая італьянская манета, якая пачала чаканіцца ў Венецыі і важыла 3,4 грама.

88. *Раўкаканці* (італ.) — хрыплыя спевы.

*Луга* — горад на поўначы Італіі.

91. *Фірман* — указ султана.

93. *Arcades ambo* (лац.) — аркадскія пастухі, што азначае — шэльмы.

94. *Анкона* — горад-порт у Цэнтральнай Італіі на беразе Адрыятычнага мора.

95. *Bella donna* (італ.) — прыгажуня.

98. *Філдынг* Генры (1707—1754) і *Смолет* Табайас Джордж (1721—1771) — вядомыя англійскія пісьменнікі.

*Прайар* Мэцью (1664—1721) — англійскі паэт.

*Арыёста* — гл. тл. да III, 96.

103. Гастон дэ *Фуа* (1489—1512) — герцаг Немурскі, пляменнік Людовіка XII, прызначаны ім генералам французскай арміі ў Італіі. Заслужыў вядомасць сваёй смеласцю і гераічнай гібеллю пад Равенай у 1512 г.

104. *Дантэ* — гл. тл. да I, 200.

*Пелей* — гл. тл. да II, 123.

108. *Imprimatur* (лац.) — друкаваць.

109. *Іорык* — герой рамана англійскага пісьменніка Ларэнса Стэрна (1713—1768) «Сентыментальнае падарожжа», чый шпак, седзячы ў клетцы, гаварыў: «Мне не выбрацца *адсюль*».

112. *Гумбальт* Аляксандр (1769—1859) — нямецкі вучоны і падарожнік. Прыбор, пра які гаворыць Байран, называецца кіанаметр, але яго вынайшаў другі вучоны.

*Дафна* — у грэчаскай міфалогіі німфа, якая ператварылася ў лаўр, калі за ёю гнаўся Апалон. Байран мае на ўвазе нейкую цнатлівую жанчыну.

115. *Нубія* — старажытная афрыканская краіна на тэрыторыі сучаснага Судана і паўднёвай часткі Егіпта.

*Вест-Індыя* — Амерыка.

*Вільберфорс* Уільям (1759—1833) — англійскі палітычны дзеяч, прыхільнік вызвалення неграў.

117. *Асіан* — герой паэмы англійскага паэта Джэймса Макферсона (1736—1796) «Песні Асіана», кожная частка якой называецца *дуанам*.

1. *Венера* — гл. тл. да I, 55.

*Авідзій* — гл. тл. да I, 42.

*Петрарка* — гл. тл. да III, 8.

3. *Сафія* — маецца на ўвазе Сафійскі сабор у Стамбуле.

*Марыя Мантэг'ю* — лэдзі Мэры Уортлі Мантэг'ю (1689—1762) — англійская пісьменніца, аўтар «Канстанцінопальскіх пісем».

5. *Эўксін* — старажытная назва Чорнага мора.

*Сімплегады* — астравы пры ўваходзе з Чорнага мора ў праліў *Басфор*, які злучае Чорнае і Мармуровае моры.

*Магіла Велікана* — пагорак на ўсходнім беразе Басфора.

6. *Паркі* — у рымскай міфалогіі багіні лёсу, якія атаясамліваюцца з грэчаскімі мойрамі (гл. тл. да II, 64).

15. *Сувораў* Аляксандр Васільевіч (1729 ці 1730—1800) — рускі палкаводзец, генералісімус, які вызначыўся ў руска-турэцкіх войнах.

*Відзін* — горад на Дунаі ў Балгарыі.

17. *Фартуна* — у рымскай міфалогіі багіня шчасця, выпадку і ўдачы.

29. *Пара* — з 1623 г. сярэбраная манета Турцыі.

31. *Вальтэр* (1694—1778) — французскі пісьменнік, аўтар філасофскай аповесці «*Кандыд*, або Аптымізм».

*Філіпа і Амона сын* — Аляксандр Македонскі (356—323 да н. э.) — цар Македоніі, які быў *сынам Філіпа II*. Яго называлі яшчэ сынам *Амона* — егіпецкага бога сонца.

37. *Банапарт* — гл. тл. да I, 2.

44. *...пазбегнем мук Варфаламея* — г. зн. з іх не здзяруць скуру, як са Святога Варфаламея.

*Ісаў* — сын Ісака і Рэвекі, які прадаў сваё права першародства брату-блізнюку Якаву (Быццё, XXV, 27 — 34).

60. *Німврод* — старазапаветны асілак і паляўнічы. Кіраваў будаўніцтвам Вавілонскай вежы (Быццё, X, 8 — 10 і XI, 1 — 9).

*Навуходаносар II* — цар Вавілона ў 605—562 да н. э. У 587 ці 586 г. разбурыў Ерусалім і ўзяў у палон вялікую колькасць жыхароў Іудзеі. Пры ім узведзена Вавілонская вежа.

*Утаймаваў там Данііл гарачых // І лютых львоў* — старазапаветны прарок Данііл (гл. тл. да III, 65) быў кінуты вавілонскімі жрацамі на шэсць дзён у роў з сямю галоднымі львамі, але тыя не кранулі яго (Кніга прарока Данііла, VI, 16 — 24).

*Семіраміда* — у старажытнай міфалогіі жонка вавілонскага цара Ніна, якой прыпісваюць стварэнне вісячых садоў у Вавілоне — аднаго з цудаў свету.

*Фісба і Пірам* — героі паэмы Авідзія (гл. тл. да I, 42) «Метамарфозы». Думаючы, што яго каханую Фісбу разарвала львіца, вавілонскі юнак Пірам закалоў сябе мячом.

62. *Клаўдзіус Рыч* — англійскі пасланнік пры двары багдадскага пашы, які напісаў дзве кнігі пра разваліны Вавілона.

63. *Et sepulcri immemor struis domos* (лац.) — І, забыўшы пра магілу, будуеш дом.

67. *Каран* — галоўная свяшчэнная кніга мусульман.

68. *Кандыйскі* — г. зн. крыцкі (гл. тл. да II, 100).

*Кашмір* — гістарычная вобласць у Азіі ў басейне верхняга Інда, якая славіцца кашмірам — лёгкімі шарсцянымі і баваўнянымі тканінамі.

98. *Нінон Ланкло* (1620—1705) — знакамітая француженка, сяброўка многіх пісьменнікаў свайго часу.

*Шатландская Марыя* (1542—1587) — каралева Шатландыі Марыя Сцюарт, якая мела трох мужоў і была абезгалоўлена па прыгавору англійскага суда.

99. *Дыяна* — у рымскай міфалогіі багіня раслiннасці і палявання.

100. *Nil admirari* (лац.) — не здзіўляйся (Гарацый).

101. *Мерэй* — лорд Мэнсфілд, сябар Попа (гл. тл. да I, 205).

*Крыч* Томас (1659—1701) — англійскі паэт, перакладчык Гарацыя.

104. *Атлас* — у фінікійскай міфалогіі сын Урана, асілак.

120. Маецца на ўвазе евангельскі *самарыцянін*, які аказаў дапамогу параненаму разбойнікамі іудзею.

128. *Легітымісты* — прыхільнікі звергнутых дынастый.

130. *Федра* — у грэчаскай міфалогіі другая жонка афінскага цара Тэсея, якая закахалася ў пасынка Іпаліта, але была адвергнута ім.

131. *Жонка Пантэфрыя* (Пацiфара) — гл. тл. да I, 186.

*Лэдзі Бубі* была адвергнута Джазэфам Эндрусам, героем «камічнай эпапеі ў прозе» «Джазэф Эндрус» класіка англійскай літаратуры Генры Філдынга (гл. тл. да IV, 98).

136. *Готспар* — персанаж трагедыі Шэкспіра «Генрых IV».

*Лір* — герой трагедыі Шэкспіра «Кароль Лір».

142. *Боб Эйкр* — персанаж п'есы англійскага драматурга Рычарда Шэрыдана (1754—1816) «Саперніеі».

147. *Кнольсаўскі* — г. зн. такі султан, пра якіх пісаў англійскі гісторык Кнольс (1540—1610).

*Саліман* — турэцкі султан Сулейман II Вялікі (1495—1566).

148. *Кантэмір* Дзмітрый (1673—1723) — малдаўскі гаспадар, гісторык, аўтар «Гісторыі росквіту і заняпаду Атаманскай імперыі», бацька рускага паэта Антыоха Кантэміра.

151. *Сямівежавая турма* — г. зн. Стамбульская цытадэль, якая была турмой.

## ПЕСНЯ ШОСТАЯ

1. «*У справах чалавечых ёсць прылівы...*» — перафразаваная цытата з Шэкспіра («Юлій Цэзар», акт IV, сц. 3).

2. *Якаў* (Якаб) *Бэмэ* (1575—1624) — нямецкі філосаф-пантэіст.

3. *Маніхеі* — прыхільнікі рэлігійнага вучэння, якое грунтуецца на прынцыпах першапачатковасці і раўнапраўнасці дабра і зла, святла і цемры.

4. Марк *Антоній*, прыхільнік Юлія Цэзара, у 42 г. да н. э. стаў кіраўніком усходніх абласцей Рымскай дзяржавы. Пасля аб'яўлення рымскім сенатам вайны Клеапатры і паражэння егіпецкага флоту ля мыса *Акцый* (у 31 г. да н. э.) пакончыў самагубствам, як і Клеапатра (гл. тл. да II, 205).

6. *Узносак удавы* — маецца на ўвазе евангельскі эпізод, калі малы ўзносак удавы-жабрачкі быў высока ацэнены Хрыстом.

7. *Катон* Малодшы (95—46 да н. э.), вораг Цэзара, уступіў сябру сваю жонку і ўзяў яе назад пасля яго смерці.

11. *Тыгр* — рака ў Турцыі і Іраку.

*Тэмза* — рака ў Лондане.

12. *Уэрскі ложак* — маецца на ўвазе шырокі (дванаццаціфутавы) ложак у гасцініцы «Галава сарацына» г. Уэры, які згадваецца ў трагедыі Шэкспіра «Дванаццатая ноч».

13. *Пакуль ім якабінцы чарвякі // Не завалодалі* — перафразаваная цытата з трагедыі Шэкспіра («Гамлет», акт IV, сц. 3).

17. *Снежная абранніца Францыска* — у адпаведнасці з паданнем Святы Францыск Азіскі (1182—1226) клаўся на снег, каб падавіць свае страсці.

*«Medio tu tutissimus ibis!»* (лац.) — ідучы сярэднім шляхам, ты ідзеш самым бяспечным шляхам.

23. *Святы Афанасій* (295—373) — царкоўны дзеяч, багаслоў, епіскап г. Александрыі. Распрацаваў вучэнне аб адзінстве Бога-айца і Бога-сына.

27. *Тыран, што ў Рыме валадарыў* — імператар Калігула (12—41 гг.).

28. *Брыарэй* — у грэчаскай міфалогіі сын бога неба Урана і багіні зямлі Геі. Пачварная істота з 50 галовамі і сотняй рук. Брыарэй уратаваў Зеўса, калі багі паўсталі супраць яго, напалохаўшы іх адным сваім выглядам.

*Патагонія* — плато ў Аргенціне.

31. *Кантэмір* — гл. тл. да V, 148.

*Тот* Франсуа (1733—1793) — аўтар «Мемуараў аб стане Турэцкай імперыі».

34. *Бедлам* — вар'яцкі дом у Лондане.

42. *Венера* — гл. тл. да I,55.

*Фідый* (пачатак V ст. да н. э.— каля 452 да н. э.) — старажытнагрэчаскі скульптар, чыя творчасць — адно з найвышэйшых дасягненняў сусветнага мастацтва.

43. *Пігмаліён* — у грэчаскай міфалогіі легендарны скульптар, цар Кіпра, які закахаўся ў высечаную ім статую Галатэі. Багіня кахання і прыгажосці Афрадыта ажывіла статую, і Галатэя стала жонкай Пігмаліёна.

44. *Танжэр* — порт у Марока.

48. *Гебр* у Персіі (Іране) і *гяур* у Турцыі — агульная назва немусульман у сярэднявеччы.

55. *Non lucendo* (лац.) — адсутнасць святла.

*Lucus* (лац.) — лес.

56. *Карынфскі метал* — маецца на ўвазе метал, якім славіўся старажытны грэчаскі горад Карынф.

68. *Мёртвай жонкі Лота сілуэт* — жонка Лота, калі анёлы выводзілі іх з Садома, на які Госпадзь ліў серу і агонь, азірнулася і стала саляным слупом (Быццё, XIX, 26).

74. *Брут* Марк Юній (85—42 да н. э.) — адзін з забойцаў Юлія Цэзара.

84. *Mal à propos* (фр.) — недарэчы.

86. *Кафскія горы* — у мусульманскай рэлігіі горы на краі зямлі.

90. *Cargo* (ісп.) — карабельны груз.

93. *Аляксандр* I (1777—1825) — расійскі імператар з 1801 г.

94. *Цімон* — грэчаскі мараліст V ст.

102. *Вярблюд найсвяты* — вярблюд прарока Магамета.

111. *Кацiліна* (каля 108—62 да н.э.) — рымскі прэтор у 68 г. да н. э.

*Салюсцій* (86 — каля 35 да н. э.) — рымскі гісторык, аўтар манаграфіі «Змова Кацiліны».

## ПЕСНЯ СЁМАЯ

3. *Саламон* — старажытнаяўрэйскі цар, аўтар некалькіх кніг Бібліі, у тым ліку Прытчаў Саламона і Кнігі Эклезіяста (гл. VII, 6).

4. *Фенелон* Франсуа (1651—1715) — французскі пісьменнік, аўтар папулярнага сатырычнага рамана «Прыгоды Тэлемаха».

*Ларошфуко* Франсуа (1613—1680) — французскі пісьменнік-мараліст.

*Русо* Жан Жак (1712—1778) — французскі пісьменнік і філосаф.

*Макіявелі* Нікало (1469—1527) — італьянскі палітычны мысляр і пісьменнік.

*Уэслі* Джон (1703—1791) — англійскі прапаведнік-мараліст.

*Лютэр* Марцін (1483—1546) — нямецкі пісьменнік, заснавальнік пратэстанцтва.

*Свіфт* Джонатан (1667—1745) — англійскі пісьменнік, аўтар «Падарожжа Гулівера».

*Дыяген* (каля 404—323 да н. э.) — старажытнагрэчаскі філосаф, які нібыта жыў у бочцы.

*Катон* Старэйшы (234—149 да н. э.) — рымскі пісьменнік і палітычны дзеяч.

5. *Сакрат* (каля 470 — 399 да н. э.) — старажытнагрэчаскі філосаф-дыялектык, які быў абвінавачаны «ў паклаленні новым багам» і «разбэшчванні моладзі» і пакараны смерцю (прыняў яд цыкуты).

*Ньютан* Ісак (1643—1727) — англійскі вучоны, заснавальнік класічнай фізікі.

9. *Ізмаіл* — горад у Адэскай вобласці на Кілійскім рукаве Дуная. Узяты штурмам рускімі войскамі ў 1890 г.

11. *Вабан* (1633—1707) — французскі ваенны інжынер і пісьменнік.

15—17. Байран пералічвае камічна скажоныя прозвішчы рускіх военачальнікаў.

16. *Лондандэры* — так Байран называе Каслры (гл. тл. да Прысвяч., 11).

19. *Трынаццаць джэмсаў томсанаў* — гэтыя англічане з'ўляліся цёзкамі англійскага паэта Джэмса Томсана (1700—1748), таму іх імёны і прозвішчы надрукаваны малымі літарамі.

*Адзін з іх потым* — намёк на Пітэра Сміта — героя фарса Джорджа Колмена «Love Laughs of Locksmiths», падзеі якой адбываюцца ў Англіі ў горадзе Галіфаксе.

*...ён служыў татарам* — г. зн. рускім, якіх у той час у Еўропе нярэдка зняважліва называлі татарамі ці калмыкамі.

21. *Марс* — у рымскай міфалогіі бог вайны.

*Раней сказаў пра гэта больш разумна, // Хоць не сваімі вуснамі, Шэкспір* — маюцца на ўвазе словы Гамлета («Гамлет», акт IV, сц. 4).

26. *Лонгмен і Мерэй* — вядомыя лонданскія кнігавыдаўцы (гл. тл. да V, 101).

31. *Дэлі* — адборныя вайсковыя часці ў туркаў.

31 — 32. *Граф Дама* (1765—1814), граф *Ланжэрон* (1763—1831), прынц *дэ Лінь* (1735—1814) — замежныя афіцэры, якія служылі ў рускай арміі і ўдзельнічалі ў руска-турэцкай вайне.

33. *Preux chevaliers* (фр.) — доблесныя рыцары.

35. *Дэ Рыбас* (1737 — каля 1797) — іспанскі генерал рускай службы.

36. *Геркулес* (Геракл) — герой грэчаскай міфалогіі, асілак.

37. *Пацёмкін* Рыгор Аляксандравіч (1739—1791) — рускі дзяржаўны і ваенны дзеяч, генерал-фельдмаршал, фаварыт імператрыцы Кацярыны II. Пасля далучэння Крыма да Расіі атрымаў тытул святлейшага князя Таўрычаскага. Галоўнакамандуючы рускай арміяй у руска-турэцкай вайне 1787—1791 гг.

44. *Джон Буль* — жартоўная мянушка англічаніна.

55. *Мом* — бог жартаў.

58. *...неабстрэленых калмыкаў* — г. зн. рускіх рэкрутаў (гл. тл. да VII, 19).

78. *Гамер* — гл. тл. да I, 41.

*Гектар* — сын траянскага цара Прыама, герой «Іліяды», забіты Ахілам (гл. тл. да II, 123), брат Касандры (гл. тл. да IV, 52).

81. *Dicederatum* (лац.) — жаданае.

82. *Леанід, кім ганарыцца Спарта* — гл. тл. да III, Гімн, VII.

*«Каментар»* — маюцца на ўвазе «Запіскі пра гальскую вайну» Юлія Цэзара.

84. *Распусніца з Вавілона* — алегарычны евангельскі вобраз бездухоўнасці (гл. «Адкрыццё Святога Іаана Багаслова», XVII).

## ПЕСНЯ ВОСЬМАЯ

1. *Белона* — у рымскай міфалогіі багіня вайны.

5. *Вашынгтон* Джорж (1732—1799) — першы прэзідэнт ЗША.

10. *Рышэльє* Арман (1766—1822) — герцаг, французскі эмігрант, генерал-губернатар Наварасіі ў 1805—1814 гг. У Адэсе яму пастаўлены помнік і адна з цэнтральных вуліц названа яго імем.

16. *Везувій* — дзеючы вулкан у Італіі каля Неапаля. У 79 г. пры яго вывяржэнні загінулі гарады Пампеі і Геркуланум.

18. *І Гроза не перахрысцілі ў Грова* — з Грозам, які загінуў у бітве ля Ватэрлоо, Байран вучыўся ва універсітэце і вельмі абураўся, што газета «Waterloo Gazettes» сказіла яго прозвішча.

22. *...як Фрыдрых той* — маецца на ўвазе прускі кароль Фрыдрых II (1712—1786), які на працяглы час знік з поля бітвы пад Мольвітцам (20 красавіка 1741 г.).

23. *Эрын* — гл. тл. да Прысвяч., 16.

*Ганібал* (каля 247—183 да н. э.) — карфагенскі палкаводзец, які ў 218—216 гг. да н. э. атрымаў шэраг бліскучых перамог над рымлянамі, але ў 202 г. быў пераможаны імі ў бітве пры Заме (Паўночная Афрыка).

*Дзідона* — у рымскай міфалогіі царыца, заснавальніца Карфагена.

26. *Пэль-Мэль* — адна з галоўных вуліц Лондана.

29. *Аякс* — гл. тл. да IV, 76.

33. *Бэкан* — гл. тл. да I, 217.

34. Калона *генерал-маёра Ласі* адна з першых уварвалася ў Измаіл.

*Гласіс* — знешні земляны насып перад крапасным ровам.

38. *Готспар* — гл. тл. да V, 136.

39. *Юпітэр* — гл. тл. да II, 170.

41. *Гамлет* — герой аднайменнай трагедыі Шэкспіра (гл. актаву II, 17 і тл. да яе).

46. *Гібралтар* — маецца на ўвазе англійская ваенна-марская база на паўночным беразе Гібралтарскага праліва, які злучае Міжземнае мора з Атлантычным акіянам.

48. *Джон-Буль* — гл. тл. да VII, 44.

49. *Гнейзенау* Аўгуст (1760—1831), *Бюлоў, Блюхер* — прускія палкаводцы, якія прымалі ўдзел у бітве пры Ватэрлоо.

50. *Іоў* — праведны пакутнік, герой старазапаветнай Кнігі Іова.

51. *...як біблейскі цар Давід, // У велікана камень запускае* — будучы ізраільскі цар Давід забіў велікана Галіафа каменем, выпушчаным з прашчы, што забяспечыла перамогу ізраільцян над філісцімлянамі (Першая кніга Царстваў, XVII).

53. *Русо* — гл. тл. да VII, 4.

60. *Каўпер* (Купер) Уільям (1731—1800) — англійскі паэт-сентыменталіст.

*Рым з Карфагенам, з Цірам Ніневія // І Вавілон* былі зруйнаваны заваёўнікамі: Рым — галамі пад кіраўніцтвам Брэна ў 390 г. да н. э., Карфаген — рымлянамі ў 146 г. да н. э., Цір (зараз г. Сур у Ліване) — персамі ў VI ст. да

н. э. і войскам Аляксадра Македонскага ў 332 г. да н. э., Ніневія — вавілонцамі і мідзянамі ў 612 г. да н. э., Вавілон — персамі ў 539 да н. э.

61. *Сула* (138—78 да н. э.) — рымскі палкаводзец, з 82 г. да н. э. — дыктатар. Вызначыўся жорсткімі рэпрэсіямі.

*Бун* Даніэль (1735—1820) — адзін з першых еўрапейскіх пасяленцаў у паўночнаамерыканскай калоніі Кентукі, герой рамана Фенімора Купера (1735—1820) «Скураная панчоха».

79. *Мекноп* Тэадор — генерал рускай арміі, камандаваў адной з калон, якія пачыналі штурм Ізмаіла.

97. *«Георгій»* — ордэн Св. Георгія, зацверджаны ў Расіі ў 1769 г.

102. *Цалковы* (разм.) — сярэбраная манета царскай Расіі вартасцю адзін рубель.

105. *Прыам* — бацька Гектара (гл. тл. да VII, 78) і Касандры (гл. тл. да IV, 52).

*Пелей* — у грэчаскай міфалогіі бацька Ахіла (гл. тл. да II, 123).

107. *Як пад Бендэрамі Карл Шведскі...* — маецца на ўвазе шведскі кароль Карл XII (1682—1713), які пасля паражэння ад рускага войска пад Палтавай (1 жніўня 1709 г.) адступіў у Бендэры, якія тады належалі Турцыі, і ўпарта дамагаўся ўзнаўлення вайны, а пакінуў Турцыю толькі тады, калі быў узяты ў палон туркамі.

120. *Знік Ізмаіл, як Троя, як Пампея* — гл. тл. да I, 5 і VIII, 16.

126. *Георг Вялікі* — англійскі кароль Георг IV (1762—1830) (гл. тл. да Прысвяч., 2).

133. *Цімур* (1336—1405) — сярэднеазіяцкі палкаводзец, з 1370 г. — эмір створанай ім дзяржавы са сталіцай у Самаркандзе. Разграміў Залатую Арду. Зрабіў грабежніцкія паходы ў Іран, Закаўказзе, Індыю, Малую Азію і інш.

*Чынгісхан* (1155—1227) — заснавальнік і Вялікі хан Мангольскай імперыі (з 1206 г.), чые спусташальныя паходы ў Азію і ў Усходнюю Еўропу суправаджаліся гібеллю цэлых народаў і ўстанаўленнем цяжкага прыгнёту ў заваяваных краінах.

134. *«Мэнэ»*, *«Тэкэл»*, *«Пэрэс»* — словы, якія напісалі «пальцы рукі чалавечай» на сцяне гасцёўні Валтасара (гл. тл. да III, 65 і Кнігу Прарока Данііла, V, 25—28).

*Нерон* — гл. тл. да III, 109.

## ПЕСНЯ ДЗЕВЯТАЯ

1. *Велінгтон* — гл. тл. да I, 2.

*Villainton* (фр.) — дурны тон. Так яго называе Беранжэ:

> Faut gu'lord *Villainton* ait taut pris,
> Nu a plus d'argent daus c'gueux de Paris.

*«О пау!»* (англ.) — «О не!», але ў зносцы Байран ад імя наборшчыка пытаецца, ці не трэба замест «О пау!» набіраць «О Ney!», г. зн. прозвішча напалеонаўскага маршала Мішэля Нэя (1769—1815), расстралянага Велінгтонам, насуперак умовам капітуляцыі.

2. *...з Кінердам і Марынетам // Ты, герцаг, паступіў, як езуіт* — Байран лічыў, што Велінгтон злоўжываў даверам лорда Кінерда, які паведаміў яму, са слоў нейкага Марынета, што на яго рыхтуецца замах. Па загаду Велінгтона Марынет быў арыштаваны ў лютым 1818 г., у якога тады гасціў Кінерд, што надта абурыла апошняга.

*Вестмінстэрскі храм* — храм у Лондане, дзе знаходзяцца магільныя склепы англійскіх каралёў, дзяржаўных дзеячаў і вядомых людзей XIII — XIX стст.

3. *Легітымізм* — гл. тл. да V, 128.

4. *«Галаварэз вялікі»* — так назваў Макбет аднаго з забойцаў Банка (Шэкспір, «Макбет», III, 5) (гл. тл. да I, 2).

7. *Цынцынат* — рымскі консул (V ст. да н. э.), які пасля адстаўкі вярнуўся да сельскай працы. Велінгтон жа атрымаў у падарунак ад урада багаты маёнтак і вялікую пенсію.

*Сабіны* — старажытнае італійскае племя.

8. *Эпамінонд* (418—362 да н. э.) — грэчаскі палкаводзец, вядомы сваёю бескарыслівасцю і храбрасцю. Яго беднасць засведчана Плутархам.

*Вашынгтон* — гл. тл. да VIII, 5.

*Піт Уільям* (1759—1806) — англійскі дзяржаўны дзеяч, з 1783 г. прэм'ер-міністр. Адмовіўся ад прапановы лонданскага купецтва аплаціць яго даўгі.

14. *«Быць ці не быць?»* — цытата з Шэкспіра («Гамлет», III, 1).

*Аляксандр* — Аляксандр Македонскі (гл. тл. да V, 31).

*Гефестыён* — яго фаварыт.

15. *«O dura ilia messorum»* (лац.) — цытата з Гарацыя («Эподы», III, 4).

*Стыкс* — гл. тл. да II, 193.

17. *Que sais-je* (фр.) — Што я ведаю?

*Мантэнь* Мішэль (1533—1592) — французскі філосаф і пісьменнік.

18. *Пірон* (каля 360 — каля 270) — старажытнагрэчаскі філосаф, заснавальнік скептыцызму.

19. *Касіа* — дзеючая асоба трагедыі Шэкспіра «Атэла». Прыведзеная цытата з II, 3.

*«Лёс вызначылі нам і вераб'ям»* — недакладная цытата з Шэкспіра («Гамлет», V, 20).

21. *Меланхтон* Філіп (1497—1560) — нямецкі пратэстанцкі багаслоў, паплечнік Лютэра.

*Майсей* — біблейскі прарок, які вывеў ізраільцян з егіпецкага палону.

23. *Пятром* — г. зн. рускім імператарам Пятром I.

27. *Эфес* — старажытны горад на заходнім узбярэжжы Малой Азіі, у якім знаходзіцца адзін з цудаў свету — храм алімпійскай багіні раслінасці і палявання Артэміды. У рымскай міфалогіі з ёю атаясамляецца Дыяна (гл. тл. да V, 99).

28. *У шпанскай мухі і пчалы атычнай* — намёк на вызваленчыя рухі ў Іспаніі і Грэцыі.

32. *Цэрэра* — гл. тл. да II, 169.

33. *Шах Надзір* (Надзір-шах) (1688—1747) — шах Ірана з 1736 г. Заваяваў значныя тэрыторыі ў Індыі (Індастан), Сярэдняй Азіі і Закаўказзі. Забіты змоўцамі за дэспатызм, выкліканы нястраўнасцю.

35. *«На мазолі дворні наступае»* — словы Гамлета (Шэкспір, «Гамлет», V, 1).

36. *À propos des bottes* (фр.) — ні з таго ні з сяго.

37. *Superstratum* (лац.) — верхні геалагічны слой.

38. *Кюўе* Жорж (1769—1832) — французскі вучоны.

45. *Псіхея* — гл. тл. да III, 74.

49. *Лондандэры* — гл. тл. да VII, 16.

51. *Cavalier servente* — гл. тл. да III, 24.

*Пігмаліён* — гл. тл. да VI, 43.

53. *Парыс* — у грэчаскай міфалогіі сын траянскага цара Прыама (гл. тл. да VIII, 105). Выкраў у цара Спарты Менелая жонку *Алену*, з-за чаго пачалася Траянская вайна. Потым Алена вярнулася да Менелая.

55. *«Teterrima causa...»* (лац.) — «Горшая прычына...» — цытата з Гарацыя («Сатыры», кн. I, 3).

62. *Эрот* — гл. тл. да I, 6.

63. *Джайльз* — персанаж п'есы Месінджэра (1583—1640) «Новы спосаб аплаты даўгоў».

66. *«Ганец багоў Меркурый»* — цытата з Шэкспіра («Гамлет», III, 4).

67. *Laudanum* (лац.) — опіум.

69. *Данііл* — гл. тл. да III, 65 і V, 60.

71. *Шатландская Марыя* — гл. тл. да V, 98.

*Палада* — у грэчаскай міфалогіі адзін з эпітэтаў багіні вайны Афіны.

80. *Клітэмнестра* — у грэчаскай міфалогіі жонка Агамемнана (гл. тл. да I, 5). Калі муж ваяваў, здрадзіла яму, а калі той вярнуўся з паходу, забіла яго. Байран намякае на дачыненне расійскай імператрыцы Кацярыны II да забойства свайго мужа імператара Пятра III.

81. *Лізавета* — маецца на ўвазе англійская каралева Лізавета I (1533—1603).

## ПЕСНЯ ДЗЕСЯТАЯ

1. *Ньютан* — гл. тл. да VII, 5.

7. *Арна* — рака ў Італіі.

11. *Джэфры* Фрэнсіс (1773—1850) — рэдактар часопіса «Эдзінбургскі агляд».

13. *Барбадскія астравы* — хутчэй за ўсё гэта востраў Барбадос у групе Малых Антыльскіх астравоў, які з 1625-га па 1961 г. быў англійскай калоніяй.

17. *Скот Вальтэр* — гл. тл. да Прысвяч., 7.

18. *Auld Long Syne* (шатл.) — добрыя старыя часы.

*Дзій і Дон* — рэкі ў Шатландыі.

19. *З шатландцамі я параднёны крэўна* — маці Байрана Кэтрын Гордан паходзіла са старога шатландскага роду.

25. *Гракх* Тыберый (162—133 да н. э.) — рымскі трыбун, які хацеў правесці зямельную рэформу, але быў забіты ворагамі яе.

35. *Заваёўнік Вільгельм* — герцаг нармандскі, які пакарыў Англію ў 1066 г.

39. *Пятра* — г. зн. расійскага імператара Пятра III.

41. «*Bolus Potassae Sulphuret sumendus, // Et haustus ter in die capiendus*» (лац.) — «Прымаць пілюлі сернакіслага калію і тройчы на дзень піць мікстуру».

42. *Secundum artem* (лац.) — па правілах мастацтва.

*Hiatus maxime deflentus* (лац.) — надта глыбокі правал.

*Балы, Альбернеці* — вядомыя італьянскія дактары.

49. *Іфігенія* — у грэчаскай міфалогіі дачка Агамемнана (гл. тл. да I, 5 і IX, 80), які хацеў перад паходам на Трою прынесці яе ў ахвяру багіні палявання Артэмідзе (гл. тл. да IX, 27), але тая замяніла яе ланню, а Іфігенію перанесла ў Таўрыду і зрабіла яе сваёю жрыцай.

52. *Кюўе* — гл. тл. да IX, 38.

56. *Магамет* — гл. тл. да II, 206.

58. *Курляндыя* — гістарычная вобласць у заходняй частцы Латвіі. У 1795—1917 гг. у складзе Расіі.

*Бірон* Эрнст Ёган (1690—1772) — граф, фаварыт расійскай імператрыцы Ганны Іванаўны, герцаг Курляндскі (1737—1740).

59. *Касцюшка* Тадэуш (1746—1817) — кіраўнік польскага паўстання супраць расійскага царызму (1794), удзельнік вайны за незалежнасць у Паўночнай Амерыцы (1775—1883). Памёр у Швейцарыі, прах перанесены ў Кракаў.

*Гекла* — вулкан у Ісландыі.

60. *Кёнігсберг* — галоўны горад Усходняй Прусіі. Зараз — Калінінград.

*Кант* Эмануіл (1724—1804) — заснавальнік нямецкай класічнай філасофіі.

61—62. *Дрэздэн, Берлін, Бон, Мангейм, Кёльн* — гарады ў Германіі.

*Рэйн* — рака ў Заходняй Германіі.

*Драхенфельс* — старадаўні замак на беразе Рэйна на самай высокай з навакольных гор.

*Адзінаццаць тысяч чарапоў // Дзеў беззаганных* захоўваюцца ў Кёльнскай царкве св. Урсулы.

63. *Гаага* і *Гельветслюйс* — гарады ў Галандыі.

65. *Альбіён* — старажытная назва Англіі.

69. *Дуўр* — англійскі порт на беразе праліва Па-дэ-Кале.

71. *Кентэрберы* — горад у Англіі.

*Schnaps* (ням.) — гарэлка.

*Hundsfot* (ням.) — нягоднік, шэльма.

72. *Кайенскі* — г. зн. са сталіцы Гвіяны.

73 — 74. *Бекет* Томас (1118—1170) — канцлер англійскі з 1155 г. і архіепіскап Кентэрберыйскі з 1162 г. Забіты па загаду караля Генрыха II. Быў залічаны ў лік святых каталіцкай царквы. Пры Генрыху VIII (1491—1543), які аддзяліў англіканскую царкву ад рымскага прастола, косці Бекета былі спалены і развеяны па ветры.

*Эдуард* (*Чорны прынц*) (1310—1371) — прынц Уэльскі, старэйшы сын караля Эдуарда III. Вызначыўся ў бітвах з французамі пры Крэсі (1346) і пры Пуацье (1356). Мянушка Чорны — ад колеру латаў.

78. *Фаэтон* — у грэчаскай міфалогіі сын бога сонца Геліяса, які не змог стрымаць агнядышных коней, запрэжаных у бацькаву калясніцу, і ўпаў на зямлю.

*Феб* — гл. тл. да II, 139.

79. *Макіявелі* — гл. тл. да VII, 4.

84. *Фрай* Элізабет (1780—1845) — вядомая англійская дабрачынніца.

85. *Н'югет* — турма ў Лондане.

*Карлтон* — рэзідэнцыя караля Георга IV.

87. *Рог Раландаў* — чарадзейны рог героя французскага эпасу «Песня аб Раландзе» (XI ст.).

## ПЕСНЯ АДЗІНАЦЦАТАЯ

1. *Берклі* Джордж (1685—1763) — англійскі філосаф, прадстаўнік суб'ектыўнага ідэалізму. Служыў епіскапам у Клойне (Ірландыя). Аўтар «*Трактата* аб асновах чалавечага пазнання» (1710).

2. *Spiritus* (лац.) — і дух, і спірт.

3. *Арыэль-лятун* — персанаж трагедыі Шэкспіра.

7. *Тамбукту* — гл. тл. да I, 132.

*Форум* — архітэктурны помнік Старажытнага Рыма.

*Канстанцін* — маецца на ўвазе рымскі імператар Канстанцін I Вялікі (каля 285—337), які заснаваў у 224—330 гг. Канстанцінопаль на месцы старажытнага г. Візантыя.

*Ніневія* — горад у Асірыі, старажытнай дзяржаве на тэрыторыі сучаснага Ірака (гл. тл. да VIII, 60).

13. *Шыбалет* (старажыт.-яўр.) — нацыянальна-апазнавальнае слова (напрыклад, рускі «авось»).

*«Каханак поўні»* — выраз Фальстафа (Шэкспір, «Генрых IV»).

*Кёнінгтон* — раён Лондана.

21. *Як lucus* — з *non lucendo* — гл. тл. да VI, 55.

23. *Вавілон* — біблейскі горад, які існаваў на тэрыторыі сучаснага Ірака (гл. тл. да V, 60 і VIII, 60).

25. *Друіды* — жрацы старажытных кельтаў, якія жылі практычна на тэрыторыі ўсіх краін сучаснай Еўропы.

*Стонхендж* — культавая пабудова II тысячагоддзя да н. э. каля г. Солсберы ў выглядзе валізных пліт на каменных слупах і земляных валоў, якія ўтвараюць канцэнтрычныя кругі.

*Абацтва* і *Ратуша* — маюцца на ўвазе Вестмінстэрскае абацтва (гл. тл. да IX, 2) і рэзідэнцыя лорда-мэра Лондана.

26. *Чарынг-Крос* — раён у Лондане.

*Пэль-Мэль* — гл. тл. да VIII, 26.

28. *Дыяген* — гл. тл. да VII, 4.

29. *...грукат малаткоў* — у Англіі ля дзвярэй замест званкоў вешалі малаткі.

*Палац Сент-Джэймскі* — каралеўскі палац.

30. *Мальтус* Томас (1766—1834) — англійскі эканаміст, які сцвярджаў, што беспрацоўе і бядотнае становішча працоўных — вынік «абсалютнага лішку людзей».

42. *Empressement* (фр.) — ветліва, прыязна.

*Білінгсгет* — дзе знаходзіцца гэты населены пункт, перакладчыку невядома.

51. *Цыцэрон* Марк Тулій (106—43 да н. э.) — рымскі аратар, пісьменнік, філосаф.

*Іпакрэна* — у грэчаскай міфалогіі крыніца натхнення, якая ўзнікла ад удару капыта Пегаса (гл. тл. да III, 99) на гары Гелікон, дзе жылі музы.

54. *Банка* — гл. тл. да I, 2.

56. *La belle Aliance* (фр.) — прыгожы альянс. Так іранічна называе Байран Свяшчэнны саюз Аўстрыі, Прусіі і Расіі, заключаны ў Парыжы 26 верасня 1815 г. пасля падзення імперыі Напалеона, да якога ў хуткім часе далучыліся і іншыя краіны антынапалеонаўскай кааліцыі. Асноўнаю мэтаю Саюза было падаўленне рэвалюцыйных і нацыянальна-вызваленчых рухаў.

*Belle Aliance* — вёска каля Ватэрлоо.

*Саўці-Лоў* — Байран атаясамлівае Саўці (гл. тл. да Прысвяч., I, 1) з Гудзонам Ловам — дэспатычным губернатарам вострава Св. Алены, куды быў сасланы Напалеон I.

57. *Пістоль* — персанаж Шэкспіра. Выхваляка, які выказваецца напышлівымі вершамі.

58. *Ралі-Палі* — хутчэй за ўсё гэта Томас Чатэртон (1732—1770), які выдаваў свае паэмы «Турнір» і «Парламент духаў» за творы святара Т. Раўлі, які нібыта жыў у XV ст.

*Дор* — па адной з версій родапачынальнік старажытнагрэчаскага роду дарыйцаў.

*Спор* — юнак-кастрат, улюбёнец імператара Нерона (гл. тл. да III, 109). Каго Байран атаясамлівае з ім і парадыруе, невядома.

*Камбіс* — легендарны персідскі палкаводзец, чыё войска загінула ў пясках Паўночнай Афрыкі.

*Кібела* — фрыгійская багіня, якую шанавалі ў Малой Азіі, Грэцыі і ў Рымскай імперыі, а не *жрэц*.

59. *Эўфуэс* — герой раманаў Джона Лілі (1533—1606) «Эўфуэс, ці Анатомія дасціпнасці» і «Эўфуэс і яго Англія». Эўфуэсам Байран называе паэта Бары Проктара (Карнуола) (1787—1874), якога многія называлі другім Байранам, але больш прыстойным.

*Лэндар* Уолтэр Сэвідж (1775—1864) — англійскі пісьменнік, аўтар «Уяўных размоў» на грамадска-палітычныя і літаратурныя тэмы паміж людзьмі розных эпох, у тым ліку — паміж Петраркам і Бакачыо.

60. *Джон Кітс* (1795—1821) — англійскі паэт-рамантык. Памёр ад сухотаў.

*Кронас і Рэя* — бацькі Зеўса (гл. тл. да II, 174).

61. *Прэтарыянцы* — наёмныя воіны, якія служаць апорай для ўлады, заснаванай на грубай сіле.

65. *Атручаная ядам гідры кроў // Кентаўра... Неса* стала прычынаю смерці Геркулеса (гл. тл. да VII, 36).

66. *Мур* — гл. тл. да Прысвяч., 7.

69. *Джэк Хорнер* — герой старадаўніх англійскіх калыханак, жартаўнік і вастраслоў.

70. *Тэрпсіхора* — у грэчаскай міфалогіі муза — апякунка танцаў.

76. *Юнг Эдвард* (1683—1765) — англійскі паэт, выступаў супраць рацыянальнай эстэтыкі.

77. *Шэрыдан* — гл. тл. да V, 142.

*Гратан Генры* (1746—1820) — лідэр ірландскай ліберальнай апазіцыі.

*Юная прынцэса* — прынцэса Шарлота, дачка Георга IV і каралевы Караліны, якая памерла ў 1817 г.

*Куды ўцякла ўладарка ад абраз* — у 1820 г. Караліна, якую вінавацілі ў злачынным каханні да камергера, і Георг IV развяліся.

78. *Брэмель* Брайан (1778—1840) — заканадаўца мод у часы Байрана. У 1816 г. збег у Францыю ад крэдытораў.

*Уатбрыт* (1758—1815) і *Рамільы* (1757—1818) — англійскія палітычныя дзеячы.

*Соўні* — фамільярна-іранічнае прозвішча шатландцаў.

84. *Кангрэс, // Які навекі зганьбаваў Верону* — гэта Веронскі кангрэс Свяшчэннага саюза (гл. тл. да XI, 56), які адбыўся ў 1822 г. і прыняў пастанову аб падаўленні рэвалюцыі ў Іспаніі.

*Саўткот* — гл. тл. да III, 95.

*Джон Буль* — гл. тл. да VII, 44.

86. «*Carpe diem*» (лац.) — «Лаві імгненне» (цытата з Гарацыя).

*Іграйце вамі выбраныя ролі* — цытата з Шэкспіра («Генрых IV»).

87. «*Аталанту новую*» напісала нейкая містрыс Менлей.

## ПЕСНЯ ДВАНАЦЦАТАЯ

5. *Ротшыльд* і *Берынг* — вядомыя банкіры таго часу.

6. *Лафіт* (1767—1844) — французскі банкір, у лістападзе 1830 г. — сакавіку 1831 г. кіраўнік урада і міністр фінансаў Францыі.

9. *Цэрэра* — гл. тл. да II, 169.

12. *Аладзін* — персанаж арабскага зборніка казак «Тысяча і адна ноч», якому чарадзейная лямпа прынесла багацце і шчасце.

13. Першыя тры радкі гэтай актавы — цытата з «Песні апошняга менестрэля» Вальтэра Скота.

14. *Дыяна* ў рымскай міфалогіі (гл. тл. да V, 99), як і Артэміда — у грэчаскай (гл. тл. да IX, 27), атасаямліваецца з месяцам, чыё прыцягненне выклікае марскія прылівы.

16. «*Buon camerado*» (ісп.) — добры таварыш.

19. *Плутарх* (каля 45 — каля 127) — старажытнагрэчаскі пісьменнік і гісторык. Галоўнае сачыненне яго — «Параўнальныя жыццепісанні» выбітных рымлян і грэкаў.

*Мітфорд* (1744—1827) — англійскі гісторык.

20. *Мальтус* — гл. тл. да XI, 30.

*Вільберфорс* — гл. тл. да IV, 115. *Велінгтон* — гл. тл. да I, 2.

22. *Філагенія* — жартаўліва-навуковы тэрмін, якім Байран карыстаецца для азначэння схільнасці людзей утвараць сабе падобных.

25. «*Paola Majora*» (лац.) — «Не такое вялікае» (цытата з Вергілія).

26. *Асліха* [мага] *Валаама* нечакана загаварыла са сваім гаспадаром (гл. Біблію, Лікі, XII).

30. *Галам* (Галэм) Генры (1777—1859) — англійскі гісторык, аўтар «Гісторыі сярэднявечча».

33. «*Tantane...*» (лац.) — пачатак выказвання Вергілія: «*Tantane animis coelestibus irae»* («Няўжо ў нябесных душах гэткі гнеў?»).

51. *Цытэра* (Венера) (гл. тл. да I, 55) на малюнках многіх мастакоў плыве па моры ў раскрытай ракаўцы.

55. «*Вялікі павучальны ўрок*» — цытата з кнігі герцага Велінгтона аб Парыжы.

58. *Клетка, дзе знаходзіцца гусак*, дазваляла іграку азартнай у тыя гады гульні ў косці перасоўваць сваю фішку на двайную колькасць клетак (ачкоў).

63. *Вертэр* — герой рамана І. В. Гётэ (гл. тл. да III, 86) «Пакуты маладога Вертэра», які застрэліўся ад няшчаснага кахання.

*Гай Марый* (каля 157—86 да н. э.) — рымскі палкаводзец, вораг Сулы (гл. тл. да VIII, 61). Быў вымушаны хавацца ў балотах каля Мінтурны ў Італіі, а потым у руінах Карфагена. У 87 г. да н. э. вярнуўся ў Рым і расправіўся з прыхільнікамі Сулы.

82. *Грэй* Чарльз (1764—1847) — англійскі палітычны дзеяч.

*Піт* Уільям (1708—1778) — прэм'ер-міністр Англіі ў 1766—1768 гг., лідэр вігаў.

84. *Прынца маладога* — г. зн. будучага караля Генрыха IV.

86. *Як сын Філіпа* — г. зн. як Аляксандр Македонскі (гл. тл. да V, 31), якому адзін скульптар прапаноўваў прыдаць гары Афон форму яго цела.

88. *Пярун* — бог навальніцы ў славянскай міфалогіі.

## ПЕСНЯ ТРЫНАЦЦАТАЯ

7. *Вялікі Джонсан-мараліст* — хутчэй за ўсё гэта Джонсан Самуэл (1709—1784) (гл. тл. да III, 91), англійскі пісьменнік і лексікограф, асноўнымі кнігамі якога былі «Слоўнік англійскай мовы», філасофская аповесць «Раселаё, прынц абісінскі», маральна-дыдактычныя эсе і «Жыццяпісы найболей выдатных англійскіх паэтаў».

*Мефістофель Гётэ* — персанаж трагедыі Гётэ (гл. тл. да III, 86) «Фаўст».

8. *Сервантэс* Мігель — гл. тл. да II, 37.

12. *...жыццё — як Сфінкс, я ж не Эдып...* — У грэчаскай міфалогіі Сфінкс — крылатая паўжанчына, паўільвіца, якая задавала складаныя загадкі прахожым і пажырала іх, не атрымаўшы адказу. Калі Эдып адгадаў яе загадку, Сфінкс кінулася са скалы, на якой жыла.

13. «*Davus sum*» (лац.) — «Я Даў (а не Эдып)» — цытата з п'есы рымскага камедыёграфа Тэрэнцыя (каля 195—159 да н. э.) «Андрыя» (I, 2)

18. «*Удачай смертнаму не кіраваць! // Мы зробім больш, Семпроній*» — цытата з Катона Старэйшага (гл. тл. да VII, 4).

27. *Пікадзілі* — вуліца ў Лондане.

*Peccadillos* (ісп.) — грашкі.

39. *Пары* Уільям (1790—1855) — англійскі палярны даследчык.

40. *Esse* (лац.) — быць.

44. *Соха* — лонданскі квартал.

*Ротэн-Роу* — алея ў Гайд-парку.

47. *Cosi viaggino i ricchi* (італ.) — так падарожнічаюць багатыя.

53. *Поп* — гл. тл. да І, 205.

56. *Карактак* — правадыр брытаў у вайне супраць рымлян у І ст.

60. *Карла* — г. зн. Карла І (1600—1649), англійскага караля з 1625 г., які быў звергнуты і пакараны смерцю ў ходзе Англійскай буржуазнай рэвалюцыі.

64. *Мемнан* — так называлі ў Егіпце вялізную статую Аляксандра Македонскага, якая стагнала пасля ўзыходу сонца, што тлумачылі хуткім награваннем зямлі і каменя, з якога была зроблена статуя, і праходжаннем праз яго расшыраныя поры ўзыходзячых патокаў паветра.

68. *Лелі* Пітэр (1618—1680) — англійскі жывапісец, вядомы серыяй партрэтаў «Віндзорскія прыгажуні».

69. *Палата Зорная* — вярхоўны суд Англіі ў XV — XVII стст., які быў зброяй барацьбы з ворагамі абсалютызму. Ліквідаваны ў 1641 г.

70. *Мальбрук* (Мальбара) — гл. тл. да III, 90.

71—72. *Дольчы Карл* (1616—1686), *Тыцыян* Вечэліо (1477—1576), *Сальватор Роза* (1615—1673), *Альбана* Франчэска (1578—1660), *Караваджа* Мікеланджэла (1573—1610) — італьянскія жывапісцы.

*Вернет* Жазэф (1714—1789), *Ларэн* Клод (1600—1682) — адпаведна французскія мастак-марыніст і мастак-пейзажыст.

*Рэмбрант* Харменс (1606—1669) — галандскі мастак.

*Тэньер* (Тэнірс) Давід (1610—1690) — фламандскі жывапісец. Асноўныя тэмы яго карцін — сцэны сялянскага і гарадскога жыцця.

81. *У Медэі кожнай свой Язон* — гл. тл. да І, 86.

*Omne tulit punctum, guae miscuit utile dulci* (лац.) — атрымлівае агульнае адабрэнне тая, якая спалучае прыемнае з карысным.

82. *Сірыус* — самая яркая зорка.

85. *Ніжняя Палата* — палата абшчын парламента Англіі.

*Вялікі Карл* (Карл Вялікі) (742—814) — з 768 г. франкскі кароль, з 800 г. — імператар.

92. *Катон* — гл. тл. да VII, 4.

94. *Конгрыў* Уільям (1670—1729) *і Мальер* (1622—1673) — вядомыя англійскі і французскі камедыёграфы.

96. *Як на палях Ваоза — Руф* — у адпаведнасці з біблейскім паданнем удава Руф збірала каласы на полі багацея Ваоза, каб не памерці з голаду.

97. «*О слухай, бедны цень!*» — цытата з Шэкспіра («Гамлет»).

99. *Харон* — гл. тл. да II, 101.

105. *Адысей* — у грэчаскай міфалогіі хітры і смелы сын цара Ітакі, удзельнік аблогі Троі, герой паэмы Гамера «Адысея» (гл. тл. да III, 18).

106. *Уольтан* Ісак (1593—1683) — англійскі літаратар, аўтар кнігі па рыбалоўству.

108. *Артэміда* — гл. тл. да IX, 27 і X, 49.

*Сільфіда* — у кельцкай і германскай міфалогіі лёгкая рухавая істота, увасабленне стыхіі паветра.

109. *Bon-mot* (фр.) — вострае слоўца.

110. *Фідый* — гл. тл. да VI, 42.

*Сквайра Устэрн*, *Соф'я*, *Том Джонс* — персанажы рамана Філдынга «Знайдыш».

## ПЕСНЯ ЧАТЫРНАЦЦАТАЯ

1. Тытан *Сатурн* (у грэчаскай міфалогіі — Кронас) пажыраў сваіх дзяцей. Жадаючы ўратаваць свайго сына Юпітэра (Зеўса), яго маці Юнона

(Рэя) дала Сатурну загорнуты ў плянёнкі камень (гл. тл. да II, 174 і XI, 60).

8. *Бэкан* (гл. тл. да III, 92) казаў: «Кіньце ўверх саломінку — і яна пакажа вам, куды дзьме вецер».

18. *Ci-devant jeunes hommes* (фр.) — былыя маладыя людзі.

21. *Haud ignara loguor* (лац.) — кажу пра вядомае ўсім.

*Nugae, guarum // Pars parva fui* (лац.) — пусцякі, маленькаю часткай якіх я быў.

*Vetabo Cereris sacrum gui vulgarit* (лац.) — я не буду цурацца таго, хто апаганіў святыню Цэрэры (Гарацый).

28. *Сірока* (італ.) — вецер з Афрыкі або Аравіі.

35. *Чэстэрфілд* Філіп (1694—1773) — граф, англійскі палітычны дзеяч, аўтар «Пісем да сына».

39. *Каміла* — у рымскай міфалогіі хутканогая прыслужніца Дыяны (гл. тл. да V, 99).

40. *Рэні Гвіда* (1575—1642) — італьянскі жывапісец, які вытанчанасць кампазіцыі спалучаў з халоднай ідэалізацыяй вобразаў. Самы вядомы яго твор — фрэска «Аўрора», на якой анёлы, што бягуць перад Аўрорай, увасабляюць гадзіны.

*Тэрпсіхора* — гл. тл. да XI, 70.

41. *Tracasserie* (лац.) — непаседлівасць.

*Agacerie* (лац.) — заляцанне.

42. Прозвішча *Плантагенет* меў і англійскі кароль Карл I (гл. тл. да XIII, 60).

48. *Іоў* — біблейскі пакутнік, сябры якога Еліфаз, Вілдад і Сафар заклікалі яго пакаяцца ў грахах, якіх ён не меў (гл. тл. да VIII, 50).

59. *Оксеншэрна* Аксель (1583—1654) — граф, канцлер Швецыі ў 1612—1654 гг. Калі яго сын выказаў здзіўленне, што ў палітыцы самыя вялікія дзеянні часам выклікаюцца самымі дробязнымі прычынамі, канцлер адказаў: «Ты з гэтага можаш бачыць, якая мізэрная мудрасць кіруе дзяржавамі».

64. *Вертэр* — гл. тл. да XII, 63.

*Bonne fortune* (фр.) — удача. *Bonne* (фр.) — добрая.

68. *Лівій Цім* (59 да н. э. — 19 н. э.) — рымскі гісторык.

72. *Алена* — гл. тл. да IX, 53.

73. *Тырэсій* — у грэчаскай міфалогіі пастух, які на сем гадоў быў ператвораны ў жанчыну, а потым зноў стаў мужчынам (гл. Авідзій, «Метамарфозы», III).

75. *Кветка прыхамаць любві хвілінной* — цытата з Шэкспіра («Сон у летнюю ноч»).

«*Voilà la pervenche!*» (фр.) — «Вось барвенак!» — так ускрыкнуў Русо (гл. тл. да VII, 4), калі ўбачыў барвенак, каля якога ён ужо некалі праходзіў са сваёй каханкай.

77. *Beatus ille procul* (лац.) — бласлаўёны той, хто далёка; *negotiis* (лац.) — спраў.

*Noscitur a sociis* (лац.) — кожнага пазнаюць па сябрах.

81. *І вустрыца няшчаснаю бывае // Ў каханні* — цытата з камедыі Шэрыдана «Крытык».

83. Байран, які прапануе Вільберфорсу (гл. тл. да IV, 115) адперці ў Сенегал *святую тройцу Аляксандра // Пляшывага,* мае на ўвазе манархаў краін Свяшчэннага саюза (гл. тл. да XI, 56). Расійскі імператар Аляксандр I быў лысы.

*Павільён* — маецца на ўвазе павільён, пабудаваны для каралеўскай сям'і ў курортным Брайтане.

84. *Архімед* (каля 287—212 да н. э.) — грэчаскі вучоны, які казаў: «Дайце мне пункт апоры, і я перакулю Зямлю».

*Point d'appui* (фр.) — пункт апоры.

86. *Сізіф* — у грэчаскай міфалогіі грэшнік, асуджаны ўскочваць у Аідзе на гару цяжкі камень, які, дасягаючы вяршыні, зрываецца ўніз, і Сізіфу даводзіцца ўсё пачынаць спачатку.

95. *Страсць завалодала і Саламонам* — гл. тл. да VII, 3 і «Найвышэйшую песню Саламона».

102. *«Бясплодныя пустыні і пячоры // Вялікія»* — цытата з трагедыі Шэкспіра «Атэла» (I, 3).

## ПЕСНЯ ПЯТНАЦЦАТАЯ

7. *Луідор* — французская залатая манета. Чаканілася ў 1640—1795 гг. Названа так у гонар караля Людовіка XIII.

11. *Алківіяд* (каля 450—404 да н. э.) — славуты грэчаскі палкаводзец (стратэг).

16. *Рафаэль* Санці (1483—1520) — выдатнейшы італьянскі мастак і архітэктар, прадстаўнік Высокага Адраджэння. Праектаваў сабор Св. Пятра ў Рыме, аўтар карціны «Сіксцінская мадонна» (Дрэздэнская карцінная галерэя).

18. *Лок* Джон (1632—1704) — англійскі філосаф-матэрыяліст. Яго ідэі аказалі значны ўплыў на утапічных сацыялістаў пачатку XIX ст.

*Бэкан* — гл. тл. да III, 92.

21. *«Імкнецца* belle *гаварыць Мато, // Кажы і* bene, *і* neutrum, *і* male» (Марцыял — гл. тл. да I, 43). Belle (лац.) — найлепшым чынам; bene (лац.) — добра; neutrum (лац.) — пасрэдна; male (лац.) — дрэнна.

23. *«Сабакі свой займелі дзень»* — цытата з Шэкспіра («Гамлет»).

25. *Laissez aller* (фр.) — хай ідзе ўсё, як ідзе.

*Тытан са Стагіра* — Арыстоцель (гл. тл. да I, 120).

*Лонгін* — гл. тл. да I, 42.

35. *Рап* Георг у 1803—1805 гг. заснаваў у Паўночнай Амерыцы ў 120 мілях ад Філадэльфіі калонію немцаў-эмігрантаў «Гармонія», статут якой дазваляў мець абмежаваную колькасць дзяцей.

39. *Гальбейн* Ханс (каля 1497—1543) — нямецкі жывапісец-адраджэнец, аўтар серыі карцін «Аблічча смерці».

49. *Адсутнасць бюста Брута // Ў працэсіі Тыберыя* дзівіла, бо рымскі імператар Тыберый (42 да н. э. — 37 н. э.), абапіраючыся на прэтарыянцаў, праводзіў аўтарытарную палітыку і па жорсткасці не саступаў Бруту — забойцу Цэзара (гл. тл. да VI, 74).

53. «*Так прыніжаўся Цэзарам Антоній*» — недакладная цытата з Шэкспіра («Макбет», III, 1) — гл. тл. да II, 205 і VI, 4.

56. *Сівіла* (Сібіла) — у грэчаскай міфалогіі прадказальніца, якая ў экстазе прадракала будучыню.

59. *«Пратрубіць у мой ваенны рог»* — цытата з паэмы Вальтэра Скота «Песня апошняга менестрэля».

63. *Булён à la // Bonne femme* (фр.) — булён па-сялянску.

*Суп à la Beauveaun* (фр.) — суп з цяляцінай.

64. *Bonne vivante* (фр.) — аматар асалод.

65. *Сын Амона* (Аляксандр Македонскі — гл. тл. да V, 71) памёр ад п'янства.

*Вяндліна вестфальская* — вяндліна з Вестфаліі (зараз Вестфалія — частка Паўночнага Рэйна-Вестфаліі ў ФРГ).

*Апіцый* (I ст. да н. э.) — вядомы рымскі гастраном.

66. *À l'Allemande* (фр.) — па-нямецку.

*À l' Espagnole* (фр.) — па-іспанску.

*Timballe* (фр.) — пірог з дзічынай.

*Salpicon* (фр.) — вострае рагу з грыбамі.

*Лукул* (каля 117 — каля 56 да н. э.) — рымскі палкаводзец, прыхільнік Сулы (гл. тл. да VIII, 61). Славіўся раскошай і багатымі абедамі (адсюль — лукулаўскі абед).

68. *Petits puits d'amour* (фр.) — даслоўна «маленькія калодзежы кахання». Піражнае са слоенага цеста, паглыбленні ў якім запаўняліся варэннем, крэмам, джэмам і г. д.

71. *Сальмі* — рагу са смажанай дзічыны.

*Кансаме* — навварысты булён.

73. *Лука* — горад у Італіі.

*Гамет і Суній* — горы ў Грэцыі.

84. *Nem. con.* — скарочанае словазлучэнне nemine contraditente (лац.) — бясспрэчна.

*Crim. con.*— скарочанае criminal contraditente (лац.) — злачынныя размовы.

85. *Мінерва* — у рымскай міфалогіі апякунка рамёслаў і мастацтваў. З канца III ст. да н. э. атасаямляецца з грэчаскай Афінай (гл. тл. да IX, 71).

87. *Кук* Эдуард (1552—1634) — англійскі лорд, міністр юстыцыі.

*Літльтан* (1589—1645) — вядомы англійскі юрыст.

91. *«А Трою так шаную, як і Цір»* — перафразаваная цытата з «Энеіды» Вергілія: «Траянец і цірыянец не маюць для мяне розніцы».

92. *Эльдан* (1751—1836) — лорд-канцлер Англіі з 1801-га па 1827 г.

*Гекла* — гл. тл. да X, 59.

96. *«І Рычарда душу бянтэжаць духі»* — цытата з Шэкспіра («Рычард III»).

*Філосаф Мальсберыйскі* — англійскі філосаф Гобс Томас (1588—1679).

## ПЕСНЯ ШАСНАЦЦАТАЯ

1. *Кір* II Вялікі (? — 530 да н. э.) — персідскі цар, заваяваў Лідзію, Мідзію, значную частку Сярэдняй Азіі, грэчаскія гарады ў Малой Азіі.

2. *«...любога дрэннага наступства // Знайсці прычыну можна»* — цытата з Шэкспіра («Гамлет», II, 2).

3. *...De rebus cunctis et guibusdam alis* (лац.) — аб усіх рэчах і аб некаторых іншых.

4. *Хрыстафор Калумб* (1451—1506) — італьянскі мараплавец, які ў 1492 г. адкрыў Амерыку.

5. *Джэфры Монмут* (1100—1154) — англійскі летапісец.

*Турпін* (памёр каля 800) — архіепіскап Рэймскі. Памылкова лічыўся аўтарам хронікі Карла Вялікага і Раланда.

*Аўгусцін* — гл. тл. да I, 47.

*...guia impossibile* (лац.) — калі немагчыма.

7. *Джонсан* — гл. тл. да III, 91 і XIII, 7.

11. *...адзеннем Неса* — гл. тл. да XI, 65.

*Цім* (39—81) — гл. тл. да II, 205.

27. *Тук Джон Хорн* (1734—1812) — англійскі пісьменнік і палітычны дзеяч.

43. *«пчалы атычнай»* — г. зн. Платона (гл. тл. да I, 116), які адказаў Дыягену (гл. тл. да VII, 4) так: «Ты топчаш маю гордасць з яшчэ большай гордасцю».

45. *«Tanti palpiti»* («З такім утрапеннем»), *«Mamma mia»* («Мамачка мая»), *«Amor mio»* («Каханне маё»), *«Lascigmi»* («Пакінь мяне»), *«Addio»* («Бывай») — вядомыя італьянскія песні.

*«Tu chamas»* («Ты п'яніш») — партугальская песня.

47. *Поп* — гл. тл. да I, 205.

49. *Геба* — гл. тл. да II, 170.

50. *Гайлей* (1745—1820) — пасрэдны англійскі паэт, аўтар кнігі «Трыумф добрай маралі».

60. *Феміда* — у грэчаскай міфалогіі багіня правасуддзя.

64. *Харыта* — у грэчаскай міфалогіі адна з трох дабрадзейных багінь, якія ўвасаблялі добры, радасны і вечна юны пачатак жыцця.

74. *Джорджыеў* — г. зн. англійскага караля Георга (Джорджа) IV.

81. *Пятэр Піт* — англійскі духоўны пісьменнік Сідней Сміт (1771—1845), аўтар «Пісем Петэра Плімлея».

86. *En avant* (фр.) — наперад.

*Цэрэра, Бахус* — гл. тл. да II, 169.

104. *Адысон* Джазэф (1672—1719) — англійскі журналіст, паэт і драматург.

109. *Свяціла Артэміды* — Месяц (гл. тл. да XII, 14).

*Зорка яркая Кіпрыды* — планета Венера. У грэчаскай міфалогіі Кіпрыда — адно з імён Афрадыты, з якою ў рымскай міфалогіі атасамляецца Венера (гл. тл. да I, 55).

*Анакрэон* — гл. тл. да I, 42.

111. *Sans cullote* (фр.) — без штаноў.

116. «*Сюды надзей ніякіх не бяры*» — надпіс на браме ў Дантава пекла («Боская камедыя», Пекла, III).

## ПЕСНЯ СЕМНАЦЦАТАЯ

7. *Гейлс* Мэцью (1609—1670) — англійскі суддзя-гуманіст, які ў 1664 г. вынес смяротны прысуд дзвюм чарадзейкам.

8. *Галілей* Галілео (1564—1642) — італьянскі фізік, матэматык і астраном, стваральнік першага тэлескопа, прыхільнік геліяцэнтрычнай сістэмы свету, за што быў асуджаны інквізіцыяй і канец жыцця правёў у ссылцы.

9. *Піфагор* (VI ст. да н. э.) — старажытнагрэчаскі мысляр, рэлігійны і палітычны дзеяч, матэматык (тэарэма Піфагора).

10. *Furens Hercules* (лац.) — грозны Геркулес.

11. *Septem idem* (лац.) — заўсёды аднолькавы.